АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1978

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЧАРАДЗЕЙНЫЯ КАЗКІ



Частка II

МІНСК ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1978

Рэдакцыйная калегія:

**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Складальнікі:

**К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч**

Рэдактар тома

**В. К. Бандарчык**

Ч20 **Чарадзейныя казкі,** ч. II. Рэд. В. К. Бандарчык. Мн., «Навука і тэхніка», 1978.

696 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Кніга з'яўляецца чарговым томам публікацый беларускіх казак у шматтомнай серыі БНТ і складаецца з уступнага артыкула, тэкстаў, каментарыяў, паказальніка сюжэтаў беларускіх казак. Аснову тэкставай часткі складаюць чарадзейныя казкі, у якіх адлюстраваны розныя грамадскія і сямейныя калізіі, ідэйна-эстэтычныя ідэалы працоўных. Значная частка тэкстаў публікуецца ўпершыню. Ва ўступным артыкуле і каментарыях раскрываюцца ідэйныя і мастацкія асаблівасці чарадзейных казак, вызначаецца іх месца сярод адпаведных твораў іншых народаў.— Бібліягр. у падрадк. заўвагах.

Ч $\frac{70700-066}{М316-78}$ 38—77 С(Бел)Ф

# ПРАДМОВА

У прадмове да першай часткі тома разглядаліся пытанні паходжання чарадзейных казак, іх працоўная аснова, характар сувязі з рэчаіснасцю, сістэма вобразаў, ідэйна-тэматычны змест, нацыянальная спецыфіка і некаторыя іншыя праблемы, што вызваляе зараз ад неабходнасці зноў звяртацца да гэтых пытанняў. Мэта гэтых радкоў — пазнаёміць чытача з творамі другой часткі тома «Чарадзейныя казкі», даць да іх неабходныя тлумачэнні.

Калі аснову першай часткі тома складалі казкі пра асілкаў і іх цудоўных памочнікаў, творы маштабныя, канфлікт якіх адлюстроўваў барацьбу людзей за падпарадкаванне сіл прыроды, казкі другой часткі ў большасці сваёй пабудаваны на калізіях іншага плана: асноўны змест іх складаюць узаемаадносіны паміж рознымі членамі сям'і, хаця, натуральна, дзеянне ў іх выходзіць за межы гэтай першаснай ячэйкі грамадства. Праз прызму сямейных адносін у гэтых творах разглядаюцца разнастайныя праблемы маралі, этыкі, сацыяльных адносін — праблемы, якія набылі асаблівую вастрыню ў класавым грамадстве. Адрозніваюцца гэтыя творы ад казак, змешчаных у першай частцы тома, таксама сістэмай вобразаў, іх трактоўкай і ў пэўнай ступені паэтыкай. Стварэнню вобразаў непераможных асілкаў дапамагала гіпербалізацыя, многім творам уласціва ўзнёсласць, эпічнасць апавядання; казкі другой часткі тома малююць у асноўным людзей звычайных, і поспех прыходзіць да іх не таму, што яны вельмі дужыя, а дзякуючы мудрым парадам, дапамозе іншых людзей ці незвычайных істот, а таксама дзякуючы чарадзейству або ўласнай кемлівасці, вытрымцы, вернасці дадзенаму слову. Відаць, і храналагічна яны з'явіліся пазней, але і ў гэтых творах захаваліся рэшткі ўяўленняў людзей дакласавага грамадства — анімізм, татэмізм, рэшткі магіі і інш.

Разнастайныя па зместу казкі пра чарадзейных жонак, якія дапамагаюць беднаму селяніну пазбавіцца галечы, дасягнуць дабрабыту, нават стаць царом. Гэтыя творы ў міжнародных паказальніках казачных сюжэтаў адносяцца да сюжэтных тыпаў 465 «Прыгажуня-жонка» і 400 «Муж шукае зніклую або ўкрадзеную жонку», якія аб'ядноўваюць па некалькі падтыпаў. У якасці галоўнай дзеючай асобы ў гэтых творах выступае дзяўчына-птушка (дзяўчына-рыба), якая дзякуючы кемлівасці селяніна становіцца

яго жонкай або проста паслана яму лёсам ці, як гэта мае месца ў асобных варыянтах, богам. Вобразы дзяўчат-птушак даўно прыцягвалі ўвагу даследчыкаў вуснапаэтычнай творчасці і першабытнага мыслення, якія бачылі ў іх выразнае адлюстраванне татэмістычных уяўленняў нашых продкаў і звязанага з татэмізмам заантрапамарфізму. А. М. Весялоўскі, даследуючы сказанні пра Псіхею і Мелюзіну, звязваў гэтыя вобразы не толькі з пэўнымі ўяўленнямі нашых продкаў, але і з пэўнымі этапамі сацыяльнага развіцця дакласавага грамадства, у даным выпадку з разбурэннем матрыярхату і станаўленнем патрыярхальных адносін. «Нешта падобнае,— пісаў А. М. Весялоўскі,— падказвае матыў дзяўчат-лебедзей у казках.., у былінах: хто-небудзь крадзе лебядзіную сарочку дзяўчыны, яна становіцца яго жонкай і, нарадзіўшы дзяцей, знаходзіць схаваную ім сарочку і ад'язджае, пакінуўшы дзяцей, г. зн. вяртаецца ў свой татэмістычны род... З пункту погляду бытавога легенды падобнага рода ўказвалі б на разбурэнне матрыярхальнай сям'і, у якой дзеці належаць роду маці»[1]. У беларускіх казках падобная старажытная бытавая аснова і татэмістычныя ўяўленні выступаюць не заўсёды выразна: бадай-што толькі ў казцы «Гусачкі-галубачкі» ёсць сітуацыя, калі жонка-гуска пакідае свайго мужа і дзіцяня і адлятае, хаця ў астатнім гэты твор, запісаны ў апошні час, пазбаўлены многіх тыповых для чарадзейных казак рыс як у змесце, так і ў мастацкай форме.

Старажытная аснова казак аб чарадзейных жонках выступае і ў іншых вобразах, эпізодах, мастацкіх дэталях. Водгукі разнастайных забарон, якія рэгламентавалі гаспадарчы, сямейны і грамадскі быт нашых продкаў, можна заўважыць у казках пра зніклых ці ўкрадзеных жонак, дзе таямнічае знікненне або гвалтоўнае выкраданне чарадзейнай жонкі наступае ў выніку парушэння мужам пэўнай забароны. Аднак гэта старажытная аснова хаваецца зараз пад напластаваннямі новых эпох, праз якія дайшла да нашага часу чарадзейная казка. Пастаянная сувязь казкі з жыццём яе стваральнікаў — працоўных па-рознаму праяўлялася ў розных творах і ў розныя эпохі. Так, у адной з казак пра чарадзейных жонак «Іван Пракрасны і князь Ладымяр» сустракаем у якасці галоўных дзеючых асоб былінных герояў князя Уладзіміра, Алёшку (Паповіча) і іншых, якія, як вядома, мелі сваіх гістарычных прататыпаў у эпоху Кіеўскай Русі. Але найбольш распаўсюджаным і універсальным сродкам сувязі казак з жыццём, з новымі эпохамі з'яўлялася сацыяльнае пераасэнсаванне і характару канфлікту, і асобных традыцыйных мастацкіх вобразаў у адпаведнасці з тымі ідэямі, якія былі вызначальнымі для свайго часу. Яскравы прыклад таму — казкі, змешчаныя ў пачатку тома: «Няшчасны Егар», «Сірата Іван,

---

[1] А. Н. Веселовский. Историческая поэтика. Л., 1940, с. 514—515.

дзявіца-чараўніца і пан» і інш., асноўны канфлікт якіх мае сацыяльны характар і адлюстроўвае барацьбу сялян з прыгнятальнікамі, адвечныя мары працоўных аб вызваленні ад сацыяльнага ўціску. У традыцыйнай казачнай форме асэнсоўваюцца новыя з'явы, якія аддзелены многімі стагоддзямі ад тых часоў, калі ўпершыню былі створаны вобразы дзяўчат-лебедзей і іншых герояў чарадзейных казак. У гэтых творах, запісаных на працягу апошніх ста гадоў, ёсць нямала замалёвак дарэвалюцыйнага сялянскага жыцця, а галоўным антаганістам героя выступае рэальны вораг селяніна — пан, які хоча загубіць селяніна і забраць яго жонку. Істотна змяняюцца і функцыі гераіні, звышнатуральныя здольнасці якой накіраваны на дапамогу свайму мужу ў выкананні цяжкіх даручэнняў, што дае яму пан. Але ў сваім развіцці чарадзейныя казкі, як і іншыя жанры вуснапаэтычнай творчасці, гістарычна абмежаваны і не маглі, не парушаючы адзінства зместу і формы, увасобіць у традыцыйных вобразах многіх ідэй, якія нараджаліся ў барацьбе працоўных супраць эксплуататараў. Малюючы перамогу селяніна над сваім адвечным ворагам — панам, чарадзейныя казкі звычайна гавораць аб тым, што селянін сам стаў панам або нават царом, зразумела, добрым панам, добрым царом. Гэта гістарычная абмежаванасць была пераадолена ў сацыяльна-бытавых казках, асабліва ў антыпрыгонніцкіх творах, якія прадстаўлены ў асобным томе шматтомнага выдання беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці.

Розныя сямейныя калізіі, а праз іх і канфлікты грамадскага жыцця адлюстраваны і ў казках «Царэўна-лягушка», «Рак-царэвіч» і інш. Гэтым творам прысвечана нямала спецыяльных даследаванняў, дзе разглядаюцца вытокі мастацкіх вобразаў, шляхі іх далейшага развіцця, вынікі трансфармацыі і г. д. Яшчэ ў мінулым стагоддзі А. М. Весялоўскі, абапіраючыся на шматлікія працы фалькларыстаў і даследчыкаў першабытнага грамадства, сярод сюжэтаў, узнікшых на глебе татэмізму, называў «Сястрыца Алёнушка, брацец Іванушка», «Царэўна-лягушка» і інш. [2]

З татэмізмам былі звязаны розныя абрады, звычаі, вераванні нашых продкаў. Жывёла-родапачынальнік лічылася свяшчэннай, яе нельга было забіваць ці ўжываць у ежу, ёй прыносілі ахвяры. Паміж плямёнамі, што паходзілі ад аднаго татэма, быў забаронены шлюб. Татэмная жывёла па тых жа ўяўленнях магла пераўвасабляцца, набываць чалавечае аблічча, нават уступаць у шлюбныя адносіны з членамі рода. Паступова, са зменамі ў сацыяльным і эканамічным жыцці грамадства, з гэтага комплексу ўяўленняў, абрадаў, звычаяў выпадаюць асобныя элементы, сярод іх і шэраг забарон, у прыватнасці забарона ўжываць мяса татэма, але рэшткі татэмістычных уяўленняў у некаторых народаў захоўваюцца і сёння. Продкі славянскіх народаў, у тым ліку і ўсходніх славян, таксама некалі ведалі

---

[2] А. Н. Веселовский. Историческая поэтика, с. 522—524.

татэмізм, рэшткі якога мы знаходзім зараз у мове, забабонах і звычаях. Будуючы жыллё, славяне лічылі неабходным паставіць у месцы злучэння двух бакоў даху стылізаваную фігуру каня, з прычыны чаго гэта месца і атрымала сваю назву «канёк». У гаспадарчых пабудовах некалі прымацоўвалі конскі чэрап ці яго часткі, а пазней — падкову, што павінна было, на думку нашых продкаў, захаваць гаспадарку ад злых варожых сіл пры дапамозе свяшчэннага заступніка — татэма. Параўнальна нядаўна, у пачатку XX ст., на Беларусі, па сцвярджэнню этнографаў, мелі месца выпадкі святкавання «камаедзіц» — звычая, у аснове якога ляжала пакланенне татэму — мядзведзю. Такім чынам, зусім верагодна, што такія вобразы чарадзейных казак, як царэўна-лягушка, рак-царэвіч, Іванька-баранька, браты-птушкі і інш., у пэўнай ступені былі звязаны з татэмістычнымі ўяўленнямі, але ў тых рэдакцыях казак, якія мы сёння маем, гэтыя ўяўленні вельмі трансфармаваныя, захаваныя як традыцыя ў вуснапаэтычнай творчасці або як водгук існаваўшай некалі веры ў прынцыповую магчымасць пераўвасаблення жывёлы ў чалавека і наадварот.

Даследуючы рускія варыянты казкі пра царэўну-лягушку, У. П. Анікін прыходзіць да вываду, што «асноўны сюжэтны канфлікт казкі заснаваны на адлюстраванні ва ўмоўнай паэтычнай форме магчымай у жыцці неадпаведнасці знешняга выгляду і ўнутраных станоўчых якасцей чалавека»[3]. Далей аўтар развівае гэту думку, адзначаючы, што галоўная ідэя твора праяўляецца ў розных аспектах, не толькі ў маральна-этычным, але і сацыяльным[4]. На наш погляд, гэты апошні аспект — сацыяльны і з'яўляецца вызначальным у творы. Сістэма вобразаў казкі, у тым ліку і вобраз царэўны-лягушкі, стварае шырокія магчымасці для раскрыцця ідэі, якой прасякнуты творы многіх фальклорных жанраў, ідэі супрацьпастаўлення багатага, але няўмелага, нядбайнага гультая і беднага, але працавітага, здатнага, руплівага. Старэйшым братам і іх багатым жонкам супрацьстаяць малодшы брат і пасланая яму лёсам, ад якога ён і не спрабуе ўцячы, жонка-лягушка. І, як гэта заўсёды бывае ў казках, пераможцам у розных сітуацыях заўсёды выходзіць малодшы брат і яго чарадзейная жонка. Вобразы жывёл-людзей у гэтых казках, маючы сваю багатую гісторыю, выступаюць зараз як паэтычная ўмоўнасць, мастацкі сродак або прыём, з дапамогай якога найбольш поўнае і яскравае адлюстраванне знайшлі многія праблемы маральна-этычнага плана, барацьба дабра і зла, праўды і маны, справядлівасці і несправядлівасці. У казках гераічнага плана, змешчаных у першай частцы тома, вобразы птушак-дзяўчат атрымалі іншую трактоўку: яны выступаюць як багатыркі, надзеленыя незвычайнай сілай, і перамагаюць многіх асілкаў-мужчын, што яшчэ раз падкрэслівае шырокія

---

[3] Фольклор как искусство слова. М., 1966, с. 27.
[4] Там жа, с. 28.

магчымасці мастацкага пераасэнсавання вуснапаэтычнай спадчыны на розных гістарычных этапах.

Антыподам вобразаў чарадзейных жонак-памочніц, жонак-дарадчыц у пэўным сэнсе могуць быць асноўныя жаночыя вобразы казак сюжэтнага тыпу АА 315 «Звярынае малако». Пры ўважлівым разглядзе і ў гэтых казках можна выявіць старажытную аснову асобных вобразаў і сітуацый. І незвычайныя памочнікі — удзячныя жывёлы, і пераўвасабленні героя ў жывёл, і ўяўная лекавая сіла звярынага малака нясуць у сабе водгукі веры нашых продкаў у звышнатуральныя якасці жывёл — заснавальнікаў родаў. Больш позні я, але таксама памылковыя ўяўленні нашых продкаў аб навакольным свеце, матэрыялізацыя ідэі існавання варожых чалавеку звышнатуральных сіл у вобразах розных нячысцікаў адчуваюцца ў казачнай сітуацыі, калі сястра (жонка, маці) пасылае Івана па муку ў вадзяны млын, які ахоўваюць нячыстыя. Аднак і тут, як і ў вышэй разгледжаных казках, гэтыя гістарычныя старажытныя ўяўленні схаваны за пазнейшымі напластаваннямі, і старажытныя вобразы атрымалі новае гучанне, новы сэнс. Напрыклад, паводле У. Я. Пропа, эпізод, калі герой не забівае жывёл, у якіх спачатку цэліцца, адлюстроўвае забарону есці жывёлу, якая можа стаць памочнікам. «Можна паказаць, — піша вучоны, — што рыба ці іншыя жывёлы, якіх не забіў і не з'еў Іван, не што іншае, як жывёлы-продкі, жывёлы, якіх нельга есці і якія таму і дапамагаюць, што яны татэмныя продкі»[5]. У мастацкай тканіне розных варыянтаў разглядаемых казак, самыя раннія запісы якіх адносяцца да сярэдзіны XIX ст., гэтыя эпізоды набылі зусім іншы сэнс і падпарадкоўваюцца асноўнай ідэйна-тэматычнай задуме твора: асуджэнню здрады, няўдзячнасці і сцвярджэнню супрацьлеглых станоўчых якасцей: вернасці, адданасці, сумленнасці. Сапраўды, адным з важных матываў, якім можна растлумачыць, чаму Іван не страляў у сустрэчных жывёл, з'яўляецца спачуванне ім, хоць нельга не прыняць пад увагу і іх абяцанне спатрэбіцца яму ў прыгодзе. У многіх варыянтах казкі падкрэсліваецца якраз дабрата героя: ён захоўвае жыццё жывым істотам, нягледзячы на тое што сам ледзь не памірае з голаду. У адказ на дабрату і чуласць Івана жывёлы аддана служаць яму, выратоўваюць ад смерці. Тым больш агіднай на фоне гэтых адносін успрымаецца здрадніцтва сястры (жонкі, маці).

Вялікае распаўсюджанне мелі ў беларускім фальклоры казкі, у якіх намаляваны вобраз бязвінна пакрыўджанай сіраты, падчаркі. Тыповая канфліктная сітуацыя паміж мачахай і падчаркай развіваецца рознымі шляхамі:. падчарку заводзяць ці завозяць у лес і пакідаюць адну, пасылаюць уначы за агнём, па ваду, даюць і іншыя небяспечныя даручэнні,

---

[5] В. Я. Пропп. Исторические корни волшебной сказки. Л., 1946, с. 138—139.

каб толькі загубіць яе. Падчарка ж не толькі застаецца жывой, але і прывозіць з сабой багатыя падарункі. Праблеме генезісу вобразаў бязвінна пакрыўджаных, і ў прыватнасці вобраза сіраты, прысвечаны спецыяльныя працы і ў замежнай, і ў айчыннай фалькларыстыцы. Казачную сітуацыю завядзення дзяцей у лес У. Я. Проп звязвае са старажытным абрадам пасвячэння (ініцыяцыі). Пакуль гэты абрад быў жывой з'явай, казак пра яго не магло быць. Калі ж абрад стаў адміраць, адносіны да яго змяніліся, ён страціў сваё значэнне ў вачах грамадскасці; у той жа час сталі відавочнымі ўсе жахі, якія павінен быў перанесці падлетак, каб стаць паўнапраўным членам свайго роду. Раскрываючы працэс увасаблення элементаў абраду ў мастацкай тканіне казак, працэс пераасэнсавання гэтых элементаў у адпаведнасці са зменамі ў свядомасці людзей, У. Я. Проп падкрэслівае ролю рэальных жыццёвых сітуацый, міма якіх не магла прайсці казка. Жыццё ва ўсёй яго шматграннасці, узаемаадносіны людзей, маральна-этычныя нормы, якія рэгулявалі гэтыя ўзаемаадносіны, складалі асноўны змест вуснапаэтычных твораў, якія адлюстроўвалі рэчаіснасць скрозь прызму казачнай умоўнасці. І ў аналізуемых творах, дзе гістарычная аснова асобных вобразаў і канфліктаў стала незразумелай, адбылася трансфармацыя ў поўнай адпаведнасці з новымі ідэйна-эстэтычнымі і маральна-этычнымі прынцыпамі. Казачніку і слухачам было незразумела, чаму родны бацька выганяе сваіх дзяцей з хаты, вязе іх у лес і пакідае там, хаця гістарычна, калі абрад пасвячэння быў неад'емнай часткай грамадскага і сямейнага быту, якраз бацька або старэйшы брат выконвалі гэты абавязак. Каб абгрунтаваць і растлумачыць паводзіны бацькі, яго варожасць да ўласных дзяцей, у казцы ствараецца тыповая сітуацыя, калі ў сям'ю прыходзіць новы чалавек, носьбіт гэтай варожасці. Так у казцы з'яўляецца вобраз мачыхі — галоўнага ініцыятара выгнання дзяцей у лес [6].

Даследаванне Я. М. Мяляцінскага, у якім разглядаюцца гэтыя пытанні, удакладняе і дапаўняе палажэнні У. Я. Пропа адносна часу ўзнікнення і фарміравання гэтых вобразаў і іх сацыяльнай сутнасці. Распад роду, вылучэнне малой сям'і ў адносна самастойную, незалежную ячэйку Я. М. Мяляцінскі лічыць прадпасылкай і ўмовай узнікнення вобраза абяздоленай сіраты [7], а найбольш істотны момант казак пра мачаху і падчарку ён бачыць у адлюстраванні сацыяльнага прыгнёту [8]. Гэта апошняе палажэнне хацелася б асабліва падкрэсліць, хоць яно тут выказана ў вельмі агульнай і катэгарычнай форме. Катэгарычнасць суджэння адчуваецца ў палеміцы Мяляцінскага з А. М. Смірновым-Кутачэўскім. «Мы бачым у падчарцы вобраз не абяздоленай жанчыны, як гэта спрабаваў паказаць Смірноў-Кутачэўскі, а чалавека, абяздоленага ў выніку ўпадку першабытна-абшчын-

[6] В. Я. П р о п п. Исторические корни волшебной сказки, с. 70.
[7] Е. М. М е л е т и н с к и й. Герой волшебной сказки. М., 1958, с. 181.
[8] Т а м ж а, с. 186.

нага ладу і пераходу да класавага грамадства, і гэтым тлумачым ідэалізацыю падчаркі» [9],— пісаў Я. Мелацінскі.

Відаць, А. М. Смірноў-Кутачэўскі недаацэньваў сацыяльнай ідэйнай нагрузкі гэтага вобраза, але нельга адмаўляць і таго, што сацыяльная несправядлівасць, сацыяльны прыгнёт у значнай ступені вызначалі становішча жанчыны і ў грамадстве, і ў сям'і. Таму ў гэтых казках мы маем не ўвогуле вобраз «чалавека, абяздоленага ў выніку ўпадку першабытна-абшчыннага ладу», а вобраз жанчыны, падчаркі, сіраты, чыё прыгнечанае, нераўнапраўнае становішча ў сям'і з'яўляецца вынікам сацыяльнай несправядлівасці, панаваўшай у грамадстве. Тым больш неабходны больш шырокі погляд на гэты вобраз у сувязі з тым, што ў ім адбыліся істотныя змены, якія аддалілі яго ад першаасновы, і сувязь з працэсамі, што спадарожнічалі ўпадку першабытна-абшчыннага ладу і служылі моцным імпульсам развіцця разглядаемых фальклорных з'яў, зараз можна ўстанавіць толькі спецыяльнымі даследаваннямі. Нягледзячы на шырыню і глыбіню абагульненняў у вуснапаэтычнай творчасці, вобразы яе не статычныя, яны не пазбеглі змен у працэсе гістарычнага развіцця, якія адпавядаюць характару сацыяльных зрухаў у грамадстве. У аналізуемых вобразах вельмі выразна праявіліся сімпатыі і антыпатыі працоўных, рашучае асуджэнне несправядлівасці і шчырае спачуванне бязвінна пакрыўджаным. Ідэйны змест знайшоў тут дасканалае мастацкае вырашэнне. Стварэнню вобразаў-антаганістаў садзейнічае ўдала ўжыты тут прыём антытэзы. Супрацьпастаўленне мачахі і падчаркі, бабінай дачкі і дзедавай дачкі паступова ўзмацняецца і ў сацыяльным, і ў маральна-этычным, і ў эстэтычным планах. Калі бабіна дачка гультайка, дзедава — працавітая; калі бабіна дачка несправядлівая, злая, зайздросная, дзедава заўсёды добрая, справядлівая, сціплая. Станоўчыя якасці адной і адмоўныя другой праяўляюцца ў адных і тых жа сітуацыях, што яшчэ больш падкрэслівае супрацьлегласць характараў. Сірацінка ветліва абыходзіцца з Марозам, дзеліцца з мышкай вячэрай, выконвае просьбы яблыні, ігрушы, дзяжы, у выніку чаго не толькі захоўвае сваё жыццё, але і атрымлівае ўзнагароду. Бабіна дачка ў гэтых жа абставінах зняважліва размаўляе з Марозам, б'е і праганяе мышку, лянуецца сарваць яблыка. Прынцып кантрасту захоўваецца і ў апісанні знешняга аблічча гэтых персанажаў: у параўнанні з прыгожай сіратой яшчэ больш непрывабнымі, нават пачварнымі паказаны мачаха і яе дачка.

Вобразы бязвінна пакрыўджаных займаюць цэнтральнае месца і ў казках сюжэтнага тыпу АА 706 «Бязручка» і АА 707 «Чарадзейныя дзеці (Цар Салтан)», якія ў беларускім фальклоры прадстаўлены значнай колькасцю варыянтаў. У асобных запісах гэтыя сюжэты кантамінуюцца, чаму садзейнічае генетычная і ідэйная блізкасць вобразаў. І ў гэтых тво-

[9] Е. М. Мелетинский. Герой волшебной сказки, с. 183.

рах асноўны канфлікт выспявае і знаходзіць сваё вырашэнне ў межах сямейных адносін, дзе выяўляюцца розныя, часам прама супрацьлеглыя маральна-этычныя якасці людзей. У казках рашуча асуджаецца паклёпніцтва, здраднiцтва, пляткарства. Варта падкрэсліць дасканаласць мастацкай формы гэтых казак, займальнасць, багацце творчай фантазіі, што выклікала да іх цікавасць і ўвагу А. С. Пушкіна.

Завяршаючы агляд казак, галоўнымі персанажамі якіх з'яўляюцца вобразы бязвінна пакрыўджаных, у тым ліку і вобраз малодшага сына Івана, вельмі дарэчы прыгадаць выказванне А. М. Горкага, дзе вялікі пралетарскі пісьменнік раскрывае адну з істотных вызначальных рыс вуснапаэтычнай творчасці. «Вельмі важна адзначыць, што фальклору зусім неўласцівы песімізм, нягледзячы на той факт, што стваральнікі фальклору жылі цяжка і пакутліва — рабская праца іх была пазбаўлена сэнсу эксплуататарамі, а асабістае жыццё — бяспраўнае і безабароннае. Але пры ўсім гэтым калектыву як бы ўласціва ўсведамленне яго бессмяротнасці і ўпэўненасць у яго перамозе над усімі варожымі яму сіламі. Герой фальклору — «дурань», якім пагарджаюць нават бацька і браты, заўсёды аказваецца разумнейшым за іх, заўсёды — пераможца ўсіх жыццёвых нягод, таксама, як пераадольвае іх і Васіліса Прамудрая» [10].

Аптымізм працоўных мас, іх непакорнасць цяжкаму лёсу знайшлі адлюстраванне ў казках пра шчасце і гора, долю і лёс. Гэтыя абстрактныя паняцці ў фальклорных творах звычайна персаніфікуюцца, набываюць выразныя абрысы жывых істот. Аднак казкі не пазбаўлены супярэчнасці: яны адлюстроўваюць уяўленні аб тым, што ў кожнага чалавека ёсць свая доля, свой лёс, але актыўныя адносіны да жыцця, што так яскрава праяўляюцца ў паводзінах казачных герояў, абвяргаюць фаталістычныя погляды, сцвярджаюць неабходнасць змагацца за лепшае жыццё. Героі казак шукаюць і знаходзяць сваю долю, прымушаюць яе,— калі гэта неабходна, то і добрым кіем,— дапамагаць у гаспадарчых справах. У некаторых варыянтах казак АА 735, *735 I і *735 II вобраз галоўнага героя, кемлівага і дасціпнага, нагадвае вядомыя вобразы герояў авантурна-навелістычных казак Клімко, Несцерку і інш. Каб пазбавіцца сваёй бяды, герой заманьвае яе ў костку, забівае калком і завальвае вялікім каменем; заманьвае злыдняў у гляк ці ў пляшку і закопвае або топіць іх. Такім жа актыўным пачаткам вылучаюцца многія варыянты казак сюжэтных тыпаў АА 330 «Каваль (салдат) і чорт (смерць)» і 332 «Смерць-кума». Добра ведаючы, што «круці не круці, а трэба памярці», салдат або селянін усё ж знаходзіць спосаб адлаліць свой апошні час і выратаваць многіх людзей, зачыніўшы смерць у ражок або загадаўшы ёй браць не людзей, а дрэвы.

Сярод твораў, змешчаных у другой частцы тома «Чарадзейныя казкі»,

---

[10] А. М. Горький. О литературе. М., 1953, с. 698.

чытач знойдзе і такія, якія, калі можна так сказаць, стаяць на мяжы жанру, набліжаючыся да іншых відаў казачнага эпасу ці да іншых жанраў народнай прозы. Вышэй гаварылася аб некаторых рысах, што збліжаюць вобразы чарадзейных казак пра долю, шчасце, гора з вобразамі авантурна-навелістычных казак. Да гэтага віду казачнага эпасу сваім прыгодніцкім характарам набліжаюцца казкі сюжэтнага тыпу АА 676 «Два браты і сорак разбойнікаў (Алі-Баба)», які ў томе прадстаўлены творам «Сузама», казка «Аб Іване Бяшчасным», якая адносіцца да тыпу АА 677, «Проварна Ярыжка» і некаторыя інш. Да казак-легенд набліжаюцца творы сюжэтнага тыпу АА 780 «Цудоўная дудачка», хоць не менш моцныя ідэйна-эстэтычныя сувязі гэтых твораў з казкамі пра дзяцей, пра нявінна пакрыўджаных сірот і інш. творамі, аб'яднанымі галоўным чынам вакол сюжэтнага тыпу АА 480. У плане легенды распрацоўваецца таксама рэдкі ў фальклоры ўсходніх славян сюжэт АА 710 «Хросная багамаці» ў казцы «Аб Гандзі», запісанай М. Федароўскім. Увогуле трэба падкрэсліць, што адны і тыя ж казачныя сюжэты ў залежнасці ад светапогляду, схільнасцей і таленту казачніка могуць распрацоўвацца ў розных напрамках, набываючы адзнакі таго ці іншага казачнага жанру. Прыклады такой трансфармацыі можна знайсці сярод варыянтаў розных сюжэтных тыпаў. У апублікаваным П. В. Шэйнам творы «Тры сястры і рука-невідзімка», які можна аднесці да сюжэтнага падтыпу АА 480* F, толькі сюжэтны стрыжань нагадвае нам казку. У ім амаль адсутнічаюць тыя сродкі мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, што ўласцівы казцы, а па характару асэнсавання з'яў жыцця твор набліжаецца да былічак. Пэўную сувязь з былічкамі можна заўважыць і ў адным з варыянтаў сюжэтнага тыпу АА 735 — у запісанай Е. Раманавым казцы «Багач і доля». Усе падзеі твора падаюцца як нешта меўшае месца ў сапраўднасці, казачная ўмоўнасць і фантастыка амаль не адчуваюцца. Праўда, тут прысутнічае характэрны для казак гэтага тыпу персаніфікаваны вобраз долі, аднак ён і знешнім абліччам і паводзінамі нагадвае русалак, вядомых персанажаў былічкі і народных вераванняў.

Казкі прайшлі доўгі шлях і, пастаянна адклікаючыся на жыццё, увабралі ў сябе рысы многіх эпох. Як было паказана, у чарадзейных казках захаваліся рэшткі анімістычных і татэмістычных уяўленняў, водгукі існаваўшага некалі культу продкаў і г. д. Яны не пазбеглі ўплыву разнастайных відаў магіі, дахрысціянскіх і хрысціянскіх вераванняў. У якіх жа суадносінах аказаліся гэтыя непазбежныя напластаванні з працоўнай асновай казак, са стыхійным матэрыялізмам, зерні якога на глебе працоўнай практыкі селяніна пастаянна давалі ўсё новыя парасткі?

Вырашаючы гэта пытанне, а таксама і больш агульную праблему паходжання казкі, многія вучоныя звярталіся да высвятлення характару ўзаемаадносін казкі і міфа, казкі і міфалогіі. Яшчэ ў мінулым стагоддзі паслядоўнікі міфалагічнай школы сцвярджалі, а зараз неаміфолагі падзяляюць

і развіваюць канцэпцыю, што міф як з'ява рэлігійна-мастацкая папярэднічаў казцы, што казка з'явілася ў выніку распаду міфаў. Гэта тэорыя выклікала рэзкую крытыку перадавых прадстаўнікоў рускай фалькларыстыкі, у першую чаргу рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў і іх паслядоўнікаў, а таксама савецкіх фалькларыстаў. Генетычную сувязь казкі з міфам адмаўляў у свой час і А. М. Весялоўскі. Ён пісаў: «Падабенства абрысаў паміж казкай і міфам тлумачыцца не іх генетычнай сувяззю, а адзінствам матэрыялаў і прыёмаў, і схем, толькі інакш прымеркаваных» [11]. І далей: «...схема казкі больш старажытная, чым натуралістычны міф і эпічная схема: не ўсякая казка павінна прайсці стадыю міфа» [12].

Прымаючы пад увагу гэтыя палажэнні, мы павінны звярнуцца да тых ідэйна-эстэтычных прынцыпаў, што ляглі ў аснову міфа і чарадзейнай казкі. У працы «Уводзіны да «Да крытыкі палітычнай эканоміі» К. Маркс неаднаразова падкрэсліваў ролю пэўнага погляду на прыроду і грамадскія адносіны ў развіцці пэўных форм мастацтва. Гаворачы аб тым, што прадпасылкай грэчаскага мастацтва з'яўляецца грэчаская міфалогія, К. Маркс тут жа раскрывае значэнне гэтага паняцця: «прырода і самі грамадскія формы, ужо перапрацаваныя бессвядома-мастацкім чынам народнай фантазіяй» [13], і падкрэслівае, што такія адносіны да прыроды і грамадскіх адносін магчымы толькі на пэўных этапах развіцця грамадства. Бессвядома-мастацкая перапрацоўка рэчаіснасці ва ўяўленні і пры дапамозе ўяўлення ўласціва таксама і чарадзейнай казцы, што адыграла немалаважную ролю ва ўзаемадзеянні казкі і міфа. Імкненне пераадолець, падпарадкаваць сілы прыроды ва ўяўленні і пры дапамозе ўяўлення, што характэрна для ўсякай міфалогіі, адлюстравана ў казачных вобразах Вярнідуба, Гарыні, Ламікаменя і многіх іншых герояў беларускіх чарадзейных казак. Гэтыя вобразы — вынік міфалагізавання прыроды, вынік імкнення чалавека падпарадкоўваць сабе яе таямнічыя сілы; сувязь жа іх з нейкімі канкрэтнымі міфамі вельмі праблематычная. Працоўная аснова казачнага эпасу і наяўнасць у ім відавочных рыс міфалагізавання прыроды і грамадскіх адносін дазваляюць думаць, што казка і міф маглі ў пэўны перыяд развівацца адначасова і самастойна, не выключаючы пры гэтым узаемаўплыву. Аднак, калі міф быў накіраваны на філасофска-мастацкае тлумачэнне касмаганічных, этнагенічных і да іх падобных праблем, у чым і заключалася яго асноўная функцыя, ідэйна-эстэтычны і тэматычны дыяпазон чарадзейных казак быў значна шырэйшы.

Праца, адносіны ў сям'і і грамадстве таксама былі аб'ектамі мастацкага адлюстравання ў чарадзейных казках. Да таго ж, як можна меркаваць,

[11] А. Н. Веселовский. Историческая поэтика, с. 496.
[12] Там жа, с. 502.
[13] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 12, с. 737.

і храналагічныя межы чарадзейнай казкі былі больш шырокія, чым у міфа. Казка як мастацкае абагульненне асобных бакоў працоўнага вопыту нашых продкаў і іх узаемаадносін у працэсе працы павінна была з'явіцца раней першых спроб мастацкага асэнсавання такіх глабальных праблем, як паходжанне сусвету, чалавека, жывёл і г. д., што стаялі ў цэнтры міфаў. Тут дарэчы прыгадаць словы А. М. Горкага, які, падкрэсліваючы працоўную аснову народнай творчасці, на Першым з'ездзе савецкіх пісьменнікаў гаварыў: «Вельмі цяжка ўявіць двухногую жывёлу, якая аддавала ўсе свае сілы барацьбе за жыццё, мыслячай адасоблена ад працэсаў працы, ад пытанняў роду і племя. Цяжка ўявіць сабе Імануіла Канта ў звярынай скуры і босага, які раздумвае пра «рэч у сабе» [14].

Чарадзейная казка не толькі папярэднічала міфу, яна і перажыла яго. Развіццё гэтых дзвюх мастацкіх форм магчыма на тых этапах гісторыі грамадства, калі яно яшчэ не мае сапраўднай улады над стыхійнымі сіламі прыроды. Усякая міфалогія знікае, паводле К. Маркса, разам з надыходам сапраўднага панавання над гэтымі сіламі прыроды [15]. Адначасова з затуханнем міфаў заканчваецца і прадукцыйны перыяд развіцця чарадзейнай казкі, але яна яшчэ доўга жыве, выкарыстоўваючы многія старажытныя ўяўленні і вобразы як мастацкую ўмоўнасць, як паэтычную спадчыну. Такім чынам, сцвярджаючы самастойны шлях развіцця чарадзейнай казкі, мы разам з тым павінны ўлічваць моцны ўплыў, які аказвалі на гэты жанр міфалагічныя ўяўленні. Сувязь асобных казачных вобразаў і сітуацый з міфамі, у радзе выпадкаў відавочная (названыя вышэй вобразы Гарыні, Ламікаменя і інш.), а часам і гіпатэтычная, узбагаціла чарадзейную казку, але не парушыла яе ідэйна-мастацкай цэласнасці.

Чарадзейныя казкі, як і ўся вуснапаэтычная творчасць, не пазбеглі ўплыву рэлігійнай ідэалогіі, вучэння хрысціянскай (праваслаўнай і каталіцкай) царквы. Але калі для ўзаемадзеяння чарадзейнай казкі і міфа існавала адпаведная платформа, пэўная агульнасць светапоглядных прынцыпаў, падобных агульных пунктаў сутыкнення паміж фальклорам і рэлігіяй аказалася значна менш, хоць вера ў існаванне звышнатуральных сіл прысутнічала і там і тут. Афіцыйная царква, нямала запазычыўшы з фальклору, заўсёды варожа ставілася да вуснапаэтычнай творчасці, у тым ліку і да казак, якія нават спрабавала забараніць, змагалася з усякімі праявамі «паганства». Уплыў царквы на вуснапаэтычную творчасць быў у большасці знешнім, вонкавым, у чым можна пераканацца, прааналізаваўшы шэраг варыянтаў старажытных фальклорных твораў, напрыклад замоў: часам там, дзе першапачаткова быў зварот да пэўных сіл прыроды, з'яўляўся зварот да бога ці святых. Такі ж прынцып простага замяшчэння назіраецца ў не-

[14] А. М. Горький. О литературе. М., 1953, с. 693.
[15] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 12, с. 737.

каторых валачобных песнях, дзе ў асобных варыянтах радкі вядомай песні «Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць» гучаць так: «Дзе Ілля ходзіць, там жыта родзіць». У чарадзейных казках таксама нямала прыкладаў простага замяшчэння, калі розныя цуды робяцца ўжо не па «шчупаковаму павяленню», а па волі боскай. Разам з тым ёсць прыклады і больш глыбокага пранікнення рэлігійных поглядаў, паняццяў. Ступень такога пранікнення часта залежыць ад светапогляду казачніка, які ў тым ці іншым напрамку распрацоўвае сюжэт. Ёсць і шэраг казачных сюжэтаў, у якія ўваходзяць асобныя матывы, звязаныя з рэлігійным вучэннем, напрыклад сюжэты АА 460 «Падарожжа да бога за ўзнагародай», 461 «Марка багаты» і некаторыя інш. Аднак і ў гэтых творах цэнтральнае месца займаюць пытанні, якія заўсёды хвалявалі і хвалююць грамадства: адносіны чалавека да працы, да людзей, яго маральнае аблічча. Тут асуджаецца лянота, нядбальства, гультайства, несумленнасць, крытыка накіравана супраць аканомаў і іншых панскіх памагатых, што катавалі сялян, але, выказаныя ў рэлігійнай форме, што было натуральнай для свайго часу з'явай, гэтыя ідэі ў пэўнай ступені трацілі сваю вострыню.

Трэба адзначыць, што многія варыянты гэтых казак не пазбаўлены супярэчнасцей, што часам назіраецца парушэнне адзінства зместу і формы. У большасці выпадкаў народная традыцыя перамагае, падпарадкоўвае сабе новыя элементы. Казкі пра падарожжа да бога за ўзнагародай звычайна падзяляюцца на дзве часткі: у першай малюецца само падарожжа і сустрэча з богам (сонцам), другая ў лепшых традыцыях чарадзейных казак апавядае аб прыгодах героя, які павінен адшукаць і ўзяць у палон марскую царэўну. Але і ў першай частцы сіла народнай казачнай традыцыі адчуваецца вельмі моцна. Вось як, напрыклад, малюецца эпізод сустрэчы героя з божай маці ў казцы «Васіль Удавін сын, багатага Марачкі зяць» з трэцяга вып. «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава:

«Апяць Васілька пайшоў дальш... стаіць хатка, у той хаце сядзіць мацер божая. Ён увайшоў у хатку, эдзеў шапку, перахрысціўся і гавора так:

— Здраствi, старушка, матушка мая!

А яна яму адказала:

— Здраствi, здраствi, Васілька Удавін сын, прабагатага Марачкі зяць! Ці сам сюды зайшоў, ці воран сюды занёс?

Ён ёй адказаў, Васілька:

— Старушка, матушка мая! Не то добры маладзец, што воран косці заносе, а то добры маладзец, што сам заходзе!»

А вось эпізод сустрэчы з богам:

«Тады Васілька і палез пад печ. І зайшло сонца, і прыйшлі яны дамоў усе тры ў хатку. Як адчынілі яны хатку, і гаворыць бог:

— Фэ, русь-кось пахне!

А старуха яму сказала:

— Сынку мой, чаду вазлюблены! Ты па свету хадзіў і русу косу набраўся, дак табе і тут пахне».

Як няцяжка заўважыць, новыя персанажы гэтай казкі — бог і маці боская — мала чым адрозніваюцца ад традыцыйных герояў чарадзейных казак — Бабы Ягі і Кашчэя Бессмяротнага. У казцы «Знайда Дуброўскі» бог выступае ў якасці цудоўнага дарыцеля: ён дорыць герою сівага коніка, залатую булаўку, акуляры і залатога бічыка, з дапамогай якіх Знайда Дуброўскі здабывае марскую паненку. Ідэйная накіраванасць гэтых казак падкрэсліваецца развязкай дзеяння. У адных варыянтах гэта боскае пакаранне Маркі багатага за яго скупасць і іншыя адмоўныя рысы і ўчынкі, у другіх сацыяльная сутнасць канфлікту выступае больш выразна: багаты пакараны не богам, а тымі людзьмі, каму ён рабіў зло. У казцы «Знайда Дуброўскі» купец гіне ў катле з кіпячым малаком, у казцы «Залатое пяро» пан таксама гіне, прычым мастацкае вырашэнне фіналу ў гэтых творах вытрымана ў традыцыйным стылі чарадзейных казак.

Супярэчлівасць сялянскага светапогляду, непаслядоўнасць сялянства ў барацьбе з прыгнятальнікамі, аб чым так пераканальна пісаў У. І. Ленін у артыкулах, прысвечаных Л. М. Талстому, безумоўна, адбілася ў вуснапаэтычнай творчасці, і гэту акалічнасць заўсёды неабходна мець на ўвазе пры аналізе ідэйна-тэматычнага зместу фальклору. Але праз усе напластаванні, якія з'явіліся ў выніку ўплыву магіі, розных прымхаў і забабонаў, рэлігіі, заўсёды відаць працоўны пачатак вуснапаэтычнай творчасці, яе класавая сутнасць. Вышэй гаварылася аб антыпанскай накіраванасці многіх чарадзейных казак. Не менш выразная ў іх крытыка афіцыйнай рэлігіі з яе пропаведдзю ідэі «ўсемагутнага і ўсеміласцівага» бога, які, па перакананнях працоўных, «няроўна дзеліць», «аднаму дае многа, другому мала».

Крытыка афіцыйнай рэлігіі, служкаў культу, царквы ў чарадзейных і легендарных казках дасягала часам такой вастрыні, што царская цэнзура забараняла асобныя выданні, як гэта здарылася з вядомым зборнікам легенд А. М. Афанасьева. Каб больш поўна характарызаваць гэты напрамак у беларускім фальклоры, нам давядзецца ў асобных выпадках выйсці за межы матэрыялу, змешчанага ў томе. Трапна выкрываў працоўны народ сапраўдны твар «святых айцоў», іх прагнасць да грошай і абыякавасць да пакут бліжняга свайго. Гэтай тэме прысвечаны казкі сюжэтнага тыпу АА 831 «Прагны поп», сярод якіх маляўнічасцю і вастрынёй вылучаецца варыянт, запісаны А. К. Сержпутоўскім на Случчыне. У казцы расказваецца, як поп адмовіўся пахаваць сына бедняка без грошай, а калі бедны чалавек, капаючы магілу, знайшоў скарб, поп спрабуе адабраць у яго грошы. З гэтай мэтай ён нацягвае на сябе скуру казла і ідзе ноччу пад вакно да беднага, які спалохаўся «нячыстай сілы» і аддае скарб. Але, як заўсёды бывае ў казках, бедны атрымаў свае грошы, а поп пакараны: казліная скура прырасла да яго ўласнай.

У гэтых казках важную ідэйную нагрузку нясе эпізод няўдалага пераўвасаблення папа ў нячысціка — трапная мастацкая дэталь, якая сімвалізуе саюз службы бога і сатаны і падкрэслівае, што дзеля грошай поп гатовы на любы ўчынак.

Такія ж рысы вызначаюць характар і ўчынкі служкаў царквы ў казках сюжэтнага тыпу АА 785 «Хто з'еў прасвірку?» Вандруючы разам з Міколам (Пятром, богам), поп употай з'ядае прасвірку, але не прызнаецца ў сваім учынку нават тады, калі яму пагражае шыбеніца; калі ж ён даведаўся, што трэцяя частка грошай, якую яны атрымалі за вылячэнне царэўны, належыць таму, хто з'еў прасвірку, адразу ж прызнаецца.

Не лепш выглядаюць у гэтых казках і так званыя святыя, жыццё і паводзіны якіх павінны былі, як сцвярджала царква, стаць узорам для ўсіх веруючых. Народ зводзіць іх з неба на зямлю, пазбаўляе арэолу святасці і таямнічасці, паказвае несправядлівымі, махлярамі, п'яніцамі. У шматлікіх творах сюжэтнага тыпу АА *846 «Ілья і Мікола» перад слухачамі паўстаюць пыхлівыя і помслівыя «святыя», заклапочаныя толькі тым, каго з іх больш шануюць людзі. І той, каго селянін ставіць на другое месца, увесь час шкодзіць яму, нават кляне хлеб з сялянскай нівы. Але ўсемагутнасць святога абарачваецца супроць яго самога: пракляты ім блін засеў у яго ж горле. «Святыя» не толькі самі махлююць, крадуць коней, п'юць гарэлку, але і гэтаму ж вучаць людзей. У легендарных казках сюжэтнага тыпу АА *847 «Залатое страмяно» святы Ягоры ад імя бога навучае селяніна (цыгана) жыццю па такому прынцыпу: «круці ды матай, тым і душу пітай».

У некаторых творах аб'ектам крытыкі з'яўляецца бог і рэлігійнае вучэнне. Стыхійна, навобмацак працоўныя прыходзілі да думкі, што вера ў бога падтрымліваецца сацыяльнымі ўмовамі: прыгнётам, беднасцю, галечай. Гэта думка найбольш поўна выказана ў казцы «Бог і ўгоднікі» (АА 770*). У адказ на прапанову ўгоднікаў ажаніць працавітага хлопца з працавітай дзяўчынай бог гаворыць: «Дуракі вы, дуракі, як я пагляджу. Калі б я так дзелаў і так злучаў, як вы гаворыце, людзі і пра мяне і вас бы забылі. Рабацягі б усё самі падзелалі, і бог бы ім ніколі не панадабіўся, а лянівы і глупы і падаўна на бога не ўспомнюць. Здзелай я па-вашаму, па-глупаму, людзям бы ні бог, ні святыя не нада былі»[16]. Ствараючы ў легендарных казках (АА 460, 461 і інш.) малюнкі пекла, казачнікі заўсёды засялялі яго сваімі эксплуататарамі: панамі, папамі, ксяндзамі, яшчэ раз падкрэсліваючы свае адносіны да класавых ворагаў.

Сувязь чарадзейных казак з жыццём працоўных, з іх паўсядзённым гаспадарчым клопатам адыграла важную ролю ў фарміраванні асаблівасцей гэтага жанру. Чарадзейная казка дае нам цікавы ўзор арганічнага спалучэння фантастыкі з рэальнымі замалёўкамі быту і працы людзей, іх звы-

---

[16] П. В. Шейн. Белорусские народные песни. М., 1874, с. 427.

чаяў і абрадаў, што робіць гэтыя творы вельмі каштоўным матэрыялам для даследчыкаў матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. Нават сярод тых цяжкіх задач, якія ставіць перад казачным героем пан або іншы персанаж, нямала тыпова сялянскіх работ, адпаведным чынам ускладненых. Вельмі выразны малюнак працы жанчыны ў час жніва створаны ў казцы «Шкляныя горы». З іншых твораў можна даведацца, як раней пралі і ткалі, а ў казцы «Аб удавы сыну, што на магілках начаваў» апаэтызавана перадаецца ўвесь працэс вырошчвання і прыгатавання хлеба. У чарадзейных казках захаваліся ўпамінанні пра існаваўшы некалі звычай «перабою», калі засватаную дзяўчыну можна было «перабіць», узяць за сябе другому, а таксама пра іншыя, часам ужо страчаныя рысы быту беларускага сялянства.

Прадукцыйны перыяд у жыцці чарадзейнай казкі скончыўся даўно, разам са знікненнем той сацыяльна-эканамічнай глебы, якая падтрымлівала існаванне адпаведных поглядаў на прыроду і грамадскія адносіны. Паступова змяншалася месца чарадзейных казак у рэпертуары казачнікаў, аб чым пісалі ў канцы XIX — пачатку XX ст. вядомыя фалькларысты Е. Р. Раманаў і М. Федароўскі, але гэтыя творы бытуюць і зараз, аб чым сведчаць вынікі фальклорных экспедыцыйных даследаванняў, што праводзілі супрацоўнікі фаналабараторыі ІМЭФ АН БССР у апошнія гады. Толькі ў гэтым томе новымі запісамі чарадзейных казак прадстаўлена каля дваццаці сюжэтных тыпаў і падтыпаў, сярод якіх АА 400 «Муж шукае зніклую або ўкрадзеную жонку», АА 401 «Зачараваная царэўна», АА 402 «Царэўна-лягушка» і інш. Але асабліва поўна ў сучасных запісах прадстаўлены казкі АА 480 «Мачаха і падчарка», якія больш, чым іншыя, знаходзяць водгук дзіцячай аўдыторыі — асноўнага спажыўца казак пра жывёл і чарадзейных казак. У даступнай дзецям мастацкай форме гэтыя творы паказваюць усю агіднасць маны, здрады, несправядлівасці, вучаць добразычлівасці, сумленнасці, павазе да працы і тым самым выконваюць важную ролю ў выхаванні падрастаючага пакалення.

У сувязі з гэтым варта падкрэсліць, што ідэйна-эстэтычны і выхаваўчы патэнцыял чарадзейных казак выкарыстоўваецца ў нас далёка не поўна. Нягледзячы на наяўнасць выдатных літаратурных апрацовак чарадзейных казак, зробленых Я. Коласам, А. Якімовічам, тут ёсць яшчэ шырокае поле дзейнасці і для літаратараў, і для кампазітараў, і для мастакоў. Лепшыя ўзоры народнай творчасці, у тым ліку і многія чарадзейныя казкі, раскрываюць у шматграннасці праяў маральнае аблічча беларускага народа, яго ідэйна-эстэтычныя ідэалы, рысы нацыянальнага характару. Гэта спадчына, каштоўная сама па сабе, здольная яшчэ многа даць прафесійнаму мастацтву, узбагаціць яго вобразны свет, палітру мастацкіх сродкаў.

Другой часткай тома «Чарадзейныя казкі» завяршаецца публікацыя гэтага віду казачнага эпасу беларусаў у рамках шматтомнага выдання серыі

«Беларуская народная творчасць». Складальнікі імкнуліся прадставіць усе сюжэтныя тыпы, якія ў міжнародных паказальніках казачных сюжэтаў вызначаны нумарамі ад 300 да 736, а таксама асобныя сюжэтныя тыпы легендарных і навелістычных казак, якія па характару адлюстравання рэчаіснасці набліжаюцца да чарадзейных. У некаторых выпадках з прычыны кантамінацыі або ідэйна-мастацкіх асаблівасцей асобных твораў давялося пераходзіць вызначаную мяжу, часам жа якасць запісаў не дазваляла друкаваць тэксты, якія адпавядаюць зместу тома і прадстаўляюць адзінкавыя ўзоры пэўных сюжэтных тыпаў.

Як і ў першай частцы тома, большасць сюжэтных тыпаў прадстаўлена некалькімі варыянтамі, што дасць чытачу магчымасць глыбей пазнаёміцца з багаццем беларускага казачнага эпасу, яго мастацкім майстэрствам, параўнаць варыянты, запісаныя ў розных месцах Беларусі, а таксама варыянты, якія аддалены адзін ад аднаго часам у 80—100 год.

Адбіраючы матэрыялы для публікацыі, складальнікі ўлічвалі ідэйна-тэматычныя і мастацкія якасці тэкстаў, іх навуковую каштоўнасць, аднак не заўсёды казкі адпавядаюць усяму комплексу крытэрыяў і ў асобных выпадках прадстаўляюць толькі навуковы інтарэс.

Прынцыпы класіфікацыі матэрыялу і яго тэксталагічнай падрыхтоўкі засталіся тыя ж, што і ў першай частцы тома.

*К. П. Кабашнікаў*

## 1. НЯШЧАСНЫ ЕГАР

Неўкаторым царстве, неўкаторым гасударстве быў так адзін цар халасты. І ён меў у сябе ахвотніка прабольшага; і ён называўся Няшчасны Егар. Толькі ў вадно ўрэмя цар гэты ажыдаў гасцей к сабе з прочых зямель. Ну, і прыказаў яму, штоб было к такому-то ўрэмю разныя дзічыны яму, а калі не будзе, гавора, к тому-то дню, дак я табе галаву зніму. Няшчасны Егар устаў сабе рана і пайшоў на 'хоту. Прахадзіў дзень, з рання да вечара, і не відзеў дажа маленькія пцічкі, не токма штоб вялікае што. Прыходзе дамоў, вечарам яўляецца к цару. Цар спрашуе ў яго:

— Што,— гавора,— Няшчасны Егар, знайшоў што алі не?

Няшчасны Егар адказуе:

— Я,— гавора,— не токма што харошае не відаў, а дажа і маханькія пцічкі не відаў у вочы!

Тады цар яму кажа:

— Ну вот, Няшчасны Егар, даю табе два дні строку; глядзі, штоб беспрыменна была дзічына, дзе хочаш яе вазьмі, хоць пад зямлёю; а калі да не будзе, дак табе галаву зніму!

На другі дзень пайшоў, хадзіў з рання і да вечара і тож не відаў нічога. Вечарам яўляецца к цару і гавора:

— Нет нічога!

— Вот, паследні, — гавора, — строк — заўтрашні дзень: штоб было мне непрыменна!..

Адпраўляецца ён на хвацеру, Няшчасны Егар, і лёг спаць. На трэці дзень устае ён раненька, мыецца бяленька, узяў сваё ружжо і адпраўляецца ў лес. Ходзіць пó лясу з рання і да поўдня і не відзеў тож а нічога! Толькі надумаўся сам сабе:

— Пайду-тка я із лесу к вазяру, можа я хоць вутачку знайду або бекаса якога!

Выходжуе на пясок із лесу к вóзеру, аглянуўся кругом сябе, бача — ляціць тры вутачкі. Ён тады зламжыўся, хацеў іх біць улёт, а тады сам сабе раздумаўся:

— Што ж я ўлёт буду біць? Я адну толькі заб'ю! Няхай яны лучча сядуць, дак я можа як-небудзь падпаўзу і ўсіх адразу ўб'ю!

Яны акружыліс вакруг возера і палі, ударыліс воб зямлю і здзелаліс тры пракрасных дзевушкі. Раздзеліс і началі купацца. Ён падпоўз па кустах, аглядзеўся, што гэта тры дзевушкі, і што ён надумаўся? Узяў да адныя дзевушкі плацце схаваў і сам скрыўся. Яны пакупаліс, выйшлі на бераг. Гэтыя ж дзве адзеліс, крылушкамі страпянуліс, падняліс і паляцелі; а тая і асталась. Гэта, трэцяя, шукала, шукала — няма плацця! Улезла ў ваду апяць і гавора:

— Хто тут узяў маё плацце? Аддай! Калі старшы — ацец будзеш мой; калі младшы — брат будзеш родны; калі ўроўні — то будзеш муж мой!

Ён тады гаворыць:

— Скрыйся,— гавора,— я палажу на места плацце тваё!

Яна скрылася, ён палажыў на места плацце і сам адышоў, скрыўся, што яна голая. Яна вылезла і адзелася. Тады спрашуе:

— Ну, выхадзі сюды, хто такі?

Выходжуе ён, яна ўзнала:

— Здрастуй, — гавора, — друг мой любезны, Няшчасны Егар!

Ён адказуе:

— Здрастуй,— гавора,— вумніца!

Узяліся адзін другога пад руку і пайшлі. Толькі ідуць, січас ідуць разнае звяр'ё к яму. Ён і начаў біць іх. Так жа і птаства разнае — і вуткі, і гусі, і лебедзі — усе ляцяць к яму, што яму трэба. Набіў ён, колькі яму трэба было разныя дзічы, і адправіліся ў горад. Завёў гэту жану сваю на хвацеру, а сам яўляецца к цару.

Цар выходзе:

— Здрастуй,— гавора,— Няшчасны Егар!

— Здравія жалаю,— кажа,— ваша царскае вялічаства!

— Ну што жа,— гавора,— ці прыгатовіў што?

— Так точна, ваша царскае вялічаства! Толькі прыкажыце запрэгці тры хургоны па трое коней, патаму — яна шчэ ў лесе!

Цар січас прыказаў гэта споўніць яму. На тры тройкі січас сеў і паехаў за дзічынай. Паехаў і прывожуе к цару. Цар увідзеў і зрадаваўся, і благадарыў яму:

— Спасіба, Няшчасны Егар, за твае труда, што ты мне пастараўся і к такому ўрэмю, што мне трэба. І я слаўлюсь табой,

што ты харошы ахвотнік у мяне; ты ў мяне слышан і за граніцай па прочых землях!

Толькі ён надумаўся: што, як цар цяпер міласціў к яму, дак найшло яму ў галаву прасіцца жаніцца пазваленія. Толькі цар, відзя яго гэтыя думкі, і гавора:

— Што ты, Няшчасны Егар? Я віджу, што ты штось думаеш; хочаш штось гаварыць ці прасіць?

— А так, верна, ваша царскае вялічаства! Пазвольце,— гавора,— жаніцца!

— Харашо,— гавора,— пазваляю і благаслаўляю; я благаслаўляю, і бог цябе благаславіць! І вот табе на свадзьбу ўсё, што трэба, адпускаецца — дзенег і ўсяго!

Ён паблагадарыў цару і пайшоў на хвацеру к названай жане. І даў яму цар вальготу на нескалькі ўрэмя, на свадзьбу, і покуль ужо там...

Началі з'язджацца к цару госці з прочых земель. Ён іх прынімае, часціць — гульбішча занялося. Ён і начаў славіць Няшчаснага Егара, што вот ён нагатаваў разныя дзічы на кушання. А Няшчасны Егар пачаў свадзьбу гуляць. Адышла свадзьба, яна сабе найшла работаць што-небудзь там; адчыніла вакошка, села пад вакном і вышывае хустку сабе. Толькі цару трэба было якіясь бумагі із саноту. Цар пасылае мальчыка гадоў пятнаццаць у санот:

— Прынясі,— гавора,— мне такія-то бумагі!

Гэтаму мальчыку трэба было ісціць той вуліцай, дзе жыве Няшчасны Егар. Гэты мальчык ішоў і ўсмотрыўся на жану Няшчаснага Егара і астанавіўся: сматрэў, сматрэў, што яна дужа красівая. І прызабыў, куды яго пасылалі, і вярнуўся апяць у дварэц. Цар спрашуе:

— Ну што, прынёс?

А ён атвяшчае:

— Нікак нет, ваша царскае вялічаства!

— А зачым ты не прынёс?

— А ішоў я міма хвацеры Няшчаснага Егара, яго жана сядзіць пад вакошкам і шые. Засмотрыўся я на яе красату і забыўся, куды і зачым мяне паслана!..

Цар назваў яго дураком, гэтага мальчыка, і пасылае другога. І другі так жа сама, ішоў, засмотрыўся, і той пазабыў. Вярнуўся ён у дварэц і гавора:

— Ваша царскае вялічаства! Ішоў я — сядзіць Няшчаснага Егара жана і вышывае; я засмотрыўся і забыў, куды мяне пасылалі!

Цар тады падумаў, што гэта верна, што яна такая красівая, прыказаў запрэгці коней і паехаў сам. Праехаў міма і надумаўся ехаць у санот. Прыехаў туды і гавора:

— Прыдумайце, гаспада саветнікі, куды б нам пасладь Няшчаснага Егара, штоб ён адтуль не ўзвараціўся. Да і сыйчас жа! — гавора.

Яны падумалі, падумалі і гаворадь:

— Ёсць у такім-то царстве, за трыдзевяць зямель, елень-залатарог. Прыказадь яму, штоб ён яго прыставіў. Ён пойдзе за ім і, верна, не ўзвароціцца. Пакуль туды дойдзе, дак і можа што і злучыцца з ім!

Вечаро́м пасылае за Няшчасным Егарам цар, трэбуе ва дварэц. Прыходжуе Няшчасны Егар, яўляецца к цару.

— Здраям-жалаям! — кажа, — ваша царскае вялічаства! После свадзьбы ўжо даўненька відзелісь.

— Здрастуй,— гавора,— Няшчасны Егар! А вот што я табе,— гавора,— скажу: ёсць у таком-то царстве, за трыдзевяць зямель, елень-залатарог. Штоб ты мне яго,— гавора,— прыставіў; штоб ён у мяне,— гавора,— быў, красіва б было,— гавора.— Ну, і адпраўляйся,— гавора,— адпачывай, а заўтрашні дзень раннічком штоб ты і адправіўся!

Няшчасны Егар адправіўся дамоў. Прыходжуе, і крэпка скушан. Жана і спрашуе ў яго:

— Што,— гавора,— друг, Няшчасны Егар, заскучаў?

— Як жа мне не скучаць, калі цар прыказаў, штоб я даставіў — ёсць у такім-то царстве, за трыдзевяць зямель, елень-залатарог. Як я яго,— гавора,— атыйшчу?

Гэта ўжо ўрэмя было вячэрняе. Жана яму і кажа:

— Малісь богу, лажысь спаць: вутра будзе мудраней вечара!

Няшчасны Егар палажыўся спаць. Жана яго шчэ вышывала. Толькі заснуў Няшчасны Егар, яна выходжуе на крыльцо, свіснула і гукнула:

— Елень,— гавора,— залатарог, стань перада мной сычас жа!

Елень-залатарог явіўся перад ёй. Яна чапае там яго якім паяском ці чым і вядзе ў комнату. А Няшчасны Егар гэтага нічога не знаў — спаў. Павутру жана ўстае і будзе яго:

— Уставай,— гавора,— друг мой, Няшчасны Егар, мыйся да богу маліся, вядзі еленя-залатарога к цару!

Ён не вера ёй:

— Польна табе шуціць са мной!

— Ну, аглянісь,— гавора,— палядзі: вон ён стаіць,— гавора,— гатоў!

Няшчасны Егар узглянуў і ўзрадаваўся — убачыў. Сычас умыўся, богу памаліўся, бярэ еленя-залатарога і вядзе к цару ў дварэц. Цар яго пахваліў:

— Спасіба, Няшчасны Егар, маладзец!

Толькі не весьма рад гэтаму, што ён так скора іспонліў: учора прыказаў, а сянні ўжо і прывёў.

— Адпраўся, аддахні, бо ты ўтаміўся,— гавора,— а вечаро́м явіся апяць ка мне!

Няшчасны Егар адправіўся дамоў, а цар апяць у санот, із неўдавольствіем к саветнікам, што нехарашо адумалі.

— А падумайце,— гавора,— што-небудзь луччая!

Яны адумалі, што ў такім-то царстве, дале́ка, ёсць мядзведзь-залатавух правагромны. Дак ён ужо не можа прымірыцца к яму, не можа яго ўзяць!..

Ён вечаро́м яўляецца апяць, Няшчасны Егар.

— Здрастуй, Няшчасны Егар! Што я табе скажу: там-то і там-то, у такім-то царстве, ёсць мядзведзь-залатавух. Штоб ты пайшоў туды і мне гэтага мядзведзя прыставіў... нямедленна... Вот табе і ўсё! А не прыставіш — галаву далоў.

Няшчасны Егар адправіўся дамоў. Прыходжуе, тож задумаўся і галаву павесіў.

Жана і спрашуе:

— Што ты,— гавора,— друг мой, Няшчасны Егар, задумаўся і пячалішся аб чымся?

— Як жа мне не пячаліцца, калі вялеў цар даставіць — ёсць там-то і там-то мядзведзь-залатавух — штоб я яго даставіў. А як я магу яго даставіць?

— Да,— гавора,— вот, друг, Няшчасны Егар, калі б ты мяне не браў, дак ба і бяды,— гавора,— не бачыў. Ну, аднача, маліськ богу, лажысь спаць — вутрам будзе мудраней вечара!

Ён памаліўся богу і лёг спаць. Яна там яшчэ што-небудзь дзелала, пакуль ён заснуў. Так жа выйшла на крылцо, свіснула і гукнула:

— Ах, мядзведзь-залатавух, стань,— гавора,— перада мной!

Мядзведзь яўляецца тую мінуту. Яна бярэ яго, чапае якім-небудзь паяском і ўводжуе ў хату. Назаўтрага вутрам устае яна раненька і будзе Няшчаснага Егара:

— Уставай,— гавора,— друг, Няшчасны Егар, да вядзі мядзведзя к цару!

Ён прахваціўся, скора ўстаў, памыўся, богу памаліўся і па-

вёў мядзведзя. Прыводзе мядзведзя к цару. Цар яму паблагадарыў:

— Спасіба, Няшчасны Егар, што пастараўся, маладзец!

Ну, толькі гэтым быў крэпка недаволен, што Няшчасны Егар узвараціўся назад. Сычас адпусціў яго дамоў:

— Ступай,— гавора,— адпачывай; тады я цябе патрэбую, калі трэба будзе!

Вот Няшчасны Егар адправіўся дамоў, а цар прыказаў лашадзей закладаваць і адпраўляецца ў санот. Прыехаў у санот і прыказуе сваім саветнікам:

— Вот вам, гаспада саветнікі, штоб вы адумаліся — трохднеўны вам строк — штоб пасладь Няшчаснага Егара так, штоб ён не мог уэвярнуцца назад!

Саветнікі думалі, думалі, не могуць абдумацца, што ім здзелаць такое. Патом надумаліся: паедам мы па шынках, пашукаем п'яніцы,— гавораць,— што з п'яніц дужа вумныя бываюць! Прыехалі ў вадзін, палядзелі — няма нікога, і ў другі — тож быў пусты. Прыязджаюць у трэці і закурылі там папіроскі алі цыгары; аж во, з-пад лаўкі вылязае п'яніца. Від у яго абруэг, вочы пазаплывалі, пазакаравілі — можа месяц не мыўся. Працёр ён свае вочы і бача, што гаспада аб чымся думаюць. Падходжуе к ім і просе ў іх:

— Гаспада, пахмяліце, пажалуста, і я можа аб вас што падумаю; я бачу, што вы аб чымся задумалісь!

Гаспада гэтыя трэбуюць палуштох гарэлкі і чайной стакан. Сычас падалі; яны наліваюць і прыглашаюць яго пахмяліцца. Ён выпіў стакан гарэлачкі, папрасіў у гаспод і пакурыць трошкі. Ну, гаспада далі яму папіроску алі цыгарку пакурыць. Потым яшчэ стакан гарэлкі, другі выпіў. Ну, тады і спрашуе ў іх:

— Пазвольце, гаспада, спрасіць у вас, аб чым вы задумаліся?

Яны гавораць:

— У нас дзела небальшое: толькі вот штоб ты нам параіў, куды пасладь Няшчаснага Егара, штоб ён не вярнуўся!

— Гэта, гаспада,— гавора,— штука небальшая, да толькі трэба з вас па дзве тышчы рублей!

Ведама, штоб было выпіваць за што. Гаспада гэтыя вынімаюць грошы і просяць яго, штоб ён сказаў. Ён грошы ўзяў і гавора:

— Пашліце Няшчаснага Егара туды, немаведама куды, прынесці то, нязвесна што!

Ну, гаспада гэтыя вельмі ўзрадавалісь, падзякавалі яму і паехалі. Прыязджаюць прама ў дварэц к цару.

— Ну што, адумаліся?

— Адумаліся, ваша царскае вялічаства!

— Ну што?

— Да пасладць Няшчаснага Егара туды, немаведама куды, прынесці то, нязвесна што!..

Сычас трэбуе цар к сабе Няшчаснага Егара. Егар яўляецца к цару, цар і прыказуе яму:

— Тойчас адпраўляйся туды, немаведама куды, прынясі то, нязвесна што. А не прынясеш, дак мой меч — твая галава з плеч!

Няшчасны Егар пайшоў дамоў, уздыхнуў і заплакаў. Жана ў яго спрашуе:

— Чаго, друг мой, Няшчасны Егар, плачаш?

— Як жа мне не плакаць, калі прыказаў мне цар: ідзі туды, немаведама куды, прынясі то, нязвесна што!

— Да,— гавора,— друг мой, Няшчасны Егар: калі б ты мяне не браў, то б і гора не відаў. Цяпер,— гавора,— трэба табе самому адпраўляцца.

Сычас начала яму прыгатаўліваць на дарогу, што яму трэба было. Ну, ён збіраецца і адпраўляецца ў дарогу. Папрашчаліся яны. Праводжуе яна яго і дае яму клубочак такі, і прыказуе яму:

— Як выйдзеш ты за горад, дак ты клубочак кінь перад сабой. Куды ён пакоціцца, туды і ты ўслед ідзі. І вот табе,— гавора,— хустачка. Гэту хустачку схавай. Будзеш іціць па бальшом лясу — сцежка будзе небальшая, пешаходная і не торная. Узойдзеш гэтай сцежкай на палянку ў лясу, і тут стаяць будзе хатка, небальшая. У гэтай хатцы жыве баба — старая і вельмі страшная: вушы бальшыя, цыцкі пад столь падвязаны... Як увойдзеш у гэтую хатку, баба гэта грозна спросе ў цябе, хто ты такі, зачым ходзіш. Ты ёй нічога не 'твяшчай: «Пастой, бабушка, хустачкай вочы пратру, тады раскажу, хто я такі, а то за слязмі нявідна мне нічога із дарогі». Як станеш ты хустачкай праціраць вочы, дак баба цябе і ўзнае, хто ты такі...

Папрашчаліся яны, і пайшоў, і адправіўся. Ён пайшоў у дарогу, а цар яго забраў жынку к сабе ў дварэц. Ну, пайшоў Няшчасны Егар дарогай, кінуў уперад сябе клубочак, клубочак пакаціўся, і ён услед ідзе. Зайшоў у бальшы лес, па сцежцы прыйшоў на бальшую палянку. На той палянцы стаіць хатка, маленькая. Ён заходжуе ў гэту хатку; у гэтай хатцы баба — старуха, бальшая і вельмі страшная. І спрашуе ў яго:

— Хто ты такі, зачым ходзіш?

— Стой, бабушка, не бранісь: вот вочы хустачкай пратру, тады раскажу — з дарогі за слязмі нічога нявідна!..

Выняў хустачку і стаў праціраць вочы. Баба ўбачыла хустачку і ўвазнала яго, хто ён такі.

— Гэта ты, Няшчасны Егар, мой унучак?

— Так, верна,— гавора,— бабушка!

Сычас усхапілась, пад пахі яго пасадзіла, стала карміць, паіць і распрашываць:

— Куды бог нясе?

— А вот, бабушка, іду,— кажа,— туды, немаведама куды, прынесці цару то, нязвесна што!

— Не знаю,— гавора,— унучак мой, Няшчасны Егар! Ну, лажысь,— гавора,— з дарогі аддыхні, а я распрашу, не ведае хто!

Ён лёг, аддыхае, а баба выйшла на крылцо, свіснула, гукнула — бягуць і к ёй разнае звяр'ё: ільвы, мядзведзі, ласі, ваўкі, лісіцы — усе, якія ёсць на свеце, аж да зайчыка. Яны ўсе праходжуюць паўз яе, яна ўсіх распрашуе, ці не ведае хто, як іціць туды, немаведама куды, прынесці то, нязвесна што?

Усе атвяшчаюць:

— Не ведаем, бабушка!

Тады яна адправіла звяроў і гукнула птаства — усіх, якія толькі на свеце ёсць. Усе праходжуюць паўз яе, яна распрашуе, ці не знае хто, ці не ведае хто, як іціць туды, немаведама куды, прынесці то, нязвесна што?

Усе атвяшчаюць:

— Не ведаем, бабушка!

Адправіла яна тады птаства і гукнула ўсіх разных гадаў. Спаўзліся гады: уж'я, гадзюкі, яшчаркі, лягашкі і жабы — усе, якія толькі ёсць на свеце. Усе ідуць паўз яе, яна распрашуе, ці не знае хто, ці не ведае, як іціць туды, немаведама куды, прынесці то, нязвесна што? Ніхто не знае. Тады яна спрашуе:

— А ці ўсе вы тутака ёсць?

Стала лічыць і не далічылася адные жабы — старыя і хромыя. Яна крыкнула, штоб сычас разыскалі яе! Прыставілі. Баба з грозамі крыкнула на яе:

— Дзе ты, старая чартоўка, забарылася?

Жаба адказуе:

— Бабушка, я на дарозе заснула трошкі. Чалавек ехаў у дровы на валу і катком нагу мне адцёр, соннай, дак я прыпаздала.

— Ну, знаеш жа ты, як іціць туды, немаведама куды, прынесці то, нязвесна што?

— Знаю,— кажа,— бабушка!

— Ну, вядзі ж,— гавора,— майго ўнучыка, Няшчаснага Егара, туды!

— Харашо, бабушка, добра,— гавора,— павяду!

Сычас Няшчасны Егар і адправіўся ў дарогу. Жаба хромая ўпярод, Няшчасны Егар услед за ёй. І пайшлі яны па лясах, па балотах, па мохах. Дзе калода вялікая, Няшчасны Егар і перасодзе яе. Паднесці яе нальзя было, патаму яна дарогі так не знала, а трэба было самой іці ўпярод. Прайшлі лес, выходжуюць на чысты сцеп. Бача Няшчасны Егар, што ляжыць бальшы камень, вельмі бальшы. Прыходжуюць ■ тому камяню, аж там нара туды. Жаба палезла ў тую нару, і ён пайшоў. У той нары цёмна было — скрылася жаба, пацяраў жабу. Прайшоў нару, выходжуе на відны свет тожа. Стаіць дом прavагромны. Ён уходжуе ў дом той — няма нікога, толькі дванаццаць карвацяў стаіць. Ну, ідзе ж дзецца? Ён узяў да ўлез у грубку. А есць-то хацеў крэпка — не было чаго. «Пасяджу ў гэтай грубцы, хто-небудзь даўжон быць, што-небудзь есць будзе!»

Так у самага поўдня чуе ляск і конскі топ. Пад'ехалі дванаццаць чалавек, пазлязалі з коней, пусцілі іх у стайню, а самі ўходжуюць у гэты дом і спрашуюць есць.

— Мурза,— гаворацць,— дай-ка папіць, паесць нам!

Сычас стол адкрыўся такі, што чаго ўгодна — і піцення і ядзення. Садзяцца за стол і кушаюць. Пад'елі, усталі з-за стала і гаворацць:

— Прыбяры, Мурза!

Гэты стол скрыўся. А яны леглі па карвацях аддыхаць. Нямнога паспалі, усталі апяць і паехалі. Няшчасны Егар разгледзеў, што яны ўжо ўбраліся, не чутно, а есць-то ўжо хоча парадашна, вылез із грубкі і просіць:

— Матушка Мурза, дай папіць, паесць!

Сычас адкрылася яму яшчэ лучча, як тым, стол.

— Вот,— кажа,— паю і кармлю трыццаць лет, а шчэ ніхто ніколі і матушкай не назваў! А вот найшоўся адзін такі, што за трыццаць гадоў матушкай назваў!

Ну, сеў, паеў, устаў.

— Ну, матушка Мурза, прыбяры!

Матушка Мурза прыбрала, скрыўся гэты стол — няма. Тады спрашуе:

— Матушка Мурза, пайдзеш ты са мною?

— Пайду,— гавора.

Ну і вярнуўся ён апяць сваім пуцём назад. Нямножка прайшлі. Няшчасны Егар і спрашуе:

— Тут, матушка Мурза?

— Тут! Я ўжо ня 'стanусь!..

Пайшлі так жа далей. Прыходжуюць к берагу мора. Найшлі яны лодачку сабе там і паехалі па мору. Няшчасны Егар спрашуе:

— Тут, матушка Мурза?

— Тут! Вот скора будзе тут востраў. Там будзе стары чорт з чарцянком прасіць у цябе есць, будзе купляць мяне, будзе даваць табе золата і серабра, колькі хочаш. Нічога ты не бяры, а прасі ў яго тапарок і малаток. А я ад цябе ня 'станусь!..

Як едуць, устрачаюць сычас — ідуць чорт і чарцянок, стары і маленькі.

— Эй, чалавек, дай паесць!

— Абажджы,— гавора,— на бераг уз'еду, дам.

Прыязджаюць к берагу, сычас вылезлі:

— Матушка Мурза, дай папіць, паесць!

Яны селі, сталі есць. Вот, думалі, паядзім усё! Елі, елі, ажно яго ўсё цэла шчэ! Ён, чорт, гавора:

— Эй, чалавек, прадай стол!

— Купляй!

— Бяры грошай многа, колькі хочаш, золата і серабра!

— Мне,— кажа,— не трэба тваіх грошай, а дай тапарок і малаток!

Чорт падумаў: гэта на цэлы век хваце з мяне! Узяў і аддаў тапарок і малаток. Сеў Няшчасны Егар у лодачку і паехаў далей. Гэты чорт стол абярнуў у ваду: ён думаў, што з вады вылез, бо не было ў лодцы. А Няшчасны Егар, ад'ехаўшы трошку, спрашуе:

— Матушка Мурза, ты тут?

— Тут! Я ня 'тстану. Так жа будзе, яшчэ ўстрэце адзін жа чорт і будзе прасіць есці. Давай і тому. Гэты будзе даваць так жа сама многа грошай. Ты не бяры, а прасі ў яго красіўцо і крамянец і губкі шматок!..

Так... Едуць, сычас бачуць — едзе насупроткі чорт.

— Эй,— гавора,— чалавек, дай есці, а то ўтаплю!

— Стой,— гавора,— не тапі; а вот на бераг уз'едам, дам, пакармлю!

Уз'ехалі на бераг, Няшчасны Егар гавора:

— Матушка Мурза, дай папіць, паесць!

Стол адкрыўся, селі і начали есць. Пад'елі. Начаў чорт таргаваць:

— Прадай,— гавора,— стол!

— Купі!

— Вазьмі ад мяне многа грошай, а стол аддай!

— Ня хочу,— гавора,— тваіх грошай, а дай красіўцо, крамянец і губкі шматок!

Чорт раздумаўся і аддаў. Адзін другому падзякавалі, і адправіўся Няшчасны Егар. Ад'ехалісь нямнога, ён спрашуе:

— Матушка Мурза, ты тут?

— Тут,— гавора,— я ад цябе ня 'тстану!

Так жа паехалі дальша. Прыязджаюць к востраву. На тым востраве правагромны лес, дуб'ё. Мурза гавора яму:

— Уз'язджай на бераг вострава!

Яны ўз'ехалі на востраў на гэты, вылезлі ■ лодкі, прыходжуюць к дубам к гэтым. Мурза Егару і гавора:

— Бяры-тка,— гавора,— тапарок і малаток: тапаром у дуба секані, а малатком удар!

Ён узяў, сякануў у дуба тапаром, малатком ударыў — здзелаўся караб і плыве па вадзе! Так ён здзелаў іх нескалькі караблёў,— сколькі яму трэба было, штоб ужо падайці к тому цару, у відзе непрыяцеля, значыцца. Тады Мурза гавора:

— Ну што ж,— гавора,— караблі ў нас ёсцека, а народу нямашака. Трэба ж, штоб і народ быў на караблях. Вынімай красіўцо і крамянец і губкі шматок!

Егар дастае з кармана.

— Прыкладавай губку і к крамяньку,— сказуе Мурза,— і красай агонь!

Ён прылажыў, красануў — так выскакуе полк салдатаў ■ усімі прыпасамі і з начальствам. Такжа і музыка, усё, што і нада. Накрасаў ён гэтага народу, колькі яму трэба было, па ўсматрэнню караблёў. Распарадзіў з начальствам матросаў, што трэба адпраўляцца ў пуць. А перва здзелаць малебства і ўгашчэнне для войска.

— Дай-ка, матушка Мурза, піць і есць!

Явіўся стол на ўсю вайску. Папілі, паелі; музыка зайграла, паднялі парусы і пайшлі ў гэта царства, адкуль Няшчасны Егар. Прыходжуюць; бліз горада таго астанавіліся. Так гэты цар і ўрабеў, што нязвесна якая войска — хлот абнялі горада. Цар гэты і ўрабеў, што непрыяцель найшоў, а таго не ведае, што гэта ён самы.

А Няшчасны Егар пасылае свайго палкоўніка, начальніка, трэбуе, штоб цар гэты явіўся к яму на прыстань. Цар гэты нямедленна і прыязджае. Няшчасны Егар паздраставаліся і начаў разгавор:

— Я б,— гавора,— хацеў — я бальшы ахвотнік, еду з дальнія стараны, я наслышан, у вас ёсцека бальшы ахвотнік, называецца Няшчасны Егар, я б хацеў з ім па'хвоціцца!

Цар атвяшчае, што яго нету, ён паслан, да шчэ яго няма назад.

— А жана яго дзе?

Цару тады штось і не так пачулася, што жынка, бач, ужо ў яго ў доме. Ен сычас і дагадаўся. А жана ўжо Егарова, яна ўжо даўно знае, што гэта за штука. Сычас жа ўслед за царом яна прыказала лашадзей залажыць і паехала на прыстань. Удруг убачыў Егар сваю жану, пасылае наўстрэчу ўзвесці яе на караб. Узялі яе пад пашкі і прывялі. Увайшоўшы на караб, абняла яго за шыю і сказуе:

— Здрастуй, мой друг, Няшчасны Егар! Вот калі я цябе даждалась! Вот хто,— кажа цару,— мой друг, а не ты!

[...] Тады, доўга не думаючы, на штыхі паднялі яго да ў ваду. А самі ў тым царстве сталі жыць. І цяперака жывуць.

## 2. ІВАН ВАСІЛЬЕВІЧ — СТРАЛОК

Іван Васільевіч дужа быў харошы стралок. І дайшло да пана. Ен патрэбаваў яго к сабе, спрашыіць:

— Харош,— гаворыць,— стралок?

— Харош! — гаворыць.

Тады ён яго адправіў на егарскую, к ахвотнікам. І на заўтрашні дзень гаворыць:

— Адпраўляйцеся на 'хвоту,— як ён будзіць ахвоціцца?

Адправілісь яны на 'хвоту. Увайшодшы ў лес, разыйшліся ўсе ўрозь і пусцілі сабак. Ну, тады зверына стала к яму лязець: ён на 'дным месце стоючы набіў усякія зверыны без канца! А тыя ахвотнікі хадзілі цэлы дзень і ў вочы нікога не відзелі. Сабраліся яны ўсе ў кучу і ідуць дамой, і найшлі на гэтага ахвотніка. Ну, яны тады сматраць, што ў яго столькі зверыны разныя, а ў іх нічога, яны між сабою гаворадь:

— Ці не падзеліцца ён з намі, а то нам стыдна ісці дамой. А можыць быць мы другі раз заб'ем, а ён не!

Ну, яны сейчас гаварацць яму. Ну, ён гаворыць ім:

— Вазьміце, падзяліце між сабою па скольк' прыдзецца да пайдзём дамой.

Прыходзяць дамой. Сейчас далажылі пану, што прыйшлі ахвотнікі з ахвоты. Выходзіць к ім пан, паздароўкаўся і спрашыіць у іх:

— Как новы ахвотнік занімаецца?

Яны атвячаюць яму:

— Харош ахвотнік! — гаворацць.

Ён адпусціў дзенег на водку.

— А заўтра,— гаворыць,— апяць адпраўляйцеся!

Яны пайшлі, выпілі, павужыналі, далі яму хвацеру ўва ўдавы. І ў яе быў толькі адзін мальчышка. Назаўтрага, устаўшы, апяць адправілісь на 'хвоту. Ну, ён цэлы дзень хадзіў і ў глаза нікога не відзеў, гэты новы ахвотнік. Гэтыя забілі кажды, а ён нікога не забіў. А яму што назначана была зверына пакуль будзіць жыць, дык ён яе пабіў за адзін дзень. Сабраліся яны іціць дамой. Ну, яны самі між сабою падзяліліся. Прыходзяць дамой, апяць далажылі пану. Пан выходзіць к ім і спрашыіць іх:

— Ну што,— гаворыць,— харош новы ахвотнік?

Яны атвячаюць:

— Харош!

Ну, тады ён адпусціў ім дзенег на водку:

— Выпіце,— гаворыць,— павужынайце, аддыхайце, а назаўтрага апяць адпраўляйцеся!

Яны выпілі, павужыналі і ляглі спаць. Назаўтра павутру апяць адправіліся на 'хвоту. Ну, і дзень прахадзіў ён і нікога не забіў. І надумаўся сам сабою:

— Што гэта такое? Нікагда гэтага не было! Заўтра ўстану рана і ўтаплюся ў мора!

І не дажыдаючы ахвотнікаў, адправіўся на хварцеру. Прыйшоў ён на хварцеру, пераначаваў. Назаўтрага утрам, устаўшы, адправіўся к мору. Прыйшоўшы ▪ мору, сеў на берагу і думаіць ён раздзявацца. Гляніць угару, відзіць: ляціць тры вуткі. Тады ён бярэць ружжо і думаіць: «Ах, госпадзі! Штоба ўбіў пару вутак, дык ба сам не тапіўся!» Толькі ўзяў ружжо, хацеў прыкласціся і ўдарыць — яны апусціліся на бераг і здзелаліся дзявіцамі. Раздзеліся і пайшлі ў мора купацца. Ён тады ціхім вобразам падкраўся і ўзяў адной дзявіцы, самай меншай сястры, плацце і сам скрыўся. Гэтыя вылезлі на бераг, адзеліся і паляцелі, а гэтай нет плацця, і яна асталася тут. Яна ходзіць па берагу і спрашыіць:

— Хто плацце маё ўзяў? Акажысь, ня бось,— гаворыць,— стары чалавек — то ацец мой, мені за мяне — будзеш брат мой, уроўні са мной — будзеш муж мой!

Ну, ён сейчас выйшаў з плаццем і аддаў ёй. Ну, яна адзелася і гаворыць яму:

— Вот, ты цяпер будзеш муж мой! І прыхадзі заўтра ў дзевяць часоў утра на гэта места: ежалі ты прэждзі за мяне, ажыдай мяне, а ежалі я прэждзі, то я буду ажыдаць цябе!

Сама папрашчалася, паляцела! Узяўшы і ён пайшоў на хварцеру. Назаўтра утро́м сабіраецца ідзі апяць на тое места. А яго хазяйка была валшэбніца. Яна гэта дзела ўзнала, што з ім быў случай такой. Яна адпраўляіць мальчышку свайго з ім, штоб ён не дапусціў яго да ёй. Ён, ідучы дарогаю, гаворыць гэтаму мальчышку:

— Варацісь, уб'ю!

А ён гаворыць:

— Бей дык бей! А я ад цябе ні 'стануся.

Прыходзяць на той бераг, ён сейчас, гэты салдат, сеў, ружжо паклаў. Мальчышка гэты каля яго давай балавацца. Узяў яго за галаву. Як толькі ўзяў ён яго за галаву, дык гэты салдат заснуў у яго на каленях. Сейчас яна пад'язджаіць на караблі на моры, закінула якара і выйшла на бераг з карабля. Відзіць, што ён спіць, на каленях у мальчышкі, будзіць ёй яго нільзя, дык надумалася — напісала запіску: ежалі заўтра, ідучы дарогаю, ты не ўб'еш гэтага мальчышку, то ты мяне не ўвідзіш, а я цябе! Тады падходзіць к ім яна і спрашыіць у мальчышкі:

— Хто гэта спіць у цябе на каленях?

Мальчышка атвячаіць:

— Не трывожце яго, гэта салдат, ён ужо ўмарыўся!

Тады яна гэту запісачку за галстук ззаду заторкнула і гаворыць:

— Пус[ц]ь спіць із богам!

Сама адправілась, села ў караб і адпраўляецца па моры. Тада ён, нямнога паспаўшы, праснуўся і спрашыіць у мальчыка:

— Што,— гаворыць,— здзесь нікога не было?

Мальчык яму атвячаіць:

— Нет! Нікога не было.

Ну, яны адправілісь дамой. Тада, прыйшоўшы дамой, стаў ён раздзявацца: расцягнуў галстук, гэта запіска ўпала на землю з-за галстука. Ён сейчас яе падхваціў, прачытаў, відзіць, што яна ў гэтай запіскі пішыць: ежалі ты заўтра не ўб'еш яго дарогаю, прыдзеш із ім, дык ты мяне не ўвідзіш, а я цябе. Ну, на-

заўтрага утрам сабіраецца ён апяць іці, і мальчышка із ім сабіраецца іці.

Ён яму атвячаіць:

— Ня йдзі,— гаворыць,— уб'ю!

А ён гаворыць:

— Бей дык бей! Калі ўб'еш, тада не пайду!

Ну, ён, узяўшы пайшоў, і мальчышка гэты пайшоў із ім. Ён, нямнога адышоўшы, гаворыць:

— Ня йдзі, варацісь, а то ўб'ю!

А ён атвячаіць:

— Бей хоць сейчас; патуда буду іці, пакуль уб'еш.

Ну, ён тады злажыўся з ружжа і ўбіў яго. Прыходзіць на бераг, яна ўжо ходзіць па берагу. Здароўкаецца із ім і гаворыць:

— Вот ба надась яшчо гэта здзелаў.

Ну, тада яна атвячаіць яму:

— Сядзем у караб, паедзем у маё царства!

А ён атвячаіць ёй:

— Я не магу адправіцца ў ваша царства, я прысягаў богу і вялікаму гасудару служыць верна. Адслужыўшы, палучыўшы астаўку, во тады я магу! Й а цяперыча,— гаворыць,— пойдзем у маё царства! І ідзе ж мы гэты караб падзенем?

А яна атвячаіць:

— Гэта караб наш!

Сейчас выняла платок з кармана, махнула платком, караб гэты нівесь ідзе дзеўся — не стала карабля на моры. І аддала яму гэты платок у карман.

— На,— гаворыць,— спрач у карман!

Тады і пайшлі ў гэты горад. Прыйшоўшы ў горад, ступай, гаворыць, наймі хварцеру, номер самы первы, і што будуць прасіць за номер, удвая давай, дзеньгамі не сцясняйся, хваціць з нас!

Ну, тады ён наняў номер. Пражылі яны на гэтай хварцеры нядзелю, ну, тада яна гаворыць яму:

— Ступай явіся пану! Ты скольki ўрэмя не яўляўся, вінават будзеш! І прасі пана, каб ён пазволіў табе жаніцца!

Ну, ён адправіўся к пану. Сейчас дакладаюць пану, што прыйшоў к яму ахвотнік малады. І выходзіць к яму пан, паздароўкаваўся і спрашыіць у яго:

— Што,— гаворыць,— нужна табе?

Ён гаворыць:

— Паночак, хацеў вас беспакоіць: прасіцца, каб вы пазволілі жаніцца!

— Харашо,— гаворыць,— я гэтым даволен, што мае слугі будуць жаніцца тут!

Тады ён гаворыць:

— Паночак, хто мне дас[ц]ь к свяшчэнніку запіску, каб павянчаў мяне?

Пан сеў, сам запіску напісаў к свяшчэнніку, што перавянчаць такога-та егара! Прыходзіць ён на хварцеру к сваёй дзевушкі. Яна спрашыіць яго:

— Што пан атвеціў харошага?

А ён гаворыць:

— Нічаво! Слава богу!

Яна спрашыіць:

— Што, пазволіў жаніцца?

А ён атвячаіць:

— Пазволіў! Сам запіску к свяшчэнніку напісаў!

— Ну, ступай,— гаворыць,— к свяшчэнніку, нясі гэту запіску, на якой дзень ён скажыць прыязджаць пад вянец і што будзіць прасіць за вянец? Калі будзіць прасіць пяць, давай дзесяць, а калі дзесяць, давай дваццаць.

Ну, ён пайшоў к свяшчэнніку. Сейчас прыходзіць ■ свяшчэнніку і падносіць яму запіску. Свяшчэннік палядзеў гэту запіску, гаворыць:

— Хоць сейчас прыязджайце, перавянчаю!

— А што возьмеце, бацюшка, за труды?

А ён атвячаіць:

— Не нужна мне нічога!

Ён гаворыць:

— Я дзеньгі буду плаціць не паньскія, а свае! За труды, бацюшка, нада! Я сам служашчы чалавек!

Ну, ён яму даў дзенег, а сам адправіўся на хвацеру. Прыходзіць дамой, яна спрашыіць яго:

— Што бацюшка гаварыў?

А ён гаворыць:

— А ні за бацюшкам! Бацюшка гаварыў, хоць сейчас прыязджайце!

— Ну, дык нечага медліць, нада людзей зваць і будзем сабірацца і паедзем пад вянец!

Ну, яны пазвалі людзей. Сабраліся і паехалі пад вянец. Перавянчаліся і згулялі свадзьбу. Тады яна гаворыць хазяіну свайму:

— Ступай к пану і прасі пана пазваленія, каб пазволіў на плацу пастроіць нам сабе дом!

Ён адправіўся. Прыйшоў. Дакладаюць пану, што прыйшоў егар, што нядаўна жаніўся! Выходзіць пан к яму і спрашыіць яго:

— Што табе нужна?

Ён атвячаіць:

— Паночак, я прыйшоў прасіць вас, каб пазволілі выстраіць дом на плацу!

Ён гаворыць:

— Нашто строіцца? Вот ёсць дамы панскія каменныя, жыві!

А ён атвячаіць:

— Нет, паночак, я хачу сам пастроіць сабе дом на плацу!

— Ну, как хочаш!

Ён адправіўся дамой. Прыходзіць на хвацеру, спрашыіць хазяйка:

— Што пан атвеціў?

— А нічога,— гаворыць,— пазволіў пастроіцца.

Ну, яны сабраліся і пайшлі на плац, толькі ўзялі з сабою тапор, лапату, вяроўкі. Прыйшлі на плац, абабралі сабе места і размерылі, ідзе строіць комнаты, анбары, пуні, канюшні. Ну, тады ўзялі вяроўкаю размерылі і пазабілі колічкі па размеру. І тада яна гаворыць:

— Ну, душачка, аддахнём нямнога!

І ён лёг, і скора ён уснуў. І ці многа спаў, ці мала, то ўстаець ён, відзіць — усё гэта настроена. Яна сейчас бярэць яго за руку, вядзець у комнаты і гаворыць:

— Вот, душанька, наша работа, што мы мерылі!

Ну, пажылі яны там з нядзелю. Яна тада гаворыць:

— Ну, душанька, нужна явіцца к пану, каб ён не сердзіўся, што доўга не яўляўся!

Ён атвячаіць:

— А вот, душанька, толькі нап'юся чаю, пайду!

Яна гаворыць:

— Што, душанька, пойдзеце пешшу: ці ў нас лашадзей няма, ці што?

Вот яна сейчас выходзіць на крыльцо і крычыць:

— Кучар! Запрагай чацвёрку лашадзей і пачышча ўбірацы!

Ён атвячаіць: «Слушаю, гасударыня!»

Ну, яны напіліся чаю, яна гаворыць:

— Вот, душанька, садзіцеся і паязджайце!

Ён сеў і адправіўся к памешчыку. Пад'язджаіць пад панскі двор; тут усе ўвідалі дваравыя і думалі, што едзіць з чужэй

зямлі які-небудзь пасланец, ілі прынц, ілі князь, патаму што ў нашым царстве такой упражы нет. Усе выйшлі чэсць аддаваць. Ён, пад'ехаўшы к крыльцу, выскачыў к ім. Тут глядзяць усе і ўдзівіліся, што гэта ехаў так егар. Тады сейчас дакладываюць памешчыку, што аявіўся егар. Выходзіць пан к яму, смотрыць на яго лошадзь, на яго ўпраж і завець яго з сабою ў комнаты і гаворыць яму:

— Скора ты, брат, друг, выстраіўся!

А ён атвячаіць яму:

— Гэта не я выстраіў, а жана мая!

А пры гэтым пан быў удавец. Дык ён просіць яго:

— Міласці прашу прыбыць заўтра з жаною!

Ну, ён сеў на сваіх лашадзей і адправіўся дамой. Прыязджаюць дамой. Яна сейчас выскакыіць і спрашыіць яго:

— Што пан атвеціў харошае?

Ён гаворыць:

— Нічога ня 'твеціў, толькі прасіў прыбыць з жаной к яму заўтра.

Яна гаворыць:

— Дык што ж там такое? Дык і паедзем!

Назаўтрага утра ўстаўшы, чаю напіліся, яна выйшла на крыльцо і гукаіць:

— Кучар! Вазьмі, запрагі шасцярык лашадзей, пачышча ўвабраць!

Ён гаворыць:

— Слушаю! Сейчас гатовы будуць!

Запрог ён лашадзей, і яны выйшлі, селі і паехалі. Прыехалі к пану. Як ён, пан, быў удаўцом, а яна дужа красівая, то ён захацеў яе ўзяць. Ну, яны там пагасцілі, пагасцілі, ну ён яе хоць ба і хацеў узяць, ды без віны ж няможна,— хоць сабе ён і пан, а той і егар. Ну, ён адправіў іх у двор. Тада сеў сам і задумаўся, якую б віну найціць на яго, істрабіць яго, а жану ўзяць за сябе. У то ўрэмя выскакыіць думчы і гаворыць:

— Панок! Я знаю, аб чом вы задумаліся!

Ён атвячаіць яму:

— Аб чом?

— А,— гаворыць,— я знаю аб чом — аб егарскай жане! А вот я знаю яму службу, дык ён службы гэтай не найдзіць і не прыдзіць, а хаця і прыдзіць, дык ваша меч — яго галава з плеч! Вот пус[ц]ь прынясець вам ворана, каб было залатое пяро і сярэбранае! Дык гэткіх пціц нету, дык ён — хоць і прыдзіць, дык не прынясець!

Сейчас памешчык трэбуіць егара. Ён яўляецца к памешчыку.

— Аб чом, паночак, трэбуеце?

Ён атвячаіць яму:

— Вот табе ёс[ц]ь служба!

Ён спрашыіць:

— Якая служба?

Ён гаворыць:

— Ступай, прынясі мне ворана, штоб было залатое пяро і сярэбранае пяро! А калі не прынясеш, дык мая меч, а твая галава з плеч!

Ён із гэтым адправіўся дамой. Ідучы дадому, сільна заплакаў. Яна сейчас выскакыіць на крыльцо і спрашыіць яго:

— Аб чом, душачка, плачаце?

Ён атвячаіць ёй:

— Как жа мне не плакаць? У каго жонкі харошы бываюць, то таму пастаянна так бываіць, што галовы з плеч злятаюць!

Яна яго ўводзіць у комнаты і спрашыіць:

— Скажы, што гэта за такое?

— А вот,— гаворыць,— сказаў пан: дастань ворана, штоб залатое пяро і сярэбранае, а калі,— гаворыць,— не дастанеш, то мой меч, а твая,— гаворыць,— галава з плеч!

Яна гаворыць:

— Да садзіся абедаць, лажыся аддыхаць; у нас сад вялік, у саду разных пціц многа, можа быць і найдзём.

Ён пабедаў і лёг спаць. Спаў ён ці многа, ці мала, толькі праснуўся — відзіць: воран гэты ходзіць па комнаце. Яна атвячаіць яму:

— Вот, душанька, і ёс[ц]ь! Устаньце, напіцеся чаю і аднясіце пану ворана!

Ён устаў, памыўся, чаю напіўся і панёс гэтага ворана памешчыку. Прыносіць памешчыку, яму далажылі, што прынёс егар ворана. Ну, ён сейчас выходзіць і гаворыць:

— Пускай ворана, а сам адпраўляйся дамой!

Ён апяць сеў і думаіць, як штоб яму здзелаць такое? Апяць выходзіць думчы і гаворыць:

— Аб чом вы задумаліся? Я,— гаворыць,— знаю, аб чом. Вы,— гаворыць,— аб егарскай жане задумаліся! Вот я,— гаворыць,— знаю яму службу!

Ён спрашыіць:

— Какую?

— А вот,— гаворыць,— пус[ц]ь прывядзець вам казу — шарсцінка залатая і каб шарсцінка сярэбраная, залаты рог і

сярэбраны рог! Не даставіць ён вам, дык ваша меч, а яго галава з плеч, а вам жана астанецца!

Ён сейчас трэбуіць гэтага егара. Ён яўляецца к яму і спрашыіць яго:

— Аб чом,— гаворыць,— трэбуеце?

— Вот,— гаворыць,— у цябе ёс[ц]ь служба! Дастаў мне казу, каб была залатая шарсцінка і сярэбраная, і залаты рог і сярэбраны рог! А не даставіш — мой меч, твая галава з плеч.

Ну, ён адпраўляецца адтуда. Прыходзіць дамой. Жана спрашыіць яго:

— Што,— гаворыць,— аб чом пан трэбуваў?

— Вот,— гаворыць,— аб чом: штоб даставіў казу — шарсцінка залатая і шарсцінка сярэбраная, залаты рог і сярэбраны рог, а калі,— гаворыць,— не даставіш — мая меч, табе галава з плеч!

Яна гаворыць:

— Гэта нічога! Яшчо падумаем! Абедай, лажыся спаць!

Ён пабедаў, лёг спаць. Прачнуўся, палядзіць — каза ўжо ходзіць па комнатах. Вот яна гаворыць:

— Устаньце, умыйцеся, чаю напіцеся, завядзіце казу яму!

Ён устаў, умыўся, чаю напіўся і павёў. Прыводзіць к пану. Сейчас дакладуюць пану, што егар прывёў казу! Ну, пан сейчас выходзіць. Смотрыць на гэту казу і гаворыць яму:

— Адпраўляйся дамой!

Ён адправіўся. Ён апяць задумаўся.

— Што тут дзелаць? Ніякім родам яму нічога не падзелаеш!

Тада выходзіць трэці думчы. Вот ён гаворыць:

— Аб чом,— гаворыць,— задумаліся? Я знаю, аб чом вы задумаліся! Вы задумаліся аб егарскай жане! Вот,— гаворыць,— паслаць яго туда, ды немаведама куда, пусць прынясець то, ды немаведама што! Вот гэтага,— гаворыць,— нійдзе ў свеце няма. Дык як пойдзіць, гэтага не найдзіць і так прыдзіць, дык ваша меч — яго галава з плеч!

Ну, ён трэбуіць яго. Ён сейчас яўляецца і спрашыіць:

— Аб чом трэбуеце?

Ён атвячаіць яму:

— Вот,— гаворыць,— ёс[ц]ь у цябе служба.

Ён спрашыіць:

— Якая?

А ён гаворыць:

— Вот ступай туда, ды немаведама куда, прынясі то, ды немаведама што!

Ну, ён адправіўся дамой. Прыходзіць дамой. Жана і спрашыіць яго:

— Аб чом гэта пан трэбуіць?

— А вот,— говорыць,— гаварыў пан, што ідзі туды, ды немаведама куды, прынясі то, ды немаведама што!

— Ну, садзісь,— говорыць,— абедай ды лажыся спаць. А вутра бываіць мудраней вечара.

Ну, назаўтрага ўсталі яны утрам, паснедалі. Жана говорыць яму:

— Ступай к пану, пус[ц]ь дас[ц]ь білет, без білета іці нільзя.

І говорыць:

— Пусць так білет пішыць, як я скажу: няхай напішыць год за паўгода, месяц за паўмесяца, час за паўчаса, мінута за паўмінуты, секун[д] за паўсекун[д]а — выпішыць такой білет, тада і адправішся!

Ну, яўляецца ён к памешчыку; дакладываюць памешчыку, што егар прыйшоў! Ён выходзіць к яму і спрашыіць:

— Што табе нужна?

Ён атвячаіць:

— Нужна мне білет!

— Ну,— говорыць,— сейчас будзіць гатоў!

А ён говорыць:

— Нет,— говорыць,— не такой білет, якой выдаецца, а такой, якой я скажу!

Ну, ён атвячаіць:

— Ну, гавары, какой табе нужна?

— А вот,— говорыць,— пішыце білет: год за паўгода, месяц за паўмесяца, час за паўчаса, мінута за паўмінуты, секун[д] за паўсекун[д]а!

— Ну, адпраўляйся дамой, а кагда выпішам, тагда мы патрэбуем.

Ну, ён адправіўся дамой. Яны нікак не маглі саставіць яму білета гэтага. Гэта дзела прайшло тры гады. Ну, найшоўся такой пісар, што выпісаў білет яму. Ну, сейчас трэбуіць яго памешчык. Ён яўляецца і спрашыіць:

— Аб чом трэбуеце?

— А вот,— говорыць,— табе білет!

Ён палучыў білет і адправіўся дамой. Прыходзіць дамой, жана і спрашыіць:

— Што,— гаворыць,— выпісалі білет?
— Выпісалі!
— Ну, садзіся,— гаворыць,— абедай ды лажыся спаць, вутра бываіць мудраней вечара.
Ён пабедаў і лёг спаць. Назаўтрага утра ўстаўшы, чаю напіўшы, паснедалі, і адпраўляіць яна яго ў пуць шукаць гэтых вяшчэй. Увязала яму ў дарогу харчэй і дала рушнік і пускаіць клубочак:
— Куды гэты клубочак будзіць каціцца, туды і ты ступай; ідзе гэты клубочак пад варата падкоціцца, там і начуй. Устаўшы, нічыім рушнікам не ўціpайся, толькі маім!
Ну, ён адправіўся ў пуць. Ішоў ён многа ці мала, гэта нізвесна, выходзіць на палянку. Відзіць, стаіць чугунны дом. Ён падайшоў к гэтаму дому, сейчас гэты клубочак падкаціўся пад варата.
Ён стучыць у варата. Выскакыіць дзявіца і спрашыіць:
— Хто там?
Ён атвячаіць:
— Егар рускі!
— Што табе,— гаворыць,— нужна?
— Атварыце варата, пусціце данач!
— Пагадзі,— гаворыць,— спрашу ў барышні.
Тада яна ўскакыіць і гаворыць:
— Барышня, рускі егар просіцца данач!
— Ну,— гаворыць,— пусці яго, накармі яго, напаі і спаць палажы, пус[ц]ь аддыхаіць — ён з паходу ўтаміўся!
Яна яго ўпусціла, накарміла, напаіла і спаць палажыла! Назаўтрага ўстаець ён павутру, умыўся, вынімаіць свой рушнік і ўціраецца. Гэта служанка ўвідзела і пабяжала к барышні:
— Барышня,— гаворыць,— егар вашым рушнікам уціраецца.
А яна гаворыць:
— Нет, мой рушнік здзесь!
Тада сейчас выходзіць барышня ў кухню і спрашыіць яго:
— А йдзе ты ўзяў гэты рушнік?
А ён атвячаіць ёй:
— Гэта мне жана дала.
Яна сейчас брасаецца к яму і здароўкаецца:
— Гэта,— гаворыць,— рушнік сястры мае малыя.
Сейчас яго ў комнату, сталі піць, гуляць — так ён урэмя ў яе правёў пашці месяц. Тада яна ўздумала, спрашыіць:
— Куда ж ты ідзеш, куда ж цябе бог нясець?

— А вот,— гаворыць,— паслаў памешчык: ідзі туда, ды немаведама куда, прынясі то, ды нязвесна што.

— Ну, што ж ты гуляеш? Табе ж даўно нада было адпраўляцца!

Сейчас выпраўляіць яго, даець яна яму клубочак.

— Куда гэты клубок будзіць каціцца, туда і ты ступай! Нійдзе не начуй, паміма ідзе клубочак падкоціцца пад варата, там і начуй!

Ну, выходзіць ён узнова на палянку, відзіць, стаіць дом медны, агромны, а гэты яшчо большы. Падкаціўся клубочак пад гэтыя варата. Ён стучыцца ў варата. Выскакыіць дзявіца і спрашыіць у яго:

— Хто там?

Ён атвячаіць:

— Егар рускі, нанач!

Яна гаворыць:

— Сейчас спрашу ў барышні!

Сейчас ускакыіць і гаворыць:

— Барышня, рускі егар просіцца нанач!

— Ну,— гаворыць,— пусці яго! Напаі, накармі і спаць палажы!

Яна сейчас адкрываіць варата і ўпусціла яго. Напаіла, накарміла яго і спаць палажыла. Назаўтрага утрам устаець, сейчас адзеўся, умыўся, вынімаіць свой рушнік, уціраецца. Дзявіца ўвідзела гэтага рушніка, пабегла сейчас к барышні.

— Барышня,— гаворыць,— егар вашым рушнікам уціраецца.

— Нет,— гаворыць,— мой рушнік здзесь.

Яна сейчас уходзіць на кухню і спрашыіць у яго:

— А йдзе вы гэты рушнік узялі?

— Гэта,— гаворыць,— мне жана дала!

А яна гаворыць:

— Гэта мая сястра!

Ну, яны паздароўкаліся, яна яго сейчас узяла, павяла з сабою ў комнату, там напіліся чаю, паснедалі. Яна яго спрашыіць:

— Куда ж ты ідзеш? Куда цябе бог нясець?

Ён атвячаіць, што паслаў памешчык: ідзі туда, ды няведама куда, прынясі то, ды нязвесна што.

Яна яму атвячаіць:

— Што ж вы гуляеце? Да вам даўно нужна адпраўляцца!

Яна сейчас адпраўляіць яго, даець яму клубочак і гаворыць яму:

— Куды ён будзіць кацiцца, туды і ты ступай. Нійдзе не начуй, паміма, куда клубочак падкоціцца пад варата!

Ен і пайшоў. Ішоў ён многа ці мала, нязвесна — скора дзела кажацца, ну толькі няскора дзелаецца. Выйшаў ён на паляну — відзіць дом сярэбраны агромнейшы. Падходзіць к яму, сейчас клубочак падкаціўся пад варата. Ен стучыць у варата. Сейчас выскакыіць дзявіца і спрашыіць:

— Хто там?

Ен гаворыць:

— Егар рускі, пусціце нанач!

— Пагадзі,— гаворыць,— спрашу ў барыні.

Сейчас ускакыіць яна:

— Барыня, рускі егар просіцца нанач!

Яна гаворыць:

— Пусці! Напой яго, накармі, пасцелю пасцялі, пус[ц]ь адыхаіць!

Яна яго пусціла, напаіла, накарміла і спаць палажыла. Назаўтрага утрам устаў ён, адзеўся, умыўся, выняў рушнік свой, уціраецца. Дзявіца ўвідала гэта, сейчас пабяжала к барыні:

— Барыня,— гаворыць,— егар вашым рушнікам уціраецца!

Яна гаворыць:

— Нет, рушнік мой здзесь.

Сейчас барыня ўходзіць на кухню. Спрашыіць у яго:

— Ідзе ты гэты рушнік узяў?

Ен атвячаіць:

— Гэта мне жана дала!

— Да гэта дачкі мае малыя рушнік!

Ну, тады яна гукаіць:

— Дзеўка,— гаворыць,— вядзі яго ў комнату, пус[ц]ь чаю нап'ецца, і дай яму паснедаць.

Яна яго ўвяла ў комнату, чаем напаіла, накарміла, і тады ўжо цешча яго спрашыіць у яго:

— Куды ідзеш? Куды цябе бог нясець?

Ен атвячаіць:

— Паслаў памешчык, што ідзі туды, ды немаведама куды, прынясі то, ды нязвесна што.

Тада яна атвячаіць яму:

— Аддахні ж ты нямнога, а я пайду ўзнаю, ёс[ц]ь лі гэта ідзе іл і нет!

Сейчас яна выйшла за вароты, сейчас як свіснула, крыкнула — пазляцелі ўсе пціцы, ідзе каторыя ні былі, усе пазляцелі. Здароўкуюцца:

— Здравія жалаем, барыня! Аб чом трэбуеце нас?

Яна атвячаіць:

— Вот,— гаворыць,— ходзіць рускі егар, паслаў яго памешчык, што ідзі туды, ды немаведама куды, прынясі то, ды нязвесна што. Вы лятаеце,— гаворыць,— па лясах, па мохах, па балотах, ці не знаеце, ці не ведаеце гэтага дзела?

Яны атвячаюць:

— Нет, і не знаем, і не ведаем!

Яна апяць як свіснула, як крыкнула — сейчас бягуць звяр'ё, усякія гады, і змеі, і люгашкі. Яны здароўкуюцца із ёю:

— Здравія жалаем, барыня! Аб чом нас трэбуеце?

— А вот,— гаворыць,— ходзіць рускі егар, паслаў памешчык: ідзі туда, ды няведама куда, прынясі то, ды нязвесна што. Ці не ведаеце можа быць: вы ж ходзіце па лясах, па мохах, па балотах, усюдах!

А яны атвячаюць:

— Нет, не знаем і не ведаем!

Адна лягушка атвячаіць:

— Знаіць,— гаворыць,— не знаіць: ёс[ц]ь лягушка-старушка, када гэта знаіць, дык знаіць, а болі ніхто не знаіць.

А барыня гаворыць:

— А зачым жа яна не прыйшла?

А гэта атвячаіць:

— Яе дома нету!

— А дзе ж яна?

— К марскому раку на вяселле ўшла!

— Сейчас жа ступай за ёю, штоб сію мінуту тут была!

Ну, сейчас яна яўляецца.

— Аб чом, барыня, трэбуеце?

— Вот,— гаворыць,— ходзіць рускі егар, паслаў яго памешчык, што ідзі ты туда, ды няведама куда, прынясі то, ды нязвесна што,— ці не ведаеш ты?

А яна гаворыць:

— А, знаю! Гукніце-ка егара таго!

Сейчас пазвалі егара. Ён выходзіць к ёй. Яна яму гаворыць:

— Садзісь на мяне палехчы і дзяржысь пакрэпчы.

Ён сеў. Яна як заскакала, дык ніякая пціца не справіцца із ёю ляцець, ні то беч. Занесла яго так далеча, што ён сам не знаіць куда! Тада яна як скаканула, ён з яе ўпаў і на купіну сеў. А лягушкі нет, астаўся адзін. І сядзеў ён да гэтага, што і заначаваў. І праседзіў ён там тры дня. Не знаіць ён, куды выйці, толькі відна адно неба. На чацвёрты дзень, у поўдні, чуіць —

звініць калакол. Ён думаў, што вот тут яго хто ўб'ець.

Пад'язджаіць ён к яму бліжы і гаворыць:

— Ніто, выстрай кабачок, папіць да паесці гэтаму гаспадзіну.

Ніто сейчас плёснуў у рукі, сейчас выстраіўся кабачок. Тада гэты гаспадзін садзіцца, п'ець і закусыіць; а гэты егар сядзіць на печкі за трубою і прачыцца, баіцца, каб гэты гаспадзін не 'ткалаціў яго, чаго ён на печку забраўся. Гэты гаспадзін напіўся, наеўся і гаворыць:

— Ніто! Убірай гэта!

І сам уссеў на лашадзей і паехаў. Гэты Ніто ўвабраў усё, і егар апяць сядзіць на купіне. Тада захацелась гэтаму егару есць. Нечага яму есць, і тада спрашыіць:

— Ніто!

А ён атвячаіць:

— Чаго ізволіце!

— Нет лі чаго паесць? Хоць хлеба кусок?

Ён атвячаіць:

— Егар, ды глупы! Какое ўрэмя сядзіце і не можаце спрасіць паесці чаго.

Сейчас ён выстраіў кабачок.

— Злезь,— гаворыць,— з печкі!

І падносіць водкі, віна, разныя закускі. Ён наліваіць стакан і здароўкаецца із ім, з Ніто.

— Будзь здароў, Ніто!

А ён атвячаіць:

— Кушайце на здароўе!

Ён выпіў стакан, наліваіць і падносіць гэтаму Ніто. Ён яго пасадзіў ■ сабою ў рад і сталі із ім піць і есці ўмесце. Тада ён гаворыць:

— Вот я гэтаму гаспадзіну, што прыязджаў, служу яму дзевяноста тры года, і нікагда ён мне стаканчыка не паднёс!

А гэты егар гаворыць яму:

— Пойдзем умесце, будзем піць і гуляць!

— Ну, пойдзем,— Ніто атвячаіць яму.

Ну, папілі яны, паелі, і адправілісь. Выйшлі яны ўжо з лесу, на бальшую дарогу. Выстраілі кабачок і сталі піць і закусываць. Ехалі купцы, і знаюць, што на гэтым месце не было кабачка, а цяпер ёсць кабак.

— Да дай зайдзём, пасмотрым, хто здзесь жывець?

Уходзяць у кабак, відзяць аднаго, а чуюць — разгаварываюць удвух. Тада яны спрашуюць:

— З кім вы, гаспадзін, гэта разгаварываеце, адзін сядзіце, а ўдвух разгаварываеце?

А ён атвячаіць:

— Гэта ёс[ц]ь у мяне Ніто. Када хочаце пасматрэць — сейчас не будзіць гэтага кабачка.

Ім стала гэта любапытна, яны сталі яго прасіць:

— Пажалуста, пакажыце!

Ён сейчас як плёснуў рукамі — нет нічога, стаяць на чыстым полі. Да.

— Ну,— гаворыць,— Ніто, выстрай узнова, папотчуем гэтых гасцей!

Ён сейчас выстраіў, як быў кабачок, так і ёс[ц]ь. Сталі купцы прасіць гэтага егара, каб ён прадаў гэтага Ніто ім:

— Мы ездзім па дарогам, нам дужа гэта нада,— не нада сабе пішчы браць. А мы табе дадзім вешч такую, што ты можаш быць памешчыкам.

Тады гэты Ніто таўкаіць яго і гаворыць:

— Мяняйся, толькі вёрст у пяці ілі болі адышоўшы, памяні мяне, скажы: «А йдзе мой Ніто?», то я буду з табою. А еслі ты не памянеш, то я буду із імі!

А ў іх была такая медная трубачка і малаточак. І як первы раз стукнеш — адзін салдат выскачыць ва ўсёй паходнай муніцы, а другі раз — два, і так усё ўдвоя пойдзіць. Ну, яны памяняліся, распрашчаліся і пайшлі: тыя сваёй дарогай, а ён сваёй. Адышоўшы ён вёрст пяць ілі большы, тады сейчас уздумаў:

— Ах,— гаворыць,— а йдзе ж мой Ніто?

Ён атвячаіць:

— Я здзесь!

Ну, сейчас яўляецца яму тая лягушка, што яго вазіла, гаворыць:

— Што ты так медленна ідзеш? Заўтра памешчык на тваёй жане будзіць жаніцца!

Тады ён атвячаіць:

— Ну, пушчай жэніцца!

А яна атвячаіць:

— Нет, садзісь на мяне палехчы і дзяржысь пакрэпчы.

Ён сейчас уссеў, яна паташчыла яго. У вадзін час даставіла ў яго дом.

— Ну, цяпер,— гаворыць,— ступай, нясі пану Ніто!

Сейчас яўляецца ён к пану. А жана яго ўсё ўрэмя там. Сейчас далажылі памешчыку, што прыйшоў егар. Ён сейчас выходзіць к яму і спрашыць:

— Ну што, прыставіў ні то, ні сё?

А ён атвячаіць:

— Прыставіў! Пазвольце,— гаворыць,— каб Ніто пастроіў кабачок, пус[ц]ь,— гаворыць,— тут пап'юць, пагуляюць!

Ён гаворыць:

— Можаш, можаш! Пускай выстраіць!

Ён сейчас, выйшаўшы на крыльцо, гаворыць:

— Ніто! Выстрай-ка здзесь кабачок, пус[ц]ь тут пап'юць, пагуляюць!

Ён сейчас выстраіў кабачок. Ну, началі піць, гуляць — шум такі, драка, крык! Нязвесна адкуль набралася столькі якога народу. Тада пан слухаў гэта, слухаў ды гаворыць:

— Убірай ты гэта сваё Ніто к чорту! І бяры жану сваю і адпраўляйся, штоб я цябе болі не відзеў!

Ну, ён забраўся і пайшоў у свой дом. Назаўтра, напіўшыся чаю, паснедалі, і ён лёг аддыхаць. І ўздумаў на гэту вешч, што далі яму купцы.

— Дай,— гаворыць,— узнаю: праўда гэта, што яны гаварылі, ілі нет!

Тада ён лежачы стукнуў гэтым малаточкам у трубачку, у канец,— так выскачыў салдат ва ўсёй паходнай амуніцы. Тада ён дальшы стукыіць — усё ўдвая большыіць. І настукаў, што войска заняло ўвесь плац, нейдзі ўжо і памясціцца. Ён устаў, выйшаў, пасматрэў, тады пішыць запіску памешчыку: «Заўтра выхадзіце на плац, адкрываецца вайна!» Ён салдатам атаслаў гэту запіску. Тада пан гэту запіску прачытаў і сейчас трэбуіць дварэцкага, аддаець яму прыказ:

— Заўтра ў дзевяць часоў вутра пусць разаб'ець егарскі дом.

Ён думаў, што ён толькі дом разаб'ець, і ўсё. Выязджаіць дворны на плац. Смотрыць у пазорную трубу, відзіць: на плацу стаяць войска, як цёмная туча,— не відаць за войскам нічога, і пушкі наведзены. Гэты, нічога не думаўшы, абраціўся апяць к пану, атвячаіць яму:

— Нет, паночак, звольце пасматрэць у пазорную трубу — там войска выстраена, як цёмная туча, пушкі наведзены.

Пан, доўга не думаўшы, выйшаў на балхон, смотрыць у пазорную трубу, відзіць — тут войска несчыслённая сіла. Сейчас аддаў прыказ біць трывогу. Ударылі трывогу, сабраліся ўсе, ну й адкрылі агонь. Ён [егар] як ударыў з пушак, дак усё яго пабіў на мак. Сам астаўся панам на том месце.

## 3. ІВАН ПРАКРАСНЫ І КНЯЗЬ ЛАДЫМЯР

Жыў-быў сабе Іван Пракрасны, сірата няшчасны і служыў ён па князям, па панам і па ўсім багатырам; не імеў ён сабе ні плацця цветнага, ні слова добрага. Наняўся ён к князу Ладымяру, Кіеўскаму садзяржацелю, многамілаcліваму. Праслужыў ён у князя тры года — тожа не імеў ні плацця цветнага, ні слова добрага. Даждалі празніка светлага васкрасення. Князь Ладымяр стаў сваіх прыслуг суражаць, каторыя былі ў яго. Быў у яго Алёшка — лёгак на язык, сладак на слова. Князь Ладымяр спрошуець у Алёшкі:

— Ніхто на нас не абіжаецца — ні адна душа?

— Есць у нас Іван Пракрасны, сірата няшчасны,— той абіжаецца.

Прызваў князь Ладымяр к сабе Івана, даець яму куні нечыняны і шуба няшытая:

— Вот табе куні нечыняны і шуба няшытая,— штоб гэтыя куні пачыніў і сабе шубу пашыў і штоб ты са мною на завутрань паспеў.

Палучыў Іван Пракрасны, сірата няшчасны, горка заплакаў. Пайшоў ён і к рацэ Дняпру і думае сам сябе пагубіць. Яўляецца к яму баба, як сянная капа:

— Аб чом ты, Іван Пракрасны, сірата няшчасны, журышся? Я твайму гору памагу: будзеш мяне маткай зваць?

— Буду.

— Садзісь на мяне.

Баба старая перавязла Івана на той бераг ракі. Там стаіць дом — ні ўздумаць, ні ўзгадаць, толька пяром напісаць. Прыносе баба к варотам, бразнула ў кальцо. Выскакуе і к ім дзевушка, Алёна Сівалобаўна.

— Вот табе друг! Будзеш ты яго сваім мужам называць?

— Буду!

— Вот жа ты яму куні пачыні, шубу пашы[й] і выправі з князем Ладымярам на завутрань.

— Лажысь, друг мой, Іван Пракрасны, спаць,— гаворыць Алёна Сівалобаўна, а сама выйшла на крыльцо, крыкнула багатырскім голасам. Ідуць к ёй усе яе слугі.

— Аб чом ты нас спрашуеш?

— А вот наце, штоб вы куні пачынілі і шубу сей час жа пашылі.

Алёна Сівалобаўна стала Івана будзіць:— Уставай, мой друг! Вот шуба гатова — на завутрань звоняць.

Іван Пракрасны, сірата няшчасны, надзеў шубу тую. Тады Алёна даець яму тры яечка:

— Адным ты яечкам князя Ладымяра пахрыстосуй, другім папа, а трэцяе вязі ў двор.

Пасля завутрані Алёшка — лёгак на язык, сладак на слова і кажа Івану:

— Пахрыстосуй, брат, і мяне.

Пахрыстосаваў Іван і яго.

Прыязджае Іван у дом, Алёна гавора яму:

— Пахрыстосуй і мяне!

— Я,— гаворыць Іван,— Алёшку пахрыстосаваў.

— Ты дурак, хам! Сабе безгалоўе палучыш.

Князь Ладымяр сабіраў багатых і ўбогіх на абед. Ён спрашуваў у багатых.

— Хваліцесь багацтвам? Буду за багацтва хваліць, а ўбогіх надараць.

Іван Пракрасны сядзіць, нічога не атвячаець. Алёшка — лёгак на язык, сладак на слова, запышэў і гаворыць:

— Іван сабе жану нажыў, краша ў свеце нет.

Ладымяр на гэта і кажа:

— Паслаць яго к Воўку Мінчыгрэю за самаграйнымі гуслямі. Мінчыгрэй яго істрабіць, а жана яго ў нас астанецца.

Напісалі пісьмо і паслалі Івана к Воўку Мінчыгрэю і сказалі яму:

— Еслі ты не прыставіш нам самаграйных гусель, то табе плаха і меч і галаву з плеч.

Палучыў тое пісьмо Іван Пракрасны, сірата няшчасны, заплакаў. Прыходзе ён у дом Алёны Сівалобаўны. Узнаў аб гэтым, яна гавора:

— Я табе гаварыла, што будзець табе безгалоўе. Ну, на табе шырышку, рубашку і порткі. Кагда ж табе будзець прытуга, успамяні мяне тры разы.

Прыехаўшы к Воўку Мінчыгрэю, Іван падаў яму пісьмо. Воўк Мінчыгрэй прачытаў пісьмо, гавора:

— У мяне нет гатовых, нада каваць, а табе, Іван Пракрасны, дуць не аддыхаючы трое сутак.

Іван Пракрасны за трое сутак тры раза аддыхаў, а Воўк Мінчыгрэй на яго сільна асярчаў і хацеў з'есць. Іван Пракрасны папрасіў у Воўка Мінчыгрэя сабе баню, штоб на смерць памыцца. Памыўшысь, ён стаў рубашку надзяваць і Алёну Сівалобаўну памінаць:

— Спасіба, Алёна Сівалобаўна, што ты па смерць маю рубашачку дала.

Воўк Мінчыгрэй спрошуе ў яго:

— А што табе Алёна Сівалобаўна?

— Жана мне,— кажа Іван.

— Чаму ж ты мне раньша гэтага не сказаў? Яна сястра мне. У мяне есць гуслі гатовыя.

Воўк Мінчыгрэй даў Івану гуслі. Ён іх прывёз і аддаў князю Лядымяру. Чэраз Алёну Сівалобаўну астаўся жыў.

І цяпер яны жывуць, мёд-віно п'юць. І ■ там быў, мёд-віно піў, па вусам цякло, а ў рот не папала.

## 4. ПРЫГАЖУНЯ-ЖОНКА

Служыў так сабе чалавек у аднаго багатага гаспадара, служыў ён з малку дзён і служыў шчыра. Быў ён чалавек верны, да работы ўлеглы, і гаспадар той шанаваў яго за працавітасць. Вядома, гадуючыся ў людзей, нямнога ўбачыш, пачуеш, нямногаму выўчышся; так і той чалавек,— як дзень дык ноч у працы, у рабоце — нямнога бачыў, нямнога чуў. Дажыўся ён да сталых лет, а свету не бачыў. І захацелася яму паглядзець, як людзі жывуць. І стаў ён прасіцца ў гаспадара ў свет:

— Пусці ды пусці — хоць пагляджу на людзей, а то век у цябе зжыў — у лесе, на засценку — што дзеецца на свеце, не знаю.

Нечага рабіць — пусціў яго той гаспадар.

— Задурыў ты,— кажа,— пад старасць: нет ведама чаго табе захацелася — свету пабачыць! Усюды людзі, як людзі. Ты думаеш, што дзе-небудзь ёс[ц]ь на кары каша? Нідзе няма. Вот сядзеў бы на адном месце, цяплей бы было. На адном месце лежучы і камень абрастае...

І многа чаго яму гаварыў, угаварываў свайго парабка астацца. Але той як упёрся — пайду ды пайду — хоць ты што хочаш яму дзелай. Мусіў пусціць яго гаспадар.

— Ну,— кажа,— нечага рабіць — мушу пусціць цябе. Жаль мне цябе — нагаруешся ты ў людзей: чужая старана — не родная матка. Ідзі сабе. Чалавек ты справядлівы, служыў ты мне верна,— вот табе за тваю працу.

І даў яму мяшочак чырвонцаў.

— Нашто гэта мне? — кажа найміт, бо не знаў, што можна

з грашамі рабіць і на што яны патрэбны. Не хацеў браць. Але гаспадар сілком залажыў іх яму за пазуху і кажа:

— Згодзіцца ў дарозе; гэта грошы, а без грошы цяперашнім светам нікуды не патыкайся.

Сабраўся той парабак і пайшоў свету глядзець.

Ішоў, ішоў ён, куды вочы глядзяць, дайшоў да мястэчка. Цяжка яму нясці тое золата за пазухай. Увайшоў ён у крамку, выняў мяшэчак з золатам і кажа таргоўцы:

— Вазьмі сабе, што тут ёс[ц]ь, а мне насып чаго-небудзь лягчэйшага.

Тая глянула — абрадавалася, і з радасці не ведае, чаго яму насыпаць. Папаўся пад рукі ладан — насыпала яму ладану. Пайшоў той чалавек далей.

Настала ноч, а кругом лес, недзе пераначаваць. Напаткаў ён кала дарогі ізруб. «Тут заначую»,— думае сабе. Нацягаў у ізруб хворасту, разлажыў агонь. Было ў яго сала і хлеб. Стаў ён смажыць сала на ражончыку і есці з хлебам. Павячэраў і заснуў у том ізрубе. Агня не патушыў, каб цяплей было спаць і каб камары не кусалі. Аж так золакам чуіць — нешта жарка стала. Прачхнуўся — гарыць ізруб. Што ён ні рабіў, каб патушыць яго, але дзе агонь ты без вады патушыш?

Ледзь-няледзь сам жывы выскачыў. Гарыць ізруб. Плачыць той парабак:

— Божа ты, мой божа! Нарабіў я чалавеку шкоды, прапала яго праца... Няхай жа,— кажа,— і мая так прападае.

З гэтым словам выхваціў з-за пазухі мяшэчак з ладанам і кінуў яго ў агонь. Пайшоў пах ад ладану ўгору, дайшоў да неба. Пачуў бог той пах і пасылае анёла запытацца, чаго гэты чалавек патрабуе. Зляцеў анёл і пытае:

— Чаго табе трэба, чалавеча? Чаго ты хочаш?

Падумаў, падумаў той чалавек — не ведае, чаго яму прасіць, чаго яму трэба? Далей кажа:

— Дай ты мне жонку, калі ты такі добры; бо як я бабыль,— не хочыць за мяне ісці ні адна дзеўка. І калі я, бывала, стану жартаваць з дзяўчатамі на йгрышчы чы то на нашлезе, дык толькі, бывала, штурхаюцца. А мне б жонка знадабілася. Ды яно, праўду казаўшы, кепска чалавеку быць без жонкі.

Анёл выслухаў яго, паляцеў да бога. Бог і кажа:

— Праўда яго — кепска чалавеку быць без жонкі. Чалавек ён шчыры — трэба яму даць жонку.

Потым кажа анёлу:

— Схадзі ты к гэтаму чалавеку і скажы яму: няхай ён

ідзець прама па дарозе на ўсход сонца, дойдзе ён да росстанек, там будзе стаяць крыж, а пад крыжам убачыць вяроўку. Няхай таргане тройчы за вяроўку і чакае: будзе яму жонка.

Анёл паляцеў і так сказаў беднаму парабку. Скора паказалася краснае соўнійка, асвяціла і абагрэла ўсю зямлю. Падняліся пташкі, сталі шчабятаць, і наш парабак пайшоў на ўсход сонца шукаць крыжовай дарогі. Чы доўга, чы не ён ішоў, толькі знайшоў крыжовую дарогу: стаіць крыж і вяроўка пры ём вісіць. Тарганув наш бедны парабак за вяроўку: раз, другі раз і трэці, тарганув і чакае. Прайшоў такі ладны час — нічога няма. «Абманіў,— думае сабе,— паганы! А казаў, як таргенеш — будзе жонка. Дзе ж яна?» Хацеў ужо ісці проч, аж чуе — нешта зашумела. Глянуў уверх — ляціць нешта з неба, ляціць, аж гудзіць. Потым шлёп! аб зямлю:

— Я тут! — кажа.

Глянуў той парабак — ляжыць рыбіна, бальшушчая рыбіна.

— Вот табе і маеш,— кажа ён,— вот табе і жонка! Як жа я буду жыць з рыбінай? Што я, вокунь які-небудзь, ці што?

Тым часам тая рыбіна троп-троп! хвастом трэйчы страпянулася, і выйшла з яе паненка, ды такая прыгожая, як маляваная. Глянуў на яе парабак — і рот разявіў; глядзіць — слова вымавіць не можа, як быццам яму zацяло. Глядзіць — ні рукой, ні нагой не кране, шавяльнуцца не можа — зачараваны ды й годзе, так ён задзівіўся. І было чаго! бо дужа ж яна прыгожая. А паненка стаіць перад ім, галоўку на бок скланіла, ручкі на жываце зложыла, хустачку ў руках трымае — чысты анёлак.

І кажа паненка:

— Будзь здароў, мой муж багданы!

А ён маўчыць — сваім вушам не верыць.

— Будзь здароў, мой муж! — кажа яна другі раз.

А ён маўчыць — сказаць слова не смеіць.

— Будзь здароў, мой муж! Што ж ты маўчыш? — кажа йна ў трэці раз.

Тады толькі ён асмеліўся:

— Здароў, здароў! — кажа.

— Я твая жонка,— кажа яна. — Чы рад жа ты мне?

Тут яму-ткі мова вярнулася.

— А мая ж ты паненачка! Чы можа ж гэта быць? Не, пэўна, паненка, з мяне насмяхаешся? Ты такая маладзенькая, прыгожая, а я, вядома, мужык.

— Не бойся,— кажа йна,— і мужык чалавек. У бога ўсе людзі роўны...

— Баюся, як ты са мной будзеш жыць — я табе не роўня, і, калі праўду гаварыць, стар я для цябе.

— Не бойся,— кажу табе... Пажывём — паладзім. А цяпер трэба падумаць, дзе нам ночку начаваць: пойдзем сабе хатку шукаць.

І пайшлі яны. Прыйшлі ў сяло. Ідуць па сялу, пытаюць, чы не пусціць хто жыць к сабе. Дзівяцца людзі: адкуль гэта паненка ўзялася? І з мужыком ходзіць і кажа, што гэта муж яе. Баяліся пусціць. Але-такі зміласаўся адзін гаспадар, пусціў іх у лазеньку жыць. Увайшлі яны ў лазеньку — чорна кругом, гразна, вады наліта. На што ўжо парабак — ка ўсяму прывык, і ён, глянуўшы, заплакаў: як гэта йна, паненка тая, такая кволая, як яна тут будзе жыць? Ані сесці дзе, і ні легчы, ані есці зварыць. Падумаў ён гэта і заплакаў.

— Чаго ты плачаш? — пытае яна ў яго.

— Я плачу, што на гора цябе бог паслаў ка мне. Няма табе ніякага прытулку. Як ты будзеш жыць тут?

— Не бойся,— кажа,— пражывём.

Стала яна ў парозе, трэйчы махнула хустачкай, што была ў яе ў руках, і лазенька як азалацела: і стол з'явіўся, і лаўкі, і пасцель, і яда — усё, што трэба. Узноў парабак той задзівіўся — рот разінуў. Цудоўная, думае сабе, асоба. І сталі яны жыць. Але нядоўга-такі нажыліся. Бачылі людзі, што ў мужыка такая жонка прыгожая, захацелі выслужыцца — пайшлі да пана. Так і так, кажуць, пане, з'явіўся тут мужык з паненкай, жывуць як муж з жонкай. Куды яму, мужыку, такая жонка? Яна настаяшчая паненка, маладая, прыгожая, а ён, вядома, мужык. Куды йна яму? Вот каб пану...

А пан быў рабы, непрыгожы, але ж надта ласы да дзевак. Пад вечар пайшоў ён у сяло, быццам на прахоцку, а сам падышоў к лазенцы, паглядзеў у шчэлачку, бачыць — і праўда — паненка дужа прыгожая, а мужык саўсім негалюзны. Увайшоў у лазеньку.

— Што вы за людзі? — пытае. — Адкуль вы?

— Ён,— кажа яму паненка, — мой муж багданы, а я яго жонка.

— Вот як... муж багданы... Знаем мы такія штукі... Гавары ты, мужык, адкуль узяў такую паненку? — крыкнуў пан.

— Бог даў, паночак! — кажа парабак.

— Вы, пэўна, уцеклыя,— кажа пан.

І прыказаў іх адвясці ў двор. Павялі іх, бедных. Плачыць мужык, а паненка яго ўцяшае:

— Не плач, нічога ён нам не зробіць... Пацерпім, бо без гора дабра не будзе.

Пасадзілі іх у дварэ ў хатку, пільнуюць, каб не ўцяклі. Пан мужа муштруіць, а да жонкі дабіраецца. Але не на такую напаў, голымі рукамі не возьмеш.

— Я,— кажа,— мужняя жана, хоць ты,— кажа,— рэж мяне, а на грэх не змусціш.

І задумаў пан мужыка з свету збавіць, каб тады лягчэй было да жонкі дабрацца. Загадаў пан тому парабку задачу:

— Дабудзь мне,— кажа,— такога сабачку, што як у хвосцік зайграеш, каб усякі пайшоў скакаць. Пакуль,— кажа,— не дабудзеш, дамой не варочайся, бо засяку цябе.

Прыйшоў парабак да жонкі, прыйшоў і плачыць.

— Чаго ты плачаш? — пытае йна ў яго.

— Так і так,— кажа,— загадаў мне пан задачу такую і такую. Пайсці такога сабачку шукаць, значыцца к табе не вярнуцца. Дзе я яго вазьму такога?

— Не плач,— кажа яго жонка,— я табе дараджу, найдзеш сабачку такога і дамоў вернешся, цэл будзеш, а пан мне нічога не зробіць. Лажыся цяпер спаць, а заўтра сабірайся ў дарогу.

Павячэралі яны, ляглі спаць, выспаліся. На заўтрашні дзень жонка і кажыць свайму мужу:

— Вот табе мая хустачка і вот табе мой пярсцёнак, пярсцёнак надзень на палец, хустачку трымай у руках. Ідзі той дарогай, што сюды прыйшоў, падыдзі к тому крыжу, дзе мяне дастаў, таргані за тую вяроўку, што там вісіць, таргані тройчы. Спусціцца па вяроўцы лубка, садзіся ў гэтую лубку, таргані потым тройчы, і ты апынешся на тым свеце. Будзеш ты пасярэдзіне круга — кругом там агонь гарыць, грэшнікі смажуцца — гэта пекла. Ідзі прама на агонь. Куды ні пойдзеш, к агню прыдзеш. Ты тады падойдзеш к агню, хустачкай махні — агонь перад табой расступіцца, ты ідзі далей. Жарка табе будзець — хустачкай абцірайся. Перайдзеш пекла — будзе такое поле, роўнае-роўнае, шырокае-шырокае. Пойдзеш па полю, будзеш людзей спатыкаць — ні з кім не гавары. Перайдзеш поле — кругом будзець сад, убачыш многа-многа варот, стукні ў вароты, выйдуць табе насустрэч мае сёстры. Ты ім скажаш: «Паслала мяне к вам мая жонка, каб вы далі мне такога сабачку, што калі ў хвосцік зайграеш, усякі скакаць будзе». Калі яны запытаюць прызнакі, пакажаш ім мой пярсцёнак. Яны табеададуць сабачку, схавай яго за пазуху і той дарогай і варочайся. Прыйдзеш к

лубцы, сядзь у лубку і спускайся на зямлю. Ну, будзь здароў і ідзі з богам.

Папрашчаўся муж з жонкай і пайшоў даставаць таго штучнага сабачку. Зрабіў так, як жонка яму расказала, падняўся на той свет, агляпуўся — стаіць пасярэдзіне круга, па краях смаляныя рэкі абцякаюць і агнём гарацъ. Высока-высока полымя ўздымаецца. Куды ні пайдзі, к пеклу прыйдзеш. Як стаяў, так і пайшоў, куды вочы глядзяць. Што бліжней к пеклу, то жарчэй становіцца. Абатрэцца хустачкай — холад чуе. У пекле голас, крык, енк, як бура якая выіць. Махнуў ён перад сабой хустачкай, агонь расступіўся, па баках стаіць, як лес, сценамі. Пайшоў наш парабак па гэтай дарозе, абціраючыся хустачкай, каб не было жарка. Выйшаў на поле — і поле ідзе кругом, кала агня. Шырокае поле. Людзі па ём сланяюцца, маўчаць. І мужык ім нічога не сказаў — ні худога, ні добрага. Пайшоў далей. Падышоў-такі і к саду тому. Ідзець, сад кругом кала поля — і ўсё вароты — вароты і не злічыць, а ў садзе пяюць, іграюць, як на вяселлі. Падышоў гэты парабак к адным варотам, стукнуў у вароты, аж зараз яны і расчыніліся. І ўбачыў ён многа-многа паненак, і ўсе такія прыгожыя, як яго жонка.

— Здароў вам! — кажа ён ім. — Прыслала мяне жонка багданая, каб вы далі таго сабачку, што ў хвосцік як зайграеш, то кажны заскачыць. А вот вам і прызна́ка, што я не маню.

І паказаў ім пярсцёнак. Пабегла адна з паненак, скора так прынясла сабачку, падала яму.

— Кланяйся,— кажа,— сястрэ.

І вароты зачынілі. Сеў кала варот наш мужык, адпачнуў трохі. Але думае сабе, трэба к жонцы паспяшыць. І як прыйшоў, так і назад пайшоў. Так і на зямлю вярнуўся. Усеўся на росстаньках пад крыжам, сядзіць; дай, думае, пагляджу на свайго цудоўнага сабачку. Выняў яго з-за пазухі, паглядзеў-паглядзеў,— дай, думае, зайграю, як то ён іграе. А то можа мяне ашукалі, і ён не такі цудоўны, як пан трэбывае. Тады хоць дамоў не варочайся.

Сталі так па'язджаць нейкія людзі, і зайграў той парабак. Толькі зайграў ён — як пайшлі тыя людзі скакаць; скачуць, падпяваюць:

Ой, не сам я трасуся,—
Мяне чэрці трасуць;
Маладыя чарцяняткі
Падгоцківаюць. Ух — я! Ух — я!

Пяюць, скачуць — астанавіцца не могуць. Скачуць людзі, скачуць коні іх. Пастух паблізасці пасціў статак. Пачулі музыку, і яны ў пляс пусціліся: і пастух, і свінні, і авечкі. І так яны скакалі, покуль парабак не перастаў іграць. Перастаў ён, і яны сталі. Замарыліся, а на душы весела. А гэта былі купцы. Падзякавалі яны яму за музыку і далі яму гасцінца хустку. Рад ён: ёс[ц]ь што бабе падараваць.

Пайшоў дамоў. Зайшоў упярод к сваёй жонцы. Паздароўкаўся з ёй, хустку вынімае з-за пазухі:

— Я табе, мая жонушка, і гасцінец прынёс. Добрых людзей бог паслаў, купцоў. Я ім пайграў, а яны мне хустку далі. Вот табе яна. Глянь, якая прыгожая!

— Дзякуй табе, што ты на мяне не забыўся. А пан і не чакаў, што ты вернешся. Паабедай ты і ідзі да яго.

Пайшоў ён да пана. Пан задзівіўся.

— Што ты вярнуўся? А дзе ж твой сабачка?

— Прынёс, пане,— і вынімае яго з-за пазухі.

— Во як... прынёс-такі,— кажа пан.— Ну-тка зайграй, пагглядзім, чы такая?

Зайграў парабак, і пайшоў пан скакаць: скачыць, прыпяваіць:

Ой, не сам я трасуся,—
Мяне чэрці трасуць;
Маладыя чарцяняткі
Падгоцківаюць. Ух — я! Ух — я!

Хто ўвойдзіць з дваровых — і яны ў пляс пускаюцца. Змарыў ён іх саўсім; другія на зямлю пападалі, і то не ўнімаюцца: нагамі дрыгаюць. Датуль скакалі, дакуль іграў парабак. Прачухаўся трохі пан, адпачнуў:

— Падай,— кажа,— сабачку!

Парабак падаў. Тады пан прыказаў парабка ў пограб заперці, а тым часам думаў яго жонку прысіліць. Але надарэмня турбаваўся: к ёй і прыступу нет. Ён ужо ёй і жаніцца дакляраваў.

— Паняй,— кажа,— будзеш.

А яна яму так кажыць:

— Як я за цябе пайду, калі ты такі стары, рабы, непрыгожы, а я такая маладая. Калі ты ўжо хочаш мяне за жонку мець, дык памаладзей трохі, пахарашэй.

— Як жа я памаладзею, на гэта спосаба няма?

— Ёс[ц]ь спосаб, я яго знаю,— кажа так жонка багданая. Хто ж не хочыць быць маладым? І пан захацеў. Сказала

яму тады жонка парабка: паставіць кацёл сярод двара, разлажыць пад катлом агонь і гатаваць ваду.

— Лезь,— кажа йна пану,— у кацёл, акуніся тройчы і малады будзеш.

— Што ты,— кажа ёй пан,— зварыць мяне хочаш? Як раз палезу... убачыш... Ты ж свайго мужа, хама, пашлі туды, калі ты такая разумная. А я пасля...

— Няхай лезе муж, калі ты не хочаш быць маладым. Сам будзеш жалкаваць.

І пасылае пан за мужам яе. Прывялі яго з пограба. Стаіць ён, трасецца, не ведае, што з ім будуць рабіць.

— Лезь у кацёл,— кажа яму пан,— малады будзеш. Жонка твая для мяне прыгатавала гэтую лазню. Папробуй-ка ты ўпярод.

Заплакаў парабак.

— Лезь, не бойся,— кажа яму жонка, — будзеш цэл.

Дала яна яму ў руку свой пярсцёнак; кінуўся ён у кацёл, тры разы перавярнуўся там і выскачыў такім маладым, што не налюбуешся. Пана аж зайздрасць узяла. Кінуўся ён у кацёл — і вылезці не можа. Так і зварыўся. Мяса яго сабакам выкінулі.

## 5. СІРАТА-ІВАН, ДЗЯВІЦА-ЧАРАЎНІЦА І ПАН

Жыў сабе дзед ды баба, быў у іх сын Іван. Дзед і баба ў скорасці памёрлі, адзін толькі Іван застаўся беднаю сірацінаю, нечага было яму нават і есці.

Пайшоў Іванька ў свет, куды вочы глядзяць. Глядзь, аж насустрэчу яму ідзець дужа красівая дзеўка і пытаецца яго:

— Куды ты ідзеш, Іванушка-сірата? Пойдзем на тваю бацькаўшчыну, будзем з табою жыць да пажываць.

Так яны і зрабілі. Жылі яны дзень, другі. Уведаў пан, што ў Івана красівая дужа жонка. Пасылае ён к Івану свайго парабка.

— Ідзі,— гавора пан, — к Івану і скажы, штоб ён прыйшоў ка мне.

Прыйшоў Іван і к пану. Пан ды і гавора яму:

— Што ж ты, Іван, забагацеў? Не хочаш і ка мне прыйці?

— Не можна было, пане, некалі было.

Пан, задумаўшы Івана страціць, пасылае яго на граніцу ў

лес ля ахвоты на дзікага вала; жонку яго ўзяць думаў сабе, а сваю паню задавіць. Прыйшоў Іван дамоў ад пана ды й плача. А жонка пытаецца:

— Чаго ты, Іванюш, плачаш?

А ён кажа:

— Пасылае мяне пан на граніцу на дзікага вала. Я ведаю, што мне будзе там немінучая смерць.

— Не плач, мой дарагой Іванюш. На табе клубочак. Куды будзе клубочак каціцца, туды і ты ідзі!

Іван і пайшоў. Каціцца клубочак, а Іван ідзе ўслед за ім. Прыкаціўся клубочак на граніцу к мядзведзю. Падышоў Іван к мядзведзю і ўскінуў на яго муздэчку. Мядзведзь устаў і пайшоў, а Іван за ім услед. Прыйшоў Іван і к пану і пытаецца:

— Дзе мне падзець вала?

Пан прыказаў упусціць і ■ каровам. Упусціў Іван вала і к каровам у хлеў і пайшоў дамоў.

Назаўтра пан устаў рана і пайшоў у хлеў — ажны ўсе каровы ляжаць нежывыя; адзін мядзведзь стаіць. Як толькі пан а[д]чыніў вароты, мядзведзь і ўцёк праз вароты ў лес. На другі дзень ізноў пан пасылае парабка к Івану:

— Ідзі, скажы, штоб ён сайчас прыйшоў ка мне.

Прыйшоў парабак і сказаў Івану адправіцца к пану.

— Што ты, Іван, забагацеў — не хочаш ка мне прыйці?

— А што ж, пан? Усё некалі ды некалі.

— Ідзі ты, Іване,— кажаць пан,— і к гуслям і скажы, штоб яны далі гуслю.

Прыходзе Іван дамоў і плача, а жонка пытаецца:

— Чаго ты, Іван, так ізбедзіўся?

— А вот пасылае мяне пан і к гуслям па гуслю.

— Не плач, Іванюш! На табе клубочак; куды ён будзе каціцца, туды і ты ідзі за ім.

Каціцца клубочак, а Іван ідзе ўслед; прыкаціўся клубочак і к гуслям і стаў. Падыходзе Іван і к гуслям і просе аддаць яму адну гуслю.

— За што мы табе аддадзім гуслю? — гавораць тыя-другія гуслі.

І сталі яны біцца. Біліся, біліся, а потым Іван просіцца аддыхнуць. Сеў Іван, а потым дастаў платочак і стаў ім уціраццa. А гуслі ўвазналі гэты платочак і пытаюцца ў Івана:

— Дзе ты гэты платочак узяў? Гэта нашай сястры платочак.

А Іван атвячае, што яму жонка дала.

— А-а! Гэта твая жонка ёсць наша сястра. Ну, так цяпер дадзім табе гуслю.

Ідзе Іван дамоў, ажно сустрэчу яму якійся-то пан.

— Здрасцві, Іван бяздомны! Аддай мне гэтую гуслю, а за яе я табе дам кіёчак. На каго будзеш сярдзіт, так і скажаш кіёчку: «Эх, кіёчак, шахні, махні і ўбі!»

Аддаў Іван пану гуслю і пайшоў далей. Ідзець Іван без гуслі, не весел.

— Ах, кіёчак! Шахні, махні, таго пана дагані, забі і гуслю прынясі!

Кіёчак наш шахнуў, махнуў, пана дагнаў, забіў і гуслю прынёс.

Ідзе Іван, іграе і скача. Едзе другі пан.

— Здрасцві, Іван бяздомны! Аддай мне гэтую гуслю! На табе сякерку. Ты гэтай сякеркай што захочаш, тое і зробіш.

Аддаў Іван пану гуслю, узяўшы ў яго сякерку, і пайшоў не весел.

Потым гавора свайму кіёчку:

— Гэх, кіёчак мой! Шахні, махні, таго пана дагані, забі і гуслю вазьмі!

Кіёчак так і зрабіў. Пайшоў Іван дамоў і прынёс пану гуслю.

— І сваю паню задавілі, і Івана не страцілі,— гавора пан свайму парабку.

На другі дзень пасылае пан парабка па Івана. Прыходзе парабак к Івану і кажа:

— Ідзі, Іван, і к пану!

— Нечага рабіць, трэба іці,— падумаў сабе Іван.

Прыходзе Іван к пану і пытаецца, што пан кажа яму рабіць.

— Ідзі, Іван,— кажа пан,— на той свет і папытайся на тым свеце ў бацькі, дзе ён грошы схаваў?

Прыходзе Іван дамоў і плача, а жонка пытаецца:

— Чаго ты, Іван, плачаш?

— А вот пасылае мяне пан на тэй свет.

— Нічога, не лякайсь, Іванюш. На табе клубочак, ідзі з парабкам; куды клубочак будзе каціцца, туды і ты ідзі.

Іван узяў клубочак і пайшоў з парабкам. Коціцца клубочак, а Іван з парабкам услед ідуць.

Ідуць, ідуць — ажны адзін чалавек плот падпірае. Зайдзе са аднаго боку, дык ён валіцца на другі, і ніколі не падпёр.

— Эй, чалавеча! — закрычаў яму Іван. — Я падапру з энтага боку, а ты з другога, і будзе стаяць.

— Ідзі, куды ідзёш — табе тваё будзе,— гавора чалавек.

Ідуць яны дальш — ажны птушка з птушкай б'юцца. Парабак і кажа на адну птушку:

— Я б адтуль цяпнуў, адтуль махнуў — і забіў бы яе.

— Ідзі, куды ідзёш — тваё табе будзе.

Ідуць яны далі — ажны маладзіца па малацэ плавае і ніколі на бераг не выплыве. Парабак удруг адзываецца да яе:

— Эй, баба! Я б адтуль шахнуў, адтуль махнуў!

А тая маладзіца кажа ў атвет парабку:

— Ідзі, куды ідзёш, тваё табе будзе.

Пайшлі Іван з парабкам на той свет. Бачаць: ажны на Іванавым бацьку смалу возяць.

— Хадзі, тата, з табою трошкі пагамонім! — гавора Іван і к бацьку.

— Ай, сынок, некалі!

— А вот у мяне гуляшчы чалавек ё.

Узялі яны парабка і запраглі смалу вазіць. А Іван з бацькам селі пагаварыць. Бацька і кажа:

— Адна скрыня грошай пад яслямі, а другая — дзе хамуты вешаюць.

Пасля гэтага Іван з парабкам пайшлі дамоў на свой белы свет. Глядзь — ажны маладзіца, тая самая, на малацэ плавае і абзываецца к ім:

— Вот я на тым свеце была ведзьмаю і адбірала ў кароў малако, дык мне на гэтым свеце малака — сколькі хочаш.

Ідуць ды й ідуць Іван з парабкам, бачаць — аж тыя самыя птушкі б'юцца. Адна птушка кажа:

— Вот я была на тым свеце чараўніцаю, і йна была чараўніца; ■ яе было счаравала, і йна мяне счаравала. Вот мы на гэтым свеце б'ёмся і ніяк не саб'ём адна другую.

Ідуць нашы таварышы далей — глядзяць: ажны той самы чалавек падпірае плот і кажа ім:

— Вот мне на тым свеце было не добра жыць, дык ■ прасіў бога, штоб памерці ды штоб на тым свеце хоць плот падпіраць. Памёр я і на гэтым свеце падпіраю плот.

Іван наш і з парабкам прыйшлі на гэты белы свет і адправіліcь проста к пану.

— Вот, пане, — гавора Іван,— адна скрыня грошай пад яслямі, а другая — дзе хамуты вісяць, і патом пайшоў Іван дамоў.

Пан пытаецца ў парабка, як бы Івана страціць.

— Я не ведаю, як вы яго страціце,— атвячае парабак.

— Ідзі-ка ты, мой верны слуга,— кажа пан,— пазагадуй, каб з кажнай хаты па тры гарцы смалы набралі.

Прынясли ўсе па тры гарцы смалы. Пан прыказаў парабку, каб ён наклаў у кацёл і растапіў яе, штоб аж закіпела, а потым паслаў за Іванам.

Як толькі явіўся Іван і к пану, пан аддае строгі прыказ лезці яму ў смалу, закіпеўшую ў катле.

Стаў Іван прасіцца ў пана, штоб пазволіў яму схадзіць дамоў. Прыходзіць Іван к жонцы і плача горкамі слязамі.

— Чаго ты, Іван, плачаш? — пытаецца жонка.

— Вот пан кажа лезці мне ў гарачую смалу,— атвячае Іван.

— Ну што ж, Іван? Пойдзем з табою разам.

Як прыйшлі Іван із жонкаю, так і ўскочылі абое ў смалу і сталі золатам. Стала пану завідна: ускочыў ён у кацёл і скіпеў у смале. Вот тагды Іван вылез із смалы з жонкаю, схавалі пана пад плотам, а сякерцы сказалі пастроіць дом. Сякерка пастроіла за суткі дом. Тагды Іван узяў тыя дзве скрыні грошай і жывуць сабе і цяпер з жонкаю ды пажываюць ды і дабра нажываюць.

## 6. ШКЛЯНЫЯ ГОРЫ

Жылі сабе так муж з жаною. То быў ён работнік, а яна яшчэ лучча работніца. То жа ж яна работніца сілная. Яна тут пакуль мужу аднясла абед, можа чалядка была — аднясла, статак трэба прагнаць да й капу трэба нажаць, а ў яе рабёначак быў маленькі ў люльцы, можа ён ужэ наўчыўся поўзаць.

Так яна ўзяла серп і сама пайшла жаць, на работу. От яна жаць дак жаць, жаць дак жаць, жаць дак жаць, жаць дак жаць, дзяцёнак не плача, а матка не знае гэтага, не дагадаецца. Датуль яна жала, пакуль у двор пара йці,— дзяцёнка і не глядзела. Ведама ж, дома статак трэба дагледзець. У капу склала, хваць тады за люльку — дзяцёнка няма ў люльцы. Цяпер яна там шукаць, шукаць, гукаць, гукаць — няма дзяцёнка. Што ні шукала, што ні гукала — няма дзяцёнка! Тады яна ўзяла пустую люльку і пайшла ў двор плачучы. А дзяцёнак тэй выпаўз з люлькі і папоўз, і папоўз — папоўз у лес. Напаў яго лясны хазяін і ўзяў яго з сабою і расціць яго. І паклаў яму імя Іван Знайдзён.

Ці многа, ці мала прайшло, узрасціў ён яго ўжэ і гаворыць яму:

— Ну, ідзі цяпер к свайму бацьку, к сваёй матцы!

Ён пайшоў. Пайшоў. Ішоў, ішоў — б'юцца тры ўюгі. Ён цяпер:

— Што вы, за што вы б'яцёсь?

— А вот за што,— гаворацъ,— найшлі мы,— гаворацъ,— тры вешчы: первая — кавёр-самалёт, другі — вірмяк-ненавідзец, трэці — кашалок дзенег. Дак вот мы не падзелім. Дак за гэта мы б'ёмся!

— О,— кажыцъ,— за гэта вы б'ецеся? От там гара вісокая, вісокая. Дак вы йдзіце на тую гару да станьце поплеч, да й бяжыце з гары. Каторая каторую ўжэ выперадзе, дак тая ўсё й возьме!

Яны ж пайшлі на тую гару, а ён за тыя вешчы, узяў ды й пайшоў — усе забраў! Не пайшоў жа в бацьку да к матцы, да пайшоў к тому лясному хазяіну, што яго расціў. Цяпер тэй хазяін:

— Што ты,— ка[ж]а,— вярнуўся?

— А што ж я вярнуўся: найшоў тры вешчы!

— Што за вешчы?

— А от,— гавора,— первы — кавёр-самалёт, другі — вірмяк-ненавідзец, трэці — кашалок дзенег!

— Ну, харашо! От жа я табе цяпер укажу нявесту!

Ну, расказаў яму прыметы.

— Будзеш ты іці — будзе ляцець тры галубкі. І сядуць яны кала мора, пойдуць мыцца-бяліцца кала мора — дзеўкі такія, што разлюбавацца. Дак яны памыюцца-пабелюцца, а ты як ладзься дак ладзься, як яны пойдуць мыцца-бяліцца, да адные плацце ўвалачы, адзяянне. Увалачэш ты плацце, тады вазьмі яе за правую руку і вядзі, і вядзі, і вядзі. І жэнішся ты з ёй, і якая табе жысць будзе красівая! Толькі не пі ты гарэлкі ад яе. А калі вып'еш гарэлкі ад яе, дак яна цябе кіне!

Ну, ён і навучыў яго гэтак. Ён і пайшоў. Іці дак іці, іці дак іці па тых прыметах, як ён яму ўказаў, і прыйшоў к мору. Найшоў бітыя прыметы, заліцаваў. Прыйшоў к мору і сеў на той прымеце. І бача — ляціць тры галубкі. Як ляцелі, дак і ўпалі кала мора, сталі разбірацца, сталі дзеўкамы; ляцелі галубкамы, а як разабраліс, сталі дзеўкамы, такімы зліпшнымы!

Вот ён тады як поўз дак поўз, по́паўзам, да й завалок адные адзяянне к сабе. Памыліс яны, пабяліліс, дак тыя надзеліс і паляцелі, а йна хваціласъ — нямаш яе адзяяння. Цяпер яна шукаць адзяяння. Яна й шукаць, яна й гукаць, яна й плакаць — няма адзяяння да й годзі! Цяпер стала гаварыць:

— Хто тут ёсць, хто з мяне насмяяўся? Ежалі стары, будзе бацюшка мой родны; ежалі сярэдні, будзе дзядзюшка мой родны; ежалі халасты — дак будзе мой муж верны!

Ну, ён атвясціў. Яна прыйшла к яму, бача, што маладзец відны.

— Ну, харашо,— гавора,— будзеш мой муж, а я твая жана — аддай маё адзяянне!

Аддаў жа ён адзяянне, яна надзелася, ён за правую руку і павёў. Як весць дак весць, і прыводзе яе к бацьку і к матцы.

Ну, цяпер ён жыве з ёй нядзелю, ілі дзве, ілі тры. Цяпер бацька гавора:

— Што, мой сынок, жаніць пара цябе!

— А ўжо ж,— кажа,— бацюшка, пара!

— Вот паеду ў сваты — і к тому, к тому к багачу, высватаю жану табе!

А ён гавора:

— Не, бацюшка, мяне з гэтай жані, што я прывёў!

А бацька гаворыць:

— Ах, мой сынок! Ты па свету хадзіў, да якую... злюбіў да й прывёў. Гэтакая з табой жыць не будзе!

Бацька ж зусім з ёй жаніць не хоча, а ён нуждае бацьку, што з гэтай жані да й годзі, што я прывёў. Ну, і жаніў. З гэтай жаніў, што прывёў. Скольки ж ён жыў з ёю,— дакуль водкі ад яе не піў, харашо было. А йна стала змушчаць яго:

— Якая,— кажа,— наша любоў, што ты ад мяне нічога не возьмеш, дак якая гэта любоў?

Стала змушчаць яго. Ну, і змусціла яго. Выпіў ён ад яе, колькі там выпіў, да выпіў з яе рук. Цяпер ён і заснуў. А яна цяпер надзела сваю [а]дзежу, кінула яго і паляцела. Толькі сказала:

— Ці ўбачымся, ці не ўбачымся — у Шкляных гарах!

Гэта ён ува сне, значыцца, бачыў. Ён уваснуў, дак скрозь сон быдта чуў. Вот ён цяпер прашнуўся, цап-цап — няма жаны. Ён прыходзе к бацьку:

— Няма,— ка[ж]а,— мае жаны, кінула мяне!

— А, мой сын! Ці я табе не казаў? Гэтакая валачашчая ў хазяйстве жыць не будзе!

— Я пайду яе, бацюшка, шукаць!

— Не, мой сын, не йдзі ты яе шукаць, я табе вазьму харошую, вот з багача з харошага.

— Не, бацюшка, пайду яе шукаць!

Ну, пайшоў. Іці дак іці, іці дак іці і зайшоў к тому к ляснему хазяіну, хто яго расціў. Цяпер тэй і гавора:

— А што,— гавора,— Іван Знайдзён: ці я не казаў табе, не пі гарэлкі ад жаны? А ты не паслухаў, вот яна цябе кінула.

А што б за жыццё табе было харошае! Што йна табе казала, як адходзіла?

— А толькі сказала, што ці ўбачымся, ці не ўбачымся — у Шкляных гарах!

— Вот ба ж меў я табе ўказаць, дак я сам не ведаю, дзе Шкляныя горы!

Выйшаў на крылцо, крыкнуў маладзецкім голасам, свіснуў багатырскім посвістам — ляціць к яму птаства, што ёсць іх на свеце, усе зляцелі. Цяпер ён спрашуецца:

— А што,— гавора,— птаства: вы по свету лятаеце, ці не відзелі, ці не бачылі, а дзе Шкляныя горы находзяцца?

Тожа яны атвяшчаюць:

— Мы ўвесь свет злётуем, тожа Шкляных гор нідзе не відалі!

— Вот ба ж меў я табе ўказаць, дак вот не магу знаць, ідзе Шкляныя горы находзяцца!

Цяпер ён кажа:

— Ну, вот жа, на табе клубочак! Кінь гэты клубочак: куды ён будзе каціцца, туды й ідзі. Прыкоціцца гэты клубочак к нашаму к сярэдняму брату. Ці ўкажа, ці не ўкажа наш сярэдні брат табе Шкляныя горы!

Ён узяў клубочак, кінуў перад сабой. Клубочак пакаціўся, і ён услед пайшоў. Іці дак іці — прыкаціўся гэты клубочак к сярэдняму брату. Так брат гэты і закрычаў на яго тож:

— А што, ці наш брат не казаў табе не піць водкі ад жаны свае? А ты не паслухаў! Што яна табе казала, як адходзіла?

— А толькі сказала, што ці ўбачымся, ці не ўбачымся — у Шкляных гарах!

Тожа ж ён гавора:

— Меў ба я табе ўказаць, дак не магу знаць, ідзе яны находзяцца!

Цяпер ён выйшаў на крылцо, крыкнуў маладзецкім голасам, свіснуў багатырскім посвістам — як ідуць і к яму звяр'ё, што ёсць на свеце, дак усе ідуць к яму, толькі адных ваўкоў няма. Цяпер ён спрашуе:

— Што вы, звяр'ё, пó свету ходзіце, ці не бачылі, ці не відзелі, а дзе Шкляныя горы находзяцца?

Яны гавараць:

— Мы ўвесь свет сыходзім, Шкляных гор нідзе не відалі!

— От жа ж меў я табе ўказаць, толькі не магу знаць, ідзе яны, Шкляныя горы! На табе клубочак, кінь ты перад сабою. Куды гэты клубочак будзе каціцца, туды ты і йдзі! Прыкоціц-

ца гэты клубочак к большаму к нашаму брату: ці ўкажа, ці не ўкажа табе наш большы брат!

Ну, ён узяў гэты клубочак, кінуў перад сабой. Ён пакаціўся, а ён ідзець услед. Прыкаціўся гэты клубочак к большаму брату, і ён услед за клубочкам прыйшоў туды. Так ён і закрычаў на яго:

— А што, Іван Знайдзён, ці наш брат табе не прыказаваў, што не пі водкі ад жаны! А ты не паслухаў, вот яна і кінула цябе!

Цяпер ён выйшаў на крылцо, крыкнуў маладзецкім голасам, свіснуў багатырскім посвістам. Як ідуць к яму ваўкі — сколькі ё на свеце, усе йдуць. Цяпер ён спрашуе:

— Што вы, ваўкі, па святу ходзіце, ці не бачылі, ці не відзелі, ідзе Шкляныя горы находзяцца?

Тэй кажа:

— Не бачыў!

Тэй кажа:

— Не відзеў!

Так ён крыкнуў на іх:

— Як ба вам не знаць? Няможна вам не знаць! Вы па ўсяму свету бегаеце, як ба вам не зведаць усяго свету? Ці ўсе вы, ваўкі, тут?

Глядзь, глядзь — аднаго ваўка няма, храмога. Ён выйшаў на крылцо, як свіснець — ліст аппаў з лесу! Ваўка таго няма. Ён у другі раз выйшаў. Як свісне, дак голля спала! (Гэта Юрый быў.) Калдыпае і тэй. Ён крыкнець на яго:

— Ідзе ты ходзіш? Мы за табой даўно харчуемся, што цябе няма?

— А я,— гавора,— далёка хадзіў!

— Дзе ж ты далёка хадзіў?

— А я быў,— гавора,— у Шкляных гарах!

— Ну, харашо,— гавора.— Ежалі ты быў у Шкляных гарах, штоб ты даставіў Івана Знайдзёна ў Шкляныя горы!

— Ну, харашо!

Тэй памеўся яго даставіць.

— Садзісь на мяне!

Ён уссеў на яго. Дак ён храмы — калып! Калып! Калып!

— Ах, воўк,— гавора,— што ты храмы? Як на табе ехаць? Будзем лучччы пешкі іціць!

— Што то вярхом, а што пешкі!

— Не,— гавора,— у мяне ёсць вéрстаць такая — ёсць кавёр-самалёт, як сядзеш, удруг даставе!

— Ну, харашо і гэта,— гавора.— Вырві ж ты ў мяне праміж вушы шэрсці. Калі я табе патрэбен буду, ты цяпелца высячы, мае шэрсці прыпячы — я к табе і буду!

От ён яму ўказаў, на якія гарады, на якое што ляцець. І прыляцеў к Шкляным гарам. Драўся, драўся, драўся, драўся на горы, ніяк не ўзлезе на горы. Высек цяпелца, расклаў і прыпёк ваўчыныя шэрсці — ці не ўкажа воўк, як узлезці? Бяжыць і воўк к яму:

— Аб чым ты, Іван Знайдзён, мяне жалаеш?

— А от, не магу на горы ўзлезць!

— А от, у цябе ёсць грошы свае; ідзі на базар, купі зялеза і ідзі к кавалю і пакуй зялезныя кокці на рукі й на ногі. Узойдзеш жа ты на гару, стрэне цябе калавур. Будуць цябе спрашываць — што ты за чалавек? А ты скажы, што я кухар, магу харашо гаспадам кушання згатаваць. От яны цябе прымуць. Там твая жана за глаўную клюшніцу. Вот ты там і ўбачышся!

Ну, цяпер жа ён пайшоў на базар, да купіў зялеза, да панёс к кавалю, пакуваў кокці на рукі і на ногі і пайшоў на гару. І ўзыйшоў. Стрэў яго калавур. І спрашуюць у яго:

— Што ты за чалавек?

— А я,— гавора,— кухар: магу харашо гаспадам кушання гатовіць!

— О, нам гэтакія людзі трэба!

Ну, цяпер жа яны сказалі яму:

— Ідзі ты к клюшніцы, яна загадае, што гатаваць, якімы спосабамы.

Ён прыйшоў і к клюшніцы. І ўгадаў ён яе, а йна яго — абшчапіліся і пацалуваліс.

— От я,— кажа,— казала табе, што ўбачымся — не ўбачымся ў Шкляных гарах,— от так і прыйшлося!

Цяпер жа ён і жыве там і дзень, і два, і тры, і нядзелю, і нязвесна, колькі яны там жылі. Цяпер яна гавора:

— Муж мой любы, муж мой верны! Твой бацька ведае, што ён цябе жаніў са мною, а мой то не ведае, што я з табой жанілась. От, на табе грошай, ідзі на базар і купі шасцярык коней, што самых найлуччых, паязд, што самы найлуччы, кучароў, што самых назлішнейшых!

Ну, за грошы ўсё ёсць. Пайшоў на базар і ўсё гэта купіў: і коней пакупляў, і паязд, і кучароў, ці аднаго там, ці двох. Ну, едзе ён на гэтым поездзе із кучарамы, і сам едзе. Цяпер ён прыехаў, так яна і гавора:

— Муж мой любы, муж мой верны! Аставайся ты тут у Шкляных гарах і хадзі ты і па садох, і па 'нбарах, ідзе табе люба, і пі і еш, што захочаш, а вот толькі ёсць будачка, дрэнным лычкам завязана, дак у туюю будачку не глядзі! А я паеду к свайму бацьку на гэтым поездзе і з гэтымы кучарамы; дак ён як убача, што коні харошыя, паязд харошы, кучары злішнія, дак ён і падумае, што гэта сват прыехаў на гэтых лашадзях.

От жа яна і паехала, а ён астаўсь. Ён ідзе хадзіў: і па садох, і па 'нбарах, усюдах. І толькі яму зрупіла: «Што гэта знадзыцца, што ў туюю будачку нельзя паглядзець?» Так і ўзрупіла яму. Адчыніў і паглядзеў. Вісіць там Бяссмертны Кашч падвешан, і конь яго падвешан.

Так ён і гавора:

— Эй, Іван Знайдзён! Пакармі ты мяне! Я цябе тры разы ад смерці адратую!

— Чым жа цябе карміць?

— А прынясі мне булку хлеба!

Ён булку хлеба пайшоў прынёс. Ён сам есць і каня корме, сам есць і каня корме. Булку хлеба з'еў, другія просе. Ён пайшоў, другую прынёс. Ён сам есць і каню даець, сам есць і каню даець. Із'еў дзве булкі, трэція просе. Ён пайшоў і трэцюю прынёс. Кашч сам есць і каня корме, сам есць і каня корме. Пад'еў.

— Цяпер,— гавора,— пакарміў і напаі. Прынясі мне вядро вады!

Ён прынёс. Ён сам п'е і каня пое, сам п'е і каня пое. Вядро выпіў, другога просіць. Ён пайшоў, другое прынёс. Кашч сам п'е і каня пое, сам п'е і каня пое. Выпіў два вядры, трэцяга просе. Ён прынёс. Ён сам п'е і каня пое, сам п'е і каня пое. Напіўся. Цяпер сам адарваўся, і конь адарваўся. Ён засядлаў лошадзя і ўссеў на лошадзя:

— Вот жа,— гавора,— Іван Знайдзён: за тваю хлеб-соль жана мая, а не твая!

Сеў і паехаў. Во й паехаў. І стрэў ён жану, узяў з сабою і павёз у другія Шкляныя горы. Застаўсь ён адзін у тых гарах. Хадзіў ён, хадзіў, ташнаваў, ташнаваў: «Што тут дзелаць? Пайду яе шукаць!» Ізноў жа: шукаць яе? Нявесна, дзе ж тыя горы Шкляныя? Ён уздумаў апяць на ваўка, цяпелца расклаў, ваўчыныя шэрсці прыпёк — калдыпае воўк к яму.

— Аб чым ты мяне, Іван Знайдзён, жалаеш?

— А вот,— гавора,— быў найшоў жану, да і зноў пацяраў!

— Вот жа ты,— гавора,— не паслухаў яе — не глядзі ў

тую будачку! Якая б табе жысць была красівая! А ты во не паслухаў, палядзеў, дак і пацяраў!

Ён яму зноў указаў тожа,— на якія гарады, на якое што іціць яму, на тыя на Шкляныя горы ізноў. І паставіў сілны калавур тэй Кашч Бяссмертны на тэй ужэ на сваёй на Сцяклянай гарэ.

Цяпер ён сеў на кавёр-самалёт і паляцеў. Прылятае пад тэй калавур. Цяпер з кавёра ссеў і ўвярнуўся ў вірмяк-ненавідзец. Ён як надзеў, дак яго і не відзе ніхто. Ён прайшоў гэты калавур. Ну, увайшоў туды, у горад, стаў пытацца, ідзе Бяссмертны Кашч? І тут сказалі яму, што ён быў, але паехаў кудысь-то, нязвесна. Цяпер ён зайшоў к жане і забраў яе. І сам сеў на кавёр-самалёт і павёз яе. Прыязджае к калавуру, січас у вірмякненавідзец увярнуўся сам і жану ўвярцеў, і прайшлі калавур гэты. Цяпер уссеў апяць на кавёр-самалёт, сам уссеў і жану пасадзіў, і паляцелі.

Сустракаюцца з Бяссмертным Кашчам. Конь яго зарзаў. Ён атвяшчае, Кашч:

— Чаго ты, пёссяе мяса, зарзаў: ці ты на мяне злуеш, ці на жонку на маю?

— Не, не на цябе, на жынку на тваю!

— А што вам мая жынка здзелала?

— Нічога,— гавора,— не здзелала; толькі ўкраў тваю жану Іван Знайдзён!

— Так ты гэтага спужаўся! Мы ж паедзем удвору да высечам ляда, на тым лядзе пасеем пшаніцы, з тыя пшаніцы наварым піва, піва нап'ёмся, яго дагонім і жану адбяром!

Цяпер жа яны паехалі ўдвору, высеклі ляда, на тым лядзе пасеялі пшаніцы, з тыя пшаніцы наварылі піва, піва напілісь і паехалі. Яго дагналі і жану адабралі. Вот жа гавора:

— За тваю хлеб-соль дарую табе! Я б цябе ўбіў, да за тваю хлеб-соль дарую. Помні, што раз ад смерці адратаваў!

Застаўсь ён адзін зноў. Думаў, думаў, што тут дзелаць? Пайду ізноў за жаной!

Ну, цяпер ён ужэ дарогу ведае: сеў на кавёр-самалёт і паляцеў. А ён паставіў калавур тожа, тады сілны, а цяпер шчэ сілней. Ну. А што яму гэты калавур, калі ён у вірмяк-ненавідзец увярнуўся, дак яго ніхто і не відзе. І прайшоў міма. Ну, прыйшоў і распытаўся:

— Ідзе тут Бяссмертны Кашч прабывае?

— Ён быў,— гавора,— да паляцеў у другое царства!

Ну, ён к жане. Ён забраў яе, усадзіў на кавёр, сам сеў,

і паляцелі. І едуць. Апяць стракаюцца з Бяссмертным Кашчам. Конь яго зарзаў. Ён атвяшчае, Кашч:

— Чаго ты, пёссяе мяса, зарзаў: ці ты на мяне злуеш, ці на жонку на маю?

— Не, не на цябе,— на жынку на тваю!

— А што вам мая жынка здзелала?

— Нічога,— гавора,— не здзелала; толькі ўкраў тваю жану Іван Знайдзён!

— О! Так ты гэтага спужаўся! Мы ж паедзем удвору да высечам ляда, на тым лядзе пасеем пшаніцы, з тыя пшаніцы наварым піва, піва нап'ёмся, яго дагонім і жану адбяром!

Паехалі ўдвору, высеклі ляда, насеялі пшаніцы, наварылі піва, напілісь і паехалі. Дагналі іх, ён жану адабраў.

— Ну, помні ж: я цябе два разы ад смерці адратаваў. Я б цябе цяпер убіў, да за тваю хлеб-соль дарую! Ну, ужэ калі за трэцім разам прыедзеш — уб'ю!

Цяпер ён застаўся адзін. Што тут дзелаць? Думаў-думаў — па смерць ііцьі А, пайду зноў за жаной! Уссеў на кавёр-самалёт і паляцеў. Той калавур яшчэ сілней паставіў. Нашто яму калавур, калі ў яго ёсць ве́рстаць — увярнуўся ў вірмяк, дак яго ніхто і не відзе. Прайшоў міма калавура. Увайшоў у горад і пытае:

— Ідзе тут Кашч Бяссмертны пражывае?

— А ён быў,— гавора,— да паляцеў у другі горад!

Ён цяпер зайшоў к жане і гавора:

— Распытайся ты ў Кашча, ідзе ён выслужыў гэтакага лошадзя!

— Добра, я распытаю. Толькі выйдзі ты з гэтага горада на ўрэмя, а то ён цябе знiстожа!

Ён выйшаў. А ён прыехаў; яна падлезла к яму лесцямі:

— Ну, што,— гавора,— ідзе ты сабе гэткага лошадзя выслужыў?

— О, дзе выслужыў? Ты думаеш, выслужа твой Іван Знайдзён? Не, не выслужа! Ёсць на трыдзевятай зямле, на трыдзесятым царстве, ёсць Баба Юга. Дак ёсць у яе сто кабыліц. Хто толькі спасе тых кабыліц тры дні, дае жарабца самага першага на выбор. Да не ўжо: ужо ўсё колля — двор занесен частаколам — дак усё колля завешана ўжо галовамі: што не спасуць тры дні, галаву далой. Толькі адзін кол астаўся. Дак ежалі пойдзе гэты Іван Знайдзён каня заслужываць, дак на том калу яго галаву завесяць!

От, цяпер жа ён пабыў трохі, апяць жа паехаў куды там.

Ён ізноў увайшоў у гэты горад, Іван Знайдзён, распытаўся:

— Ці быў тут Кашч?

— Быў!

— А цяпер дома?

— Не, паехаў куды там!

Ну, ён цяпер к жане.

— Ну, што,— гавора,— ці пыталася?

— Пыталася!

— Ну, што сказаў?

— А сказаў,— гавора,— што за трыдзевяць зямель, у трыдзесятым царстве ёсць Баба Юга. Дак ёсць у яе сто кабыліц. Хто толькі спасе тых кабыліц тры дні, дае жарабца самага першага на выбор. Да не ўжо: ужо ўсе колля — двор занесен частаколам — дак усе колля завешаны ўжо галовамі: што не спасуць тры дні, ну галаву далой. Толькі адзін кол астаўся. Дак ежалі пойдзе твой Іван Знайдзён каня заслужываць, дак на том калу яго галаву завесяць!

Ну, ён думаў, думаў, што тут дзелаць? Развi па смерць іціць? Ну, да ўжэ што бог дасць, то й будзе, а пайду жарабца даставаць!

Цяпер жа ён знiстожыў і кавёр тэй і ненавідзец і пайшоў пяшком, каня выслужываць.

Ну, цяпер няма яму ні двара, няма яму ні сяла, няма яму нічога — суткі ішоў не еўшы, нечым яму і пакарміцца. Ішоў, ішоў ён і прыходзе к мору. Ляжыць рак на беразе. Узяў ён кол:

— Пайду гэтага рака заб'ю, і то пад'ем!

Прыходзе ён к яму, рак гавора:

— Эй, Іван Знайдзён, не бі ты мяне! Адкалупі із мяне шалупашку і вазьмі ў карман. Калі я табе трэба буду, дак ты цяпло раскладзі да шалупашачку прыпячы, дак я к табе й буду — я табе знадаблюсь! А вазьмі мяне да колам гэтым да спіхні ў ваду!

Значыцца, ён засох, не можа звярнуцца. От ён яго спіхнуў у ваду, ён паплыў. Застаўся ён апяць не еўшы. Увайшоў у пушчу — чыкаюць дзятлы ў дзераве. Ён сапрануўся:

— Палезу гэтых дзятлаў пабяру, і то пад'ем!

Падлязае туды — ляціць дзяцел стары:

— Эй, Іван Знайдзён, не бяры ты маіх дзетак! Вырві ты ў мяне пярцо і ўлож у карман! Калі я табе буду трэба, ты высяч цяпелца, раскладзі і маё перца прыпячы. Дак я к табе буду — я табе знадаблюся!

Так ён ізноў і палез далоў не еўшы.

— Бог ведае! Куды я йду, нікога не ведаю, і што мне бог дасць? Можа і знадабіцца хто!

Пайшоў ён зноў не еўшы. Ішоў, ішоў — паўзе мурашка цераз дарогу.

— Вазьму я кол да заб'ю гэту мурашку, і то буду есць!

Узяў ён кол і ідзе блізка ўжэ кала мурашкі. Мурашка гавора:

— Не бі ты мяне, Іван Знайдзён! Вырві ты ў мяне пярцо і ўлож у карман! Калі я табе буду трэба, ты высяч цяпелца, раскладзі і маё пярцо прыпячы. Я табе два разы знадаблюся!

Мусіў ён так здзелаць. Кінуў кол, пайшоў так. Прыходзе ён ужэ к той Бабе к Юзе, куды йшоў.

— Здрастуй, бабка!

— А, здрастуй, Іван Знайдзён! Што ходзіш?

— А іду жарабца выслужываць!

— О, харашо. Я гэтакіх людзей дажыдаю даўно! Вот ты ў мяне тры дні калі спасеш сто кабыліц, даю жарабца на выбор!

Січас яму вячэры нагатовіла, яго пакарміла, пасцелю заслала, ён лёг спаць. Назаўтрага яна ўстала, хату затапіла, абед нагатавала, ладак напякла, у кашэль наклала і будзе яго:

— Устань, Іван Знайдзён, пара кабыліц гнаць у поле!

Ён устаў, умыўся, богу памаліўся, кашэль на плечы, усхапіўсь на кабыліцу і патурыў іх у чыстае поле. Пасець жа ён іх да полудня. Пасець, і ходзяць харашо, усё. Захацелась яму падуднаваць. Ён кашалок адчыніў і з'еў гэтыя ладачкі. Як з'еў, так і заснуў. А яны сонныя, ладкі. А яны й пахаваліся, кабыліцы.

Цяпер яна прыходзе, Баба Юга к яму і будзе яго:

— Іван Знайдзён, а дзе ты маіх кабыліч падзяваў? А? Вот і конюх! Вот і напасціваў!

Думаў ён, думаў: што тут? Хадзілі харашо — і няма. Думаў ён, думаў — што, звесна: гаварылі і тэй і тэй, што я табе знадаблюсь, да нязвесна. І ўздумаў ён на таго ваўка. Ну, як цяпелца расклаў і прыпёк ваўчыныя шэрсці, калдыпае воўк к яму тэй.

— Аб чым ты мяне, Іван Знайдзён, жалаеш?

— Аб чым, — гавора, — жалаю? Вот кабыліц, — гавора, — пасцівіў, да не знаю, дзе яны дзелісь!

— О, — гавора, — гэта ж у цябе ўжэ ў кармане! Цяпер яны пахаваліся ў мора, дак іх ужо рак выгане! А другі дзень будзеш пасцівіць, дак яны пахаваюцца ў дзярэўя, дак табе дзя-

цел выгане. А трэці дзень пахаваюцца ў зе́млю, дак тады мурашка выгане! Ну й прашчай за гэтым!

Вот дакуль воўк яму служыў, цяпер ужэ не будзе! Ну, цяпер ён выняў гэту шалупашку і прыпёк, ракаву. Паўзе гэты рак к яму.

— А што, Іван Знайдзён, што б ты цяпер дзелаў, калі б мяне забіў? Я казаў, што табе знадаблюсь! От яно так і ёсць! От жа ты ідзі, стань там і там, а я пайду ў мора, сабяру ўсю сваю сілу — я іх павыганю. А ты стой да шчытай! Як да паследнія дашчытаешся, яна выскача, дак ты хватайся садзіцца на яе і туры ў двор!

Ён так і здзелаў. Прыганяе іх у двор. Яна стаіць у варотах, Юга тая, і бытта рада: вот конюх, вот конюх, маладзеч! Цяпер яна на іх злуець. То ж яе дочкі ўсё! Узяла зялезны прут і пайшла іх наказываць.

— А,— гавора,— шукіны дочкі, вы з ім любіцеся, знюхаліcь, ад яго не пахаваліcь!

І набіла іх. Ну, цяпер вячэра яму нагатавана, ён павячэраў і лёг спаць. Яна да света ўстала, хату затапіла, ладак напякла, наклала ў кашэль і будзе яго:

— Устань, Іван Знайдзён, пара кабыліц гнаць у поле!

Ён устаў, умыўся, богу памаліўся, кашэль за плечы, усхапіўсь на кабыліцу і патурыў іх у чыстае поле. Пасець жа ён іх да полудня. Пасець, і ходзяць харашо, усё. Захацелась жа яму палуднаваць. Ён кашалок адчыніў і з'еў гэтыя ладачкі. Як толькі ладак тых з'еў, так і заснуў. Прыходзе яна зноў ■ яму, будзе яго:

— Устань, Іван Знайдзён!

Ён прашнуўся.

— А дзе маіх кабыліч падзяваў? Вот конюх! Іздайсь на гэтакага конюха!

А ён ужэ асмялеў, дык ён на яе сыкнуў:

— Што ты,— гавора,— Баба Юга! Што ты мяне, удзень не пасеш! Няхай ходзяць, ідзе хочуць. А калі ўвечары не прыганю, тады ■ вінават буду!

— Ну, харашо, найду я цябе і ўвечары!

Цяпер ён высек цяпелца, расклаў, прыпёк дзятлава пярцо. Ляціць дзяцел к яму:

— А што, Іван Знайдзён, што б ты дзелаў цяпер, калі б маіх дзяцей паеў? Ты б цяпер сам убіўсь! А вот я табе цяпер знадаблюсь! Ну, ідзі ж ты стань вот там і там, я сабяру сваю сілу — я іх павыганю!

Ён і стаў там — ідзе, па яго казках. Ён сабраў сваю сілу. Як зачалі іх кляваць, зачалі дзяўбаць — падалі яны, падалі — недзе ім ужэ дзецца! Сталі выскакуваць. Яны па дуплях пахавалісь. А ён шчытае. Дашчытаўсь да паследнія, усхваціўсь на яе і патурыў удвору. Гэта ўжэ два дні спасціў. Прыганяе ж ён удвору, яна стаіць у варотах:

— От, маладзеч конюх! Два дні спасцівіў! Шчэ дзень спасціш — палучыш жарабца!

А на іх элуе, што не пахаваліcь ад яго. Узяла зялезны прут і давай іх біць. Тады нагатавала яму вячэраць, ён павячэраў і лёг спаць. Яна да света ўстала, хату затапіла, ладак напякла, у кашэль наклала і будзе яго:

— Устань, Іван Знайдзён, пара кабыліч гнаць у поле!

Ён устаў, умыўся, богу памаліўся, кашэль на плечы, усхапіўсь на кабыліцу і патурыў іх у чыстае поле. Пасець жа ён іх да полудня. Пасець, і ходзяць харашо, усё. Захацелась жа яму палуднаваць. Ён кашалок адчыніў і з'еў гэтыя ладачкі. Як тольткі з'еў, так і заснуў. Як ён толькі заснуў, яна і прыходзе к яму зноў. І будзе яго:

— Іван Знайдзён!

Ён як усхопіцца!

— А дзе ты маіх кабыліч падзяваў? Я на цябе здалася, а дзе іх падзяваў?

А ён на яе тожа атвеціў:

— Што ты мяне, удзень не пасеш! Няхай ходзяць, ідзе ходзяць, абы к вечару я прыгнаў іх! Калі ўвечары не прыганю, тады я вінават буду!

— Ну, добра, я цябе ўвечары спасу!

Яна ўсе не надзеецца, што ён найдзе іх. Яна ўжэ ведае, дзе яны. Цяпер ён узяў цяпелца высек, расклаў, прыпёк мурашкіна пярцо. Паўзе мурашка к яму.

— А што, Іван Знайдзён, што б ты цяпер дзелаў, калі б мяне з'еў? Ты б цяпер сам прапаў! Я ж казала, што я табе знадаблюсь. Ну, йдзі ж ты стань у (во)там і там, я сабяру сваю сілу і іх павыганю. А ты стой і шчытай!

Ён пайшоў і стаў. Мурашка сабрала сваю сілу і выгнала іх з-пад зямлі. Ён дашчытаўся да паследнія, усхапіўсь на яе і патурыў удвору. Ну, прыганяе ўдвору — там яна ў вочы яму бытта так рада:

— От, Іван Знайдзён, маладзеч! Тры дні спасцівіў! Заўтра жарабча палуча!

А сама злуе на іх. Узяла зялезны прут і давай біць іх. Ця-

пер, яму вячэра нагатавана, ён павячэраў і спаць лёг. Даў бог дзень, ён устаў, умыўся, богу памаліўся. Цяпер яна просе яго ўжэ з ласкі:

— Іван Знайдзён, служыў ты мне харашо тры дні, спасціў маіх кабыліч — прыслужы ты мне ўжэ: рассей ты мне лубачку маку!

Так ён і паўміў: што тут? Ужэ ж большы служыў! Што тут параскідаць, забаўка? Узяў гэту лубачку маку і засеяў. Цяпер яна гавора:

— Да, рассеяць ба я сама рассеяла, а як ба яго падабраць, штоб апяць поўна была?

Ён тут усердзіўся: што такое? — вялела рассеяць, а тут сабіраць трэба!

— Не, мне таго не ждаць, пакуль ён узрасце, а мне чычас збірай! А не збярэш — не палучыш жарабца!

Цяпер ён думаў, думаў: што тут? Служыў колькі, і во табе — не палучыш жарабца! І ўздумаў ён на мурашку, што яна-такі казала, што два разы знадаблюсь табе! Ён цяпер цяпелца высек, расклаў і прыпёк мурашкіна пярцо. Мурашка ■ яму.

— А што, Іван Знайдзён, што б ты цяпер дзелаў, калі б мяне з'еў? Ты б цяпер сам прапаў! Ну, пастаў жа ты гэту лубачку пасярод палянкі, я сабяру ўсю сваю сілу, яны січас звалакуць!

Ён паставіў гэту лубачку,— так яны як папаўзлі, дак як мурашкі, так яму ў мінуту і ўсцягнулі — поўна лубачка. Прыносе ён гэту лубачку к ёй:

— На табе, Баба ты Юга!

Ну, дзень прайшоў, начаваць трэба. Ён заначаваў. І была ў яе служэбка. Дак тая служэбка знае ўсё-ўсё, яна адабрала сілу ў усіх жарабцоў да 'днаму 'ддала. Дак ён ужэ моцна сілен, што не можа сілы знасіць. Дак ён ляжыць пад яслямы, тэй конь. Здзелала яго самым пушчым, сілнага таго. «Дак не бяры ты самага луччага, а вазьмі ты самага пушчага, што пад яслямы, а тых луччых не бяры!»

Ён назаўтрага, даў бог дзень, устаў, умыўся, богу памаліўся. Уходзе яна:

— Ну, Іван Знайдзён, пара жарабца выбіраць!

Ну, пайшлі выбіраць! Ну, як яму ўжэ сказана, дак як ішоў, дак прама к тому к пудламу, цапочкай яго шлыгануў. Так ён цапу-цапу ўскарабкаўся, устаў. Ён яго за грыву, узяў і валачэ. А там такія харошыя, такія там бодры, што так і пляшуць. А ён таго валачэ, пудлага таго. Так ёй не хочацца!

— Ах,— гавора,— Іван Знайдзён, ты ў мяне быў харошы конюх, харашо мне спасціў, і ўсё, да бярэш самага пудлага! Ты вазьмі от гэтага, што там пляша каторы!

— Э,— гавора,— бабка, я сам плóхі чалавек, плóхага каня вазьму! Узяць мне харошага, дак ён мяне разаб'е, звале і пабяжыць куды! А сказана — на выбор!

Ён валачэ таго. Ёй хоць і не хочацца, да ўжэ на выбор сказана, дак ёй няльзя судзіцца. Ну, вывеў яго на юр'еву расу. Лошадзь гавора:

— Папасі мяне зару на ячмені, а зару на пшаніцы, а зару на [а]ўсе!

Тады, пасля таго, конь лёг, пакачаўся, устаў, страпянуўся. Стала на ём залатая шарсцінка, сярэбраная.

— Ну, садзісь на мяне!

Ён уссеў і паехаў. Прыязджае к таму гораду, к Шкляному. Уехаў у гэты горад і распытуе:

— Ці дома Бяссмертны Кашч?

— Не,— гавора,— ён быў, да выехаў куды там!

Ён цяпер узяў жану, сам сядзіць на лошадзі, яе пасадзіў на лошадзь і паехаў адтуль. Ехаў, ехаў, ехаў, ехаў, сустракаецца з Бяссмертным Кашчам. Сустракаецца з Бяссмертным Кашчам, конь яго зарзаў. Ён пытае:

— Чаго ты, пёссяе мяса, зарзаў? Ці ты на мяне ржэш, ці на жонку на маю?

— Не, не на цябе, а на жонку на тваю!

— А што табе мая жонка здзелала?

— Нічога,— ка[ж]а,— яна мне не здзелала, толькі ўкраў тваю жынку Іван Знайдзён!

— О! Дак ты гэтага спужаўся? Мы ж паедзем удвору да высечам ляда, на тым лядзе пасеем пшаніцы, з тые пшаніцы наварым піва, таго піва нап'ёмся і то яго дагонім і жану адбяром.

Лошадзь гавора:

— Не,— гавора,— хазяін, мы цяпер ужэ жаны не 'дбяром!

— Як то не 'дбяром?

Ён і схапіўся!

— А так,— гавора,— ён ужэ выслужыў нашага меншага брата. Да ў яго ўся сіла ад нашых братцаў. Дак мы ўжэ цяпер у яго не 'дбяром жаны!

Некалі ж яму ўжэ ехаць удвору да сеч ляда, да сеяць пшаніцу, да варыць піва — да вярнуўся, да ўжэ ўслед за ім. Тэй

жа ідзець шагам, пярэдні, а гэты ляціць — пот крывавай пенай, што не дагоне. Лошадзь з лошаддзю гавора, з братам:

— Што ты,— гавора,— даганяеш мяне? Ці ты хочаш біцца са мною, ці ты хочаш з Іванам Знайдзёнам (ехаць)?

— Не, брацец, як жа мне з табой біцца — я з табой не ровен!

— А калі хочаш з Іванам Знайдзёнам, дак ты свайго хазяіна ўзнімі пад небяса да й пусці з сябе — няхай ён ударыцца аб сыру зе́млю, аб белы камень, няхай ён рассыплецца драбней маку!

— Ах, мне шкода,— кажа,— свайго хазяіна: ён харашо мяне корме!

— Нічога, будзе цябе Іван Знайдзён карміць!

От ён яго ўзнёс пад небяса і пусціў яго з сябе. Ён як ляцеў, ударыўся аб сырую зе́млю, аб белы камень — рассыпаўся драбней чорнага маку! А Іван Знайдзён паехаў ужэ з жаною. Толькі нязвесна, куды ён паехаў: ці ў Шкляныя горы, ці к бацьку і к матцы. От, я быў з плытамі за Кіевам і пытаўся, дак не дапытаўся. Хацеў к яму ў госці зайціць.

## 7. ГУСАЧКІ-ГАЛУБАЧКІ

Вот так было. Каждую суботу прылятаалі гусі на агароды. І што, тыя гусі, каб яны куды, а то ў лазню. І адзін такі красівы парань прызамеціў гэта. Думае: «Што ж тут такое?» Да ў іхнюю лазню. Яму ж дзіва, што гусі, дзікія гусі лятуць у лазню. Думаець: «Чакай, на гэну суботу я паглядджу, што з імі будзець. Я залезу ў сваю лазню, схаваюся за нешта». А за што ён там схаваўся? Даўней гэта сеялі калапней. І вот мачылі гэтыя калапні, тады ж мнуць (во вяроўкі з іх робяць). Адразу як паднялі, як паднялі з лежні іх, паставілі ў кутку гэтыя такія мачульнікі, снапы. Стаяць яны ў кутку. Палез пад гэтыя снапы хлопец і сядзіць. Жджэ і думае, што яшчэ ж прылятуць. Аж толькі чуець: шуміць, лятуць, гагочуць між сабою.

Вот ён утаіў дух, сядзіць, жджэ. Можа абмінуць ужо, невядома. Аж глядзіць: адна за аднэй, адна за аднэй так і пасунуліся ў тую лазню ў сенцы. Як уляцелі, січас пер'я з сябе знялі, знялі гэтыя пер'я і ў пучочкі палажылі каждая сваё, каждая пад парадак. А адна, як зняла пер'я,— ну такая красавіца, ну ў казках не сказаць і пяром не апісаць. Ён проста там памяць пацяраў. «Ну нічога, усё-такі я яе сабе прылашчу».

Яны там у лазні мыюцца, а ўсе дзеўкамі сталіся. Во вылез ён ціханька, падкраўся да яе пер'я, узяў і скоранька вышмыхнуўся з гэтай лазні і пайшоў дамоў. Думае: «Ну, дзе ж ты дзенешся?» Усе гускі вылятаць сталі з гэтай лазні ў сенцы і давай хто сваё пер'е пачапляць. А гэтая кінулася — і нет яе пучка. Яна і сюды і туды пакідалася. Ну што ж, ім пара ляцець, і яны аставілі яе. І ўжо ёй няма й рады. Яна тут і ў плач кінулася. Гэтыя гусі паляцелі, а яму ж цікава, дзе ж яна тут дзелася. Ці можа тут пер'е нічога не значыла? Вот глядзіць: стаіць і плачаць такая пекная дзеўка. Яму так жаль зрабілася. Узяў ён яе за руку і кажаць:

— Пойдзем да мяне, не плач, я цябе ў абіду не папушчу, ты будзеш маёй жаной. Я цябе выбраў, а пер'е гэта знікстожыў.

Вот. Ну і што ж, пайшла яна нехаця, дзе ж ёй дзявацца. Але яна ўсё роўна не мела цягі да яго. Усё роўна цягнула яе туды, дзе ўсе гусі. Пэўна ўжо гэтыя гусі былі нейкія закалдаваныя. І вот яна кожны дзень вылеціць, станець, каб не відзелі, і запяець:

— А гусачкі, галубачкі, скіньце ж мне па аднэй пярынцэ!

Возьмуць гэтыя гусачкі і сыпнуць ёй кожная па аднэй сваей пярынцэ. Вот яна і збіраець. Не так жа ж і лёгка збіраць па аднэй пярынцы. Яго ж, пер'я, многа трэба. Ну, і кідалі, можа і год кідалі. Яна збірала. У яе ўжо ўрадзілася дзевачка. А яна думала, што і тую дзевачку схваціць. Што ж, як зачала яна гэта пер'е ўжо збіраць, пух складаць, дык вот і не хваціла ёй на гэтую дзяўчынку ўбраць. Думаець: «Я после буду ёй скінаць». Як яна абчапілася гэтым пер'ем, так яна і паляцела, і мужа кінула і гэтую дзяўчынку кінула.

Дзяўчынка ж ненавучаная была, каб пер'е збіраць, так яно і прападала. Вот гэтая дзяўчынка расла, тожа ж як сірата. А ён здумеўся, нібы ж хацеў жаніцца, але не жаніўся, бо ён не надзеяўся, што такую ўжо знойдзе красавіцу. Гэту дзяўчынку гадаваў і на яе радаваўся. «Нікога не хачу, буду гадаваць дзіця гэта сваё». Праўда, такая красавіца яна была, што выдаў яе замуж за добрага, за добрага кавалера.

Вот і на гэтым канец.

## 8. ГОРА І БЯДА

Быў у ваднаго кроля сын, а да таго кроля не было дня, каб людзі не прыходзілі бядуючы: то ў таго каня няма, у таго вала няма, а ў таго зноў хлеба. Так то гэта нараканне вельмі расце-

кавіла кралевіча, да й то заманучў, канешне, бяду да гора пазнаць.

Аднаго разу стаў ён пытаць бацька:

— Што то, татку, за бяда значыць?

Так кроль яму стаў расказваць, але ён гэтага не зразумеў да й кажа:

— Пусцеце хіба мяне, татку, у свет, то мо яе надыбаю.

Так кроль кажа:

— То няма што, ідзі, сынку, палядзі, што за яна,— і, даўшы яму грошай, выправіў у свет.

Ідзе ён, так ідзе, ажно спатыкаецца з некім старым чалавекам.

— А вы,— ка[жа],— куды ідзеце?

— Іду ў свет,— ка[жа],— шукаць бяды! А мо ты, старэнькі, знаеш бяду, то пакажы, я табе што хочаш за то дам.

— Добра,— ка[жа],— хадзеце, то я вас завяду.

І пайшлі. Ідуць, так ідуць, аж прыйшлі да рэкі, а пасёрад яе выспа. Тады то той стары кажа:

— Ну, калі хочаце бяду да гора ўгледзець, то даплывеце туды.

Так то кралевіч хутчэй з се адзетак да грошы, а сам, як маці радзіла, паплыў туды. Як ужэ адплыўся ковал ад берагу, так той стары то за адзетак да сам драла ў лес. Да й думае сабе: «От цяпер то пазнаеш гора да бяду!» Так кралевіч злез на выспу да стаў шукаць тае бяды — ажно няма! Потым агляну́ўся на бераг, ажно ляньцеся, няма ні чалавека, ні адзетку!

— Тут,— кажа,— мне гора і бяда! Тут я пазнаў, што гэта такое!

Дрыжыць з холаду да з голаду, ажно на́бах там ляжала нека дзерава, так ён гэта, узяўшы два крамені, стаў красаць да й распаліў агонь.

Перабедаваўшы тамака ноч, паплыў ён назад. Ідзе, так ідзе, ажно ваўкі каня рвуць; ён то неяк паразганяў іх, скуру задраў, уярцеўся да й кажа:

— Тутачка мне зноў не бяда! — І пайшоў.

Ідзе, так ідзе, ажно стаіць карчма, увайшоў да яе, ажно там [рандар], людзі ўсялякія! Як угледзелі яго ў скуры, так сталі па адном уцякаць, думаючы, што гэта мо якая зараза ходзіць па свеце да й сюды трапіла. [Рандар] то на сяло да давай прасіць людзей, каб каторы адважыўся да пайшоў папытаў, чаго хоча, а ён тымчасове выпіў сабе водкі, закусіў булкаю пшоннаю, сеў і сядзіць. Так то насходзілася з усюль людзей

пад окна, пад дзверы і ўглядаюцца, што гэта такое? А ён сабе ходзіць па карчме. Урэшце [рандар] папрасіў аднаго чалавека, каб спытаўся, чаго ён хоча. Той увайшоў да й кажа:

— Чаго вы ад рандара хочаце?

— Я больш нічога,— ка[жа],— не хачу, адно дайце мне доб-рага каня, харошу брычку да то чалавека, каб адвёз мяне на маё месца, а як не, то нябось! па(г)ледзяцé, што я выраблю вам да вашай вёсцы!

Усе гэта пачуўшы ўрадаваліся, а жыд то хутчэй купіў каня, нешта за сто рублёў, да брычку добру, да то даў чалавека, і ён сабе паехаў.

Едзе, едзе, ажно заязджае да неякагось мястэчка, а там нáбах быў кірмаш.

Так ён кажа да сваго чалавека

— Ну, ідзі ж ты сабе дахаты да й скажы ўсенечкім, што хвароба дзякавала за каня і брычку да й казала, што ніколі тамака ўжэ не будзе.

Так той чалавек ні жарты як урадаваўся, што хацямсе з жыццем пусціў, і пайшоў.

Тымчасове то кралевіч прадаў каня, брычку, набраў грошай як за пшаніцу, да й то купіўшы сабе адзетак, пайшоў у свет бяды шукаць.

Ідзе, так ідзе, ажно бачыць: ляцяць неякіхсціць тры паненачкі выспеўваючы, да й то прыбегшы над рэчку, паскідалі ўвабранне і сталі купацца.

А кралевічу адна з іх надта да душы прыпала. Ідзе ён далей, ажно надыбаў хатку, а ў той хатцы жыў сабе чалавек святы і ўжэ з давен-даўна аб кралевічу ўсё чыста ведаў. Той у хату, ажно ён кажа:

— А што ж, кралевіч, вышукаў сабе бяду да гора?

Так то кралевіч спéршу чыста зумеўся, але паждаўшы, стаў яму ўсенька з канца ў канец расказваць да й урэшце гаворыць:

— Тут няўдалі я бачыў тры паненачкі і вельмі адну спадабаў, так парадзьце вы мне, як бы я з ею мог ажаніцца?

А той святы яму на гэта:

— Назаўтра раненька пойдзеш, сынку, да сядзеш каля рэчкі пад кусцікам, да й то як яны прыдуць і пачнуць купацца, так ты тае, што да спадобы, ухапі адзетак да й уцякай да мае хаткі; адно,— ка[жа],— помні, не аглядайся па-за се, то яны прыбягуць за табою, тыя то вернуцца, а яна астанецца, а як аглянешся, то яны це зробяць яблынкаю.

Як той парадзіў, так кралевіч і на заўтрашні дзень усеняч-

ка ўчыніў: сеў сабе пад кустам каля рэчкі, ажно бачыць, ляцяць утрох падцінаючы. Прыбеглі над бераг да гэта адзежу з сябе паскідалі, да й гэта адна за другою бабоўх! у воду.

Кралевіч гэтага адно і ждаў, да то ўхапіўшы за адзежу — уцекі, а яны то за ім да й спяваючы просяць. Ажно яму шкада іх стала, так то кінуў адзетак і сам як на то ж аглянуўся, так утом і стаў пасе́рад поля яблынкаю.

Той святы ждаў, ждаў — не прыждаўшыся, пайшоў, ажно бачыць, стаіць яблынка; вядома, пазнаў, што за яна, так то, падышэчы, ударыў трасцінкаю, і з яблынкі як бач зрабіўся назад кралевіч. Тады ён кажа да яго:

— А што ж, сынку, ці я табе не казаў, не аглядайся, а ты, бачыш, не паслухаў, і каб ні я, то стаяў бы тутака ніведзь дакуль.

Ну, так то кралевіч, падзякаваўшы яму за то, кажа:

— Ведаеце што? Я яшчэ раз думаю папрабаваць шчасця.

А чалавек на тое:

— Адно, саколік, змілуйся, не аглядайся, бо гэтым разам зрабілі б з цябе баранчыка.

Ну, так прыждаўшы заўтра, не ўце́рпеў, зноў пайшоў. Сеў сабе, ажно яны зноў віхрацца спяваючы. Прыляцелі, да й то все паздзіраўшы, у воду, а ён за адзетак — і ў ногі. Тады яны за ім у погань, да й просяць, да й спяваюць. Ён то як добры дурань, зноў краз цікавасць аглянуўся, так то ў маменце і стаў баранчыкам. Тады стаў ён бегаць каля хаткі блеючы, святы го дадумаўшыся, выйшаў, удзерыў па ём трасцінкаю, так то з барана зрабіўся зноў кралевіч. Тады той кажа:

— А што, не паслухаў? Бачыш! Ну, як яшчэ раз пойдзеш да аглянешся, то яны ўжэ цябе зробяць каменем, а тады то ўжэ і я не дам табе рады.

Ну, ідзе ўжэ ён і трэці раз, ледзве дайшоў да куста, ажно ўжэ ляцяць яны спяваючы. Як пачалі купацца, ён то за адзетак — у ногі, а яны за ім. Ён у хату, тыя дзве асталіся, а сама старшая да й найхарошайша за ім убегла. Тады той чалавек кажа:

— А што, сынку, паслухаў мяне, от і будзеш мець жонку!

А яна ўсё просіць:

— А мой ты сякі, а мой ты такі, аддай, аддай маё адзенне!

А стары кажа:

— Ну, то аддай ёй адзенне, адно аднае сукенкі не аддавай.

Ён то і гэтак зрабіў. Тады то яна злажыла адзенне да й пайшла за ім да бацькоў.

Ідуць, так ідуць, ажно трох нячыстых б'ецца. Так кралевіч кажа:

— А вы гэта чаго б'ецеся?

А яны:

— Як нам не біцца, калі мы знайшлі капялюш, шаблю і дывана да й то ніяк не можам падзяліцца.

А кралевіч кажа:

— Якія ж бо гэта рэчы? — А яны:

— Ага, то яшчэ не ведаеце? Капялюш такавы, што як улажыць, то ніхто не ўгледзіць, а шабля то такая, што незмяроныя войска можна пасекчы, а дыван такавы, што як стаць на ём да й сказаць, каб куды нёс, то занясе.

Тады кралевіч узяў каменя, кінуў на рэчку да й кажа:

— Ну, хто гэтага каменя дастане, то той усенечка возьме.

Так то чэрці адзін за другім пайшлі ў воду, а ён тымчасове з сваею паненкаю стаў на дыване, капялюшам накрыўся, шаблю ўзяў у руку да й кажа:

— Нясі ж мяне, дыване, да маіх бацькоў!

Так то дыван у вокамгленні зняўся пад вобалакі і занёс іх на кралеўскі двор. Так то бацькі, угледзеўшы іх, урадаваліся з іх абайга, што і куды! А вельмісе ім да густу тая яго паненка. Ну, так то ніўбавам наз'язджалася гасцей і ўжэ сталі рабіць заручыны.

Ажно тая паненка кажа да кралёвае:

— Скажы, мамачко, свайму сыну, а майму мужу, каб мне суkenачку аддаў.

Ну, так ён, вядома, і аддаў: ля, ужэ пэўны, заручыны! Ну, а яна то, уваброўшыся ў тую сукню, кажа:

— Але тут нешта вельмісе гарачэ, трэ вокна паа(д)чыняць.

Яны то а(д)чынілі, а яна фыр! краз акно і паляцела!

Тут усе аж патрупянелі, такая струшня, кралевіч жа, нядоўга ждучы, ухапіў шаблю да й капялюш, да то выбегшы на двор, стаў на дыван да й кажа:

— Дыван, дыван, нясі мяне да мае паненкі двору!

Так то дыван у вокамгленні занёс яго на некія кралеўскія палацы, а ў іх жылі яна, тыя сёстры і бацька, кроль закляты. Увайшоў ён да адняго пакою — німа яе, увайшоў да другога — адно сёстры сядзяць, увайшоў да трэцяга — ажно і яна там! Ён да яе гаворыць, а яна яго не бачыць; потым зняў капялюш, тады яго і ўгледзела. Ну, так ён кажа:

— Што ж ты ўцякла, а я ж пайду, папрашу бацька тваго, то мо такі пазволіць мне з табою ажаніцца.

— Ну, то,— кажа,— добра, ідзі прасі.

Так ён да бацька і прызнаецца: так і так, а стары адказвае:

— Калі заб'еш маё войска, то возьмеш, а як не, то не дам.

— Добра.

Войска то выйшла і стала, а ён таею шабляю як стаў каціць па галавах — паклаў калі то мост! Ужэ палавіну сцяў, ажно кроль кажа:

— Стой, годзі! — да й то тады даў яму сваю дачку, а па смерці паўкралеўства.

## 9. МАЛАДЫ ЮНГЕР

Было на часах дзесяць салдатаў і адзінаццаты юнгер із імі начальнік. І было гэтым усем строгая служба, так што вынесці невазможна. Потым яны сабіраюцца ўбяжаць. Юнгер ім гаворыць:

— Будзем служыць: ці худа, ці добра, будзем служыць!

Потым не ўсовесціў ён іх, і ўсе разам пайшлі. І ён з імі. Ішлі яны лесам усё, так што яны самі заблудзілі. Пушча гэта вяліка, ім невазможна было нікуды выбіцца на пуць. Не стала ў іх пішчы ўжо нічога. Ішлі, значыцца, яны дзевяць дней па лясу, цяпер ужо на дзесяты дзень без пішчы яны жыць не могуць. Што яны прыдумалі сабе? Прыдумалі аднаго з іх страбіць па вочарадзі ды згатовіць, бо нечага есць. Адзін із іх дзісьвіцельна, юнгер гэты, гаворыць ім:

— Так як вы шчытаеце мяне большага, дык я саветую вам: прайдзём яшчэ дзень так — можыць быць бог дас[ц]ь!

— Ды мы то цябе і не трэбуем, мы цябе і пачытаем за старшага! Мы вазьмём із нас дзесяці аднаго!

— То абаждзіце,— ён гаворыць,— я ўзлезу на дзерава, паляджу — ці не відаць дзярэўні!

Ну, ён узлез на дзерава, нічаго не відзеў. Потым злез з дзерава і сказаў ім, што відаў дзярэўню:

— Дык вот за мной пуць дзяржыце. Прайдзём яшчэ дзень, вот у дзярэўню прывяду я вас!

Ён гэта абмануў іх, штоб нікога не губіць,— ён нічога не відзеў. А потым яны паслухалі яго: дзень ішлі. І апяць жа занялісь:

— Мы няскора прыдзём, загубіць нада!

Потым ён:

— Пагадзіце, я яшчэ раз узлезу на дзерава, паляджу!

Самае высокае выбраў дзерава і палез — яны яго паслухалі. Узлез і відзіць што-та такое, нязвесна што: лі камень, лі дзяраўня, лі горад якей — нязвесна што, толькі відно далёка! Ён злез з дзерава і гаворыць:

— Відаць, братцы, пастройкі! Скора прыйдзем!

А ён сам не знаў, што, але ён гаварыў, штоб яны не губілі. Яны яго паслухалі. Потым прайшлі другія суткі пасля гэтага. Гэта ўжо адзінаццаць сутак. Усіх адзінаццаць дней ішлі ўсё пашці без пішчы, толькі на первы дзень была пішча, а то ўсё без пішчы.

Потым увайшлі ў горад; гэты горад завален камнямі. І людзей няма ў гэтым горадзе, толькі заметна, што горад. У канцы найшлі яны адну старушку ў вызьбушцы. Яны зайшлі к гэтай старусе, паздраствуваліся то і распрашыюць у яе:

— Што гэта такое здзесь было?

— Гэта,— гаворыць,— быў здзесь горад, і магучы быў горад!

— Адчаво сычас нет? Што і папішчавацца нейдзе?

— Ах,— гаворыць,— гэта нячыста сіла забраў гэты горад і аплінтаў яго — толькі я адна асталася.

— Няможна лі ў вас, цётушка, пакарміцца? Мы адзінаццаць дней як елі, паміраем галоднай смерцю.

То старуха іх дзісьвіцельна пакарміла, якая ў яе там здобыч, тую пішчаю пакарміла іх. Потым яны паблагадарылі ей, потым спрашуюць у яе:

— Нет лі тут яшчэ каго жывога? Укажыце нам!

Яна ўказыець ім:

— Ес[ц]ь,— гаворыць,— собственна царская доч: вот там,— гаворыць,— на полі ў стоўбе замурана!

То пайшоў к ёй юнгер. Прыходзе к стаўбу і вызываець:

— Здраствi, ваша анпіратарства вялікае!

Яна гаворыць:

— А здраствіце! Госпадзі! — гаворыць,— адкуль вас бог сюда ка мне прынёс?

— Мы,— гаворыць,— убяжалі з такога-то царства, прызнаёмся,— гаворыць,— сваім грэхам!

— А,— гаворыць,— слава ж богу! Я і сама адтуль, цара гэтага доч! Вы,— гаворыць,— пры поўнай службе?

Гаворыць:

— Пры поўнай!

— Папрашу я вас, саслужыце мне службу, што я вас застаўляю: пастаўце на такіх-то вуліцах трох чалавек салдатаў

усе ўрозь — штоб усю ноч прастаялі, штоб нічога нікому не гаварылі, якое начальства ні будзець яўляцца, штоб не 'твячалі яму нічога, штоб маўчалі.

Так ён і здзелаў: паставіў іх на гэтых вуліцах і прыказаў строгую службу:

— Хто ні будзець яўляцца вам з начальства, што ні будзець спрашываць вас, не гаварыце нічога! Маўчыце!

То так ёс[ц]ь. Серадзі ночы яўляецца ім палкоўнік, з каторага палка яны ўцяклі:

— Ах,— гаворыць,— ты, Ермалаеў, чаго ты ўбяжаў ад мяне? Думаў, я цябе не найду? Не! Я цябе найду і ў вадзе!

Ён разныя ўгрозы яму дзелаў, сабляю галаву яму адсякаў,— но ён нічога яму не 'твячаў па прыказанню свайго юнгера. Потым і к другому з такымі самымі ўгрозамі. І гэты нічаго не 'твеціў. Потым ён к трэцяму, тожа з такымі самымі ўгрозамі. І тэй нічога яму не 'твеціў. Ну, петухі запелі — гэтага нічаго не стала. А гэты быў нячысты дух, ідал, будта ў розыйскі за імі пусціўся. Гэты нячысты дух у канцы веку ўкраў у гэтага цара доч і ўнёс у свой горад, заваліў гэты горад, штоб нікаго не было, штоб, значыцца, яна адна толькі была. Яна не хацела здавацца ў іх веру, дык яны яе ў стоўб замуравалі, сказалі ёй:

— Здайся нам, дык ты асвабадзішся!

Ну, яна не сагласілася; яны яе ў стоўб замуравалі і сказалі:

— Пакуль тваё вайска не будуць здзесь, патуль ты не асвабадзішся!

Ну, а цяпер, як прыйшлі яе вайска і саслужылі ёй службу, дык яна груддзю стала вон.

Дык яна прызвала юнгера, паблагадарыла яму, што ён прыказаў сваім салдатам саслужыць службу.

— Ну і цяпер,— гаворыць,— адслужыце мне другую службу, ужо стражэйшую: штоб усю ноч не спаць і што будзець вам генерал яўляцца, нічаго не гаварыце!

Ну, ён прызваў салдатаў, паставіў іх па тых вуліцах, па каторых яна ўказала, і прыказаў ім:

— Будзець вам яўляцца начальнік тожа строгі, тожа нашага палка, і будзець спрашываць: чаго вы ўцякалі, зачым? Будзець вам ссякаць галовы, ну вы не страшыцеся гэтаму, не 'твячайце яму!

Усерадзі ночы явіўся ім генерал:

— Вы,— гаворыць,— чаго ўбяжалі, машэннікі вы, такея вы, чаго вам не хватала, чаму вы мне не жалавалісь?

І многа чаго... Яны маўчаць, нічаго яму не 'твячаюць. Потым ён усіх трох гэдак аб'ехаў, і нічаго яму ніхто не 'твеціў. Потым запеў пятух — і нязвесна ідзе дзеўся іх генерал. Яны з часоў сыйшлі. І яна аслабанілася па калені.

Пайшлі яны к старушцы тэй, у выйзбушку — іх там кварцера. Потым, утром на трэці дзень, трэбуець царэўна юнгера апяць:

— Ну, благадару цябе, юнгер, за тваіх дзве службы, што ты заставіў сваіх салдатаў, саслужылі верна! Цяпер саслужыце яшчэ трэцюю строгую службу! Ужо тут некаторым быць ужо нежывым! То ўжо будзець сюды сам цар. І первага ў такіх-то вуліцах прайдзець, і ўтарога прайдзець, а трэцяга зрубіць! То вы вазьміце сцаленныя вады (указала ім тое места, там у вулушцы ў крыніцы) і гэтаю вадою памачыце рану тую, і яны ажывуцца!

Ну, так жа на трэцюю ноч юнгер паставіў трох салдатаў на паказаных вуліцах і прыказаў ім строга:

— Не гавары нічога, хаця і сам цар явіцца, ну не гавары нічога!

То й яўляецца дзісьвіцельна ноччу сам цар із саблею. Перваму гразіў, саблею махаў, па імені называў, ну, а ён ніча не 'твеціў. Так і к другому з тымі самымі ўгрозамі. Ну, салдат, нічаго не рабеўшы, іспалняў службу па прыказанію юнгера. К трэцяму пад'язджае ён, стаў угрозамі:

— Ты,— гаворыць,— зачым сюды ўшоў?

Ён, не тарапляся, нічога яму не 'твеціў па прыказанію юнгера свайго. Ён тады зрубіў яму голаву. Прапеў пятух — яго не стала, нязвесна, ідзе ён і дзеўся. Адкрываецца ў горадзе шум, адкрываецца таргоўля, усё, і царэўна тройкаю па гораду пракатыецца. А гэтыя два часавых, жывыя салдаты, узялі жывой вады ў тэй крыніцы і памачылі яму, гэтаму ўбітаму, рану. І стаў ён жывы. То царэўна ўжо спрасіла іх усіх к сабе ў палаты — яна ўжо ў палатах стала. Цяпер яна іх наставіла ўсіх начальнікамі: каторы гараднічы, каторы станавы, каторы следавацелем, і ўсіх папрыдзяліла начальствам у гэтым горадзе, а юнгера аставіла так, нічым. Юнгеру гаворыць:

— Ну вы, юнгер, саслужыце мне цяпер самы службу, каторую я вам укажу! Вы,— гаворыць,— будзьце ля гораду на масту часавым, і хто не будзець вам што даваць, не бярыце, будзець гаварыць, спрашываць — вы нічога не 'твячайце, пакуль сама буду ехаць з гораду, значыцца, к свайму бацьку!

Ён тады на мосцік на гэты, служыць там. Тут хатка ля мос-

ціка. Тут капелія вядзецца, там пляскі, ігры,— ну, ён нічаго не слухаець. Стольکі яму часоў назначана было, і царэўны нету, а часы праходзяць. Нясець старычок кукшын з вадою, а яму піць больна хочацца, так што ён не можаць і выцерпець. І гэты старычок гаворыць на юнгера:

— Вазьмі гэтыя вады хлябні, а то я бачу твае ўста ўжо зараслі!

То ён паслухаў яго, узяў, глынуў раза два, так і заснуў смертным сном. Едзець царэўна на гэтых парах, як ён заснуў. Будзіла, будзіла яго, крычала, нічаго ён не ўвазнаў, не разбудзіла яго, варацілася ў горад назад. Толькі як яна варацілася назад, ён прачхнуўся. І бегаець мальчык. Ён спрашыець у гэтага мальчыка:

— А што? Тут быў хто-небудзь кала мяне?

Гаворыць:

— Была царская пралётка [redacted] царэўнаю!

— Куды ж яна ўшла? — спрашыець.

— А,— гаворыць,— назад у горад, вас не разбудзіла!

Ён узяў адправіўся к ёй, пайшоў.

— Ну,— гаворыць яна,— жалею цябе, юнгер, ды астанешся ты тут, без усякага паследства! Як вы не споўнілі майго прыказанія? — гаворыць.— Ідзі гэта ўжо на другую дарогу, ідзі ды стой, нікому нічога не гавары! Я буду там ехаць!

Ён апяць стаў на часы на мосціку, апяць служыць. Многа ўжо часы праходзяць. Бяжыць мальчык, нясець у карзінцы яблычкі і гаворыць:

— Вазьміце, гаспадзін юнгер, яблычка, закусіце, а гэта нічаго не значыць, што царэўна там гаварыла!

Ён узяў гэта яблычка, закусіў. Як закусіў, так і заснуў. Сычас едзець царэўна. Многа яна будзіла яго, ну нічога не здзелала, ніяк не разбудзіла. Вярнулася апяць у свой горад. Ён апяць, як яна ўехала, ён сычас прачхнуўся. Там мальчык кала яго бегаець, гуляець.

Ён спрашыець яго:

— Быў хто тут ля мяне?

— Была,— гаворыць,— царская пралётка з царэўнаю. Многа цябе будзіла, і ты не прачхнуўся, яна ўехала назад у горад.

Ён апяць заплакаў із горасці сваёй, апяць пайшоў к ёй. Прыходзе к ёй, яна на яго стала, канешне, сварыцца:

— Ах,— гаворыць,— жаль мне цябе, юнгер, як айца свайго, што ты асвабадзіў мяне ад усіх наказаній маіх! Ну,— гаворыць,— ідзі на гэты самы мост, сматры і служы строга часы,

нікуды не глядзі, ні з кім не гавары, не слухай капелій ніякіх, дык я цябе вазьму ў сваё царства, і ты будзеш маім другам. А калі,— гаворыць,— не саслужыш правільным, дык астанешся тут, і не быць табе дома нікагда!

Ну, ён паплакаў-паплакаў, пайшоў на сваё места. І думаець: «Госпадзі! Што гэта такое са мною?»

А гэта яго злэя духі іскушаюць, што ён паўрадзіў іх. Ну, пайшоў ён трэці раз, стаў на службу. Хадзіў, хадзіў па гэтаму мосціку, ужо праходзяць яго часы. Слышыць ён, у гэтай хатцы такая капелія, што не можыць растрацца з ею. І прыглашаюць яго туды, у капелію ў гэту:

— Пажалуйце, гаспадзін юнгер, ка мне!

Выходзіць барышня і кажыць:

— Там у нас,— гаворыць,— людзі такея ажыдаюць вас! А царэўна яшчэ,— гаворыць,— няскора будзець ехаць! Мы,— гаворыць,— знаем, чаго вы ажыдаеце!

Ён думаў многа, раздумаўся, паслухаў гэтыя барышні, пайшоў у хатку: «Дай, думаець, схаджу палюбапытствую: а можыць, у самым дзеле царэўна няскора будзець ехаць!»

І пайшоў. І потым выпіў румку віна. Як выйшаў на мосцік, так яго хмель абраў, і ён заснуў на гэтым мосціку трэцім разам. Прыязджаець апяць па трэцяму разу царэўна ў сваей пралётцы-карэце. І апяць будзіць яго стала. Многа яна будзіла, аднака не разбудзіла. Узяла павесіла імянённыя часы яму і палажыла ў карман яго кашалёк з золатам. Папрашчалася з спяшчым, заплакала і паехала, значыцца, ужо ў сваё царства — ужо ў горад не вярнулася. Як яна ўехала ад яго, ён там часы чараз тры апрачнуўся. Бегаець мальчык гэты па мосціку. Ён спрашыець яго:

— А што,— гаворыць,— быў ля мяне тут хто ай нет?

— Была,— гаворыць,— собственна царэўна; будзіла вас, дайжа плакала, штоб вы ўсталі, вы не праснуліся!

Тады ён спрашыець у мальчыка:

— А цяпер раскажыце мне, куды яна ехала?

— А ўехала,— гаворыць мальчык,— на мора, караблём у сваё царства паехала!

Ну, ён цяпер плакаць начынаець:

— Ну, я цяпер пагіб, не паставіла яна мяне нічым!

Яўляецца к яму старычок:

— Паслухай,— гаворыць,— малады юнгер, чаго ты так скучаеш?

— Да вот,— гаворыць,— як жа мне не скучаць: мне нада

было ехаць з царэўнаю, а цяпер яна ўехала ў сваё царства, а мяне пакінула.

— А вот што,— гаворыць старычок яму,— ідзі на горад і купі човен, то мы іх нагонім!

— Да,— гаворыць,— дзенег нет!

А старычок гаворыць:

— Палядзіце ў кармане, у вас яшчэ залатэя дзеньгі есць.

Ён палядзеў — дзісьвіцельна: у яго кашалёк з залатымі дзеньгамі, дзенег многа! Ён узрадаваўся. Пайшоў на горад купіў човен, прывёз к берагу яго, к мору.

— Ну,— гаворыць,— дзядзюшка! Я купіў човен, купіў і прывёз.

Старычок кажыць на яго:

— Да, вот цяпер і паедзем!

Гэта ж дзеецца дня тры спусця, як яна паехала, пакуль ён справіўся. То старычок гаворыць:

— Ты лажыся ніц у човен, штоб табе не было страшна, што, канешна, волны, а ■ паганю човен!

То ён лёг ніц, старычок гэты пагнаў човен. Праехалі яны нямнога, старычок спрашыець у юнгера:

— Палядзі,— гаворыць,— што дзеецца цяпер адзадзі і што і ўперадзі!

Ён устаў, абыкнавенна, палядзеў: адзадзі нічога не відаць, а ўперадзі будта муха калышыцца па мору. А гэта ён увідзеў караб. Тады старычок гаворыць:

— Лажысь узнова!

Ён апяць лёг. Цераз якіх-небудзь два-тры часы і ён аявіўся ў сваём царстве, яе апярадзіў. Выгрузіўся на бераг ужо ў сваём царстве. Тут ён распрашчаўся са старыком з гэтым, каторы ў чаўне яго гнаў. Цяпер ён зайшоў у царскі трахцір і спрашыець царскага трахцірщчыка:

— Ці няможна мне наняць у вас кварцеру?

— Да,— гаворыць,— не знаю: здзесь царская хамілія часта прыбываець. А праўда,— гаворыць,— ёсць у мяне там баковачка вакном у сад, то там можна памясціцца.

Ён заплаціў яму дорага, і ён яго пусціў у тую баковачку. Потым ён пайшоў у сад царскі прахадзіцца, паглядзець. Находзіць у царскім саду — ляжыць нежывы багатыр: у яго глаз ад глазу на цэльны аршын — такей агромны. Прыходзіць у трахцір і спрашыець трахцірщчыка:

— А што,— гаворыць,— гэта ў вас у царскім саду ляжыць за чалавек? Такей агромны?

— А гэта,— гаворыць,— багатыр ляжыць нежывы!

— А чаго ж ён,— гаворыць,— памёр?

Гаворыць:

— Гэта нячыстая сіла дванаццаць галоў паразіла яго і ў гэта ўрэмя ўзяла царэўну ад нас!

Гэты юнгер гаворыць:

— Што жа вы яго не схаранілі да гэтых пор!

— А,— гаворыць,— не знайшоўся ніхто яго схараніць, што ён так агромен!

То юнгер, даждаўшы вечара, адправіўся на горад, наняў залатога масцера, дагаварыў яго выліць гроб залатэй на гэтага багатыра, труну. Гэты выліў гроб, і здзелалі паграбенія ў вадну ноч. Так ім лёгка паказалася, як будта самы лёгкі чалавек. І пайшоў юнгер у свой трахцір, схаранёмшы, і прыспакоіўся, знацца, лёг аддыхаць спакойна. На другую ноч падходзіць пад вакно і гукаець трахціршчыка нязвесна хто:

— Вышліце мне віноўнага!

Трахціршчык думаў, думаў: хто тут віноўны? А потым уздумаў на юнгера: верна, юнгер віновен! Ён узяў выслаў гэтага юнгера:

— Ідзі,— гаворыць,— цябе гукаець нязвесна хто!

Ён адзеўся і выйшаў.

— А,— гаворыць,— здраствi, маладэй юнгер! Благадару цябе, што ты схараніў цела маё! Ляжала яно ў нас доўга, ніхто ва ўсім царстве не найшоўся схараніць яго, акрамя цябе! Хадзі,— гаворыць,— за мной: адблагадару і я цябе!

Павёў яго ў гару, у землю, аддаў яму сваё кап'ё, аддаў яму сваю лошадзь, даў яму сілу нібкнавенную, што яшчэ сільней, як ён сам! Адправіўся юнгер на сваю хварцеру. То ў гэта ўрэмя аяўляецца тая самая царэўна, выгрузілася на бераг. Цар, відзеўшы, што яна ўжо выгрузілася на бераг, хлак выбрасіла вясёлы і паслала веставога к цару:

— Што,— гаворыць,— ваша доч явілася як з таго свету: штоб прыслалі карэту пад мяне!

А гэта прайшло тры гады. А ён пераехаў цераз тры часы гэта ўсё; цар з радасці з сваёю войскаю сам адправіўся на бераг. І прыехала яна з айцом у палаты свае. Так, як у вясёлым рассудку, пайшлі па саду прагуляцца. Дай зайціць у трахцер, ідзе гэты самы юнгер. Спрашыець царэўна ў трахціршчыка:

— Нет лі ў вас часоў, пасматрэць, каторы час, я свае забылась?

Гаворыць:

— Ёс[ц]ь у мяне тут на кварцеры чалавек, у яго ёс[ц]ь часы.
Яна гаворыць:
— Пазавіце мне яго сюда, штоб мне пасматрэць!
Трахціршчык вызваў яго. Выскакыець ён з часамі:
— І вот,— гаворыць,— сматрыце!
У сваіх руках дзержыць. Яна пасматрэла на часы і ўзнала, што гэта яе імянённыя часы, што яна аддала юнгеру. І думаець: адкуль жа яны ўзяліся?
Спрашыець у трахціршчыка:
— Даўно у вас кварцірант гэты?
Трахціршчык гаворыць:
— Тры гады пражываець, у таком-то чысле явіўся.
Яна думаець: у гэтым гаду я аддала іх! Прыдумалася ёй: не, думаець, не мае часы. Потым вялела свайму бацюшку ўзяць гэтага юнгера на канюшню. Яго ўзялі на канюшню. Цераз сколькі ўрэмя змей гэты, нячыстая сіла, пішыць гэтаму цару: «Аддай мне дачку, узнова іду на цябе біцца і забяру тваё ўсё царства!» Думаў гэты цар: жалка дачкі! І ўзяў напісаў: «Ідзі сабе, не дам дачкі!» Потым ён, гэты змей, яўляецца адтуль. Цар канешна сілу выстаўляець, сабе думаець: «Нічога не будзець!» А гэты сабе юнгер думаець:
— Пагадзі ж,— гаворыць,— я ж з табою цяпер буду драцца!
Узяў сваю лошадзь, кап'ё і сеў на лошадзь, адправіўся. І даганяець войску царскую і апярадзіў яе, яго жа ніхто не ўзнаў, хто ён такей. І прыязджае к яму, к змею. Начынаюць драцца. Так ён яму зразу зняў яму шэс[ц]ь галоў. Змей гаворыць:
— Стой, маладэй юнгер! Цары-каралі б'юцца і то аддышку маюць, а мы з табою не маем!
А ён атвеціў:
— Ну, пушчай сабе, аддахнём!
Даў аддышку на чэцверць часа. Аддахнулі і давай узнова біцца. Біліся доўга, ён дзве галавы зняў. Тады змей просіць узноў аддышкі.
— Нет,— гаворыць,— не дам я цяпер табе аддышкі!
— Хаця жа пусці мяне назад! Я з табою нікада не буду драцца!
— Не! Я цябе, нячыстая сіла, не пушчу аднаго часу: тут ці мне смерць, ці табе смерць!
І началі апяць біцца. Ён яму сарваў чатыры галавы, а змей яму ікру вырваў. А царэўна кроў платком завязала. Ну, ён яго

пабіў і спаліў.•Сеў на лошадзь і паехаў. І стракаець вайску царскую. Гаворыць:

— Пагублен ужо, нет яго! Пагублен і спален!

Потым падняўся на лошадзі вісока і паляцеў. Прыляцеў, пусціў сваю лошадзь куда ён знаў, сам лёг на койку аддыхаць. Так, як заснуў багатырскім сном, спаў трое сутак і не прачынаўся. То пайшла раз царэўна ў канюшню чаго там і спрашыець у старшага кучара:

— Быў лі дзе твой млады юнгер?

— Не,— гаворыць,— нідзе не быў, а спіць — трэці дзень спіць!

То яна:

— Дай,— гаворыць, — нада [а]гледзець, жывы лі ён іли нег? Што ж у вас ніхто яго не [а]гледзіць?

Яна [а]гледзела яго, узнала платок свой на назе; паглядзела — на грудзях часы яе. Узбудзіць яго не ўзбудзілі. Яна адпраўляецца ў палату. Прасіла 'тца, штоб такога юнгера нада страціць з музыкаю, хлебам-соллю, патом што ён пабядзіў нагніцеля нашага змея. А мы не зналі! Када ён прачхнуўся, то стрэцілі яго з хлебам з соллю, з музыкаю, узялі яго ў палаты царскія. Потым гулялі многа ў палаце царскай. Цяпер царэўна пажалала і выйці замуж за яго, што ён два разы яе памілуваў. І прызнаўся ён, што яна падарыла яму часы. І выйшла яна за яго замуж. І быў пір як нікалі́.

## 10. АБ КРАЛЕУНЕ, ЗАКЛЯТАЙ У ЖАБУ

Было ў аднаго гаспадара трох сыноў, так ён кожнаму даў па стрэльбе да й кажа:

— Ну, хлопцы, ідзеце на паляванне!

Пайшлі яны. Ну, так тых двох страляюць стрэльбы, а таго меншага не; так то ён узяў яе да ў луг укінуў. Прыходзіць да братоў да й кажа:

— Так і так — я стрэльбу сваю ў луг укінуў, бо не хоча страляць.

А тыя кажуць:

— Якая яна есць, то есць, калі бацька даў, то дзяржы.

— Але, — ка[жа], — праўда, браткі, — і пайшоў па тую стрэльбу. Прыходзіць, ажно на ёй сядзіць не[й]ка жаба да й кажа:

— Калі возьмеш мяне за жонку, то аддам стрэльбу.

Так ён німа рады:

— Вазьму,— кажа.

Тады яна і аддала яму тую стрэльбу. Ну, прыходзіць ён дахаты, ажно на акне сядзіць жаба! А! Што тут рабіць?! Пайшоў ён да ксяндза, ксёндз кажа:

— Даў слова, німа рады, жаніся!

Так ён гэта і ажаніўся з ёю. Бало, як удзень, то яна жаба, а пад вечар харошаю паненкаю стане, да й то расказала яму, што яна была кралеўнаю, але яе адна ведзьма закляла. А браты яго былі ўжэ жанатыя, да й то як надышлі мяніны бацька, так тыя напяклі пірагоў і паслалі, а ён кажа да яе:

— От, братавыя пірагоў напяклі і паслалі бацьку, а ты што зробіш, калі ты жаба?!

— Не бядуйся, купі анно мукі.

Ну, так ён і купіў мукі, а яна спякла пірагоў яшчэ лепшых, як тыя, да й то паслала. Бацька дзівам дзівіцца, што жаба такіх пірагоў напякла!

На другі рок, на мяніны, зноў тыя паслалі па кашулі бацьку, так ён прыходзіць да яе і кажа:

— От, тыя прынамсь па кашулі пашылі бацьку і панясл, а ты, падло, што, калі ты жаба!

— Не бядуй,— ка[жа],— анно купі плаценка.

Як купіў, яна то хутчэй пашыла да й кажа:

— Ты ідзі цяпер, а я зараз прынясу.

Той пайшоў, сядзяць, гавораць, ажно зямля застагнала; заехала каляска, коні белыя, харошыя, з яе выйшла кралеўна, яго жонка, да й аддае бацьку кашулю. Так ён гэта дахаты, бачыць, ляжыць той жабячы вылупак, так ён яго ў печ, і згарэў. Утом яна ўлятае:

— Ах, ліхачко! А тож анно тры дні яшчэ была б заклята, а так, калі мая скура згарэла, няхай і я згару!

І гэта ўскочыла ў печ і згарэла.

## 11. ЗАКЛЯТАЯ ПАНЕНКА

Было ў бацька тры сынэ: два разумныя, трэці дурань. Ім бацька сказаў пушчаць галкі, дзе каторага падзе, адтуль узяць сабе паненку. Так у двух палі галкі ў пакоях, а трэцяга ў балоце, у жабы ў роце. І ўсе тры пажаніліся. Так цяпер ім сказаў бацька, каторая будзе лепшая гаспадыня.

Сказаў ім напячы пірагоў, каторае будуць лепшыя пірагe, так будзе тая гаспадыня. Так гэтыя такіх пірагоў добрых напяклі, а гэтая жаба ўзяла рашчыніла рашчыну, і выкруціла ў печы дзірку, і паліла рашчыны, так яе былі лепшыя пірагe ад тых. Дак ім цяпер сказаў бацька пашыць настольнікі. Каторае будзе лепшы, тая будзе гаспадыня. Так усё тае жабы лепшае, пірагe і настольнік, так ужо астаецца тая жаба за гаспадыню. А як яна рабіла настольнік, адрэзала палатна, і пасекла на кусочкі, і ўсыпала на двор, выпусціла чараду цялят, і патапталі цялята, і памясілі. Так як выйшла тая жаба, як дзьмухнула, так зрабіўся настольнік харошшы, як тых дзвёх.

Так дзе то іх паклікалі на вяселле і пасадзілі за стол. Так яны пілі водку. Як прыйдзе да яе водка, дак яна не п'е, выліе ў рукаў, махне на сцэ́ну, для яе робіцца сцяна залатая. Як возьме закусіць, так не есць, а кладзе ў рукаў, махне на сцэ́ну, на сцяне робяцца залатыя квяты. Так яны нагледзелісь на яе, дак яны сталі гэдак рабіць. Так яна загневалась, стала ўцякаць:

— Нашто маё перарабляюць!

Так яны сталі яе прасіць, каб не ўцякала, каб пабыла на вяселлі. Даў бог ноч. Так узяў ад яе мужык адкраў гэты жабі тулуп. Так яна была такая паненка, толькі заклята. Яна шукала нарана свайго тулупа, і ўсе ўжо паўставалі, так яна стала пытацца:

— Ці не бачыў хто майго тулупа?

Мужык прызнаўся, што спаліў. Так яна яму сказала, што будзеш шукаць дванаццаць год і дванаццаць паўгодаў, і дванаццаць месяцаў, і дванаццаць нядзель, і дванаццаць дзён. Будзе на моры вутка і будзе ў вуткі яйцо. Так ён хадзіў дванаццаць год, усё сваё адхадзіў. Найшоў гарла, прасіў, каб гарол злавіў яму тую вутку і раздзёр на моры. Упала яйцо ў мора. Так ён прасіў усех ракаў, каб вынеслі яму яйцо. Яму вынеслі. Ён разбіў і дастаў з таго яйца сваю жонку, і з ёю жыве цяпер. Усё.

## 12. РАЗВАЛІГАРА, ВЫРВІДУБ ДА Й КРАЛЕЎНА-ЖАБА

Адзін хлопец не меў з чаго жыць, так пайшоў у свет. Ідзе, так ідзе, анно ж бачыць, бяжыць не[й]кі стары чалавек і схаваўся за дуб, да то нібавам ляціць за ім двох такіх здаровых

хлопцаў: адзін — Развалігара, другі — Вырвідуб да й пытаюць у яго:

— Чалавечку, не бачыў ты тут дзеда ўцякаючы?

— Ля! Бачыў, ун дзе,— ка[жа],— між гэтым дубам і гарою сядзіць.

Так Вырвідуб даляцеў да дуба, парваў аднаею рукою, вырваў з коранем, як махануў, так нівядзь дзе паляцеў! Анно ж бачаць, нара ў гару ідзе пад тым дубам! Ну, так то Развалігара прыскочыў, развярнуў, як купінку, гэту гару, ускочыў у яму і дастаў за бараду старога.

— Ну,— кажа,— ужэ ты тут не будзеш жыў!

Той хлопец падышоў: так, як тыя адвярнуліся, стары шэпча:

— От праз цябе мяне нявіннага яны заб'юць.

Той думае: «Мо гэта і праўда», — так кажа да тых:

— Вы ідзеце па агонь, а вы есці прынясеце, а я яго такі тут прыпілную.

— Добра.

Тыя паразбягаліся, а ён кажа да старога:

— Ну, дзедку, уцякай жа ж!

Так дзед кажа:

— Дзякуй табе за тое, я табе нештась скажу. Зыдзі на гэту дарожку да ідзі проста, проста, як глянуць, дойдзеш да замку, у том замку нойдзеш аграмністу жабу, а гэта кралеўна заклята, то ты ці есці захочаш, ці спаць, ці што, то анно скажы, яна табе як бач усё зробіць.

— Добра.

Пажагналіся, стары як ні падыме полу, як ні пойдзе ў лес, а той таксама пабег. Нібавам і прыйшоў да таго замку, анно ж праўда, ляжыць жаба; так ён кажа:

— Ах, як мне есці хочацца!

Так жаба тая зараз шлоп, шлоп, шлоп, шлоп, папаўзла ў нору і выносіць на дзвёх лапах усякае ядзенне. Ён наеўся да й кажа:

— Ах, як мне спаць хочацца!

Жаба тая кіўнула на яго, завяла да харошага такога пакою, паказала ложка, а сама шалдык, шалдык і пайшла. Ён лёг, назаўтра зноў таксама, анно ж увечары з жабы стала хароша кралеўна да й кажа:

— Жанемся.

Ён:

— Добра.

Зараз гэта пажаніліся, так яна ўночы паненка, а ўдзень жа-

ба. Аднаго разу ён узяў і той жабячы вылупак спаліў, так яна:

— Ах! Божа мой, божа ж! І што ты зрабіў? А то ж мне трэба было яшчэ гэты дзень быць жабаю, а так мушу цэлы рок! — і згінула.

Ён на яе ў том замку такі ждаў, якраз у рок яна прыйшла і жылі ўжэ шчасліва.

## 13. ЦАРЭЎНА-ЛЯГУШКА

У некаторым царстве, у некаторым гасударстве жыў-быў цар. Было ў яго тры сыны: два разумныя, а трэці — Іван дурны. Калі сыны павырасталі, бацька даў ім па луку і страле і сказаў:

— Выйдзіце, сыны, з хаты і пусціце свае стрэлы. Куды паляціць страла, там і шукайце сабе жонак.

Сыны ўзялі стрэлы і пусцілі. Страла старэйшага сына паляцела і ўпала перад домам князя. Старэйшы сын пайшоў за стралой і ажаніўся з князевай дачкой. Сярэдняга сына страла ўпала перад домам цара. Сярэдні сын пайшоў за стралой і ажаніўся з царскай дачкой.

Страла меншага сына Івана паляцела прама на балота. Заплакаў меншы сын, але нічога не зробіш: раз бацька сказаў, то трэба тое і рабіць. Пайшоў меншы сын на балота, а балота такое вялікае, што ні канца, ні краю не відаць. Ідзець ён, ідзець, а балота нідзе не канчаецца. Ну,— думае Ванька,— не быць мне жанатым. Толькі раптам ён убачыў на купіне лягушку. Вось яна яго і пытае:

— Куды ты, Ванька, ідзеш і чаго шукаеш?

Ванька расказаў пра сваю бяду. Вось лягушка і кажа:

— Калі так, то я твая жонка. Твая страла прыляцела прама да мяне.

Тут Ванька як заплакаў ды і кажа:

— Што ж я буду рабіць з такой жонкай? Мяне ж усе людзі засмяюць.

Але лягушка гавора:

— Не бядуй, Ванька, не ўнывай. Я буду не горш за жонак тваіх братоў.

Прыйшлі ўсе сыны дамоў і пачалі хваліцца сваімі жонкамі. А Ванька сядзіць і нічога не гавора. Вось бацька яго і пытае:

— Ну, Ванька, што ж ты не хвалішся сваёй жонкай?

Расказаў Ванька пра сваю жонку, а браты пачалі смяяцца з

яго. Неяк бацька загадаў сынам прынесці ад сваіх жонак па ручніку. Вось старэйшы сын прывёз ад сваёй жонкі такі прыгожы ручнік, што проста вачэй не адвесці. Сярэдні сын прывёз яшчэ харашэйшы ручнік.

І зноў яны смяюцца з Івана:

— Ну, Іван, калі ж ты прывязеш ручнік ад сваёй лягушкі?

Вось ідзе Іван па балоце і думае:

— Што ж я прывязу дамоў? Ці ж лягушка вытча мне ручнік?

Увідзела яго лягушка і пытае:

— Чаго ты такі пахмурны, Ванька?

Ванька расказаў ёй пра загад бацькі. Лягушка сказала яму:

— Не бядуй, Ванька, будзе табе ручнік, толькі трошкі пачакай.

Пакуль Ванька туды-сюды агляныўся, прыносіць яму лягушка ручнік, ды такі прыгожы, што ні ў казцы расказаць, ні пяром апісаць. Прыносіць ён дамоў ручнік. Бацька як увідзеў, дык дзіву даўся: «Як магла лягушка такі ручнік выткаць?»

Вось бацька загадвае зноў прынесці ад сваіх нявестак па пірагу. Старэйшы сын прыносіць пірог, ды такі смачны, што нельга і расказаць. Сярэдні сын прыносіць пірог яшчэ смачнейшы. Ванька таксама пайшоў да сваёй лягушкі. Ідзе ён па балоце і думае: «Дзе ж мая лягушка спячэ пірог?» Але нічога не зробіш. Раз бацька сказаў, значыць, трэба выканаць. Увідзела яго лягушка і пытае:

— Чаго ты тужыш, Ванька, можа зноў што бацька загадаў?

Сказаў ёй Ванька. Лягушка і кажа:

— Пачакай трохі, будзе табе такі пірог, да якога не даставіцца ні адзін пірог жонкі тваіх братоў. Ты не бядуй, што я лягушка.

Вось скора яна яму прынесла такі слаўны пірог, што Ванька не мог нарадавацца. Прыходзіць ён дадому, а тут яго ўжо даўно чакаюць бацька і браты. Як убачылі яны пірог, то не маглі яны на яго наглядзецца. А як пакаштавалі, то не маглі надзівіцца. «Як гэта магла лягушка такі пірог спячы?»

Праз некаторы час бацька паклікаў сваіх сыноў і кажа:

— Знаеце што, сыны. Хачу я ўбачыць вашых жонак. Прывядзіце мне іх сягоння.

Паехалі сыны па сваіх жонак, а Ванька ідзе па балоце і думае: «Падаркі-то яна прыгожыя давала, але як я яе пакажу свайму бацьку? Браты прывязуць сваіх жонак у карэтах, а мне прыйдзецца ў начоўках цягнуць. Як я яе пакажу на свет?»

Сустракае яго лягушка і пытае:

— Чаго ты, Ванька, бядуеш?

Ванька расказаў пра загад бацькі. Вось яна яму і гавора:

— Не бядуй, Ванька, ідзі дадому, а праз некаторы час я прыеду адна. Вы мяне сустракайце.

Прыйшоў ён дадому, а старэйшыя браты папрывозілі сабе жонак, ды такіх прыгожых. Старэйшыя браты пачалі з яго насміхацца:

— Ну, чаму ж ты не прынёс у кішэні сваю лягушку? Ці можа згубіў на дарозе?

Маўчыць Ванька. Ну што ён можа адказаць братам? Праз некаторы час чуюць яны нейкі шум. Выскачылі на двор, аж бачаць — едзе карэта, запрэжаная дзевяццю konьмі. А карэта — уся залатая. Пад'ехала карэта да двара. Выходзіць адтуль царэўна, ды такая прыгожая — ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць. Дзе дзелася яе жаб'е аблічча!

Пайшлі ўсе ў хату. Тут пачаўся вясёлы пір. А царэўна-лягушка не піла, а вылівала ў правае рукаво, а костачкі клала ў левае рукаво. Тут пайшлі танцаваць. Царэўна-лягушка як махнула правай рукой — сіне возера, як махнула левым рукавом — лебедзі плаваюць на возеры.

Убачыўшы гэта, Ванька хуценька пабег на балота, забег у яе каморы, знайшоў там скуру лягушкі і спаліў яе, бо гэта скура была яе закляццем.

## 14. РАК-ЦАРЭВІЧ

Жыў сабе так хадзяін із хадзяйкай. І яны многа пражылі, а дзяцей не мелі. Ну, пайшла старушка зімным урэмем па ваду. Пачарпнула ваду вядзеркам, а рак у вядро. Яна яго вон, а ён:

— Не брасай мяне, я буду твой сын, будзеш шчасліва!

Ну, яна прыйшла дамой. Дзед гаворыць:

— Ля чаго ты прынесла рака?

На 'твет старуха сказала:

— Ён гаварыў, буду твой сын! Вазьмі мяне — будзеш шчасліва!

Старык даў на 'твет:

— І дзе ты відала, каб рак быў сын, і якое шчасце з рака?

Рак атвяшчаець дзеду:

— Не ўлякайся, я цябе буду зваць аццом! Прымем труд цяжолы, потым будзем мець шчасце!

Паначуваў рак, абагрэўся. І завець старыка аццом, старушку мацер'ю.

— Што,— гаворыць,— ацец і мацер, я вам скажу: ідзі-ка, ацец, к цару ў сваты!

— Як я пайду, я зусім не ўборан, стар!

— Нічаво, ацец, аб гэтым не ўнывай, гэта я буду ў атвецеl

Узяў старычок кіёчак і пайшоў к цару. Прыходзіць к царскім палатам, стаяць на калавуры салдаты.

— Куды, старык, ідзеш?

— Ды вот, іду к цару ў сваты за свайго сына!

Яго пад калавурам даставілі да цара. Цар спрашыець ужо:

— Што,— гаворыць,— хочаш, старычок?

— Ваша царство вялічаство, да вашай міласці: хачу засватаць вашу царскую доч за свайго сына!

— Очань, старычок, гэтым благадаран! Што ж я табе атвечу? Кагда ты хочаш узяць маю доч, дык ты будзеш мой сват, а сын твой мой зяць. Выстрай цяпер ад маéга дома і да сваéга мост харошы. І якей жа харошы: каб была масніца залатая і сярэбраная, тожа столб залатэй і сярэбраны. Ну, ежлі гэтага не ўпольніш за паказаны строк, то табе будзець тапор і плаха і на смерць белая рубаха!

Старык загаруваў, пайшоў. Прыхадзяшчы дамоў, набраніў старуху:

— Ля чаго ты несла нам бяду дамой? Мне абешчана тапор і плаха, на смерць белая рубаха за такую віну, што я й не відаў, а сказана мне здзелаць!

Гэта рак услыхаў:

— Раскажы жа мне, ацец, якая віна на цябе ўпадаець?

— А вот якая, ідзе гэта я магу здзелаць? Велена здзелаць ад нашага дома і да царскага мост харошы — залатая масніца і сярэбраная, залатэй столб і сярэбраны, і ў паказаны строк — а я йшчэ не знаю, длінен той строк ці мал!..

На 'твет даў рак:

— Ацец і маці! Лажыцеся спаць, бутра вечара мудраней — усё бог дасць!

Ну, уснулі крэпкім сном, ніхто нічаво не слыхаў. Выйшаў рак начою на двор, стаў пад святым небам, зняў ракавіну, засвяціў, як маладэй месяц, і крыкнуў громкім голасам:

— Эй, рыба і ракі, сабірайцеся да мяне ўсе: я вам закажу службу!

Ну, яны явіліся ўсе к яму і конна і пеша.

— От што я вам, брація, скажу: каб быў вымашчан мост к

ранню ад маега двара і да царскага харошы — залатая масніч-ка і сярэбраная, каб было красіва цару прагуляцца!

— Пастараемся ля вас, гаспадзін наш!

Павутру ашынаецца цар — асвяціла работа палавіну царства! Патом цар прыўзадумаў: «Што я, з кім гэта заняўся? Ліба ён са мной занімаецца? Ён жа быў стар чалавек і саўсім у ветхай адзежы,— а якія гэта заботы ён іздзелаў,— што крута і скора! Гэта к часці царскай вочань красіва!»

Павутру ашнуўся старык са старухай:

— Як гэта будзець цар у наш дом прыбываць? Наш дом драны!

Цяпер апяць рачэць рак:

— Ступай, ацец, к цару ў сваты!

Старык узяў кіёчак і пайшоў. Цяпер ідзець без забот і смяецца — па масту харашо іці. Прыходзіць к дому царскаму, у яго часавыя спрашуюць:

— Куды йдзеш, старык?

Сур'ёзна спрасілі ў яго. Ён на 'твет даў тожа сур'ёзна:

— Я іду к цару, я — царскі сват!

Ну, там палядзець на яго — у рубішчы ў гэтакім, у дрэнным!

Уходзяшчы ў палатку, старык сказаў:

— Здраствi, ваша царство вялічаство!

Цар на 'твет даў:

— Здраствi, сват мой! Міласці прашу ў палатку!

Прыказаў слугам паставіць стул радам із сваім стулам,— як вот мы з табой.

— Ну, будзем, сват, разгаварываць: свадзьбу нада дзелаць? Штоба прыгатовіўся харашо! Па гэтаму масту каб купы былі з разнымі напіткамі ля кожнага слупа, хто якей жалаець, той будзець піць; і каб ля кажнага слупа стаяла ябланка з злішнымі веткамі — бытта золата і серабро на іх, і яблачкі залатыя і сярэбраныя, і разныя хрухты; віна выпіць, яблачкам закусіць! Цяпер адпраўляйся дамой да свайго сына і каб гэта мне было сачыніта,— а то тапор і плаха, на смерць белая рубаха!

Апяць старык загаруваў, заскучаў, пайшоў. Прыхадзяшчы дамоў, набраніў старуху:

— Ля чаго ты прыносіла бяду дамой?

Потым рак услыхаў іхныя разгаворы:

— Эх,— гаворыць,— ацец і мацер, аб чом,— гаворыць,— скучаеце?

— Да як жа нам не скучаць? Дзе ж мы,— гаворыць,— набяромся?

— Ацец і маці! Лажыцеся спаці: вутра вечара мудраней — усё бог дасць.

Даў бог ноч. Ну, уснулі яны крэпкім сном. Ён выхадзяшча на двор, пад свята неба, збросіў сваю ракавіну на зямлю і засіяў, як маладэй месяц. Васклікнуў громкім маладзецкім голасам:

— Эй, рыба і ракі! Сабірайцеся ўсе да мяне!

Ну, яны і ідуць і ідуць — і конна і пеша.

— Што прыкажаце, гаспадзін наш?

— А вот што я вам скажу: к маёй свадзьбе прыгатаўляйцесь! Выбірайце па гэтым з мосту красату, устраівайце ябланы — залатая яблана і сярэбраная ля кажыннага слупа; на тых ябланах каб было прыкрашана, бытта залатое веццe і сярэбранае, залатое яблака і сярэбранае, залатыя купы і сярэбраныя, з разнымі напіткамі, залатэй стакан і сярэбраны, залатое блюда і сярэбранае,— затым, каб можна было прахожым людзём і праежжым што выпіць і закусіць!..

— Рады старацца, гаспадзін наш! Мы гэта іспольнім!

К вутру ўсё гэта явілась. Цар выходзіў і даляко прахаджуваў. Узяў рукою за сваю галаву сярэднім пярстом і падумаў: «Як гэта дзелаецца крута? Што ніхто не відзеў гэтай работы! І як па маём прыказу ўсё й сачыніта!»

Вутрам рак і гаворыць 'ццу і мацеры:

— Што,— гаворыць,— ацец-маці, няхай ацец ідзець у сваты к цару шчэ адзін раз — ён большы ўжо не пойдзець!

Ён узяў кіёчак і пайшоў. І рад, ідзець, ідзець да й віна пакушаець. Прыходзіць ка дварцу, у яго часавыя спрашуюць:

— Куды ідзеш, старык?

— Ды я,— гаворыць,— іду к цару! Я,— гаворыць,— царскі сват!

Ну, яго пад калавурам даставілі ў царскія комнаты.

— Здраствi, ваша царство вялічаство! Па-простаму, па-мужыцкі!

— Здраствi,— гаворыць,— мой сват! Прашу міласці ў палатку к сабе!

Прыказаў слугам паставіць стул радам са сваім стулам. Прыказаў свату, што пушчай твой сын сураджаець поезд і прыбываець сюды, тут будзем свадзьбу іграць! А сам ён міжда ўсіх каб быў верхавой, каб я міжда ўсяго поезду ўзнаў, каторы мой зяць!

Ну цяпер, прыхадзяшчы дамой, і сказаў сыну свайму:

— Прыбірайся заўтра ехаць к цару, і каб усе былі ў паяздах, а ты каб быў верхавой — каб быў знацен у ўсем поезду!

— Кладзіцеся спаць, утра вечара мудраней, трэба дзела спальняць!

Ночай яны палажыліся спаць, нічаво не слыхалі, а ён, выхадзяшча на двор, васклікнуў сваім громкім голасам:

— Эй, рыба і ракі, сабірайцеся на маю свадзьбу ўсе! Каб было ля мяне полк салдатаў украшанных і музыкі палкавэя, вашы нарады запражнэя, і ля мяне верхавая лошадзь увабраная!

— Рады старацца, гаспадзін наш! Усё гэта спольнім!

Сабраліся, украсілі ўсё сяленія. Старык са старухай — яны былі ■ такім умом — яны не рады і не спужаліся: што тут такое будзець?

Адпраўляліся ў пуць павутру. Прыязджаецць — аддавалі харошы хор і чэсць ля царскага дварца. Цар у вакошка прызнаваў сваега зяця. Прыказаў сваім слугам:

— А ідзіце таго верхавога пад рукі зніміце!

Слугі пайшлі, благародна яго знімалі, ну й уносілі яго на руках у царскую палату, садзілі яго на стуле з старшаю дочкаю.

Было ў іх гуляння дванаццаць дней — адкрытае таржаство па ўсім гораду. Ну, абручаліся законным бракам. І ўсіх не стала, усяго поезду, астаўся зяць адзін, як быў рак, так і ёсць, усё рак. І астаўся там жыць.

Цяпер, было ў яго, у гэтага цара, яшчэ дзве дачкі. Дык яны выбралі сабе зяцёў харошых, увабраных, разумных. І цяпер стацці такея, што яны сталі над ёй надругацца, што нашы муж'я харошыя, а ты-тку, большая сястра — і за каго ты выйшла!

А яна ім гаворыць, што ён, гаворыць, пры відзе народа дак ён рак, а як я начую з ім у пасцелі, дык ён не рак, ад яго ўся палатка ззяець, як ракавіну сваю знімець!

Цяпер яны падсаветавалі:

— Што мы,— гаворыць,— пастараемся, дык яе сажгём, ракавіну!

Ну, яны ўснулі, а тыя ракавіну ўкралі і сажглі ў прачашнай печцы, вядома, там агонь дзень і ноч гарыць. Ён са сна ўслыхаў смрэд. Ён спрасіў:

— Што такое за гэта смрэд?

Аж яна дала яму на 'твет:

— У нас у горадзе вапроў не смаляць днём, а смаляць начой, дык ад таго смрэд!

Ён прыхваціўся, аж яго адзежы нету!

— Ну, што жа,— гаворыць,— жана мая,— гаворыць,— мілая,

да ў раду паступіла ў глупую! Хто да мяне цяпер захочаць дайці, дык ён стопчаць трое ботаў зялезных, саб'ецъ тры кіі зялезных, за трудамі сваімі із'есць у харчах тры праскуры зялезных!

Ну, цяпер, сам выйшаў на двор днём, і ўсе яго відалі, што ён вочань красівы маладзец.

— Эй, — гаворыць, — сіўчык-бурчык, вешны калавурчык, стань перада мною, як ліст перад травою — служыў майму аццу, паслужы і мне малайцу!

Конь бяжыць, зямля дрыжыць! Прыбыў гэты лошадзь, паў на калены перад ім. Ну, ён бярэцца за грыву і садзіцца на спіну. І сказаў ён:

— Усе пращчай!

І вазняўся сам на ваздухах, кала ваблак хадзячых, і паехаў. Ну, а жана асталась.

Пажыла, пажыла, і стала ёй плахо без яго — сталі ўжо абіждаць яе. Яна стала скучаць сваему аццу, каб ён гэтыя вешчы ёй справіў: трое ботаў зялезных, тры кіі зялезных і тры праскуры зялезных.

Ацец і справіў ёй гэты вешчы, яна папрасіла благаславення:

— Благаславі мяне, ацец-маці, уехаць! — мне плахо жыць.

Яны благаславілі, яна і пайшла яго іскаць. Пайшла ў тую старану, куды відзела — ён паехаў.

Як іці, дык іці, як іці, дык іці, дужа доўга страждала ў сваём паходзе! Боты прыбіла, кіёк адзін ужо ізбіла, нарачонны хлеб зялезны, каторы муж сказаў, ужо з'ела — стаіць ёй на пуці дом. Абнімаець яе цёмная ноч. Стаіць у варотах вяльможа жэнскага полу.

— А здраствi табе, здраствi, праходжая! Кажацца, што гэта ты нашага брата жана? Трудна табе дабрацца да яго! Ну, прашу міласці к сабе паначаваць!

Яна нізка галаву скланіла і пайшла начаваць. Павутру рана ўставала і благадарыла на 'тходзе. Яна ёй, вяльможа, адаўжыла платочак:

— На вот табе платочак, ад большыя сястры падарак!

Гэты платочак вочань прыгож, разнымі цвятамі, бытта залаты, і серабром усаджаван, разным украшэніям. Яна палучыла гэты платок, лабзувала яго, як і свайго мужа. Патом паблагадарыла і адпраўлялася ў пуць.

Як іці, дык іці, як іці, дык іці — скора то гаворыцца, да трудоў многа прыняла: другія стаптала боты, збіла другі кій, з'ела і другі хлеб, ад мужа благаславенны. Патом апяць прыходзіць, на яе пуці стаіць дом, пачышчы шчэ й таго. Яе прысцігаець ужо

цёмная ноч; у варотах апяць стаіць жа вяльможа жэнскага полу, такога ж віду і ліца.

— Здраствi табе! — гаворыць. — Як бытта ты нашага брата жана і наша нявестка? Трудна табе дабрацца да яго. А тольні ўжо большы прастраждала, чым страждаць! Прашу міласці паначаваць у нас, аддыхнуць!

Прыюціла ў палаты, у дом свой, пакарміла, прыюціла на оддых. Павутру начлежніца ўставала, благадарыла, усердны атвет давала:

— Благадару вас за нашлег, за ваша ўгашчэнія! Вы мяне й прашчайце!

Яна:

— Вот,— гаворыць,— галубка, я табе дам падарак!

Яна ёй даравала падарак — шчотку, каторай учасуюць галаву. Яна вочань прыгожа, украшана красіва — там адно золата, адно серабро і разныя цвяты. Яна, палучыўшы гэты вешчы, і пайшла.

Доўга ўрэмя страждала яна — надзявала трэція боты, брала трэці кій у руку і начынала трэцюю праскуру ес[ц]ь. Доўга ўрэмя страждала ў сваім паходзе, мала оддыху мела,— як гэта скора сказуецца, ды не скора сачыняецца,— трэція стаптала боты, трэці аббіла кій, з'ела і трэці хлеб. Ёй на пуці быў апяць дом. Яна прыхадзяшча к дому, яе абнімала цёмная ноч. Так у гэтым доме, у варотах, стаяла вяльможа жэнскага полу. Увазнала яе.

— Здраствi,— гаворыць,— правукрасная царэўна! Даўно страждаеш, галубка! Заўтра свой страд паконьчыш! Прашу міласці ка мне паначаваць, нявестка наша, нашага брата жана!

Прыюціла яе ў палатку, накарміла, прыгласіла яе на воддых. Назаўтрага яна ўставала і спяшыла ў пуць. Яна ёй дала падарак. Дала ёй кудзелечку і праслічку і верацёнца.

— От,— сказала,— узыйдзі ў горад і сядзь на базары, рассцялі платочак, ад большыя што сястры падарачак, і пастаў на платочку шчотку і прадзі сама кудзелю. І будзець іці са слугамі вяльможа, жэнскага полу. Ёй вешчы гэтыя дужа ўпадабаюць. Яна будзець іх таргаваць. Ну, яна будзець табе цэны даваць прэждзе сотні — ты не саглашайся, потым будзець даваць тысячы — не саглашайсь, ты не хаці нічаво! А мей дагавор: з яе панам за вешч ноч начаваць. Яна ўсе тры вешчы ў цябе возьмець. А ты ні на вошта больш не саглашайся!

Яна падзякавала і пайшла. Прыходзіць у горад, прыюцілась серадзі базару — дзень быў пагодлівы — яна распалажыла свае

вешчы: платочак разаслала, шчотку паставіла на платок, стала работай занімацца,— кудзелечку прадзець! Потым павудзенныя лі часы, ці якія — гэта не паказана — хадзіла вяльможа па базару, са слугамі. Прыхадзяшча к ёй, сказала:

— Здраствi [табе]! А што, галубка, прадасі ты мне свае вешчы?

А йна на 'твет спрасіла:

— Каторую вы жалаеце?

— А мне вот унаравіўся платочак! (Платок напярод падарован.) Што табе даць за яго?

Яна на 'твет адказала:

— Я нічога не хочу!

— А як жа ты — дарма аддасі?

— Не, я дарма не дам!

— Ну, што ж ты хочаш?

— А я хочу із вашым панам ноч начаваць!

— Ах, якая ж ты бяссовесная! Што табе за польза з панам ноч начаваць? Я ж дам табе сотню дзенег за яго. Гэта будзець табе пальзіцельна!

Яна на 'твет дала, што а я не хачу!

Яна ад яе адышла, пахадзіла, пахадзіла — скушна стала.

— Не магу растрацца з гэтымі вяшчамі. Ну, пайдзі, дура, кагда не хочаш дзенег, пайдзі, паначуй!

Забрала платочак і пайшла.

— Ну, і пайдзі за мной!

Потым прыйшлі дамой, яна яе ў палатку прыюціла, у такую палатку далёкую, што яна і голасу мужняга не слыхала. Потым прыбываў муж із ахвоты. Яна яго знімала з лашадзей слугамі, угашчала разнымі напіткамі, каторыя п'яней усіх. Ну, упаіла яго і ў спальню палажыла, ён бяз чусцвія быў. I пазволіла ёй спаць лажыцца з панам. Ну, яна лягла і стала з ім разгаварываць:

— Я ўсё тваё прыказанія спольніла! Я трое ботаў зялезных стаптала, я тры кія зялезных збіла і тры хлеба зялезных з'ела!

Стала гаварыць, як страждала.

— Да цябе дайшла і вот з табой ляжу, а ты мне нічога не гаворыш!

Яна яго і будзіла, і калыхала, і шчыпала. Ну, а ён спіць і атвету яна нікаторага не слыхала ад яго. Ці чуставаў ён, ці не, гэта не зната дзела. Вутра ўставала, благадарыла і выходзіла. Вяльможа над ёй смяялася, назвала дурай:

— Вот якая ты дура! Што ты палучыла ад пана? А я бы табе дала дзенег многа!

Атвет адказала вяльможы:

— Я дзенег не хачу!

Ну, і адправілася ў сваё места. Паставіла шчотку, ужо й без платка, сама прадзець кудзелечку. Адпраўляўся пан за 'хвотаю, апяць ізноў:

— Ці я ў ва сне відаў, ці што нада мною было — як бытта бы я глас слыхаў свае прэжнія супругі. Я глас слыхаў і балезі целу сваéму прыняў. Паспяшу-ка пазараньшы з ахвоты дамой!

А йна апяць — ізноў выходзіла, вяльможа, на горад, на гулянне й са слугамі. Прыходзіла апяць к гэтай сідзелцы.

— Што, галубка,— гаворыць,— прадай мне гэту вешч! — па шчотку.

— Купі!

— Што возьмеш?

— А я не хочу нічога — з панам ноч начаваць!

Яна апяць яе назвала дурай:

— Ну, якую ты,— гаворыць,— совесць палучыла, што ты з панам начавала?

— Нічаво!

— А я табе дзенег бы дала!

Ну, потым лягко сагласілася — дала шчэ ноч пераначаваць. Ну, апяць такім жа пуцём, так жа сама: прыехаў ён з ахвоты, дык яна знімала яго з паязды слугамі, прывячала зноў на ўгашчэння. А ён угашчэнія жастока не прынімаў — мысліў сабе то, што ніколі на мяне гэтага не бывала, каб гэтакая ўгашчэнія я меў. Толькі ён стаў асцерагацца, скора стаў без чусцвія п'ян — сам на сябе нацянуў так — уснуў за бяседай крэпкім сном. Ну, яны ўзялі і палажылі ў палатку на пасцелю. Тады яна на яе сказала:

— Ступай з панам начаваць!

Ну, яна легла. Падаждала, пакуль усе заснулі, і ва ўрэмя чалавечацкага сна стала яго разбуджаць. Апяць свае разгаворы разгаварывала, усе свае труды расказала:

— Я другую ноч з табой начую, а ад цябе нічога не чую!

Ну, ён усё гэта панімаў, а атвету ніякога не даў. Потым, ноч на праходзе, стала вутра. А яе разбуджаюць, высылаюць вон. Яна ўстала і паблагадарыла. Яна, вяльможа тая, пасмяялась і назвала дурай:

— Дзве начы,— гаворыць,— ты начавала, якую пользу ты палучыла?

Яна паблагадарыла, адправілась на сваё места, занімала сваё места, прала кудзелечку. Кала яе муж яе прайшоў не ў знатным відзе. Апяць адпраўляўся на ахвоту. Цяпер яна яго к відну разгледзела, толькі што не ўвазнала. Прыбываець ён з ахвоты ужо із разнымі думамі. А йна, вяльможа, выхадзіла апяць на горад са слугамі, на прагулянне,— скучала па трэцяй вешчы, каб ужо і гэту дастаць. Ну, дык гэту ўжо вешч — кудзелечку і прасліцу і вераценца ўжо лягчэй дастала, крута:

— Прадасі мне гэту вешч трэцюю?

Яна 'твет дала:

— Прадам!

— Ну, што ж ты хочаш?

На 'твет даець:

— Я не хачу нічога: з панам ноч начаваць!

Яна на слуг:

— Бярыце гэты вешчы! Падзі за мной!

Ну, і прыюціла яе ў тэй спальні, дзе яна дзве ночы начавала. Ну, прыбываець пан із ахвоты пазараньшы. Яна яго знімала слугамі із паязды, садзіла за стол з сабою і ўгашчала напіткамі разнымі. Ён пры сябе сваю сілу ўзяў і апяць здзелаўся хмялён — нацянуў на сябе. Ну, тады палажылі яго ў пасцель. Як стала цішына ўначы, заставіў яе муж пераслаць пасцелю, як ёй упоравіцца. Ну, дык яна пераслала пасцелю і начала разгавор. На 'твет ён даў ёй, што вутрам ты не пойдзеш. Вутрам яе сталі высылаць. Первы раз называлі:

— Галубушка, пайдзі із нашлегу!

Яна не пайшла. Ва ўтарых разах называлі яе бяссовеснай. Яна не пайшла. Трэці раз сказалі:

— Гавораць табе — ступай із нашлегу!

Потым яна не паслушала. І выходзяць із спальні ўдваіх увабраўшысь. Ну, тады ён вялеў вывесці первага жарабца са стайні і тую вяльможу растаскаць па чыстаму полю, прывязаць к конскаму хвасту. А самі сталі жыць-пажываць і цараваць. І я там годы два ці тры таму быў, толькі нічога не бачыў.

Спакойнай ночы, прыятнага сна, радаснага вутра! Бывайце здаровы!

## 15. АБ РАЧКУ

Ехаў адзін чалавек у лес па дрова, аж [г]лядзіць, сядзіць у хварасце рак, так ён спалохаўся да й адкінуў яго галінаю, а рак давай прасіцца:

— Чалавечку, вазьмі мяне дахаты.

— А[д]чапіся ты, гадзе нялюдскі, на чорта ты мне здаўся!

Але як стаў прасіць, як стаў прасіць, так ён нішто, узяў. А там недалёчка жыў кроль і меў тры надта-надта харошых дочак; так як адагрэўся на пячэ, так давай прасіць сва[й]го гаспадара, каб пайшоў да кроля і сказаў, што ў яго е сын рачак і што ён хоча з кралеўнаю ажаніцца. Так гаспадар кажа:

— Здурэў ты, гадзіно, ці што? Як ты смееш гэтак казаць!

Але як стаў прасіць, як стаў прасіць, так пайшоў. Так то прыходзіць, да й то неяк адважыўся і кажа: так і так. Так кроль:

— Ну, то калі твой сын гэтакі разумны, то няхай мне за гэту ноч ад твае хаты да ма[й]го палацу дыямэнтавы мост зробіць.

Так гаспадар прыйшоў і кажа:

— А што, казаў, што не варта аказвацца, цяпер [г]лядзі, казаў, каб ты за адну ноч дыямэнтавы мост выставіў!

А ён:

— Ну, то і добра,— кажа,— гэта ўжэ не ваша бяда, анно вынесце мяне на двор да на стаўбцы пасадзеце.

Так ён яго і вынес. На заўтрашні дзень, зрання, кроль выходзіць, ажно зыіць ужэ дыямэнтавы мост! Так прызваў да се таго гаспадара да й кажа:

— Відна, твой сын разумны, то няхай жа ж яшчэ зробіць, каб за гэту ноч ад твае хаты да ма[й]го палацу мак расцвіў.

Так гаспадар, прыйшоўшы дахаты, наваліўся на рачка да й кажа:

— Ну, мост то ты зрабіў, але гэтага не ведаю, ці дасі рады.

— Кажэце! Ну то што ён там вычварыў?

— А то ж казаў, каб ад хаты да палацу мак расцвіў за гэту ноч!

А рачак кажа:

— Ы-ы, гэта яшчэ не бяда! Стойце, анно вынесце мяне на двор і дайце жменьку маку.

Так ён гэтак зрабіў. Калі то на заўтрашні дзень кроль прачхнецца, глядзіць праз акно, ажно праўда, найхарошайшы мак цвіце! Так прызваў гэтага чалавека да й кажа:

— Калі так, то няхай твой сын той дачцэ, катору ён сабе выберэ, сукню не мерачы справіць.

Той гаспадар прыйшоў, кажа так і так, ажно за ноч і сукня стала гатова. Тады ўжэ яго ўзяў да й завёз да кроля. Паказаў ён сукню, так кроль казаў сваім дочкам станавіцца ў рад, а яму

выбіраць. Так ён серадольшай дачцэ на ножку споўз, змерылі сукню — ажно як уліта на яе!

Тады зараз сталі хадзіць кала вяселля, палажылі то яго на талерцы, паакладалі ў акол дыямэнтамі і так ім шлюб давалі.

Па шлюбе кладавяцца спаць, ажно ён узяў струхнуўся, так скаралюпіна абляцела, да й зрабіўся харошы кралевіч. А тую скаралюпіну пад подушку падлажыў. Як кралеўна ўгледзела такога нязмерне харошага, так надта ўцешылася і ўжэ тады перастала плакаць.

А гэта не быў рак, да кралевіч, закляты праз адну ведзьму ў рака. Ажно назаўтры незнарок яна агледзела гэту скаралюпіну да й то схапіўшы яе бурзгянула ў агонь.

Прыходзіць ён, хоча на се злажыць — німа! Так ён да яе:

— Не бачыла ты таго, што пад подушкаю было?

— Чаго? Брыды гэтай? А то ж я ўзяла да й спаліла.

— Ну ж цяпер то ты мяне навекі згубіла! Мне ўжэ анно месяц было пакутаваць, а ты мне вырабіла, што я не ведаю, калі яна скончыцца.

І даў ёй залезныя чаравікі да й кажа:

— Як гэтыя чаравікі стопчаш, то тады хіба я выпакутуюся.

Гэта кажучы, перакінуўся ў галуба да й паляцеў. Яна то ад таго часу як дзень, так ноч усё плакала да ляментавала, да ўсё хадзіла па лесе да па полі, па карэннях, па каменнях, каб хутчэй іх патаптаць.

Ажно аднаго разечку зайшла да гаднае хаткі, а ў той то хатцы была ведзьма, што кралевічаў заклінала. Так просіцца ў яе на службу, а яна кажа:

— Мне не трэба, у мяне і так есць задосыць, хіба ідзі тут недалёка да аднае пані, то яна цябе возьме галубкі пасвіць.

А тая пані таксама была ведзьма да й то згадзіла яе пасвіць, а тыя то галубкі ўсё былі заклятыя кралевічы. Так тая ведзьма ёй так сказала годзячы:

— Як будуць усе галубкі цэлыя, то я табе екуратне заплачу, а калі не, то голаў зніму.

І здала то ёй на рукі ўсё чыста. Гоніць яна іх пасвіць да й то між усімі пазнала неяк сва[й]го. А ён яе таксама пазнаў і з тае пары стаў ёй пасабляць: як галубкі дзе паразлятаюцца, так ён іх пазганяе да горбы.

Выбыла яна рок да й ідзе па заплату, ажно яе сядзіць на дубе да й кажа:

— [Г]лядзі ж, ты нічога не хаці браць, анно аднаго галубка, а ўжэ ты мяне пазнаеш, бо я няўзнак кіўну галоўкаю.

Ну так ведзьма, пералічыўшы галубкі, што ўсе, кажа:

— Ну, дзеўко, добра ты пасвіла — дам, што хочаш, і мо на другі рок аставайся?

А яна кажа:

— На другі рок астацца то не магу і грошай не хачу, анно за тое дайце мне аднаго галубка.

— То добра,— ка[жа],— які ж табе да спадобы?

А кралевіч кіў няўзнак галоўкаю, так яна кажа:

— Ось, я гэтага хачу! — І ўзяла сабе.

Варочаецца яна да палацу, ажно на дарозе чаравікі падраліся, так ён як бач і пракінуўся зноў у чалавека.

Кроль, угледзеўшы іх, надта ўрадаваўся, зараз то ім выправіў вялікі банкет, усе кролі на ём былі, віно лілося рэкамі, а і я там была, мёд, віно піла, па барадзе цякло, а ў роце не было.

## 16. ЯК ВУЖАВА ЖОНКА ПАСТАВІЛА СЫНКА ДУБКОМ

Было ў дзеда трох сыноў і адна дачка, а ў бабы анно дзве дачкі: дзедава была надта працавіта, а тыя вельмі гультайкі. Аднаго разу бацькі выбіраліся да места, так адна кажа купі мне тое, друга — тое, а дзедава кажа:

— Прывязі мне, татку, рожу.

Так ён тым абедзвім пакупаваў усё, а сваёй забыўся кветкі купіць. Другім разам таксама забыўся, а трэцім пайшоў ужэ да гароду рваць. Ажно там пад кустом ляжаў вуж, так ухапіў яго за галаву і кажа:

— Аддай тую дачку мне, для каторай рожу рвеш!

Так ён чыста спалохаўся і кажа:

— Добра!

Ніўбаўкі прыязджае той вуж і кажа:

— Кролю, кролю, кралевічу, сенатолю, аддай дачку Галеначку, што па саду пахаджала, а мне, вужу, прысягала.

Так бацька кажа:

— Дай мне поўну стайню коней і поўну абору кароў і поўна гумно збожжа, то табе аддам.

Так у мглені ока ўсё, чаго захацеў, сталася. Тады яны прыбралі наймельшу ў яе адзенне, тая села і паехала з вужам. Едуць яны, так едуць, а вароны над імі ўсё крычаць:

— Кра-а, кра-а! Вязе вуж ні Галеначку-работнічку, да другую гультаечку!

Вуж, пачуўшы тое, як ні піхане яе з воза, так яна ўпала і руку выбіла.

На другі дзень прыязджае зноў вуж і кажа:

— Кролю, кролю, кралевічу, сенатолю, аддай дачку Галеначку, што па саду пахаджала і мне, вужу, прысягала!

Як вуж даў ім поўну стайню коней, абору быдла і гумно збожжа, так прыбралі другую гультайку і далі, так ён і паехаў. Едуць яны, так едуць, а вароны ўсё над імі дзяруцца:

— Кра-а! Кра-а! Вязе вуж ні Галеначку-работнічку, да другую гультаечку!

Так вуж, пачуўшы тое, піхнуў яе з воза, так яна ўпала і ногу выбіла. На трэці дзень зноў вуж прыязджае і кажа:

— Кролю, кролю, кралевічу, сенатолю, аддай дачку Галеначку, што па саду пахаджала і мне, вужу, прысягала!

Так не было ўжэ што рабіць, так прыбралі Галеначку-работнічку ў лахманы і аддалі яму. Едуць яны, едуць, а вароны ўсё летаюць над імі і крычаць:

— Кра-а! Кра-а! Вязе вуж Галеначку-работнічку!

Заехалі яны ў дунай і жылі шчасліва, і бог даў ім сынка. Падгадаваўшы дзіця, аднаго разу яна кажа:

— Паедзем бацькоў адведаці.

Так селі і паехалі. Едуць, едуць, аж там недалёка ад хаты была рака, так ён улез у воду, а яна пайшла да бацькоў. Як пабыла там крыху, так прыйшла пад рэку і кажа:

— Вужу, вужу, мой мілы мужу, няхай вочка нагледзяцца, няхай сэрца нацешыцца!

Так ён вылез з вады, ды як нацешыліся сабою, яна зноў пайшла дахаты. Тым часам браты, думаючы, што ёй кепска, умовіліся яго страціць. Так упярод пайшоў над рэку сам найстаршы братка і кажа:

— Вужу, вужу, мой мілы мужу, няхай вочка нагледзяцца, няхай сэрца нацешыцца!

Але ён не выйшаў. После прыходзіць сярэдні братка і кажа:

— Вужу, вужу, мой мілы мужу, няхай вочка нагледзяцца, няхай сэрца нацешыцца!

Але вуж і тым разам не паслухаўся. Так урэшце прыйшоў сам наймельшы братка і кажа:

— Вужу, вужу, мой мілы мужу, няхай вочка нагледзяцца, няхай сэрца нацешыцца!

Так вуж, думаючы, што яго кліча жонка, выйшаў з вады, а ён бэнц! і забіў яго. Ажно якраз Галенцы захацелася з мужам абачыцца, так прыйшла над рэку і кажа:

— Вужу, вужу, мой мілы мужу, няхай вочка нагледзяцца, няхай сэрца нацешыцца!

Тым часам ён не выйшаў. Паглядае, ажно пена толькі па вадзе плавае, так дагадалася і пачала плакаць. Ажно пачула яе маці, так падышла да яе і кажа:

— Дачушко Галеначко, хадзі цёмну ночку спачываці, цёплу кашку спажываці!

А яна кажа:

— Не хачу, не хачу: зрадзілі вы ма[й]го мужа, зрадзіце вы і мяне!

Так маці пайшла дахаты ды й выслала бацька. Ён падышоў і кажа:

— Дачушко Галеначко, хадзі цёмну ночку спачываці, цёплу кашку спажываці!

Але яна так сама адказала:

— Не хачу, не хачу: зрадзілі вы ма[й]го мужа, зрадзіце вы і мяне!

Ходзіць яна каля рэчкі і так плача, так лемянтуе, так вычытвае, аж прыходзіць сярэдняя сястра, за ею наймельша і просяць:

— Галенко-сястроначко, хадзі цёмну ночку спачываці, цёплу кашку спажываці!

Але яна адказала:

— Не хачу, не хачу: зрадзілі вы ма[й]го мужа, зрадзіце вы і мяне!

После прыйшоў найстаршы братка, за ім сярэдні і просяць:

— Галенко-сястроначко, хадзі цёмну ночку спачываці, цёплу кашку спажываці!

Але яна і ім адказала.

Так урэшце прыйшоў сам наймельшы братка і кажа:

— Галенко-сястроначко, хадзі цёмну ночку спачываці, цёплу кашку спажываці!

Так яна:

— Не хачу,— кажа,— не хачу: зрадзілі вы ма[й]го мужа, зрадзіце і мяне. Пастаўлю сынка дубком, а сама пайду ў вір галавою.

І ў вока мглені з сынка зрабіўся дубочак, а яна ўскочыла ў рэку і ўтапілася.

## 17. ЛЮБОШЧЫ

У неякім царстве, у неякім гасударстве, за даўнейшы час, як яшчэ не было нас, жыў сабе адзін кароль да ведзьма-каралiха, на яе лiха. Не было ў iх дзяцей. I пачаў кароль турбавацца, што няма каму пакiнуць свайго царства. Пачаў ён турбавацца да пачаў думаць, каб прагнаць цi страцiць тую каралiху, а ўзяць сабе другую жонку, дак мо ад тае будзе сын. Пранюхала аб том каралiха да й надумалася абшукаць таго караля, толькi б ёй застацца каралiхаю. От i кажа яна каралю, што нарэшце стала тоўстаю. Абрадаваўся кароль, беражэ ён жонку, бы вока, да чакае, пакуль прыйдзе той час, што яна абрадзiнiцца.

Тым часам сама намовiлася з бабамi, каб яны асталi ёй чужога маленькага хлопчыка. Не доўга бабам трэ было клапацiцца, ведама, гэтага дабра многа, абы было каму гадаваць, а раджаць не штука. Да й кожная матка не вораг свайго дзiцятка, рада, каб сынок быў каралём. От нагледзелi бабы тоўстых жанок да дзевак i чакаюць, пакуль яны абрадзiняцца. Толькi от лiха,— якая нi абрадзiнiцца, дак усё прыводзiць дзеўку. Спалохалiся бабы, не ведаюць, што рабiць, бо ўжэ падыходзiць пара, а хлопчыка няма.

Толькi ось iдуць яны раз кала сажалкi да й бачаць, што на вадзе штось плыве. Узялi яны ламачыну да й давай яго падганяць к берагу. Толькi як таўкануць, дак тое яшчэ далей адходзiць ад берага. Хацелi яны ўжэ плюнуць да йцi па свайму дзелу, аж чуюць, што там запiшчала дзiця. Схамянулiся бабы да ўжэ хацелi лезцi ў воду. Папробавалi яны, аж глыбока. Хацелi яны пазваць людзей, да пабаялiся, каб аб том не дайшла чутка да караля. Толькi ось iдзе якаясь вельмi бедная дзеўка. А гэта была матка таго дзiцяцi. Яна цiхенька сядзела ў кустох да пазiрала, што будзе з яе мiленькiм сыночкам, каторага сама не магла гадаваць, каб людзi не смяялiся да не здзекавалiся. От падходзiць яна к бабам да й кажа, што дастане з вады начоўкi. Пакуль бабы радзiлiся, што iм зрабiць, тая дзеўчына шабулдых у воду ва ўсём як стаяла, чуць не ўтапiлася, але-такi дастала начоўкi на бераг. Раскiдалi бабы пялёнкi, аж там ляжыць маленькi хлапчучок да такi гожы, такi зграбны, што й у казцы не сказаць. Забралi бабы таго хлапчука да й панеслi яго цiхенька ў палацы да каралiхi. Пабачыла тая дзеўка, што яе дзiця панеслi ў палацы, абрадавалася, пастаяла яшчэ, паглядзела, перахрысцiлася да й пашла да гасподы з радасцю, бы на свет нарадзiлася. От i аб'явiла каралiха, што ў яе радзiўся сын.

Рад кароль. Вялеў зрабіць пір на ўвесь мір. Расце сабе той хлапчук за каралевіча, але ўсё цягне к простым людзям. І вельмі яму спадабалася хадзіць да аднае беднае жанчыны, каторая яго любіла да ласкала больш, як матка ведзьма-караліха. Ен не знаў, што то не простая жанчына, а яго родная матка. А яна добра ведала да плакала ад радасці, пястуючы яго.

Вырас каралевіч і стаў харашэйшы ад усіх людзей. Пачалі бацькі сватаць яму гожую царэўну, але ён не хоча й слухаць, бо яму вельмі спадабалася адна вельмі гожая дзеўка, толькі яна была дачка купца. Ведама, хоць купец і багаты, але ўсё ж просты чалавек. Дзе гэта відана, каб каралевіч да браў за сябе простую дзеўку. Як ні прыставалі кароль з каралiхаю, каб царэвіч жаніўся з царэўнаю, ён сказаў, што рукі на сябеналожыць, а іх не паслухае. Абазлілася ведзьма-караліха, на яе ліха, да й пачала разнюхоўваць, чаму гэта каралевіч не слухае ні яе, ні караля. Знайшліся ліхія людзі да й сказалі, што каралевіч любіць другую простую дзеўку, толькі не маглі дазнацца, якую. Уз'елася ведзьма-караліха да й закляла каралевіча так, што ў яго від зрабіўся, бы свіны лыч. Убачыў тое кароль, абазліўся на сына да й пасадзіў яго на востраў пасярод мора.

Тым часам каралевіч яшчэ перад гэтым узяў у каралiхі люсцерка, а ў караля палку. Гэта не простыя былі рэчы. Глянуў ён у люсцерка ў той час, як думаў аб сваёй дзяўчыне, дак і ўбачыў яе, як жывую. Стукнуў ён палкаю аб зе́млю, дак перад ім бы вырас з зямлі добры маладзец да й пытае, што яму трэба. Вялеў яму каралевіч зрабіць сабе хатку да даць есці. Духам з'явілася хатка, хоць маленькая, але гожая, бацца з зямлі вырас стол, а на ём усялякія патравы да напіткі, бы ў каралеўскіх палацах. Ходзіць сабе каралевіч кала мора, збірае кветкі да так жаласна пае, што аж птушкі заціхлі да слухаюць яго песню. Знудзіцца каралевіч, выме свае люсцерка, пазірае, што робіць яго дзяўчына да толькі ломіць рукі. Успамянуў ён аб той добрай жанчыне, што яго пестувала, глянуў у люсцерка да й бачыць, што тая плача, аж заліваецца. І захацелася яму пазнаць, чаго яна плача, хто яе скрыўдзіў. От пазваў ён малайца да й кажа яму:

— Прывязі сюды ка мне тую й тую жанчыну.

— Не велена,— кажа той.— Сюды можа прыехаць толькі той, хто сам хоча.

Засмуціўся каралевіч да й пайшоў садзіць да даглядаць кветкі, каб не так было нудна да цяжка на сэрцы. Тым часам бацька тае дзеўкі, што любіў каралевіч, збіраецца ехаць у чу-

жыя землі па заморскія тавары. От і пытае ён сваіх дачок, якога гасцінца ім прывезці. Большая просіць, каб бацька прывёз ёй самую гожую адзежу. Селядоршая просіць прывезці ёй такія гуслі, каб яны самі гралі, а меншая, каторую любіў каралевіч, просіць прывезці ёй заморскую кветку рожы. Яна загадала, што калі рожа не завяне, то каралевіч яшчэ жыў і думае пра яе. Сеў купец на караб да й паплыў у заморскія землі. Ці доўга, ці мала ён там быў, толькі накупіў шмат розных дарагіх заморскіх тавараў, накупіў гасцінцаў сваім дачухнам да й паплыў назад. Толькі ось усхадзілася шура-бура, разламала яго караб да й затапіла са ўсім дабром. Учапіўся купец за якуюсь дошку да й паплыў. Доўга яго насіла па мору, доўга пякло на сонейку, пакуль нарэшце выкінула на бераг. Насілу падняўся ён на ногі, але не мажэ хадзіць, сеў на камень да й сядзіць, бы акамянеўшы. Доўга ён так сядзеў, нарэшце апомніўся й вельмі яму захацелася есці. Падняўся ён да й пайшоў паўз бераг шукаць людзей. Абышоў ён кругом да й дагадаўся, што яго выкінула на астравок, дзе нікога няма. А гэта быў той астравок, куды саслалі каралевіча. Пайшоў купец шукаць, ці няма грыбоў або ягад, каб хоць трохі пасілкавацца. І цяжка яму стала, як уздумаў, што прапалі ўсе тавары, але больш усяго шкода, што прапалі тыя гасцінцы, што ён вёз сваім дачухнам. Тут ён убачыў кветкі рожы яшчэ харашэйшыя ад тых заморскіх. Забыў ён і голад да й думае:

«Ого ж нарву кветак рожы сваёй любімай дачушцы, а большым ужэ як сабе хоча, мо дастану й у сваём краю, як дабяруся да гасподы».

Толькі ён хацеў сарваць кветку рожы, як ось і нахапіўся якісь страшэнны чалавек з свіным лычом замяст віду. Спалохаўся купец, дрыжыць бы асіна.

— Не лякайся,— кажа той,— толькі скажы, хто ты такі, адкуль узяўся й нашто табе мая рожа?

Расказаў купец усё як было, расказаў шчырую праўду да й прыбавіў, што рожу хацеў сарваць сваёй любімай дачухне, каб яе хоць чым-небудзь парадаваць, а то яна чагось усё плача да ходзіць вельмі смутная. Дагадаўся каралевіч, што дзяўчына па ём плача, да й пазваў купца ў сваю хатку. Ён адразу пазнаў купца, а той яго не мог пазнаць, бо ніколі не бачыў такім страшэнным да плюгавым. От пакарміў каралевіч купца да й кажа:

— Я дам табе кветак, колькі хочаш, адпраўлю цябе да гасподы, толькі ты павінен прыслаць сюды сваю меншую дачку.

А калі яна не схоча прыехаць сюды ка мне ў госці ахвотна, то вы ўсе да й я прападом.

Няма чаго рабіць, згадзіўся купец на тое. От каралевіч прызваў малайца да й вялеў яму дастаць розных тавараў, якіх толькі купец схоча, дастаць на гасцінец дзеўкам самую гожую адзежу, такія гуслі, што самі граюць, і адвезці купца да гасподы, а кветак рожыназрываў цэлае бярэмя, сплёў з іх вянок да й кажа:

— А от гэстыя кветкі аддай сваёй меншай дачухне ад мяне.

Забраў купец усё дабро да й паплыў да гасподы. Рады дома, што ён вярнуўся, але як ён усё расказаў, дак жонка й большыя дзеўкі пачалі галасіць і ўгаварваць меншую дзеўку, каб яна не ехала. А тая як зірнула, што рожа так гожа цвіце, бацццэ толькі што з агародчыка, дак рада, смяецца да ў ладоні ляскае. Яна думае сабе, што гэта мабыць ужэ такая яе судзьба, такая доля, што трэ перш пагараваць, панудзіць, каб потым, як убачыць каралевіча, глядзець яму ў вочы да радавацца. Знае яна, што ёй так суджана, што каралевіч жыў й што яна ўбачыць яго, от затым яна смела хоча ехаць у госці к таму страшэннаму чалавеку.

— А мо ён і не такая пачвара,— думае яна сабе,— трэ паглядзець. А мо гэта так суджана.

От падышоў тэрмін. Як ні ўмаўлялі яе бацькі да сёстры, нікога не слухае.

— Ото ж паеду,— кажа яна,— да й толькі.— Не хачу я, каб праз мяне да нам усім было кепска, каб мы ўсе загінулі. А мо гэ лепш, мо гэ суджана, мо ўжэ так мне на раду назначана. А што суджана, таго не абойдзеш, не аб'едзеш.

Нічога не парадзяць бацькі, мусілі яны згадзіцца, як ні цяжка было ім адпраўляць сваё каханае дзіця няведама куды да яшчэ да такое пачвары, што й на чалавека не паходзіць. От выладавалі бацькі сваю меншую дачку ў дарогу, паплакалі, бы праводзілі на могліцы. Села яна на караб, каторы ўжэ даўно чакаў яе, да й паплыла на той востраў. Тым часам родная матка каралевіча даведалася, чаму гэта яе каханы сынок больш не прыходзіць к ёй, даведалася, што грозны кароль да ведзьма-караліха, на яе ўсё ліха, дзесь схавалі ненагляднага сыночка ці можа й саўсім страцілі. Ведама, матчына сэрца заўжды баліць па свайму дзіцяці. Плакала яна, плакала, гаравала-гаравала, але больш не магла вытрымаць да й пайшла ў свет шукаць каралевіча. За ёю якісь увязаўся сабачка, каторы так лашчыўся да любіў каралевіча, як ён прыходзіў да маткі. Праўду кажуць,

што сабака знае, хто свой, хто друг, а хто вораг. Добрага чалавека сабакі не чапаюць, а ліхога гатовы загрызці. Дак от гэ й той сабачка, як прыйдзе каралевіч, дак скача на яго, ліжа яму рукі, лезе цалаваць, вішчыць да круціць хвастом з радасці. Затое не толькі цыган або жыд не могуць прайсці ці праехаць аж па вуліцы, але й наватліхі сусед без кія не смелі падысці к двару. Чуць хто пакажацца, як ось адкуль ні возьмецца той сабачка, коціцца бы куля, брэша, аж ахрыпне да сляпіцаю лезе, пакуль тая жанчына не абароніць сама да не скажа:

— Пайшоў вон!

От ідзе яна, а сабачка бяжыць уперадзе да паказвае ёй дарогу. Утоміцца, ляжа аддыхаць, а сабачка не спіць, ветрыць носам да настаўляе вушы то ў вадзін, то ў другі бок,— прыслухоўваецца, ці не крадзецца які-небудзь вораг. От так хадзіла яна, хадзіла з сваім сабачкаю па свету, распытоўвала добрых людзей, ці не бачылі, ці не чулі яны аб яе дарагенькім сынку. Ужэ ножкі прытупіліся, а ўсе ў вадзін голас кажуць, што бачыць не бачылі й ведаць не ведаюць, дзе яе сын. Абхадзіла яна ўсе каралеўства — нідзе няма. Нарэшце парадзіла ёй адна старэнькая баба, каб яна папробавала пайсці ў чужыя землі, у чужыя царства, к чужым людзям.

— Мо ён,— кажа,— там.

Падзякавала тая жанчына добра бабе да й хацела йсці ў чужыя землі, толькі даведалася, што яны дзесь за глыбокімі да шырокімі марамі, што туды нельга йсці, а трэ плысці на караблёх. Падышла яна к мору, хацела сесці на караб, дак яе туды не пускаюць.

— Куды ты,— кажуць,— баба, лезеш? Тут ездзяць толькі князі, грапы да жыды.

Заплакала яна да й пайшла да другога карабля. Давай там прасіць, давай благаць, кланяецца ў ногі да ловіць цалаваць рукі. Нарэшце знайшліся добрыя людзі, згаджаюцца яе пусціць на караб, але сабачку не прымаюць.

— Куды,— кажуць,— гэстая пошкудзь, яшчэ караб загадзіць.

Шкода ёй раставацца з сабачкам, з такім верным слугою, заплакала яна да й пайшла далей. Сабачка, бацца знаў, што пра яго гаварылі тыя людзі, кідаецца з радасці к ёй на шыю да ліжа языком. От ідзе яна да йдзе з сваім сабачкам да й падходзіць к таму караблю, на каторым мусіла плысці дачка купца.

Падышла яна да й просіцца, каб прынялі яе на караб.

— Хадзі, хадзі, бабка,— кажуць тыя,— нам велена браць усіх, хто толькі сам хоча.

Пайшла яна на караб, а сабачка, бы маланка, толькі замітусіўся спераду. Караб вялізазны, бы харомы. Залезла яна ў самы вугал да й сядзіць ціхенька, а ў нагах лёг сабачка да толькі вушкі наставіў. Па немалым часе села на караб і купецкая дачка, але яна не бачыла тае жанчыны. Прайшла мо гадзіна ці больш, як караб плыў па мору да й суняўся кала берагу. Падходзіць к жанчыне якісь чалавек да й кажа:

— Выходзь, бабка, ўжэ прыехалі.

Забрала яна свой клуначак, выйшла на бераг да й пайшла, куды вочы глядзяць ці куды вядзе сабачка. От злезла й купецкая дачка да й пайшла к хатцы каралевіча. Убачыў яе каралевіч да так абарадаваўся, што аж не мажэ выгаварыць ні слова. Жыве там купецкая дачка ў раскошы: піць, есці ўсяго многа, чаго толькі душа хоча. Усялякае дарагое самае гожае адзежы столькі, што хопіць на ўсе жыццё. Нічога яна не робіць, толькі гуляе сабе паміж кветак да пляце вянкі. Спляце з ружы вянок, узложыць яго на голаў, зірне ў люсцерка да й зальецца горкімі слёзкамі.

— Нашто мне,— кажа,— мае хараство, калі некаму яго паказаць, калі тут апрыч гэстае пачвары з свіным лычом нікагусенька няма.

Што ні рабіў каралевіч, якіх гасцінцаў ён ні даваў, нічога не памагае, ніяк не мажэ яе навярнуць да сябе. Ведама, пачвара з свіным лычом, а не чалавек. На яго толькі зірнуць, дак з душы верне, а не то, каб што. Засмуціўся каралевіч, ні п'е, ні есць, кінуў даглядаць і свае кветкі да ўвесь дзень ходзіць па лесе ці па беражку мора да не то плача, не то пае песні, але такія жаласныя песні, што хто ні ўчуе, дак сэрца бы хто кіпцюрамі скрабе, а слёзкі так і цякуць з вачоў, бы ў бабра. Пайшла раз купецкая дачка гуляць на бераг мора, зачула, што хтось пае, да й заслухалася; слухае, плача, а сама й не варухнецца да так і прастаяла, покі сонейка зайшло за воду й зрабілася саўсім цёмна. Ужэ даўно ад песні па лесу заціх апошні пошчак, а яна стаіць, бы закамянела.

Тым часам каралевіч вярнуўся да гасподы, зірнуў туды-сюды, аж няма яго каханае дзяўчыны. От ён і пабег яе шукаць. Бегаў ён, бегаў, нарэшце трапіў яе на беразе мора да й павёў дахаты. Цёмна, дарогі няма. Што ні ступіць дзяўчына, то й падае. Бачыць каралевіч, што яна саўсім паб'ецца, схапіў яе на бярэмя да й панёс. Нясе лёгенька, бы пярцо, да так лагодна

размаўляе, што дзяўчына нават забыла пра яго свіны лыч. І здаецца ёй, што гэта гаворыць хтось другі, той заморскі каралевіч, аб каторым яна думала колісь у доўгія ночкі, як ляжала на мяккіх пярынах роднае матачкі, што гэта ён, яе каханы каралевіч цудам найшоў яе да й нясе на сваіх сільных руках да шэпча ёй салодкія слаўца да прыціскае да сваіх багатырскіх грудзей. І так добра ёй, так радасна б'еццца сэрца, што от здаецца, усю б жытку праляжала б на руках свайго міленькага да ўсе б слухала яго мілую мову, яго дарагі галасок. Унёс ён яе ў хату да й просіць вячэраць. Але яна падзякавала да так, не засвяціўшы агню, й лягла на пасцель, каб не атагнаць тых салодкіх думак, каб ляжаць і ўсё думаць і думаць да чуць голас свайго міленькага каралевіча. Не спала яна ўсю ночку, а ўсё гарэла, бы ў вагні. Але от даў бог дзень, думкі разляцеліся бы дым. Успомніла яна, што каралевіча няма, дак бы голкамі закалола ў сэрца, а слёзкі так і паліліся. Не хоча яна ні есці, ні піць да так уткнуўшыся галавою ў падушку й праплакала ўвесь дзень. А як надышоў вечар, яна зноў пайшла на бераг мора. Зноў пачула, што хтось пае, толькі гэта так гожа, так радасна, што й ёй стала лёгка на сэрцы. Зноў заслухалася яна, пакуль сцямнела; зноў прыйшоў па яе каралевіч і зноў на бярэмі панёс да гасподы. Зноў ёй было так радасна на сэрцы, так соладка кружылася галава, што яна ўсю ночку прадумала пра свайго міленькага. Але на трэці дзень яна сустрэла ў вагародчыку пачвару з свіным лычом, як ён зрываў ёй кветкі рожы, зірнула на яго да й загаласіла. Пачаў той угаворваць, дак куды там,— яна яшчэ гарэй плача да рве на сабе валасы. Нарэшце прагнала яго, каб і на вочы не паказваўся, а сама пабегла на бераг мора, каб паслухаць таго цудоўнага спеву. Але ніхто не спяваў, толькі шаптаўся лес да раўло мора, ўзбягаючы на бераг. Доўга сядзела яна там і так ёй стала цяжка на сэрцу, так моташна, што дарам прападае маладая жытка, што няма ніякае надзеі, каб злучыцца з сваім міленькім каралевічам, што нарэшце не вытрымала да й кінулася ў мора. Тым часам адкуль ні ўзяўся сабачка тае жанчыны, раптам шамялях ён у ваду да й цягне яе да берага. Убачыла тое тая жанчына да й выцягнула ўтапленіцу на бераг. От туды-сюды патрасла жанчына ўтапленіцу, дак тая й ачнулася, да як зірнула, што кала яе знаёмая жанчына, дак трохі й лягчэй стала на сэрцы. Пагаварылі яны трохі самі з сабою да й пайшлі разам дахаты. Пакуль яны йшлі, дак і расказалі адна другой усё, як было, і як яны дасталіся сюды. Прыходзяць яны дахаты, аж там бяда. Засму-

ціўся каралевіч, як купецкая дачка прагнала яго з вачэй, засмуціўся так, як ніколі. Ён усё думаў, што дзяўчына палюбіць яго за добрае сэрца, за ласку да за лагодныя словы, а тут убачыў, што няма надзеі. Дастаў ён цудоўнае люсцерка, каб пабачыць сваю мілую дзяўчыну, аж тут яна якраз кінулася ў мора да й патанула, і так цяжка яму стала, так закалола яму ў сэрцы, што ён упаў на зе́млю да й згубіў прытомнасць, ляжыць, бацца не жыў. Узбегліся тут слугі, не ведаюць, што рабіць. У гэты самы час і падышлі купецкая дачка з тою жанчынаю туды. Ведама, сабачка заўжды бяжыць спераду. От і на гэты раз падбег ён да каралевіча да як нюхнуў яго да як пачне віжджаць, віляць хвастом да лізаць каралевіча рукі да свіны лыч, дак жанчына й дагадалася, што гэта яе сын, толькі, што ён мабыць закляты.

— Ой, закляты гэта чалавек,— кажа яна.

Шкода стала дзеўцы гэтага няшчаснага чалавека, схілілася яна к яму да давай яго гладзіць, давай ласкаць да шаптаць мілыя слаўцы. Ачнуўся каралевіч да бачыць, што кала яго стаяць на каленях дзяўчына й тая добрая жанчына, каторую ён так любіў, і лёгка яму стала на душы. Падняўся ён, падзякаваў ім за ласку да давай іх частаваць. А сабачка ад яго й не адходзіць да ўсё лашчыцца. Прасядзелі яны за сталом чуць не да вечара. Стала жанчына прыладжваць сабе месца, дзе panaчаваць, а дзяўчына з пачвараю з свіным лычом пайшлі гуляць. Вечар быў гожы: цёпла, ціха, бы ў вусе. Сонейка даўно зайшло, толькі яшчэ чырванелі хмаркі. І пачаў пачвара з свіным лычом пець песні, пачаў пець, так гожа, што от голас лезе аж у самую душу й разам хочацца плакаць і смяяцца. І думаецца дзяўчыне, што от так слухала б усё жыццё й нічога б больш не хацела. От ужэ сцямнела; заблішчалі на небе ясныя зоркі да толькі мігаюць мілымі вочкамі да бацца шэпчуць: гожы свет, добра на ём жыць да любіць. Любі, дак усё адалееш. А ён усё пае да пае да з такімі любошчамі, што затапіў у дзяўчыны й голаў, і сэрца. Сама не ведама зачым схапіла яна страшэннага чалавека за голаў да й пацалавала. У той момант абярнуўся ён у гожага каралевіча, схапіў яе на бярэмя да й панёс да гасподы, дзе ўжэ яго чакала родная матка. Радасці не было канца. І сталі яны жыць да пажываць да бедных людзей не забываць.

## 18. АБ ВЕДЗЬМЕ, ЯК СЫНА ЖАНІЛА

У адном двары надта было многа пшаніцы, а тую пшаніцу вазілі цёнгле да неякагось места. Адзін чалавек не меў каго выправіць з таею пшаніцаю, так прыбраў сваю дачку па-мужчынску і выправіў яе ў дарогу. Ехала яна з таею пшаніцаю, пачаў ёй воз ламацца, тыя хфурманкі паехалі ды і паехалі, ■ яна засталася. Асёж прыязджае на трайчасту дарогу ды і не ведае, у катору ёй ехаць. Нарэшце ўехала ў неякісь лес, асёж пачало і сутуняць:

— Ах, ліхачко, што мне тут рабіць?

Едзе яна далей, асёж глядзіць — у лесе неякаясь хата, так заехала прасіцца нанач. Прынялі яе з ахвотаю. А то была вядзьмарская хата, і ў тых ведзьмароў быў адзін сын. Зара яны завялі яе каня і недзе паставілі, ■ яе ў хату клікнулі, і так ужэ яе там частуюць, прымаюць. Той сын думае, што яна мужчына, а маці кажа — дзеўка, і не пускаюць яе ад се і дзяржаць Асёж той сын з бацькамі ўсё спрачаецца, ён кажа:

— Мужчына.

А яны:

— Дзеўка.

Асёж быў пры ёй сабачка, каторы за ёю з дому бег, а што ён толькі пачуе, што яны міжы сабою гавораць, так зараз ёй кажа. Аднаго разу кажа ён ёй так:

— Пашлюць цябе да кермашу, а самі будуць здалёк назіраць, што ты будзеш купляці, ці жаноцкае, ці мужчынскае, то глядзі ж ты, май розум, бо яны це хочуць з сваім сынам жаніць.

Паехала яна да таго кермашу, не купуе хусток, ані стужок, ані пацерак, ані ў той бок глядзіць, да ўсё хамуты, капузы, уздэчкі, пасвісцёлы і ўсё мужчынскае рэчы таргуе.

Тады сын кажа:

— А што? Я такі казаў, што гэта мужчына!

Узяла ды і забіла яе сучачку, бо дагадалася, што гэта яна яе асцерагла, і давай жа з яе ўсяляк збыткавацца, аж покіль прызналася, што яна дзеўка. Так дзяцюк той, канешне, з ёю жаніцца, а ведзьма быто прыстае, але дала ёй дайніцу і кажа на яе:

— Ідзі ж ты мае каравы падой, а іначай то я це з свету збаўлю.

Выйшла яна ўжэ з таею дайніцаю і так плача, так плача, бо нідзе жаднай каровы і следу німа; асёж выйшаў той дзяцюк.

— Ціха,— кажа,— не плач, я табе скажу, якія гэта каравы.
І даў ёй парася.
— Ідзі,— кажа,— у лес, палажы гэтае парася: як яно закрычыць, так назбягаецца ваўчыцаў, а як пачнуць яны яго есць, так ты барждждэй іх па разу цыркні, свіркні і сама бяжы дахаты: яны цябе не зачапацьмуць.
Як ён сказаў, так яна зрабіла. Прыносіць яна тое малако дахаты, а ведзьма:
— Нябось,— кажа,— хітра, ведала, як зрабіць.
Назаўтры дала ёй ножны ды й кажа:
— Ідзі ж ты яшчэ пастрыжы мае гоўца, то тады будзе тваё вяселле з маім сынам.
Выйшла яна, небарака, і так плача, так плача; асёж падходзіць той дзяцюк:
— Ля! Чаго ты плачаш, чаму ты не кажаш мне, чаго табе бракуе?
І даў ёй дзіця і кажа:
— Ідзі на расстайныя дарогі, палажы гэтае дзіця, а як яно заплача, то пазбягаюцца зу ўсюль чэрці і будуць яго нюхаць, а ты тым часам у кажнага астрыжы па касмычку барады і прынясі ёй: гэта будзе яе воўна.
Як ён наўчыў, так яна зрабіла. Прыносіць гэту воўну, а ведзьма кажа:
— Нябойсь, хітра! Ну, калі хочаш быць маею нявесткаю, пайдзі ж ты яшчэ на той свет і прынясі ад мае сястры нічальніцы.
Выйшла яна, бедна, на двор плачучы; асёж ведзьмін сын кажа:
— Дурню ты, не плач!
І даў ёй клубок ніці і кажа:
— Дзе ён будзе каціцца, туды ты ідзі.
Даў ёй пшаніцы жменьку:
— Спаткаеш ты на дарозе гусі, пасып гэту пшаніцу, няхай клююць.
Потым даў ёй сыра:
— Спаткаеш ты каты, палажы той сыр, няхай ядзяць.
Даў ёй яшчэ бохан сітняга хлеба:
— Ты там,— кажа,— спаткаеш сабакі, палажы ім, няхай ядзяць.
Нарэшце даў ёй хфаску масла і кажа:
— Як прыйдзеш пад дзверы, то пастаў каля іх гэта масла, а як ведзьма дасць табе есць, то ты што першы раз укусіш, так

трымай за левай шчакою, бо яна спытае, каб ты аддала, то ты аддай.

Як ён навучыў, так яна зрабіла. Увайшла да ведзьмінай сястры і кажа:

— Цётко, твая сястра прыслала мяне па нічальніцы.

Яна ёй у той момант дала нічальніцы і пачала частаваць, а як ужэ дзеўка, пад'еўшы, дзякавала, яна:

— Аддай ты мне тое, што ты першы раз укусіла.

Так выняла з-за левае шчакі і дае, а ведзьма анно галавою закруціла. Выходзіць яна за дзверы, а яна кажа:

— Дзверы, дзверы, забеце яе!

Асёж дзверы на тое:

— Мы ў це цэлы век масла не бачылі, а цяпер поўну хфаску маем: не будзем біць!

Так яна на сабакі:

— Сабакі, сабакі, разарвеце дзеўку!

Сабакі кажуць:

— Мы ў це цэлы век і чорнага хлеба не бачылі, а цяпер над сітнім седзімо: не будзем зачапаць!

Яна на каты:

— Каты, каты, задушэце дзеўку!

Асёж каты на тое:

— Мы ў це і не зналі, які то на свеце сыр, а цяпер поўнаю губаю ямо: не будзем душыць!

Так ведзьма на гусі:

— Гусі, гусі, задзяўбеце дзеўку!

А гусі:

— Мы ў це не ведалі, ці якая пшаніца на свеце ест, а цяпер паглянь, якую харошую ямо: не будзем дзяўбсці!

І так яна прыйшла шчаслівa дахаты і аддала ёй нічальніцы. Асёж ведзьма:

— Ідзі ж ты,— кажа,— мой род на вяселле пасклікай.

Яна, небарака, так ужэ плача, выйшаўшы на надворак, бо чорт яе ведае, дзе яе роду шукаць?!

Асёж выйшаў той дзяцюк і кажа:

— Ціха, дурню, не плач!

І даў ёй конску голаў:

— Ідзі,— кажа,— з гэтаю галавою, стань над крыніцаю, зложы гэту голаў на сваю голаў і ўсё ківайся стоячы і ўсё ківайся. З крыніцы ўсё будуць чэрці вылазіць і ісці да яе на вяселле, а як вылезе апошні, так дасць табе па галаве, галава гэта ўпадзе на зямлю і ты падай, а ён сам паляціць, бо думаць-

ме, што ён це забіў, тады ты ўстань ды й ідзі назад дахаты.

Як ён навучыў, так яна зрабіла.

Прыходзіць яна дахаты, асёж ведзьма сядзіць за сталом абсадзіўшыся падаўкол чартамі. Так як анно глянула на яе, так нібы ўцешылася і давай рагатаць, нібы яна такая рада. Рагатала, рагатала ды й лопнула! А чэрці з-за стала — парвалі тыя лелехі дый пайшлі праз комін. Тады яны ў двойзі пажаніліся і добра ўжэ ім было.

## 19. СЯСТРА І БРАЦЦЯ-АРЛЫ

У якомсь сяле так было, жыў старык. У яго больш не было, апроч два сына, і матка іх, сынаўёў тых, бярэменная была. Панёс ён паску пасвяцаць на вялікадня. Тады ён прыносе, пасвяціўшы, а яны б'юцца. Тады ён гавора:

— Ах, сынкі вы мае! Б'яцёсь вы, як арлы якія!

Тады яны ўзнялісь і паляцелі, як арлы, як ён сказаў. Тады яны паплакалі между сабой:

— Вот, было два сынаўя, і тых няма! Засталіся адны!

Ну, яны колькі там прабылі, год алі паўгода, а радзіла тая баба дачку сабе. Тая дачка стала расці, разумнець. Дзеці на вуліцы сталі смяяцца дочцы дзедавай, а тым сынаўям сястры:

— Вот,— ка[ж]а,— бацька твой калдун: сынаўёў падзелаў арламі!

Тады яна, прыйшоўшы дамоў, стала плакаць:

— Дайце мне хлеба і койстрачку. Хоць век,— гавора,— буду стражджаць, а братоў сваіх буду шукаць.

А бацька [redacted] маткай не пускаюць, плачуць:

— Дзе ты іх нойдзеш?

А яна гавора:

— Прапалі яны, прападу і я, калі іх не найду!

Ну, тады ўзяла яна сабе торбачку і пайшла куды вочы глядзяць. Яна ішла і дзень і ноч і прыходзе ў пушчу ў такую, што толькі неба ды зямля,— не ведае, куды яна сама ідзе. Яе ноч абняла, яна сычас пад елачку і абначавала. Тады назаўтрага ўстала, колькі-нібудзь прайшла. А там стаіць дамок небалшы. Ля таго дамка б'юцца два арлы. Яна ўбачыла і заплакала. Ну, сычас у тую хатку ўвайшла. Увайшла — дзве порцыі хлеба ляжаць на стале і два стаканы вады. Яна сычас увайшла, аднаго куска хлеба адкусіла і другога, аднаго стаканчыка адпіла і дру-

гога. Сама на печку ўзлезла і ляжыць. Так цераз нескалькі ўрэмя яны падзелаліся такімі малайцамі, як бы і такі народ. Цяпер яны ўходзяць у тую самую хатку.

— Ах, брацец,— адзін аднаму гавора,— што,— гавора,— нам бог дае прапітання, і тое нехта дзеле з намі!

Тады яны селі за стол і павужыналі. Тады яны сычас аб сырую зямлю ўдарыліся і здзелаліся ўзноў арламі і паляцелі біцца. Тады самая тая порцыя на стале і стала, як была: два стаканы вады і дзве абярценькі хлеба. Тая сястра так жа сама і здзелала: адламіла ад аднаго 'бярценька і ад другога і адпіла вады з аднаго стаканчыка і з другога, а сама апяць на печ схавалась. Тыя браты, пабіўшыся, узноў прыляцелі, падзелаліся такімі людзьмі, як ба нада, увайшлі ў хатку, падышлі к сталу і гавораць:

— Ах, госпадзі! Што нам дае бог прапітання, і то нехта адбірае. Ці худы, ці добры — вылазь, абяшчайся! Хто тут адбірае божае прапітання?

Яна выйшла з-за печкі і слезна заплакала. Яны пытаюцца ў яе:

— Хто ты такі?

Яна гавора:

— Я ваша сястра!

Меншы гавора:

— У нас не было сястры!

А большы ка[ж]а:

— Як жа, у нас матка засталась бярэменная. Можа і точна, што наша сястра. Ну, калі ж ты наша сястра, дык ты анямей на тры гады, дык нас узвароціш, а калі не выдзержыш, дык нас далі запратаеш!

Дык яна, саслязіўшысь, пайшла. Ідзе бог знае куды. Ішла яна дзень і ноч, на другую ноч усходзіць так; падышла то ж сама пад бярозку, заначлежылась. Ну, заначлежылась, а яе сабакі апанавалі. Ей нельга крычаць, дык яна на бярозку ўзлезла. Гэта ж ахвоціўся царскі сын. Чуе ён, сабакі цахляць, да на 'дном месце, нікуды не бягуць. Ну, тады ён прыходзе к бярозе. Убачыў яе на бярозе і кажа:

— Злазь!

Яна маўчыць. Ён крычаў, крычаў — маўчыць.

— Ну, ці нямы, ці глухі, хто ні ёс[ц]ь — злазь далоў!

Тады яна злезла і плача. Ён яе за руку і павёў у двор, гасударскі сын. Ну, тады ён прыходзе дамоў і гавора на матку:

— Ну глядзі ж, матушка, я хачу з ей пажаніцца!

А яна гавора:

— Ты каго пападзеш у лесе — ці нямога, ці глухога,— то ўсё табе харошае, то ўсё ты хочаш пабраць іх!

А ён атвячае:

— Ці нямая, ці глухая, а будзе мая жана!

Матка дужа не хацела, каб ён яе браў, а ацец із ім хацеў. Ну, ён і ажаніўся. Пажылі яны нескалькі ўрэмя з ёй, сычас у некаторым царстве падымаецца воінства, і трэбуюць іх — бацьку з сынам — на тое воінства. Ну, ён сычас паехаў з бацькам і кінуў яе бярэменную — яна забярэменела. Яны прабылі там колькі год, мо год пяць, ці колькі там — тады яна радзіла два сына, а іх яшчэ не было адтуль. Свякруха агледзела, што яна радзіла два сына і дужа прыгожыя: у адным ува лбе сонца, а звёздачка-зараніца ў патыліцы, а ў другім месячка ўва лбе, а звёздачка-зараніца ў патыліцы. Ну, тады ёй нельга было шчэ гаварыць. Свякруха за іх, абаіх пабрала ды ў склеп у такі, што ніхто не ходзе туды, і замкнула. Яна ж толькі плача. Ну, тады села матка тая, піша сыну: «Вот, сынок! Я казала табе — не жанісь на ёй: радзіла яна ні шчанят, ні сабачанят, няма як,— кажа,— іх і пісаць!»

Ну, а ён адпісаў ёй: «Ну, хоць і кацяняты, да майго прыезду каб цэлы былі!»

Ну сычас, доўга не думаючы, ён прыехаў адтудава, і то, і спрашуе ў маткі:

— Дзе мае дзеці?

Яна ка[ж]а:

— Вун там я ў склеп паўкідала іх, што яны нікуды неспасобны!

Ён тады з сэрца пайшоў, той склеп разламаў. Толькі разламаў, аж той склеп увесь ззяе, і яны ў розных цвятах сядзяць. Ну, цяпер ён пабраў тых сыноў, а матка насустрэчу ідзе. Ён выхапіў меч да на матку ка[ж]а:

— Вот, матушка, ты хацела дзве душы загубіць, дык я адну загублю!

Ды ўзяў матку і засек. Толькі матку засек, тыя браты прыляцелі арламі, і ўдарылісь аб сырую зямлю, і сталі такімі людзьмі, як бы і нада. Ну, яна сычас, тая нямая, загаварыла, абняла сваіх братоў, пацалавалісь. Тады царскі сын вывеў чэцвера коней, узяў запрог, забраў сваіх швагроў і жану з сынамі і паехаў к свайму цесцю.

Казка скора сказуецца, ды няскора дзела дзеялась. Адцураўся царскі сын і царства, што матка плоха хацела здзелаць.

## 20. БРАТЫ-ПТУШКІ І СЯСТРА

Жыў сабе дзед з бабай. І было ў іх тры сыны. Вот нешта было бальшое свята. Пайшлі яны ў цэркву і там пасварыліся за нешта і сталі біцца. Тады матка ўвідзела, што яны б'юцца ў свята, каець:

— Ах, каб вы, мае сыночкі, так цэлы век свой біліся, як вы цяпер б'яцёсь!

Так яны сычас падзелаліся птушкамі і паляцелі. Ляцяць і б'юцца крыллямі, ляцяць і б'юцца. Палядзела, палядзела тая матка, але што ж ёй дзелаць? Свайго ёй слова не вярнуць! Заплакала ды й пайшла дамоў. Тады гэта ўжо з тых пор, як яны паляцелі, прайшло ўжо гадоў з дзевяць. Вядома, скора сказка кажацца, ды няскора дзела дзеецца. Радзілася ў іх шчэ дачка. Вырасла тая дачка бальшая, сталі ёй людзі казаць, што ў яе было тры браты, але матка пракляла іх, дык яны здзелаліс́ь птушкамі і паляцелі. Дачка тая тады стала пытацца ў маткі:

— Ці праўда гэта, што ў мяне было тры браты?

— Праўда,— каець,— дачушка!

— Напячы ж мне, мамка, пірагоў і дай мне хлеба й масла,— я пайду іх шукаць!

Ну й пашла. Іці дык іці, іці дык іці, можа год, а можа два гады, відзіць перад сабою бальшую хату. Увайшла яна ў тую хату, ажны няма нікога, і на стале тры талеркі стаіць, і ля кажныя талеркі лыжачка ляжыць і скібачка хлеба. Тады яна залезла за печку і сядзіць там. Сядзела, сядзела, ажны прылятаюць тры птушкі. Як уляцелі, сычас скінулі з сябе пер'е і сталі такімі малойцамі! Селі яны, павячэралі і ляглі спаць. Яна тады вылезла з-за печы, увазнала, што гэта яе браты. Абняла яна старшага брата і стала над ім плакаць. Плакала, плакала ды ўзноў пайшла за печку і стала богу маліцца. Назаўтрага ўстаюць браты, і гэты, большы, брат гаворыць:

— Што я, братцы, сянні сніў! Здаецца, што ў нас дома ёс[ц]ь сястра і яна нада мной плакала сеначы!

Ну, тады яны паснедалі, надзелі на сябе пер'я і паляцелі. А яна выскачыла з-за печы да й глядзіць у вакно, куды яны паляцяць. А яны ўсё ляцяць і б'юцца крыллямі. Тады захацелася ёй ес[ц]ь. Яна ўзяла адламіла кусочак хлеба ў большага брата і з'ела. А сама ўзноў села за печку і сядзіць. Увечары прылятаюць яны ўзноў утраіх. Скінулі з сябе пер'я і селі вячэраць. Палядзяць, аж у старшага брата адломлена кусочак хлеба. Што гэта, думаюць: нікога ў хаце няма, а адломлена кусочак хлеба?

Ну, павячэралі, ляглі спаць. Яна тады выйшла з-за печкі і стала плакаць над сярэднім братам. Паплакала, паплакала і пайшла ўзнова за печку і стала богу маліцца. Назаўтрага пршнуліся яны, вот сярэдні брат і гаворыць:

— Ці ведаеце, братцы, што я сянні сніў? Здаецца, бытта наша сястра нада мной плакала! Ажны вот трошку кашуля мая мокрая!

А таго не ведаюць, што яна ў хаце ў іх ёс[ц]ь. Ну, тады паснедалі, пер'я на сябе надзелі і паляцелі. Ды ўсё б'юцца! Ды ўсё б'юцца! Захацелась ёй ес[ц]ь. Яна ўзяла, адламала кавалачак хлеба ў сярэдняга брата і з'ела. Палезла ўзноў за печ і сядзіць, богу моліцца. Увечары прылятаюць яны зноў. Скінулі пер'я, селі вячэраць. Палядзяць, а ў сярэдняга брата кавалачак хлеба адломлена.

— Не,— каець,— братцы, нехта ёс[ц]ь у хаце!

І сталі шукаць. Але-тку не найшлі і ляглі спаць. Тады яна вылезла з-за печкі, падышла к меншаму брату і стала плакаць. Пагаласіла, пагаласіла і зноў пайшла за печ і стала богу маліцца. Назаўтрага ўсталі яны, і гэты ўжо, меншы брат, гаворыць:

— Што я, братцы, сеначы сніў? Што здаецца наша сястра нада мной галасіла, аж во дзе кашуля троху мокра!

Пагаварылі, пагаварылі ды й паляцелі, б'ючысь. Яна адламіла кусочак хлебца ў меншага брата, з'ела ды й пайшла за печку. Сядзіць ды ўсё богу моліцца. Увечары прылятаюць яны, скінулі пер'я і селі абедаць. Калі палядзяць, аж у меншага брата адломлена кавалак хлеба. Тады сталі яны гаварыць по́меж сабой. Большы гаворыць:

— Я, каб яе цяпер увідзець, дык бы тапаром засек!

А сярэдні гаворыць:

— Я яе б нажом зарэзаў!

А меншы гаворыць:

— А каб я яе цяпер увідзеў, дык бы дужа быў бы рад!

Яна тады з-за печы выскачыла, абшчапіла яго і стала над ім плакаць. Ну, яны і ўсе сталі рады, сталі плакаць. Тады яна стала прасіць іх:

— Хадзіце вы дамоў! Вас дужа прасіла мамка і татка!

А яны кажуць:

— Тады мы будзем твае браты і пойдзем дамоў, як ты адбудзеш тры гады немай!

Усклалі яе на свае крылля і занеслі яе ў вялікую пушчу. Кінулі яе тут, у гэтай пушчы, а самі паляцелі, куды ім трэба было. Нешта, аднаго дня, хадзіў па гэтай пушчы кароль па паляванню

із лакеем з сваім. Сабакі гэтага караля найшлі гэтую нямую і сталі на яе брахаць. Паслаў кароль лакея палядзець, хто там ёс[ц]ь. Лакей схадзіў палядзеў і кажаць:

— Нейкая кабета сядзіць на яблыні, дужа прыгожая, але нічога не гаворыць.

Пайшоў тады палядзеў кароль сам, і яна дужа яму 'падабалася. Ён вялеў зняць яе адтуль і пацалаваў, а тады ўзяў к сабе дамоў і ажаніўся з ёй. А яна як была нямая, дак і ёс[ц]ь. Тады мачыха гэтага караля не ўзлюбіла яе, што ён з нямой ажаніўся. Стала яна яго падбіваць, стала празнушчаць, каб як-ніяк яе перавесць. Прайшоў адзін год, і другі год, а на трэці яна яму гаворыць:

— Што хочаш, тое з ёй здзелай: ці на 'гні спалі, ці звязі, каб толькі мае вочы не відзелі яе!

Ну, дык ведама: і жонку жалка, і не паслухаць мачыху няможна. Узяў завялеў слугам раскласць цяпло і ўкінуць яе ўва 'гонь. Ну, укінулі яе раз ува 'гонь — яна перакацілася чараз цяпло, і нічога. Тады другі раз укінулі, яна зноў перакацілася. Перапужаліся усе:

— Госпадзі, тут нешта ёс[ц]ь!

Але-тку раскапалі жар і ўкінулі яе трэці раз. Яна ўзноў выкацілася з агня. І ўсё маўчыць. Тут сычас прыляцелі яе браты, узялі яе на крылля і паняслі дамоў. Прынеслі дамоў і здзелаліся людзьмі. Бацькі іх сталі дужа рады. І з гэтай радасці ўпіліся. І я там быў, мёд-віно піў, па барадзе цякло, ды ў губу не папала.

## 21. ПРА СКЛЯТЫХ БРАТОЎ І СЯСТРУ

Вот былі бацькі. Было ў іх трох сыноў. Такія ж ужо красівыя, такія магучыя яны, здаровыя, проста, як якія багатыры. Але што яны нешта бацькоў угнявілі, не вельмі-то яны былі ім склонны. Узялі яны неяк раз і пабіліся. Матка іх скляла:

— Каб вы, дзеткі, біліся век, як птушкі.

Яны ўзялі і пракляліся, і падняліся на крылля і паляцелі, як птушкі, і б'юцца гэтымі крыламі па баках і паляцелі, і засталіся бацькі адны, няма ў іх ужо гэтых дзяцей. Ну вот, жылі яны, ну, вядома ж, цяжка было, такіх сыноў пацярала матка, не магла разжалець гэтага нічога. Вот жылі-жылі, нажылі сабе яшчэ дзевачку. Дзевачка не відзела гэтых братоў ніколі. Жыла яна. Вот бацькі сталі казаць:

— Вот, дачушка, у цябе былі брацеткі тры, такія красівыя, такія харошыя, я іх не сцярпела і пракляла, а матчыны клятвы збываюцца.

Дачка гэта падрасла, і так яна ўсягды была задумная, усё думала: «Як мне братоў тых увідзець, як іх атыскаць?» А матка ёй сказала:

— Дачушка, не думай, бо яны паляцелі на лес.

А лес быў непрахадзімая пушча. Вот яна падрасла і ўціхамолку ад бацькоў пайшла. Пайшла яна шукаць братоў. Прыйшла ў лес. Ну вот, па тым лесе пахадзіла, пахадзіла, нідзе не магла натрапіць найсці. А пасля глядзіць: паляначка, на паляначцы хатка стаіць. Думаець: «Вот зайду». Зайшла яна ў гэту хатку, глядзіць: тры коечкі, вот столік стаіць і печ, пагалядзела ў печы — кацялочкі стаяць, там наварана ежа. Ну, праўда, не вельмі там было падмецена. Яна ўсё зрабіла чысценька, падмяла і пазнала, што тут нейкія жывыя людзі жывуць.

Ну, з аднаго гаршка з'ела, з другога з'ела, з трэцяга, памногу не ела, пабаялася, каб гэта ўжо не абідзець каторага. Аднаму кравяць прыбрала, другому, трэцяму і падумала, што яны ўжо скора могуць вярнуцца, хто тут такі будзець, яна ж не знала, баялася дажа. Узяла захавалася за печку. Аж уходзяць такія багатыры, такія красівыя і селі есці.

— Ох,— кажуць,— як мы ўхадзіліся, ну і аддыхнуць не шкодзіла б.

Селі за стол, сталі яны прыглядацца ў свае кацялкі: у аднога ўзята, у другога і ў трэцяга, яшчэ ў іх былі і чарачкі, а ў чарачках у каждай было панямножку, а можа і поўная, віно. Яна ад каждай тожа па глаточку выпіла. Вот яны і ўстрывожыліся.

— Хто гэта ў нашым можаць быць доме?

Проста трывога нейкая іх ужо агарнула.

— Ну, нічога,— кажуць,— нада дапілнаваць.

А яна сядзіць.

— Калі б мы каго ўвідзелі, мы б яго тут як відзіш бы рашылі.

Ну, дык дзе ж ёй ужо вылезці. Тады і другі гэтак дзень, да і трэці; леглі яны спаць і вот так яна асмелілася і выйшла з сваёй прыюткі, агледзела, што яны спяшчыя. Над адным пагаласіла, заліла яго слязьмі, што ён проста чуць не прачнуўся. Тады ўжо ўвідзела, што яна яго тут патрывожыла, узяла і зноў схавалася. Гэты брат устаў і кажа:

— Мае вы братцы, што мне сёння саснілася. Як быдта ў нас

ёсць сястра і вот яна нада мной плакала, проста аж у мяне рубаха мокрая.

— Што б ты рабіў, каб гэта праўда было?

— Ну што, можа я б убіў бы яе.

О так во. Тады другую ноч узноў гэтак сама яна выйшла і над другім братам плакала, плакала, аблівала слязьмі. Тожа ўстаў.

— Мне,— кажа,— тожа такі самы сон сніўся.

— Ну, а ты што б рабіў, калі б застаў яе над сабой плачучы?

— Ну, я б ёй ужо харошы падарак бы паднёс.

Ну і пайшлі зноў жа яны ў лес. Трэцяй ночы таксама. Заснулі яны, і над трэцім яна слязьмі аблівала. Вот так. Як толькі ён прачнуўся, сказаў:

— Ну, што сабе хочаце, вашы сны да мяне перайшлі, мне таксама саснілася. Я вам проста і не верыў.

І расказаў, у якім віду гэта дзяўчынка.

— І нам такая снілася.

— Ну, што б ты рабіў, калі бы ты яе ўвідзеў?

— Каб я яе ўвідзеў, я б яе расцалаваў бы, я б яе не знаю як ужо прыжаў бы, я быў бы моцна рад.

Узяла яна і выйшла. Як яны абрадаваліся ўсе! Ну што ж, тады яна стала плакаць і прасіць у іх:

— Браточкі, пойдзем дамоў. Гэтак тата пастарэў і мама ўжо. Як жа жыць? Я ж іх не пракармлю.

— Мы цябе не пусцім, пакуль ты нас не адратуеш, бо нас матка пракляла. Вот,— кажуць,— ёсць у адным месце камень такі, каб ты ўжо як-небудзь да гэтага каменя дайшла і там вада пад ім ёсць. Каб ты вады гэтай дастала, дык ты б на нас пырснула, можа мы і аджываліся б.

Вот яна гэдак і пайшла. Прыйшла яна, а тамака камень гэдак ужо сільна вялікі. А тут дрэва таксама вялікае, яна і абначавала каля гэтага каменя.

Прыляцелі птушкі і сядзяць і гаворацъ, але не гэтыя птушкі, браты, толькі другія, будуць казаць:

— Вот дзіва, дык дзіва. У нашым лесе тры браты і яны праклятыя, а сястра іх шукаець, вот найшла, але яна іх дамоў не можа вярнуць. Вот пад гэтым камнем вада ёсць, ёй ніяк няможна дабыць, але каб яна прайшла, там працякаець маленькі ручаёк, яна прасочваецца, гэта вада. Няхай яна набярэць, папырскаець па іх, і яны будуць добрыя ж ужо, як і належыць.

Ну, яна шукала, шукала, найшла нейкай там ужо макраты,

не такая яна вада, як гразь. Яна гэтай граззю папырскала іх і тады ўсё: сталі яны ўжо — ні ў іх тых крылаў, не сталі птушкамі, сабраліся, сабраліся і прыйшлі дамоў. Вот і ўся басня.

## 22. БРАТЫ-ВАУКАЛАКІ І СЯСТРА

Жыў дзед з бабай, і было ў іх тры сыны і адна дачка. І памёр іх бацька. Тады матка і дачка сталі плакаць па сваім бацьку, а сыны сталі скакаць. Матка ляжала, ляжала на печы, а тады стала сварыцца на іх:

— Луччы было б мне на сто ваўкоў палядзець, нячым на вас!

Тады сыны сталі ваўкамі і пабеглі ў лес. Тады матка з дачкой схавалі бацьку. Пажылі яны трохі, стала ім скушна. Тады дачка кажыць матцы:

— Пайду шукаць сваіх братоў!

І пайшла. Ідзі, ідзі і прыйшла ў пушчу. Відзіць, стаіць там хатка на курынай ножцы. Прыйшла ў хатку, нікога няма ў хаце. І захацелась ёй есць. Яна стала шукаць есці, палядзела ў печ і найшла там тры гаршчочкі. Яна выставіла з печы адзін гаршчочак, троху з'ела — не пад'ела. Выставіла другей, троху з'ела — не пад'ела. Выставіла трэці, троху з'ела — пад'ела. Тады паставіла гаршкі ў печ, а сама падлезла пад печ і села. Тады чуець — ідзець нехта. Яна далі падлезла і глядзіць у шчэлачку. Відзіць, прыйшло ў хату тры ваўкі і раздзеліся, шубы паскідалі і сталі панічамі. Два панічы меншых села, а трэці большы стаў выстаўляць з печы гаршкі. Выняў адзін гаршчок — няпоўны. Ён тады каець сваім братом:

— Нешта наш гаршчок няпоўны!

Тады выняў другей гаршчок — і другей няпоўны. Тады ён каець:

— У нас сянні нехта ёсць!

Яны кажуць:

— Можа яны так чаго няпоўны!

Ён ім на гэта нічога не сказаў, выставіў і трэці гаршчок. І трэці няповен. Тады ён кажыць:

— Не, нехта ёсць, пашукаем!

Яны тады гаворацьь:

— Хто ў нас, вылязай! А то пасля абеда з'ядзім!

Тады яна вылезла з падпечча і пайшла. Ну, яны ўвазналі

яе і пасадзілі з сабой абедаць. Ела, ела яна, тады звалілася ў яе ложка. Яна стала падымаць ложку і ўвідзела ў іх хвасты воўкавы. Яна спужалася і не стала есці. Тады яны гаворадь:

— Чаму не ясі?

— Дзякуй, пад'ела, не хочу!

Тады яны гаворадь ёй:

— Бяжы, недалёка стаіць ліпіна, узлезь на ліпіну і сядзь там. І сем гадоў не гавары і не плач. Тады мы к табе вернемся!..

Яна пабегла, узлезла на ліпіну і села. Відзіць, бягуць тыя ваўкі. Прыбеглі к ліпіне і пачалі ліпіну грызць. Грызлі, грызлі, зубы паламалі і пабеглі ў лес. Кала тые ліпіны ехаў нейкі пан. Увідзеў пад ліпінай агонь і захацеў пакурыць, і паслаў свайго кучара закурыць папяроску. Тады кучар закурыў папяроску і гаворыць:

— Сядзіць на ліпіне паненка нейкая, дужа прыгожая.

Пан кажыць на яго:

— Дастань мне яе!

Кучар палез і дастаў. Тады пан узяў яе [illegible] сабе ў буду і паехаў. Прыбеглі тыя ваўкі, палядзяць — няма сястры. І пабеглі за панам. Дагналі пана і сталі буду ірваць. Пан стаў страляць і ўцяклі ў дзярэўню, а ваўкі вярнуліся ў лес. Пан гэты быў нежанаты. Ён прыехаў і захацеў із ёй жаніцца. І пытаецца:

— Ці пойдзеш ты за мяне?

Яна маўчыць. Тады ён кажыць сваёй матцы:

— Буду з ёй жаніцца!

А йна кажыць:

— Як ты будзеш жаніцца, калі йна нямая.

— Ну, хай сабе! Ажанюся!

І паехаў павянчаўся. Прыехаў дамоў — нічога не кажыць жонка. Тады матка кажыць:

— А што, я табе казала не жаніцца. А ты ажаніўся, цяпер і жыві, як хочаш.

Пражыў ён год, пражыў і другей, на трэці год радзіла яна сына. А його не было ў дварэ, пайшоў на ахвоту. Матка тая ўзяла, зарэзала рабёшачка і памазала нявестцы віць кроўю, а дзяцёнка пад падмосце кінула. Прыйшоў пан з ахвоты, матка кажыць:

— Вот, глядзі, сынок! Я табе казала не жаніцца, а ты не паслухаў, вот так і жыві!

— А што?

— А ідзі палядзі, што яна здзелала!

Прыйшоў ён к жонцы, ажны яна радзіла і зарэзала дзяцён-

ка. І маўчыць і не плачыць. Тады, цераз год, пайшоў ён узнова на ахвоту, а жонка радзіла. Матка ўзнова зарэзала дзяцёнка, а яе намазала кроўю. Прыйшоў сын з ахвоты, матка яму і кажыць:

— А што, я казала: не жанісь. Палядзі, што яна здзелала!

Ён апяць прыйшоў к ёй.

— Што гэта ты здзелала?

А яна маўчыць і не плачыць. Ну, ён нічога ёй не здзелаў. Пайшоў ён цераз год яшчэ на ахвоту, а яна ўзноў радзіла сына. Матка ўзяла зарэзала і гэтага. Прыйшоў яе сын з ахвоты, яна яму й сказала. Ён на гэты раз усердзіўся і стаў сваю жонку біць. А яна маўчыць. Ён тады завялеў здзелаць цыгунную печ і ўкінуў жонку ў печ і запёр там. Аж якраз выйшла сем гадоў. Прыходзяць яго швагры і яе браты і пытаюцца:

— Ці тут наша сястра?

— Тут, але йна памёрла ўжо!

— Ну, пакажы, ідзе яна?

Павёў ён іх туды. Яны разламалі печ, яна й вылезла з печы, і жыва. Тады браты сталі рады і сталі спрашуваць у сястры, як яна папала ў печку. Яна расказала ім, што матка рэзала дзяцей маіх і кідала пад падмосце, а мне няможна было гаварыць. Тады адчынілі падмосце, аж там дзеці жывэя, і большынькі дзяржыць меншых. Ну, тады матку прывязалі к конскім хвастам і пусцілі коней у поле.

## 23. ПРА ІВАНА БЯДНЯЦКАГА СЫНА

Праўда гэта ілі нет, можа гэта тысячу лет таму назад было, што чалавек абразаваўся канём.

Нарадзіла царыца сына, гадавала і ў злосці назвала яго, сына роднага, лошаддзю. І пайшоў ён балукацца.

А былі такія людзі, называліся кудзеснікамі, то яны лавілі і на цапях дзяржалі лашадзей тых. І гэтую лошадзь яны злавілі. І ён з ільвом стаяў, гэты лошадзь. Леў тожа раней чалавекам быў. Дак каля каня стаяла сала, а ў льва — авёс. Тамілі іх жызней.

Цяпер адзін бядняцкі сын з мацер'ю жыў. Ён на маць гавора:

— Маменька, пайду я. Можа, дзе заработак знайду.

Ён і пайшоў у пуць. Мала ён ішоў, каротка, імхамі, лесам,

выбраўся ён на паляну. Стаіць дом, пасярод двара стаіць калодзеж, із калодзежа латак у сарай. Заходзе ён у дом — нет нікога дома. Ён падумаў удзіраць з дома — можа абакрадзены дом, я буду атвячаць.

Яўляецца хазяін:

— Здароў, маладзец.

— Здароў, хазяін,— атвячае громка яму.

— Адкуда ты?

— Я еўрапеец, з Еўропы.

— Чаго ты шукаеш?

Ён гавора:

— Заработак.

— Дак вот,— гавора,— у мяне заработак ёсць. І пітаніе, якое хочаш. Што ты задумаеш — будзе. Пойдзем,— гавора,— на двор.

Вот падводзе яго к калодзежу (яго звалі Ванечка, таго хлопца, ён вясёлы быў).

— Выцягні тры вядры вады, улей у гэты латак, а куды яна бяжыць, гэта не тваё дзела. За гэту работу ў месяц я плачу дваццаць пяць рублёў. І вот куды гэта вада бяжыць, то не глядзі. Палядзіш,— то дванаццаць розак я табе з палавінай дам і палавіну жалавання зніму. І вот,— гаворыць,— я ад'язджаю на месяц адсюда, а ты хазяінам будзеш.

І змыўся, як вецер, у пустыню, гэты хазяін.

Іванька харашо жыве, музыкальны інструмент які хочаш мае, ну, думае аб мацеры: як яна там жыве, што ўсяго ёй кілаграм картошкі кінуў дробнай.

Ну, тады што? Астаецца тры дні аканчэння месяца. Падходзе к замку і сам па сабе гавора: «Ванька, нада пасматрэць» да «Ванька, нада пасматрэць».

Адкрывае дзвер, бачыць — лошадзь і леў. У лошадзі сала стаіць, а ў ільва авёс. Ён узяў сала, паставіў ільву, а авёс лошадзі. Леў пачынае сала есці, а лошадзь — авёс. Пакушалі яны. Ён тады сам па сабе: «Нада, Ванька, карыты паставіць на места? Да, нада карыты паставіць на места». Размяніў карыты і так правільна паставіў, як яны стаялі.

З'яўляецца хазяін.

— Як, Ванька, дзяла?

Ён гавора:

— Харашо.

Хазяін яму атвячае:

— Ты дагавор нарушыў.

Таму Ваньку ўжо нет куда. Ён здзяе штонікі свае, лажыцца, а хазяін яму ўлупіў дванаццаць з паловай розак.

— Іванька! Астанешся ў мяне на тры месяцы? Я прыбаўлю жалавання: за тры месяцы — дзевяноста рублей. Але пасмотрыш яшчэ, куды вада ідзе,— палавіну жалавання скарачаю і палавіну болей розак дам.

— Астаюся,— гавора Ванька.

А далей хазяін гавора:

— Я ўязджаю на тры месяцы, а ты тут за хазяіна будзеш.

Праработаў Ванька два месяцы з палавінай. Тады хадзіў, хадзіў, падходзе к замку ды сам па сабе: «Ванька, нада паглядзець, нада, Ванька, паглядзець».

Здымае замок, заходзе. Гэта пітаніе абратна перастаўляе. Толькі пачаў ад каня браць карыта, конь па-чалавечаму загаварыў:

— Стой,— гаворыць,— Ванька, не мяняй, а то твая галава зляціць. Ідзі,— гавора,— у кладовую, бяры ржавыя ключы. Там будуць залатыя, сярэбраныя і ржавыя медныя. Ты бяры ржавыя медныя ключы і адмыкай ільва.

Ён так і зрабіў. Адамкнуў ільва, леў яму паблагадарыў і пайшоў, леў. Лошадзь яму гавора:

— Ідзі, Ванька, бяры сядло іржавае, і бяры саблю ржавую, і бяры дванаццаць ржавых пузыркоў вады.

Ён і тое зрабіў. Конь тады гавора:

— Ну, Ванька, быстрэй сядлай мяне, а то вот-вот хазяін явіцца.

Зрабіў, як прыказаў конь. А тады ён ізноў гавора:

— За намі будзе гнацца пагонь, дак ты бей саблей натмах, рубі. Патом голас будзе: «Бей шчэ раз», а ты гавары, што бяднякі ўдар зразу ўдараецца. Як ты, Ванька, хочаш ляцець, ці за аблакамі, алі па зямлі, алі па вярхушцы лесу?

Падумаў:

— За аблакамі я баюся, па зямлі я ездзіў. Па вярхушцы лесу.

І ўзяў лошадзь з места, як пуля пайшоў. Хазяін явіўся, — нету ні каня, ні льва. Ну, гэты валшэбнік ужо струёй паліць. Лошадзь гавора:

— Пасматры ты, Ваня, узад.

Ваня азірнуўся і ўдарыў сабляй натмах. А конь высаты набраў уверх. Кудзеснік кажа:

— Бей, Ванька, яшчэ раз.

А той:

— Бядняцкі ўдар зразу ўдарае!

Лошадзь прыводзіць яго ў сваё гасударства (гэты ж конь быў царскі сын). Апусціліся за садам. А ў цара восем дзесяцін саду ссохла.

У гэта ўрэмя ў цара тры дачкі было, тры каралі прыехалі сватацца.

Тады лошадзь гавора на Іваньку:

— Ідзі ў дварэц, круга хадзі і крычы, што добры садоўнік.

Вот ён ужо так крычыць, што дварэц калоціцца. Царскія слугі ўслыхалі, прыбягаюць:

— Хто ты такі ёсць?

— Я добры садоўнік.

— О, дык нам садоўнік трэба. Хадзі.

Лошадзь яму:

— Улезь у левае вуха, а ў правае вылезь.

Зрабіў ён так, дык ён здзелаўся такі смаркаты, мурзаты, мух каля яго, камароў тучамі ўецца. Зайшоў к цару. Цар на яго:

— Хто ты такі ёсць?

— Я,— гавора,— добры садоўнік.

— Ты сад мне справіш?

— Спраўлю.

Патом цар думае, як ад яго, дурака, адчапіцца.

— Вот,— гавора,— справіш сад — мая галава далоў, а не справіш — я табе галаву адсяку. Як твая фамілія?

— Зялёны.

Тут ён увідзеў меншую царэўну, яе звалі Лена. Яна дужа яму панаравілася. Цар напісаў дагавор, сабе ўзяў і яму даў. Думае, як ад дурака адчапіцца. А меншую царэўну англійскі кароль хацеў.

Яўляецца Ванька к лошадзю. Лошадзь спрашуе:

— Што ты,— гавора,— відаў там харошае?

Ён атвячае:

— Дарагой лошадзь, я відзеў дзевачку там. Каб на яе месцы пасядзець, дзе яна сядзець, то мне стала б шаснаццаць лет, моладасці бы набраўся.

Лошадзь гавора:

— Іванька, яна твая жана будзе.

От ён пачаў ужо сад спраўляць. Пілачку возьме, прыкладзе к яблані — ябланя далоў. Пачаў валяць дрэвы ў садзе. Лошадзь гавора яму:

— Як я табе панадаблюся, ты крыкні: трава перада мной, а ліст перад табой.

А каралі ў гэта ўрэмя сталі сватацца. Дак лошадзь гавора яму, Ваньку:

— Вот цяпер, Ванька, ідзі ў дварэц, у аддзельны зал. Пойдуць у зал, і ты ідзі ўслед. Там будуць тры стулы стаяць — залаты, сярэбраны і медны. Пасля гуляння, хто ўперад на якога стула сядзе, таго жана будзе.

На яго, Ваньку мурзатага, не спадзяваліся. Але ён — цоп! і сеў на медны стул.

Англійскі король насупырыўся. І сёстры заляскалі ў ладкі:

— Ай-ай-ай, Лена пайшла за дурнога!

Яна атвячае:

— Знаць, мая судзьба.

Гэты англійскі король усердзіўся, паехаў, аб'яўляе вайну. На чом ні стала хоча гасударства разбіць.

А Ванька гэты ўсё сад рэжа. Тады сёстры малодшую ўжо пасылаюць:

— Занясі дурному хоць якусь пахлёбку.

А яна што палучшы нясе яму. А ён, смаркаты, усё есць гэта.

Ну, англійскі кароль заявіў вайну. А гэтым ужо зяцьям двом нада ваяваць, ісці побач.

Лошадзь тады на яго, Ваньку:

— Ну, Ванька, улезь у права вуха, у лева вылазь.

Зрабіў ён так, і такім красаўцам здзелаўсь, як кроў з малаком.

Тры сястры-царэўны выехалі на фронт міласэрнымі сёстрамі. Як праязджаў Ваня паўз дварэц, лошадзь сказаў:

— Свісні!

Ванька як свісне, то ўсе госці са спуду нічога не кушалі. Усё са сталоў зляцела, вокны вылецелі.

Англійскае войска прыйшло на первую лінію. Ванька як махне сваёй сабляй, то на пяць кілометраў падае тое войска. Тут ізноў явіўся той кудзеснік. А ў яго па восем кілометраў сабля рубіць, не дапускае да сябе. Дык лошадзь сказаў:

— У гэтым баю ці ты кроў уцяраеш нямножка, ці я.

А ўжо войска царскае не знала, што гэта яму памагаюць. Як прыскочылі на первую лінію, гэты валшэбнік сваю саблю паверх падняў. А лошадзь з Ванькаю высаты набраў ды павышы яго.

Усё ж атрубіў гэты валшэбнік у Ванькі мезіны палец наназе. Ванька выхваціў сваю саблю і ўдарыў па кудзесніку. Той гавора:

— Бі яшчэ раз!

А ён атвячае:

— Бядняцкі ўдар ураз ударае!

Далей яны яго пабядзілі, таго валшэбніка, кудзесніка. Саскочыў Ванька з лошадзя, зняў свой сапог з нагі. А кала яго ўжо тры сястры міласэрныя, родныя сёстры-царэўны. Бінтоў ужо не было ў іх. Тады Ленка перавязала яму палец сваім імянным платком, і зняла сваё імяннoе кальцо, і надзела яму на руку. І сярэдняя так зрабіла — сваім імянным платком перавязала палец і імяннoе кальцо надзела. І трэцяя так: імянны платок наклала, здзела сваё кальцо, надзела яму ды яшчэ пацалавала на дзве шчакі.

Вазврашчаюцца дамоў, перадаюць, што ўраг адбіты (а яны не зналі, хто біў). Патом, калі яны ляцелі, Ванька з лошадзям, лошадзь як зарзаў,— вугал дварца адваліўся. Царыца гавора:

— Уся нябесная сіла за нас ваявала.

Вот прыляцелі ўжо зноў у сад змучаныя. Ванька пайшоў у шацёр, а лошадзь пайшоў па сваему. Лёг Ванька на спіне, і рукі перахрэст. А ў дварцэ ўжо дзелаюць пір на ўвесь мір. Хто на што іграў, ідзе туды. А царыца ўжо гавора на Лену:

— Занясі таму дурню якой пахлёбкі. Нашы мужыкі ўсе ваявалі, а ён, дурань, толькі рэжа сад.

Яна што палучшы есці нясе яму. Падыходзе да шатра шагоў якіх пяцьдзесят, аж ён зззяе ўвесь. Падыходзе, заглядае ў шацёр, аж бачыць на Ваньку сваё кальцо і сястрыны кольцы. Узрадавалася яна — вось хто воін настаяшчы, мой воін. Гэта із-за шатра, збоку прыглядаецца. Відзе кольцы іх і платкі.

Яна ўскочыла ў шацёр, крэпка прыпала к грудзі і сільна стала плакаць і будзіць яго.

Адкрыў ён вочы, прыжаў к грудзі сваёй яе і пацалаваў. Яна бяжыць з радасці ў дварэц і крычыць:

— Не вы, дуракі, ваявалі, а мой, мой муж! Хадземце глядзець!

А лошадзь ізноў:

— Улазь у вуха!

І зноў смаркаты вылез, а палец яго абгорнуты грязным палаценцам.

Прыходзяць ужо ўсе з дварца, а Ванька ляжыць смаркаты і мурзаты. Падумалі яны, што дурная яна зрабілася, Лена. Пайшлі ад яго. Яўляецца лошадзь:

— Ідзі цяпер у дварэц і завялі ўсе вароты замкнуць.

Зрабіў гэта, а сам і вярнуўся к лошадзі. Лошадзь гавора:

— Цяпер ізноў улазь і вылезь з вуха.

Ізноў зрабіўся красавец, як сонца.

— Кагда пераскочым за аграду,— гавора лошадзь,— прывязвай мяне к сталбу. У канюшню весці не давай. Цябе будуць браць несці на руках, не давайся, сам ідзі. Як сядзе ўся кунпанія за сталы і я зарзу так, што ўсе напіткі зляцяць са сталоў, дак ты аб'яснi, што, эх, пайду застралю каня. Цар, царыца из каленях будуць падаць, маліць, каб такую лошадзь красівую не страляў.

А ён выйшаў і застрэліў. Сказаў, каб спалілі таго каня і каб адзін попел застаўся. Той попел Іванька на восем кучак раскладаў. Патом спрашуе:

— Ці быў у вас сын?

Яны са спуду паваліліся:

— Адкуль жа ты знаеш, ці быў у нас сын?

Тады ён той вадой з дванаццаці пузыркоў тры разы прайшоў па попелу, па ка́пцы капаў.

Устаець іх сын. Усе спугаліся, пападалі ніцам. Дык Лена тады на іх:

— Не вы, нягоднікі, ваявалі, а мой муж ваяваў!

А яны не верацъ. То яна на старшую сястру-царэўну:

— Каго ты цалавала два разы? Развяжы палец. Дзе кольцы?

Тады ўсе ўжо цалуюць яго. А ён пытае:

— Ну вот, папаша, дзе дагавор ваш?

А цар:

— Сын мой дарагі, прасці ўжо мяне.

А Іван кажа:

— Змывайцеся з гэтага гасударства, каб вас не было відаць за трыста дзевяць зямель.

А ён астаўся жыць там.

Так я з бальніцы ішоў. Уздумаў. Дай, думаю, зайду ў гэты дварэц. Зайшоў. Дак, праўда, добра ўгасціў. Я ж, гавора, бядняцкі сын, дык чаму бедняку не паспасобаваць. Ты мяне не забыў, і я цябе не забыў. Вот і ўсё.

## 24. ХОРТКІ

Жыў цар і царыца. І было ў іх сын і дачка. Памёр цар і царыца, а дзеці засталісь. Пажылі яны, пажылі, а тады і пайшлі ў свет. Ідзі, ідзі — стаіць хатка на курыных ножках. У тэй хатцы жыла Баба Юга, зялезная нага. Папрасілісь яны начу-

ваць. Назаўтрага Баба Юга сказала дзеўцы кросны ткаць, а мальцу дровы сеч, ды сама і пайшла, а кату звялела іх сцерагчы. Паходзіць, паходзіць, ды падойдзець пад вакно і пытаецца:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Ці тчэш ты?

— Тку, бабунька, тку!

Яна і пайшла. Пачалі яны тады даваць кату мяса, пачалі прасіць, каб ён іх аслабаніў. Кот даў ім клубочак і хустку і пусціў іх, а сам сеў за кросны. Падыходзіць Баба Юга пад вакно:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца! Ці тчэш ты?

А кот кажаць:

— Тку, бабунька, тку!

Убегла яна ў хату:

— Нашто ты пусціў іх?

— А! Ты хазяйка, ды мяне так не накарміла, як яны мяне накармілі!..

Уссела яна на ступу, качаргой паганяець, памялом след замятаець. А брат і сястра як выйшлі з хаты, пусцілі клубочак: куды ён коціцца, туды яны йдуць. Ідзі, ідзі — прыйшлі к агнянному мору. Махнулі хусткай — стаў мост. Перайшлі яны па ім чэраз мора, узнова махнулі — мост прапаў. Прыбегла Баба Юга к мору — і не змагла пераехаць. А брат з сястрой пайшлі далей. Ідзі, ідзі — стаіць хатка. Увайшлі яны ў хатку — няма нікога. І сталі яны ў тэй хатцы жыць. Вось раз брат пайшоў у ахвоту, а сястра засталась дома. Аж прыходзіць і к ёй Кашчэй Бяссмертны. Дзеўка спужалася, а ён кажаць:

— Ідзі за мяне замуж, а то заб'ю!

Яна сагласілася. Тады Кашчэй Бяссмертны кажаць:

— Забі свайго брата!

— Як жа мне забіць: ён дужа сільны?

— Як прыдзець ён з ахвоты, дык ты захварэй. Станець ён пытацца: чаго ты? А ты скажы, каб ён прынёс табе звярынага малака. Ён пойдзець і не вернецца!

Вот прыходзіць брат з ахвоты, а яна ляжыць.

— Чаго ты, сястрыца?

— Захварэла, брацец. Вот каб ты прынёс мне, брацец, зайчага малака!..

Пайшоў ён даставаць зайчага малака. Ішоў, ішоў — ажны бяжыць зайчыха з зайчанятамі. Толькі ён злажыўся, хацеў забіць, а яна гаворыць:

— Іван Царэвіч, не бі мяне! Я табе дам малака і зайчанёначка!

Узяў ён малака і хортка. Зайчыха кажаць хортку:

— Што ён табе скажаць, тое й дзелай!

Пайшоў ён дамоў, і харток бяжыць за ім. Аддаў сястры малако, а яна яго за плечы выліла ды кажаць:

— Схадзі ты, брацец, прынясі мне малака лісіччага!

Ён узяў ружжо і пайшоў. Ішоў, ішоў — ажны бяжыць лісіца з лісянятамі. Толькі ён злажыўся страляць, а лісіца гаворыць:

— Іван Царэвіч, не бі мяне: я табе дам малака і дзяцёначка!

Дала яму малака і хортка і прыказала хортку:

— Дзелай тое, што ён скажаць!

Панёс ён тое малако дамоў, і хорткі за ім бягуць. Сястра выліла за плечы і гэтае малако і сказала, каб ён прынёс воўчага малака. Ён узяў ружжо і пайшоў. Ішоў, ішоў, відзіць — ідзецьваўчыха з ваўчанятамі. Ён злажыўся і хацеў у яе стрэльнуць. А яна кажаць:

— Іван Царэвіч! Не бі мяне: я табе дам малака і ваўчанёначка!

Узяў ён малака і хортка. Ваўчыха прыказала хортку яго слухацца. Пайшоў Іван Царэвіч дамоў, аддаў тое малако сястрэ. Сястра выліла яго за плечы і кажаць:

— Прынясі мне, брацец, мядзведжага малака!

Ён пайшоў узноў. Ішоў, ішоў, відзіць — ідзець мядзведзіха з медзведзянятамі. Ён злажыўся і хацеў у яе страляць, а яна кажаць:

— Іван Царэвіч, не страляй у мяне: я табе дам малака і медзведзянёначка!

Дала яна яму малака і хортка і хортку прыказала:

— Дзелай тое, што ён скажаць!

Панёс тады Іван Царэвіч медзвядзінае малако ў двор і аддаў сястрэ. Яна і гэта заліла за плечы ды кажаць:

— Схадзі ты мне прынясі ласінага малака!

Ён узяў ружжо і пайшоў. Ідзі, ідзі — аж бяжыць ласіца з ласянятамі. Ён злажыўся і хацеў у яе стрэльнуць. Тады яна гаворыць:

— Не страляй у мяне, Іван Царэвіч: я табе дам малака і дзяцёначка!

Ён узяў малака і хортка. Ласіца прыказала хортку:

— Што ён скажаць, тое дзелай!

Панёс ён ласінае малако ў двор, а сястра і яго так жа сама выліла за шыю.

— Ідзі,— кажаць,— брацец, прынясі мне малака лявінага!

Пайшоў ён, відзіць — бяжыць лявіца. Толькі хацеў ён яе забіць, а яна кажаць:

— Іван Царэвіч! Не бі мяне: я табе дам малака і дзяцёначка!

Узяў ён малака і хортка і пайшоў у двор. Узяла сястра лявінае малако і пасылаець яго за смаляковым малаком. Ён узяў ружжо і пайшоў. Ідзі, ідзі — аж бяжыць смалячыха. Ён хацеў яе забіць, а яна кажаць:

— Не бі мяне, Іван Царэвіч; я табе дам малака і дзяцёначка!

Дала яму малака і дзяцёначка, прыказала, каб ён дзелаў усё, што скажаць Іван Царэвіч.

Стала цяпер у яго семяро хорткаў, і яны яго слухалісь і ўсюдых за ім хадзілі. Як прынёс ён ад смалячыхі малака, сястра відзіць тады, што звяры нічога яму не здзелаюць. І паслала яна яго ў такі пруд, што чэрці мелюць на дванаццаць камянёў, набраць за пасследнім каменем ілу. Узяў Іван Царэвіч сваіх хорткаў і пайшоў. Ідзі, ідзі, ідзі, ідзі — роўна тры гады: сам прагаладаўся і хорткі яго. Пайшоў ён з хорткамі ў пруд за дванаццаць дзвярэй, нагроб за дванаццатым каменем таго ілу і пайшоў. А хорткі яго ліжуць ды ліжуць іл — вядома, галодныя — і не ўбачылі, калі пайшоў іх хазяін. Толькі ён выйшаў, аж усе дванаццаць дзвярэй і зачыніліся, і хорткі яго там асталіся... Паплакаў ён, пагараваў і пайшоў у двор, панёс іл сястрэ. Прыйшоў, аж Кашчэй Бяссмертны з сястрой сядзяць за сталом. Тады Кашчэй кажаць:

— Ну, Іван Царэвіч, пара цябе з'есць!

— Як ты будзеш мяне есці: я за тры гады закапцеў. Лепі вытапі лазню — я памыюся, тады і з'ясі!

— Ну, ідзі, тапі!

Іван Царэвіч пайшоў і затапіў лазню. Аж ляціць крук і крычыць:

— Кру, кру! Іван Царэвіч! Тапі, тапі ды пагась! Твае хорткі з пруду дзяруцца: ужо чацвяро дзвярэй праламілі!

Вот Іван Царэвіч топіць, топіць ды й пагасіць. Толькі адляцеўся крук, а Кашчэй Бяссмертны крычыць:

— Іван Царэвіч! Ці гатова лазня?

— Не, яшчэ камення не садзіў!

— Ну, тапі скарэй!

Тады ляціць другі крук і крычыць:

— Кру, кру! Іван Царэвіч, тапі, тапі ды пагась: твае хорткі яшчэ чацвяро дзвярэй праламілі!

Толькі крук адляцеўся, прыйшоў Кашчэй Бяссмертны:

— Іван Царэвіч! Ці гатова лазня?

— А толькі яшчэ камення ўсадзіў!

— Ну, тапі скарэй!

Іван Царэвіч топіць, топіць ды й пагасіць. Ляціць трэці крук:

— Кру, кру! Іван Царэвіч! Тапі, тапі ды растаплівай: твае хорткі паследнія дзверы ламаюць!

Ён стаў растапліваць: растапіў жарка, аж прыходзіць Кашчэй Бяссмертны:

— Ну, хадзі ў лазню, я ўжо цябе і так доўга жду!

Толькі ўвайшлі ў лазню — аж бягуць хорткі! Іван Царэвіч узрадаваўся:

— Слугі мае верныя! Слугі мае дарагія! Бярыцесь-ка за яго! Ты, воўк, з зайцом ды з лосем старайцеся дроў! А ты, мядзведзь, бяры-ка дубінку-драчун, каці-ка па ім! А ты, лісіца — хітрая маладзіца, старайся ўгаркоў — печ затапіць! А ты, леў, Кашчэя ў трубачку звярці ды ў печ укінь! А ты, смаляк, адыхай!

Січас дроў пастараліся, угаркоў пастараліся, растапілі печку. А дубінка-драчун тым часам каціць па Кашчэю! Як толькі печка добра растапілася, дык леў звярцеў Кашчэя ў трубачку і ў печ укінуў...

Пайшоў тады Іван Царэвіч к сястрэ. А Кашчэй сказаў ёй:

— Калі мяне твой брат заб'ець, дык пайшчы мой клык, ды калі ляжыць ён спаць, ты падлажы яму клык пад галавы. Ён тады памрэць!

Вот, як толькі прыйшоў Іван Царэвіч у двор, яна пабегла ў лазню і ўзяла клык. Узвярнуўшысь, дала брату есці, а тады паслала яму пасцелю і падлажыла пад галавы клык. Іван Царэвіч пад'еў сам, накарміў хорткаў, і ляглі яны спаць. Як лёг Іван Царэвіч на пасцелю, клык нагрэўся і ўвяз у галаву. Ён і памёр. Прачнулася лісіца, аж відзіць: іх хадзяін няжыў. Узбудзіла яна другіх хорткаў і кажаць:

— Вы тут глядзіце яго, а я схаджу вады гаючыя і жывучыя!

Пайшла лісіца, а хорткі сядзяць ды плачуць. Зайчык сеў плакаць ля галавы — і ўвідзеў клык. Стаў ён яго лізаць — клык нагрэўся ды зайцу ў лоб. Іван Царэвіч аджыў — зайчык памёр. Стаў зайца лізаць воўк. Клык нагрэўся ды воўку ў лоб. Зайчык аджыў — воўк памёр. Стаў воўка лізаць мядзведзь — клык на-

грэўся ды яму ў лоб і забіў, а воўк аджыў. Стаў лось лізаць мядзведзя — клык яго забіў. Стаў леў лізаць лося — клык сагрэўся ды яму ў лоб: ён памер, а лось аджыў. Аж прыбягаець лісіца. Хорткі к ёй:

— Ну, лісічка—хітрая маладзічка, аджыві цяпер ільва!

Лісіца ўзяла ды стала церці ільва па лобу канцом хваста. Клык сагрэўся ды лісіцы па хвасту! Ды толькі валосся зачапіў і нічога не эдзелаў. А леў аджыў. Тады Іван Царэвіч кажаць:

— Ты, воўк, старайся з зайцом ды з лосем дроў! А ты, лісіца, старайся ўгаркоў! А ты, мядзведзь, бяры-ка дубінку-драчун, каці-ка па ёй! А ты, леў, у трубачку скаці ды ў печ укладзі! А ты, смаляк, аддыхай!

Так ён і спаліў сястру! Пайшоў тады Іван Царэвіч, падпаліў сваю хату, а сам пайшоў у свет. Ідзі, ідзі, ідзі, ідзі — аж відзіць, ідзець ля мора царская дачка Мар'я і дужа плачаць. Тады ён спрасіў:

— Чаго ты плачаш, Мар'я Царэўна?

— Як жа мне не плакаць: улюбіўся ў мяне змей а шасці галавей. Або з ім жаніцца, або на гэтым свеце не жыць!

— Ну, не плач, Мар'я Царэўна: можа я з ім спраўлюсь!

Пайшоў Іван Царэвіч к мору, стаў над морам і жджэць. Аж ляціць змей а шасці галавей. Як толькі ён прыляцеў, Іван Царэвіч кажаць:

— Воўк, старайся дроў! А ты, лісіца, старайся ўгаркоў! А ты, мядзведзь, бяры-ка дубінку-драчун, каці-ка па ім! А ты, смаляк, у трубачку скруці ды ў печ укладзі! А ты, леў, аддыхай!

Січас пастараліся дроў, угаркоў і затапілі печ, а смаляк скруціў змея ў трубачку ды толькі хацеў укінуць у печ, аж увідзелі яны харошы камень. Іван Царэвіч кажаць:

— Ты, леў, падымі камень!

Леў падняў, а смаляк падсадзіў змея пад камень. Тады Мар'я Царэўна пайшла дамоў, а Іван Царэвіч з хорткамі стаў аддыхаць. Выспаўшыся, пайшлі яны к цару. Завёў Іван Царэвіч хорткаў у сад царскі і сказаў, каб яны ляглі пад агрэстам, а сам пайшоў наняўся за садоўнічага. Раз прышлося Мар'і Царэўне гуляць па саду і ўвідзела яна гэтых хорткаў пад агрэстам. Пабегла яна тады і к цару і сказала, што відзела тых самых хорткаў, што адраталі яе ад змея. Цар січас пазваў усіх садоўнічых і спрашыець:

— Чые гэта хорткі пад агрэстам?

Ніхто не прызнаўся. Тады цар кажаць:

— Ну, калі так, дык я павешу іх!

Пажалеў Іван Царэвіч сваіх хорткаў і прызнаўся, што гэта яго хорткі. Цар тады пажаніў яго з сваёй дачкой Мар'яй Царэўнай. На тым вяселлі і я быў, мёд-віно піў, па вусам цякло, а ў рот не папала. Далі мне чапялу, я пабягу па сялу; далі мне цмык, я пад вароты шмык; далі мне скавароду, я пабег па гароду.

## 25. МЕДЗЯНЫ ВОЎК

Жыў сабе дзед ды баба. Было ў іх двое дзяцей — сын і дачка. Сына звалі Іванька, а дачку Мар'я. Вот прыбег і к ім воўк медзяны і з'еў дзеда й бабу. А сам астаўся з дзяцьмі. Вот ён улезець у люльку ды й кажаць на дзяцей:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Тыя дзеці і пачнуць яго калыхаць. Калышуць, калышуць, пакуль ён заснець, тады выйдуць на вуліцу, сядуць на завалінку і плачуць. Вот раз сядзяць яны і плачуць. Аж ідзець заяц:

— Чаго вы плачаце?

Яны гавораць:

— Як жа нам не плакаць? Былі ў нас бацька і матка. Прыбег медзяны воўк, з'еў бацьку й матку, а нам сказаў, каб мы яго калыхалі...

Тады заяц гаворыць:

— Я вас ад гэтыя бяды збаўлю: садзіцеся на мяне, я вас павязу!

— Не, медзяны воўк і цябе заб'ець і нас адбярэць!

— Не бойцеся, садзіцесь!

Мар'я палядзела воўку ў вочы, аж ён спіць. Тады яны селі на зайца і паехалі. Ехалі, ехалі, ці доўга, ці мала, а медзяны воўк прачхнуўся ды крычыць:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць.

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць. Ён тады ўскочыў і пабег за імі. Дагнаў іх, зайца раздзёр і Іваньку і Мар'ю хацеў забіць. Але яны так-сяк адпрасіліся, і ён узяў панёс іх дамоў. Вот улез медзяны воўк у люльку:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Яны сталі калыхаць. Закалыхаўшы, выйшлі на вуліцу, селі на завалінку і плачуць. Ажны ідзець воўк:

— Чаго вы плачаце?

— Як жа нам не плакаць? Былі ў нас бацька і матка; прыбег медзяны воўк, бацьку й матку з'еў, а нам сказаў, каб мы яго калыхалі!

— Садзіцеся на мяне, я вас ад гэтыя бяды спасу!

— Не, не спасеш: заяц уцякаў — не ўцёк, і цябе медзяны воўк дагоніць і заб'ець і нас адбярэць!

— Садзіцеся, не бойцесь!

Яны здалісь; селі і паехалі. Ехалі, ехалі, ці доўга, ці мала, а тым часам прачхнуўся медзяны воўк:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць.

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць. Ён ускочыў і пабег за імі. Дагнаў іх, воўка раздзёр, хацеў і дзяцей забіць, але яны так-сяк упрасілі яго, і ён прынёс іх дамоў. Узлез узнова медзяны воўк у люльку:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Яны сталі калыхаць. Калыхалі, калыхалі і закалыхалі. Тады выйшлі на вуліцу, селі на завалінку, сядзяць і плачуць. Ідзець мядзведзь:

— Чаго вы плачаце?

— Як жа нам не плакаць? Былі ў нас бацька і матка; прыбег медзяны воўк, бацьку й матку з'еў, а нам вялеў калыхаць яго.

— Ну, садзіцеся на мяне, я вас ад гэтыя бяды збаўлю!

— Не, не збавіш. Заяц не ўцёк ад яго, воўк не ўцёк, і цябе ён дагоніць і заб'ець.

— Садзіцесь, не бойцеся: я сілней за яго!

Мар'я з Іванькам паслухалі, селі на мядзведзя і паехалі. Ехалі, ехалі, ці доўга, ці мала, а медзяны воўк прачхнуўся ды й крычыць:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць.

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць. Ён выскачыў, пабег за імі. Дагнаў іх, мядзведзя раздзёр, а яны ўзнова адпрасіліся:

— Мы самі не хацелі ўцякаць, але ён нас прымусіў!

Прынёс ён іх дамоў і вялеў, каб яго калыхалі. Закалыхалі яны яго, выйшлі на вуліцу, селі на завалінку і плачуць. Ажны прыляцелі к ім гусі:

— Чаго вы плачаце?

— Як жа нам не плакаць? Былі ў нас бацька і матка; пры-

бег медзяны воўк, бацьку й матку з'еў, а нам сказаў, каб яго калыхалі!

Тады гусі сказалі:

— Садзіцеся на нас, мы вас унясём ад медзянога воўка!

— Не, не ўнесяцё: заяц ад яго не ўцёк, воўк не ўцёк, мядзведзь не ўцёк. І вас ён дагоніць і заб'ець!

— Не бойцесь. Як ён дагоніць, калі мы ляцець будзем!

Здаліся яны, селі і паляцелі. Ляцелі, ляцелі, ці доўга, ці мала, ды паселі аддыхаць. А медзяны воўк прачхнуўся:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць.

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць. Ён ускочыў і пабег даганяць. Дагнаў іх, гусей пабіў, хацеў і Йваньку з Мар'яй забіць, але яны ўпрасілі:

— Мы самі не хацелі ўцякаць, але нас к гэтаму прымусілі гусі!

Ён узяў і прынёс іх дамоў. Улез узнова медзяны воўк у люльку:

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Яны сталі яго калыхаць. Калыхалі, калыхалі, воўк заснуў. Тады яны выйшлі на вуліцу, селі на завалінку, сядзяць і плачуць. Ажны ідзець лось:

— Чаго вы плачаце?

— Як жа нам не плакаць? Медзяны воўк з'еў бацьку і матку, а нам сказаў, каб мы яго калыхалі!

Тады лось кажаць:

— Я вас ад бяды спасу, садзіцеся на мяне!

— Не, не спасеш: воўк, прачхнуўшыся, дагоніць цябе і заб'ець.

— Не, не дагоніць, толькі ты, малец, вазьмі шчотку, а ты, дзеўка, грабло!

Здаліся яны, селі і паехалі. Лось як скаканець — вярсту ўедзець, як скаканець — вярсту ўедзець. А медзяны воўк прачхнуўся:

— Трох-трох! Калышыце мяне! ,

Не чуць.

— Трох-трох! Калышыце мяне!

Не чуць. Ён тады ўскочыў і пабег даганяць. А тым часам прыехалі яны к гарэ, к такей высокай, што і птушка не пераляціць. Прылёг лось на зямлю і слухаець, ці бяжыць медзяны воўк. Чуець — бяжыць. Ён тады дмухнуў ноздрамі — і гара расступілася. Яны і пераехалі. Тады лось узноў дмухнуў на гару:

то была яна высокая, а то яшчэ удвая павышала. Паехалі яны дальшы. Ехалі, ехалі, ці доўга, ці мала — узноў лось прылёг на зямлю і слухаець.

— Ну,— кажаць,— пракапаў ён гару і бяжыць за намі. Кідай, дзеўка, грабло!

Кінула яна грабло — і здзелаўся непрахадзімы лес, такая пушча, што й мышына не пралезець. Паехалі яны далі. Ехалі, ехалі, лось узнова прылёг к зямлі і слухаець.

— Пасреднюю дзеравіну перагрызаець! Кідай, малец, шчотку!

Малец кінуў шчотку — узніклі сцены, равы, рэчкі. Паехалі яны далі. Ехалі, ехалі — прыехалі к вазяру. Лось даў тады мальцу хустку і кажаць:

— Махні хусткай на вазяро!

Ён махнуў тры разы на вазяро — і здзелалась суха. Яны і перайшлі на тэй бок.

— Махні ўзнова хусткай на вазяро!

Ён махнуў тры разы — і здзелалась вазяро. Воўк стаў плыць па вазяру, уплыў у палавіну і астаўся на купіне. А лось завёз дзяцей у такі пакой, што ні ўздумаць, ні ўзгадаць, ні ў казцы сказаць. І сталі яны там жыць. Лось тады сказаў, каб яны яго спалілі. Яны доўга не хацелі паліць, але-ткі мусілі спаліць. Брат усё хадзіў на ахвоту, а дзеўка сядзела дома. Раз прыйшла яна на вазяро мыць ложкі. І воўк яе пазнаў, і скінуўся дужа ладным мальцам, і гаворыць:

— Ты, дзявіца, у мяне ўлюбілася?

А йна кажаць:

— Улюбілася!

— Ну, калі ж ты ў мяне ўлюбілася, дык пусці ка мне чашку!

Яна ўзяла і пусціла і к яму чашку. Ён сеў у тую чашку і прыплыў к ёй.

— Ага, вот калі я цябе з'ем!

Дзеўка спужалася.

— Ну, мы з табою ажэнімся. Ды ўсё-ткі, калі ты будзеш жалець брата, дык я цябе з'ем, а калі не будзеш жалець, дык не буду!

Яна кажаць:

— Не, не буду жалець!

— Ну, трэба ж яго згубіць!

— Як жа мне яго згубіць!

— А во як: ты вазьмі ды прыстаўся хворай! Як ён прыдзець з ахвоты, ты скажы, што табе людзі раілі, каб пользавацца

ліссім малаком. І папрасі яго прынесці гэтага малака. Ён як пабяжыць за лісіцай, дык і розум пацяраець.

Прыйшоў брат, а Мар'я гаворыць:

— Во што, мой браток: я захварэла, і мне людзі нараілі, каб я выпіла ліссяга малака. Знайдзі ты лісіцу і дай мне яе малака!

Брат, не доўга думая, узяў ружжо на плечы і пайшоў у лес. Толькі ён ідзець, аж бяжыць лісіца з лісянятамі. Іванька злажыўся ў яе, а яна кажаць:

— Не бі мяне, Іванька, што хочаш, тое дам!

— Дай толькі мне малака!

— І малака свайго дам, і дзіця свайго дам, Іванька,— ён табе нада будзець!

Дала яму малака і дзяцёнка і сама пабегла. Тады Іванька пайшоў дамоў з лісянёнкам, і тэй лісянёнак жыў не па гадах, ды па часах. Прыйшоў ён дамоў, аддаў сястрэ малако, а сам некуды адвярнуўся. Яна тады і выліла гэта малако пад караваць. Калі ўзнаў пра гэта медзяны воўк, што Іванька прынёс ліссяга малака, дужа ніздзівіўся і сказаў Мар'і, каб яна вялела брату прынесці ёй ваўчынага:

— Цяпер каляды. Ён як пойдзець у лес — і нападзець на стада ваўкоў, там яму і канец будзець.

Брат меў ісці на ахвоту, а сястра яму кажаць:

— Людзі нараілі мне піць воўча малако!

Ну, брат узяў ружжо на плечы і пайшоў у лес. Толькі ён ідзець лесам-балотам, аж ідзець ваўчыца з двумя ваўчонкамі. Іванька злажыўся ў яе страляць, а яна гаворыць:

— Не бі мяне, Іванька,— што хочаш, тое дам!

— Дай мне свайго малака!

— І малака дам, і дзіця свайго дам, Іванька,— ён табе нада будзець!

Узяў Іванька малака і ваўчанёнка і пайшоў дамоў. Ваўчанёнак тэй рос не па днях, ды па часах. Прыйшоўшы дамоў, ён аддаў сястрэ малако, а яна яго выліла пад караваць. Медзяны воўк тады сказаў ёй, каб яна прасіла брата прынесці мядзведжага малака. Сабраўся Іванька на ахвоту, а сястра і гаворыць:

— Нараілі мне людзі піць мядзведжа малако!

Брат заплакаў і пайшоў. Ідзець па лясу, па балоту, аж відзіць — ссуць мядзведзіху медзведзяняты. Стаў ён меціцца ў яе, а яна гаворыць:

— Не бі мяне, што хочаш, тое дам!

— Дай мне малака!

— Дам і малака, і медзведзянёнка — ён табе ў ліхую гадзіну надабен будзець!..

Узяў Іванька малака і медзведзянёнка і пайшоў у двор. Медзведзянёнак рос не па днях, ды па часах. Прыйшоў Іванька ў двор, аддаў сястрэ малако. А яна і гэта за бок заліла. Ну, і як толькі Іванька хадзіў на ахвоту, медзяны воўк вылезець із-пад печы і піруець з ёй; а як толькі прыходзіў з ахвоты, дык і схаваецца пад печ. Тады Іванька некуды адвярнуўся, а воўк кажаць сястрэ:

— Ён, мусіць, дужа сільны! Няхай-тку ён прынясець табе ільвінага малака!

Сястра і кажаць Іваньку:

— Мне людзі раілі піць ільвінае малако. Каб ты прынёс?

Ён заплакаў:

— Божа мой, божа мой! Ідзе я табе яго дастану!

Ды ўзяў ружжо і пайшоў. Ішоў, ішоў па лясу, па балоту і найшоў ільвінае гняздо з ільвянятамі. Ён узяў малака і аднаго ільвянёнка і пайшоў дамоў. Сястра і гэта малако выліла за вакно. Медзяны воўк дужа здзівіўся, што Іванька выйшаў цэлы ад ільвоў, і сказаў Мар'і, каб яна паслала Іваньку ў тэй пруд, ідзе мука сама мелецца, пірагі самі пякуцца і самі ў горадзе прадаюцца:

— Ён, мусіць, адтуль ужо не выйдзець, бо там нікога няма, [а]крамя нячыстыя сілы. Няхай-тку ён табе з таго пруду прынясець з-пад бальшога каменя пылку!

Пайшла сястра к Іваньку і кажаць:

— Нараілі мне людзі патрабляць такі і такі пылок. Схадзі, браток, прынясі!

Ён заплакаў:

— Божа мой, божа мой, ідзе я табе яго дастану?

Але-ткі ўзяў з сабой усіх звяроў: лісіцу, ваўка, мядзведзя, ільва і пайшоў к тому пруду. Відзіць — у прудзе дванаццаць дзвярэй. Упусціў ён упярод сваіх звяроў, а сам яшчэ не ўспеў увайсці ў пруд, аж дзверы і замкнуліся! Але лісіца — ведама, хітрая звярушка — прыбегла ціханька к бальшому каменю і ўзяла трошку пылку ды падбегла к шчэлцы і чэраз шчэлку падала гэты пылок Іваньку. Завярнуў Іванька пылок у паперку і панёс дамоў. Сястра ўзяла пылок і пайшла к медзяному воўку. Тэй, як узнаў, што звяры Іванькавы асталісь у прудзе, дык троху ўзрадаваўся, бо знаў, што без звяроў яго падыйці можна. Ён сказаў Мар'і:

— Трэба паспрабаваць яго сілу. Уврці яго ў палатно, а

калі ён гэта палатно разарвець, тады ўвярці яго шоўкам. І калі ён шоўку не разарвець, тады пазаві мяне!

Мар'я пайшла і к брату ды кажаць:

— Вот, мой браточак: мне людзі казалі, што ты дужа сілны. Хацела б я паспрóбаваць тваё сілы?

— Адчаго, можна!

Тады яна завярцела яго ў палатно. А ён як рвануўся — так палатно ўсё і рассыпалася. Тады яна ўзяла і ўвярцела яго ў шоўк. Іванька рвануўся, але шоўку не разарваў, і шоўк уцісную́ся ў яго косці. Тады Мар'я пазвала медзяного воўка. Тэй прыйшоў з шабляй і хацеў адсеч яму галаву. Але птушачка, што сядзела ў клетцы, спела Іваньку, каб ён прасіўся хоць на паўчаса, ля таго, што звяры яго ўжо прагрызлі дзверы. Іванька так-сяк адпрасіўся на паўчаса богу памаліцца. Паўчаса прайшло, а звяроў няма. Тады птушачка запела, каб Іванька прасіўся на паўмінуты, бо яго звяры ўжо бягуць. Так-сяк Іванька адпрасіўся яшчэ на паўмінуты. Прайшло і паўмінуты, а звяроў як няма, дык няма... Ужо воўк ідзець з шабляй, каб забіць Іваньку. А тут і птушачка пець перастала. Воўк і адрубіў Іваньку галаву... Толькі ён адрубіў галаву, а звяры і прыбеглі. Кінуліся яны на медзяного воўка і пачалі яго рваць і разарвалі на куські. Тады леў сказаў мядзведзю, каб ён пілнаваў трупа Іванькавага, а воўку сказаў, каб ён дастаў сабе і мядзведзю есці, а сам з лісіцай пайшоў па ваду гаюшчую і жывушчую. Ішлі яны, ішлі, дужа доўга; аж прыйшлі к дубу, а на тым дубу сядзіць воран.

— Воран, воран! — кажаць леў.— Прынясі мне вады гаюшчыя і жывушчыя!

— А за што я табе маю прыносіць такея вады? Што ты мне здзелаеш, калі я не прынясу табе?

— А за сваю жыс[ц]ь! — кажаць леў.

Ды як патрос дубам, дык ворану і зляцець няможна: чуць у ім нутры не парваліся. Тады воран пабяшчаў прынесці вады гаюшчыя і жывушчыя:

— Толькі падвяжыце мне пад крылля дзве бутэлачкі, каб было ўва што вады ўзяць!

Леў падвязаў яму пад крылля бутэлкі. Воран і паляцеў. Ляцеў ён, ляцеў, дужа многа. Аж прылятаець к царскаму дварцу, дзе была вада гаюшчая і жывушчая. Кала тые вады і дзень і ноч стаяў салдат на часах. Лецючы, воран стаў стукаць бутэлачкамі. Падняў салдат галаву ўгору, відзіць — ляціць птушка і стукаець бутэлачкамі. Задзівіўся ён і пабег, сказаў цару і ўсяму двару царскаму. Усе выбеглі глядзець. Відзяць, што ляціць

нейкая птушка і лецючы нечым стукаець і бразчыць. І сталі ўсе на яе глядзець. Тады воран стаў адлятаць далі. За ім пабеглі ўсе чыста. Адвёўшы іх за вярсту, воран скарэй вярнуўся, набраў у бутэлачкі вады гаюшчыя і жывушчыя і паляцеў к ільву. Леў узяў ад яго ваду і пайшоў з лісіцай дамоў. Прыйшоўшы, відзіць, што мядзведзь ссох, як шчэпка, а воўк разжырэў, як кормны парсюк. Тады леў пытаець:

— Чаго ты, мядзведзь, высах, як шчэпка?

— А воўк сам наядаўся, а мне толькі даваў голую костачку!

Тады леў кажаць:

— Ну, ты яго за гэта пасадзі на левую лапу, а правай пагладзь!

Мядзведзь узяў, пасадзіў воўка на левую лапу, а правай як паціснуў, то воўку й дух вон. Тады леў узяў вады гаюшчыя ды ўзліў на Іваньку — галава к трупу і прыстала. Тады ён уліў у рот вады жывушчыя — Іванька й аджыў.

— Ах, як я смашна заснуў!

— Да, добра заснуў: каб не мы, дык бы не ўстаў!

Выйшлі яны тады з гэтага дому: Іванька з сястрой, мядзведзь, леў і лісіца. Прайшоўшы нескульку вёрст, Іванька раздумаўся:

— Нашто я ўзяў з сабой сястру?

І ўзяў ды прывязаў яе к дзераву. А сам з звярамі пайшоў далі. Але, прайшоўшы троху, стала яму жалка сваёй роднай сястры. Паслаў ён мядзведзя:

— Ідзі, палядзі: ці смяецца яна, ці плачаць? Калі смяецца — там астаў, а калі плачаць — адвяжы і ка мне прывядзі!

Мядзведзь пайшоў і на дарозе дужа ўссердзіўся на Мар'ю, што чэраз яе ён высах, як шчэпка. Прыйшоў к ёй, ды ўзяў ды й забіў. Вярнуўшыся к Іваньку, кажаць:

— Смяецца, аж пена красная валіць з рота!

— Як гэта пена красная валіць з рота? — спытаўся Іванька.

— Ды я яе забіў! — кажаць мядзведзь.

Ну, пайшлі яны далі. Ішлі, ішлі, ішлі, ішлі — прыходзяць і к гораду. Прыйшоў Іванька к аднаму двару і ў хадзяіна спытаўся:

— Што ў вас тут чуць добрага?

— А, добрага нічога не чуць, а худое чуць,— кажаць хадзяін.— Вот у нашага цара ёс[ц]ь адна дачка, і тую Смок сказаў к сабе прывесці: хочаць яе з'есць!

Іванька, не думаўшы доўга, пайшоў на ўзмор'е. Там была

малая хацёнка, куды мелі прывезці царэўну Смоку на з'ядзенне. Улез ён у хацёнку, відзіць — царэўна моліцца богу. Тады ён кажаць царэўне:

— Вот я засну. А як станець мора валнавацца, тады мяне ўзбудзі!

Лёг і заснуў. Толькі стала мора валнавацца, царэўна ўзбудзіла Іваньку. Ён узяў, дзверы на замок зачыніў. Аж прыходзіць Смок.

— Адчыняй! — крычыць.

— Не, не 'дчыню!

— Адчыняй!

— Не, не 'дчыню!

Тады Смок разламіў дзверы. Відзіць Іванька, што Смок дванаццаціґаловы. І сталі яны біцца. Іванька збіў Смоку шэс[ц]ь галоў. Але тады Смок стаў яго змагаць.

— Стой! — крычыць Іванька.— Цары б'юцца і то аддыхаюць. А мы з табой што так не 'ддыхнем?

Сталі яны аддыхаць. Смок прынёс два бачонкі вады. Адзін — што ўбаўляець дванаццаць сіл — паставіў ля Іванькі, а другі — што прыбаўляець дванаццаць сіл — паставіў сабе. А царэўна ўсё гэта відзела. Вот як толькі Смок адвярнуўся, пайшоў за закускай — царэўна і пераняніла бачоначкі. Прыйшоў Смок і выпіў бяссілную ваду; прыйшоў Іванька і выпіў сілную ваду. У Смока дванаццаць сіл адбыло, а ў Іванькі прыбыло. Сталі яны біцца: Іванька збіў Смоку і паследніх шэсць галоў. Тады царэўна дала Іваньку пярсцёнак і хустачку. Іванька пайшоў к свайму хадзяіну. А з царскага двара цар выслаў слугу, каб ён змыў у хацёнцы кроў. Толькі ён прыходзіць, а царэўна жыва.

— Хто цябе збавіў?

— А збавіў мяне Іванька!

— Ну, дык вот: Смок цябе не забіў, то я цябе заб'ю, калі са мной не жэнішся і не скажаш, што я цябе збавіў ад смерці!

Царэўна дужа спужалася і сказала, што ўсё ля яго здзелаець, каб ён толькі яе не забіў. Прыйшоўшы ў дварэц свой, царэўна сказала бацьку, што яе збавіў ад Смока гэты слуга, якога ён пасылаў кроў з падлогі змыць. Тады цар адпісаў яму палавіну царства і стаў жаніць з ім сваю дачку.

Пачуў Іванька, што царэўна выходзіць за свайго слугу, што ён бытта збавіў яе ад Смока, і паслаў ён к царэўне лісіцу па піва. Царэўна ўвазнала лісіцу і прывязала ёй бутэлку з півам. Тады Іванька паслаў мядзведзя па віно. Царэўна яму прывя-

зала бачонак віна. Іванька паслаў тады ільва за гарэлкай. Царэўна прывязала яму кухлю гарэлкі. Бацька царэўны пытаець:

— Што гэта значыцца?

А яна не прызнаецца. Ажны прыходзіць на вяселле Іванька. Царэўна як увідзела яго, так і кінулась ■ яму цалавацца.

— Во, татачка, тэй, хто збавіў мяне ад Смока, а не тэй, з кім я мела жаніцца!

Тады Іванька кажаць слузе, меўшаму быць мужыком царэўны:

— Якея ты маеш прыметы, што ты збавіў царэўну ад Смока?

Тэй мыкаўся, мыкаўся і так, і сяк — і нічога не сказаў. Паказаў тады яму Іванька пярсцёнак і хустку царэўны. Цар тойчас вялеў прывязаць слугу і ■ конскім хвастам. А Іванька з царэўнай ажаніліся і жылі дужа добра.

## 26. ЮДА — БЕЗЗАКОННЫ ЧОРТ

Жыў дзед да баба. І было ў іх двое дзяцей: сын і дачка. Сына звалі Іванькам, а дачку звалі Мар'ячкай. Вот дзед і баба ўмёрлі, асталісь адны дзеці. Прыйшоў к ім Юда-празнусціцел, хацеў іх празнусціць. І стала Юда піць да гуляць, а напіўшысь, лягла спаць і кажа дзяцям:

— Сядзіце, не лажыцесь спаць, пакуда я ўстану.

Вот як Юда заснула, дзеці захавалісь у пограб. Юда прашнулася і спрашуе:

— Ці сядзіце вы?

Маўчаць. Яна і ў другі:

— Ці сядзіце вы?

Маўчаць. Юда ўскочыла і стала пытаць у качаргі:

— Качарга, скажы, дзе дзеці?

Качарга кажа:

— За што я табе скажу? Хіба я не ела? Мною вымаюць і хлеб, і мяккія палянічкі — не скажу!

Юда стала пытаць у ёмкі:

— Ёмка, скажы, дзе дзеці?

Ёмка кажа:

— За што я табе скажу? Ці я не ела? Мною пякуць бліны, прагуць яешню, прагуць сала — не скажу!

Юда стала пытаць у вілак:

— Скажыце, дзе дзеці?

Вілкі кажуць:

— Я скажу, дзе дзеці. Што, я вымаю гаршкі? Мар'ячка адламіла мне адзін рог!.. Шыбні гэты рог, ён найдзе іх!

Юда шыбнула рог, рог і ўпаў на пограбе. Юда стала рыць. Рыла, рыла, вырыла там дзяцей і павяла іх у хату. І стала ізноў пііць да гуляць! А тады і гавора дзяцям:

— Сядзіце ж, не спіце, пакуль я ўстану!

А сама лягла спаць. Вот як Юда заснула, Іванька плюнуў на печы і ў парозе, і на куце. А самі пайшлі ў хлеў. І стаяў там, у хлеве, волік. Яны гавораць:

— Што гэта нам дзелаць?

А волік кажа:

— Бярыце з сабой шчотку і грабёнку, і хустку і садзіцесь на мяне!

Узялі яны шчотку, грабёнку і хустку, селі на воліка і паехалі. А Юда пращнулася і гавора:

— Ці сядзіце вы?

Слюна на печы адзываецца:

— Сядзім!

Юда і ў другі:

— Ці сядзіце вы?

Слюна ў парозе:

— Сядзім!

Юда і ў трэці:

— Ці сядзіце вы?

Слюнка на куце:

— Сядзім!

Юда і ў чацверты раз спрашуе:

— Ці сядзіце вы?

Маўчаць. Вот Юда падхвацілася і пайшла ў хлеў. Палядзела — няма воліка, толькі слядкі. Юда на слядках пабегла іх даганяць. Бягіць, бягіць Юда і даганяе іх. Вот Мар'ячка зір назад, а Юда ўжэ ля іх. Мар'ячка кажа воліку:

— Ужэ нас даганяе Юда!

Волік гавора:

— Кідай шчотку!

Мар'ячка кінула шчотку — стаў бальшы густы лес! Вот Юда пабегла і к кавалю і гавора:

— Кавалёк, кавалёк! Іскуй мне тапарок!

Кавалёк і скаваў ёй тапарок. Юда пабегла ў лес дарогу церабіць. Працерабіла Юда дарогу і пабегла дзяцей даганяць.

Бягіць Юда і бягіць і ўжэ даганяе іх. Мар'ячка зір назад, а Юда ўжэ ля іх. Вот Мар'ячка гавора воліку:

— Ужэ Юда даганяе нас, ужэ агнём пячэ!

Волік кажа:

— Кідай грабёнку!

Мар'ячка кінула грабёнку — і сталі бальшыя горы! Вот Юда пабегла ік кавалю:

— Кавалішча, кавалішча, іскуй мне заступішча!

Каваль скаваў заступішча. Вот Юда і пайшла горы пракапваць. Капала, капала, і пракапала, і пабегла дзяцей даганяць. Даганяе Юда дзяцей, а Мар'ячка зір назад, а Юда ўжэ ля іх. Вот Мар'ячка гавора воліку:

— Ужэ даганяе нас Юда!

Волік кажа:

— Маўчы, шчэ хоць трошкі праедам!

Мар'ячка ізноў воліку кажа:

— Ужэ агнём пячэ!

— Ну, махай назад хусткай!

Мар'ячка махнула — і стала бальшое мора. Юда за морам і асталась.

Тады волік гавора Іваньку:

— Ну, Іванька, цяперака папар ужэ мяне, а то я ўмарыўся!

Вот Іванька стаў венікі вязаць, а волік гавора:

— Не, ты, Іванька, не вяжы мне венікаў, а знайдзі мне дубовы прут!

Іванька знайшоў дубовы прут. Вот волік і гавора:

— Бі мяне, Іванька!

Іванька ўдарыў воліка — выскачыў із воліка сабака!

— Бі яшчэ ўдругі!

Іванька ўдарыў — выскачыў шчэ сабака!

— Бі яшчэ ўтрэці! — кажа волік.

Іванька ўдарыў — выскачыў і трэці сабака. Тады волік папрашчаўся з дзяцьмі і пайшоў. А сабакі тыя сталі Іваньку служыць і служылі вельмі харашэ: што ён толькі ні скажа, тое яны яму і дзелалі. Знайшлі яны сабе хату і сталі ў ёй жыць. Іванька хадзіў з ружжом у лес на ахоту, а Мар'ячка была дома. Вот раз Іванька пайшоў на ахоту, а Мар'ячка выйшла з хаты. А Юда здзелаўся такім малайцом і ў дудку йграе! Убачыў Мар'ячку і гавора:

— Махні ты, Мар'ячка, назад хусткай, дак ■ перайду к табе, і пажэнімся, і будам жыць удвох!

Мар'ячка паслухала Юды і махнула хусткай: мора казаў бы і не было — стала роўна. Юда перайшоў да й кажа:

— Ну, цяперака махай назад!

Мар'ячка махнула хусткай — і стала ізноў бальшое мора. Вот Мар'ячка і пажанілась із Юдай. Ідзе Іванька з ахоты, а Юда здзелаўся іголкай і кажа Мар'ячцы:

— Устыркні мяне ў сцяну! Да як будуці лезць сабакі ў хату, дак ты іх не пускай, а то яны мяне разарвуць!

Іванька ўвайшоў у хату, а сабакі лезуць і брэшуць. Вот Мар'ячка і гавора Іваньку:

— Адгані ты сабак ад вакна!

Іванька адагнаў сабак. Яны пайшлі і ляглі. На другі дзень Іванька ізноў пайшоў на ахоту, а Юда Мар'ячцы гавора:

— Ты вазьмі да быццам-то і захварэй. І пасылай Іваньку, штоб ён табе прыносіў разных зелляў!

Вот ідзе Іванька з ахоты, а яна і захварэла, і ляжыць на печы. Прыйшоў Іванька ў хату, Мар'ячка і гавора:

— Ідзі прынясі мне із мядзведзіхі малака!

Іванька пайшоў у лес. А вот бягіць і мядзведзіха лесам. Іванька прыцкаваў сабакамі — от, яна ўцякаць. А Іванька кажа:

— Не ўцякай, а то канец табе будзе!

Мядзведзіха стала і гавора:

— Не бі мяне, я табе буду ў вялікай прыгодзе. Што ты з мяне трэбуеш?

— Дай мне свайго малака!

Дала яму мядзведзіха малака да й кажа:

— Яна гэта не малака майго жадае, а смерці твае!

Вот пайшоў Іванька дамоў і аддаў Мар'ячцы малако. Яна ўзяла, панюхала і кажа:

— Псіна псінай і пахне! То калі б ты мне прынёс ваўчыцынага малака, вот ба я ачуняла!

Пайшоў Іванька ізноў у лес. Вот ідзе ён лесам, а ваўчыца бяжыць. Іванька прыцкаваў яе сабакамі — яна ўцякаць. Іванька і гавора:

— Стой, не ўцякай, а то канец табе будзе!

Ваўчыца гавора:

— Стой, не бі мяне, Іванька, я табе буду ў вялікай прыгодзе. Што ты з мяне трэбуеш?

— Дай мне свайго малака!

Ваўчыца дала малака і гавора:

— Не, Іванька, яна не трэбуе майго малака, а твае смерці жадае!

Пайшоў Іванька дамоў і аддаў Мар'ячцы малако. Узяла яна малако, панюхала да й кажа:

— Псіна псінай і пахне! То калі б ты мне прынёс арловую перку, от тады б я ачуняла!

Пайшоў Іванька ізноў у лес. Ідзе лесам, аж ляціць арол. Іванька гавора:

— Стой, не ляці, а то канец табе будзе!

Арол стаў і гавора:

— Не бі мяне, я табе буду ў вялікай прыгодзе. Што ты й з мяне трэбуеш?

— Дай мне свае пяр'іны!

Арол гавора:

— Яна не пяр'іны мае трэбуе, а смерці твае жадае!

І не даў яму пяр'іны. Пайшоў Іванька дамоў і гавора:

— Не даў мне пяр'іны арол!

Тады Мар'ячка яго пасылае:

— Ідзі ты,— кажа,— вазьмі мне ў ветраку за дванаццатымі дзвярамі, пад ка́менем, прамолу!

Пайшоў Іванька, знайшоў вятрак, атабіў дванаццаць дзвярэй і ўзяў пад ка́менем прамолу. Толькі ён выйшаў, а дзверы хляп, хляп — пазачыняліся — сабакі і асталіся там.

Вот пайшоў Іванька дамоў. Ідзе, ідзе, аж ляціць воран:

— Кра, кра! Паціша, Іванька, ідзі, а то канец табе будзе!

Іванька і пайшоў паціхо́ньку. Падыходзе і к дому, а Мар'ячка выходзе на двор і гавора:

— Ідзі ты скарэй, не марудзь! А то мой жывот баліць, трэба баню тапіць.

А Юда ўжэ нагатавала сухіх дроў, штоб спаліць у бані Іваньку. Тады Мар'ячка гавора:

— Ідзі ж ты да скарэй баню тапі!

Іванька стаў растапліваць, ляціць воран:

— Кра, кра! Іванька, павыкідай ты дровы сухія, а накладзі мокрых пнёў, штоб толькі сіпелі, а то канец табе будзе: твае сабакі чэцвера дзвярэй атабілі!

Іванька тыя дровы сухія павыкідаў, а наклаў пнёў. Прыбягае сястра:

— Тапі скарэй, не марудзь!

Толькі яна пайшла, ляціць воран:

— Кра, кра! Паціша, Іванька, тапі: твае сабакі восьмера дзвярэй атабілі!

Прыбягае ізноў сястра:

— Тапі скарэй, не марудзь! Ці доўга шчэ цябе ждаць?

Толькі Мар'ячка пайшла, ляціць воран:

— Кра, кра! Тапі, Іванька: твае сабакі ўжэ адзінаццаць дзвярэй атабілі, паследнія б'юць!

Іванька топе. Прыбягае сястра:

— Ці гатова баня?

— Гатова!

Вот Юда здзелалася блахой, села Мар'ячцы на плячо, і прыйшлі яны ў баню, замкнулі зялезныя дзверы і сталі парыцца. Аж прыбягаюць сабакі. Бегаюць кала бані, да ніяк не ўлезуць.

— Прасі, Іванька, штоб Мар'ячка адчыніла трошкі дзвярэй!

Іванька стаў прасіць, Мар'ячка адчыніла яму толькі глазам прагляну́ць. А лапы нялзя залажыць.

— Прасі, Іванька, штоб яшчэ адчыніла хоць трошкі!

Іванька стаў прасіць, штоб яшчэ трошкі адчыніла. Мар'ячка і гавора:

— Зачым табе [г]лядзець: ты ўжо цягаўся па свету, як і нарадзіўся — нагледзеўся!

Ну, адчыніла яму шчэ трошкі. Вот сабака засадзіў сваю лапу да як ірвануў — так зялезныя дзверы папалам! Ускочылі сабакі, ухвацілі Юду і разарвалі. Мар'ячка ўзяла сабе зуб Юды і захавала ў карман.

Пайшлі яны тады ў свет. Хадзілі, хадзілі, прыйшлі к цару. Іванька і жаніўся на царэўне. Згулялі вяселле, павялі ўжэ іх лажыць спаць. І Мар'ячка пайшла з імі. Ляглі спаць; вот Мар'ячка ўстала да зуб і падклала пад голавы Іваньку. Зуб той і ўгруз Іваньку ў лысіну. Ляжыць ён няжывы. Тады сабакі гаворат:

— Што нам дзелаць? Нум, пабягім удвох у лес, а ты стой тут да Іванькі сцеражы!

Вот яны і пабеглі ўдвох у лес. Бягуць яны лесам, аж ідзе мядзведзіха. Сабакі пабеглі яе даганяць, а яна ўцякаць. Сабакі і гаворат:

— Стой, не ўцякай, а то канец табе будзе! Ты ж нам абяшчалась, што я буду вам у вялікай прыгодзе!

І павялі яе к Іваньку. Стала яна вырываць зуб, а зуб выскачыў із Іванькі да ёй у лоб! Іванька аджыў, а мядзведзіха ляжыць нежыва. Сабакі гаворат:

— Ну, шчэ нам абяшчалася ваўчыца. Хадзем ізноў у лес!

Пабеглі сабакі, знайшлі вайчыцу і прывялі. Стала ваўчыца

зуб выцягаць; от той зуб выскачыў з мядзведзіхі да ваўчыцы ў лысіну і ўбіў яе. А мядзведзіха стала жыва. Тады сабакі гавораць:

— Яшчэ ж нам абяшчаўся арол!

Пабеглі яны ў лес арла шукаць. Знайшлі сабакі арла і павялі яго зуб вырываць. Вот арол стаў вырываць зуб. Зуб той падскочыў, да не папаў арлу па лысіне, да толькі па пер'ях і ўгруз у зямлю на цэлы сажань. Ваўчыца і аджывілась.

Завёў тады Іванька Мар'ячку ў лес і пакінуў там, а сам вярнуўся к жонцы, і сталі яны жыць да пажываць, да дабра нажываць.

## 27. АБ СТРАЛЬЦУ РЫГОРУ

Быў сабе стралец-лавец, называўся Рыгор, да й меў ён жонку, да надта лядашчую. А тая жонка хацела яго канешне ■ свету збавіць, бо яна сабе мела пабочных. Бало, як толькі на дварэ веячка кудаса ці так якая пляга, у тую пору пачне яна енчыць, плакаць, каб ён ішоў на паляванне, бо ёй вельмі зверацінЫ хочацца:

— А як не прынясеш,— кажа,— то я буду хварэць.

А ён яе нават любіў і шкадаваў, і каб у агонь, то пайшоў бы, абы ёй толькі дагадзіць.

Так бало, як ён анно выйдзе з дому, так яна зараз сваіх пабочнікаў наспрашае, панапякае, панаварвае, да й яны сабе банкетуюць да з стральца смяюцца, што ён цягаецца, як сабака, а як прыйдзе дахаты, то яна зараз скардзіцца:

— Каб ты,— кажа,— яшчэ мінютку даўжэй не прыйшоў да й не прынёс зверацінЫ, то б я ўжэ захварэла.

Мэнчыла яна яго доўга гэтакім парадкам, выкамаркавала якой толькі задумала зверацінЫ, а ён, як добры дурань, усяго ёй дастарчваў.

Ажно аднаго разу ўчынілася ўжэ яна хвораю і кажа яму так:

— Каб ты дзе злавіў жывога крука, але такога, што нясе жыр сваім дзецям у дзюбе, то мне той жыр патрэбны на лякарства, а як не пастараешся, то я ўмру.

А гэта дзеля таго было гаворана, што яна сабе надумалася, што як ён пойдзе па такую рэч, то не вернецца ані за поўдня, а ні за дзень, то й яна даўжэй магчыме сабе пабанкетаваць.

Выйшаў ён, небарака, з хаты да й пайшоў плачучы, колькі

яго галава стрымала, да й не зочыў, што ўжэ ляціць кручыца да сваіх дзяцей над яго галавою. Ажно села яна на дубе да й пытае:

— Дзядзьку,— кажа,— што вам такое? Чаго вы так сумуеце? Скажэце вы мне, можа я вам што і дараджу.

Так ён кажа:

— Ах, мая ж ты чорная галачка! Ах, мая ж ты дарагая птушачко! Як жа мне вясёламу быць, калі мая жонка хвора і казала, што ўмрэ, калі я ёй не прынясу таго жыру, што кручыца нясе ў дзюбе сваім дзецям.

Так яна:

— Дзядзьку,— кажа,— я вам аддам свой жыр з дзюбы і дам вам яшчэ сваё адно дзіцця, можа яно вам калі прыдасца, анно вы,— ка[жа],— яго не глумеце да гадуйце так, як я гадую.

— Дзякуй табе,— кажа, да й забраў ён той жыр з гэтым кручаняткам і панёс дахаты.

После думае зноў яна:

— Ну, дзе тут яго было б пасланць, каб ён даўжэй забавіўся?

Але-такі после прыдумала да й кажа яму:

— Была ў мяне знахарка да й прыра́дзіла, каб я за́ячага малака напілася, то буду жыва.

Так ён кажа:

— Ну, як трэба, то трэба!

Да й пайшоў, небарака, знябожыўшыся, шукаць заячага малака. Адышоўся ён недалёка ад дому, анно сядзіць сабе пад кусцікам зайчыха і дзеці корміць. Так ён намеціўся да яе страляць, а яна загаварыла да яго:

— Дзядзьку, не страляй,— кажа,— бо ў мяне дзеткі маленькія, анно скажы, чаго хочаш, то мо я табе стану ў прыгодзе.

Так ён давай ёй расказваць так і так. Так яна хутчэй то дала яму сва[й]го малака да й яшчэ дзе́цятка адно.

— А гадуй,— кажа,— яго, яно стане табе ў велькай прыгодзе.

Занёс ён жонцы заячага малака, так яна зноў давай вычварацъ да й кажа:

— Ідзі мне прынясі ласічага малака,— то: «прынясі вавёрчынага», то «мядзведзяга», то «лісяга», то «воўчага», і так штодзень яму дарогу выдумлівала, кажучы, што гэта ёй усё знахарка прыраджвае.

Ён кажнага малака дастаў латво, да й яшчэ кажна маці дала яму па дзіцяці, прыказваючы, каб гадаваў, то пастануць

яму ў вялікай прыгодзе і адгодзе. А тыя звяраткі ўсюды за ім, дзе ён толькі пахіліўся, бегалі як бы якія сабачкі.

Ну, ажно аднаго разу яна яму зноў прыдумала дарогу: учынілася такою слабою да й кажа:

— Ведаеш што, знахарка мне дарадзіла, каб ты мне дастаў мукі з таго млына, што стаіць за дванаццацьма дунаямі і за дванаццацьма дзвярамі, і дванаццаць каменяў у адзін раз не перастаючы мелюцца без мельнікаў і без мельнічак.

Выйшаў жа ён на двор з сваімі звяраткамі да так плача, так плача, аж захліставаецца; так яны давай у яго пытацца:

— Дзядзюшку, скажы ты нам, чаго ты так плачаш горкімі слязьмі?

— Ах,— кажа,— мае вы звяраткі, мае ж вы дзецянятка, як жа ж мне не плакаць, калі мусіць ужэ мая жонка ўмрэ, бо я не ведаю, дзе такіх млыноў шукаці, што ёй знахарка дараяла.

Так яны яму давай шчабятаць:

— Дзядзюшку,— кажуць,— не бойся, мы цябе завядзем, мы табе ўсяго дастанем, толькі не плач,— да й пайшлі ўсенькі разам што найхутчэй у дарогу.

Ішлі яны, так ішлі, ішлі яны, так ішлі, анно ж прыйшлі да аднаго ўжэ дуная. Такі ўжэ той дунай шырокі! што і окам не засцігнуць. Што тут рабіць? Трэба яго ўплаў пераплысці. Так воўк узяў сва[й]го дзядзька на карк і плыў пераз воду, а ліс сярмягу нёс, а зайчык шапку, а мядзведзь боты, бо кажа:

— Панясу лягчэйшае, бо мяне там цяжка работа жджэ.

Вавёрачка пояса нясла, а ласічка маленечка баялася нават і ў воду лезці да й кажа:

— Вы, дзядзюшку, плывеце з богам, а я на берагу пасяджу да й на вас паўзіраюся.

Так мядзведзь кажа:

— Дурная ты! Хочаш, каб цябе тут які сабака з'еў? Ушчапірся за мой хвост, то таксама пераплывеш.

Нарэшце крук кажа:

— А я буду ляцеці перад вамі і паказваці вам дарогу.

Ну, так гэтакім парадкам яны ўсе дванаццаць дунаёў шчасліва пераплылі да й нарэшце прыйшлі да таго млына, каторы меў дванаццаць дзвярэй.

Прыходзяць, ажно ўсе тыя дзверы наўсцяж парасчынены, так перайшлі яны адныя дзверы, другія, трэція, а нікога ў очы не бачаць, анно тыя дванаццаць каменяў гаргацяць да й галгічуць, як дзе ў пекле ліхом.

Перайшлі яны ўсе дванаццаць дзвярэй, нідзе нікога не ба-

чучы, тады ўсе тыя дзверы ляп! бразь! трах! да й пазачыняліся. Так стралец чыста спалохаўся, ажно мядзведзь кажа:

— Не бойся, дзядзьку, яшчэ то ў мяне стане сілы гэтыя дзверы паа[д]чыняць! — а сам то агляну[ў]ся на зайчыка да й на вавёрачку:

— Чаго,— кажа,— стаіце? Ідзеце хутчэй муку насыпаць!

Тады зайчык за торбачку да пабег гэта з вавёркаю да сам торбачку трымаў, да й як вавёрачка хвосцікам мукі назмятала з усіх дванаццаць каменяў, тады завязаў торбачку да й аддаў дзядзькаві.

Тады гэта хутчэй мядзведзь дзверы павыломліваў, павыломліваў да й сабраўшыся пайшлі, да й таксама, як у той бок, пераплылі ўсе дванаццаць дунаёў да й шчасліва вярнуліся дахаты.

Аддаў ён жонцы тую муку; перайшло дзён можа два, тры да й зноў яна пачала вычвараць, што ёй знахарка дарадзіла неякусьці воду з такіх гор, што цёнгле расходзяцца да й сходзяцца.

Так няма рады, пайшоў ён, небарака, а за ім усе яго звяратка. Выйшлі яны з хаты, ажно крук, даведаўшыся аб гэтай дарозе, пацешыў сва[й]го дзядзька, што ён сам адзін паляціць і тае вады прынясе.

Тады гэта стралец прывязаў яму пляшачку да ножкі, а сам то за парадаю мядзведжаю злез на гару і давай паглядаць праз верхнік, што ў хаце чаўпецца.

Ажно куды! Як мужык за парог, то жонка хвора за пірог! Устала гэта з пасцелі да хутчэй панаварвала, панапякала, а нямала і гатовага ўсяго было. После як ні пачнуць гэта туды ісці музыкі, цымбалы! Прыйшло туды і двох яе палюбоўнікаў, тады яна заставіла стол з канца ў канец усялякім дабром да й пасадзіла яна іх абодвых за сталом, а сама села між імі да й ну ж гэта піць, есць, прыспеўваць, падцінаць, аж усе сцены траскацелі. Гуляла яна, так гуляла, а после, падпіўшы сабе, пачала спяваць:

А мой жа ж ты Рыгор да Рыгор,
Мусіць, ужэ ты міжы гор, міжы гор;
Калі яшчэ не дайшоў, не дайшоў,
Каб ты назад не прыйшоў, не прыйшоў!

Так гэта стралец пачуўшы — бабух! праз верхнік у хату, а яна гэта на палюбоўнікі:

— Бярыце яго! Зарэжце яго!

Яны гэта з-за стала да да Рыгора, а мядзведзь у хату — да гэта тыя музыкі, цымбалы за парог! за парог! а жонку гэта на адну ногу наступіў, а другую як падняў угору, так і разадраў папалам, а тыя два палюбоўнікі вынес у лес да й у сухія сосны паўшчапляў.

Тады ўжэ стралец з сваімі звяраткамі вясёла і шчасліва прабыў да смерці ў сваёй хатцы да й годзі.

## 28. ПРАМУДРЫ САЛЯМОН

Быў сабе адзін жаўнер, меў аднаго сына, называўся Прамудры Салямон. Аддалі яго вучыцца да кляс. Быў дужа сільны: з кім завядзецца, вазьме за уха, за што-небудзь, так адарве.

Зачалі жалабу падаваць, што ён сільны, бо многа пакалечыў народу. Прыйшоў да маткі, кажа:

— Матка, трэба выбірацца, бо мяне страцяць.

Так яны выбраліся на ваду, паехалі вадою. Ехалі, з'елі ўсё, што мелі, і не мелі, з чаго жыць.

Прыехалі да берагу. Вылез сын, маці, і паселі на беразе. Ён кажа на мацяру:

— Сядзі тут, а я пайду да лесу, можа што ўб'ю з'есць зверыну.

Набіў многа зверыны, напяклі, пад'елі. Назаўтра пайшоў зноў набіць зверыны. Як прыйшоў у лес, знайшоў палац вельмі, а ў том палацу накрыта да столу, пастаўлена пячэння і ядзення; сеў, наеўся, напіўся і набраў для маткі.

Матка пытае:

— Скуль узяў?

Кажа:

— Знайшоў дом вялікі, і накрыта да столу, і патраў многа расстаўлена; набраў, матка, для цябе.

Назаўтра на ранку забраў матку, пайшлі да палацу таго. Селі есць абед; прыходзіць дванаццаць разбойнікаў, пытаюцца ў яго:

— Што ты за адзін? Мы чулі, што ўрадзіўся Прамудры Салямон за трыдзевяць зямель, але ён тут не дайдзе.

Ён кажа:

— Я не дайшоў, але прыехаў.

Кажуць разбойнікі:

— Будзем біцца.

Так як ён зачаў біцца, так адзінаццаць убіў, а дванасты схаваўся за печ.

Яны там жылі доўгі час з сваею маткаю. Прамудры Салямон пайшоў назаўтра да лесу і набіў пташак многа. А той разбойнік вылез з-за печы да маці і кажа:

— Страць сына, то будзе наша ўсё.

Прыйшоў сын з лесу, і маці захварэла. Пытае ў мацеры:

— Што табе баліць? Можа табе што снілася? Можа ва сне падавалася? Можа што хочаш з'есць? Я табе дастаўлю.

Яна кажа:

— Снілася мне: за трыдзевяць зямель у дзесятым царстве ёсць на дванаццаць каменяў закляты млын; з-пад астатняга каменя дастаць мукі, пячы пірагоў, то я буду здарова.

Улажыў торбачку яе сын і пайшоў. Прамудры Салямон прыйшоў да млына. Пытаецца ў яго, што ён за адзін:

— Мы чулі, што ўрадзіўся Прамудры Салямон, але ён тут не дайдзе.

Ён кажа:

— Я не ішоў, але ехаў.

Пытаюць:

— Чаго хцэш?

— Мукі з астатняга каменя для мацеры на пірагі.

Адвярнуў камень, набраў мукі і паехаў дамоў. Прыехаў, матку хворую знайшоў. Напёк пірагоў. Маці з'ела і стала здарова. У тры дні захварэла зноў. Пытае ён ў маткі:

— Можа табе што снілася?

— Мне снілася: за трыдзевяць зямель ёсць закляты сад, у том саду сядзіць крулеўна; мне з тае яблані дставіць яблак, то я буду здарова.

Прамудры Салямон улажыў торбу і пайшоў за яблакамі. Прыйшоў да саду. Пытаюць у яго:

— Што за адзін? Мы чулі, што ўрадзіўся Прамудры Салямон за трыдзевяць зямель, але ён тут не дайдзе.

Салямон кажа:

— Я не прыйшоў, але прыехаў.

Прыходзіць змяя і пытае ў яго:

— Што за адзін? Мы чулі, што ўрадзіўся Прамудры Салямон за трыдзевяць зямель, але ён тут не дайдзе.

— Я не дайшоў, але прыехаў.

Тая змяя кажа:

— Будзем біцца! Чысць пляц!

Ён кажа:
— Ты чысць праклятаю сілаю, а я прэснаю душою не магу. Як дмухнула змяя, ачысціла пляц на восем вярстоў. Як дмухнуў Прамудры Салямон, ачысціў пляц на дзесяць вярстоў.
Прыходзіць другая змяя і пытае:
— Што за адзін? Мы чулі, што ўрадзіўся Прамудры Салямон за трыдзевяць зямель, але ён тут не дайдзе.
Прамудры Салямон кажа:
— Я не дайшоў, але прыехаў.
— Чысць пляц!
Прамудры Салямон кажа:
— Ты чысць, ты праклятаю сілаю, а я прэснаю душою не магу.
Як дмухнула змяя, ачысціла на дзесяць вярстоў. Прамудры Салямон на дванаццаць вярстоў. Зачалі біцца; збіў тую змяю Прамудры Салямон. Выходзіць трэцяя змяя і пытае:
— Што за адзін? Мы чулі, што ўрадзіўся Прамудры Салямон за трыдзевяць зямель, але ён тут не дайдзе.
— Я не дайшоў, але прыехаў.
Пытае змяя:
— Біцца альбо мірыцца?
Прамудры Салямон кажа:
— Біцца!
Змяя кажа:
— Чысць пляц!
— Чысць ты праклятаю сілаю, а я прэснаю душою не магу.
Як дмухнула змяя, ачысціла пляц на дваццаць вярстоў. Прамудры Салямон на восем вярстоў.
Зачалі біцца. Змяя ўгнала Прамудрага Салямона ў зямлю па калена. Так ён кажа:
— Жаўнер б'ецца і дае оддых, а ты мне не даеш.
— Не, не дам, уб'ю!
Прамудры Салямон зачаў біць, паправіўся, збіў паследнюю змяю. Пайшоў да саду, зняў крулеўну з саду з дзерава, набраў яблак ля маткі з таго дзерава, дзе была крулеўна. Крулеўна просіць на абед Прамудрага Салямона. Прамудры Салямон кажа:
— Не магу, хворая матка, трэба нясці яблакі ля маткі.
Крулеўна кажа:
— Гандлюйма жукоінкамі.
Крулеўна дала яму сваю, а Прамудры Салямон сваю. Кажа Прамудры Салямон крулеўне:

— Прысылай карабле на выспу тую каля ма[й]го дому, я буду ждаць.

Пайшоў Прамудры Салямон дадому, прынёс матцы яблакі. Матка з'ела, была здарова тры дні. Пасля захварэла зноў матка.

Пытае Прамудры Салямон у маткі сваей:

— Можа табе што снілася?

Яна кажа:

— Мне снілася, што зрабіць ванну, так я буду здарова.

Сын пайшоў, раздзеўся, зачаў секці дровы. Насёк дроў, нанасіў вады. Вылез той разбойнік з-за пячы і ўкраў у Прамудрага Салямона падцяжкі. Прамудры Салямон аглянуўся і кажа:

— Дзе мае падцяжкі?

Вылазіць разбойнік з-за пячы і кажа:

— Тут, у мяне.

Кажа:

— Ну, забіў ты нас, а я цябе аднаго не буду, толькі табе выдзеру вочы.

Выдраў вочы разбойнік Прамудраму Салямону. Пайшоў Прамудры Салямон на тую выспу, дзе мелі прыйсці карабле. Пачуў Прамудры Салямон, што прыходзяць карабле, ждуць на яго.

Ждалі два дні, не прыждалі, паехалі дахаты.

Пытае крулеўна:

— Чаму не прывязлі Прамудрага Салямона?

Яны кажуць:

— Няма нікога, адзін ляжыць без ачоў.

Крулеўна кажа:

— Пачом не бралі, гэта ён.

Села крулеўна ў карабель, паехала сама. Пачуў Прамудры Салямон, што прыехала сама, і ўлажыў жукоінку на руку. Крулеўна глянула і пазнала па сваёй жукоінцы, што гэта ён.

— Забірайце яго без ачоў.

Забралі без ачоў, прывязлі дахаты. Далі аглоску:

— Хто можа ўставіць вочы, той будзе мець вельку награду.

Прыйшоў стары жаўнер і ўставіў вочы. Кажа крулеўна:

— Будзем цяпер жаніцца.

Ён кажа:

— Не магу, трэба даставіць матку сваю.

Сеў на карабле і паехаў па матку. Прыехаў да выспы да таей, у коей быў упярод. Кажа на свае карабле:

— Ждзеце мяне да трэцяй гадзіны; як я не прыйду па трэцяй гадзіне, едзьце дадому, не ждзеце мяне.

Прыйшоў Прамудры Салямон у лес пад тую хату, бачыць, ідзе разбойнік з маткаю на шпацар. Разбойнік кажа:

— Муруйце слуп у неба і ў зямлю, то буду неба і зямлю варачаць.

Пайшоў Прамудры Салямон і ўлез да пакою і лёг пад ложкаю. Прыйшоў разбойнік з маткаю і палажыліся спаць. Разбойнік разабраўся, скінуў падцяжкі, павесіў падцяжкі на крэсле і пазаснулі.

Прамудры Салямон украў тыя падцяжкі і ўлажыў на сябе; вылез з-пад ложкі і пайшоў да караблёў. Кажа:

— Ждзеце мяне, паедзем дадому, а я пайду забяру сваю матку.

Прыйшоў Прамудры Салямон, аж яны спяць. Адчыніў дзверы, так яны пасхапляліся. Пытае разбойнік:

— Дзе мае падцяжкі?

Прамудры Салямон кажа:

— Тут, у мяне,— кажа.— Ты выдраў мне абедзве вочы, [illegible] табе адно.

Узяў ён адно і абедзве выдраў. На матку кажа:

— Ну, матка, збірайся, паедзем за мною, будзеш на вяселлі маём.

Забраў матку і паехаў. Прыехаў Прамудры Салямон, пабыў тры дне, і вяселле пачалось. Жаніўся Прамудры Салямон з крулеўнаю. Здаў яму круль усё войска. Прамудры Салямон сеў конна і паехаў аглядаць войска. Як аб'ехаў, прыехаў да круля і кажа:

— Што ваша за войска, калі мне чэсці не аддае?

Круль разгневаўся, казаў заклікаць салдата таго, каторы не аддаў чэсці Прамудраму Салямону. Пазвалі таго салдата. Кажа той жаўнер:

— Не магу аддаць чэсці: меў аднаго сына, называўся Прамудры Салямон, а як сеў на лодку, так занясло за трыдзевяць зямель у дзесяпятае царства; служыў дваццаць пяць гадоў і цяпер служу, дваццаць пяты год кончу.

Кажа Прамудры Салямон:

— Так ты мой бацька!

Пытае ён у бацькі:

— Што зрабіць з мацераю, што яна яго ўсюды пасылала, кабы страціць?

Бацька кажа:

— Ніц іншага няможна зрабіць, трэба прывязці стаповага каня, узяць матку, прывязаць да каня да хваста галавою, так няхай яе разнясе.

## 29. ПРА ДЗЯУЧЫНУ — БАРАННЯ СКУРА

Жыў муж і жонка, і была ў іх дочка адна. Такая красівая дочка, што я вам сказаць не магу. Ну, тая маць нямнога пажыла, яе маленькую аставіла. І вот яна гаворыць, як смерць прыйшла, яна гаворыць свайму мужыку:

— Глядзі, штоб такую жану ўзяў, як мая дачка, на маю дачку каб пахожа была.

Ну вот, яна памерла. Ён ездзіў, ездзіў, нідзе не найдзе, каб пахожа была на яго дачку. Толькі дачка гэтакая, а дачка на мацеру пахожа. Нідзе гэтакай нямашака. От ён, як яна вырасла, дарослая стала, ён кажа ёй:

— Дочка, я на табе жанюся.

Дак яна гэта як пачула, так і паляцела ўцякаць. Бегла яна, бегла, сколькі яна бегла, не знаю. Бацька агледзеў, што яе нямашака, дак ён асядлаў каня даганяць яе. От яна бяжыць да бяжыць — пастух пасе стада авец. Яна гаворыць на яго, на пастуха гэтага:

— Схарані мяне, бо даганяюць мяне.

Ён узяў кожу зняў з авечкі і накінуў на яе гэту кожу. Ну от, бацька прыехаў сюды, спрашуе:

— Была тут дзяўчына, прахадзіла ці не?

Пастух кажа:

— Я не відзеў ніякай дзяўчыны.

Ён і вярнуўся, паехаў яе бацька. А гэта кожа к ёй прырасла, аўчына. Ну, яна і пайшла ў пушчу. Пайшла ў пушчу, жыла ў дзераве, у дупле.

У аднаго цара сын быў. Цар памёр, толькі з мацераю той хлопец быў. Ну і паехаў ён на ахоту, той ужо сын. І з сабакам. Сабачка ўчуў дзеўку тую ў пушчы і стаў брахаць. Ён падышоў, гэты царэвіч, бачыць — дзевушка. Яна красівая, красівая! Ён гаворыць:

— Вылазь, дзевушка!

А яна гаворыць:

— Я не вылезу. Лучча мяне ўбейце, а я не вылезу.

— Чаму ты не вылезеш?

— Бо ка мне авечая кожа прырасла.

Ён гаворыць:

— Нічога, вылазь, я цябе за жану вазьму.

Яна вылезла, паслухала яго. Ён яе забраў, прывёў цішком — маці не знала — у асобную яе комнату, яна жыла там. Ён яе карміў, каб маці не бачыла. Яна красівая сама сабою, ну толькі што кожа прырасла.

Колькі ўжо ўрэмя, доўга ці коратка, маці гаворыць на яго:

— Жанiся, сын мой, ужо ўрэмя жаніцца табе.

А ён кажа:

— А я сабе ўжо нявесту падыскаў. У мяне,— гаворыць,— нявеста ёсць.

— Адкуль ты яе ўзяў?

Маці ж не знае, што ў яго там пад ложкам ляжыць з баранінай кожай.

— Ідзі,— гаворыць,— пакажу, маці.

От ён дастае яе з-пад ложка, дастаў яе, гэта кожа злезла. Яна красівая зрабілася, што ну проста не нагледзецца!

— Вот мая нявеста!

Ну, маці не наравілася яна, нядобра было. От яна бярэменная стала, і яму нада было недзе ехаць. Колькі ён пабыў там, і яна нарадзіла мальчыка — тры валасэ на галаве залатыя, з трыма валасамі залатымі. Гэта свякроў як агледзела, што такі мальчык, так яна мальчыка забрала, а туды пусціла два шчанюкі, сабачаняткі. Яму напісала пісьмо, што радзіла твая жана не дзіцёнка, а сабачанятка. Ён адпісаў мацеры пісьмо: «Пакуда я ні прыеду, нідзе не дзяваць». А гэтаму ўжо хлопчыку яны зрабілі скрыначку, пасадзілі туды і пусцілі жыўём па вадзе. Ён і паплыў.

Пакуль той прыехаў царскі сын, маці ўзяла другую падставіла, а гэтую вялела, каб сказнілі. Сказала, каб яе сказнілі, дасталі сэрца і каб прынеслі. Павялі яе слугі. Знаеце, шкода было яе казніць. Яна начала прасіцца. Слугі пусцілі яе, а на гэта места ўзялі сабаку, сэрца дасталі і прынеслі. Яна ж пайшла ў пушчу й жыве.

А гэты мальчык плыў, плыў па вадзе і плакаў. Ён не ўтапіўся ж у гэтай скрынцы. А двое старых жылі бяздзетных каля ракі. От яны выйшлі вечарам к рэчцы — дзяціны голас плача. Яны злавілі скрыначку, адчынілі — там мальчык невялічкі, харошы вельмі. Яны гавораць:

— Няхай будзе нам, у нас дзіцяці няма, няхай будзе.

Гэтак ён жа рос, асілак, гэтак рос, не часамі, а мінутамі.

І от ён як вырас, дак гаворыць на іх (яны ж расказалі, дзе ўзялі, а тая маці жыве тамака ў лесе). Так ён кажа:

— Ну вот,— гаворыць,— цяпер ужо спасіба вам, мае няродныя радзіцелі, што вы мяне гадавалі, мяне адратавалі. Цяпер,— гаворыць,— я паеду на свой хлеб, свайго шчасця шукаць.

Ну, дак старык даў яму гэтакі мундзір, дак як ён зашпіліцца, такі сільны зробіцца, што невазможна, якая ў яго сіла! І даў шаблю. Такая шабля, як скамандуе, усё яна косіць перад сабою, усё на свеце, адно б скамандаваў, ведаў, як камандаваць.

Вот ён і пайшоў у свет. Ідзе ён, ідзе, ідзе. Відзіць, у горадзе ўсё завешана чорным сукном. Ён тады спрашуе:

— Чаму гэта так?

Людзі гавораць, што царская дачка ідзе к змею на смерць. Гэтакі змей, што ўсіх людзей паеў; дайшло да царскай дачкі, яе ўжо вядуць. Вядуць яе, і музыка грае, і ўсе плачуць, жалоба, вядома, вядуць на смерць. Ён гаворыць:

— Я вас буду спасаць, маладая красавіца.

Ну, так яна пярсцёнак зняла з пальца і аддала яму. А сама вярнулася.

— А я пайду сам да тае гары.

А ён на гары, дванаццаць галоў змей. Патупаў хлопец на гару. Пайшоў сражацца. Ну што ж. Як падышоў туды, як свіснуў змей, дак усё галлё, лісце пасыпалася з дзеравоў. Вядома, дванаццаць галоў змей. Гэты ж хлопец як скамандаваў сваёй шаблі, як свіснуў, ударыў раз — чатыры галаве, і другі раз чатыры галаве звырганула. А то яшчэ асталося чатыры галаве, дванаццаць было. Дак ён ізноў, трэці раз закамандаваў, дак усё зляцела, і толькі кроў цячэ з яго ракою, ракою кроў. Уся рэчка зрабілася кравяная.

Ну, тады ён пайшоў да змеева замка. Яго замак гэтакі быў, што на дванаццаць кварціраў. І ўсё з касцей чалавечых. А ў змея былі прыслужнікі, людзі такія прыслугоўваліся. Вот ён увайшоў у тую кварціру, чуе, нехта ў нейкай кварціры шалпочацца. Усё абышоў, а толькі пад адну падышоў, так там, бач, адчыніў — там слуг многа, дак ён шаблі скамандаваў — каму вуха адсякае, каму нагу адсякае, гэтак іх пасекла, пасекла, а каторы жывы астаўся. А тады замкнуў, забраў ключы і паехаў у свет, на ахвоту паехаў гэты сын. Едзе да едзе, прыйшоў да тае мацеры, распытаўся:

— Адкуль ты, што да як?

Яна гаворыць, што ў мяне быў сын з трыма залатымі валасамі.

— І мяне,— кажа,— страбілі.

Дак ён зняў шапку да й кажа:

— А не я быў твой сын?

Так яна пазнала яго па тых валасох. Забраў ён яе і завёз у тога ўжо змея ў палац. Вот ён ёй даў дванаццаць ключоў і сказаў гэтак:

— Маці, усюды хадзі, па ўсіх комнатках, а ў гэту дванаццату не ідзі (гэта ўжо, дзе былі гэты слугі). Сюда,— гаворыць,— не захадзі, нельга.

От яна, ведаеце, як хадзіла, усюды абхадзіла, а там прыслухалася — нешта шалпочацца. Яна адчыніла, дак жывы адтуль чалавек выйшаў. Як выйшаў жывы чалавек, так яна з ім пазнаёмілася і ўзяла яго за мужа. Ну, і жывуць яны сабе. А ён часта не прыязджаў дадому, сын той. Раз прыехаў ён дадому, ну, маці неяк не вельма што прыхільная да яго. Ён не дагадаўся чаму так, бо там забітыя ўсе былі, а гэты адзін жывы астаўся. Ён пабыў нямнога, паехаў, пасля прыехаў. А яны ўжо згаварыліся ўдваіх: «Як бы,— гавораць,— страбіць, каб ён не ездзіў сюды. Было б нам добра, жылі б удваіх. Што ж прыдумаць,— як бы прыдумаць, штоб страбіць? Ён жа сільны такі».

Прыдумалі. Яна кажа:

— Ты знаеш што. Стаіць там і там на гары яблынька, і тая яблына ад усяго чыста і адмалодзіць і аджывіць — на ёй яблыкі такія. Адзін яблык аджывіць, другі адмалодзіць. Няхай ён мне той яблык дастане. А той яблык трудна дастаць. Ён таго яблыка не возьме.

От прыехаў сын. А яна таго замыкае, як сын прыедзе. Яна гаворыць:

— Сынок, я забалела.

Так ён кажа:

— Што вам такое, мама?

— От забалела. Але пасаветавалі мне, што там і там такая гара, і стаіць на той гары яблына, і на той яблыні ёсць яблычка і жывушчае, як хто памрэ, дак аджывіць, і адмаладзіць можна, яблычак з'есці такі.

Ён гаворыць:

— Я дастану, мама.

Ён паехаў, дастаў тыя яблыкі. Вядома ж, гэтакая сіла, сіла гэта шабля, перад ім нічога не ўстоіць, ён шаблю такую мае.

Прыязджае, прывозіць яблыкі. Ён сабе прывёз, мацеры даў адзін і другі яблык даў.

Яна проста ніздзівіцца, як гэта ён застаўся жывы. Ну, надумаліся іначай.

— Няхай ён табе пойдзе дастане льва, падоіць львіцу і малака прынясе, табе на здароўе. Яго львіца разарве.

От сын прыехаў, яна гаворыць:

— Мой сынок, гэта мне не памагло,— гаворыць,— каб ты мне львіцава малака дастаў, каб падаіў львіцу і мне гэта малако прывёз, мне б адразу памагло.

Ну, як для мацеры, дак усяго.

— Нічога,— кажа,— мама, дастану.

І паехаў. Ну, яны гавораць:

— Усё, ён цяпер не вернецца, львіца яго разарве.

Ён паехаў, прыязджае ў лес там, дзе гэтыя львэ, стаіць львіца. Ен прымяркаваўся застрэліць яе. Яна гаворыць:

— Не страляй мяне, малады маладзец, ты не таго хочаш,— гаворыць.— Што табе нада, я табе ўсяго дам.

— Мне нічога не нада, хачу цябе падаіць, малака мне нада.

Яна гаворыць:

— Пажалуста.

Ён злез з каня, падаіў сколькі яму нада было і прывозіць, зноў мацеры дае. Тут ужо маці, дзе ж тут, на двух гэтакіх заданнях бываў і нічога, як яго тут збыць? Той муж яе надумаўся так:

— Ты,— кажа,— знаеш што. Як ён прыедзе, ты застаў яго памыцца. І от,— гаворыць,— мы гэтак зробім, што ён аслабее з вады і зусім зробіцца слабы, нічога не варт будзе.

Сын ужо на трэці раз прыехаў. Яна кажа:

— Сынок, можа б ты памыўся з дарогі?

Ён кажа:

— Не нада, мама.

— Ну, памыйся, сынок,— настала яна, ведама, маці.

Ну, зрабіла, каб ён памыўся. Улез ён у тую ваду. Узяў той мундзір палажыў і шаблю палажыў. Завязала яна яму пальцы ніткаю і гаворыць:

— Ну, парві, сынок.

А гэтага німа ўжо, мужа таго. Узяў ён і парваў гэтую нітку. Яна ізноў звязала. Як звязала другі раз (а ляжыць гэты мундзір, сіла ў мундзіры была), ён ужо не разарваў ніткі з пальца. Тады ўжо выйшаў той муж, забраў у яго мундзір, за-

браў у яго шаблю, і астаўся ўжо сын так, усё. Ну, так яна гаворыць на мужа:

— Павыкалі яму вочы, вазьмі галавешку. Палім у печы,— гэта яна камандуе яму, мужу.

— Ты,— гаворыць,— свайму сынку павытыкай вочы, а я,— гаворыць,— твайму дзіцяці не буду вытыкаць вачэй.

— Ну, дак аднясі яго страбі.

От ён панёс і ўкінуў яго ў калодзезь. Жыўём укінуў у калодзезь, а самі жывуць пажываюць. Ён там у калодзежы ўжо мохам аброс. Колькі ён там быў, патом ішлі жабракі, былі бедныя, некалі ж жабравалі, цяпер няма жабракоў. От і падходзяць пад той калодзезь, захацелі вады напіцца і апусцілі туды вядро. Ён за гэта вядро ўчапіўся, яго і выцягнулі наверх, тыя старыя, тыя мужчыны. Пакінулі яны яго абросшага ўсяго чыста як мядзведзя. Ён ведае, што маці жыве ў тым замку, нідзе ж не дзелася, з тым сваім мужам. Ён што надумаўся. Недзе нейкую машыну абнаружыў і ходзіць усё: мо нада каму пашыць што! Мо нада каму пашыць што! От прыйшоў к гэтай мацеры пад акно і гаворыць ля акна:

— Можа нада вам што пашыць?

Маці не ўзнала яго. Яна думала, нет яго жывога. Яна гаворыць:

— Зайдзі, зайдзі, нам нада пашыць.

Ён увайшоў у хату. Шые адзін дзень, бачыць, яго мундзір вісіць, бачыць, яго меч вісіць. Яны не знаюць, як камандаваць імі. А потым ужо даверылі; яны кладуцца спаць, а ён шые. От ён бачыць, што яны паснулі, спяць ужо, а ён усё шые, ён зараз у свой мундзір адзеўся, а як адзеў свой мундзір, так ужо сіла знайшла, шаблю ўзяў і падышоў пад іх.

— От цяпер,— гаворыць,— я з вамі расчытаюсь.

І-і, так яны жахнуліся абое! Ну што ж.

— Ты мяне ў калодзезь кінуў. Ты не хацеў мне вачэй вып́екаць. І я табе,— гаворыць,— не буду вып́екаць. Ну, а ты як маці, то я табе другую кару дам.

Занёс ён яго, укінуў у той самы калодзезь,— ён там і прапаў гэтым часам. А яе, мацеру, паставіў дзве бочкі і гаворыць:

— Каго табе болей жалка, ці мужа, ці сына? Плач у адну бочку і ў другую, дзе ты наплачаш болей слёз.

А гэты ўжо сам маладзец паехаў к царэўне, каторую спас, каторая дала кальцо яму. Туды прыехаў, тамака ажаніўся, свадзьбу справіў, жыве сабе. Захацелася яму палядзець свае мацеры, ён на муку ж яе пасадзіў, бо яна ж яму што рабіла.

Прыехаў ён. Так дзе па мужу — поўная бочка, слёзы цераз верх пайшлі, а дзе сын — так анно чуць, і нямашака, сухая пачці бочка.

Ну, так ён на мацеру:

— Едзьма са мною, будзеш жыць са мною.

І вот яна, ведаеце, усё раўно свайму сыну падстроіла, так падстроіла, што ён зрабіўся мёртвы. Ляжыць як жывы, але мёртвы, ніяк не ўстае. Качалі яны яго, качалі, уродзе жывы, а ніяк ён нежывы. Потым паглядзелі, а ў яго як іголка ў спіне сядзела. Як вырвалі гэту іголку, ён і ажыў.

Вот ён паставіў усіх у рад — хацеў узнаць, хто яго вораг,— і жонку і мацеру. І скамандаваў сваёй шаблі:

— Шабля, хто віновен, знясі таму галаву!

Гэта шабля над усімі ўзнялася, над усімі, колькі там стаяла слугаў, кружылася і к мацеры падскочыла, галаву сцяла і ўсё.

І казка ўся.

## 30. ЯК ІВАН-ДУРАК ПАЙМАЎ У РЭПЕ ЛЯТУЧАГА СТАРЫКА

Жыў мужык, і была ў яго тры сына. Два сына была вумных, а трэці паглупей. Ацец і гаворыць на сына, каторы называўся ў іх паглупей:

— Хоць ба ты, сын, схадзіў ідзе-нібудзь грудок падабраў — мы б рэпы пасеялі малым рабятам, ну і ты б інада б у случаі рэпіну з'еў ба!

— О, бацюшка, болазе вы мне сказалі!

Как саскачыў з пячы далой босы і без тапара, у лес і пабяжаў. Прыбяжаў у лес, выбраў места харошыя на ляда, большы дзесяціны. Ён быў чалавек сільна магучы: узяўся ляда не рубіць, а з карэннямі цягаць. Трое сутак тама пражыў, у том лядзе, і дамой не хадзіў. На чацвертыя суткі прыходзіць дамой і гаворыць на атца сваяго:

— Паязжай, бацюшка, у горад, купі рэпы цэльны куль: будзем мы сеіць з табой!

Ацец і гаворыць на яго:

— Перва ж нада [выжач] і падабраць яго; ва-втарых, кулем рэпаю цэльную дзесяціну можна засеіць.

Сын на атца атвячаіць:

— Ты схадзі — пасматры: дзесяціна цэльная ўж гатова пад пасеў.

Ацец многа ўдзіўляўся і гаворыць:

— Звядзі ты, сын, міне на то места!

Сын з атцом пашлі на ляда. Прыходзіць ацец у ляда, толькі рукамі хлопнуў і галавою пакатаў, і сказаў ацец на сына:

— Как жа ета бог памог цібе?

Патом і гаворыць:

— То праўда, што куля рэпы нада!

Паехаў ацец у горад, купіў куль рэпы, прывёз дамой; пашлі сеіць з самым з естым сынам. Ацец узяўся сеіць, а сын ляжыць і прыгаварываў:

— Расці, рэпа, па карэтнаму калясу!

Пасеялі рэпу і прышлі дамой. Чэраз тры, чатыры дня спусціўшы, гаворыць сын на атца:

— Бацюшка, нада б схадзіць рэпы пасматрэць, ці не цягаіць лі яе хто!

— Глупы ты, мой сын, яшчэ рэпа нейдзі не ўсхадзіла!

Ён, яшчо прапусціўшы чэраз нядзелю, гаворыць на атца:

— Бацюшка, нада пасматрэць рэпу, я і ўва сне відзеў, што хто-та таскаець яе.

Ацец гаворыць:

— А вот пайду — пасматру!

Прыходзіць ацец к рэпе, гдзе пасеяная — уж дзве кучы цецівы нацяганы бальшых. Прыходзіць дамой і гаворыць:

— Сын мой, уж рэпу хто-та кушаіць: ужэ дзве кучы цецівы нацяганы.

Сын заплакаў да і гаворыць:

— Вот, я цябе даўно пасылаў!

Січас пабяжаў сын к рэпы, пасмотрыць: праўда, дзве кучы цецівы нацягана. Січас узяў сын выцянуў рэпіну да на плячэ, прынёс дамой, то тая рэпіна ў дзверы, у ізбу не ўходзіць: з лішкам касэй сажань. Ён узяў яе рассек на мелкія штукі, у ізбу ўкідаў. Дзела прыходзіць к начы. Ацец на большага сына гаворыць:

— Пайдзі к рэпы на караул, хто яе цягаіць!

Еты сын уздумаў:

— Куда я пайду? Какой-нібудзь цягаіць страшылішча, то і мне смерць будзіць.

Пашоў у пуню, пераначаваў і дамой прышоў, гаворыць атцу:

— Нікаво я не відаў!

Прыходзіць другая ноч. Пасылаіць ацец втарога сына на

караул к рэпы. І еты ўбаяўся самай етай страсці — гаворыць:

— І я не пайду!

Забраўся ў чужую пуню, пераначаваў, прыходзіць дамой і гаворыць атцу:

— Нікаво не відаў я!

Прыходзіць трэцяя ноч. Гаворыць ацец на етага сына, з каторым рэпу сеялі:

— Таперыча, сынок, цебе ідэіць!

Сын атвячаў на атца:

— Уж я віжу сам, што мне нада ідзіць: сам я ляда вырубіў і з табою сеяў — сам пайду на караул.

Пашоў сын у кузню к кузняцу, скаваў сібе палку жалезную ў паўпуда весам і пашоў, гдзе рэпа пасеяная, пад тую капу. Сядзіць тама многа ўрэмя. Прыходзіць самая полунач. Зашумеў сільны вецер, узяла дажа лес ламаць, здзелалась дажа землетрасенія — прыляцела агромная чудовішча-старык і пала на рэпу. Выташчыць рэпіну, цецявіну адарвець да ў кучку бросіць, а рэпіна ў роце толька храшчыць, как ён яе есць. Еты жа самы Іван і смотрыць. Стала яму жалка сільна рэпы, разгарачылася яго серца: ён выскачыў аттуда вон з-пад капны і етага старыка етай жа палкай міжда крыл па спіне і па галаве как ударыў. Ён толькі крыкнуў, падняўся і паляцеў, а еты жа самы Іван за ім у дагонь — і ўсё яго палкаю б'ець. Еты жа старык, как ляцеў, прылятаіць у в ізбу ў сваю. Сам старык лёг на паліцу, голаву палажыў на кут, а нос палажыў на крук, а Іван яго ўсё-такі б'ець. Ён (старык) атвячаіць яму:

— Не бей мяне: я табе дам штуку.

— Давай! А што ты мне даш?

— А вот цібе быка да барана.

— А нашто яны мне?

— Када ў случаі ты будзеш на чужой старане і цібе ежалі ўб'юць, то баран будзіць блеяць, а бык равець: хто дома будзіць, то і знай, што ты не жыў.

Ён яго апяць пашоў біць.

— Не бей міне: я цібе яшчо штуку дам.

— Давай! Какую ты мне штуку даш?

— А вот цібе пузырок!

— Ля чаго ён?

— А ты павесь яго на жалезным масту ідзе-нібудзь асобенна. Как цябе ўб'юць, так у пузырке будзіць поўна краві; то тада барана з быкам выпускай: яны цібе аджывяць, хто будзіць дома.

Ён яго, Іван, апяць узяў біць; то еты атвячаіць:

— Не бей мяне: я цібе яшчо штуку дам!

— Давай! Што ты мне даш?

Ён вынімаіць яму крэмень і мысат. Іван атвячаіць:

— Ля чаго ж ета штука?

— Ты папробуй секануць, то пасыплецца сіла — конніца і пяхота і разныя сільныя багатыры.

Іван как секануў тры раза, то цэльная комната салдат і з саблямі, гавораць на Івана:

— Што прыкажаце дзелаць?

— Вазьміце і зрубіце етага старыка ў мелкія штукі!

Узялі яго, зрубілі ў мелкія штукі, у яму закапалі.

После етага Іван узяў крэмень і мысат і ўсё ета спратаў — усе салдаты спраталісь. Наканец, пашоў Іван к атцу сваяму дамой, павёў быка і барана; прыводзіць дамой быка і барана і аддаў атцу сваяму на рукі, і пузырок аддаў атцу і гаворыць тапер:

— Бацюшка, прашчайце: я тапера з вамі жыць не буду! Карміце маяго быка да барана! Ежалі ў случаі станіць бык равець, а баран блеяць, то і знайце, што я на свеце не жыў,— выпускайце быка і барана із хлева вон, а ва-ўтарых, пасматрыце ў пузырок, есць лі ў ём кроў.

Папрашчаўся і пашоў. Нескалькі ўрэмя ён ішоў. Прыходзіць у адно каралеўства, к каралю ў горад, і ў том горадзе ўсе ў чорных троурах ходзяць і ў пячалі плачуць. Ён і спрашываіць уаднаго старыка старага:

— Што ета ў вас такое значыць? Што ў вас за пячаль такая ў вашым каралеўстве?

— Да вот прыехаў непрыяцель такой і сватаецца к дачары нашага караля, а каралеўна не сагласна за яго іцці, да і ацец не сагласен, а непрыяцель атвячаіць на нашага караля: «Када ты не аддаш сваю доч за мяне, сілу тваю паб'ю і горад выжгу, а ўсё-такі вазьму».

А Іван атвячаіць на етага старыка:

— Даложце свайму каралю, што я етага караля сілу ўсю паб'ю, зашчычу яго.

Еты жа старык далажыў каралю:

— Такой-та хваліцца: зашчычу каралеўства і непрыяцельскую сілу ўсю паб'ю!

Кароль гаворыць:

— Пасладь яго ка мне сюда на глаза!

Старык прыходзіць к Івану і гаворыць:

— Жалаіць цібе кароль відзець на глаза — ступай к яму, пажаласта.

Ён і пашоў к каралю на глаза. Кароль сустрэў яго з чэсцю, са славай, з барабанным боем, пасадзіў яго кароль радам з сабой і гаворыць кароль:

— Праўда лі, што ты можаш зашчыціць мой горад ад непрыяцеля?

— Да, праўда!

— Вялікую награду я тому даў ба, хто б сілу яго пабіў, а за міне заступіўся!

— А какую?

— А што хочаш?

— Доч вашу хачу за міне.

— З вялікім удавольствіем,— толькі заступіся!

Іван і гаворыць:

— Пішыце к тому каралю, штоба заўтра ў дзевятым часу на вайну выязжаў!

А ўж тот кароль са сваей арміяй блізка вокала горада. Назаўтрыва выязджаіць тот кароль у дзевятым часу, адпраўляецца Іван тожа к яму ў дзевятым часу. Гаварыць кароль на Івана:

— Ты ж бяры вармії ў міне, сколькі надабі і сколькі есць!

— Не нада мне ні аднаго чалавека: я — адзін.

Іван адправіўся на сражэння і ўзяў мысацікам рубіць аб крэмень, і пасыпала сіла — вармія нязметная, конніца, пяхота. Пяхота і багатыры двое сутак біліся з тым каралём: прыбіў і прытаптаў таму каралю чыста ўсю сілу Іван — едва мог кароль сам уехаць жывой. Тада Іван абраціўся к сваяму каралю. Кароль благадарыў Івана за яго службу і на яго гаварыць:

— Нравіцца цібе мая доч?

— Да, нравіцца.

— Жалаю аддаць цібе за ўслугу доч сваю.

Перавянчаліс і сталі жыць. Патом таго, удруг пажылі з месяц і гаварыць яна на яго:

— Друг мой мілы, скажы, чым ты сілу ету такую пабіў і багатырэй — паехаў выць ты беза ўсякай вармії — адзін. Я на балхоне стаяла і ў падзорную трубку сматрэла, што ты з места далой не трывожыўся, ■ ад цібе валіла сіла: вармія, конніца і пяхота; то я ўсматрэла, што ты рубіў ува што-та.

Ён і гаварыць:

— Друг мой, ні ўва што я не рубіў, нічаво ў міне нет.

Яна заплакала і адвараціласся ад яго, здзелалася послі етага бальна — толька бальна яна з лукаўствам, хочыць яна яго

каба абмануць: ён ей, муж, ні па нраву прыйшоў. Бальна яна цэльную нядзелю. Так как ён узжалеўся над ёй і гаварыць:

— Да вот чым я пабіваю сілу. Есць у міне руж'ё. Как ■ вазьму ім махаць — і пасыплецца конніца, пяхота і багатыры.

Яна і гаварыць:

— Пакажы мне тое руж'ё!

Ён узяў ёй і паказаў. Вот яна ўзяла аднаму салдату дала многа золата:

— Ты не гавары нікаму, а схадзі во такое ж руж'ё купі!

Паказала яму ета. Тот салдат пашоў, купіў такое ж руж'ё. Яна ўзяла аддала залатарам, штоб яго азалаціць, і ўзяла ета руж'ё, азалаціўшы, на тое места паставіла, а ета руж'ё, катораe ён ёй паказаў, січас узяла, на почту і адправіла к тому каралю, каторы ваяваўся здзеся.

Яна жалаіць за таго замуж, кабы етага яе мужа і ўбіць ба; і напісала яна таму: «Прыязжай на вайну; з етага руж'я махай — сіла пасыплецца».

А еты [муж] пасматрыць: руж'ё азалочана. Ён і гаварыць на яе:

— Жана мая, ля чаго ты азалаціла руж'ё?

— А я ўсё раўно как цібе берагу, так і руж'ё тваё.

Ён засмяяўся наканец. Січас выязжаіць тот кароль на вайну. Сеў і ён на лошадзь і паехаў к яму наўстрэчу, арміі ж з сабой не ўзяў нісколькі. Как выехаў, так узяў апяць рубіць мысатам аб крэмень — паваліла сіла — вармія: конніца і пяхота ніабнакнавенная — і багатыры цэлых двое сутак біліся, і прыбіў, прыкалаціў ён усю тую сілу — едва мог сам кароль уехаць. Када ўзвараціўся ў горад Іван, то цесць яго сустракаў з радасці і благадарыў за яго вялікую зашчыту. Яна, даждаўшы, жана яго, да начы, узяла яго апяць распрашываць, гаварыць:

— Друг мой, када хочаш, штоб я жыва была, дак скажы мне, чым ты сілу ету пабіваеш; но не скажаш, так я ўмру сейчас.

Сама заплакала горкімі слязамі, здзелаўся над ею вобмарак, дажа яна паваліласе — чуць жывая асталася. Саскачылі дактара, адціралі яе разным спіртам. Послі етага і гаварыць ей Іван, муж яе:

— Пайдзём у асобенную комнату.

Тагда вынімаіць Іван мысацік і крамашок, як стаў сеч, тры разы секанўў — цэльная комната салдат і з саблямі; ён тада і гаварыць:

— Вот чым пабіваў сілы!

Тада яна сказала на яго:

— Веру, друг мой, таперыча я цібе!

Січас яна здзелала гульбу, мазукантаў, разныя паігры; нібніакнавенна і сама танцувала — з лукаўствам мужа сваяго Івана ўзвесяляла, харошых разных крэпкіх водак мужа сваяго Івана ўгашчала, для славы з лукаўствам сама пакушала. Наканец таго, лянглі спаць. Яна ўзяла, как заснуў Іван, выняла ў яго, еты мысацік і крамсала з кармана, а сама апяць жа дала многа чарвонных прыслугі сваей і паслала купіць такой жа мысаток і крамашок у лаўку. Узяла на ета места прастой і палажыла, а еты ўзяла ў пісьмо і запячатывала і паслала к таму жа каралю; пісала яму: «Друг мой, выязжай на вайну. Ета цяпер няложныя: папробуй сначала ету штуку дома».

Ён как чыркнуў тры раза, так цэлая комната і навалíла салдат. Тада ён і гаварыць:

— Праўда!

Січас жа адпісываіць, штоба еты кароль, яго прэжні непрыяцель, к дзевятаму часу выязжаў на вайну. Іван еты і рассярдзіўся.

— Ну, уж цяпер не ўпушчу яго!

Прыязжаіць, гаварыць: непрыяцель блізка. Ён і гаварыць:

— Пушчай жа едзіць к самаму гораду.

Наканец гаварыць: непрыяцель ля самага гораду. Ён тада і выехаў адзін без вармії. Выняў крамашок і мысаток і ўзяў рубіць — толькі агонь сыплецца, а нічаго з яго больш нету. Но тот кароль как узяў рубіць, пасыпала вармія — конніца і пяхота, многа множаства, і наскакалі на Івана, схваталі яго і ўбілі. Тада кароль тот прыказаў зрубіць яго на мелкія часці. І ўзялі яго, зрубіўшы цела, у бочку ўлажылі, жалезным абручом збілі, у мора і ўпусцілі. То тое ўрэмя бык дома равець, а баран бляёць. Ацец і гаварыць:

— Верна, майго Івана сына нет на свеце жывога!

Пайшоў пасматрэць, гдзе пузырок вісіць, есць лі ў ём кроў — уж пузырок цэлы краві. Ён узяў выпусціў быка і барана.

Яны паднялісь на воздух і паляцелі. Прылятаюць на то места к мору.

— Ну, што ж нам з табою дзелаць?

Гаварыць бык і баран, што бочкі ім не дастаць із мора.

— Пайдзем іскаць рыбаловаў, не ловяць лі ідзе ні на есць рыбы! То будзем прасіць зацянуць тое места.

Прабяжалі кала мора, напалі: лодка стаіць кала мора, а лю-

дзей нету. Пасматраць — у лодке рыбіна балтаіцца. Яны есць дужа хочуць. Баран гаварыць:

— Хуць ба ету рыбінку з'еў ба!

Ускачыў баран у лодку, згроб ету рыбінку. Ніадкуда ўзялась прымагучая сільная рыбіна, гаварыць:

— Баран, не еш ты майго шчукронка, любезнага дзіцёнка: я цібе за ета какую ўгодна службу саслужу.

Баран сказаў на тую рыбіну:

— Есць у моры бочка; выкаці мне яе, то я пушчу тваяго дзіцёнка.

Тая рыбіна пашла, заказала ўсем рыбам:

— Ішчыце бочку вот такое-то места!

Разыскалі яны бочку і выкацілі на бераг яму. Тада баран узяў пусціў рыб'я дзіцёнка. Гаварыць баран на быка:

— Нада разбіваць бочку!

А збіта яна жалезным абручам. Баран адышоў ад бочкі далеча, разагнаўшы, как ударыў сваімі рагамі, січас два абруча збіў далой; у другой раз, разагнаўшы, как ударыў, паследні, трэці збіў; бочка ета і разваліласся розна. Тада ўзялі ета цела і перамылі і ўместа пазлажылі, как быць чалавеку. Бык і гаварыць на барана:

— Што ж нам дзелаць? Нада нам аджывіць. Зарэж ты мяне і вывараці з мяне трыбух і кішкі да ў сяродку маю і сядзь. Паляціць воран з варанятамі, воран будзіць стары кракаць, скажыць: «Крук, крук, свежае мяса, да абманчывата!» А вараняты, как глупыя рабяты, і пападаюць на еты трыбух,— а ты і схваці варанёнка. Ён скажыць на цябе, воран: «Не губі майго варанёнка, любезнага дзіцёнка: я цібе какую ўгодна службу саслужу».

То баран узяў і зарэзаў быка, вывараціў з яго трыбух і кішкі і сеў у срэдзіну. Ляціць воран з варанятамі. Воран гаворыць:

— Крук! Крук! Свежае мяса, да абманчывата!

А вараняты, как глупыя рабяты, пападалі. Ён, баран, варанёнка схватаў. Воран гаварыць:

— Не бей ты варанёнка, любезнага дзіцёнка: я цібе какую ўгодна службу саслужу.

Баран гаварыць на ворана:

— Злятай ты! Есць адно места — жывая вада і мёртвая і прыкрасная: прынясі мне еты трох сартоў вады, то тада я пушчу табе дзіцёнка.

Воран гаварыць на барана:

— Падвяжы мне тры пузырка!

Баран падвязаў ворану пад крылля тры пузырка — воран падняўся і паляцеў; прылятаіць воран у то места. Тры ключа: у адном ключу мёртвая вада, у другом ключу жывая вада, у трэцім ключу прыкрасная вада. То воран са ўсех трох ключэй узяў вады ў кажны пузырок і паляцеў. Прылятаіць воран апяць на тое места к барану. Гаварыць баран:

— Прынёс, воран?

— Прынёс.

— Ну, давай яе сюда!

Воран узяў аддаў пузырок барану. Баран узяў і разарваў варанёнка — воран і заплакаў. Баран узяў варанёнка, как збрызнуў мёртваю вадою — ён змёртвіўся; збрызнуў жывою вадой — зжывіўся; збрызнуў прыкраснай вадой — то быў варанёнак харош, то яшчо луччы стаў. Зжывіўся варанёнак, і падняўся, і паляцеў з воранам. Тада баран узяў быка, збрызнуў мёртваю вадой — бык змёртвіўся; брызнуў жывой вадой — бык зжывіўся, маргаіць глазам, смотрыць, а не ўстаніць. Как збрызнуў яго прыкраснай вадой, бык і ўскачыў. Тада ўзяўся еткім жа манерам і хазяіна сваяго брызгаць. Збрызнулі мёртвай вадой — ён змёртвіўся; збрызнулі жывой вадой — ён зжывіўся; збрызнулі прыкраснай вадой, то іх хазяін і ўстаў.

— Ах, как я доўга спаў!

— Да, спаў ты ў моры, у бочкі.

Гаварыць Іван:

— Пайдзем к атцу дамой!

А бык да баран на яго гаварацъ:

— Ты з намі не хадзі, а ступай к етаму каралю і застаўся у яму ілі ў павара, ілі ў прыслужныя кала яго хадзіць, да высматрывай, гдзе ляжыць яго крамашок і мысаток! То ты тайна яго і вынь — тада што знаеш, то і дзелай. Адзежу купі себе харошую!

Наканец бык і баран папрашчаліс з Іванам; бык да баран дамой, а Іван пашоў у еты горад, купіў себе адзежы харошай, адзеўся і патом прыходзіць к каралю:

— Не наймеце лі вы міне ў прыслужнікі ілі ў павара?

Кароль і рад етаму дзелу. А не ўзналі яны яго, ні кароль, ні жана яго, узялі і нанялі яго. Ён служыць харашо. Прадаўжаецца ўрэмя і месяц, і два. Ён падсматрэў, што мысаток і крамашок у жалеце, у кармане. То ён караля адно ўрэмя раздзяваў і выняў мысаток і крамашок із кармана вон. То тую ж ноч самую Іван, када яны заснулі сільна крэпка, тры раза как чыркнуў, так цэлая комната салдат і з саблямі, і гаварацъ яны на яго:

— Што прыкажаце дзелаць?

Ён гаварыць:

— Узяць етага караля, ізрубіць яго на мелкія часці і палажыць яго цела ў бочку, і жалезным абручам збіць і ў мора на то места, ідзе я быў, укаціць!

А жана яго ўскачыла і стала на калені, стала плакаць і прасіць Івана і гаварыць:

— Друг мой, Іванушка, прасці міне!

Ён прасціў — не стаў губіць, аднача пасадзіў яе на бахту на дванаццаць дней, суткі давалась пішча адзін раз: адзін фунт хлеба і адзін фунт вады.

Наканец, када яна адсядзела, прышоў Іван, узяў яе за руку і адтудава едва вывеў, і сталі патом жыць мірна і харашо.

## 31. АЛЕНА-ПРЫГАЖУНЯ, ЧАРАЎНІК І САЛДАТ

Ні ў нашым царстве, ні ў нашым гасударстве жыў-быў цар-гасудар. І была ў яго дачка Алена-Прыгажуня.

Жылі яны каля азярца, і было ў іх многа слуг. Пайшла аднойчы Алена з сваімі слугамі на бераг возера і бачыць: далёка, далёка прыгожы карабель. А ад берагу да яго — залатая дарожка. Ніхто гэту дарожку, акрамя яе, не бачыць. Пакінула яна слуг і пайшла на карабель. Азірнулася, а ззаду дарожкі ўжо няма.

А быў на тым караблі злы чараўнік Кокаць — барада па локаць, сам невялікі — пад паталок ростам.

Узыйшла Алена на карабель, а карабель і паімчаў яе невядома куды.

Перапалохаліся слугі, пабеглі да цара і расказалі аб усім, што бачылі. Аб'явіў цар па ўсім сваім царстве-гасударстве, хто знойдзе яго дачку Алену-Прыгажуню, той атрымае палавіну царства, і Алена-Прыгажуня стане яго жонкай.

І вось прыходзіць да цара салдат Партупей Прапаршчык:

— Я магу. Дай мне толькі тыдзень падумаць.

Згадзіўся цар.

Праходзіць тыдзень, а Партупея Прапаршчыка няма. Паслаў цар слуг да яго, а ён кажа:

— Адной нядзелі мала. Дайце яшчэ адну.

Прайшоў другі тыдзень, і з'яўляецца Партупей Прапаршчык да цара і кажа:

— Дай мне, цар, піці-есці на тыдзень, карабель і тавары і таварышаў. Тады я выратую тваю дачку.

Даў яму цар, што салдат прасіў, і паехаў Партупей Прапаршчык.

Ехалі яны, ехалі і даехалі да канца мора. Прывязалі карабель да куста, дзе была зямля пустая, і пайшлі па лясах і балотах. Доўга так яны ішлі. Нарэшце бачаць хатку на курыных ножках. Хацелі зайсці ў яе, а яна раптам узяла і павярнулася дзвярыма да іх. Сталі яны прасіць яе:

— Пусці нас, хатка, змарыліся вельмі мы.

Пусціла іх хатка. Зайшлі яны, разлажылі свае манаткі, і гаворыць Партупей Прапаршчык свайму сябру:

— Ты заставайся дома, гатуй ежу, а я пайду шукаць Алену-Прыгажуню.

І пайшоў. А яго таварыш настраляў розных птушак і пачаў гатаваць ежу. Раптам стукае нехта ў дзверы. Адкрывае ён дзверы і бачыць, што гэта сам Кокаць — барада па локаць, сам невялікі — пад паталок ростам.

— Дай пакаштаваць,— просіць.

— Не дам. Хутка прыйдзе Партупей Прапаршчык. Чым жа я буду яго карміць?

Збіў Кокаць таварыша Партупея Прапаршчыка, а сам усё з'еў і пайшоў. Ачухаўся таварыш Партупея Прапаршчыка, зноў пачаў ежу варыць. А тут і Партупей Прапаршчык прыходзіць:

— Ну што, наварыў?

— Ды не. Пакуль сабраўся, пакуль птушак настраляў, дык і ты прыйшоў.

На другі дзень застаецца сам Партупей Прапаршчык. Калі ежа была гатова, прыходзіць, як і ў першы дзень, Кокаць — барада па локаць, сам невялікі — пад паталок ростам. Просіць:

— Дай пакаштаваць.

— Калі ласка. Каштуй сабе.

Наеўся Кокаць і кажа:

— А цяпер я цябе буду частаваць. Пайшлі да мяне.

Дайшлі яны да калодзежа, а там вялізны куст расце. Падняў Кокаць гэты куст, а пад кустом глыбокая нара. Спусціліся яны ў нару і ўбачылі вялікі стол. Падыйшлі да гэтага стала, і гаворыць Кокаць:

— Столік, столік, адчыніся, дай нам піці-есці, што на свеце ёсць.

Адчыніўся столік, і ўбачылі яны віна і стравы заморскія. Пачалі яны піць: Партупей Прапаршчык маленькай чарачкай, а Кокаць — вядром. Напіўся Кокаць і паваліўся спаць.

Партупей Прапаршчык забіў яго і забраў у яго ключы.

А было іх у Кокаця дванаццаць. Пайшоў Партупей Прапаршчык адмыкаць пакоі. Чаго толькі ў іх не было! І золата, і драгацэнныя каменні, і розныя другія багацці. Нарэшце ён дайшоў да дванаццатага пакоя. За дванаццацю дзвярыма, за дванаццацю замкамі там сядзела Алена-Прыгажуня. Узрадавалася Алена, кінулася яна да Партупея Прапаршчыка і кажа:

— Выратуй мяне, служывы, а я буду табе добрай жонкай.

Узяў Партупей Прапаршчык яе за белыя рукі і вывеў з цямніцы. Пайшлі яны да чароўнага століка, і кажа Партупей Прапаршчык:

— Столік, столік, адчыніся, дай нам піці-есці, што на свеце ёсць.

Селі яны за столік, памяняліся яны кольцамі. Напіліся, наеліся і рушылі ў дарогу. Зайшлі ў хатку па таварыша Партупея Прапаршчыка і пайшлі да свайго карабля.

Падышлі яны амаль к самаму мору, і засумавала нешта Алена-Прыгажуня.

— Чаго сумуеш, радасць мая? — пытаецца Партупей Прапаршчык.

— Ды вось, калі ўмывалася каля крыніцы, зняла кальцо, палажыла на камень ды і забылася на яго.

Супакоіў яе Партупей Прапаршчык і пайшоў па кальцо назад. А таварыш яго, тым часам, пасадзіў яе на карабель і павёз да бацькі. Ён прымусіў яе прысягнуць, што скажа яна бацьку, што гэта ён яе выратаваў, і даў ёй з'есці прыгоршчу зямлі. Нічога не зробіш, прыйшлося згадзіцца.

А Партупей Прапаршчык, вярнуўшыся, не знайшоў ні карабля, ні Алены-Прыгажуні, ні таварыша. Зажурыўся ён і пайшоў, куды вочы глядзяць. Ішоў, ішоў Партупей Прапаршчык і бачыць бугарок, а на ім хлопчыка гадоў дванаццаці.

— Ці не хочаш ты да нас на службу наняцца? — пытаецца гэты хлопчык.

— З радасцю,— адказвае Партупей Прапаршчык. — Усё роўна мне няма куды дзецца.

— Толькі служыць трэба тры гады. Калі добра паслужыш, то ўзнагародзіць цябе мой бацька. Калі што прыйдзецца не да спадобы, то галаву здыме з плеч.

А бацька гэтага хлопчыка быў чарадзей, і тры гады цягнуліся як тры дні.

Хлопчык жа надта палюбіў салдата і ва ўсім дапамагаў яму.

Служыць Партупей Прапаршчык дзень, служыць другі, а на трэці дзень ён не вытрымаў і адкрыў дзверы, якія нікому не даз-

валялася адкрываць. А за тымі дзвярыма стаялі чароўныя коні. Вырваліся яны на волю і разбегліся па ўсяму свету. Але тут на дапамогу прыйшоў сын чарадзея. Так прайшло тры дні. Настаў час разлічвацца.

— Ну, як служыў нам Партупей Прапаршчык? — пытаецца чарадзей у сына.

— Вельмі добра служыў.

— Ну, раз добра, дык атрымай узнагароду.

За гэтымі словамі чарадзей даў яму шашку-самарубку, каня заезджанага і стары кашалёк.

— Прыйдзеш у лес, махнеш шашкай-самарубкай управа — будзе табе дарога. Прыйдзеш да мора, махнеш шашкай-самарубкай улева — зноў жа будзе табе дарога. Куды б ні пусціў ты свайго каня, толькі крыкні: «Сіўка-бурка, стань перада мной, як ліст перад травой»,— адразу ён з'явіцца да цябе. А калі будуць табе патрэбны грошы, то патрасі кашалёк, і пачнуць сыпацца чырвонцы.

Падзякаваў Партупей Прапаршчык чарадзея, сеў на каня і адправіўся ў пуць-дарогу. Пераехаў праз моры і лясы і прыехаў да цара-гасудара. А там пір ішоў гарой. Праўлялі вяселле. Алены-Прыгажуні з яго памочнікам. На гэтым піру пабывалі людзі з усяго царства-гасударства. Ужо прыходзілі апошнія, як з'явіўся Партупей Прапаршчык. Зайшоў ён на задні двор і сеў на дровы. Тут і яго клічуць на пір. Загарнуў ён руку з кальцом хустачкай і пайшоў. Прыходзіць, садзіцца за стол.

— Што гэта ў цябе з рукой? — пытаецца Алена-Прыгажуня.

— Ды вось параніў.

— Пакажы,— просіць царэўна.

Не хацелася служываму паказваць руку, але ўсе так прасілі, што прыйшлося паказаць руку.

Пазнала царэўна сваё кальцо, узяла яго за руку і павяла да бацькі.

— Вось мой вызваліцель.

Прывязалі абманшчыка да жалезнай бараны, запраглі варных каней і пусцілі ў чыстае поле. Партупей жа Прапаршчык ажаніўся з Аленай-Прыгажуняй і пражылі яны шчасліва тры гады.

Але грызла Алену-Прыгажуню адна думка: яна, царская дачка, выйшла замуж за простага салдата.

І вырашыла яна яго звесці са свету. Успомніла яна, што яшчэ з маладых гадоў у яе быў сябра — каралёк Андрон Ан-

дронавіч. Піша яна яму пісьмо: «Дапамажы мне мужа знішчыць».

Ідзе Андрон Андронавіч вайной на Партупея Прапаршчыка. А Партупей Прапаршчык выйшаў адзін супраць усяго войска і ўзяў з сабой шашку-самарубку. Махнуў направа — палавіна войска палегла, махнуў налева — палегла другая палавіна. Сам Андрон Андронавіч ледзь уцёк.

Другі раз піша Алена-Прыгажуня Андрону Андронавічу пісьмо. Сабраў ён войска ў два разы большае. Зноў выйшаў Партупей Прапаршчык адзін з шабляй-самарубкай і зной усё войска разбіў. Тады просіць Андрон Андронавіч Алену-Прыгажуню дазнацца, у чым сіла яе мужа. Ласкамі і хітрасцямі яна выведала ў мужа тайну.

Падмяніла яна чароўную шаблю простай, а чароўную адаслала Андрону Андронавічу. Пайшоў Андрон Андронавіч зноў вайной. Выйшаў Партупей Прапаршчык з шашкай, ды не дапамагла яна яму. Падскочыў Андрон Андронавіч да яго і махнуў шашкай-самарубкай. Упаў Партупей Прапаршчык пад ногі каню. Андрон Андронавіч вырашыў яго лютай смерцю пакараць. Прывязаў да хваста конскага і пусціў у чыстае поле. Але ж конь быў чароўны. Ён выратаваў Партупея Прапаршчыка. Замчаў яго прама к чараўніку. Паслужыў ён зноў чараўніку тры гады, і даў чараўнік тры кветкі: белую, жоўтую і блакітную.

— Кінеш на мора белую кветку, на лес блакітную — і будзе табе дарога, а калі кінеш далоў жоўтую кветку — станеш канём-прыгажуном. Ды зайдзі к беднаму кавалю.

Пайшоў Партупей Прапаршчык. Ператварыўся ў добрага каня і забег у двор да беднага каваля.

Каваль узрадаваўся такому каню. Але падходзіць царскі загад весці ўсіх каней на царскі двор, цар будзе выбіраць сабе найлепшага каня. Павёў каня і каваль. Яго конь і спадабаўся Андрону Андронавічу. Купіў ён гэтага каня і прыводзіць паказаць жонцы. Жонка адразу зразумела, што гэта не конь, а Партупей Прапаршчык. І кажа яна:

— Трэба яго забіць, спаліць і па ветру развеяць.

А ў Алены-Прыгажуні і Андрона Андронавіча былі тры дачкі. Самай малодшай вельмі спадабаўся конь і стала ёй яго шкада. Прыходзіць яна на канюшню і кажа:

— Конік, конік, забіць цябе хочуць.

— Калі мяне будуць забіваць, прыйдзі і ты. Капне табе на фартушок капля маёй крыві, ты вазьмі і пасадзі пад акном. З яе вырасце залатая яблыня.

Зрабіла царэўна, як ёй казаў конь. Вырасла залатая яблынька. Глядзяць на яе ўсе — не нарадуюцца. А Алена-Прыгажуня глянула на яе і адразу зразумела, што гэта не звычайная яблынька, а Партупей Прапаршчык.

— Трэба гэту яблыньку ссячы, спаліць і па ветру развеяць.

Пабегла зноў малодшая царэўна і кажа:

— Яблынька, яблынька, цябе хочуць ссячы.

— Калі мяне будуць ссякаць, прыйдзі і ты. Упадзе табе трэсачка ў чаравічак, ты яе вазьмі і кінь у возера.

Зрабіла так дзяўчына. І ператварылася гэта трэсачка ў прыгожую залатую качку.

Выйшаў аднойчы сам Андрон Андронавіч пакупацца ў возеры. Ён ніколі не разлучаўся з шашкай-самарубкай. Бачыць — плавае ў возеры залатая качка. Распрануўся ён і зайшоў у ваду ды давай лавіць залатую качку. Вось-вось ужо паймае. Раптам узнялася качка, паляцела, ударылася аб зямлю, ператварылася ў Партупея Прапаршчыка. Схапіў ён шашку-самарубку і забіў Андрона Андронавіча і пайшоў у палац. Убачыла яго Алена-Прыгажуня, стала прасіцца:

— Не карай мяне. Я ўжо буду табе добрай жонкай.

Але ён не хацеў даваць веры словам царыцы. Не памілаваў ён яе, адсек галаву.

Калі Алена-Прыгажуня яшчэ імкнулася загубіць Партупея Прапаршчыка, то бацькі ўгаварылі яе не рабіць гэтага, сароміліі. Таму яна загадала выкалаць ім вочы і пасадзіць у цямніцу.

Цяпер Партупей Прапаршчык вызваліў іх, памазаў вочы жывой вадой, і яны зноў сталі бачыць, яшчэ лепш, чым раней. Пасля гэтага ён пазваў трох царэўнаў і запытаўся:

— Хто гэта тры разы выратаваў мяне ад смерці?

Старэйшыя царэўны наперабой сталі крычаць:

— Гэта я, я.

А малодшая стаяла і маўчала.

Зразумеў тады Партупей Прапаршчык, хто яго выратаваў. Забіў ён тады старэйшых сясцёр, а малодшую ўзяў сабе ў жонкі, і сталі яны жыць-пажываць да дабра наживаць.

## 32. САЛДАТ І ЧОРТ

Ішоў салдат са службы дамоў. Адслужыў дваццаць пяць гадоў. Дадому заставалася ўжо недалёка. Захацелася яму закурыць. Дай, думае, зайду ў хату, папрашу агню. Зайшоў. А там

не хата, а амбар. І ляжыць у амбары куча серабра. Насыпаў ён поўную шапку серабра, устаў, выпрастаўся, аж бачыць — наперадзе яшчэ адны дзверы. Дай, думае, пагляджу, што там. Адчыняе дзверы, а там на таку ляжыць куча золата. Высыпаў ён серабро і набраў поўную шапку золата. Хацеў ужо ісці, аж бачыць — яшчэ адны дзверы. Адкрыў іх, а там грошы соценнымі ляжаць. Па сто рублёў адна паперка. Нашто, думае, буду цягнуць гэтае важкае золата? Набраў поўную шапку соценных. Выходзіць з амбара і бачыць — на сцяне шар вісіць. Узяў ён і гэты шар паветраны. Прыгадзіцца, думае. Выйшаў на дарогу і толькі тут успомніў, што так і не закурыў — няма запалак. А ў тым шары чорт сядзеў.

— Адпусці,— кажа чорт,— прынясу табе запалкі.

Салдат выпусціў чорта і думае сам сабе: «Прынясе чорт хоць адну запалку ці не прынясе?»

Толькі гэта ён падумаў, а перад ім цэлы вагон запалак на дарозе ляжыць. Закурыў салдат, задыміў і кажа чорту:

— Цяпер бы з дарогі памыцца і адпачыць крышку!

Чорт прапанаваў зайсці ў любую хату і заначаваць.

— Ноччу,— кажа,— я табе царскую дачку дастаўлю.

І прынёс чорт нанач салдату царскую дачку. Гулялі яны, весяліліся цэлую ноч. Раніцаю чорт аднёс царскую дачку дадому. Салдат рашыў яшчэ адну ночку пераначаваць у гэтым доме. Просіць чорта прынесці яшчэ раз гэту царскую дачку. Чорт згадзіўся. А дачка расказала ўсё бацьку. Цар даў ёй дзве калоды карт і кажа:

— Калі цябе ўхвацяць, кідай па дарозе карты, і мы цябе знойдзем.

Дачка так і зрабіла. Схапіў яе чорт, а дачка ўсю дарогу картамі ўваслала. Там бы яе і знайшлі. Але чорт быў хітрэйшы за цара. Чорт забраўся на фабрыку, дзе рабілі карты, набраў іх ледзь не цэлы вагон і ўваслаў імі ўсе дарогі. Раніцою чорт зноў аднёс царэўну дадому. Салдат захацеў начаваць з царэўнаю яшчэ адну ноч. На гэты раз цар даў дачцы мел і сказаў ёй, каб яна, як будзе ляцець, рабіла на вокнах адмецціны. Чорт і на гэты раз перахітрыў цара і яго дачку — зрабіў адмеціны не на тых вокнах, дзе трэба было. А там, дзе царэўна рабіла адмеціны,— пасціраў. Тры начы гулялі салдат і царская дачка. На чацвёртую ноч царская дачка сама згадзілася выйсці замуж за салдата. Салдата ўзялі ў царскія пакоі. Згулялі вяселле. Але салдат так ужо разгуляўся, што піў кожны дзень. Вып'е і засне, вып'е і засне. Пакуль салдат піў ды спаў, жонка забрала ў

яго грошы і шар. А салдата замкнулі ў пакоі і хацелі ўжо судзіць. Выскачыў ён праз вакно ўночы і схаваўся пад мастом. Сядзіць у адным бяллі. Аж ляціць чорт. Нясе яму адзежу, шляпу і яблыкі.

— Нічым,— гаворыць,— табе не магу дапамагчы, бо шар у цара — я вылецеў толькі на адну хвілінку.

— А што гэта за яблыкі? — пытае салдат.

— Гэта яблыкі двух сартоў,— кажа чорт,— яны табе дапамогуць.

З'еў салдат адно яблыка — з'явіліся ў яго рогі, з'еў яблыка другога гатунку — рогі адпалі, і стаў ён прыгажэйшы, чым быў. Здагадаўся тады салдат, што яму рабіць з гэтымі яблыкамі. Пайшоў да царскага палаца і стаў іх прадаваць.

— Яблыкі, яблыкі,— крычыць ён, ходзячы каля царскага палаца,— хто з'есць гэтае яблыка, стане прыгажэйшым, чым ёсць!

Спачатку купілі некалькі яблык служанкі. З'елі і сталі прыгажэйшымі, як былі. Потым купілі па яблыку царскія дочкі. З'елі і выраслі ў іх рогі. Спалохаўся цар, заплакалі царскія дочкі. Ва ўсім царстве пачалі шукаць дактароў, каб вылечыць царскіх дачок. Пераапрануўся салдат лекарам і прыйшоў у царскі палац. Стаў лячыць дачок. Загадаў тапіць баню. Тую, што абманула яго, лячыў, пакуль не забіў да смерці. Астатніх вылечыў. Даў ім па яблыку, з'елі яны і сталі вельмі прыгожымі. Самую малодшую з іх і самую прыгажэйшую цар аддаў замуж за лекара. І зноў стаў салдат жыць у тым пакоі, дзе жыў раней. І чорт яму служыць. І грошы ў салдата ёсць, і царская дачка, і чорт на пабягушках. І забыўся той салдат, што яму трэба дадому ісці.

## 33. ТРЫ СЫНЫ

Жыў адзін стары. Было ў яго тры сыны. Ну, ён ужо сам стаў стары, слабы. Тады будзіць гаварыць сынам:

— Мае сыночкі, раздзялю я вас, пакуль я жыў, а то пасля маёй смерці будзеце дзяліцца, будзеце сварыцца.

Ну і раздзяліў каму што прыйшлося, каждаму часць. Аднаму, другому, трэцяму. Гэтыя двое сталі работаць на хазяйстве, а трэці будзіць думаць:

— Ай, нашто мне гэта хазяйства, прадам я сваю часць, пайду ў свет.

Вот ён прадаў сваю часць, што яму прыйшлося, бацька што яму назначыў, купіў карты. Карты ў запазуху, грошы ў карман і пайшоў на свет. Вот ідзець, ідзець дарогаю, ідзець без дарог. Прыходзіць, дарога перакрэслівая — стаіць крэст, на ім такі Язусік распяты. Тады ён падышоў, будзіць казаць:

— Бог, будзем у карты гуляць.

А ён жа не гаворыць. Вот узяў разлажыў карты, дастаў грошы. Яму кучу грошай, сабе кучу грошай. Раздаў карты. Падыміць яго карту, падыміць сваю. Ну й так іграў, іграў і прайграў усе грошы. Ён узяў ссунуў у кучку, карты ў запазуху і пайшоў у дарогу яшчэ. Ідзець, ідзець дарогай, ідзець, ідзець — коціцца шкатулачка нейкая. Сагнуўся, падняў. Глядзіць, нейкія дзве дзірачкі ў шкатулачцы. Ён павярнуў на адну руку — золата! — на другую серабро! Ой! Ну, ідзець, варочаець гэтую то на адну руку, то на другую. У карманы накладваіць гэтае золата з серабром. Ну, ішоў, ішоў, ішоў. Зайшоў — сяло, бальшое сяло. І пан там жыў у маёнтку, у яго быў за дзярэўняй. І карчма там была ў дзярэўні ўжо ў гэтай, у сяле. Вот ён зайшоў у карчму. А хто прыходзіць у карчму, а ў яго ж грошай многа гэтых, а ён загадвае гэтым, таргоўшчыцы гэтай, гарэлку каб паднасіла. Ён поіць усіх, хто ні зайдзіць, поіць і плаціць сваімі грашыма. Вот на абед ужо пазванілі, у пана ж многа было гэтых парабкаў. Работалі там падзённікі. На абед ішлі яны ўжо, прыйшлі на абед, паабедалі, ідуць. А зайшлі ў карчму, ажно тут які-то сядзіць, небагата надзеўшыся, у армячку, ды поіць усіх, плоціць грашмі. Яны зайшлі, тожа напіліся, панапіліся яны там. Пан звоніць, акуном гэты звоніць, звоніць, каб ішлі на работу ўжо. Не йдуць работнікі. Пасылаіць пан акунома:

— Ідзі ты праслухай, што такое, работнікі не йдуць на работу.

Прыходзіць ён к карчме. А яны п'яныя: хто спіць, хто сядзіць, хто пяець, хто спораіць. Прыйшоў у карчму. Сядзіць у армячку нейкі чалавек незнакомы ды і напайвае іх. Пайшоў ён да пана і дакладваіць пану:

— Паночак, каб ты відзеў! Вон кала карчмы п'яныя ўсе работнікі. Сядзіць нейкі там у карчме багата не надзеўшыся, бедна саўсім, у армячку, і ўсіх поіць, плоціць. І работнікі за гэтага не йдуць.

Пан січас гаворыць:

— Ідзі, січас прывядзі яго сюды, нягодніка таго. Што ён мне работнікаў сарваў з работы.

Ён прыйшоў, забраў яго.

— Хадзі да пана.

Ну, вот прыходзіць. Пан рассердзіўся на яго.

— У псарню яго січас зачыніць! І заперці там к сабакам!

Ну, узялі яго зачынілі к сабакам. Ён сядзіць суткі, сядзіць другія. Ён у куточку сеў, а яго сабакі не трогаюць. Ён на адну руку, на другую перакачваіць гэтую сваю шкатулачку. Яму ўжо німа дзе дзяваць золата, дык ён гэтае і серабро адсыпаіць усё кругом. Ну, тады пан загадваіць свайму прыслужніку, лакею:

— Ідзі, выкінь яго косці. Сабакі недзе яго б з'елі. А то б засмярдзяцца там косці яго.

Ён прыходзіць, адкрыў дзверы, як глянуў — аж куток увесь ззяіць! А божа ж мой, а божа мой! Ён тут у карманы скарэй панакладваў, панакладваў грошай. Пабег да пана.

— А паночак, а родненькі! А што ж там! Хадзіце скарэй, бярыце мех! Ён жа ўвесь там у золаце сядзіць!

Ну, пан тут скарэй мех схваціў. Прыбеглі, золата гэтае ўсё падабралі, яго павялі, січас баню заказалі, січас яго памыць, нада ў баню звадзіць.

А ў яго была дачка, у пана. І рашыў ён пажаніць яго з дачкой з сваёй. Так і здзелалі. У бані вымыўся ён. Ну і пажанілі з дачкой і з панскай. Вот начуіць ноч ён, там жывець, другую. Тады жонка гэта ўзяла да адкрала шкатулачку гэтую. Ён прачнуўся — няма ўжо шкатулачкі. Ён узяў, нічога не гаварыў, кінуў і пайшоў сваёй дарогай. Ідзець, ідзець дарогай, ідзець, ідзець. Стаіць яблыня, дзве яблыні. На аднэй такія бліскучыя яблыкі, на другой ужо не, не такія.

— Дай,— думае,— паспытаю-тка я яблыка гэта,— зваліўшыся ляжала.

Ну, з'еў тое яблыка, спаць яму захацелася. Спаць ён лёг. Ай, прачхнуўся ж ён, ажно ў яго рогі параслі. Не можыць паварнуцца — і так, і сяк. Ай, ай! Ахаіць, божкаіць! Нейк ён падпоўз пад другую яблыню, з'еў ён яблыка з другой яблыны. Яшчэ спаць яму захацелася. Ён заснуў. А божа мой! Адваліліся ў яго рогі! Ну, ты падажджы! Ён узяў гэтых яблык наклаў спадніз, што рогі ў яго адваліліся, а гэтых наверх палажыў бліскучых яблык. Ну, ідзець дарогаю, у карзіначку палажыў, ідзець. Ажно едзіць той пан. Ён пана спазнаў, а ён яго не спазнаў. А гэта ж пану было завідна — ого!

— Што гэта ты нясеш, мужык? Яблычкі?

— Ага, яблыкі нясу.

— Прадасі?

— Купляй.

Ну, пан яму заплаціў грошы, ён яму яблыка даў. Ай, яно ўсё бліскучае, хто ведаіць! Прыязджаіць пан дадому. Ай, пані выйшла яго страчаць.

— Ой, якога я гасцінца прывёз! Ну, вы такога ніколі не відзелі.

Січас тут самавар паставілі, усе сабраліся сваёй сям'ёй, парэзалі кусочкамі тое яблыка, у чай панакідвалі, напіліся і ляглі спаць. Ой, устаюць назаўтрага, параслі ў іх рогі! Ойкаюць паны, енчуць, стогнуць, крэкчуць! Ай, дактароў возяць. Дактары нічога рады не могуць даць.

Прыбягаіць пакаёўка ў гэтую ў карчму, у тую. А гэты ўжо чалавек сядзіць там у карчме. Ага, а гэта была яўрэйка, таргоўшчыца. Вот яна пытаецца.

— Што ж там новага?

А пакаёўка кажа:

— Ой, міленькая мая, не дай бог, што ў нас новага, што здарылася! У паноў вун рогі параслі. Дактароў панавазілі, нічога здзелаць няможна. Няможна цярпець, як яны там енчуць, як яны там просяцца, божкаюць, дык ой-ой! галосяць там, няможна цярпець у пакоі.

А ён сядзіць за сталом ды будзіць казаць:

— А можыць я вылечу?

А яна:

— Ай, дзе там! Гэткі сядзіць у куце — ён бы б вылечыў! Ні такіх вунь навязлі дактароў, нічога не здзелаюць. А ён гэткі сядзіць абарванец, ён бы б ужо вылечыў?

А тая яўрэйка будзіць казаць:

— А што ты думаеш? А можа свецкі чалавек, а можа ён які загавор знаіць? Дык ты ідзі ды скажы пану.

Яна пабегла пану сказала. Пан загадваіць:

— Ідзіце, прывядзіце яго сюда.

Вот прывялі яго да пакою. Прыйшоў ён. Падышоў к пану, узяў яблыка гэтае.

— Дайце чаю,— гаворыць.

І раскалаціў яблыка, даў пану. На сон яго пацягнула. Пані даў. Сын быў іх паніч. І гэтаму панічу даў гэта. Паадвальваліся ў іх рогі. Як бразне гэты рог — дзылкі па пакою пойдуць.

Падышоў ён к гэтай дзеўцы, што замуж яе браў. Узяўся за рог, як калыхнуў яе за рог. Яна:

— Ай-яй-яй-яй-яй-яй-яй! Больна, больна!

— Ну, нічога не быць з гэткім. Нада вытапіць баню харашэнька, і навяжыце бярозавых дубчыкаў.

Ну, яны тут скарэй. Пан загадаў, баню вытапілі тут. Пакаёўка вядзець яе ў баню. І ён ідзець, мужчына гэты во. Ну, пакаёўка стаіць у прыбанніку. Ён:

— Раздзявайся!

А яна ўсё як бы засцяснялася, застыдзілася.

— Быстрэй раздзявайся!

Яна раздзелася.

— Лажыся на палок!

Яна лягла на палок, а ён дубцамі тымі!

— Аддавай маю шкатулачку, аддавай маю шкатулачку!

Як стаў яе біць. Ой, яна енчыла, енчыла.

— Ой жа, ой, божа мой! Пакаёўка! Ці ты тут? Ідзі, там і там шкатулачка ляжыць. Прынясі, аддай.

Пакаёўка тая скарэй пабегла, прынесла шкатулачку, аддала яму. Ён даў ёй з'есці яблыка ўжо. Яна з'ела, рогі адваліліся. Пайшла дамоў. А ён апяць сваёй дарогай і пайшоў.

## 34. АБ ВЕДЗЬМЕ, ШТО МУЖЫКА Ў САБАКУ ПЕРАКІНУЛА

Адна ведзьма мела сабе кавалера пабочнага, так аднаго разу перакінула нялюбага мужыка ў сабаку да й прагнала ў свет. Бяжыць ён, так бяжыць, ажно бачыць, пастух так ганяецца за скацінкаю, а яно стракуе, і ніяк раданькі не дасць. Ну, так той сабака падбег да то давай упуняць. Упуняў, упуняў да й урэшце ўспакоілася, так то падбег, сеў каля пастуха, а ён даў яму хлеба да і кажа.

— Ну, цяпер ужэ, сабачко, не пойдзеш нідзе ад мяне.

А сабака думае сабе: гэтага я і хачу! Надышоў вечар, так сабака пабег, скацінку завярнуў да й пагнаў дахаты, а пастух ідзе сабе ззаду. Загнаў у хлеў, пастух анно зачыніў, да й пайшлі дахаты. Прыйшоўшы, даў яму сырога мяса — не есць. даў варанага — есць. Ну, так ад тае пары пачаў ужэ даваць сабацы, што сам еў. После ўжэ пастух і не выганяе скаціні, бало анно хлявок а[д]чыніць, а той сабака выжане да й то сам пасе. Быў ён там мо з рачок, ажно дачуваюцца, што нехтась украў двое кралеўскіх дзяцей і што кроль разгаласіў, што як

хто ўкрадзе трэйцё, таго надгародзіць дзеля паверкі, бо казаў як дзень, так ноч пілнаваць таго дзіцяці. Як той пастух аб гэтым даведаўся, так то зараз пайшоў да кроля і кажа:

— Найяснейшы кролю, у мяне есць такі сабака, што скацінку за мяне пасе, то ён пэўне прыпілнуе лепш за ўсіх кралеўскіх вартаўнікоў.

Кроль кажа:

— Праўда?

— Але.

— Ну, то прывядзі,— кажа,— а калі прыпілнуе, то вынадгараджу це добра.

Так то зараз пайшоў, прывёў таго сабаку да й кажа:

— А няхай найяснейшы кроль дае яму тое есці, што людзі ядуць.

— Добра.

Палажылі ўжэ дзіця спаткі, а сабаку прывязалі на ланцугу, бо кроль меў памышленне на яго, што пэўне ён гэта крадзе. Ляжыць ён, ажно каля поўначы чуе, нештась стукнула, калі гляне — ажно ўсе тыя вартаўнікі пападалі да й як бач паснулі.

А гэты сон наслаў на іх чараўнік да й то нібавам і сам лезе праз аконца. Улез, ухапіў дзіця да то ўцекі, а той сабака давай брахаць, рвацца, да й то зарваўшыся з ланцуга, за ім. Гнаў, гнаў і такі дагнаўшы ў саду, скочыў на яго, а ён кінуў на зе́млю тое дзіця да да яго. Рваліся, рваліся, сабака чыста яго парваў; так то чараўнік пазнаўшы, што піва ні пераліўкі, адрокся дзіцяці да й уцекі, а сабака лёг пры дзіцяці і ляжыць.

Назаўтра варта папрачыхалася, глядзяць, ажно ні дзіцяці, ні сабакі! Што тут рабіць? Так адзін ухапіў стрэльбу да й пабег да саду, гіншыя то там, то сям паразбягаліся, а адзін пайшоў кролю азнаёміць. Так той з стрэльбаю як анно выбег, чуе, сабака вые, так туды падыходзіць, ажно бачыць, стаіць той самы сабака, а пад ім дзіця ляжыць. Ён гэта зараз змеціўся, а сабака лапаю па дзіцятку, так яно і расплакалася.

Тады той вартаўнік годзі страляць, да хутчэй то падбег, ухапіў тое дзіця, да то да кроля занёсшы, кажа так і так. Так кроль урадаваўся да й кажа:

— Ну, што гэтаму сабаццы за тое даць? Хіба трэ залатую адзежу яму справіць.

Як сказаў, так і зрабіў. Зараз — увабралі таго сабаку так, аж тое золата проста на ём капаціць. Перайшло крыху часу, ажно той сабака думае сабе: «Хоць мне тут добра, але ні то з кім пагаварыць, ні то пасмяяцца — усё-такі сабака сабакаю;

трэ-такі ўцякаць дахаты, мо як жонка на мне ўгледзіць такое багацтва, то адпусціцца». І такі як ноч надышла, пабег.

Прыбягае, а жонка, угледзеўшы на ём золата, давай яго гладзіць:

— А мой ты такі, а мой сякі, а мой гэтакі! — да й то зняўшы тое золата, перакінула яго ў вараб'я, да й занёсшы за сяло, пусціла.

Паляцеў ён, бедны, не ведаўшы сам куда. Ляціць, так ляціць, ажно бачыць гумно — ён туда і давай то дзяўбсці з гіншымі вараб'ямі збожжа. А гэта гумно было таго саменькага ведзьмара, што кралеўскія дзеці краў. Быў ён там якісь час, ажно той і агледзеўся, што вараб'і яму збожжа дзяўбуць, так — пастой! узяў, дзе якая дзірачка, пазатыкаў да й толькі адну пакінуў, а як яны наўляталі, так і тую заткнуў, а сам у гумно і давай іх лавіць.

Лавіў, лавіў, урэшце трапіў на гэтага самага і пазнаў:

— Ну,— кажа,— маеш ты шчасце, што на такога трапіў — гіншы бы це забіў за гэта, што ты мне ў кроля зрабіў, але я табе дарую.

Да й то зараз перакінуў яго ў чалавека і кажа:

— Ідзі ж ты да свае жонкі, зрабі так і так, то яна перакінецца ў кабылу, то ты сем лет ею дрова вазі, а як сем лет выйдзе, так удзер яе пужальнем да й скажы: «Была ты сем лет кабыліцаю, будзь жа цяпер маладзіцаю».

— Добра,— да й падзякаваўшы пайшоў.

Прыходзіць дахаты, ажно жонка да яго:

— А мой міленькі, мой такі, гэтакі, выбачай на мяне, што я табе праз дурны розум гэтак вырабіла.

Але ён не ўслухаўся, да то зрабіў так, як той чараўнік яго навучыў. У момент, калі гляне, ажно стаіць перад ім кабыла, так зараз запрог да й вазіў ею дзень у дзень праз сем лет дрова.

Раз, а ўжэ сёмы рок кончыўся, вязе ён дрова, ажно яна на дарозе ўпала, так ён па ёй пужальнем да й кажа:

— Была ты праз сем лет кабыліцаю, будзь жа цяпер маладзіцаю!

Так як бач перакінулася ў харошую маладзіцу, і тады ўжэ жыў ён з ею шчасліва.

## 35. ПРА АХОТНІКА

Пайшоў чалавек у лес на ахоту. Хадзіў, хадзіў цэлы дзень і нічаго не ўбіў. Увечары ўбіў казу, наклаў цяпла, адрэзаў сцягно, іспёк і стаў есць. Еўшы і кажа:

— Ой, госпадзі, якое мне гора!

Каза паднялась да і кажа:

— Калі б табе такое гора, як Чарнышоваму!

Ахотнік і пайшоў шукаць Чарнышовага. Прыйшоў у адно сяло, папытаў:

— Ці няма тут Чарнышовага?

— Не, няма.

Пайшоў ён у другое сяло да й пытае зноў:

— Ці няма тут Чарнышовага?

— Не, няма.

Пайшоў ён у трэцяе сяло. Пое чалавек коней. Ён і пытае:

— Няма тут Чарнышовага?

— Е! Хадзем-ка, я табе ўкажу!

Пайшлі ў двор, чалавек і кажа:

— Я сам Чарнышоў. Нашто ён табе?

— Ды пайшоў я ў лес чаго ўбіць. Хадзіў, хадзіў цэлы дзень і нічаго не ўбіў. Увечары ўбіў я казу, наклаў цяпла, адрэзаў сцягно, іспёк да й стаў есці і кажу: «Госпадзі, якое мне гора!» Каза паднялась да й гавора: «Што табе! Калі б табе такое гора, як Чарнышоваму!» Дак я і пайшоў шукаць Чарнышовага. Ну, кажы, якое табе гора?

— А вот: ажаніў мяне бацька. Пайшлі мы з жонкаю спаць. Жонка ўдарыла мяне трымя палачкамі — я і пабег сабакай. Бегаў, бегаў, захацеў я есці. Пасуць пастухі панскіх авец. Я хацеў адну авечку ўкрасці. Яны мяне сталі праганяць, а я вярчусь. Яны мне далі хлеба. Я паядаў. Пастухі ляглі спаць, і я лёг. Прыйшлі два ваўкі, ухвацілі авечку і паняслі. Я ўстаў і пайшоў шукаць: найшоў. Я ваўкоў паразрываў і пасу тую авечку. Прыйшлі пастухі. Прыехаў сюды пан; яны расказалі пра мяне. Пан узяў мяне, ваўкоў і авечку і павёз дамоў. Радзіла барыня. Ваўкалака прыйшоў і ўкраў. Я пабег і адняў. Пан мяне стаў яшчэ луччы жалець. То я жыў у кухні, а то стаў жыць у комнаце. Вот я захацеў даведацца бацька. Узяў уцёк. Сустрэла мяне жонка, ударыла палачкай, і я паляцеў верабем. Лячу. На дварэ даець хлопец коням корм. Я стаў клявать, а ён мяне паймаў, прынёс у хату.

— Мам, ізвары мне верабя! — а сам пайшоў гуляць. Матка забыла ізварыць. Ён прыйшоў да й пытае:

— Мам, ізварыла верабя?

— Не! Ён можа ўжэ іздох,— паглядзі!

Хлопец паглядзеў, а я і ногі адкінуў. Ён узяў мяне за ногі і выкінуў. Я паляцеў, сеў на гной і клюю. Патуль кляваў, пакуль і прымёрз. Ехалі паны. Вот адзін пан кучару і кажа:

— Сапуні коней, вазьмі таго верабя і нясі сюда.

А пан гэты буў ваўкалака. Кучар узяў мяне ў прыпол, атагрэў, а пан ваўкалака і кажа:

— Нашто ты ў мяне дзіцёнка адняў?

— Мне загадаў пан.

Ваўкалака здзелаў мяне чалавекам і сказаў:

— Ідзі ты ў двор. На табе гэтую палачку. Жонка будзе сустракаць цябе чэраз дзесяць двароў. Ты ёй не кажы нічога, а як увойдзеш у вароты, ты удар яе палачкай тры разы.

Я пайшоў у двор. Жонка мяне стрэціла. Я ёй нічога не казаў, а як вайшоў у вароты, ударыў яе тры разы палачкай, яна і пабегла казой. Відна, тая-то каза.

## 36. КАК НЯВЕРНАЯ ЖАНА ПРЫТВАРЫЛА МУЖА ВОРАНАМ І САБАКАЙ

Ацец уздумаў сына жаніць — ну, ездзіць у сваты. Ідзе за яго ідуць, ён не хочыць; а ідзе думаў бы браць, за яго няйдуць. Ну, так ён на атца адказаў: «Паязжай-ка ты свайму прыяцелю»,— так ён паехаў к прыяцелю. Прыехаўшы к прыяцелю:

— Здрастуй, прыяцель!..

— Што вы ка мне ездзіце?

— Не так і не дарам — у сваты, брат.

— Што ж, брат, я б аддаў дачку — мая дачка не вольная, а гасподская!

— Ну, брат, я 'бхлапачу дзела, када на лад пайдзець. Пайдзём к гаспадам: я гаспадам дзеньгі адлажу.

Гаспада прыказалі за дзеўку адлажыць пяцьдзесят рублей. Адлажыўшы дзеньгі, ні віно курыць, ні піва варыць — за свадзебку. Патом січас свадзебку сыйграўшы, жывуць яны харашо, друг у друга душы не чуўствуюць. Ну, так как прахадзіў у дзярэўню крывой работнік і застаўляецца к суседу ў той жа дзярэўні.

Прашоў патом слых, што Іванава жана жывець з крывым. Іван не верыў:

— Ну, поўна, братцы, вам ета плюхаць! Када я сам сабою ўвідаю жану сваю, тада ей ізругаю!

У велікодную суботу адпраўляўся ацец з сынам на ўсеношчную, дашлі яны да ракі, і хваціўся ацец — дзенег нет.

— Што ж, сын, гадавой празнік — варачайся назад дамой, так как забылі дзеньгі: ляжаць яны на бажніцы.

Прыходзіць ён дамой у свой атцоўскі дом — сядзіць жана за сталом і з естым крывым палюбоўнікам.

— Ні цібе б то ета дзелаць, ні мне б то глядзець на цібе!

— Но, маўчы, ніўвега!

Жана адказала:

— Пашоў вон!

Здзелала яна яго сабакай. Ён сабе ў мыслі бярэць:

— І яго то я сабака!..

Вышаў на вуліцу і так прыбядніўся; у тэй жа дзярэўні і заходзіць к цёценькі, кагда ж мяне цёценька назавець у етым відзе сабакам.

Ён прыходзіць у ізбу, то цёценька і гаварыць:

— Пасматры, маладзіца, какой явіўся к нам сабака.

Ну, так яна адламіла яму пірага і падаець яму падаянія, етаму сабакі, так как еты сабака з агарчэнія вышаў вон.

— Ну, куда ж мне цяпер ваддаліцца?

Аддаліўся ён к пастухам у стада і прыбіўся ён к пастуху, стадніку, і пасець з пастухом скот. І так жостка сабака пераніmаець скот. Патом, пастух астаецца даволен сабакаю.

— Вот што, гаспада дамахазяіны, прашу пакорна даваць прапітаніе на етага жа сабаку!..

Ну, патом, как пастух відзіць сабачыя дастаянія, адлучыўся ў празнік у тую дзярэўню, гдзе пасець.

Удруг к етаму сабаку яўляюцца дзве звера: два ваўка, і хацелі пагубіць ската. Патом сабака ўдарыў свае мыслі:

— Што будзіць, так будзіць, і уж падзярусь з ваўком!

Ваўкоў ён пабядзіў. Прыходзіць у тую ж дзярэўню за сваім стаднікам, узяў яго за палу і павёў яго к скату, прыводзіць яго к етым ваўкам і паказываў ядзіных ваўкоў, патом сабіраіць яму стада і да кучы.

То ба ў аднаго памешчыка была завядзенія, здзержкі былі, лашадзіны завод і многа ў яго была звяр'я — пашыбалі лашадзей; то еты памешчык адпраўляецца к етаму стадніку купіць етага сабаку ля сберажэнія сваіх лашадзей.

Прыязжаіць у дзярэўню:

— Есць у вас прыблудная сабака?

— Есць, да не ў нас, у нашага стадніка.

— А кабы мне яго разыскаць?

— А можна: ён у мяне на хвацеры.

Прыходзіць ён к яму:

— Што, брат, есць у цібе сабака?

— Есць.

— Прадай ты мне свайго сабаку!

— А давай сто рублей!

Ну, так памешчык не жалеў етых дзенег; аддаў дзеньгі, узяў сабаку, прывозіць дамой у свой барскі дом.

— Вот што, гаспада-канюхі, даю вам і сабаку, і месішную: сматрыце берагіце, как і самі сібе, так і сабаку.

Так пастухі берaглі сабаку. Ну, відзяць пастухі: сабака харашо пасець лашадзей — самая малая ім работа.

— Давай гульню ўстроім!

Ва ўрэмя етай самай гульні яўляюцца дзвенаццаць ваўкоў. Сабака еты мог ба будзіць сваіх стаднікаў, ну, нікак не разбудзіў. Сабака з сваей адвагай напусціўся на ваўкоў, ну, і пазаеў етых ваўкоў. Ну, так ранілі і сабаку еці самыя ваўкі.

Как адпраўлялісь пастухі ад іспуга, што сабаку не нашлі, прышлі ў гасподскі дом, аб'яўляюць памешчыку:

— Прапаў сабака, не найдзем лашадзей!

Так памешчык строга паступіў:

— Я за ета вас без зачоту аддам у салдаты!

Ну, так большы канюх ударыўся ўпярод іскаць лашадзей.

— Пастой, брація, сабаку нашоў, толькі ўвесь зраніты.

Ну, памешчык адказаў:

— Дай мне хоць раненага!

Прыходзіць к сабаке, ляжыць жа сабака асабняком, тут жа дзвенаццаць ваўкоў.

Забіраюць етых ваўкоў і з сабакам к памешчыку. Памешчык давай сабаку етага лячыць; ён многа на сабаку пралячыў — дзвесце рублей. Патом еты сабака пашоў у аб'яўку. (Г)енерал узнаў пра сабаку, што сабака вочынь харошая, прыязжаіць к етаму памешчыку.

— Прадай, брат, мне сабаку!

— А купі — пяцьсот рублей.

Ён яму вынімаіць дзеньгі, не таргаваўшы, аддаець яму. Павёз сабаку к сабе ля сбеpажэнія малых дзяцей. І так сабака ўцішаіць малых дзяцей. Сабралась сабранія. Ён аб'яўляіць:

— Гаспада, што вы прыгласіце мяне, чым мне сабаку нарадзіць?
Другія ліцы:
— Ну, чым сабаку нарадзіць? Да справіць яму залатэй галстук!
Ну, как справіў галстук, сабака і выходзіць на крыльцо і задумаў бяжаць у сваю старану, у свой ватцоўскі дом і к сваёй жане. Ён прыходзіць у ватцоўскі дом, яна сядзіць пада 'кном, распяваіць песенкі. Ён забягаіць напраці вакна:
— А, здрастуй, Ванюшка, падзі, будзем жыць, как жылі!
Аттварыла вакно, бросіўся ў вакно. Яна ўзяла галстук сарвала, прытварыла яго воранам; узяла прут, выгнала з ізбы. Ён узляцеў на крышку і задумаўся:
— Што ж цяпер мне будзіць?
Адпраўляецца ўдаль ляцець. Ляцеў к аднаму памешчыку, прыляцеў у сад. І становяць панічы плёначкі ля вараб'ёў. Ён увідаў ету плёнку — бух у плёнку: ну жа такі, яму любапытна было, што там канапелькі былі. Прыходзяць панічы. У маей ба плёначкі варабей, а ў другога паніча самы еты воран.
Яны ўзялі і паняслі. Варабейчык еты, как пусцілі на гульню, так і паляцеў, но как воран нікада.
Яны міжа сібе зассорылісь:
— Мой уляцеў, а твой нет!..
Ну, на іх ацец ускрыкнуў:
— Што жа вы ссорыцесь? Нясіце, я вам раздзялю.
Прынялі етага ворана і к папашы. Ён перавярнуў яго і рваць.
— Ох, воран, ды не тот!
Ён яго абразаваў чалавечыя відзення.
— Даўно ж ты, брат, страдаеш?
— Не знаю.
— Ну, я цібе скажу: слава богу, шэсць лет прастрадаў. Ну што, брат, цяпер будзеш дзелаць? Паласа твая зарасла, і бурага каня нету, астаўшы ў атца адны клешні бурага каня.
Даець яму дзве ўзды:
— І адпраўляйся дамой. Ну, насмяялась жана — пасмейся і ты над ей!
Стаіць кала Ванькінага 'віні сасна. Ён прыходзіць к сасне, яўляецца самы жа крывой пад ету сасну і сказаў:
— Ніўвега! Абяшчалась прыдзіць упярод.
Ён как надзеў на яго узду — здзелаў яго жарабцом. Патом яўляецца яна, яго быўшы жана.

Тым жа парадкам надзяёць узду і дзелаіць яе кабыліцай, садзіцца вярхом, адправіўся ў балата. Прыходзіць к атцу.

— Здрастуй, пражылай чалавек, стары старычок! А я ваш сынок!

— Няпраўда, сынок.

— Нет, я ваш сынок, ацец Іван Іваныч. Што, ацец, што ў нас дома астаўшы?

— А што ж, мой сынок? Адны буркіны клешчы.

— А на полі што дзеецца?

— Палоскі зараслі кустамі.

— Ну, нічаво, ацец: хоць ба былі тыя прызнакі, ідзе наша паласа. Схадзі-ка, ацец, папрасі-ка памешчыка плуга ізадраць поле!

Ну, ацец адпраўляўся к памешчыку і выпрасіў плуг, ну, і запрог лашадзей і давай еты драць аблогі ў етага памешчыка. Памешчык думаў жаніць сына. На ўпраўляюшчага гаворыць:

— Падзі-ка пасматры яго лашадзей!

— Ах, барын, очынь харашы лашадзя!

— Не можна лі нам іх на свадзьбу ўзяць?

То прыходзіць прыказчык:

— Што, брат, вас пан просіць лашадзей на свадзьбу.

— Са ўсім удавольствіем, можна — цана будзіць сто рублей.

Прыводзіць лашадзей на свадзьбу. То памешчык атвячаіць:

— Што, брат, нада даць лашадзям пашаніцы?

— Нет, не нада, паверце! А нет лі ў вас гнілэй саломы?

Зняў з крышкі гнілэй саломы — і так смашна коні ядуць; нада іх напаіць путраю.

Памешчык і гаварыць:

— Вывезіце тарантас саўсім легкавой!

Ён атвячаіць:

— Нет, гаспада, как можна пагрузней!

Вывезлі яму чацвярыковы; ён і залажыў у тарантас пару сваіх лашадзей. Просіць гаспод:

— Паехалі бы, гаспада, упярод!

Но гаспадам паказаліcь ба еці слава как ба ні ў ліцо:

— Прасілі б мы цібе выехаць сколькі-нібудзь упярод!

Ён яшчэ ім паўтарыў:

— Брацья, да ні радзі міне — радзі самі сібе.

Ну, і адправіўся ехаць упярод іх. Праязджаіць многа ўрэмя упярод, часа паўтара; адгуляўшы свадзьбу, прыглашаіць другіх:

— Паедзем пакатаемся куды-нібудзь у прочыя гарада!..

Ну, і адправілісь у горад дальні, выязжаюць на скачку. Адзін купецкі сын астанаўліваіць Івана:

— Серы мужык, эй, ты, што ты так жостка едзеш? Ты палож перва дзеньгі, патом выязжай жостка!

Ён дзенюшкі палажыў там нескалькі. Просіцца з ім мужык распісацца, міжда сібе распісалісь. Адпраўлялісь на абгон друг з другам, то мужык абагнаў купечаскага сына. Так купечаскаму сыну паказалась ета ні ў нос — пусціць етых лашадзей на торг.

— Мужычок, прадай мне сваіх лашадзей!

— Здесь нільзя: у міне ёсць старычок семдзесят лет. А хто можыць лашадзей пакупаць, тот прыбудзь ка мне дамой.

Сагласілісь нескалькі ліц етых купіць коней. Ён адправіўся дамой, прыязжаіць к свайму атцу і к стараму старыку.

— Ну што, ацец, у міне пакупалі лашадзей?

— Ну, досыць, сын, зругацца: адпусці яе на волю!

Ну, і адпусціў яе на волю, здзелаў сваей жаной, давёў яе да кляцьбы, даў ей ком зямлі з'есць.

— Тада ■ цібе паверу, када з'ясі еты ком.

Но яе раскаваў і вузду з яе зняў, но яго не расковываў, пусціў кованага: заднія капыты раскаваў, а пярэжнія так і асталіся; жыў еты конь у суседзях.

## 37. КАЗАЧНІК І ПЕСЕЛЬНІК

Неўкаторым царстве, от так як і ў нашым, было ўва 'дном сяле два мужыкі. І адзін быў зарыўны па песні, а другі на сказкі. І прыйшлі яны раз шчось у шынк і трошачкі падгулялі. І песельнік гэты песні запеў, а гэты другі гавора на яго:

— Шчо гэтыя песні? Калі б ты шчо-небудзь харошае расказаў! — казачнік сказаў так на песельніка.

— А шчо ж ты паняў і ў сказках? А думаю так, шчо песня луччай і крашай!

А той кажа:

— Не, сказка глаўней твае песні!

Ну, з тым і заспорылісь міжда сабой і зачалі драцца. Той гавора:

— Я, казачнік, глаўней!

А песельнік гавора:

— Я глаўней!

І да таго дзела прайзашло, шчо сталі судзіцца міжда сабой. Спор, значыцца, у іх зайшоў бальшы: казачнік сказаў, шчо я быглаўней, песня бывае брахня! А песельнік сказаў: «Сказка бывае пастаянна брахня!» І з тым і пачалі; той слова і той слова; слова за слова, зачалі драцца. І адумаліась: што нам зра драцца? Хай нас воласць разбяруці! От яны заняслі суд. Вызвалі іх на суд, па павестцы. Ну, тут суду іх гэтага не панялі. Адправілі іх падальш судзіцца, на міравую суддзю. І прасілі іх, шчоб яны абрацілісь назад, як іх рассудзяць, шчоб у воласці было звесна, хто ў іх старшы. Потым і міравы не паняў іх дзела, затым шчо і ў міравога ў уставе гэтакіх штук не было. Ну, там падалі далей, на міравы з'езд. І там жа іх дзела не разабралі. І паслалі іх далей, знаеш, сваім судом, у санот, і прасілі іх, як іх у саноце рассудзяць, шчоб яны абратна прыйшлі назад і расказалі, як у іх дзела. Ну, яны пайшлі да саноту. І стрэў іх некаторы старык на пуці. Яны сказуюць:

— Здрастуйце вам, старычок божы!

А ён гавора:

— Здрастуйце, рабятушкі! Куды вас бог праwáдзе?

Яны гавораць:

— Не мы ходзім, гора наша ходзе. Началі дзела судом і ніяк не кончым. І вот за гэтакія штукі: адзін із нас, дзедка, песельнік, а другі казачнік. І прыйшлось нам паспорыць друг с дружкай, міжда сабой. Казачнік гавора, што твае песні нікуды не гадзяцца, з іх бывае чапуха; а той гавора: не, песня бывае праўда, а казка ва ўсякае ўрэмя бывае чапуха. І з тым мы началі спорыць за гэтакія штукі і началі судзіцца. Ну, колькі судзілісь, ніхто не мог нас разабраць: адправілі нас да саноту!

Ён ім сказаў, шчо вас і ў саноце не разбяруць.

— А йдзіце,— гавора,— пуцём; у правую старану будзе вам вузкая дарожка, там будзе па левую старану хата. У той хатцы будзе старык сівы. Той вас разбярэ.

Яны падзякавалі і пайшлі. Прыходзяць і к той хаце; увайшлі ў хату, праўда — быў старык сівы, хадзяін таму дому. Яны гавораць:

— Здрастуй, дзедка!

Ён атвясціў ім:

— Здрастуйце, пастаронныя людзі! Зачым,— гавора,— так прыйшлі здалеку ка мне?

— Шчо ж, дзедка, просім бога і вашыя міласці! Нараялі нам, ці не разбярэце вы нашага прашэнія?

Яны як былі з прашэніем, як ім бумага давана, падалі ста-

рыку. Ён быў шчэ граматны, пісьмянны, значыцца; разабраў гэтую іх прашэнію і спрашуе:

— Хто з вас казачнік і каторы песельнік?

Яны паказалі:

— Гэты песельнік, а я казачнік.

Потым ён сказаў:

— Ну, песельнік, станавісь ракам, а ты, казачнік, садзісь на песельніка верхі: сяйчас зачынаць будам праўдуісказуваць,— чые правіла выйдзе.

Гавора:

«У нас быў адзін мужык багаты,— і песельнік пад сподам слухае, а казачнік верхі сядзіць на песельніку,— і ў таго мужыка, колькі ён ні жыў, усе яго, колькі ні было, колькі ні нараджалась, рабяцішкі яго першыя мерлі; толькі адзін з усіх яго рабяцішак астаўся жыў. Ну, ён яму быў рад, так, шчо не знаў, як яго луччай жалець. Дарасціў яго да сувяршэнных лятоў і задумаў яго жаніць, і стаў сватаць. Высватаў за яго дужа харошую дзеўчыну. І празвялі іх павянчацца. Павянчаўшы, як у мужыкоў павядзёнка, прывязлі яе ў свой дом, шчоб яна была за хадзяйку. Потым быў такі злучай, шчо яны ўвайшлі, гэтыя маладыя, удваіх у хату, у комлату,— шчэ там пір быў, не кончыўся. Яна шчось нехарошае надумалась. Яна была, значыцца, вядзьмачка. Дзесь папала нейкійся дубчык і сцебанула яго няўдогад, і кажа:

— Быў ты чалавекам, а цяпер пабудзь сабакам!

Тут ён абраціўся: з чалавека стаў у сабаччым відзе. Яна сама (адна) асталась! Тут глянуць: няма яе хадзяіна. Некаторыя спрашавалі:

— Ідзе твой хадзяін?

Яна кажа:

— Кудысь на ўрэмя выйшаў.

Тыя колькісь там урэмя ждалі-ждалі — няма яго. А ён тут жа віляе пры народзе ў сабаччым відзе. Ён толькі сабакам быў, а ён усё панімае. Тут, выпіўшы, мужыкі сказуюць:

— Якой пользы гэты сабака тут? Якая ўдавольствія? Выжанам яго на двор!

З тым яго і выгналі. Ён ужэ думае сабе, што дзела плоха, думае так, як ба хутчэй дзе смерць палучыць: шчо я буду страждаць так? Пабег куды — зра; і думка такая-то была, шчоб ідзе ўтапіцца. Прыбягае і к рэчцы, і страх яго ашыб: усячацкі, ён быў чалавек! Надумаўсь так, шчо прабягу далей, дак пабачу болей! Пабег у чужую старану, у сцяпы, ідзе пасялянь

мала было. І ён настолькі хацеў есць, шчо прама кожу на сабе б аб'еў.

Потым бягіць, і на пуце так пас чабан авец стада, панскі найміт, і распалажыўся падпалуднаваць, самы гэты пастух. Бягіць сабака і думае: «Завярнусь к сяму пастуху, ці не дасць крошку хлеба». Прыбег к яму і лёг проці пастуха, і лёг на лапы і пілна глядзіць яму ў вочы. Пастух паглядзеў на яго і думае: «Се перахлябіўшы сабака; даўжно быць, ён які заблудны; даўжно быць, ён адбіўшы ад хадзяіна; даўжно быць, ён есці хоча. Даць яму ломак хлеба, можа ён будзе які і гадзяшчы мне!» Потым даў гэтаму сабаку хлеба трохі. І якся пайшлі ўва 'дзін бок авечкі ўсе, адышлі по́далеку. А ён сабе распалажыўсь палуднаваць. І начаў гаварыць сам сабе: «Напрасна й расчаў палуднаваць! Шчоб то мне завярнуць авец, а тады начынаць палуднаваць!» Пачуўшы, гэты сабака — ён панімаў чалавечы толк — тую мінуту пабег і завярнуў воўцы назад, прыстанавіў іх пасць, дзе хадзяіну хацелась. Потым даждаў хадзяін вечара, загнаў сваіх авец у кашару — дзела сяе было на сцяпе,— замкнуў іх у кашары, прысіліў ключ к повясу, што падперазаў быў, і сеў вячэраць».

А ўсячацкі казачнік сядзіць на песельніку, а песельнік рукамі і нагамі патупвае, млеюць, бач, што доўга старык расказуе.

«Ну, узяў гэты пастух вячэраць і сабаку гэтаму даваў удаволствія харошая,— што сам еў, то й яму даваў, за яго атлічную службу. Потым ляглі спаць. Сабака не ждаў сонца, пакуль хадзяін устане, а адвязаў у яго ключы, адамкнуў авец і пагнаў пасці [redacted] кашары на пашу. Глянуў пастух, устаўшы, і спужаўся, што ні авец, ні сабакі, і дзверы ў кашары адчыняты. Ён рассмотрыўся, глянуў побач і ўбачыў, шчо сабака авец пасе. «Ах, слава богу, шчо я вумнага такога сабаку нажыў! Сяйчас я знаходжусь у таком палажэнію, шчо я пан і князь: хочу пасплю, хочу паляжу!» Тады гавора: «Дай-ка я ўверу свайго сабаку, ці не можа ён пасць авец сам, а [redacted] шчоб толькі ў нядзелю раз паяраў, ці ўсе воўцы!» Узяў скрыўся кудысь да вечара. Прыйшоў вечар, прыганяе сабака авец у кашару. Ён, доўга не думаючы, замкнуў іх як і трэба быць, як і хадзяін замыкае. Тады гэты пастух тое ўрэмя і для сябе прыгатаваў есці і аставіў сабацы порцыю тую, шчо яму самому трэба есць. Тады сабака стаў угору глядзець і ўніз падаць, знацца, богу маліўсь — чалавек жа быў. А пастух думаў то, шчо сабака такі вумны, што бытта й бога просе. Потым сабака начаў вячэраць. І так вячэраў велікалепна, па палажэнію, кусок мяса і хлеба, як і па-чалаве-

чацку нада, пішч прынімаў. Хадзяін яго зверыў усё на сабаку свайго і пайшоў кі двару і прабыў дома цэлную нядзелю. Пайшоў глядзець свайго стада — панскі найміт жа ён быў. Прыходзе к яму. Бача: шчо тут? Глянуў у левы бок — купа ваўкоў ляжыць. Ён пасчытаў і насчытаў дванаццаць штук. Глянуў у правы бок, за свой балган, дзе ён судзержаўся, жыў там, жылішча яго было,— нараўне і авец столькі парэзаных ваўкамі. Ён пайшоў і к стаду павярацъ свае стада. Убачыў сабака хадзяіна, бягіць і ўкланяецца, і ласкае так сваёй сабачацкай ухваткай, шчо толькі не загавора. Ён паверыў сваё стада — дванаццаць штук воўцаў няма. А сабака паказуе яму, галавы выкамарывае, як ба луччай паказаць свайму хадзяіну, шчоб ён угадаў яго. Сабака думаў, шчо ён не бачыў гэтакіх штук; проста яго бярэ зубамі за палу і цягне к ваўкам і к воўцам. Ну, хадзяін гэты пагладзіў сабаку і пакарміў яго харашо, і падумаў, шчо не будзе мне ад пана абіды; шчэ пахвале пан, што на месце естолькі было ваўкоў забіта. Ён пайшоў дамоў, зайшоў на радасці ў шынк. Ідучы думаў: шчо мне сяйчас трэба? Я гуляю, і мае дзела спраўна! І на радасці выпіў кручок гарэлкі ў шынку. І тое ўрэмя кудысь ехаў яго ўпраўляюшчы і забег у шынк памімаходам: чагось ў яго не хапала,— ці табакі, ці сéрнічак, так скажам І ўбачыў свайго пастуха п'яненькага. І пан спугаўся, сказуе яму:

— А шчо ты гуляеш, а стада тваё без паследства?

А пастух кажа:

— Я гуляю, дак ■ добрага слугу маю!

— Якая ў цябе слуга?

— Сабака такая ў мяне е, шчо ліш ба я пераведаўся ў месяц раз, палажэнія харчэй выдаў сабацы, то й дзела маё будзе. Здзелалась уцеры ў табуне дванаццаць штук авец — ваўкі парэзалі; а на месце мая справядлівая сабака іх смерці прадала. Калі б пры мне гэта дзела злучылась і шчоб у мяне сабакі не было, то б ваўкі авец парэзалі і самі б уцяклі. А потым,— гавора,— чымся задзявацца, сядай луччай, паедам, табуна абгледзім!

Селі ўдваіх і паехалі. Прыязджаюць на тое места — завёў, пану купу авец паказаў і завёў, пану купу ваўкоў паказаў. І сказуе пастух:

— Паверце, барынь, ці выйдзе адно за другое, будзе стоіць?

Пан паглядзеў і сказаў:

— Гэта будзе табе слава і чэсць! Пойдам глядзець твайго

пастуха! — На сабаку сказаў так. — На каго ты зверыў маю худобу?

Прыходзе к табуну, воўцы змірна пасуцца, і сабака кала табуна ляжаў. Прыбліжыліcь к сабацы, ён прыбег к ім і стаў падаць перад імі і ласкацца. Так той паверыў стада авец, колькі іх усіх было, і сказуе пастуху:

— Ну, брат, хоць ты нажыў, да я буду ім пользавацца! Будзеш такое жалаванне палучаць, па дзесяць карбованцаў у месяц!

А то ён эразу прыгоны служыў. Пан бача, што ён шкрабе галаву і не хоча яму аддаць сабакі, сказуе, шчо хоць не хочаш аддаць па волі, ну я забяру па няволі. Пастух бача, што дзела будзе плоха, ён сагласіўся на яго палажэнія. Забраў пан сабаку і паехаў дамоў».

А казачнік сядзіць на песельніку верхі, а песельнік пад казачнікам стаіць ракам і пераміняецца з рукі на руку, а з нагі на нагу, затым ён дужа самлеў; а легць нільга, патаму служба такая: аддзерж гэта, дак і рассуджу да й годзі.

«Ну, прыехаў пан у дом, і разазнаўся сабака са ўсімі яго прыслугамі. І пан не мог быць ніколі без сабакі, усягды шчоб перад ліцом была, і шчо б пан ні сказаў сабацы, ці якога слугу пазваць, прыставіць, то ён сяйчас жа справіцца і даставе. І нескулькі ўрэмя сабака гэтаму пану служыў. Ну, калі былі мяніны гэтага пана, то быў із'езд паноў на мяніны са ўсіх княэецкіх аканомій, і яны там міжда сабой піравалі. І ў неўкаторых тож былі сабачонкі ўчоныя. І началі хварсіць міжда сабой-то. Той гавора:

— Вот у мяне сабака якая вумная!

А другі сваго хвале. А ён сказуе:

— Не, вам і ў сне не прысніцца, якая ў мяне е сабака, шчоб сабака такія дзялы тварыў! Вашы сабакі не могуць чалавека на імя ўвазнаць, а мой сабака, каго б я ні сказаў на імя, таго й прывядзе!

Тут яму не ўвералі, сказалі на яго:

— Прыстаў ты нам, скажы на імя такога чалавека, і хай прыставе!

Ён прызваў сабаку і гавора:

— Прыстаў слуг: Івана, Рамана і трэцяга Сцяпана!

Сабака сяйчас, доўга не думаючы,— ён знае ўсіх, ведама, пабыў ужэ, да ён чалавек, дак ён знае ўсіх,— прывёў іх к ім у комлаты. Сяйчас жа пастаронныя ліцы і спрасілі:

— Шчо ў вас, гаспада, е Іван?

Адзін сказуе:
— Да, я Іван!
А другі сказуе пастаронны:
— Е Раман?
А другі кажа:
— Да, я Раман!
А трэці сказаў пастаронны, гавора:
— І трэці Сцяпан е?
Трэці сказуе, шчо гэта ўдвух Іван і Раман, а я Сцяпан трэці! Ну, тут, харашо,— усе дзівяцца, што вот вумны сабака які бывае! Потым паехалі паны па сваіх мястах, пагуляўшы, а глаўны ўпраўляюшчы астаўсь тут і стаў ужэ прасіці гэтага сабаку. Ён гавора:
— Не, мне самому нядзешава прыйшоўсь гэты сабака! Я без яго не магу жыць. Ён,— гавора,— у мяне і слуга, і сторраж усяму майму абстаяцельству, дому!
Ну, з гэтым словам рассярчаў на яго так, што гавора:
— Ну і табе не пользувацца!
Гэты адтуль, не заязджаючы ў дом свой, паехаў і к князю. Гэта ж яны ўпраўляюшчыя ўсе, а гэты глаўнаўпраўляюшчы ў яго быў, так вот, як і ў нашага князя. Ён прасіў, ну да ён не даў. Прыехаў і к князю:
— Эх,— гавора, там як ён назваў яго, таго князя, ведама, я не знаю, па-мужыцку, як завуць князя,— гавора,— вот, разыскаў,— гавора,— самая б раз вам гадзілась: найшоў я сабаку — дужа вумны, вумней чалавека вумнага! Самая б раз вам гадзілась!
Ён сказуе:
— У каго ж?
Ён сказуе:
— У такога-такога ўпраўляюшчага! І што толькі скажы, дак ён знае. Вот, раскажы яму — ён пабудзе месяц — раскажы яму, каго трэба патрэбаваць, то ён сяйчас прыдаставе. І ён у доме верны слуга, і ў дварэ дзянны і ношны сторож, зра нішчо паміма яго не пройдзе!
А ў гэтага князя, колькі ні жыве, як народзіцца рабяцішак, то як дажджэ да дванаццатага часа начы, лягуці спаць — нявідзіма, няма знаць, дзе дзенецца. А гэта княжыня была бярэменная, так што яны ўрэменна ждалі дзяцёнка. Ён, князь, быў гэтаму дзелу рад. Сяйчас жа напісаў ляпорт і адправіў, нарадзіў слугу і к тому ўпраўляюшчаму, у каторага находзіўся гэты сабака. Сяйчас слуга прыходзе і к гэтаму ўпраўляюшчаму, дзе

быў сабака, падаў ляпорт. Ён прачытаў яго і не мог ад князя адказацца, затым што ўсердзіць князя, то будзе ён без паследствія. Ён аддаў сабаку слузе, і слуга прыставіў яго к князю. І парода гэтая была сабакі харошая, атлічная. Сяйчас жа сабацы гэтай іздзелалі хату і здзелалі прыстройства — канаты кругом двара, у сяродкі, у дварэ. Ён удзень прывязан быў, а на ноч спускалі яго. Князь собственна на тое яго даставаў, шчо ў яго было неблагапалучна нашчот рабяцішак, нашчот наследства. У яго колькі ні нараджалась наследства ў яго, то ён ні 'дным не пользаваўся. Потым таго, чараз колькі ўрэмя радзіла княгіня двох сыноў. Князь узрадаваўся і надзеян быў на сабаку, шчо ён уберажэ. Потым даждалі яны вечара, там яны сталі піраваць — звеснае дзела, радзіны — і весяліцца. Піравалі яны да дванаццаці часоў. Тады ляглі спаць з дванаццатага часу. І тое ўрэмя слуга, каторы быў прыстаўлен сабаку даглядаць, шчо трэба было сабаку на ноч спусціць волна па ўсём двару, а ён пазабыў. Тут яны ўснулі ўсе, і ідзе ведзьма — валшэбніца за гэтымі рабяцішкамі. Сабака рваўся-рваўся з цэпу, ніяк не мог адарвацца і ўпусціў яе ў дом. Думае сабака, шчо гэта дзела, бача, плоха. Ён стаў канат пераядаць, на яком цэп хадзіў; і пераеў гэты канат, сарваўся і стрэў яе на варацях — цягнула гэтых рабяцішак, хто яе знае куды. Ён з ёю начаў драцца і патуда драўся, пакуда прапелі трое пеўняў: усё яму не папускала. После пенія трэцяга разу пеўняў кінула і ўдалілась. Сабака ўзяў забраў рабяцішак у сваю комлатку і ўзяў абгарнуў іх лапамі, шчоб ім цёпла было і не падушыць. Праспаўся князь уранні, і гэтакая штука яму рупіла, ён кінуўся ў тое места, дзе гэтыя рабяцішкі былі. Тое места суха, тое места ўбрана, нада казаць. Ён рассярчаў дайжа й на сабаку, узяў ружжо двустволку і кажа:

— Пайду ўб'ю гэтага сабаку, затым шчо я на яго надзеяўся. Калі б на яго не надзеяўся, то б луччай сваіх нашных старажоў паставіў.

Выйшаў із комлат, сходзе на крылцо, хацеў прыкласціся і сабаку ўбіць, шчо гэта ўрэмя зімняй добай было. Тут сабака бача, шчо дзела плоха, шчо ён нарушыўся яго ўбіць,— а сабака ляжаўшы быў кала рабяцішак, абгарнуўшы быў,— раскрыў гэтых дзяцей, падхапіўся і ціскаў аднаго і другога. Дзеці скрычалі. Князь упугнуўся і ўзрадаваўся і ўпусціў з рук ружжо. Бярэ сабаку пад лапу ўместа чалавека, на радасці, шчо ён спас яго дзяцей, і сказуе:

— Ідзіце рабяцішак забярыце!

І дужа рады ўсе былі і жалелі настолькі сабаку, шчо б ён ні хацеў, якую пішч, то яны давалі, і ўвабралі яго ў разныя шаўкі за яго заслугу, шчо ён харошую доўжнасць спраўляў. Прыбору было там на ём на дзвесце цалковых».

А гэты казачнік сядзіць на песельніку ве́рхі, а песельнік пад сподам пархом; патаму ён пархом, шчо на ём сядзіць казачнік вярхом.

«Потым, нескалькі ўрэмя сабака быў у князя. Потым надумаўся: шчо хаця як і мне жысць харошая, ну ўсячацкі я сабака. Пабягу я ў дом, ці не адумаецца яна, ці не здзелае ізноў чалавекам! Надумаўся і пабег. А гэты князь, ад каторага сабака быў убран на дзвесце цалковых у разныя шаўкі, паслаў розыск за вот такім і такім сабакам. Ну, нідзе не ўдалось яму разыскаць. Потым ідзе-то ачуцілась такая варожка, шчо магла ўзнаць. Ён, князь, паехаў і к гэтай варожцы. Варожка князю так сказала, шчо ён быў сабакам, а цяперака стаў пташкай, і вы яго йнача не пападзеце, як трэба вам устроіць такую пцішню, і скуплюйце пціц, якія б ні былі. Дак калі вам не пападзе купіць яе, дак ніколі не ўбачыце, затым шчо адлічыцца ад усіх пціц тым, шчо прыгажэй яе не будзе пціцы, як яна! Князь колькі ўрэмя ні скуплюваў пціц — не разыскаў.

А сабака бег-бег колькі ўрэмя, колькі дней і начэй, прыбег у сваю дзярэўню паутру рана, шчэ людзі не ўставалі,— каторыя можа і ўставалі, да шчэ ніхто не хадзіў па вуліцы. Прыбягае к варацям, хацеў у двор вайціць, а яна яго ўстрэла і ўпусціла.

— Ах,— гавора,— які ты красавец стаў! Усякаму ўгадзіць можаш гаспадзіну, шчо такое на табе ўвабранія!

Узяла гэтыя шаўкі з яго, узяла дубчык і секанула яго дубчыкам і сказала:

— Быў ты сабакам, пабудзь ты шчэ пташкай!

Ён падняўсь угару і ўдарыўся аб зе́млю. Ну, звеснае дзела, як ён малавесны, то ён жыў астаўсь і пачуставаў, шчо тожа плоха дзела, як я й уб'юсь. Палячу, куды вочы глядзяць! І паляцеў вот сюды куды на сцяпы. Прыляцеў, дзе панскія скірты з хлебам, і там панасыпана кукальвану нашчот пціц, шчоб хлеба не 'б'ядалі. І ён туды прыляцеў галодны і нарваўся на самы на гэты кукальван і стаў доўбць, потым і ап'янеў. І панскі сын, мальчышка, хадзіў там дзесь іналучыў на яго і начаў гаварыць:

— Ах,— гавора,— якая ты пташка атлічная! Да як табе папалась наесца кукальвану?

З тым панёс яе дамоў. Прынёс дамоў, і была ў яго сястра

старшая, дзевушка ў сувяршэнных летах, і яна тожа панімала, валшэбствам занімалась. Ён сказаў на яе:

— Паглядзі-тка, якая ў мяне е пташка! Ты такія пташкі ніколі не відала!

Яна глянула і пазнала, шчо гэта пташка — чалавек. Яна кажа:

— Пакаж!

Ён даў ёй падзівіцца. Яна ў яго ўзяла і стала дурыць:

— Я ўпушчу гэту пташку, шчо яе напрасна мучыць!

І быццам то панясла выпусціць, а потым занясла яго ў комлаты і ўзяла дубчык і кажа:

— Быў ты чалавекам, а потым сабакам, а сяйчас находзішся ў пташачым палажэнію, а сяйчас абрачу цябе чалавекам!

Секанула дубцом — ён які быў чалавек, такі і е! Тут яна сказала:

— От, ■ цябе здзелала чалавекам,— а ён прыгожы быў,— шчо ж, ты паступіш са мной у супружаства? А на сваю прэжнюю пазабудзь!

Ён сказуе:

— З бальшым удавольствіем, сагласен!

Яна далажыла атцу свайму, шчо вот я за такога пастрадаўшага магу замуж выйці, магу жаніцца! Па жаланію яе ацец ёй дазволіў.

Потым яна бача, шчо ён пастаянна бывае смутны, верна сказаць — невясёлы, яна стала іспрашуваць у яго:

— Што ты такі, замячаю, шчо журышся?

Ён сказаў, шчо адно дзела мяне жура, шчо я ўва 'тца,— гавора,— быў адзін із нескалькі нашага сямейства ці майго брацтва, да й то яму не давялось самому пажыць! Ну яна сказала:

— Як табе жалацелна, запрагайце коней і паедам к твайму атцу!

Ён з радасці тут запрог коней, і селі яны ■ ёй на павозку. Прыбліжаюцца блізка ■ той дзярэўні, дзе яго ацец жыве. Яна зачала яму гаварыць:

— Глядзі ж,— гавора,— шчо нада мной ні злучыцца, сяйчас жа,— гавора,— пад сялом, то не злазь із павозкі; што ні будзеш бачыць, то не займай! Да шчоб ты веран быў, то не займай! — паўтарыла яму.

Пад'язджаюць яны пад сяленіе, і ўперадзі страчае іх рудая сучка. І толькі параўнялась із павозкай, і гэта такой жа самай сучкай скінулась, скочыла з павозкі, і началі із ёй рэзацца. Рэзалісь, рэзалісь, ён колькі ўрэмя сядзеў, можа часы два, на па-

возцы. Потым яны абрацiлiся гадамi. Ён усячацкi прымячаў гэту, з каторай ехаў. То ён падумаў: «Што я буду дажыдацца,— не пабаранюʔ» Сяйчас злез з павозкi, на гэту, шчо была прэжняя яго жана, стаў нагой, прыцiс, а гэту, з каторай ехаў, узяў у рукi адрываць ад тые. Тую прыцiс нагамi да сам стаў, а гэту ў руку падняў, угору. Дак тая пад iм стала каменем i ён стаў каменем, а гэта, каторая ў яго ў руках была, тая бярозкай стала — на камянi бярозка вырасла. Ну, з тым яны i заклямчалiсь!..»

А казачнiк усё на песельнiку сядзiць. А песельнiк пархом, што казачнiк сядзiць на ём вярхом. Ну, наш песельнiк аслабадзiўся, не мог устаць i дагары перакацiўся.

Потым старык кажа, шчо помнiце ж, рабяты: гэта я праўду вам сказаў,— гавора. — Сказка бывае пастаянна праўда, а песня бывае i бал, найболей бал.

Потым яны сталi прасiць таго старыка:

— Выпiш нам, дзедка, самае гэта — як гэта су́дам назваць яго, а матары яго... ведама, па-мужыцку, так сказаў наскорую.

Напiсаў iм даставярэнiя, шчо дзяствiцелна па закону рассуджаны; напiсаў iм прахадную, шчо iдзе яны судзiлiсь упярод, iдзе дзела iх не понялi, дак шчоб зайшлi i каждаму расталкавалi; i як куды прыйдуць, дак доўжан быць увесь гэты прымер: будзеце расказваць пра свой суд, доўжан быць увесь гэты прымер: будзеце расказваць пра свой суд, даўжон песельнiк станавiцца пад спод пархом, i казачнiк будзе расказваць, на ём седзя вярхом...

## 38. КАЗАЧНIК I ПЕСЕЛЬНIК

Хадзiлi па свету песельнiк i казачнiк. Сыйшлiсь яны ўместа i сталi ўкучы хадзiць. I здзелалi такi ўгавор: ты пей песнi, а я буду сказкi казаць, i што хто заробе, умесцi спажываць. Прыйшлi ў дзярэўню, зайшлi ў карчму. Мужыкi гарэлку п'юць. Песельнiк сычас i запеў песню. Тут п'яныя сталi слухаць i пахваляюць:

— Мы шчэ з роду не бачылi гэткiх песельнiкаў нiйдзе i нiколi!

I што хто з iх еў, усё даюць песельнiку. А песельнiк, па ўслоўю, дзелiцца з казачнiкам. I прахадзiлi яны так многа

шынкоў, па гэтым услоўю; дак песельніка болі слухаюць, чым-ся казачніка. Тады песельнік гавора:

— Ты за мною хлеб ясі, ведама,— песні праўда, а сказкі склады!

А казачнік гавора:

— Не, сказкі праўда, а песні склады.

Спаравалісь, спаравалісь і пайшлі к суддзю на суд. Прыходзяць к суддзю.

— Ці дома суддзя?

— Не, у гумне малоце!

Пайшлі яны ў гумно.

— Здрастуй!

— Здрастуй,— адказуе малады так чалавечак.

— Бог у помач!

— Спасіба!

Маладзвітоў было трое: два старых, а адзін малады. Молад чалавек і спрашуе:

— Зачым прыйшлі, добрыя людзі?

— Прыйшлі на суд к вам!

— Ну, пойдзем дамоў, рассуджу!

Прыйшлі ў хату; молад чалавек умыўсь, уцёрся ражком хустачкі, і стаў стары-стары.

— Ну, завошта ж вы прыйшлі на суд?

— Так і так,— гавора песельнік,— дагаварылісь мы ўмесці хлеб зарабляць: я пець песні, а ён гаварыць сказкі. Дак за мае песні болей даюць. Дак я кажу, што песні праўда, а сказкі склады, а ён гавора, што сказкі праўда, а песні склады. Дак рассудзі ты нас, суддзя праведная!..

Суддзя тэй гавора:

— Песельнік, станавісь ракам!

Песельнік стаў.

— А ты, казачнік, садзісь на яго!

Тэй сеў.

— Ну, слухайце ж!

«Калі я быў молад, дак случылась і мне прычына. Прыйшоў я раз на ігрышча да й гавару:

— Добры вечар тым, каторыя няездзітыя!

Адна дзеўка і сказала:

— Пастой жа, мы на табе паездзім!

Я там троху пагуляў, тое-сёе, і пайшоў дамоў. І забыўсь пра ўсё пра тое. Прыйшла вясна, сталі коней вадзіць на начлег. Вот я раз вяду ля лазні коней, а мяне нехта і заве:

— Іван, хадзі,— ка[ж]а,— сюды!

Я злез з каня: прыходжу ў прымыльнік, аж там тая самая дзеўка. От яна хваць мяне за шыю аброццю!

— Як быў,— ка[ж]а,— добрым малайцом, так будзь цяпер жарабцом!

Я і стаў жарабцом. Села яна на мяне і паехала на лысую гару. Прывязала мяне к сухому дубу і так галаву падцягнула, што пярэднімі нагамі мне й зямлі не дастаць. Наехала туды такіх дзевак — штук дзвесце! І стала счытаць іх старая змяя: удара палкай да й прыказуе, як што дзелаць. Перабрала так усіх. Тады яны па'твязалі коней і паехалі па дамах. Замарыла мяне гэта дзеўка так, што чуць я ў лазню яе прывалок. Зняла з мяне аброць, і стаў я зноў такім чалавекам, які і быў.

На другую ноч узноў зганяла яна мяне на лысую гару. І так, што стаў я аж нездароў. Стала ў мяне мачыха распытуваць, чаго я нездароў, гавора:

— Ці не ездзе на табе якая дзеўка?

Я й прызнаўсь.

— Пастой жа,— ка[ж]а,— мы яе паучым.

На трэцюю ноч дала мне мачыха аброць і гавора:

— Як стане яна звадь цябе ў лазню, ты не йдзі прама, а бяжы кругом. Як яна выскача і пабяжыць услед за табою, ты так цаляй, каб паперад у лазню ўскочыць. І накінь на яе аброць!

Я так, значыцца, і здзелаў. Яна як пабегла за мной:

— А,— ка[ж]а,— баішся!

Я аббег тры разы да ў лазню. Схапіў аброць да ёй на шыю, да й гавару:

— Як была красная дзявіца, так будзь добрая кабыліца!

Яна і стала кабылай. Уссеў я на яе і паехаў на лысую гару. І прывязаў і я яе к тому дубу, к якому яна мяне прывязувала, і падвязаў галаву так, што пярэднія ногі на цэлы аршын ад зямлі. А сам узлез на самую макушку дуба і сяджу. Папрызджалі ўсе тыя дзеўкі, і стала старая змяя іх счытаць. Счытала, счытала — адные няма. Пасчытала коней — коні ўсе. Сталі яны глядзець коням пад хвасты, бачаць — адна кабыла. І пачалі яны тады мяне шукаць: перапаролі ўвесь пясок. Шукалі-шукалі і паехалі дамоў. Злез і я і паехаў. Як сеў, яна й застагнала і павеглась на зе́млю. Насілачку я даехаў. На другую ноч дала мне мачыха скавараду і сказала сесці ў лазні на печы і ёй укрыцца. Толькі я ўкрыўсь, яны й прыходзяць. І спрашуюць у тые, ці тут я. Яна кажа:

— Ён тут, але я не ведаю, дзе ён схаваўсь.

Старая змяя паслала за рабёшачкам, што тры дні як радзіўся. Прыняслі таго рабёшачка. Змяя тая і спрашуе:

— Дзе наш вінаваты?

Рабёнак засмяяўсь. Змяя гавора:

— Не знае! Ідзіце вазьміце, каторы ўчора радзіўся!

Прыносяць такога, і гэты засмяяўся. Тады прыняслі, каторы сянні радзіўся. Змяя пытаецца:

— Дзе наш вінаваты?

Ён гавора:

— Пад зялезным небам, на камянной гарэ!

Старая палядзела на печ, гавора:

— Вун ён!

І паслала ўсіх дзевак збіраць угаркі, што з абоіх канцоў палены, і недапрадкі, што з двух канцоў прадзены і кінуты. Дзеўкі назбіралі і прыносяць. І сталі яны рыштаванне строіць. А мая мачыха пасадзіла пеўня на стале і стала богу маліцца, каб певень запеў. От яны строілі-строілі, толькі б узяць мяне, а певень лоп-лоп крыллем да кырр!.. Так рыштаванне і пабурылась! А старая змяя гавора:

— Стройце, стройце — гэта не паро́вы!

Сталі яны ўзнова строіць. Строілі-строілі, а певень у другі раз запеў: кукарэ!.. Рыштаванне і пабурылась! Старая апяць гавора:

— Гэта не паровы — стройце!

Сталі складаць апяць і склалі да самага верху. Толькі б мяне ўзяць, а певень у трэці раз: кукарэку! Рыштаванне трошку абсунулась. Троху спагадзя запелі і ўсе пеўні. Тады яны прапалі, а гэта, што я ездзіў, ляжыць і стогне. І гавора мне:

— Калі мяне пахаваеш, табе мая хустка дастанецца!

І памёрла. Мачыха звялела мне на другую ноч здзелаць труну і ўматаць яе трома вяроўкамі, і так шчытна, каб няможна было іголкі падсадзіць, і везць як ні можна пасляшней хаваць. Уклаў я яе ў труну, уматаў крэпка вяроўкамі і павёз хаваць чацверыком. Я вязу, а вяроўкі покаюцца. Пакуль давёз, палопаліcь усе, толькі асталась тры ніціны. Я барджэй спіхнуў яе ў яму. Дак яна і атвясціла:

— Ну, хустка табе застаецца!

Дак я й цяпер гэтай самай хусткай — адным ражком утрусь, стану молад, другім утрусь, стану старым старыком. Дык і выходзе: сказкі праўда, а песні склады! Ці даволны маім судом?»

Песельнік гавора:

— Каб табе не судзіў бог судзіць нікога!

— Ну, ідзіце дальш!

Пайшлі яны далі, пытаючысь у людзей. І нараяна ім, што ідзіце туды і туды за раку, там жыве адна суддзя. Прыйшлі яны к рацэ, селі ў лодку і пераехалі на тэй бок. Бачаць, сядзіць на камяні чалавек, дзержа ў руцэ бярозу.

— Здрастуй!

— Здароў!

— Гэта суддзя?

— Гэта. За што вас судзіць?

Ну, песельнік і стаў гаварыць дзела па парадку, усё, як было. Выслухаў суддзя і гавора:

— Ты, песельнік, станавісь ракам, а ты, казачнік, садзісь на яго. Слухайце!

«Быў я колісь такі, як і вы. Жыў я з першай жонкай. Раз былі мы з ёй у бяседзі. Жонка мая стала скакаць і пець сарамоцкія песні. Я на яе стаў сварыцца, а яна кажа:

— Чаго ты брэшаш, рабы пёс? Пайшоў вон!

Я й пабег сабачкам. Бегаў, бегаў,— як тут прапітаць душу? Выў я, выў... Хадзіў лоўчы па ахвоці, і выгналі сабакі зайца. Пакуль ахвотнік спусціў хартоў, я пабег за зайцом і паймаў яго, і прыношу лоўчаму. Лоўчы пагладзіў мяне і аддаў мне хлеб і гавядзіну, што з сабой браў, і забраў к сабе ў двор. І я доўга жыў у яго. Раз я ганю зайца па полю, аж якраз едзе мая жонка. Убачыла мяне — сычас я пырх верабейкам! А тут зімовае ўрэмя,— куды мне дзецца. Паставілі дзеткі сілля. Я думаю: пастой, мо я хуць адно зернятка ўхаплю! Стаў клюваць і ўплутаўся. Узялі мяне, прыняслі ў хату. «А мамачка, верабеечку ўлавілі, увечары зварым!» Пасадзілі мяне на паліцы пад гаршчок, пасыпалі канапель. А дзеці й з языка не спускаюць: верабейку зварым! верабейку зварым! Ну спасіба, баба тая замест мяне ўкінула ў страву мяса шматок. Дзеці сталі есць, ядзяць і прысмакуюць: «А мамачка, салодак верабейка!» Увечары дочка гэтай бабы гавора:

— Багаславі, маці, з верабейкам легчы спаці!

Матка багаславіла і здзелала мяне ўзнова добрым малайцом. І пажаніліcь мы з ёю і пражылі доўгае ўрэмя. Ехалі раз мы з ёй на кірмаш. Яна мне і гавора:

— Глядзі,— кажа,— стрэнемсь мы з тваёй першай жонкай, станем біцца, ты не чапайсь!

Едзем мы полем, а з другой дарогі насустрэчу нам едзе мая першая жонка. Як убачыла, сычас скок з павозкі рабай суч-

кай. І гэта мая жонка апяць жа саскочыла сучкай з павозкі, і сталі рэзацца. І тая маю перамагае. Я злез з павозкі і стаў рабай на хвост; сабе думаю: няхай мая яе парэжа! Толькі я стаў, аж яна і стала пада мной каменем. Я сеў на яе. А гэта жонка села бярозай у руку. Так і сяджу во й дасюль. Дык во, брат: сказкі праўда, а песні склады!»

Ну, песельнік на гэта не здаўся, і пайшлі яны з казачнікам кожны па сабе.

## 39. ДЗЕД І БАБА

Жыў дзед з бабай, бяздзетныя. І былі яны зрадзіўшысь не ўміраць адзін без другога, а калі ўмрэць адзін, дык каб і другі лез у труну. Жылі яны, жылі, і ўмёрла ўперадзі баба. Тады дзед сказаў, каб труну здзелалі гэтай бабе такую, каб у яе двое лезла. Усе людзі дзівяцца з таго дзеда, што ён гэткую труну сказаў дзелаць. Ну, але здзелалі труну шырокую — як двом легчы. Палажылі бабу ў труну і вязуць на могільнік. І дзед пайшоў. Поп адправіў што трэба, спусцілі бабу ў ямку, і дзед лезець лажыцца кала бабы. Усе людзі кажуць яму:

— Што ты, дурак, лезеш жывы ў яму?

А ён кажаць:

— А калі мы так угаварыліся: як яна умрэць, я палезу жывы, а як умру — яна палезець!

Поп тады кажаць:

— Ну, не трогайце яго, хай паляжыць да заўтрага; не трэба закапываць!

Ну, кінулі яго там і разышліся. Ляжаў дзед, ляжаў, бачыць — пад поўнач лезець у труну змяя. Улезла туды і стала дзяцей ражаць; і нарадзіла іх няжывых. Тады яна пайшла і прынясла травінку: аднаго памазала — ён аджыў, другога памазала — і тэй аджыў. І так усіх па'джыўляла. Тады дзед у гэтай змяі ўхваціў гэту травінку і памазаў бабу. Баба і аджыла. Пайшлі яны тады дамоў і сталі ўзнова жыць. Жылі яны, жылі, тады дзед уздумаў што: дай паспробую, ці ляжаць баба ў труне! Ды ўзяў і прыкінуўся нібытта ўмёр. Баба плачаць, бядуець, як ёй жывой лезці ў труну. Але сабе думаець: «А можа ён не саўсім умёр! Дай я ліну яму вару на вочы!» Толькі яна паднясла к яму вар, а ён і ўскочыў. І давай яе біць:

— А ці я табе ліў вар на вочы?

Біў, біў, але после паміраліся і сталі жыць. І цяпер, мусіць, жывуць.

## 40. СІРАТА

Была ў старыка доч, была ў бабы доч — яны пажаніліся. Баба дачцэ старыка нічога не давала, не адзявала. Прасілася яна да касцёла, мацоха нічога не дала адзецца. Дзяўчына пагнала ў поле каля рэчкі; скінула з сябе бяльё і памыла, а назаўтра да касцёла ў том пайшла. Заплакала, што мацоха не дала ўбрацца:

— Хоць заткну я гэтую кветку да касцёла ідучы.

Рве кветкі пад пустаю хаткаю. Сядзіць дзве асобы пад тою хаткаю пустаю, пытаюцца яе:

— Чаго ты плачаш, сірата?

— Да як жа ж мне не плакаць, калі мне маць нічога не дала, каб ісці да касцёла.

Так яны памеркаваліся і пэрламі абдарылі: каб яна, як плача, пэрлы сыпаліся. Так яна прыйшла з касцёла, села абедаць. Уздыхнула цяжка, што яе мацоха сягодня эгатаванае сама з'ела з мужам і дачкой, а ёй учарашняе дала. Яна заплакала, і пасыпаліся пэрлы. Мацоха зачала пытаць:

— Хто цябе так абдарыў пэрламі?

Яна кажа:

— Я пад пустаю хаткаю кветкі рвала да касцёла ідучы, там сядзелі дзве асобы, яны мне абдарылі пэрламі.

Так яна кажа на сваю дачку:

— Ты на другую нядзелю прыбярэшся харашо, і як пойдзеш да касцёла, вазьмі кветак пад пустаю хатаю.

Яна кветкі рве, а тыя дзве асобы пытаюцца:

— Куды йдзеш?

— На кармаш.

— Нашто табе кветкі, калі харашо адзета?

— Штоб малайцы мяне любілі, штоб пекна была.

Тыя асобы да сябе гавораць:

— Трэба яе абдарыць жабамі: каб яна, як засмяецца, жабы падалі з рота.

Прыйшла яна з касцёла і зачала смяяцца: жабы так і падалі з рота. Матка спужалася і пытаець:

— Хто цябе так абдарыў?

— Дзве асобы пад пустаю хаткаю сядзелі, яны мяне абдарылі.

Мацоха зачала сірату яшчэ горш крыўдзіць, што харашо абдарана не яе дачка, а мужа.

Быў у яе брат, вышліся яны ўдваіх, зачалі плакаць, што няма жыцця ніякога.

— Ты, сястра, жыві тут, цябе бог пэрламі абдарыў, а я пайду да цара служыць.

І пайшоў ён у дарогу. Зайшоў на магілу пацеры па айцоў сваіх згаварыць:

— У гэтую старану я ўжо не вярнуся.

Начаў пацеры гаварыць кленчачы і заснуў. Прысніў: як прачхнешся, што найдзеш на магіле, так бяры з сабою. Як ён прачхнуўся: на мацяры магіле партрэт сястрыны. Згаварыў ён пацеры і пайшоў да цара служыць.

Узяў яго цар за стоража. Глядзіць ён, па саду ходзячы, на партрэцік сястрыны. Цар спацараваў па саду, заглядзеў яго:

— Што там глядзіш, пакажы мне.

Брат паказаў. Паглядзеў цар на партрэт, спадабаў і кажа:

— Пішы пісьмо, каб твая сястра прыстала сюды, я буду з ёю жаніцца.

Брат прыпісаў да сястры:

— Прыязджай, будзе цябе цар замуж браць.

Мацоха пажалела, што сірата замуж за цара пойдзе, паехала сама і забрала сваю дачку. Цераз рэчку едучы, ачаравала сірату: зрабіла яе качачкаю і пусціла на ваду, а сваю дачку павязла да і замуж аддала за цара. Цар на яе брата сказаў:

— Партрэт пекны, а сястра твая няпекна.

Цар звянчаўся з ёю. Як з вянца прыйшла, засмяялася; жабы пападалі з рота на падлогу. Пайшоў цар да стоража і кажа:

— Ты мяне звёў, гаварыў, што сястра пэрламі плача, а яна жабамі смяецца.

Галаву яму зрубіў і ўнёс да касцёла. Потым ноччу прыйшоў пан да труны, аж пэрламі асыпана труна. Зачаў карауліць. Аж прылятаець на другую ноч качачка, устрапянулася ў дзвярах, пер'ечка спусціліся і стала харошаю дзеўкаю і зачала па брату плакаць. Тады цар яе забраў сабе, з ёю жыў, а ведзьме і дачцэ галаву зрубіў. Брату харошы похараны даў.

## 41. МАЧАХА, ЯЕ ДАЧКА І ПАДЧАРКА

Жыў дзед і баба. І былі ў іх дачка і сын. Калі баба памерла, ажаніўся дзед з другой. Новая жонка прывяла з сабою сваю дачку, якая была вельмі брыдкай: зубатая і губатая. А дзеда-

ва дачка была прыгожая. Баба не хацела глядзець дзедавых дзяцей, хацела, каб яны ўсё ў хаце рабілі. Падраслі дзедавы дзеці. Аднойчы сын кажа:

— Пайду службу шукаць, але ўперад хачу зняцца з сястрою на картачку.

Пасля гэтага пайшоў. Зайшоў у адзін двор, у якім хлопцы сядзелі. Разгаварыліся. Брат кажа, што цяжка яму жыць, што хоча паступіць на службу, паказаў і сястрыну картачку. Яна ўсім спадабалася, і хлопцы сказалі, што трэба паказаць пану, ён яшчэ нежанаты. Пану яна спадабалася, і ён рашыў вяселле справіць. Раней было так, што па народнаму звычаю нявесту жаніх не павінен быў бачыць да шлюбу. Але пан пракруціў у вушаку дзірачку, каб убачыць нявесту раней. На вяселле нявеста ўзяла з сабою мачаху з дачкой і свайго бацьку. Мачаха паслала сваю дачку і падчарку на раку памыцца і дала сваёй дачцы пруцік, каб яна ўдарыла ім тры разы падчарку. Тая так і зрабіла, калі прыйшлі да вады. Абярнулася падчарка шэрай птушкай, запела і паляцела, а тая брыдкая мачахі дачка пачала ўбірацца за нявесту. А пан паглядзеў праз дзірку, што тая маладая брыдкая, і кажа ўсяляк на брата, пабіў яго і пад плот кінуў.

— Хай жа псы з'ядуць за падман яго.

І ніхто не ведае, з-за чаго разладзілася вяселле ўсё і госці дадому паехалі. Брата падабраў фурман, узяў у хату і пачаў лячыць.

А ўвечары прыляцела тая птушка пад акно, пачала спяваці:

— Кукажэчку, кукажэчку, адчыні мне акенца, пагляджу на братку.

Фурман пачуў, спытаў таго брата, што гэта за птушачка, а той стаў прасіць, каб ён упусціў яе. Паслухаў фурман, упусціў, уляцела птушачка, абярнулася дзяўчынай, падышла да брата, пачала плакаці і гаварыці, што прыляціць яна яшчэ два разы, а пасля заклююць яе птушкі іншыя, бо не нарадзілася яна ёю, а брат памрэ разам з яе смерцю. Пасля зноў птушачкай абярнулася і ў акенца вылецела.

На другі дзень было тое ж самае.

Убачыў усё гэта фурман, шкада яму стала брата з сястрой, пайшоў ён да пана, расказваць пачаў яму пра ўсё. Здзівіўся вельмі пан, не надта паверыў, вырашыў праверыць усё сам. Прыйшоў ён вечарам да іх, загадаў толькі перад гэтым, каб пазакрывалі ўсе дзіркі, калі ўляціць птушачка.

Пачакаў ён крышку, улятае птушачка. Упусцілі яе, але не

15. Зак. 265

ведае яна, што там пан сядзіць. Абярнулася дзяўчынай, заплакала, запрычытала, і слёзы, як гарошыны, капалі.

Як убачыў пан такую прыгажуню, спачатку з месца крануцца не мог, а пасля запаліў свечку, падышоў да яе, узяў за руку, суцяшаць яе стаў. Як убачыла яго дзяўчына, ператварылася зноў у птушку, выхаду шукаць пачала, а ўсе ж вокны пазачынены, няма куды вылецець ёй. Ператваралася яна то ў мыш, то ў жабу, а пасля палкаю зрабілася, а пан узяў яе ды й зламаў.

Узнікла зноў перад ім дзяўчына, прыгажэйшая ў сто разоў за ранейшую. Адразу зрабіў пан вяселле, вылечыў брата сваёй нявесты, і сталі яны ўсе жыць прыпяваючы. А мачаху з дачкой да бараны прывязалі ды парасцягвалі па полі.

## 42. КАЗКА ПРА ПАДЧАРЫЦУ

Была мачаха, а ў яе падчарыца. Вот тая мачаха што ёй ні загадвала, дак яна ўсё рабіла. Патом яна ёй што загадала, намяшала бочку маку і попелу.

— Перабяры!

Вот яна перабірала, перабірала і плача. Зачула, ляціць галубок і гаворыць:

— Дзевушка, чаго ты плачаш?

Яна гаворыць:

— Злая мачаха змяшала мак з попелам і мне завялела перабраць, а я не магу.

Ён гаворыць:

— Не плач, я твайму дзелу памагу.

І махнуў управа-ўлева. Гэта ўсё аддзялілася — перабраў. Ну, прыходзіць яна ў хату.

— Перабрала?

— Перабрала.

Мачаха ёй яшчэ насыпала канаплянага семені з попелам, тожа перабіраць. Апяць сядзіць яна, задумалася, плача. Прылятае гэты ж самы.

— Што ты плачаш?

— Вот злая мачаха загадала перабраць семя з попелу.

— Не плач,— гаворыць,— дзевушка, я тваё дзела выканаю. Ён так жа сама махнуў управа-ўлева — яно перабралася.

Прыходзіць мачаха — што за такое? Вот мачаха дала ёй кудзелю, прасніцу і пасадзіла на калодзезь.

— Прадзі. Калі верацяно ўпадзе, падай і ты за верацяном.

Ну, прала падчарыца, прала, гэта верацяно і ўпала ў калодзезь. І яна ўпала — дамоў не прыходзіцца ўжо ісці. Вот яна ідзе, ідзе. Выйшла яна сама не знае куды. Бачыць, стаіць хатачка, паварачваецца сюда-туда. І ў той хатцы сядзіць бабка. Зайшла падчарыца ў хатку. Бабка гаворыць:

— Дзевушка, што ты скажаш?

А яна гаворыць:

— Вот што я скажу. Ішла — не знаю куды. Злая мачаха мяне,— гаворыць,— наказала, дала мне прасці. Я прала, верацяно ў калодзезь упала. І яна мне загадала, каб і я падала.

— Ну, дак вот, астанься ў мяне, будзеш маёй дачкой.

— А што ж я буду ў вас рабіць?

— А вот так будзеш рабіць: зімою будзеш падушкі падбіваць, каб снег ішоў, а ўлетку,— гаворыць,— будзеш двор месці, каб дождж ішоў.

Вот яна і сагласілася ў яе, зімою падушкі падбівала, летам двор падмятала. Пабыла яна, патом кажа:

— Я ўжо пайду далей.

Ідзе, ідзе далей — стаіць печачка. А ў гэтай печачцы хлеб пячэцца. Ён гаворыць:

— Дзевушка, выбер мяне, мне ўжо ўрэмя!

Яна гаворыць:

— Ладна, выберу.

Яна выбрала хлеб, палажыла. Ён, значыць, буханачку ёй, пажалуста. Вот яна апяць ідзе. Ідзе, ідзе. Стаіць карова, яна гаворыць:

— Дзевушка, падой мяне, будзе і табе малачка і мне.

Тая падаіла, працадзіла, сама напілася і ёй пакінула. Ідзе далей, ідзе далей — стаіць яблына. Такія красівыя яблычкі. Яна гаворыць:

— Дзевушка, акалаці мяне, сабяры!

Яна ўзяла іх акалаціла, сабрала, склала, далей ідзе. Ну, далей цячэ рэчка. Сама вада залатая, аўсяныя берага. Вот рэчка і гаворыць:

— Дзевушка, пакушай майго кісяля, я табе прыгажуся!

Ну, яна села, таго кісяля паела, йдзе далей. Йдзе ўжо далей, далей і далей.

Расцвілі цвяты. Гэтыя цвяты гавораць:

— Дзевушка, сабяры нас, мы ўжо сазрэлі.

Яна іх абарвала і склала. А патом заходзіць, тожа сядзіць старычок адзін. Значыць, к таму старычку заходзіць. Старычок у яе пытае:

— Куда ідзеш, дочка?

— А вот іду. Такое і такое дзела. Мяне,— гаворыць,— мачаха прагнала.

— Ну, ладна,— гаворыць,— пабудзь у мяне.

Яна асталася ў яго. Ён яе адзеў, вывеў на дарогу і даў ёй з естыя яблыны зёрнушак.

— Вот прыйдзеш,— гаворыць,— пасадзіш зёрнушкі, і гэта ўсё тваё багацтва будзе.

Вот яна прыходзіць. З'явілася ж дадому разадзетая, уся красівая такая. Пачалі ўжо дзевушку сваты сватаць. А мачысе-то няўдобна, што яе дачка сядзіць. Ага, яна ж тыя зёрнушкі пасадзіла, вырасла яблынка, вот яна расце не па дням — па мінутам, па часам. Вырасла ўжо, на ёй яблыкі. Ехаў багаты купец і просіць яблыка. Гэтая мачысіна дачка выйшла, хацела адарваць. Яблынка ўгору пайшла — нічога. Яна яшчэ хоча сарваць — не дасць рады.

— Давайце,— гаворыць купец,— хто над ёю хадзяін.

Выводзяць гэту падчарку. Ябланка апусцілася, яна яму абарвала тры яблачкі, падала. Паспасібаваў, паехаў. Патом паехаў, прыязджае ўжо забіраць яе. Забраў ужо дадому.

Ага, пасля ж гэтай мачысе стала абідна. Яна і сваю дачку выпраўляе.

— Хадзі,— гаворыць,— прадзі. Як верацяно ўпадзе, падай і ты туды.

Вот яна прала, прала, мо і нарочна ўкінула, палец пракалола, кроў пайшла, і яна ўпала. Заходзіць туды сама, гэтая бабушка яе астаўляе.

— Не хачу,— гаворыць,— усякім служыць!

Ну, йдзе далей. Ідзе далей. Ішла, ішла, тожа таксама.— «Хлеб выбер».

— Не хачу. У маёй мацеры пшанічныя пірагі, і я не хачу іх выбіраць!

Далей. Патом падходзіць, так жа сама стаіць гэта каровушка. Просіць.

— Не хачу, не буду, мае рукі баляць!

Вот ідзе яна далей. Ідзе далей, прыходзіць, дзе цвілі цвяты.

— Сабяры нас, дзевушка.

— Не буду сабіраць. Вы мне не нада. Я вас толькі магу стаптаць!

Ну, не нада. Патом ідзе, ідзе. Падходзіць к гэтаму дзедушку. Ён апяць яе пытае:

— Дзевушка, ну куды ты,— гаворыць,— ідзеш?

— А куды я хачу, туды іду. Не тваё дзела!

Ну, не маё дзела, значыць. Дзедушка больш казаць нічога не будзе. Падходзіць к гэтай самай рэчцы. Бяжыць тая рэчка, гаворыць:

— Дзевушка, пакушай майго кісяля, я табе буду ў помач.

— Ай, у майго бацькі пшанічны не есца. Не хачу. Лучша я цябе вадою залью!

Пайшла. Ну, цяперака ляцяць гусі. Яна ім кажа:

— Гусі, гусі, вазьмеце мяне, панясеце мяне!

А яны гавораць:

— Ты нам не нада. Ты дзела не рабіла, а толькі,— гавораць,— з людзьмі ругалася.

Паляцелі. Там стада другая ляціць. Ну, гэта стада падлятае, яна апяць просіцца ў іх. Яны гавораць:

— Трэйця ляціць.

Яна жджэ і трэйцю. Прылятае трэйця.

— Вынесьце мяне на белы свет!

А яны гавораць:

— Вынесем.

Ну вот, за яе і вынеслі на гала́ і ўсадзілі ў смалу. У смалу ўсадзілі і пpыляцелі, к двару яе апусцілі. Яна ўся ўвайшла ў смале. Маці яе не ўзнала. Гаворыць:

— Так што ж, дочка, як тую,— гаворыць,— так жаніхі ўзялі, а цябе ў смалу ўсадзілі. Наверна, бальшой гультай.

Вот так і асталася.

## 43. ДЗЕДАВА ДАЧКА І БАБІНА ДАЧКА

Быў дзед з бабаю. Мелі яны сабе па дачцы. Дак так і сама, дзедава дачка і бабіна, дак бабіна дачка з дзедавай глумілася. Яна начала плакаць, дзедава дачка, кажа:

— Татусько, пастаў мяне служыць.

Ён адказвае:

— Не можаш служыць, яшчэ благая.

Даў ёй праснічку і залатое вераценца, павёў яе пад крыніцу і пасадзіў яе там, кажа:

— Прадзі, як упадзе вераценца, так і сама бяжы за ім.

Так як вераценца ўпала, так яна і пабегла за вераценцам. Бяжыць дак бяжыць, аж там стаіць яблынька:

— Дзеўко-дзявіцо, русая касіца, атрасі мяне, сабе яблачка возьмеш і мне пакінеш.

Яна ж атрасла, сабе яблачка ўзяла і яблынцы пакінула. Бяжыць дак бяжыць, стаіць грушка:

— Дзеўко-дзявіцо, русая касіца, атрасі мяне, сабе грушку возьмеш і мне пакінеш.

Так яна атрасла, сабе грушак узяла і грушцы пакінула. Бяжыць дак бяжыць, аж там стаіць дзежка цеста:

— Дзеўко-дзявіцо, русая касіца, замясі мяне і ўсадзі мяне, сабе булачку возьмеш і мне пакінеш.

Замясіла і ўсадзіла, спякла сабе булачку, узяла і дзежцы пакінула.

Бяжыць дак бяжыць, стаіць паршук:

— Дзеўко-дзявіцо, русая касіца, закалі мяне і асмалі мяне, сабе салца возьмеш і мне пакінеш.

Дзеўка ўзяла, закалола і асмаліла, сабе ўзяла сала і там пакінула. Бяжыць дак бяжыць, аж там у лесе стаіць хатка на курачай ножцы. Яна заходзіць туды, у хатку тую, кажа:

— Пахвалёны Езус. Навекі.

— Дзе ты, дзеўко, ходзіш?

— От ішла, зайшла да вас.

— Можа б ты паткала красён?

Яна адказвае:

— Патку.

Яна ўзяла яе павяла ў каморку:

— Усюды хадзі, усюды хадзі, анно там не ідзі, дзе лычам завязана.

Так села дзеўка кросна ткаць. А ведзьма пабрала жалезныя таўкачы, пайшла ў лес. Гэтая дзеўка пайшла там, дзе лычкам было завязана. Развязала, аж там грошы.

Яна ж, гэтых грошы набраўшы мех, давай уцякаць. Так прыбегла да паршука, памінула паршука. Так тая ведзьма лявіць, ужо вецер шуміць. Прыбегла дадому, паглядзела — дзеўкі німа дома ўжо. Паглядзела — і грошай німа. Давай даганяць. Бяжыць дак бяжыць і з жалезнымі таўкачамі. Прыбегла да паршука:

— Паршук, паршук, ці не бачыў тут дзеўкі бегучы, мех грошай несучы?

— Не, не бачыў.

Бяжыць дак бяжыць, стаіць дзежка:

— Дзежко, дзежко, ці не бачыла тут дзеўкі бегучы, мех грошай несучы?

— Не бачыла.

Бяжыць дак бяжыць, стаіць грушка:

— Грушко, грушко, ці не бачыла тут дзеўкі бегучы, мех грошай несучы?

— Не, не бачыла.

Бяжыць дак бяжыць, стаіць яблынка:

— Яблынко, яблынко, ці не бачыла тут дзеўкі бегучы, мех грошай несучы?

— Не, не бачыла.

Тая дзеўка прыйшла дадому, мех грошай прынясла. Дак ужо бабіна дачка просіць:

— Завядзі мяне, дзедку.

Ён ёй даў праснічку і залатое вераценца, пасадзіў яе над крыніцаю:

— Як вераценца ўпадзе, так ты сама бяжы.

Вераценца ўпала, так і яна пабегла. Бяжыць дак бяжыць, стаіць яблынка:

— Дзеўко-дзявіцо, русая касіца, атрасі мяне, сабе яблачка возьмеш і мне пакінеш.

— Німа калі, трэба бегчы.

Бяжыць дак бяжыць, аж там стаіць грушка:

— Дзеўко-дзявіцо, атрасі мяне, сабе грушак возьмеш і мне пакінеш.

— Німа калі, трэба бегчы.

Бяжыць дак бяжыць, аж там стаіць дзежка цеста:

— Дзеўко-дзявіцо, русая касіца, замясі мяне і спячы мяне, сабе булачку возьмеш і мне пакінеш.

— Німа калі, трэба бегчы.

Бяжыць дак бяжыць, аж там стаіць паршук:

— Дзеўко-дзявіцо, русая касіца, закалі мяне, сабе салца возьмеш і мне пакінеш.

— Німа калі, трэба бегчы.

Бяжыць дак бяжыць, аж там стаіць хатка ў лесе на курачай ножцы. Уваходзіць у хату, аж там ведзьма кросна тчэ.

— Пахвалёны Езус. Навекі.

— Дзеўко-дзявіцо, ці не паткала б ты красён?

— А чаму ж, патку.

— Усюды хадзі, усюды хадзі, анно там не хадзі, дзе лычкам завязана. Ты тчы кросна, а я пайду.

Узяла жалезныя таўкачы і пайшла.

А дзеўка гэтая пайшла там набрала грошай і пайшла. Анно ж ведзьма бяжыць за ёю з жалезнымі таўкачамі.

Прыбягае да паршука:

— Паршук, паршук, ці не бачыў тут дзеўкі бегучы, мех грошай несучы?

— А от бяжы, то дагоніш.

Бяжыць дак бяжыць, аж стаіць дзежка цеста.

— Дзежко, дзежко, ці не бачыла тут дзеўкі бегучы і мех грошай несучы?

— А от бяжы, то дагоніш.

Бяжыць дак бяжыць, аж там стаіць грушка:

— Грушко, грушко, ці не бачыла тут дзеўкі бегучы, мех грошай несучы?

— А от бяжы, так дагоніш.

Бяжыць дак бяжыць, аж стаіць яблынка:

— Яблынько, яблынько, ці не бачыла тут дзеўкі бегучы, мех грошай несучы?

— А от бяжы, то і дагоніш.

Дагнала і забіла тую дзеўку жалезнымі таўкачамі за тое, што не паслухала трасці і калоць, і мясіць, дак забіла. Тая баба ўжо ждала, ждала, і прыходзіла шукаць, анно костачкі найшла.

## 44. ПРА МАЛГОСЬКУ І АЎДОСЬКУ

Быў дзед і была баба. І была ў дзеда дзяўчына і ў бабы дзяўчына была. Ну, яны згаварыліся разам жыць ужо: дзеду аднаму дрэнна жыць і бабе адной дрэнна. Сышліся яны, давай разам жыць. Дык баба ж не любіць дзедавай дачкі, а дзед не любіць і бабінай дачкі. Ну, што рабіць, вадзяцца яны, вадзяцца. Баба кажыць, вязі сваю дачку ў лес, а дзед — ты ж сваю, баба — ты ж сваю, дзед — ты сваю Малгоську, а баба — ты сваю Аўдоську. Ну і што рабіць, баба пераспорыла.

— Вязі,— кажа,— а не, дык выганю і цябе, калі не будзеш слухаць.

Ну і павёз дзед сваю дзяўчынку ў лес. Запрог каня такога худога, благога, сані тыя такія паламаныя, ведама ж, у бабы былі і лепшыя паязды, але баба таго не давала ягоную дачку вязці.

Павёз ён яе ў лес. Мароз, снег... Завёз, пасадзіў на камень-

чыку яе, пасцілачку разаслаў. Сядзіць гэтая дзяўчынка, сядзіць, плачыць, баіцца, ваўкі можа з'ядуць яе.

Ідзець Мароз: трэсь, трэсь, трэсь!

— Я Мароз-Чырванос.

А яна:

— Мароз, Мароз, не марозь мяне, я бедная сіротка, у мяне мамкі няма, жалець няма каму. Мяне дзед у лес вывез, баба прыказала дзеду, каб вывез у лес мяне змарозіць.

Тады Мароз ёй кі-і-дзь шубку, кі-і-дзь вайлачкі, і ежы, і адзежы, свечачкі кругом яе пазапальваліся, відна, цёпла. Сядзіць яна, сядзіць, і зновака Мароз:

— Я Мароз — Чырвоны нос...

А яна:

— Мароз, Мароз, не марозь мяне. Я бедная сіротка, мяне дзед вывез у лес, каб змарозіць, баба мяне не любіць, б'ець мяне.

Тады Мароз скінуў ёй усяго-усяго: куфар адзежы і чаравікі, пара коней і павозка такая ўбраная, засланая, коні пазапраганыя, вупраж без дугі, былі такія спецыяльныя крывыя аглоблі, бразгуны пачэпленыя на шыі, і стаяць тыя коні, толькі і-і-га-га! і-і-га-га!

Дзяўчына сядзіць, цешыцца, ужо яна і адзетая, і пад'еўшы. Думаець: вот як баба зрабіла, думала, што блага, дык выйшла добра.

А баба тады ўжо кажыць дзеду:

— Ну, едзь па сваю дачку, будзем хаваць яе, недзе ўжо змерзла. Я ж буду варыць, есці строіць, папрашу майстроў труну зрабіць, каторых яму капаць, хаваць яе. А да маёй сваты прыедуць, вяселле будзем рабіць.

Ну, добра, паехаў дзед. Глядзіць, свечкі гараць, відна. Думаець сабе дзед, што гэта такое ёсць. Прыходзіць бліжэй, аж глядзіць, коні стаяць убраныя, скрыня стаіць на возе. Прыходзіць дзед:

— Што з табой, мая дачушка?

— А мяне Мароз пажалеў. Паедзем дахаты,— кажыць яна.

Добра. Паселі на возе, едуць удвух. А баба тут ужо ж строіць хаваць. Людзей папрасіла. А тут сучачка выскачыла з будкі:

Цяў-цяў-цяў,
Дзедава дочка
Цяў-цяў-цяў,
Недалёчка.

Цяў-цяў-цяў,
Ля масточка.
Цяў-цяў-цяў,
Конікі вішчаць,
Цяў-цяў-цяў,
Калёсцы дрыжаць,
Цяў-цяў-цяў!

Слухаець баба.

— Ах ты, сучка-жучка, як ты брэшаш? Брашы, што дзедаву дачку хавацъ вязуць, а да бабінай сваты едуць. Вяселле будзець.

Дык гэта сучачка кажыць:

— Дай мне мяса пад'есці, дык я буду гэтак казаць.

Дык яна ёй кідзель корч мяса. Села сучка на прымурку, есць гэта мяса. Наелася, аблізалася і зноўку гэта самае:

Цяў-цяў-цяў,
Дзедава дочка
Цяў-цяў-цяў,
Ўжо недалёчка.
Цяў-цяў-цяў,
Расчыніцеся, вароты,
Цяў-цяў-цяў,
Адчыніцеся шырокі,
Цяў-цяў-цяў!

Тады баба глядзіць у вакно. Едзець дзед, сядзіць дачка багата прыбрана.

— Глянь ты, Малгося, што робіцца, во дзед вязець сваю дачку, гэткую багатую! Ай, ай, што робіцца! Чаму ж мы цябе не завезлі. Ну, пайдзём, табе можа нешта яна дасць.

А Мароз ёй сказаў, глядзі, нічога бабе не давай. Мароз асобна пастановіў ёй хатку ў двары, у бабіну хату ж не пайшла яна. Хатка стройная, залатая, золатам павывівана. Клямкі залатыя гэтыя ўсе. Тады прыйшла да яе баба.

— Дай ты, Аўдося, і маёй дачцэ што.

— Не, вы ж мне нічога не давалі, вы з мяне глуміліся, вы мне сукенку зрэбную шылі таўстую з патрап'я, з кудзелі, доўгую, матузом гэтакім падперазаўшы. Мяне за вадой усюды слалі, па дровы слалі.

І нічога не дала яна. Тады ўжо кажыць баба:

— Дзед, вязі ты і маю дачку, дзе твая была.

— Не, ты вязі,— кажыць,— сама яе.

— Дык я ж не знаю, дзе твая была.

— Ну, вязі,— кажыць,— там на высокай гары ляжыць высокі камень, на камені пасадзі яе, няхай сядзіць яна.

Павезла яна, пасадзіла, вядома ж, як сваю жалела баба, узяла коўдру, узяла падушку, пасадзіла яе на камень, уварцела, падушкай накрыла, каб не змерзла.

— Ты ўжо,— кажа,— сядзі, а я каня дамоў заганю, тады ж ужо прыду па цябе.

Пагнала яна каня дамоў, ідзець. А вея такая веіць, ніяк дайсці не можыць. А тады яшчэ Мароз стаў надта марозіць дзяўчыну ясную:

— Я Мароз-Чырванос, Чырванос!

А яна так ужо сказала:

— Не баюся я цябе, у мяне мамка ёсць, мне коўдру дала, мне падушку дала, мне цёпла сядзець.

Зноў Мароз ідзець:

— Я Мароз-Чырванос!

— Не баюся я цябе,— зноў тут яна сказала гэтыя самыя словы.

Тады Мароз як стаў марозіць, як стаў марозіць, як паднялася вея, як паднялася бура. Завеяла гэту дзяўчыну, змарозіла. Ідзець баба па сваю дзяўчыну ўжо шукаць яе, ані як далезці, гурбы, снег. Змоглася баба. Прыходзіць на гэты каменьчык, дзе пасадзіла, глядзіць — няма яе.

— А божа ж мой, а мілы мой, а дзе ж яна дзелася!

І стала капаць снег рукамі, адкапала, знайшла яе, сваю дзяўчыну, уварцела ў пасцілачку і вязець дамоў яе. А сучачка зноў пяець:

Цяў-цяў-цяў,
Бабіна дочка
Цяў-цяў-цяў,
Ўжо недалёчка.
Цяў-цяў-цяў,
Яна марозам змерзла,
Цяў-цяў-цяў,
Нежывую вязуць,
Цяў-цяў-цяў!

Гэта сучка ўжо праўду сказала бабе.

— Вот,— кажыць,— баба, якая сучка разумная, каб цябе ваўкі!

Бабіну дачку схавалі, а да дзедавай дачкі сваты едуць і едуць, яна за іх не йдзець і не йдзець. Ну, прыехаў адзін здалёку, пекны, багаты. За гэтага яна ўжо йдзець замуж. Пажаніліся яны і жывуць і пажываюць, а бабінай дачкі і сягоння няма.

## 45. КАЗКА ПРА ПАДЧАРКУ

Вот жылі дзед і баба. І было ў іх у дзеда дачка і ў бабы дачка. І баба дзедаву дачку не любіла і гаворыць:

— Дзед, вязі яе куды хочаш, дзе хочаш дзень. А то маю жаніхі не будуць браць за яе. Будуць гэта яе наперад браць, а маю не будуць. Дык завязі яе куды хочаш.

Вот дзед узяў саначкі, пасадзіў сваю дачку на саначкі і павёз яе. Пасадзіў на лютым марозе.

Вот прыходзіць Мароз Красны нос і Сіні нос. Трышч, лышч! А яна сядзіць, бедненькая, і калоціцца, гэта дзевачка.

— Трубі, Марозік, твая пара. У пятроўку не будзеш. Тольі я калачуся, змарозіш мяне.

Пайшоў Мароз, прыносіць ёй валёнкі, шубу. Надзеў яе. Сядзіць яна і песеньку запела.

А мачыха гэта ладзіцца ўжо пахароны па ёй правіць. Пячэць клёцкі, варыць паліўку і гаворыць:

— Ідзі, прывязі ж яе. Бяры карзінку, костачкі ў кашалю не парассыпай, прывязі.

А сучачка пад сталом:

— Цяў-цяў, дзедаву дачку ў карэце прывязуць, а бабіну жаніхі не возьмуць!

А яна яе чапялой, сучку.

— Вон! Я табе блін не дам. Гавары, што дзедаву костачкі прывязуць, а бабіну жаніхі возьмуць.

А ўсё роўна сучачка:

— Цяў-цяў! Дзедаву дачку жаніхі возьмуць і ў карэце прывязуць, а бабіну жаніхі не возьмуць!

Ну, паехаў дзед і вязець сваю дачку. Проста як пані якая, адзетая, абутая, красавіца — усё. І тут народ сабраўся, усе глядзяць, што яе завезлі, а яна жывая і так адзетая. Ну, баба гэтая на дзеда ўсселася.

— Вязі і маю туды пасадзі, дзе твая сядзела, каб і яе надзелі так!

Ну вот, дзед таксама ўзяў ужо яе. Сваю вазіў на саначках, а яе на кані павёз. Ну, завёз, пасадзіў таксама. Ажны прыходзіць Мароз Красны нос і Сіні нос. Трэшч, лэшч! А яна:

— Каб твая душа лопнула! Каб твой жывот лопнуў! Я сяджу, эмерзла!

Гэты Мароз як трэснуў, як лэснуў — і змарозіў гэту дачку, бабіну. Ну, а баба ўжо к вяселлю ладзіцца, што жаніхі ўжо прыйдуць, усё прыданае ёй будзіць. А сучачка тожа пад сталом:

— Цяў-цяў, бабіну дачку ў кашальку костачкі вязуць, а дзедаву жаніхі возьмуць!

Паехаў дзед, прывёз костачкі бабінай дачкі. А сваю дачку замуж выдаў за харошага хлопца.

## 46. ДЗЕДАВА ДАЧКА І БАБІНА ДАЧКА Ў ХАТЦЫ НА КУРЫНАЙ НОЖЦЫ

Быў дзед і баба, былі ў іх дзве дачкі: у дзеда была дачка і ў бабы была дачка. Жылі яны, жылі. Ну, абрыдзела мачасе ўжо дзедава дачка. Тады што яна, мачаха, сказала:

— Звязі ты гэту сваю дачку, дзед, каб яна не была. Так ужо яна мне надаела.

Праўда, дзеду ж запяклося на сэрцы, дзе ж ён яе рад везці. Ну, але што ж рабіць? Так уела добра, што мусіў. Узяў саначкі, пасадзіў яе.

— Паедзем, дачушка, у лес, будзем там дроўцы збіраць. Вот гэта дзяўчынка сабралася, узяла хлеба кусочак нейкі. Ну, прыехалі. Прыехалі яны ў той лес. На курынай ножцы стаіць хатка. Ён яе ўсадзіў у гэтую хатку:

— Сядзі,— каець,— дачушка, і жджы, а я пайду дроўцы сеч.

Узяў прывязаў дошчачку такую, венічак прывязаў, гэта ўжо будзець ужо трашчэць, там стукаць, будзець ёй нешта выдавацца такое, што як бы гэта бацька работаець. Жджэць яна, пажджэць, гэта дзяўчынка, да нету бацькі. Чуець яна: стук-стук калодачка з венічкам, да венічак шась-шась. Так яна:

— Калодачка — брась, а венічак — шась, мой татулька дроўцы сячэць.

А тады шастала-шастала, стукала-стукала, ды ніхто не

йдзець. Стала ёй страшна. Узяла выйшла на парог і стала, і кажаць:

— Хто ў лесе,
Хто ў бару?
Прыйдзі, прыйдзі
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

Тады адзываецца:

— Я ў лесе,
Я ў бару.
Прыйду [redacted] табе
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

Гэта быў мядзведзь. Яна адказала:

— Не хачу цябе,
Не люблю цябе,
Ты не мой татка,
Не мая мамка.

Гэты мядзведзь не паслухаўся. Так і прысунуўся да гэтай хаткі. І стукае:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, адчыніся!

Вот яна ўзяла і адчыніла хату. Адчыніла, тады кажаць ён да яе:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, перастаў мне ножкі!

Узяла яна і пераставіла. Тады:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, звары мне есці!

— А мой панок, а мой медзвядзёк, з чаго ж гэта табе звару? Я сама не маю чаго есці.

Гэтакая была пакорная яна. Ён тады кажаць:

— Улезь у маё вуха правае, а з левага вылезь, там знойдзеш усяго.

Тут гэтая дзяўчына ўзяла гэтак і зрабіла: улезла ў правае, вылезла з левага. Праўда, знайшла мукі там, сала, бульбы набрала — усяго. Ён жа сказаў ёй:

— Вазьмі мне, дзеўка-дзявіца, руса касіца, пасцялі пасцель.

— А мой панок, а мой медзвядзёк, дзе ж я, з чаго табе пасцялю?

— Нічога. Рад палення, рад камення, ступу жалезную пад галаву, а бараной накрыцца.

Вось так. Ну, яна яму і паслала. Паслала. Лёг гэты мядзведзь, на печ ужо забраўся. А ёй даў званочак.

— Звані, каб мне весялей спаць было.

І яна ўзяла, ежу гэту наварыла.

Ляжыць гэты мядзведзь. Як наварыць ежы, тады будзець званіць, каб яму весялей спаць. Таўчэць яна кашу. Падляцела мышка:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай мне кашкі.

Яна кцель ёй гэтай кашкі кінець. Мышка з'ела. А ён:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, з кім ты там гаворыш?

— А ні з кім. Тут мышка прыляцела.

— Дай мышцы па лабышцы.

Дык яна стук па лаве там, быдта гэта яна мышцы дала. І мышка гэтая падляціць ужо, і ізноў яна ёй дасць паесці. І гэдак яна абвадзіла мядзведзя. Тады:

— Дзеўка-дзявіца, звані мне!

Ну, дак мышка ўжо падляцела:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай мне гэтыя званочкі, а ты сама схавайся.

Яна, гэта дзяўчына, узяла і схавалася. А мышка то ў адным кутку зазвоніць, то ў другім. Як зазвоніць, дык ён туды і пусціць бараной адразу. І тады пытаецца:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, ці жыва?

Дык яна:

— Жыва, жыва, ды ня дужа,— адазвалася.

Тады зноў: «Дзілін, дзілін, дзілін» — у другім кутку, ён у гэты куток. І так ён смаліў, смаліў, гэты мядзведзь, усе куткі і выкідаў усё з печы. Ну, што ж. Папытаўся:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, ці жыва?

Адказала ўжо быдта слабым галаском, але і жыва. Тады злез:

— Ну, дзеўка-дзявіца, руса касіца, будзем ужо ж есці.

Пад'елі.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, ці хочаш ты да бацькі ў госці?

— Чаму ж бы я, мой панок, мой галубок, не хацела?

— Ну дык вот, едзь, калі хочаш. Ты мне служыла добра — я цябе адпраўлю.

Ну вот. Яна:

— Дык я ж не маю ні коней, ні ў што ўбрацца; якая ж я буду госця там, бедная?

— Нічога, лезь у маё вуха правае, вылазь з левага!

Як палезла ж яна — яна і каня ж выцягнула, яна і карэту, сукенкі і там багацтва ўсялякага цэлы сундук, паставіла ў карэту, села і едзець. А ў гэтага бацькі і ў мачахі была сучачка. Вот яна і едзець ужо. Едзець. Пад'язджаець, не надта ўжо далёка яна, а сучачка так і зачала пяяць:

Цяў-цяў-цяў,
Дзедава дочка
Цяў-цяў-цяў,
Недалёчка,
Цяў-цяў-цяў,
За гарою,
Цяў-цяў-цяў,
За другою,
Цяў-цяў-цяў,
Колы бражджаць,
Цяў-цяў-цяў,
Сукні ляшчаць.

— А бадай цябе воўк,— мачаха ўжо.

Кідзель ёй хлеба з маслам, каб яна ўжо не пяяла, гэта сучка. Тады ўзновака пяець гэтую самую песню, ужо і бліжэй. А як набліжылася, запяяла ізноў:

Цяў-цяў-цяў,
Дзедава дочка
Цяў-цяў-цяў,
Недалёчка.
Цяў-цяў-цяў,
За гарою,
Цяў-цяў-цяў,
Ужо ў дварышчы.

Глядзіць: аж засвяціла там проста ад яе. Уязджаець гэта дочка. Ну што ж, бацька выйшаў з хаты. Матка:

— Ай-яй-яй. Во як во... Куды ты яе завёз, недзе ўжо да нейкіх мо паноў?

— Дзе там. Ну, калі хочаш, дык і тваю завязу.

— Во, да няўжо ж не завязеш? Яшчэ чаго. Скарэй сабірайся — паедзем.

Дзедава дачка каець:

— Не, мая мамка, не ўслужыць яна там, не ўбудзець, лепей няхай не едзе.

— Вот, ты толькі работніца. Нічога, патрафіць, калі ты ўжо ўбыла, то і яна зможа.

Ну вот, узяла яна сабралася, і павёз дзед. Павёз бацька і таксама пасадзіў:

— Сядзі, дачушка, пайду дровы сеч, а ты тут сядзі.

Вот яна жджэць, жджэць гэтага бацькі, да і няма яго, ужо нярвуецца. Праўда, чуець: стук-стук калодачка з дошчачкай да венічак шась-шась. Так яна:

— Калодачка — брась, а венічак — шась, мой татулька дроўцы сячэць,— кажаць.

А тады шастала-шастала, стукала-стукала, ды ніхто не йдзець. Ужо стала яна баяцца, выйшла і таксама запяяла:

— Хто ў лесе,
Хто ў бару?
Прыйдзі, прыйдзі ка мне
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

Адпяець мядзведзь:

— Я ў лесе,
Я ў бару.
Прыйду к табе
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

А яна:

— Не хачу цябе,
Не люблю цябе,
Ты не мой татка,
Не мая мамка.

Не паслухаў, прысунуўся мядзведзь. Стукнуў лапай:
— Адчыніся, дзеўка-дзявіца, руса касіца.
— Не вялікі пан, можаш і сам!
Узяў адчыніў гэты пан, калі ён гэтакі невялікі.
— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, перастаў мне ножкі!
— Не вялікі пан, можаш і сам!
Тожа пераставіў. Тады ўзноў:
— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, сцялі мне пасцельку!
— З чаго я пасцялю?
— Пасцялі мне рад палення, рад камення, барану накрыцца, ступу пад галаву за падушку. Ну, і сама есці вары.
— А з чаго я табе звару?

— Улезь у правае вуха, а ў левае вылезь, вось тады і зварыш.

Яна, праўда, гэтак улезла, узяла зварыла гэтае кашы.

— Ну, тады будзеш званіць мне.

Вот яна варыць таксама, усё таўчэць там, усё прыскварвае смашна.

Падляцела мышка:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай кашкі, хоць мёнтачку аблізаць.

А тады мядзведзь:

— З кім там гаворыш?

— А во мышка прыляцела, палабыжка, і просіць кашкі.

— Дай мышцы па лабыжцы.

Лясь гэтай мышцы! Гэта мышка запішчала і ножкі ўверх задрала. Вот. Ну што ж.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, бяры званочак, звані.

І яна тут узялась за работу. У адным кутку як зазвінела, як трахнуў мядзведзь бараной — ужо чуць не мёртвая. У другі раз як даў ступай — нідзе ні духу, ні слуху. Злез, наеўся мядзведзь гэты, да яшчэ костачкі яе аблізаў, з'еў яе, сасмактаў і ляжыць. А дома ждуць-ждуць, ждуць-ждуць яе, да няма.

Выправіла мачаха дзеда па сваю дачку.

— Што ж гэта ты не йдзеш? Пэўна, яна ўжо там заслужылася, будзець ужо служыць, служыць, што і на дом забылася.

Вот сабраўся дзед ісці шукаць яе туды. Куды ён завёў, да якога пана. Прыйшоў дзед у гэту хатку, глядзіць — ляжаць косці чалавечыя. Сабраў гэтыя костачкі ў торбу, звязаў, за плечы залажыў. Нада ж несці дамоў. Ідзець дзед, а сучачка кажаць:

Цяў-цяў-цяў,
Бабіна дочка
Цяў-цяў-цяў,
Недалёчка.
Цяў-цяў-цяў,
За гарою,
Цяў-цяў-цяў,
За другою.
Цяў-цяў-цяў,
У торбачцы,
Цяў-цяў-цяў,
Зложаны костачкі.

Як трахнець гэтай сучцы таўкачом па назе і адбіла.

— Як ты брэшаш, як ты маеш адвагу так?

Ну што ж, заякала сучачка, пакацілася і ўзноў гэтак сама. Яна ёй і адну нагу адбіла, і другую, і ўсе ножкі паадбівала.

Уходзіць дзед у дварышча з торбачкай. Глядзіць баба:

— Ай-ей, а што ж гэта такое, што ж ты тут нясеш?

— Во якая твая дачка, во як яна ўслужыла, во як яна зарабіла!

Божа мой, што таго крыку, што плачу бабе!

— Ну, ты не туды, пэўна, завёз.

— Ну што ж, куды б я ні завёз, не ўслужыла, не вярнулася.

## 47. ДЗЕДАВА ДАЧКА І БАБІНА

Жылі-былі дзед і з бабай. Была ў дзеда дачка і ў бабы дачка. Баба дзедаву дачку не любіла, не жалела, ненавідзела яе. Вот яна дасць кудзелю: сваёй дачцэ харошыя кудзелі, маленькую здзелаць, а дзедавай дачцэ большую з атрэп'ем. Пойдуць яны на супраткі. Дзедава ж дачка баіцца, дык яна прадзець, сядзіць прадзець, прадзець. А бабіна лянцяйка. Яна гуляіць, то спаць ляжыць, то на печ пагрэцца ўзлезіць. Ну, тады ідуць разам ужо з супратак дадому. Бабіна дачка возьміць у дзедавай паадбіраіць яе рукувяткі, паадбіраіць, дамоў прыходзіць.

— Во, мамка, паглядзі, як я напрала столькі. А гэтая ж лянцяйка дык толькі спала ды ляжала, не прала.

Баба ў злосць.

— Нашто яна мне, гэткая лянцяйка, дзявай яе дзе хочаш! Яна мне не нада, дармаедка гэта.

Дзед думаіць:

— А божа мой, што ж мне дзелаць са сваім дзіцяцем?

Ну, гаворыць:

— Мая дачушка, паедзем у лес па дровы.

Ну, надзелася дзевачка, гэтая сірацінка, абула лапці і паехала са сваім таткам у дровы ў лес. Прыехалі да лесу, ёй бацька гаворыць:

— Пасядзі тут, мая дачушка, а я пайду-тка, пагляджу луччых дроў.

Яна села, сядзіць. А ён ад'ехаўся далей, узяў палена такое

бальшое, палажыў ды тады бярозу сагнуў, на вярхушку прывязаў палку. А быў вецярок, палка гэтая ляпаіць: ляп-ляп-ляп. Дзевачка сядзіць, кажыць:

— Во мой татка дровы сячэць, во мой татка дровы сячэць!

Сядзіць, сядзіць, ажыдаіць, ажыдаіць. Татка не йдзець. Прыходзіць яна на тое месца. Німа таткі. Палка ляпаіць толькі гэта. Як загалосіць дзяўчына:

— А божа мой! А што ж мне дзелаць, а куды мне ісці, дарогі не знаю!

Вот яна ідзець, ідзець, ідзець, ідзець. Выйшла на бераг. Ну, ажны дарога тут блізка. Вот яна дарогаю ідзець, ідзець, ідзець, ідзець. А тут ужо троху і вечарэіць. Яна тады відзіць — хатка небальшэнькая стаіць. Зайшла яна ў хатку. Нікога німа. Яна села на печ і сядзіць. Ажны прыходзіць мядзведзь.

— Хто тут ёсць, русы косы пахнуць?

Яна кажыць:

— Я.

— Тапі печ, вары мне кашу!

Яна злезла печ тапіць, кашу варыць. Зварылася каша. Стала таўчы. Ажны мышка бяжыць.

— Дзеўка-дзявіца, дай мне ком кашы, я табе буду знадобна.

— Хто з табой там гаворыць?

— Мышка кашы просіць.

— По лбу ёй там!

Яна ёй кашы дала, мышка з'ела. А яна стук-стук па загнету ложкай. Мышка запішчэла, пабегла. Ну, пад'еў мядзведзь кашы.

— Сцялі мне пасцелю!

— А што слаць?

— Рад камення, рад палення, ступу пад галаву, дзвярамі накрыцца.

Ну, яна паслала.

— На ключыкі, звані, каб мне было смачней спаць!

Ходзіць яна па хаце, звоніць. Ажны мышка праходзіць.

— Дзеўка-дзявіца, давай ключыкі. Я буду званіць, а ты лезь на печ.

Яна ўзлезла ціхенька на печ, а мышка звоніць. А мядзведзь пачуў, дзе ключы звіняць. Ён туды бабух каменнем.

— Ці жыва ты?

Яна кажыць:

— Жыва.

Тады паленнем як кінець тожа.
— Ці жыва ты?
— Жыва не жыва, клёк невялікі.
Як кінуў ступай! А яна ўжо не аказалася.
— Ну, ладна. Хай-тка віднеіць, я з табой разбяруся.
А мышка прыбегла, ключыкі кінула, гаворыць:
— Як стане звіднець, уцякай скарэй.
Не спіцца ж дзеўцы, баіцца, сядзіць. Стала трошку віднець. Яна скоранька ціхенька дзверы адкрыла ды з хаты на дарогу выбегла. Бяжыць, бяжыць, бяжыць, бяжыць. Ажно едуць нейкія на пара коні. Купец які-то. Дагнаў гэтую дзевачку.
— Куды ж ты, дзевачка, бяжыш? Хадзі падвязём.
Ну, узялі яны яе. Вязуць. Вот яна стала расказваць. Так і так, як ёй жылося ў мачыхі дрэнна, бацька яе ў лес завёз.
— Хадзі, дзевачка, паедзем з намі, будзеш ты ў нас служыць. Мы цябе будзем адзяваць, карміць, і будзеш ты ў нас жыць.
Паехала дзевачка. Жыве там. Ажно ў купца гэтага быў сын. Панравілася гэтая дзевачка, яна была красівая. І пажаніліся яны. Вот жылі яны, жылі. Тады надумалася, кажыць:
— З'ездзім ужо к бацьку ў госці к майму.
Ён запрог коні ў карэту — багаты ж быў. От едуць ужо ў госці.
Баба бліны пячэць. Пячэць бліны, а сучка ў хаце была. Дак сучка:
— Цяў, цяў, цяў! Дзедава дачка ў карэце едзе. Цяў цяў, цяў!
— Вот каб цябе воўк з'еў! Дачкі дзедавай ужо і касцей німа на свеце!
А яна яшчэ:
— Цяў, цяў, цяў! Дзедава дачка ў карэце едзе!
— Ах, каб цябе воўк з'еў! На блін, толькі не брашы!
Глядзь у вакно. А божа мой, спужалася. На двор уз'язджаіць у карэце пара коней запрэжаныя, ой, злязаіць, а ўбрана харашо, уходзіць у хату. Дзед рад, а баба спужалася. А дзед узрадаваўся, гэта ж яго дачка. Ну, пагасцілі яны, пагасцілі і паехалі.
Баба ліха-ліхам на дзеда:
— Вязі і маю дачку, дзе ты сваю завёз куды!
Дзед узяў і павёз. Ну, таксама здзелаў, як і сваёй дачцэ. Пасадзіў яе, каб пасядзела, а тады сам паехаў ужо. Так жа ж

палку прывязаў, каб яна ляпала, падумала, што гэта бацька дровы сячэць. Яна сядзела, сядзела, не йдзець бацька.

— Пайду пашукаю, ці скора бацька дроў насячэць.

Прыйшла, няма бацькі тожа. Ну, як загалосіць яна!

— А божа мой, дзе ж падзецца?

Выйшла на дарогу, ідзець, ідзець. Якраз яна ў тую хатку папала. Зайшла, села, ціхенька сядзіць! Тожа мядзведзь прыходзіць.

— Хто тут ёсць, русы косы пахнуць?

— Я.

— Тапі печ, вары мне кашу!

Яна затапіла печ, зварыла, таўчэць кашку. Мышка тожа прыходзіць.

— Дзеўка-дзявіца, дай мне ком кашы.

— А хто там з табой гаворыць?

— Мышка кашы просіць.

— По лбу ёй!

Яна стук ёй па лбу, кашы не дала. Мышка запішчэла і пабегла.

— Ну, сцялі мне пасцелю,— як пад'еў кашы мядзведзь.

— А што слаць?

— Рад палення, рад камення, ступу пад галаву, дзвярамі накрыцца!

Яна паслала.

— На ключыкі, звані, каб мне было смачней спаць!

Яна ходзіць, звоніць. А ён як кінець паленнем.

— Ці жыва ты?

— Жыва.

Тады як кінець каменнем.

— Ці жыва ты?

— Жыва не жыва, клёк невялікі.

Як кінуў ступу — і забіў.

— Ну, я разбяруся з табой, хай-тка павіднеіць.

Сам спіць, храпець. Выспаўся, відна ўжо, устаў. Дзеўка ляжыць сярод хаты забіта. Ён давай яе косці абгладаў, мяса абгладаў, косці ўзяў у кашалёк павесіў.

Вот, а дома ўжо... А баба жджэць, дачка ў карэце будзіць ехаць. Пячэць бліны. Печ топіць, бліны пячэць. А сучка:

— Цяў, цяў, цяў! Бабіна дачка ў кашальку костачкі. Цяў, цяў, цяў!

— Ах, каб цябе воўк з'еў! Мая дачка ў карэце будзіць ехаць! На блін, толькі так не брашы!

А яна яшчэ:

— Цяў, цяў, цяў! Бабіна дачка ў кашальку костачкі.

— А божа мой, што яна так гэта нядобра брэшыць, гэтая сучка. Дзед, запрагай каня, з'ездзі ты ў лес. Што такое слу-чылася?

Паехаў дзед. Прыязджаіць. А мядзведзь жа ж пайшоў на паляванне. Гэта ж днём ён паехаў. Ажно і праўда, у парозе ў карзіне костачкі вісяць гэтыя. Ён прывёз, цераз парог бабе — шусць!

— На табе тваю дачку.

— Ой, які ж ты! — Як напала яна ж на дзеда.— А гэткі ж ты! А што ж ты здзелаў, а ты ні туды ж завёз маю дачку! А ты яе й не там падзеў, дзе сваю!

Ліха-ліхім на дзеда. Ну, а дзед маўчыць ціхенька. Маўчаў, маўчаў.

— Ну, мусіць так тваёй дачцэ і нада.

## 48. ПАДЧАРКА І ЧОРТ

Жыла-была сабе раз адна мачыха; была ў іх свая дачка і падчарыца. Сваю дачку яна дужа любіла, а падчарыцу біла-прабівала, на цяжкую работу пасылала. Праснулася раз мачы-ха аб поўначы, праснулася да і піць захацела, давай падчарыцу біць-будзіць:

— Ты такая ды ты гэтакая, бяры вёдры, ідзі ў крыніцу, прынясі мне чыстыя вадзіцы.

Ускочыла падчарыца бедненькая, схапіла вёдры і пабегла ў лес за вадою. Прыйшла к крыніцы, толькі нагнулася вады за-чэрпнуць, ажно як выскачыць адтуль касматы, рагаты, з длін-ным хвастом чорт. Бедная дзеўка так і абамлела, а чорт пра-мёханька к ёй:

— Дзеўка-дзяўчына, ці хочаш за мяне замуж ісці?

— Як жа мне за цябе замуж ісці, калі ў мяне тонкай ка-шулі нет.

Чорт нырнуў у калодзезь ды й нясець адтуль тонкую ды белую, як снег, сарочку.

— Ну, дзеўка-дзяўчына, ці хочаш за мяне замуж ісці?

— Як жа мне за цябе замуж ісці, калі ў мяне краснай спадніцы нету.

Чорт зноў нып у калодзезь, глядзь — цягніць красную матчыну спадніцу.

— Ну, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне замуж ісці за цябе, калі ў мяне ні шнуроўкі, ні хвартуха нету.

— Ну,— кажыць чорт,— за гэтым дзела не станець.

Апяць у ваду, ды й нясець ясную, як сонца, шнуроўку, жоўты, зялёны з вітамі хвартух.

— Цяпер, дзеўка-дзяўчына, ці ўсё, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне за цябе замуж ісці, калі ў мяне ні панчох, ні чаравікоў нету.

Нечага рабіць, апяць чорт у ваду лезіць, нясець бялёшанькія панчошкі, чарнёшанькія казловыя чаравічкі.

— А цяпер, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне за цябе ісці, калі ў мяне хусткі ні белага, ні насава́ нету.

Яшчэ чорт у калодзезь ныр, яшчэ нясець тонкую насавую красную хустку.

— Ну, цяпер, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

— Як жа мне за цябе ісці, калі ў мяне грошаў нету, не з чым свадзьбу сыграць.

Палез яшчэ чорт у калодзезь ды й цягніць машонку, паўнёханькую залатых і серабраных грошай. Тым часам, пакуль ён з калодзезя ды ў калодзезь лазіў, поўнач даўно прайшла, на светак забіраць стала, а дзеўка і запела:

— Пейце, куры, рана,
Што мне спаткала,
Рагатая, бадатая,
На грошы багатая,
Чур мне, чур!

А тут адкуль былі петухі ў дзярэўні і запелі. Чорт як стаяў, так і чубурдыхнуўся ў ваду, ажно вада закіпела, так і праваліўся. Дзеўка схапіла ўборы да й грошы з машной і пабегла дамоў не аглядаючыся, аж пра вёдры забыла. А ў хаце мачыха жджэць вады не дажджэцца, са злосці ажно спаць не лажыцца, устала ды й уздула лучыну. Толькі падчарыца на парог, як кінецца яна к ёй з паленам.

— Ах ты такая, ды ты гэтакая! Ідзе ты была, ды ідзе да сіх пор хадзіла?

Тут стала падчарыца расказываць так і так ды ўборы і

грошы паказываць. Мачыха так і ахнула, увідзеўшы красныя ды ясныя, ды грошы залатыя, і біць забыла, ходзіць ды думаіць, як бы тут усяго таго харошага прыгожага для сваёй дачкі дастаць; увесь дзень як не свая хадзіла, насілу ночкі даждалася. Як толькі аб поўначы, разбудзіла сваю дачку, дала ёй вёдры ў рукі, навучыла, як чаго прасіць, да й паслала ў лес к калодзезю. Прыйшла дзеўка к вадзе, нагнулася — чорт як тут быў.

— Дзеўка-дзяўчына, ці хочаш ты за мяне замуж ісці?

— Як жа мне за цябе ісці, калі ў мяне ні кашулькі, ні спадніцы, ні хвартуха, ні хусткі нету, ні грошы на свадзьбу?

Так усё разам вазьмі ды й скажы. Чорт скароханька ў ваду ўскочыў, скароханька і адтуль лезіць. Лезіць, ажно пыхціць, столькі дабра нясець. Вынес усё, перад дзеўкай палажыў.

— Ну, дзеўка-дзяўчына, ці пойдзеш за мяне замуж?

А яна стаіць, як дура, і не знаіць, што яму гаварыць: матка чаго прасіць навучыла, а як ад чорта адчурацца — не сказала. Чорт пачакаў падаждаў нямнога ды згроб дзеўку за касу і пацягнуў к сабе ў калодзезь. Так яна там і прапала без весці.

## 49. ПАДЧАРЫЦА І ЧОРТ

Былі ў мачыхі дачка і падчарыца. Вот мачыха не любіла сваю падчарыцу і хацела як-ніяк збасаваць яе. Яна яе ў лес за чым-небудзь пашлець, а яна ўсё-такі прыйдзець жыва і здарова. Тады яна надумалась: вытапіла байню; усе пайшлі папарыліся, тады яна пасылаець яе:

— Ідзі, начуй у байні.

Яна й пайшла ў байню ў начавенкі. Прыйшла, пераксцілась і лягла спаць. Толькі яна лягла, аж прыходзіць такі маладзец, такі маладзец. Прыходзіць і гаворыць:

— Здраствій, дзеўка!

— Здраствій!

— Дзеўка, дзеўка, лажысь са мной спаць, будзем з табой жаніцца!

Гэта была нячыстая сіла. А яна яму:

— Што ж я буду спаць, у мяне няма ні пярыны, ні падушкі!

Ну, ён ёй гаворыць:

— Пагадзі, прынясу!

Пайшоў і прыносіць ёй, госпадзі, і пярын, і падушак поўну байню.

— Ну, дзеўка, будзем цяпер жаніцца!

— Не, не буду я жаніцца, у мяне няма шубы!

Вот ён пабег і прыносіць ёй шубу, сіленна добрую.

— Ну, дзеўка, будзем жаніцца!

— Як жа ж я буду жаніцца, калі ў мяне няма ні рубашкі, ні юбкі, ні балахона, ні платка: ты ж відзіш, што я саўсім гола!

Вот ён сыйчас прынёс ёй усё.

— Ну, цяпер жаніцца будзем!

— Як жа ж я пайду за цябе: усе людзі будуць пражу прас[ц]ь, а ў мяне няма нічога!

Вот ён сыйчас прынёс лёну, уюшак, клубкоў — усяго.

— Ну, цяпер ужо ідзі за мяне!

— Як жа ж я пайду,— у мяне няма ні капейкі дзенег; панашу гэту адзёжку, а тады мне і на людзі нельзя будзець выйці.

Ён сыйчас нясець ёй цэлы мяшок дзенег, як можна нес[ц]ь. Тады яна гаворыць:

— Ну, абажджы, покуль я надзенусь! А то ты такі памешчык, а я ў трапках — у мяне няма нічога!

Вот яна выйшла і стала бога маліць, каб пятух запяяў. Як запяяў пятух, так ён і праваліўся скрозь зямлю. Тады яна пераксцілася і пайшла к бацьку, і гаворыць:

— Татулька, родненькі, запрагай ты каня! Я ж сваё дабро не прынясу з байні, а нада везць!

Вот тады мачыха:

— Іш ты, нягодная! Я яе пасылала на смерць, а яна яшчэ дабро сваё павязець з байні. Калі яна ўжо прападзець ад мае галавы? Куды ні пашлю, усё жыва!

Вот бацька запрог каня і думаець:

— Госпадзі, адкуль яна брала столькі дабра? Страс[ц]ь: і дзенег, і адзёжы — усяго-ўсяго наношана!

Вот прывязлі дабро дамоў, мачыха аж спугалась. І гаворыць сваёй дочкі:

— Ну, дачушка ты мая, сабірайся, адвяду я цябе ў байню. Яна дура, ды столькі дабра прынесла, а ты ж усё вумней за яе, яшчэ больш прынясеш!

Вот яна сваю дочку надзела, абрадзіла і павяла ў байню і залажыла дзверы. Вот ён, нячыстая сіла, і прыходзіць.

— Дзеўка, дзеўка, ідзі за мяне замуж!

А йна яму:

— Не, я не пайду за цябе, ты не прыгож!

Вот ён тады ўзяў усю шкур[у] з ног да галавы зняў, на часці яе разабраў і раскінуў дзе што, а шкуру на печы разаслаў. А матка яе дажыдала і гаворыць мужыку:

— Што гэта яе няма? Верна, у ёй дабра дужа многа, што не прынясець!

Пайшла сама ў байню, аж яе дачка ўся разабрана на часці, і шкура на печы. Давай яна плакаць там, што сама дачку на смерць аставіла. Плакала, плакала і нічым не памагла: дачку сваю схараніла.

## 50. ЧЭРЦІ І ПАДЧАРКА

Была ў мачыхі падчарка і родная дачка. Адзін раз, у сыботу, мыліся яны ў лазні. Прыйшоўшы дамоў, мачыха паслала падчарку ў прымыльнік прынесці квасу — пасля лазні напіцца. А ў лазні, вядома, кажан раз пасля людзей чэрці мыюцца. Вот падчарка толькі стала чэрпаць квас, аж чэрці і выскакуюць і к ёй і гаворадь:

— Скажы нам, дзеўка, ідзе нам дастаць бялёвага халста на сарочкі, з лазні адзецца?

— А што ж вы мне дасцё за тое, што я вам і скажу?

Тады яны прыняслі ёй многа золата, серабра. Яна ўзяла і гаворыць:

— На бялёвы холст многа трэба! Трэба знайсці дужа слаўную аблогу. Тады яе трэба драць, драць... Тады скародзіць, скародзіць... Тады мяшаць, мяшаць... Тады трэба дужа слаўнага семя... Тады трэба яго сеіць, сеіць... Тады пахаць, пахаць... Запахаўшы, яно будзець усходзіць... Тады расці, расці... Тады цвісць, цвісць... Адцвіўшы, будзець спець, спець... Як паспеець, яго трэба браць, браць... Выбраўшы, трэба малаціць, малаціць... Абмалаціўшы, трэба мачыць, мачыць... Як вымякнець, трэба цягаць, цягаць... Выцягнуўшы, стлаць, стлаць... Як выляжыцца, трэба паднімаць, паднімаць... Падняўшы, трэба сушыць, сушыць... Як высахнець, трэба мяць, мяць... Памяўшы, трэба трапаць, трапаць... Патрапаўшы, трэба часаць, часаць... А там астанецца кужаль... Яго трэба прасці, прасці... Тады ткаць, ткаць... Тады бяліць, бяліць... Выбеліўшы, і будзець бялёвы холст!

Толькі яна сказала гэта, а певень і запеў. Чэрці й уцяклі.

Тады яна ўзяла тое золата, серабро, што надавалі ёй чэрці, і пайшла дамоў. Прыйшла дамоў, а мачыха ўжо спіць, рада, што няма падчаркі. Назаўтрага ўстала мачыха, палядзіць — ажны падчарка ляжыць у золаце, у серабрэ.

У другую сыботу паслала мачыха сваю дачку. Чэрці сама ж так выскачылі і к ёй і гавораць:

— Скажы нам, дзеўка, ідзе дастаць бялёвага халста?

— А, на яго ж многа трэба! Трэба пасеяць, выбраць, памачыць, выняць, паслаць, вылежыцца — падняць, памяць, папрасці, выткаць, выбеліць — і будзець бялёвы холст!

Тады чэрці ўхвацілі яе і задушылі, і кінулі на печку.

Матка ждала, ждала дачкі, не спала ўсю ноч — не дождалася. Назаўтрага чуць дзень пабегла ў лазню. Прыбягаець, аж яе дачка задушаная ляжыць на печцы.

## 51. ДА ЧАГО ЗАЙЗДРАСЦЬ ДАВЯЛА

Быў сабе дзед удавец ды й то меў адзінютку дачку, да то ажаніўшыся, узяў старую ўдаву з дачкою. Дзедава была вельмі пекна, а бабіна надта брыдка. Так яна аднаго разу настала, канешне, на дзеда, каб ён сваю дачку страціў дзеля таго, каб дзедава ўпярож замуж не пайшла.

Плакаў дзед па том, плакаў, але з бабаю нішто зробіш, так то ўзяў сваю дачку за руку ды й павёў у цёмны лес. Асёж у том лесе стаяла старэнька хатка, так увёў ён яе ў тую хатку, асёж там сядзіць певень пад печчу ды й кошка на пячы. Так то ўвёўшы яе, стаў умаўляць:

— Будзь ты, доњько, тудака, а я пайду дрова сеч, а як насяку, то пойдзем тады дахаты.

Так то пайшоў у лес ды й то прырабіў такую доўбню да пня, так яна ўсё ляпала ды й ляпала: доњька думае, што дрова сячэ, а ён ужэ даўно дома. Жджэ, пажджэ бацька, ужэ ёй і есці захацелася, асёж знайшла яна на паліцы ў лапіне некіхсьці за жменю грэцкіх круп, так наварыла кашы ды й пачала есці, асёж певень пад печчу:

— Кукарэкуу! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, дай ложачку кашы, я табе стану ў прыгодзе!

Так яна, зачарпаўшы, кінула. Асёж зноў кот на пячы:

— Мяў, мяў, дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, дай і мне ложачку кашы, я табе стану ў прыгодзе!

Дала яна і таму. Асёж бяжыць мышка па прывалку:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, дай і мне ложачку кашы, я табе стану ў прыгодзе!

Яна і ёй дала. Як павячэралі, давай яе каток з мышкаю навучаць:

— Зачыняй жа ж ты цяпер добра дзверы, бо зараз прыйдзе сюды мядзведзь, а то будзе злы дух, то помні, як пачне клікаць, каб ты яму а(д)чыніла дзверы і пайшла з ім скакаць, так ты яму дзвярэй не а(д)чыняй, анно скажы так: «Я па ігрышчах не хаджу, не маю ў чом скакаць, прынясі мне чаравікі, панчохі, подвязкі, засцяжкі, то сёе, то тое», анно ж не кажы яму ўсё за раз, да кожну рэч з асабліва.

Як яны навучылі, так то дзеўка і зрабіла. Пасылала яна мядзведзя па ўсялякія ўборы, асёж ужэ як прынёс ёй апошнюю рэч, та(г)ды певень: кукарэкуу! — мядзведзь знік, а дзеўка з усею адзежаю засталася.

Ну, так то як развіднела, яна то ўбраўшыся ў тое ўсё, пайшла дахаты. Так то баба, угледзеўшы дзедаву дачку, пазавідавала надта ды й давай прасіць дзеда, каб на другую ноч яе дачку туда завёў. Ну, так ён і завёў. Яна, выпраўляючы, дала ёй з сабою круп, скаромнага, солі, усяго чыста. Прыйшоўшы да тае хаты, дзеўка наварыла кашы, сама села ды й есць, асёж певень пад печчу лоп! лоп! крыламі:

— Кукарэкуу! Дзеўко-дзявіцо, дай ложачку кашы!

А яна:

— А каб цябе каршак заеў! Якраз гэта я для цябе і наварыла гэтакае смачнае кашы!

Так зноў кот на пячы:

— Мяў! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, дай ложачку кашы!

— Трасцу табе ў бок,— кажа,— я і сама з'ем!

Так зноў бяжыць мышка па прывалку:

— Дзеўко-дзявіцо,— просіць,— русо касіцо, дай ложачку кашы. Я табе стану ў прыгодзе!

— Не дажджэш,— кажа,— каб я табе давала, я не зьля це наварыла!

А сама ўсё тую кашу аплятае.

Павячэрала яна, легла спаць, асёж прыходзіць мядзведзь у глухую поўнач:

— Дзеўко-дзявіцо,— кажа,— а(д)чыні дзверы, пойдзем з табою танцаваць!

А яна яму на тое:

— Я не маю ў чом танцаваць, я не маю ўбораў! — ды й расказала яму ўсё за раз, што ён мае прынясці.

Ён як бачыш пайшоў, усё папрыносіў. Яна ўжэ такая рада, увабралася ды й то пайшла з ім у танец, а мядзведзь як яе завінуў кала се, так і косці рассыпаліся.

Баба ўжо рана пячэ бліны, дачкі ждучы, асёж сучка, седзячы на прызбе:

— Дзяў, дзяў! Дзедава дачка ў сукнях ходзіць, бабінай дачкі косці параскіданыя ляжаць!

А баба, прыслухаўшы тое, як пусціць на сучку блінам, так і ножку перабіла. Сучка зноў сваё пачынае, так яна зноў другім, так трэцім і ўсе тры ножкі паперабівала. Баба ўхожку ўхадзіла, а дачкі як німа, так німа. Ну, німа што, пайшла ўжэ сама (г)лядзець. Прыходзіць да тае хаткі, асёж праўда! Так тыя косці ў кашэль ды й ідзе плачучы назад дахаты, ды й то ўзяўшы тыя косці, павесіла з кашалём на дубе.

Покуль яна вярнулася дахаты, ехаў неякісь пан, застанавіўся перад дзедаваю хаткаю ды й просіць вады. Ну, так то дзедава дачка вынесла яму кубачкам воду, падае, а ён як глянуў, што яна такая харошая, за руку яе да ў залаты коч, да ў коні, да ў коні!

Ідзе ўжэ баба, рукі згарнуўшы, дахаты, а сучка села на прызбе ды й брэша:

— Дзяў! Дзяў! Бабіна дачка ў кашале вісіць, а дзедава з панам у кочы ездзіць!

## 52. МАЦІ І ТРЫ ДАЧКІ

Жыў дзед і баба, і былі ў іх тры дачкі. Бацька іх памёр. Асталася адна маці са сваімі дачкамі. Была ў іх малюсенькая торбачка з золатам на пасаг. І ніхто не ведаў пра гэта золата. Аднойчы цёмнай ноччай ведзьма падслухала пра гэта золата. У вялікую буру ведзьма ціхосенька ўлезла ў комін, дачакалася, як усе паснулі, тады вылезла з коміна праз люшку, пайшла да стала, узяла ў століку ключы, адамкнула скрыню, узяла мяшэчак з золатам і пабегла дамоў. Даведаліся аб гэтым сёстры і маці. Яны вельмі ж ужо разгневаліся на ведзьму і рашылі аб чым бы то ні стала адкрасці сваё золата ў ведзьмы. Ведзьма ж у гэты час шукала сабе работніцу, бо сама вялікая лянцяйка была і работу рабіць ніколі не рабіла. Вот тут і пайшла боль-

шанькая дачушка к ведзьме за наймітку працаваць за самую маленькую плату. Ведзьма надта абрадавалася, што ёй удалося найсці дзяшовую работніцу. А ведзьма была дужа ж страшная, скупая і злая. Большанькая дачушка жыве, працуе ў ведзьмы, а сама і вочак не зводзіць з залатога мяшочка. Вось аднойчы, як ведзьма пайшла гуляць са сваімі дочкамі, большанькая дачушка схапіла гэты мяшочак з золатам і давай уцякаць з ім, што ёсць сілы. Прыйшла ведзьма з гуляння, агледзелася, што няма золата і найміткі, вот яна тут з пенай на языку хвост задрала і давай ляцець за гэтай дзеўкай. Большая дачушка бяжыць, аж насустрач ёй печ, сто гадоў нятопленая. Печ стала пасярод дарогі і кажа дзеўцы:

— Дзеўка-маліна, выпалі мяне, абагрэеш сябе, тады я цябе схаваю ад ведзьмы!

Большая дачушка паглядзела на сырыя дровы, што ляжалі каля печы, і пабегла што ёсць сілачкі. Бяжыць яна, бяжыць і бачыць насустрач ёй выходзіць конь, сто гадоў нераспутаваны. Стаў конь перад гэтай дзеўкай, скланіў нізенька галоўку і кажа ёй:

— Пекна паненка, распутай мяне, дык я схаваю цябе ад ведзьмы.

Большая дачушка паглядзела, што ў каня на путах многа вузлоў нада развязваць, і пабегла бягом дарогаю. Бяжыць яна, бяжыць, аж насустрач ёй карова, сто гадоў нядоеная. Яна кажа:

— Дзеўка-красуня, падаі мяне, пап'еш малачка, і я табе памагу ад ведзьмы ўцячы.

Паглядзела дзяўчына, што даёнку нада мыць ды і карову няскора даіць, і пабегла яна дарогаю. Бяжыць яна, бяжыць, аж бачыць — пасярод дарогі стаіць вятрак, які сто гадоў не круціўся. Ён кажа:

— Дзеўка-дзявіца, пакруці мяне, разгані маю бяду, я цябе за гэта ад ведзьмы адбараню.

Старэйшая дачушка не паслухала ветрака і пабегла далей дарожанькай. Не паспела яна і адбегчы далёка ад млына, дагнала яе ведзьма, стукнула па ёй чароўнай палачкай і зрабілася яна ў камень. Забрала ведзьма мяшочак з золатам і паляцела сабе дамоў.

Чакала яе, чакала маці, а пасля пазвала сярэднюю дачку, навучыла яе, як трэба рабіць, каб забраць золата ў ведзьмы, і адправіла яе да ведзьмы ў найміткі. Прыйшла сярэдняя дачка да ведзьмы і ўсё так зрабіла, як яе старэйшая сястра. Яе ведзь-

ма таксама дагнала, зрабіла ў камень, узяла мяшочак з золатам і паляцела дамоў.

Наастатку маці выправіла самую меншую дачушку служыць у ведзьмы найміткай, каб яна забрала золата і выратавала сваіх родненькіх сястрычак. Меншая дачушка прыйшла да ведзьмы, нізка ёй пакланілася і сказала, што яна будзе працаваць дарэмна. Ведзьма надта абрадавалася і ўзяла яе к сабе ў найміткі.

Меншая дачушка ўсю работку рабіла ў ведзьмы без аддыхі. Ведзьме гэта вельмі ж ужо спадабалася. Яна не стала ад яе нічога хаваць і нават золата палажыла ў незамкнёную скрыню. Вось аднойчы ведзьма паехала са сваімі дачкамі ў госці далёка, меншая дачушка ўсю работу парабіла, сама прыгожанька адзелася, узяла сваё золата і пайшла памалу дарогай дадому. Па дарозе ідучы, сустрэла яна печ, сто гадоў нятопленую, выпаліла яе, пагрэлася сама і пайшла далей дадому. Ідучы дадому, меншая дачушка распутала каня, які давёз яе аж да каровы. Потым яна падаіла карову, напаіла малаком каня, накарміла карову і каня, напілася сама малака і пайшла далей дарогаю. Потым яна пакруціла вятрак, адпачыла і пайшла памалу дарогай дадому. А ведзьма з пенай на языку бегла даганяць гэту дзеўку, каб адабраць у яе золата і зрабіць яе на камень. Летучы па дарозе, ведзьма сустрэла печ і папытала, ці відзела яна дзеўку ў прыгожай сукенцы з маленькім мяшочкам у руках. Печ паказала, што дзеўка з маленькім мяшочкам пайшла ў другі бок. Ведзьма бегла, бегла і не знайшла дзеўкі з мяшочкам, тады яна зноў вярнулася на гэту дарогу і пабегла даганяць дзеўку з мяшочкам. Бегучы па дарозе, ведзьма сустрэла каня і запытала ў каня, ці бачыў ён дзеўку з мяшочкам. Конь адказаў, што ён дзеўкі не бачыў, і стаў капытамі біць ведзьму. Вот жа тут і паплакала ведзьма, чуць вырвалася яна ад каня і пабегла далей шукаць дзеўку з мяшочкам. Бегучы па дарозе, сустрэла яна карову. Карова ўскінула на рогі ведзьму і давай яе басці. І тут ведзьме добранька дасталося, чуць жывая яна вырвалася ад каровы. І ўжо яна не можа хутка ляцець, а памаленьку ды кульгаючы. Ідучы па дарозе, ведзьма запытала ў ветрака, ці бачыў ён дзеўку з мяшочкам. А млын схаваў меншую дачушку, а сам кажа ведзьме:

— Падыйдзі да мяне блізенька і скажы, што ты хочаш, бо я стары, глухі і здалёку нічога не чую.

Падышла ведзьма блізенька да ветрака, каб сказаць яму сваё гора, а млын як закруціцца хуценька ды як пацягне ведзь-

му ў каменне, і змалоў яе. Тут малодшая дачушка выйшла з сярэдзіны і давай цалаваць ветрака. Вятрак даў малодшай дачушцы чароўную палачку і сказаў, як можна адратаваць ёй сваіх родных сястрычак. Малодшая дачушка падзякавала і пайшла да таго каменя, у які зрабіла ведзьма яе старэйшую сястрычку. Падышла малодшая дачушка да каменя, павадзіла па ім чароўнай палачкай, і старэйшая яе сястрычка аджыла. Вось яны ўжо ўдзвюх ідуць да таго каменя, у які ведзьма зрабіла іх родную сястрычку. Тут яны падышлі да каменя, нізенька пакланіліся, павадзілі чароўнай палачкай па камені, і дарагая іх сястрычка аджыла. Вось яны ўтрох прыйшлі дадому з песнямі, з золатам. Маці так абрадавалася, што аж заплакала. Вось так яны добранька сталі жыць, пажываць і дабра нажываць, добрых бедных людзей у госці запрашаць. І я там была, віно-мёд піла, па барадзе цякло, але ў рот не папала.

## 53. ЯК ДЗЕДАВА ДАЧКА СПАМАГЛАСЯ, А БАБІНА З ЗАЙЗДРАСЦІ ПРАПАЛА

Была дзедава дачка і бабіна дачка, раз яны ішлі па ваду, ды й то бабіна дзедаву ўтапіла. Ідзе яна нейкаю лёхаю, аж стаіць груша ды й кажа:

— Дзеванька-галубанька, атрасі мяне, абяры мяне — сабе вазьмі палавіну і мне астаў!

Яна так і зрабіла. Ідзе, ідзе, аж стаіць яблына ды й кажа:

— Дзеванька-галубанька, атрасі мяне, абяры мяне — сабе вазьмі палавіну і мне астаў!

Яна так і зрабіла. Ідзе, ідзе, аж стаіць сліўка ды й кажа:

— Дзеванька-галубанька, атрасі мяне, абяры мяне — сабе вазьмі палавіну і мне астаў!

Яна і яе паслухала. Ідзе, ідзе, аж стаяць смаляры ды й кажуць:

— Дзеванька-галубанька, растапі нас — сабе вазьмі палавіну і нам астаў.

Яна і так зрабіла. Ідзе, ідзе, аж пасуцца свінні ды й кажуць:

— Дзеванька-галубанька, пакалі нас, абсмалі нас — сабе вазьмі палавіну і нам пакінь.

Яна так зрабіла. Ідзе, ідзе, аж стаіць дзяжа ды й кажа:

— Дзеванька-галубанька, размясі мяне, упячы мяне — сабе вазьмі палавіну і мне пакінь.

Яна гэтак і зрабіла. Ідзе, яшчэ ідзе, аж стаіць хатка на курачай лапцы. Як увайшла туды, асёж там мухі, прусакі, усяка гадства міскі мыюць, пеўнік з катком меле, а на лаўцы сядзіць ведзьма, а каля яе стаіць мяшок грошай. Так то ведзьма, углядзеўшы дзеўку, кажа:

— Дзеванька-галубанька, мо астанешся ў мяне на службе?

— Добра, цётушко.

— Но, то ўпярод паішчы мяне.

Дзеўка ў галаве шукала, шукала, аж ведзьма скархнула, утэды дзеўка ўзяла смалою вочы заляпіла, да то катку аддала мытыя грушы, яблычка, сліўкі, хлеб да сланіну, а сама ўзяла мяшок грошай і ўцекі. Ведзьма спала, спала, аж, прачхнуўшыся, кажа:

— Каток-галубок, аддзяры мне смалу з ачэй.

Так каток:

— Пачакай,— кажа,— цётко, няхай упярод з'ем грушкі.

Так яна зноў:

— Каток-галубок, аддзяры мне смалу з ачэй.

— Пачакай,— кажа,— няхай з'ем яблычка.

Так ведзьма:

— А-ей, каток, аддзяры мне смалу з ачэй.

А кот:

— Пачакай,— кажа,— цётко, няхай з'ем сліўкі.

— Каток-галубок, аддзяры мне смалу з ачэй.

Ну, ужэ як усё з'еў, так ведзьма просіць:

— Каток-галубок, аддзяры мне смалу з ачэй.

Утэды каток узяў пазурамі пааддзіраў смалу з ачэй, ведзьма глянула, асёж німа грошай! Так то ўзяўшы залезныя таўкачы, давай гнаць дзеўку. Гоніць, гоніць, аж стаіць дзяжа. Так ведзьма:

— Дзежанька-галубанька! Не бачыла дзеўкі бегучы, грошай мех несучы?

— Не,— ка[жа],— не бачыла, цётко.

Гоніць, гоніць, асёж пасуцца свінні.

— Свіначкі, свіначкі,— кажа,— не бачылі дзеўкі бегучы, грошай мех несучы?

— Не, не бачылі, цётко.

Так яна вярнулася назад. Асёж тая дзеўка ідзе, ідзе, лёхаю ідзе, аж увайшла ў тую самюсеньку студню. Ішла суседка воду браць, аж [г]лядзіць — дзеўка ў студні сядзіць. Так то бяжыць да дзела ды й кажа:

— А то ж ваша дачка ў студні сядзіць.

Так то дзед зараз выбег, ухапіў яе, выцягнуў з грашыма. Утэды то дзед скача, а баба плача. Так то баба з за[й]здрасці ўзяла і сваю дачку ўкінула ў студню. Ідзе яна лёхаю, аж стаіць груша ды й кажа:

— Дзеванька-галубанька, атрасі, абяры мяне — сабе вазьмі палавіну і мне астаў!

А яна як ні вызверыцца:

— Няхай,— ка[жа],— цябе трасца трасе! Мне не рана будзе да цёткі іці.

Ды й пайшла. Ідзе далей, асёж просіць яе яблына, а яна таксама на яе вызверылася. Надыходзіць на свінні, так тыя:

— Пакалі нас, падзялі нас.

А яна:

— А няхай вас колка сколе! Мне не рана будзе да цёткі.

Прыйшла да дзяжы, дзяжа просіць:

— Дзеванька-галубанька! Разчыні мяне, спячы мяне — сабе вазьмі палавіну і мне пакінь!

А дзеўка:

— Няхай цябе пячайка пячэ! Мне не рана будзе да цёткі.

Ідзе, ідзе, аж стаіць хатка на курачай лапцы, прусакі і мухі міскі мыюць, каток з пеўнікам мелюць, каля лаўкі мех з грашыма стаіць, а каля яго ведзьма сядзіць. Так ведзьма кажа:

— Дзеванька-галубанька, мо астанешся ў мяне на службе?

А яна:

— То чаму ж, цётушко, астануся.

— Ну, то паішчы мяне.

Ішча яна, ішча, аж ведзьма задрамала, утэды яна за мяшок з грашыма ды й уцекі. Ведзьма прачхнулася, бачыць, што німа мяшка, так то ўхапіла залезныя таўкачы і давай гнацца. Гоніць, гоніць, аж стаіць дзяжа.

— Дзежанька,— кажа,— галубанька, не бачыла дзеўкі бягучы, грошай мех нясучы?

— Бачыла, цётко, бяжы, то дагоніш.

Гоніць, гоніць, асёж пасуцца свінні.

— Свінне, свіначкі! Не бачылі дзеўкі бягучы, грошай мех нясучы?

— Бачылі, цётко, бяжы, то дагоніш.

Гоніць, гоніць, аж стаіць яблына.

— Яблынка-галубачка! Не бачыла дзеўкі бягучы, грошай мех нясучы?

— Бачыла, цётко, бяжы, то дагоніш.

Гоніць, гоніць, аж стаіць груша.

— Грушачка-галубачка! Не бачыла дзеўкі?

— Бачыла, цётко, анно што пабегла.

Так то ведзьма давай бегчы ды й то дагнаўшы, біла, біла тымі таўкачамі, покіль не забіла. Утэды ўзяла мяшок грошай ды й сама вярнулася.

## 54. ПРА ДВАНАЦЦАЦЬ МЕСЯЦАЎ

Жыў-быў адзін чалавек. У яго жонка памерла, і асталася адна дачка. І ён узяў бабу, і ў бабы дачка была. Ну, так яго дачка вельмі работніца была харошая, Хаўрунпя звалася. А баба яе проста хацела страбіць, што яе дачкі так не любяць, як гэту падчарыцу. Ну і паслала яна гэту падчарыцу ў лес за ягадамі, паслала ў самы мароз.

— Ідзі ягад набяры, у лес ідзі!

Ну што ж, як дала ёй дыхту, гэта дзевачка пайшла, мусіла ісці. Увайшла яна ў лес, паказаўся дымок. Яна ішла, ішла, падышла яна, касцёр гарыць, дванаццаць старыкоў тамака стаіць кругом. Яна прыйшла і пакланілася хораша, дак яны кажуць:

— А чаго ты, дзевачка, прыйшла гэта сюды?

— Мяне мачаха паслала, што яе дачка забалела, штоб я ёй ягад суніц набрала.

Дак яны пагдядзелі адзін на аднаго. А гэта ў лютым было, мароз такі! А гэта не старыя, да месяцы, кожны месяц. Ну, ліпень месяц стаіць, дак гэты люты кажа:

— Ты ідзі маё мястó займі.

Гэты перайшоў, а гэты на тое — і цвяткі зацвілі, і ягадкі паспелі, усё.

— Ну, ідзі бяры.

Яна набрала, зімою набрала ягад гэтых, суніц і прынесла дадому, і сказала так і так.

Баба назаўтра сваю дачку пасылае.

— Ідзі і ты.

Ну, яна пайшла, гэта дачка яе. Яна ішла, дымок паказаўся. Ішла, ішла, прыйшла, дванаццаць старыкоў гэтых стаіць кругом таго касцёру.

— Ух,— кажа,— штоб яго пярун стукнуў, такі мароз, такі мароз, змарозіў мяне ўжо!

Да напроціў, да напроціў усё лютаму. Дак яны цясней яшчэ, і замарозіў мароз яе.

Баба чакала, чакала — няма дачкі. Яна сама паехала ў лес, падабрала яе косці і пахавала.

## 55. БРАТ-БАРАНЧЫК

Жыў сабе дзед з бабай, і было ў іх двое дзяцей: сын Ісак і дачка Кацярына. А дзед ды любіў дужа вераб'ёў есці. Вот улавіў ён іх шмат і аддаў бабе смажыць, а кошка аднаго і ўкрала: было дзесяць, стала дзевяць. Стаў дзед счытаць вераб'ёў і не дасчытаўся. Не дасчытаўся ён аднаго вераб'я і кажыць на бабу:

— Дзе верабей? Дзе верабей?

Стаў шумець, крычаць, з кулакамі кідацца — і забіў бабу. Дзеці тыя — дзеўка ды малец — баяцца таго, каб ён і іх не забіў, сабраліся і пайшлі ўпрочкі. Ідуць яны і ўсё назад паглядаюць, каб іх бацька не дагнаў. Ішлі яны, ішлі, і захацелася мальцу тому піць:

— Сястрыца, я дужа піць хачу!

Дождж найшоў, і ў конскім капыту вада стаіць. Ён гаворыць:

— Нап'юся я з конскага капыта?

Яна кажыць:

— Не пі, брацец, а то конікам абернешся!

Пайшлі далі. Ішлі, ішлі — стаіць у кароўім капыце вада. Малец кажыць:

— Сястрыца, я з кароўега капыта нап'юся?

— Не пі, брацец, бо кароўкай абернешся!

Ішлі, ішлі, і дужа яму піць хочацца — ён аж валіцца. Бачаць яны — стаіць вада ў бараннім капытцы. Малец кажыць:

— Сястрыца, нап'юсь я з баранняга капытца?

— Не пі, брацец, а то баранькам абернешся!..

Дужа яму піць хацелася, і ён не паслухаў сястры і напіўся. Аглянецца яна назад, аж бяжыць баранька, і на ім адна шарсцінка залатая, другая сярэбраная. Яна яму гаворыць:

— А што, брацец: я казала — не пі, а то баранькам абернешся! Што ж я цяпер буду з табой дзелаць?

Ішлі яны, ішлі — абнімаець іх ноч. Стаяла блізка ля дарогі капешка; яны падышлі пад капешку і заначавалі: сястра пад капешкай, а баранька ўзлез на капешку. Аж едзець пан. Ба-

чыць — нешта на капешцы блішчыць. Ён кажыць на слугу:
— Схадзі ты, палядзі, што гэта там блішчыць!
Палядзеў ён і кажыць:
— Ляжыць на капе баранька — залатая шарсцінка і сярэбраная, а пад капой прыгожая дзеўка.
Пан кажыць:
— Ідзі, прывядзі іх сюды!
Слуга пайшоў і прыводзіць іх. Пан пасадзіў дзеўку ў поезд, і паехалі, а баранька ззадзі бягіць. Прыехалі яны ў двор, пан вялеў ёй даць адзежу харошую; яна адзелася, і то была прыгожая, а то шчэ папрыгажэла. Нядоўга пабыла, пан із ёй і ажаніўся. І баранька ў іх стаў жыць.
Жылі яны, жылі, і радзіла яна рабёшка. І такога прыгожага, як і сама. І стаў баранька няньчыць таго рабёшка. І была ў дварэ дзеўка пакаёвая. Раз яна гаворыць:
— Барыня, пойдзем мы пакупаемся ў ставок!
— Пойдзем сабе!
Пайшлі яны купацца, дзеўка тая піхнула паню ў ваду і ўтапіла. Тады баранька ўзнаў, што няма сястры яго, і стаў плакаць. Тады як толькі настанець ноч, ён возьмець рабёшка, прынясець к стаўку і кажыць:
— Кацярынка-сястрыца, вылезь з вады, пакармі рабёшка!
Паднімецца вецер, ставок завалнуецца, выйдзець сястра і пакорміць дзяцёнка. Ён прынясець дзяцёнка дамоў і сам плачаць. Тады пан убачыў, што ён плачаць, і пытаецца ў яго:
— Аб чым ты, баранька, плачаш?
— А аб тым я плачу, што гэта не мая сястрыца!
— А дзе ж твая сястрыца?
— А мая сястрыца ў стаўку!
— Як жа ж нам яе дастаць?
— А трэба сажалку бочкамі абставіць!
Прыйшла ноч, пан вялеў абставіць сажалку бочкамі, і пайшоў умесці з баранькам к сажалцы. Прынёс баранька дзяцёнка і стаў зваць сястру:
— Кацярынка-сястрыца, вылезь з вады, пакармі рабёшка!
Вот яна вылезла і ўвалілась у бочку. Пан яе за валасы прыдзержыў і пераксціў. Яна і асталась. Узялі яны дзяцёнка і пайшлі дамоў. І баранька скінуўся зноў малцом, Ісакам. Сталі яны жыць, пажываць ды дабра нажываць. А слугу тую прывязалі к коням і разарвалі...

## 56. БАСНЯ ПРА БАРАНЬКУ

Жыў-быў старык са старухай. Была ў іх дачка і мальчык быў. Памерла старуха, ажаніўся бацька з другой, а ў яе была свая дачка. Узяла яна і выгнала гэтага мальчыка і гэту дзевачку.

— Ідзіце вы ў свет ужо. Мне і так хватаець карміць сваю. А дзе я вас буду карміць?

Вот пайшлі яны, ідуць, ідуць і далёка ішлі ў свет, можа дзе жабруюць, можа дзе пойдуць на службу стануць. Ён ідзець, ідзець і кажаць:

— Марыська, Марыська,— яна звалася Марыська,— Марыська, сястрычка, мне надта піць хочацца, я хоць з кароўяга капытка нап'ю.

Яна кажаць:

— Не пі, брацетка, бо абернешся кароўкай.

Ідуць, ідуць яны. Ён узноў просіцца:

— Марыська-сястрыца, у свіном капытку нап'юся, гэдак мне піць хочацца.

Яна:

— Не пі, братка, абернешся свінкай.

Ішлі, ішлі яны, ішлі, ён узяў барані капыток найшоў і напіўся ціханька. Глядзіць яна назад, ляціць баранька. Яна кажаць:

— А што, брацетка, я табе казала: «Не пі з баранняга капытка, бо абернешся баранькам».

Ну што, ідуць, ідуць — стаіць хатка на полі. Зайшлі ў гэту хатку, кросны стаяць у гэтай хатцэ. Села яна ткаць, ён цэўкі сучыць. Ехаў па дарозе кароль.

— Што такое, ехалі туды, агню не было ў гэтай хатцы, назад — агонь гарыць?

Зайшоў ён паглядзець, што такое. Бачыць — дзеўка тчэ, надта стройная дзеўка ўжо, а баранька цэўкі сучыць. Яго так зацікавіла. Ён тады кажаць:

— Я вас забяру к сабе.

Яны расказалі, як ужо мачаха выгнала іх вон. Забраў ён іх к сабе. Узяў з ёй і ажаніўся, з гэтай дзеўкай. А баранька стаў тожа ў іх слугой, і там баранькай і жывець. Прыйшло яму, каралю таму, узноў на вайну ехаць. Паехаў ён на вайну, асталася яна. Нарадзіўся ў яе мальчык. Прыехала мачаха, дзналася мачаха ейная, што ў яе мальчык нарадзіўся. Прыехала, і вот яна ў яе пабыла, пабыла троху, тады кажаць:

— Нада табе ісці ў баню памыцца. Я цябе завяду ў баню памыцца.

Падвяла яна яе ў баню мыцца, вымыла, вымыла ў бані, тады кажаць:

— Нада ўжэ і пакупацца.

Усадзіла яна яе ў раку, стала яна купацца, а яна яе мыець і кажаць:

— Абярніся, абярніся шчукай-рыбай, абярніся шчукай-рыбай, абярніся шчукай-рыбай!

Яна шух! і абярнулась і паляцела ў возера, гэта ўжо царыца гэта. Мачаха прыйшла дамоў, надзела сваёй дачцы адзежу ейну, і стала ж ужо ў хаце царыцай быць. А як заплачаць гэты мальчык, тады баранька схваціць яго і панясець да возера і крычыць:

— Марыська-сястрычка, маладзён плачаць, сіскі хочаць.

А яна адзываецца з ракі:

— Іду, бягу па каменечку, па паленечку, раса вочкі выядаець, пясок ножкі раз'ядаець, іду, бягу памаленечку, па каменечку.

Вот яна прыляціць, рыб'ю шкуру з сябе скідзель. Січас пасосіць і шух! узноў паляцела ў возера. Гэтак усё ён насіў. Прыехаў гэты цар, прыехаў цар, ну і ўзноў заплакаў хлапец, ён узноў панёс туды, усё носіць. Ён не пазнаў, што гэта другая ў яго жонка. Ну і жывуць яны, жывуць, тады яна:

— Мне надаела гэтага барана глядзець, не хачу яго глядзець, нада яго зарэзаць.

Дык цар кажаць:

— Ну як жа ты яго зарэжаш, свайго брата, як ты яго зарэжаш? У нас бараноў ёсць поўна, давай зарэжам другога.

— Не,— кажа,— хачу гэтага зарэзаць.

А яна баялась, каб цар не дазнаўся, што ён усё лётаець да яе, да сястры гэтай. Ну вот, ужо нажы памылі, карыты памылі, нажы навастрылі і ўжо прыбіраюцца яго рэзаць. Паляцеў ён да гэтага возера, стаў:

— Марыська-сястрыца, прыбіраюцца мяне рэзаць, ужо ножыкі павастрылі і карыцеткі памылі.

Дык яна:

— Скажы свайму пану, майму мужу, няхай шоўкаў невад пашыюць, шчуку-рыбу ўловяць.

А парабак ляцеў укопам слухаць, што такое, чаго ён да ракі, чаго ён ляцеў, і чуець, нешта ён гаворыць. Укопам гэта ўсё паслухаў, што яна гаворыць гэтак ужо. Прыйшоў дамоў і сказаў

гэтаму ж ужо цару. Цар скарэй паляцеў сам слухаць. А ён усё просіцца, усё просіцца ў яе:

— Марыська-сястрыца, прыбіраюцца мяне рэзаць, ужо ножыкі павастрылі і карыцеткі памылі.

Яна ўзноў гэтак сказала:

— Скажы свайму пану, майму мужу, няхай шоўкаў невад пашыюць, шчуку-рыбу ўловяць.

Глядзь ён січас, пашылі шоўкаў невад і паехалі рыбу лавіць. Прыляцелі. Як запусцілі, дык адразу і злавілі вялікую рыбіну, вынімаюць, аж ён глядзіць: гэта ягоная жонка ў гэтай рыбе. Вот яны яе січас прывезлі дамоў, абмылі, адзелі. А баранчык рад, лётаець, аж пяець, аж танцуець. Гэта ж жарт! А мачаха нічога не знаець гэта. А мачаху ўзялі да конскіх хвастоў прывязалі, разарвалі ўсю. А ён стаў жыць-пажываць з ёй і дабра нажываць. І баранька жыве з імі.

## 57. АБ ХЛОПЦУ-ЗАЙЧЫКУ

Быў сабе брат з сястрою, і была ў іх мачаха вельміся ліхая, так яны нарадзіліся пайсці ў свет службы сабе пашукаць. Доўга ні ждаўшы пайшлі. Ідуць яны, так ідуць, так таму брату вады захацелася. Бачыць ён у воўчым следу вада стаіць, так ён кажа:

— Нап'юся я гэтай вады.

А яна яго просіць:

— Не пі, братко, гэтай вады, бо станеш воўкам і цябе заб'юць, то як ■ адна буду?

Ён яе паслухаў і не піў. Ідуць яны далей, бачыць ён у валовым следу вада, так ён зноў кажа:

— Нап'юся я.

Так яна яго зноў просіць:

— Не пі, братко, гэтай вады, бо зробішся валом — табою гараць будуць, потым цябе зарэжуць, а я буду адна прападаць на свеці.

Так ён і гэтым разам паслухаў.

Пайшлі далей. Ідуць яны, ажно ў авечым следку вада, так ён зноў хоча, канешне, напіцца, а яна:

— А-ей, не пі, братко, тут вады, бо зробішся авечкаю, цябе,— кажа,— зарэжуць, дзе ж я тады падзенуся, няшчасна?

Пайшлі яны далей. Ідуць, аж у зайчым следку вада стаіць, так ён кажа:

— Ужэ я цяпер нап'юся!

Яна яго прасіла, прасіла, але ён не паслухаў, напіўся і як бач стаў зайчыкам. Так яна ідзе і рэўне плача, а ён бяжыць за ёю, падскакваючы. Ажно захапіла іх ноч, а на балоце стаяў стог, так яна села кала таго стога і той зайчык кала яе. Ажно едзе нейкі пан і, угледзеўшы зайчыка, хоча страляць. Так яна падбегла да й просіць:

— А-ей, не страляй, паночку, бо гэта мой братко! — і кажа яму так і так. А яна была надта хароша, так пану да спадобы прыпала, да й гэта забраўшы яе з зайчыкам, павёз з сабою.

Прывёз дадому, ажаніўся з ёю, а зайчык яму ўслугоўваў. Потым даў ім бог дзіця, так зайчык няньчыў яго.

Аднаго разу пан выехаў з дому, ажно гэта мачаха, даведаўшыся, дзе яна, прыходзіць з сваёю дачкою да й распыталася так пекне з ею, а потым кажа:

— Мо пойдзем выкупаемся, а то ты такая чорная.

Так яна:

— Добра, — кажа, і пайшлі. Увайшлі да купальні, ажно мачаха кажа:

— Дай я табе плечы змыю.

Яна стала ёй мыць, як піхане яе ў воду — тая ўтапілася. Тады яна прыйшла дадому і на тае месца палажыла сваю дачку (а яна да тае была так падобна, што і капелькі тае пабрала), да й то сама ўцекі.

А той зайчык пазнаў-такі, што гэта не яго сястра, але што рабіць, слухаў яе і ценгле тое дзіця калыхаў. А яно, вядома, без мацеры, усё плакала, так як прыйшоў вечар, ён узяў тое дзіця і нясе да рэчкі да й то прыйшоўшы кажа:

— Крысю-Марысю, селядзён плача, цыцкі хоча!

А яна кажа:

— Бягу, бягу, падбягаю, рыжэц ножкі пад'ядае, вада очкі залівае!

Потым прыйшла, накарміла тое дзіця, накарміла і зноў у воду, а зайчык дзіця дадому. І так праз кілька дзён насіў.

Ажно той пан думае сабе: маці ляжыць, дзе ён яго ўсё носіць?

Аднаго разу панёс зайчык дзіця, а пан нáгледам за ім. Ён прынёс над рэчку і кажа:

— Крысю-Марысю, селядзён плача, цыцкі хоча!

Яна выйшла карміць да й кажа на брата:

— Глядзі, братко, слухай пана, каб ён цябе не забіў, і яе слухай.

А пан тое чуў, нічога не казаў, анно парадзіўся людзей добрых, што зрабіць. Так то людзі яму дараілі:

— Як яна,— ка[жуць],— выйдзе, так ты вазьмі стулу тую што ў ксяндза, і кінь на яе, бо іначай не возьмеш,— і кажуць яму.— Яна будзе рабіцца жабаю, яшчарыцаю, а ты не важай, бяры яе.

Ён так і зрабіў: накінуў на яе, яна перакідалася, зрабілася яшчарыцаю, ён за ею і на бераг вынес.

Тады яна зрабілася кабетаю.

Прывёў яе дадому, а сам пайшоў да тае і кажа:

— Чаму гэта ты не корміш гэтага дзіцяці?

А яна кажа:

— Бо я хвора, хіба забі мне гэтага зайчыка, то я буду здарова.

Тады ён наспрашаў гасцей, і ўзялі яе зараз расстралялі, а з таею шчасліва жыў.

## 58. СНЯГУРКА

Жыў дзед і баба. Не было ў іх дзяцей. Ляпілі дзеці снягурку. Баба на дзеда гаворыць:

— Дзеду, пойдзем мы злепім снягурку, яна ў нас мо будзе гаварыці.

Пайшоў дзед з бабаю ляпіць снягурку. Зляпілі яны снягурку. Прынязлі ў хату, стала снягурка гаварыці да дзеда і да бабы. Абрадаваліся яны, што снягурка стала гаварыць.

Жыла яна ў іх дзесяць лет. Пасля дзесяці лет пастушкі жануць каровы пасвіць. Тая снягурка гаворыць:

— Бабу! Пажану і я каровы.

Баба ўзяла ў торбачку ім сыра, наклала хлеба, сыра, каўбаску палажыла. Дала торбачку ў руку і гаворыць:

— Будзеш ты там есці.

І пагнала яна дзве каровы за пастушкамі. Пасе яна, пасе — захацела есці. Выняла з торбачкі яду сабе, стала есці. Сама ела і пастушком давала. І ўсё з торбачкі аддала. Усё з'елі. Цяперака сталі гуляці. Гулялі, гулялі, хлопцы кажуць:

— Давайце распалім агонь.

Сталі яны каля агню гуляці, сталі цераз агонь перадзыгаці. Хлопцы перадзыгалі, нічога ім не сталася. А снягурка гаворыць:

— Дайце я перадзыгну.

Перадзыгнула раз, перадзыгнула другі раз цераз агонь, ніц ёй не паўрадзіла. За трэцім разам перадзыгнула і пайшла з дымам. Сядзіць на небе і з неба гаворыць:

— Пастушкі, пастушкі, зажанеце бабіны каровы дахаты.

Пастушкі тыя паслухалі, пагналі каровы дахаты. Прыганяюць дахаты яны каровы, а баба ўстрачае іх:

— А дзе мая снягурка падзелася?

Пастушкі гаворацъ, што пайшла з дымам. Баба ў плач, дзед у плач, началі плакаці. Баба на дзеда — нашто выпраўляў, а дзед на бабу. Пайшла баба шукаці снягуркі. Ходзіць баба і пакрыквае:

— Снягурка, снягурка, дзе ты падзелася?

Тры разы. Прыйшла да таго паленага месца. Снягурка з неба стала гаварыць:

— Не плач, баба, не ішчы мяне, я на небе. Пажджэце, як прыйдзе зіма, то я прыйду да цябе.

Прыйшла баба дахаты і стала плакаці, што снягуркі няма. А дзед уцяшае бабу:

— Не плач, прыйдзе зіма — прыйдзе снягурка да нас.

Вот і казка ўся скончылася, дзед бабе кулаком, баба скурчылася.

## 59. АБ ВЕДЗЬМЕ-З'ЯЖДУШЦЫ ДА ХЛОПЦУ, ШТО ПЕРАКІНУЎСЯ У ГОЛУБА

Была ў дзеда дачка і сын, а ў бабы-ведзьмы, яго жонкі, анно дачка. Аднаго разу ўначы баба кажа да дзеда:

— Дзедку, дзедку, зарэж шваго шына!

Асёж дзедава дачка, пачуўшы гэта, давай плакаць. Так брат ёй кажа:

— Ціха, сёстрачко, не плач: як мацi мяне будзе есці, то ты костачкі пазбірай да ў сарветку завярці, пад яварам пахавай, жоўтым пясочкам пасыпай, расіцаю палівай. Буду я як макава зернетка, после як семянё зернетка, после як гарохава зернетка, после як бабова, да й то буду я як поўяйца, буду я як цэла яйцо, а ўрэшці буду я сівым галубком.

Ну, так то дзед зарэзаў яго яшчэ тае саменькае ночы, ведзьма із'ела, а сястра так зрабіла, як ён яе прасіў. Зрабіўся ён спяршоў як макава зернетка, после як семянё, гарохава, бобава, асёж у канцы стаўся сівым галубком. Сеў ён сабе на

яблынцы, асёж едуць купчыкі, вязуць кашулечкі. Так то ён кажа:

— Купчыкі, купчыкі! Скіньце мне па кашульцы, збаю я вам басенку, скажу я вам сказаньку. Татка-зарэждушка, мацізʼяждушка, а сястронка-пазбярушка, мае косці пазбірала, пад яварам пахавала, жоўтым пясочкам пасыпала, расіцаю палівала. Быў я як макава зернетка, быў як семянё, як гарохава, як бобава, як поўяйца, быў як цэла яйцо, да то после ўжэ стаўся сівым галубком.

Яны яму скінулі па кашульцы ды й паехалі се далей. Сядзіць голуб на яблынцы, асёж едуць зноў купчыкі да то вязуць спаднічкі.

— Купчыкі, купчыкі! — кажа голуб.— Скіньце мне па спаднічцы, збаю я вам басенку, скажу я вам сказаньку. Татка-зарэждушка, мацi-зʼяждушка, а сястронка-пазбярушка, мае косці пазбірала, пад яварам пахавала, жоўтым пясочкам пасыпала, расіцаю палівала. Быў я як макава зернетка, быў як семянё, як гарохава, як бобава, як поўяйца, быў як цэла яйцо, да то после ўжэ стаўся сівым галубком.

І скінулі яму купчыкі па спаднічцы ды й паехалі далей. Сядзіць голуб каля дарогі на яблынцы, аж набах зноў едуць купчыкі, вязуць каптанікі. Так ён кажа:

— Купчыкі, купчыкі! Скіньце мне па каптаніку, збаю я вам басенку, скажу я вам сказаньку. Татка-зарэждушка, мацi-зʼяждушка, а сястронка-пазбярушка, мае косці пазбірала, пад яварам пахавала, жоўтым пясочкам пасыпала, расіцаю палівала, Быў як макава зернетка, быў як семянё, як гарохава, як бобава, як поўяйца, быў як цэла яйцо, да то после ўжэ стаўся сівым галубком.

Яны скінулі яму па каптаніку ды й паехалі далей. Сядзіць ён сабе, асёж едуць купчыкі, вязуць панчошкі. Ну, так то ён да іх кажа:

— Купчыкі, купчыкі! Скіньце мне па панчошцы, збаю я вам басенку, скажу я вам сказаньку. Татка-зарэждушка, мацізʼяждушка, а сястронка-пазбярушка, мае косці пазбірала, пад яварам пахавала, жоўтым пясочкам пасыпала, расіцаю палівала. Быў я як макава зернетка, быў як семянё, як гарохава, як бобава, як поўяйца, быў як цэла яйцо, да то после ўжэ стаўся сівым галубком.

Яны яму скінулі па панчошцы ды й самі далей. Ды й то сядзіць голуб на яблынцы, асёж едуць купчыкі, вязуць чаравічкі. Голуб да іх кажа:

— Купчыкі, купчыкі! Скіньце па чаравічку, збаю я вам басенку, скажу я вам сказаньку. Татка-зарэждушка, мацi-з'яждушка, а сястронка-пазбярушка, мае косцi пазбірала, пад яварам пахавала, жоўтым пясочкам пасыпала, расіцаю палівала. Быў я як макава зернетка, быў як семянё, як гарохава, як бобава, як поўяйца, быў як цэла яйцо, да то посля ўжэ стаўся сівым галубком.

Яны яму скінулі па чаравічку ды й у сваю дарогу. Сядзіць голуб на яблынцы, асёж зноў едуць купчыкі, вязуць залатыя пярсцёначкі, срыбраныя шпоначкі, ды й то размавітыя кольчыкі, ды й юстэрачка, і каралі, і пекныя пацёрачкі. Так ён кажа:

— Купчыкі, купчыкі! Скіньце кажнае рэчы! Збаю я вам басенку, скажу я вам сказаньку. Татка-зарэждушка, мацiз'яждушка, а сястронка-пазбярушка, мае косцi пазбірала, пад яварам пахавала, жоўтым пясочкам пасыпала, расiцаю палівала. Быў я як макава зернетка, быў як семянё, як гарохава, як бобава, як поўяйца, быў як цэла яйцо, да то посля ўжэ стаўся сівым галубком.

І гэтыя яму скінулі. Сядзіць голуб сабе, асёж едуць купчыкі, вязуць камені. Так ён кажа:

— Купчыкі, купчыкі! Скіньце мне па каменю! Збаю я вам басенку, скажу я вам сказаньку. Татка-зарэждушка, мацiз'яждушка, а сястронка-пазбярушка, мае косцi пазбірала, пад яварам пахавала, жоўтым пясочкам пасыпала, расiцаю палівала. Быў я як макава зернетка, быў як семянё, як гарохава, як бобава, як поўяйца, быў як цэла яйцо, да то посля ўжэ стаўся сівым галубком.

Як яны яму скінулі, так ён, забраўшы ўсё, паляцеў ды й сеў на бацькаўскай хаце. Асёж ведзьма кажа да яго сястры:

— Ідзі, к..., жамятай хату!

Замяла яна хату ды й выйшла за парог смецце выкідаць, а ён бах! усём дабром на яе. Так яна прынясла ўсё дахаты ды й давай цешыцца. Асёж ведзьме мала вочы не паўлазілі з зайздрасці, так то да свае кажа:

— Ідзі ты, дачушко, нажбірай якога-шякога шмецюшка ды й выкінь на надворак, мо хто і табе яшчэ больш шкіне ўшяго.

Так яна то сюды-туды завінуўшыся, выходзіць на надворак, а ён бах! ёй каменем, галаў чыста рассадзіў, ды й па ёй. Ведзьма то паждаўшы кажа:

— Ого, мая дачушка мушыць яшчэ больш мае, бо нешта не

хутка варочаечша, мушыць цяжка ёй нешчы, пайду я ёй шама пашоблю.

Асёж ведзьма як анно пераступіла нагою за парог, так ён бахецьl і ў яе каменем у голаў, і забіў. После ён перакінуўся ў хлопца, і жылі з сястрою добранька, калі то ў мядочку.

## 60. ПРА БЯЗРУЧКУ

Жыў-быў купец, і была ў яго сястра. І вельмі ён любіў сястру. Ну, ён ездзіць на работу, прыедзе з работы і смяюцца яны з сястрою, чай п'юць, а жонка з-за рэўнасці пабегла ў сарай, зарэзала самага лепшага жарабца да й кажа мужу ўжо:

— Ты з сястрою вельмі добра жывеш, ідзі палядзі, што яна табе нарабіла.

Ён пайшоў:

— Ну то што? Жарабец — чорт яго бяры, яшчэ адзін будзе, яшчэ ж ёсць ці адзін.

Потым на другі дзень зноў гэтак. Яна пайшла ў сарай і зарэзала саму лепшу карову.

— От, ты з сястрою так хораша жывеш, ідзі палядзі, што яна табе нарабіла.

Ён пайшоў, палядзеў:

— Ну, карову зарэзала. Чорт яе бяры, гэту карову.

Потым ў васкрасенне яны пайшлі ў цэркаў. У яе, у жонкі гэтай, адно едзінственнае дзіця ўсяго было. Сталі людзі ўхадзіць з цэрквы, і яна бягом прыбегла дадому і яе, сястру тую, адправіла гуляць, а сама зарэзала сваё дзіця. Ён прыйшоў, дак яна яму:

— От, сматры, што твая сястра здзелала.

Тады ён не ўдзяржаўся ўжо, запрог каня і павёз яе ў лес. Прывёз ён к тоўстай калодзе:

— Калі твае рукі, сястра, рабілі, кладзі на калоду! — І паадсякаў ёй рукі так во, па локці.

Ну, і паехаў. Яна, бедна, блудзіла, блудзіла і прыблудзіла к царскаму дварцу. І села на лавачку. Царскі сын выйшаў і так ужо яе спадобаў, што пайшоў:

— Мамачка, буду з гэтай бязручкай жаніцца.

Дак яна:

— Ой, сынок, нашто табе яна?

Ён ні ў якую. Ён ажаніўся, маці памерла, ну а цар ужэ

стары быў, перадаў яму гэта ўсё, царства. Ён паехаў па свету, яна забярэменела і радзіла сына — у лбе сонца, у патыліцы месяц. Ну, бывала, не цяпер, што поштаю, а трэба паштальён, каб нёс, а паштальён, хто ні ідзе куды, трэба каб у гэтага купца пераначаваць. Ну, астаўся гэты паштальён, расказаў ёй, той ужо жонцы, што такая і такая бязручка радзіла такога і такога сына. Яна ўжо напаіла яго, спаць палажыла, выняла гэта пісьмо, пачытала, перапісала так: «Радзіла твая жонка невядомую звярушку: мядзведжыя ногі, воўча галава». Ну, занёс гэты паштальён; ён пачытаў і напісаў: «Што бы ні радзілася, да майго прыходу штобы не страбілі».

Яна зноў пераняла, як паштальён начаваць прыйшоў назад ідучы. Дак яна ўжо смела, яго напаіла, пачытала гэта пісьмо і напісала так: «Да майго прыходу каб яе і дзіцяці следу не было».

Гэты яго ацец ужо вельмі яе палюбіў, шкадаваў. Пачыталі, ну што ж, трэба адправіць. Увязалі ёй гэтага рабёнка і пусцілі. Пайшла яна. Прыйшла яна к мору, захацела вады папіць. Нагнулася яна, гэта дзіця страпянулася і паплыло. Яна стаіць ля мора і плача. Прыходзіць сівы дзядочак, развязаў руку і сказаў:

— Мачы руку.

Яна абмачыла — рука прырасла. І другая так прырасла.

— Ну ідзі,— кажа той дзядок,— дзіця лаві!

— Мора ж глыбока. Ну, калі прырaслі, пайду лавіць дзіця.

Пайшла, так ёй вады во так усяго (паказвае на назе, ніжэй калена). Яна ўлавіла гэтага хлопца свайго. А хлопец расце не па днях, а па часах. Яна ўжо ідучы расказала яму быль сваю, усё, што было.

Ну, прыйшлі яны к гэтаму купцу ўжо начаваць, і цар ужо ідзе дадому, начуе там. Ну, гэты цар спяшыць, хоча дадому як можна, дак яму нудна, не хоча спаць, дак:

— Ну, хто ўмее баі бавіць?

І купец бачыць, што тая, і цар бачыць, што гэта жонка яго, але рукі, з рукамі. Да кажа:

— У гэтай жанчыны сын ёсць, харашо ён умее баі бавіць.

— Ну, пазавеце.

Пазвалі яго, ён пачаў.

— Толькі,— кажа,— як раз пераб'е, палавіну гаспадаркі прападзе, а як другі раз — уся гаспадарка, а калі трэці раз — то і галава з плеч.

Ну і стаў казаць так, і гэта ўсё пераказаў, як жарабца за-

рэзала пайшла ў хлеў. Так яна не ўдзержалася: «Не-а!» Так палавіна гаспадаркі ўжо і няма. А ўжо як карову ізноў зарэзала, так яна: «Не-а!» Ну, то ўся гаспадарка прапала. А далей ужо як пайшлі ў цэркаў, прыйшлі з цэркві, яна адправіла гэту сястру гуляць і вот сваё роднае дзіця зарэзала і на сястру сказала. Так яна, купцова жонка, ізноў: «Не!» Ужо і галава з плеч. Тады ён кончыў гэту казку і кажа:

— Вось мая мама, а гэта мой дзядзя, гэта мая цёця,— а к цару падышоў,— гэта мой тата.

Ён цоп яго так — сонца засвяціла. Так цар тады іх на жалезныя бораны, параздзіралі іх абаіх, а ён пайшоў дадому з жонкай і сынам, і цяперака жыве, і ўнучкі жывуць, і праўнучкі.

## 61. БЯЗРУКАЯ СЯСТРА

Жыў сабе дзед ды баба, і было ў іх двое дзяцей — сын і дочка, і гэтыя дзеці дужа ладна жылі між сабою. І гавораць ім бацькі, каб яны і пасля іх смерці жылі таксама харашо, як цяпер пры іх. Памёр бацька, памёрла і матка. Захацеў брат жаніцца. Вот і пытаецца ён у сястры:

— Як думаеш, сястрыца, ці можна мне жаніцца?

А сястра яму атвяшчаець:

— Брацец мой родненькі, як хочаш, так і дзелай! Толькі як ажэнішся, дык не будзеш мяне так жалець, як цяпер жалееш!

Брат абяцаўся ёй, што ўсё роўна будзець, як цяпер. Ну і жаніўся брат. Ды не радзіцца ён з жонкай, ды ўсё [illegible] сястрой радзіцца: куды трэба яму ісці або ехаць, то ён пойдзець [illegible] сястрэ і радзіцца з ёй. Нявестцы дужа не спадабалася гэта, што ён не радзіцца з ёю, а радзіцца з сястрою, і зачала яна яму бунтаваць яе. Паехаў раз мужык яе на ахвоту дужа далёка ды й прызабавіўся. А жонка ўзяла атруты ды й атруціла самую лепшую карову ў хлеве ціханька, а тады паслала пісьмо мужыку: «Вот якая твая сястра спараднiца: атруціла самую лепшую карову нашу!»

Ён ёй атвяшчаець, што не карова нас нажывала, а мы карову! Тады жонка яшчэ горша неўзлюбіла залоўку: узяла ўзноў атруты і атруціла самага лепшага каня ціханька, а мужыку напісала, што гэта сястра зрабіла. Мужык узноў адпісаў ёй, што і жарабка мы нажывалі, а не жарабок нас! Тады ж

18. Зак. 265

што яна робіць? Радзіўся ў яе рабёшачак. Яна яго ўзяла і загубіла! А мужыку паслала карту: «Вот якая твая сястра спарадніца: загубіла карову, загубіла жарабка, а цяпер і рабёшачка нашага загубіла!» Вот прыехаў мужык у двор і гаворыць сястрэ:

— Досіць ты скаціну маю губіла, я табе прашчаў, а гэтага я ўжо не магу прасціць. Надзявай, сястра, смяротную кашулю і выхадзі на крылец!

Сястра яму ні сло́вечка не сказала, надзелася і выйшла.

— Садзісь на калёсы, паедзем!

Сястра села і паехала. Ехалі яны, ехалі і прыехалі ў такую вялікую пушчу-драмушчу, што ні ў казцы сказаць, ні пяром напісаць. Брат кажаць на сястру:

— Злязай з калёс, кладзі рукі на калёсы!

Яна злезла з калёс і палажыла рукі на калёсы. Брат узяў тапор і адсек ёй рукі:

— Як ты,— каець,— дзелала добра, так і я дзелаю табе! Ідзі сабе ў свет!

Ды сам і паехаў дамоў, а яе там пакінуў. Яна там блудзіла, блудзіла і прыблудзілася ў царскі сад, дзе былі залатыя яблыкі пад счотам. І кажнае ранне цар іх прыходзіў счытаваў. Бог ёй даў так, што адно яблычка залатое сагнулася, і яна яго з'ела. Назаўтрага ўранні прыйшоў цар счытаваць яблыкі. Счытаў, счытаў — аднаго яблыка няма. Тады ён каець:

— Хто тута ёс[ц]ь у саду? Калі старшы мяне — маць мая будзеш; калі роўна мне — жана мая будзеш; калі младчы мяне — сястра мая будзеш!

Ну, яна ня 'казалася. Узноў ёй бог так даў, што адно яблычка сагнулася, і яна яго з'ела. Назаўтрага рана прыйшоў цар счытаваць яблыкі — узноў аднаго няма. Тады ён кажаць:

— Хто тута ёс[ц]ь? Калі старшы мяне — маць мая будзеш; калі роўна мне — жана мая будзеш; калі младчы мяне — сястра мая будзеш!

Ну, яна ўзноў ня 'казалася. І ўзнова бог даў так, што адно яблыка сагнулася, і яна яго з'ела. Назаўтрага рана прыйшоў цар счытаваць яблыкі — аднаго ўзнова няма. Тады ён кажаць:

— Акажыся, хто тута ёс[ц]ь у саду! Калі старшы мяне — маць мая будзеш; калі роўна мне — жана мая будзеш; калі младчы мяне — сястра мая будзеш!

Яна й аказалась. Увідзеў цар яе, і дужа яна яму спадабалася, бо яна дужа прыгожая. Зняў ён яблычка, адкусіў сам і ёй даў:

— На, дзяўчына, з'еш яблычка, бо ў цябе няма рук, нечым узяць.

Павёў ён у двор; узвёў на крылец і кінуў яе на крылцы, а сам пайшоў к матцы ды гаворыць:

— Мамачка мая! Прыйшла ў наш сад адна дзяўчына, ды дужа прыгожая, хачу я з ёй жаніцца!

Матка кажаць:

— Як сабе хочаш, так і роб. Вот толькі ж як ты з ёй будзеш жыць, калі яна без рук!

— А нічога,— гаворыць,— я ж ёй слугу найму!

Вот і пажаніліся яны і жывуць дужа ладна. Пражылі яны так можа з год. Толькі раз паехаў муж яе на 'хвоту, а яна асталася з маткаю. Без яго даў ёй бог дзяцёначка — ува лбе месяц, у патыліцы зоркі. Паслала яна к мужыку пасланца, а матка й пісьмо напісала, што ў яго сын радзіўся. Тэй пасланец як панёс пісьмо к мужыку, і зайшоў па дарозе ў адзін двор начаваць. Ды й злучылася яму якраз зайсці ў братнюю хату. Нявестка пусціла яго нанач ды й давай пытаць, куды ён ідзець і адкуль. Ен і гаворыць, што нясець пісьмо к мужу. Яна распытала ў яго ўсё чыста: у каго ён служыць, што і як. Ен усё чыста ёй расказаў, яна і спазнала, што гэта тая самая залоўка, што яна хацела страціць. Ну, ляглі яны спаць. Тады тая нявестка ўстала ўночы, узяла ў таго пасланца пісьмо ды й перапісала, што жонка твая радзіла ні жука, ні жабу! ды й узноў палажыла ў яго хатомачку. Назаўтрага ўстаў тэй пасланец і пайшоў. Прыходзіць к мужыку і аддаў пісьмо. Прачытаў тэй муж пісьмо, падумаў, падумаў ды й адпісаў: «Што ёс[ц]ь, няхай тое і будзець, пакуль я сам не вярнуся!» Тэй пасланец, назад ідучы, узноў зайшоў нанач у тую самую хату. Тады тая нявестка ўзноў украла пісьмо і перапісала: «Каб матка ў вадзін час страціла тое, што радзілася, і таго, хто радзіў!» Ну, і пайшоў тэй пасланец з гэтым пісьмом. Аддаў пісьмо матцы. Матка тая дужа дзівілася, што ён гэтак прыказаў дзелаць, але нічога не зробіш! Падвязала ёй рабёшачка і выправіла яе ў свет. Пайшла яна, бедная, заплакаўшы. Ішла, ішла, захацелася ёй напіцца. Відзіць — крынічка. Толькі яна сагнулася піць, а дзяцёначак хлёп! іываліўсь у крынічку. Відзіць яна, што ён ужо й тонець, а сама зрабіць нічога не можаць, бо рук няма, нечым узяць. Стаіць ды горка плачаць. Але чуець голас:

— Не плач, маладзічка, але працягні сваю правую руку!

Яна так здзелала, і вырасла ў яе правая рука. І хочаць яна ўхапіць скарэй дзяцёначка, ажно голас узноў ёй гаворыць:

— Не, шчэ рана! Другую руку пацягні!

Яна так эдзелала — вырасла ў яе другая рука! Во тады яна перахрысцілася, выцягнула дзяцёначка і пайшла далі. Ішла яна, ішла і заходзіць у тое сяло, ідзе жыў яе брат. І захацелася ёй дужа зайці і палядзець на таго брата, што колісь-то яе дужа жалеў. Заходзіць яна ў хату, ажны там і мужык яе: заехаў з ахвоты нанач. Нявестка як увідзела яе, зараз жа яе спазнала, але толькі, што гэта з рукамі, а залоўка яе без рук. Ну вот, гэта залоўка ў сваёй нявесткі просіцца нанач. Яна яе за нішто не пускаець:

— Куды,— каець,— я цябе пушчу? Тут во і так ёс[ц]ь у нас чужы чалавек; сама бачыш, хатка цесная, а ты з дзяцёнкам!

Мужык жа з братам, пачуўшы, што нейкая маладзіца просіцца нанач, пусцілі яе:

— Толькі каб ты нам казкі казала!

Яна кажаць:

— Добра, мае паночкі! Скажу вам — казку ні казку, але так, як бы і праўду!

Ну і зачала яна расказываць усё сваё жыццё: як яна жыла з бацькам, як з братам, як брат яе жаніўся ды як яе нявестка неўзлюбіла... А нявестка ажно покаецца са злосці, слухаючы яе гэтыя казкі. Як даказала яна гэту сваю казку, дык і шапачку зняла з рабёшачка. А ў яго ўва лбе месяц, на патыліцы зоркі!.. Дык брат і мужык зараз спазналі, якая гэта маладзіца і пра што яна казала. Тады брат кажаць:

— Хацела ты за нішто звесці яе са свету, дык я ж цябе звяду!

Прывязаў яе к конскаму хвасту і пусціў у чыстае поле. А цар тэй забраў сваю жонку ў двор...

## 62. СЯСТРА-БЯЗРУЧКА

Жыў дзед і баба. Былі ў іх сын і дачка. Памёрла матка, памірае і бацька. Ён спрашуе, сын:

— Што, тата, дзелаць?

А ён:

— Ну што, мой сын, дзелаць? Жывіце дружна, харашо, адзін аднаго слухайце, што яна будзе, ты ёй загадай, каб яна цябе слухала, харашо і жывіце.

Ну, пажылі яны, тады жаніцца брат захацеў. Ажаніўся,

узяў жонку. От ён усё сястры загадуе. Куды едзе ці ідзець, усё сястры загадуе. Сястра гэта ўсё дзелае.

А жонцы дужа не панаравілась, чаго сястры загадуе. От, на стайні быў конь, яна ўзяла забіла таго каня, жонка; тады прыехаў ён, кажа:

— Во твая сястра харошая, ты ўсё загадаеш ёй, от жарабка забіла.

Ён:

— Ну, мая сястра, мой жарабок, клопату столькі.

Тады сад быў. Яна ўзяла вырубіла сад. Прыязджае, а ён купец быў ды ездзіў усё. Прыязджае ён, а жонка:

— Вот, твая сястра харошая, во сад увесь парубіла.

Ён:

— Мой сад, мая сястра — клопат.

І ўжо радзіўся ў іх сын, у купца гэтага ўжо. Яна ўзяла ды сына гэтага забіла, матка. Тады:

— О-о! Сястра харошая, ужо і сына нашага забіла.

— О-о! Ну, за ўсё яе прашчаў, за гэта не прашчу.

Узяў павёз яе ў лес і паадсякаў рукі па локці. Ну што? Паадсякаў і сам паехаў. Яна ішла паўз царскага гэтага саду. Ну, захацелася яблычка, яна ўзяла ў тэй у сад ды даставаць, а рук жа няма. І вот царскаму сыну панаравілась яна, такая яна была прыгожая. Так ён кажа:

— Тата, я яе вазьму за сябе замуж.

— Ну што, мой сын, наравіцца?

— Наравіцца яна мне, а што рук няма — клопату, яна мне наравіцца.

Узяў яе, пажылі, радзіўся ў іх сын. І вот пачула тая жонка, што радзіла яна. І баба была ў яе, тожа змяя такая, што яна навучала на плахое. А царскага сына не было дома. Ну вот, напісалі цар з царэўнай запісы і направілі ўжо несці к яму, што радзіўся сын. От, пасланец панёс і зайшоў якраз к гэтай нанач. Яна прачытала, што які сын радзіўся, і к бабе к той. Баба тая:

— Знаеш што,— кажа,— давай напішам, што радзілась лягушка, не дзяцёнак, а лягушка.

Узялі напісалі. Ну, а тэй жа не знаў, гэтую запіску і панёс. Прынёс к царскаму сыну. Ён прачытаў. Тады: «А хто ні радзіўся, да майго прыезду няхай жыве». Панёс ён. Апяць ён ішоў і ■ тым самым нанач зайшоў. Тыя прачыталі, што «хто ні радзіўся, няхай, пака я ні прыеду, няхай жыве». Узялі гэту запіску ануліравалі, а напісалі: «Да майго прыезду штоб не

было яе з гэтым рабёнкам». Ну што ж, прынёс гэты запіску. Бацька з маткай прачыталі:

— О-о! Куды ж нам яе адправіць. А ў яе ж рук няма, як жа яна.

Ну, прывязалі ёй гэтага ўжо рабёначка і завязалі, пусцілі, кажуць:

— Ідзі,— кажуць,— куды хочаш, ты не нада нам такая.

Ну, яна пайшла. Ішла, стаіць крынічка, яна ў тую крынічку, вады захацела. Нагнулася, а дзяцёнак у гэту крынічку. Яна куксамі тады хапаець, і рукі палучыліся. Вот яна дзяцёнка паймала, увязала і пайшла. Ішла-ішла, ішла-ішла, куды?

Ну, зайшла яна ўжо ў свой двор.

А прыехаў ужо цар — і няма жонкі. А йдзе?

— А ты,— кажуць,— запіску прыслаў, каб яе не было, так мы адправілі.

— А куды?

— Адправілі, а куды яна пайшла, дак не знаем.

Пайшоў шукаць яе. Прыходзіць к купцу таму, астаўся на-нач. І якраз хлопчык туды найшоўся. Цар кажа:

— Ох ты, госпадзі, хоць бы казачку мне хто якую расказаў. Вот жонка мая не знаю дзе.

А хлопчык, гэты сын яго, ды кажа:

— Во я табе раскажу казку, толькі хто перабора мяне, перамяшае, сто рублей, хто калі перамяшае, а я буду расказваць.

— Ну, сто дык і сто, ды толькі раскажы.

Вот ён і стаў казаць пра матку пра сваю.

— Вот жыла,— кажа,— сястра з братам, брат ёй загадваў, што куды едзе работаць, а жонцы яго не панаравілася, што ён ёй загадуе. Яна ўзяла жарабка забіла, а ён кажа: «Мой жарабок, мая сястра».

— А-а! Што ты выдумляеш!

А ён:

— Ну, больш не буду казаць, сто рублей!

А цар:

— Ну давай,— кажа,— раз ён сказаў, што хто мяне перамяшае, а ён няхай мне скажа ўсю казку.

А гэта жонка брата перамяшала. Тады:

— Ну,— кажа хлопчык,— узяла сад вырубіла і на сястру. Прыехаў купец, яна і на сястру, што во сад вырубіла. А ён сказаў: «Мая сястра — мой сад, чорт яго бяры». Вот ёй усё гэта не наравіцца. А тады ўзяла,— кажа,— свайго сына забіла і на яе сказала. Ну, ён кажа: «За ўсё прасціў, а за гэта не

прашчу». Павёз у лес,— кажа,— адсек ёй рукі па локці. Яна без рук ішла ля царскага саду і захацела яблычка. Ну, чым жа яна можа, вот куксай трохі прыгарнула, ротам ужо дастала.

— А-ай! Што ты будзеш гарадзіць нейкую гараду, гародзіш скараду!

— Ну, больш не буду казаць, сто рублей.

Цар кажа:

— Кладзі шчэ. Не перамяшай, пускай гавора. Раз я пажалаў.

Ну, шчэ палажыла сто рублей.

— Тады што,— кажа,— ніяк не ўспакоіцца. Ну, ён адсек ёй рукі, рук не было, а ішла ля царскага саду, а царскаму сыну яна панаравілася, і ён узяў яе за сябе. Ну, і паехаў недзе ці ваяваць, ці дзе адлучыўся. У іх радзіўся сын, па пояс у золаце. Напісалі бацька і матка і паслалі пасланца, каб занёс, які сын радзіўся. І тэй пасланец зайшоў к гэтай к самай бабе, катора жонка брата. А яна ўзяла напісала: «Радзілася мыш і лягушка». Во што!

— А-ай! Ты нейкую складу выдумаў!

— Больш не буду гаварыць! Сто рублей!

Паклала. Тады:

— А прынёс пасланец, цар адпісаў: «Хто ні радзіўся, да майго прыезду штоб быў». Вот ён апяць зайшоў к гэтай бабе. А тут,— кажа,— прачытала. «О-о! Штоб быў!» Так тут узялі гэтаануліравалі, а напісалі: «Штоб да майго прыезду яе выпісалі адтуль». Ну, тады што,— кажа,— бацька і матка прачыталі: «О-о! Радзіўся там сын харошы, па пояс у золаце, а чаго ён напісаў, штоб да майго прыезду не было яе? Ну, у яе ж і рук няма, ну куды мы яе аташлём?» Ну, паслалі яе,— кажа.— Яна ішла. Прывязалі ёй ужо яе сына. А яна захацела вадзічкі, нагнулася ў крынічку піць, а дзяцёнак тэй што ў бок. А яна,— кажа,— хапаць куксамі тымі, і ў яе паявіліся рукі. Ну, і стала з рукамі. Вот гэта такая і казка. Вот я такую казку знаў і расказаў вам.

Тады:

— А дык гэта ты мой ацец,— кажа,— а я твой сын.

От яны схапіліся.

— А гэта,— кажа,— маць, а твая жонка. Ёй рукі брат адсек па локці. Яна была без рук, а як несла мяне малога, вадзічку стала піць у крынічцы, а я выкінуўся, яна падхапіла, і ў яе паявіліся рукі.

— Гм-м! Гэта вы мае,— кажа,— і жана, і сын.

— Вот мы,— кажа,— і твае.

Ну, ён забраў і павёз у гасударства ў сваё яе і сына. І сын ужо рос, кажуць, не па часах, а проста па мінутах. Рос такі бальшы і скора вырас. І асталіся яны жыць, і сын харошы ў іх. Во якая гэта казка.

## 63. ГВІДОН САМІХЛЁНАВІЧ

У неўкатарам царстве, у неўкатарам гасударстве, ці не ў том, у каторам мы жывём, жыў дзедушка з бабушкай. Нямножка ў іх было дзяцей: дванаццаць сыноў, дванаццаць дачарэй. Ён дванаццаць сыноў жаніў, дзевяць дачарэй замуж аддаў. Асталась тры дочары дзевушкі, асталась Арына, Агата-Саліхвата Прамудрая і Настася-Прыкрася Дзіміёнаўна. Просяць яны ў айца благаславенства:

— Благаславі, цяцінька, і надзялі!

— А чым жа вас благаславіць?

Арына атвячаіць:

— Мяне, цяцінька, надзялі іголкай ды ніткай!

Агата-Саліхвата атвячаіць:

— Мяне, цяцінька, благаславі і надзялі адным зярэшкам жыта!

Настася-Прыкрася атвячаіць:

— Цяцінька наймілейшы, цяцінька найлюбейшы! Мяне благаславі і надзялі, каб я ў тры гады пятнаццаць сыноў радзіла, пятнаццаць сілных, магучых багатыроў: у лбах сонца, у патыліцы месяц, ногі ў серабрэ, рукі ў золаце, целяса ў дробных звёздачках; каб яны ўсе былі па васемнаццаць аршын у вышыну, па дванаццаць аршын у плячох шырыны!

Ён благаславіў усіх трох і надзяліў.

Пайшлі яны ў чыста поле, у зялёну дуброву, кала сіняга мора. Было ўрэмя ў пятроўку. Захацелась ба ім пакупацца, па сіняму мору палюбавацца. Тады яны самацветнае плацце скідывалі і абарацілісь сызым[і] вуткам[і], паплылі па мору, сталі купацца.

Быў та ў неўкатарам-та царстве, у неўкатарам-та гасударстве цар Гвідон Саміхлёнавіч. І пайшоў ён у чыстае поле, кала сіняга мора, заглёнаў — у трох мястах самацветнае плацце ляжыць. Ён узяў гэта самацветнае плацце і ў ваду памачыў і на тых мястах апяць палажыў, дзе яно ляжала. Непадалечу стаіць

дуб, а ў тым дубу дуплё; ён узяў і ў тым дупле стаў і схаваўся, цар Гвідон Саміхлёнавіч. Тады красныя дзевушкі выплывалі сызым[і] вуткам[і] з сіняга мора і браліся за самацветнае плацце: яно мокра. Ну, дзяйствіцельна, у гэта ўрэмя самацветнае плацце нядоўга высушыць. Тады высушылі яны самацветнае плацце, надзеліся і сталі выклікаць:

— Адзавіся, адклікніся, хто гэта дзела здзелаў над намі? Калі старшы нас, то будзь айцец нам, калі маложы нас, будзь брат наш, а калі роўны з нам[і], то будзь муж наш!

Ну, ён выхадзя з дуба з дупля, атвячаіць:

— Цар Гвідон Саміхлёнавіч, ні старэйшы, ні маладзейшы, а ўраўні з вам[і]!

Яны атвячаюць:

— То ёс[ц]ь муж наш!

Ён іх спрашываіць:

— Дзявіцы прыўкрасныя! Чым вы каторая можаце заняцца — якім рамяством?

Арына атвячаіць:

— Я магу іголкай ды ніткай усю тваю вармію адзець!

— На сколькі ўрэмя бярэшся?

— А я,— кажыць,— бярусь да жызні, канца веку свайго!

— Станавісь на правую фаланку! Ну, ты жа, Агата-Саліхвата, чым можаш заняцца, якім рамяством?

— А я,— кажыць,— магу адным зярошкам жыта ўсю тваю вармію пракарміць!

— На сколькі ўрэмені?

— Да жызні, канца века майго!

— Ну, станавісь на правую фаланку! Да, мне гэдакія людзі дорага варты. А ты жа, Настася-Прыкрася Дзіміёнаўна, чым можаш заняцца, якім рамяством?

Яна яму атвячаіць:

— Цару наймілейшы, цару найяснейшы, Гвідон Саміхлёнавіч! Мае заняція плашэй усіх: я магу ў тры гады пятнаццаць сыноў радзіць — слаўных, магучых, прыпышных багатыроў: ува лбу сонца, у патыліцы месяц, рукі ў золаце, ногі ў серабрэ, цела ўсё ў дробных звёздачках, па васемнаццаць аршын у вышыну, па пятнаццаць аршын у плячах шырыны!

— А, гэта для мяне дарожы ўсяго састаіць! — кажыць цар Гвідон Саміхлёнавіч.

І законны брак божы ён з Настасяй-Прыкрасяй прыняў.

Ну, у цара нядоўга, ні піва ні варыць, ні віна курыць,— свадзьбу сыграў. Пажыў можаць нямнога ўрэмя з ей, а гэтых

дзявіц, Арыну і Агату-Саліхвату, к сабе ў палаты ўзяў. Адна стала вармію адзяваць — вайску, а другая стала карміць.

І пражыў ён з жаной сваёй нямнога ўрэмя: яна зацяжарыла пяцьмі сынам[і], прахадзіла яна трыццаць восем нядзель цяжолая. Толькі бы дзве нядзелі ўхадзіць ды й радзіць — наступаіць няверны цар, змей Шкарлупін, на адных плячах дванаццаць галоў, дванаццаць палкоў меець войска і дванаццаць багатыроў харабрых. І ў цара Гвідона Саміхлёнавіча тожа дванаццаць палкоў і дванаццаць багатыроў харабрых, магучых, прыпышных. Гэты няверны змей вяліць, каб прыбыў на вайну, на мора, у караблях, і забраца на цэлых шэс[ц]ь месяцаў.

Цар Гвідон Саміхлёнавіч і забраўся на мора на шэс[ц]ь месяцаў са сваёй вайскóй. І праваяваў толькі ўсяго дзве нядзелі, супруга, яго жана, і радзіла пяці сыноў. На тую жа бяду шчаніла і сука пяці псоў. Ну, большая сястра Арына ад яе пяці сыноў адняла і ў бочку пасадзіла і на сіне мора ўспусціла з бочкай, а к сястрэ Настасі-Прыкрасі пяць псоў прысадзіла. А сама пісьмо напісала к цару Гвідону Саміхлёнавічу: «Цар Гвідон Саміхлёнавіч! Мая сястра, твая супруга, вазлюбленая жана, не радзіла пяць сыноў, а радзіла пяць псоў: якую прыкажаш ты прыдаць злую смерць?»

— Паслыш, Арына! — кажыць цар Гвідон Саміхлёнавіч.— Не вазможаш ты прыдаць маёй супругі вазлюбленай скорай злой смерці да майго прыходу. Ну, а калі яна не радзіла пяць сыноў, а радзіла пяць псоў, тады я вазьму, на дванаццаць каней яе на хвасты навяжу і раздзяру!

Прайшло ўрэмя яшчэ дзве нядзелі; ён на моры ўсяго прабыў цэлы месяц і пабядзіў непрыяцеля — вайску разрушыў, багатыроў пабядзіў. Дастаўся адзін няверны цар Шкарлупін з дванаццаці галавам[і]. Цар Шкарлупін прыкланіўся к яго боздрым нагам, цару Гвідону Саміхлёнавічу:

— Цар Гвідон Саміхлёнавіч! Прашу тваёй міласці: не пабядзі ты мае буйны галавы, не разрушы ты маю багатырскую сілу, не пралі гарачую кроў маю, не прабі маё рацівае серца сваім даўгамерным кап'ём! Вазьмі ты мяне ў сваё царства, буду я застаяцель за цябе!

Цар Гвідон Саміхлёнавіч атвячаіць Шкарлупіну:

— Не даю я табе міласці! Падымаю сваю вострую меч-самасеч і сымаю табе дванаццаць галоў з плеч, багатырскую сілу тваю разрушу, гарачую кроў тваю пралію, рацівае серца даўгамерным кап'ём сей мінуты праб'ю!

Сычас падымаў вострую меч-самасеч, зараз яму буйны галовы з плеч змяіных зняў, гарачую кроў праліў, рацівае серца яму прабіў сваім даўгамерным кап'ём.

Тады ідзець з-пад непрыяцеля ў свой дом. Супруга ягоная вазлюбленая ўжо аздаравела чэраз дзве нядзелі. Страчаіць яго ў варотах, мужа свайго, з хлебам і соллю, і з добрым здароўем, з золатам, з се́рабрам, з чыстым земчугам, і з нізкім паклонам і з серцам пакорным,— як ні нада і луччы быць. І ён ёй кажыць:

— Няго ж ты, супруга мая вазлюбленая, не са мной жыла, што ты не радзіла пяці сыноў, а радзіла пяці псоў?

— Муж мой наймілейшы, муж мой найлюбейшы! Не радзіла я псоў, а радзіла я сыноў, і не знаю, што нада мной падзелалася? Я была недзвіжыма — ні рукой, ні нагой не магла варохнуць!

Ён на гэта дзела не пагневаўся. Ну, пажыў з ёй нядзелю алі дзве, а ў том — колькі бог благаславіў. Яна ў другі раз забярэменела пяцьмі сынам[і]. Прахадзіла яна трыццаць дзевяць нядзель цяжолая, толькі бы нада ёй ухадзіць адну нядзелю і радзіць — наступаіць няверны цар, змей Шкарлыхаюшчы, на адных плячах васемнаццаць галоў, і ў яго дваццаць восем палкоў вайска і дваццаць восем багатыроў харабрых, магучых і прыпышных. У няверная цара Шкарлыхаюшчага дужа сіла вялікая! І штоб быў цар Гвідон Саміхлёнавіч на вайну на тры годы, на мора, у караблях, і сабіраўся б з хлебам і з соллю, і са ўсім благапалучыям сваім. Ну, цар Гвідон Саміхлёнавіч просіць нізкім паклонам, серцам пакорным Шкарлыхаюшчага:

— Будзь такі добры, Шкарлыхаюшчы! Ублагатвары ўблагатварэніям і зроб такое ўдабрэнія! Будзь ты такі добры, што дай ты мне спакою нядзелькі на дзве-на тры. Я дужа нездароў: толькі што поп выйшаў, тайнас[ц]ь прайзнасіў!

Ну, ён яму не ўвяраіць, Шкарлыхаюшчы; крычыць гулкім багатырскім галасом з сваіх з усіх языкоў са васемнаццаці і свішчыць бальшым маладзецкім посвістам з усіх сваіх са вустоў:

— Каб быў цар Гвідон Саміхлёнавіч на вайну! Не будзеш ты на вайну — горад спалю, цябе ў палон забяру і з тваёй супругай, са вазлюбленай, са Настасяй-Прыкрасяй Дзміёнаўнай, з тымі дзіцяцямі, каторыя ў чрэві! Нет табе спакою не то што на дзве-тры нядзелі, дык на два дні! Толькі чатыры часы на выбарку даю!

Гэты цар Гвідон Саміхлёнавіч абрамяніў гэтых чатыры часы,— не ўбраўся ў караблі. Няверны цар Шкарлыхаюшчы ўзяў горад запаліў. Некалі цару Гвідону Саміхлёнавічу дажыдаць, пакуліка жана родзіць. Ён тады, цар Гвідон Саміхлёнавіч, пайшоў, горад утушыў. І сабраўся тады з хлебам і з соллю, на тры гады, у караблі на вайну. Жана яго — супруга прахадзіла толькі шэс[ц]ь дней і радзіла пяць сыноў. На тое ж паветрые барзіца ашчаніла пяць барзоў. Большая сястра Арына ад яе апяць сыноў адняла, у бочку ўсадзіла, на сіне мора ўспусціла, а пяць барзянёнкаў к ёй падсадзіла. Пісьмо цару напісала, па парусам паслала: «Цару наймілейшы, цару найяснейшы! Мая сястра, твая супруга, вазлюбленая жана, Настася-Прыкрася Дзіміёнаўна не радзіла пяці сыноў, а радзіла пяці барзоў. Якую прыкажаш прыдаць ей злую скорую смерць?» — «Паслыш, Арына! Табе сказана ўпярод гэтага ўрэмені: не вазможаш ты прыдаць скорай і злой смерці маёй супругі да майго прыходу. Ну, а калі яна не радзіла пяці сыноў, а радзіла пяці барзоў, то вазьму шаўковую пятлю на шыю ўзлажу, у дзевяць сажон ад сырой зямлі-мацеры на воздусі падыму і на шаўковай пятлі ўдаўлю!»

Ну, яму гасподзь памог у скорам урэмені непрыяцеля пабядзіць, дваццаць восем палкоў разрушыць, дваццаць восем багатыроў пабядзіць, толькі дастаўся адзін Шкарлыхаюшчы са васемнаццаці галавам[і]. І ён са васемнаццаці галавам[і] прыкланіўся ка яго баздрым нагам, цару Гвідону Саміхлёнавічу:

— Прашу тваёй міласці, цар Гвідон Саміхлёнавіч! Дай спакою мне! Буду я застаяцель за цябе! Вазьмі ты мяне ў сваё царства, не пабядзі ты мае буйны галовы, не разрушы ты маю багатырскую сілу, не пралі гарачую кроў маю, не прабі маё рацівае серца даўгамерным сваім кап'ём!

Цар Гвідон Саміхлёнавіч атвячаіць Шкарлыхаюшчаму:

— Я цябе ўпярод прасіў даць мне спакою на нескалькі ўрэмя! Толькі мне даў на выбарку чатыры часы! Я не справіўся ў гэта зусім кароткае ўрэмя, і то ты мог горад мой запаліць! Табе я не даю спакою ні на адну мінуту; падымаю сваю меч вострую самасеч і сымаю табе васемнаццаць галоў з плеч! Як траву касой сакашу, так табе буйны галовы з плеч сыму, гарачую кроў тваю пралію, багатырскае рацівае серца даўгамерным кап'ём сей мінуты праб'ю!

Тады січас падымаў цар Гвідон Саміхлёнавіч вострую меч-самасеч, як цапнуў — яму зараз усе буйны галовы з плеч зняў, гарачую кроў праліў, рацівае серца прабіў. Патуль і дзела яго, Шкарлыхаюшчага, не стала!

Тады пайшоў цар Гвідон Саміхлёнавіч у свой дом з сіняга мора. Апяць жане прайшло дзве нядзелі, як яна радзіла, і сустрачаіць яго апяць тым жа чарадом у варотах, з хлебам, з соллю, з добрым здароўем, з золатам і з серабром, і з чыстым земчугам, і з нізкім паклонам і з серцам пакорным. Ён ёй тож здароў даець, супругі сваёй, і пытаіць:

— Няго ж ты, супруга, жана мая, не са мной жыла?

— Муж мой наймільшы, муж найлюбезнейшы! Знаць не знаю, ведаць не ведаю, што нада мной падзелалася? Я радзіла сыноў, а не барзоў!

— Ну, за гэтым разам прашчаю да трэцяга разу!

На гэта ж дзела ён не пагневаўся на яе, стаў жыць, як бог благаславіць.

Тады яна забярэменела трэці раз пяцьмі сынам[і]. Прахадзіла трыццаць дзевяць нядзель і тры дні, а чатыры б дні нада прахадзіць і радзіць — наступаіць няверны цар Хвёдар Тырын Бірдзібіянавіч. У яго дваццаць восем галоў на магучых плячах і дзве галавы па піўным катлу, па бальшым па піўным, як у півуварнях піва варапь. І ён крычыць крэпкім багатырскім галасом, падышоўшы па сіню мору пад гэты аград, пад цара Гвідона пад Саміхлёнавіча. Як крыкнуў і свіснуў, увесь лес павяў, і з дуба ліст пасыпаўся, і зямля скалацілася — аж у цара Гвідона Саміхлёнавіча палаты задрыжалі і шкло з вакошак павылецела ад Хвёдарава Тырына Бірдзібіянавіча галаса, ад маладзецкага бальшога посвіста. І ў яго ж войска семдзесят палкоў і семдзесят багатыроў, храбрых, магучых і прыпышных. Ну, у цара Гвідона Саміхлёнавіча дванаццаць палкоў і дванаццаць багатыроў. Крычыць:

— Каб быў цар Гвідон Саміхлёнавіч на вайну на мора, у караблях, на шэс[ц]ь гадоў, сабраўся б з хлебам, з соллю, з усім благапалучыем сваім — адтуліцька адпуску не будзіць табе!

Ён стаў прасіць, цар Гвідон Саміхлёнавіч, нізкім паклонам, серцам пакорным, Хвёдара Тырына Бірдзібіянавіча:

— Стань н[а] айцоўскім месце, благатвары благатварэніям, здзелай такое адабрэнія, будзь такі добры — дай спакою на паўтары алі на дзве нядзелі, я не магу цябе і[с]ці ваяваць, сілу тваю разрушаць: ляжу я пры смерці, нічым недзвіжым, ні рукой, ні нагой не магу варахнуць! А пісьмо пішаць табе свяшчэльнік; ён у дом ка мне зайшоў і тайнас[ц]ь божую прайзнасіў. Каб даў ты, прашу, мне спакою на нядзелю алі на паўтары!

Хвёдар Тырын Бірдзібіянавіч кажыць:

— Нет табе спакою! Даю два часы на выбарку! Калі ты не выбярэшся на караблях у два часы — горад выпалю, цябе ў палон забяру з тваёй супругай вазлюбленай, з Настасяй-Прыкрасяй Дзіміёнаўнай, і з тымі дзіцяшчамі, што ў чрэве!

Тады ён гэтых два часы абрамяніў — Хвёдар Тырын Бірдзібіянавіч узяў ды й горад запаліў, палавіну горада січас спаліў.

Некалі цару Гвідону Саміхлёнавічу жаны дажыдаць, пакуль яна родзіць, сабраўся з хлебам, з соллю, горад утушыўшы, у караблі, ваяваць непрыяцеля — на шэс[ц]ь гадоў.

Ну, супруга прахадзіла ўсяго трое з палавінай сутак і радзіла пяць сыноў; а на тую ж пропас[ц]ь кацяніла кошка чатырох кацянёнкаў. Сястра большая Арына адняла чатырох сыноў, адзін толькі дастаўся, а чатырох кацянёнкаў к ёй прысадзіла. Чатырох сыноў у бочку пасадзіла, бочку засмаліла і на сіняе мора ўспусціла — сама пісьмо напісала і к цару па парусам паслала: «Цару наймільшы, цару найяснейшы, цар Гвідон Саміхлёнавіч! Твая супруга, вазлюбленая жана, не радзіла пяць сыноў, а радзіла чатырох катоў і аднаго сына. У гэтага сына, дзяствіцелна, яствінная праўда,— ва лбу сонца, у патыліцы месяц, рукі ў золаце, ногі ў серабрэ, целяса ўсе ў дробных звёздачках. Якую ты прыкажаш прыдаць ёй скорую злую смерць?»

«Паслыш, Арына! Табе раз казана, і два, і трэці раз кажу: не вазможаш ты прыдаць скорай і злой смерці яе, маёй жаны, да майго ўзварота! Я сам пры смерці стаю,— на вадзяным пуці, пры храбрым магучым багатыры, пры Хвёдары Тырыне Бірдзібіянавічу! Вот, Арына! Прыкажыце свяшчэльнікам у дом мой — белакаменныя палаты, пры[йс]ці, кшчэння даць, а імя я й сам яму наракаю, свайму любезнаму сыну: Іван Гвідонавіч!»

Свяшчэльнікі ў дом яго прыйсхадзілі, малітву супругі яго прачыталі, святое кшчэнне маладзенцу далі. Цар Гвідон Саміхлёнавіч караблі Хвёдара Тырына Бірдзібіянавіча пазатапіў, у чацвера сутак пабядзіў усю яго вайску, толькі астаўся адзінраз'ядзін, як перст, Хвёдар Тырын Бірдзібіянавіч. Цар Гвідон Саміхлёнавіч бярэць сваю меч-самасеч і кап'ё, наступаіць на Бірдзібіянавіча. Хвёдар Тырын Бірдзібіянавіч прыкланяецца дваццаці васьмі галавам[і] ка баздрым ка нагам цара Гвідона Саміхлёнавіча і просіць яго нізкім паклонам і серцам пакорным як ні нада на свеце і луччы быць:

— Дай спакою! Будзь ты большы брат, а я меншы, і буду я заступацель за цябе, як сам за сябе!

Ну, цар Гвідон Саміхлёнавіч атвячаіць:

— Нет табе спакою ні на адзін час!

І бярэць вострую меч-самасеч і кап'ё, і махнуў ён, цар Гвідон Саміхлёнавіч, вострай меччу-самасеччу па яго па буйных галовах, і ён ядзіна як траву касой сакасіў, так вострай меччу-самасеччу дваццаць восем галоў з плеч збіў.

Прайшло тады дванаццаць часоў, як супруга яго радзіла, а ён у дом свой прыйшоў. І ляжыць яна нічым недзвіжыма — ні рукой, ні нагой не можаць варахнуць, і з сынам сваім Іванам Гвідонавічам. І ён рассярчаў за гэтым за трэцім разам, што не радзіла пяць сыноў, а радзіла аднаго сына, і толькі, дзяйствіцелна, паказала, што прыўкраснага сына радзіла: ува лбе сонца, у патыліцы месяц, рукі ў золаце, ногі ў серабрэ, цела ўсё ў дробных звёздачках. Цар Гвідон Саміхлёнавіч вялеў даставіць бочку бальшую сваім слугам верным. Дасталі бочку і палажылі ў яе Настасю-Прыкрасю і з сынам яё, пастнавілі ўсякай ежы і ўсякіх выпівак і напіткаў; і палажыў туды цар Гвідон Саміхлёнавіч золата і серабра, і закубрылі, зялезным[і] абручам[і] яе аббілі. І казаў карабельшчыкам на мора адця[г]нуць за тысячу вёрст і пусціць на сіняе мора. Карабельшчыкі так і здзелалі, як ім было прыказана.

Івану Гвідонавічу споўнілась дваццаць чатыры часы — суткі, і ён у такім у возрасце становіцца як дваццаць пяць гадоў добры маладзец. І разгаварываіць з мацер'ю гласным рачам:

— Што,— кажыць,— мамінька?

— А што,— кажыць,— дзіцятка?

— Вот што, мамінька, калі б наша бочачка на беражок ускацілася, на сухапуцце!

Не ўспеў ён гэта дзела і сказаць, бочка на беразе стаіць. І ён чуіць, што валной не качаіць бочку, апяць жа к мацеры кажыць:

— Што,— кажыць,— мамінька?

— А што,— кажыць,— дзіцятка?

— Калі б наша бочачка разляцелася і зялезныя абручы каб папокаліся!

Не ўспеў жа ён гэта дзела і сказаць — гэта бочачка ў груду ляжыць. І маць яго здарова стала, станавілась на сваіх нагах.

Паглядзяць: яны для аграду царскага — для цара Гвідона Саміхлёнавіча, для саду стаяць. Яны [ў]ваходзяць у гэты ўва

град — на пажарнае памесце, на гарушку. Яму палюбілась гэта пажарнае памесце: відзяць і айцоўскія белы-каменныя палаты і сад-вінаград. Ён і кажыць:

— А што, мамінька!

— А што,— кажыць,— дзіцятка?

— Калі б выстраілісь белакаменныя палаты, дванаццаціітажовыя, з разным выпіскам, з усякім вінаградам, з усякім разнасцям і ўсякім птушкам!

Выстраіўся яму сад-вінаград і дварэц — белакаменныя палаты дванаццаціітажовыя і ўсё тое, што ён мацеры казаў. Ён з мацер'ю сваёй у гэты белакаменныя палаты ўступаіць і жыць зачынаіць.

Паглядзіць Іван Гвідонавіч у вакошачка — дажджок буйны ідзець. Ён мацеры сваёй кажыць:

— Што,— кажыць,— мамінька?

— А што,— кажыць,— дзіцятка?

— Дык каб вылажыўся б мост на дванаццаць вёрст: залатая маснічынка, сярэбраная маснічынка, залаты гваздок, сярэбраны гваздок!

Не ўспеў жа ён гэта дзела і сказаць — січас тутацька такі мост і ёс[ц]ь. Па гэтым масту ідуць утрох карабельшчыкі — друг на дружку аглядаюцца і рассміхаюцца.

— Вот,— кажуць,— як наш цар Гвідон Саміхлёнавіч зачаў хварсы хварсіць, золатам і серабром масты мосціць, а чэр душыць трап'ём ды чарэп'ем!

Яны пад гэты палаты падходзяць, прыглядаюцца, дзверы ў палаты адчыняюць і ў палаты цара Івана Гвідонавіча ўступаюць.

— Здароў,— кажуць,— парань!

— Здароў, братцы-карабельшчыкі!

— Што, парань, ці тут цар жывець?

— Не, братцы-карабельшчыкі, тут не цар жывець, а наследнік царскі!

— Ну, пайдзём, рабяты, к цару! — кажуць карабельшчыкі.

А Іван Гвідонавіч кажыць:

— Сядзьце, братцы-карабельшчыкі, пасядзіце са мной, з малодым пахлапачыце, салодкага піва іспейце, з усякіх напіткаў іскусіце, золата і серабра ад мяне прыміце, са мной гаворкі развядзіце!

Ён з імі ўрэмя праваждаў, пасядзеў і з імі гаворкі добрыя меў:

— Буду я вашай міласці цяпер прасіць, братцы-карабель-

шчыкі! Пойдзеце вы к цару, будзіць у вас цар дапытвацца: што вы, братцы-карабельшчыкі, па белу свету хадзілі, па сінім марам, па вадзяным пуцям, па зялёным лугам, па чыстым палям,— якога дзіва ці не відзелі? Братцы-карабельшчыкі, прашу я вас, атвячайце цару маім славясам, як я вам кажу!

Карабельшчыкі пайшлі к цару Гвідону Саміхлёнавічу. У белакаменныя палаты ўступаюць, цар іх сустрачаіць з хлебам і з соллю, з добрым здароўем, крэслы падстнаўляіць і іх сажаіць; проміж іх і сам садзіцца і разгаварываіць. І Арына — большая сястра тута.

Іван Гвідонавіч абярнуўся сызым галубком, падле́цеў пад вакошка к айцу свайму і слухаіць. Стаў цар Гвідон Саміхлёнавіч у карабельшчыкаў пытаць:

— Што, братцы-карабельшчыкі, я ў вас буду дапытываць: вы па белу свету хадзілі, па сінім марам, па вадзяным пуцям, па зялёным лугам, па чыстым палям,— якога дзіва ці не відзелі?

Яны адказываюць:

— Ніякага дзіва мы ў протчых старанах не відзелі, апрыч таго, як у вашым ва градзе!

— Што ж за дзіва такое ў нашым ўва градзе? — пытаіць цар Гвідон Саміхлёнавіч.

— Як жа не дзіва! Чэраз тры часы ўрэмені не было нічога дзіўнога, а цяперыцька выбудаваліся белакаменныя палаты, дванаццаціітажовыя, з усякім выпіскам, з усякім разным разнасцям, з усякім птушкам, і сад-вінаград уявіўся, і дварэц, і дужа-дужа палаты прыгожыя. Ну, у тых у палатах дужа парань прыўкрасны: усе палаты асвячаіць красным сонцам, ясным месяцам, і золатам, і серабром, і чыстым земчугам. Кала гэтых жа палат вылажыўся мост на дванаццаць вёрст — залатая маснічына, сярэбраная маснічына, залаты гвозд, сярэбраны гвозд!

Тады січас і кажыць Арына:

— Што, братцы-карабельшчыкі, нічога тутака дзіўнага нетуці, што палаты прыгожы, і парань прыўкрасен, і сад-вінаград, і мост на дванаццаць вёрст! Вот,— кажыць,— цару наймільшы, цару найяснейшы, цар Гвідон Саміхлёнавіч, ёс[ц]ь дзіва — дык із дзіваў дзіва: неўкатарам-та царстве, неўкатарам гасударстве, можа і ў том, у каторам мы жывём, стаіць дуб Litарадуб у дванаццаць абхватаў. На тым дубу дванаццаць сукоў, на кажыным суку па дванаццаць карабоў, у кажным карабу па дванаццаць братоў, у кажынага брата па дванаццаць сыноў, у кажынага сына па дванаццаць званоў, на кажыны жа звон па дванаццаць

усякіх птушак. Малайцы пяюць, салоўі іграюць, дробны птушкі шчабечуць, званы звоняць — не адслухацца!

Царскі сын Іван Гвідонавіч чуіць гэты разгавор, што цётка Арына пра дуб дзіва гаварыла. Ён прылятаіць к мацеры, маць у яго і пытаіць:

— Што, дзіцятка, ці казалі карабельшчыкі, як ты ім адказуваў?

— Як жа, мамінька, карабельшчыкі адказувалі маім славясам, а цёцінька Арына, каторая нас із свету звадзіла, пра дуб дзіва гаварыла. Вот калі б нам такое дзіва пад вышнія вакошачка і усякім прыметам!

Не паспеў жа ён гэта і сказаць — уз'явіўся такі жа дубок пад вышнія вакошачка: малайцы пяюць, салоўі іграюць, дробны птушкі шчабечуць, званы звоняць — не адслухацца.

Ідуць карабельшчыкі ўчатырох, друг на дружку аглядаюцца і рассміхаюцца; пад палаты падходзяць, разглядаюць, дзверы адчыняюць, у палаты ўступаюць і здароў даюць:

— Здрастуй, парань!

— Здрастуйце, братцы-карабельшчыкі!

— Ну што, парань, ці тут цар жывець?

— Не, братцы-карабельшчыкі, тут не цар жывець, а наследнік царскі жывець!

— Дык пойдзем, рабяты, к цару!

— Сядзьце, братцы-карабельшчыкі, пасядзіце, са мной са маладым пахлапачыце, хлеба і солі іскусіце, з усякіх напіткаў іспіце, золата і серабра ад мяне прыміце!

Ён іх напаіў і накарміў, золатам і серабром надзяліў.

— Цяпер, братцы-карабельшчыкі, буду я вас прасіць: пойдзеце ж вы к цару, будзіць у вас цар распытуваць: што вы па белу свету хадзілі, па сінім марам, па вадзяным пуцям, па зялёным лугам, па чыстым палям,— якога дзіва ці не відзелі? Вы ж атвячайце маім славясам!

Яны к цару прыходзяць, у белакаменныя палаты ўступаюць. Цар іх сустрачаіць з хлебам з соллю, з добрым здароўем, стулле падстнаўляіць і іх сажаіць; праміжды іх сам садзіцца і распытуваіць:

— Што вы, братцы-карабельшчыкі, па белу свету хадзілі, па сінім марам, па вадзяным пуцям, па зялёным лугам, па чыстым палям,— якога дзіва ці не відзелі?

А Іван Гвідонавіч абярнуўся сызым галубком, падляцеў пад вакошка, пад карніз, у дом к айцу свайму, і слухаіць. Карабельшчыкі адказываюць:

Мы па белу свету нідзе такога дзіва не відзелі, як у вашым ўва градзе!

— А што ж там за дзіва?

— Як жа не дзіва: што чэраз трое сутак назад не было нічога, а цяпер выбудаваліся белакаменныя палаты, дванаццаціітажовыя, з усякім выпіскам, з усякім разнасцям, і сад-вінаград, і мост на дванаццаць вёрст, і стаіць дуб Старадуб у дванаццаць абхватаў; на дубу тым дванаццаць сукоў, на кажыным суку па дванаццаць карабоў, у кажыным карабу па дванаццаць братоў, у кажынага брата па дванаццаць сыноў, у кажынага сына па дванаццаць званоў, на кажыны звон па дванаццаць усякіх птушак: малойцы пяюць, салоўі іграюць, дробны птушкі шчабечуць, званы звоняць — не адслухацца!

Тады кажыць Арына:

— Няго ж вы, братцы-карабельшчыкі, па белу свету хадзіўшы, харошага трахціру алі кабака не відзелі і рандара прыўкраснага парня маладога не відзелі? Тут нічога дзіўнага нетуці! А няго ж вы, па белу свету хадзіўшы, і маста не відзелі, алі дуб'я такога не відзелі ў дванаццаць абхватаў? Тут нічога дзіўнага нетуці. А вот,— кажыць Арына,— цару наймільшы, цару найяснейшы, ёс[ц]ь дзіва, дык із дзіваў дзіва: неўкатарам-та царстве, неўкатарам-та гасударстве, толькі не ў том, у каторым мы жывём, на трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зямліцы, за сінім[і] марам[і], за шчырым[і] барам[і], у зялёных лугах гуляюць чатырнаццаць малойцаў, не п'юць, не ядуць і нічым сыты бываюць, прахлажаюцца, на сябе нічога на свеце не спадзяваюцца,— і голас у голас, і волас у волас, ліцо ў ліцо — адным словам, як адзін. І ў іх чатырнаццаць каней гуляіць, залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка, залаты капыт, сярэбраны капыт, з наздзёр жар сыплецца, со́ рта полынь шубаіць, у левае вуха ўлязаць — умывацца, у правае ўлязаць — наражацца, у самацветнае плацце, у драгацэннае!

Прыляцеў к мацеры Іван Гвідонавіч, маць у яго і пытаіць:

— Ну што, дзіцятка, ці казалі карабельшчыкі тваім славясам?

— Як жа ж, мамінька, карабельшчыкі казалі маім славясам, але цёцінька Арына пра чатырнаццаць малайцоў гаварыла. Вот, мамінька, каб тых чатырнаццаць малайцоў ка мне к пятнаццатаму — пажыў бы я ўрэмечка! Вот, мамінька, ці не родныя гэта братцы мае?

Не ўспеў жа ён гэта дзела і сказаць — такі конь пад вышнім вакошкам — пад балхонам і стаіць! Ён тады пераксціўся і

з мацер'ю распрасціўся, на добрага каня садзіўся і паехаў на трыдзевятае царства, на трыдзесятую зямліцу, за сінія мара, за шчырыя бары — у зялёныя прыязджаіць лугі к братцам сваім. Конь шпарка бег, не мог сам сябе ўздзяржаць, мог на калені прыпадаць. Іван Гвідонавіч мог з добрага каня ссідаць і мог ён перад чатырнаццаці братамі на каленках стаць:

— Здароў, братцы мае родныя, Гвідонавічы!

— Здароў, здароў, Іван Гвідонавіч, брацец наймільшы, брацец найлюбейшы! Як цябе гасподзь сюды занёс: алі добры конь завёз, алі ты сам маладзец сюды зайшоў?

— Братцы мае найлюбезныя! Мяне гасподзь нёс і добры конь вёз, і я, добры маладзец, сам ішоў. Прашу я вас, братцы мілыя, на сваю старану ўзвараціцца, к айцу і к мацеры сваёй. Я не ў айцоўскіх палатах пражываю, па господняму благаславенню і па господняму страенню, і ў мяне выбудаваліся дванаццаціітажовыя палаты, з усякім выпіскам, з усякім вінаградам, з усякім[і] пціцам[і], і дварэц, і сад-вінаград; і вылажыўся мост на дванаццаць вёрст, кала маста каменныя палаты, і дуб стаіць з усякімі прыметамі і з усякімі харошымі разнасцямі!

— Брацец наш наймілейшы! — атвячаюць яму ўсе браты. — Ніяк нам няможна на родную старану сваю светлых воч сваіх аказаць!

— Пачаму жа так?

— А вот, у нас вусты чорныя, што мы грудзі мацеры не пробавалі! Даём мы табе каня пераменнага: едзь ты к мацеры,— каб маць здзелала із грудзі тваражку, хуць бы з курынае яйцо!

Ён сеў на добрага каня і паехаў у дом свой, к мацеры сваёй. Маць заплакала слёзна:

— Што ж ты, сын мой любезны, адзін прыехаў, а тых протчых сыноў не прывёз?

Іван Гвідонавіч атвячаіць:

— Няможна, мамінька, ім сваіх светлых вачэй паказаць на родную старонку: іхныя вусты чорныя, адтаго што грудзей мацеры не пробавалі. Прасілі цябе, каб ты здзелала із грудзей сваіх тваражку, хуць з курынае яйцо!

Тады яна давай сама сябе парушаць і даіць. І малако капіць. І здзелала камок тваражку — без чэцверці два хунта — у трое сутак. У хустачку ўвязываіць, падаець яму і прыказываіць:

— Глядзі ж, сынок, раздзялі, каб усім была пораўні!

Ён сеў на добрага каня і паехаў. У пяць часоў мог туды да-

ляцець, к братам сваім. Браты падбеглі, добрага каня ўдзяржалі і яго з каня знялі. Ён тваражок раздзяліў на чатырнаццаць далей — як па курынаму яйцу кажнаму брату. Із'елі яны гэтага тваражку, сталі вусты іхныя белы і чысты, як і ў яго. Тады садзілісь усе пятнаццаць малайцоў, родных братоў, на добрых канёў і паехалі на радзіцельскую старану, к сваёй мацеры і айцу.

Прыехалі яны ўва град к белакаменным братнім палатам і пастнавілі каней кругом гэтых палат. Самі яны са добрых каней злязалі, у белакаменны палаты ўступалі і мацеры здароў давалі. Маць ад радасці спужалася: ні жыва, ні мёртва стала і з ног упала. Яны яе на руках паднялі і скалыхнулі і вады ў вочы плїснулі.

— Што ж ты, маменька, так спужалася і ўрабела? Не пужайся і не рабей: мы не воры, не разбойнічкі, а вазлюбленыя тваё сыночкі — сільныя, магучыя, прыпышныя багатырочкі!

— Няго ж вы, дзеткі, усе мае?

— Дзяйствіцельна, маменька, усе твае!..

Тады яны ўсе сталі піць і гуляць і ў карты іграць, прахлажацца, на сябе нічога на свеце не спадзявацца.

У скорым урэмені Іван Гвідонавіч у вакошачка глядзіць і відзіць, што коні іхныя многа ўрону дзелаюць добрым людзям: іртом зяўнець — агнём пякець, капытом тапанець — да смерці б'ець, хвастом батнець — за сто сажань чалавека драбней маку ссякець! Іван Гвідонавіч кажыць сваёй мацеры:

— Вот, маменька, каб нам канюшанку каменную, вокала залатую, крыша драгацэннага камня, на нашых на багатырскіх на добрых каней на пятнаццаць, і засыпалась ба ім па сто чацвярцей аўсяца ў дзень на кажынага каня, і залажылась ба ім па сто пяцьдзесят пудоў сенца, і залівалась ба ім вадзіцы па дзвесце вёдзер на кажынага!

Не ўспеў жа ён гэта дзела і сказаць, як канюшня і стаіць. І коні пайшлі па мястам, па станкам; аўса засыпалася, сена залажылася і вады залілася.

Ідуць карабельшчыкі ўшасці. У гэты палаты заходзяць, дзверы адчыняюць, у палаты ўступаюць. Як узглянулі гэты карабельшчыкі на пятнаццаць малайцоў, родных братоў, сільных, магучых, прыпышных багатыроў,— так у іх ногі і адзервянелі, языкі акасцянелі, не могуць абараціцца ўва рту; вочы астаўбянелі, не маглі ўзглёнуць — і прыхінулісь яны к сцяне плячам[і]. Іван Гвідонавіч з застолля выхадзіў і з імі разгавор меў:

— Што вы, братцы-карабельшчыкі, так вочынна пужаецесь

і рабееце? Не пужайцесь і не рабейце! Тут не вары, не разбойнікі, а сільныя, магучыя багатырочкі — царскія сыночкі. Прашу я вас: пойдзеце вы к цару Гвідону Саміхлёнавічу, аб'явіце яму, што з усяго белага свету ў яго град дзіва прыйшло!

Пайшлі яны к цару Гвідону Саміхлёнавічу ў белакаменныя палаты. Цар іх сустрачаіць з хлебам і з соллю, з добрым эдароўем, стуллё ст[а]наўляіць і іх сажаіць; проміж іх сам садзіцца і разгавор меіць. А Іван Гвідонавіч сваім чарадом абярнуўся сызым галубком і пад вакошкам слухаіць.

— Што вы, братцы-карабельшчыкі: вы па белу свету хадзілі, якога дзіва ці не відзелі?

Карабельшчыкі адказываюць:

— Мы па белу свету нідзе такога дзіва не відзелі, як у вашым ува градзе!

Гвідон Саміхлёнавіч атвячаіць:

— У трэці раз чую, што ў мой ува град усё дзіва прыйшло! Што ж такое за дзіва?

— Як жа ж не дзіва,— адказываюць карабельшчыкі,— што чэраз дванаццаць сутак не было нічога, а цяпер выбудавалісь палаты, сад-вінаград, вылажыўся мост на дванаццаць вёрст, з'явіўся дуб Старадуб з усякім разным прыметам і выстраілася канюшня камяна́я, вокала залатая, крыша драгацэннага камня, і ў тэй канюшні пятнаццаць каней, у тых жа канях залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка, залаты капыт, сярэбраны капыт, з наздзёр жар сыплецца, со́ рта полынь шубаіць, у праваe вуха ўлязаць — наражацца, у левае ўлязаць — умывацца! Ну, палаты ж харашы, харашы, а ў тых палатах парні — дужа прыўкрасны, пятнаццаць малайцоў, родных братоў, сільных, магучых, прыпышных багатыроў. У іх ува лбах сонца, у патыліцах месяц, рукі ў золаце, ногі ў серабрэ, целяса ўсе ў дробных звёздачках; яны п'юць і гуляюць, ні на вошта на свеце не ўпаваюць!

Тады бярэць цар Гвідон Саміхлёнавіч трох інаралаў і трох аквітантаў — не стаў ніякай гаворкі мець з Арынай — і пайшоў гэтага дзіва паглядзець — сам сёмы. Па масту ідуць — усміхаюцца, пад дуб падходзяць — прыслухаюцца, пад канюшню падходзяць — прыглядаюцца, к белакаменным палатам падходзяць — любапыствуюцца. Тады дзверы адчыняюць і ў палаты ўступаюць. Узглянуў цар Гвідон Саміхлёнавіч на гэтых на сваіх на родных сыноў — разудалых малайцоў,— ён спужаўся, з ног зваліўся, няжыў стаў. Іван Гвідонавіч кажыць:

— Вазьміце, братцы, айца, на руках ускалыхніце, вады ў

вочы ўспліхніце! Што ж ты, цяцінька, так пужаешся і рабееш? Мы не воры, не разбойнічкі, а вазлюбленыя твае сыночкі — сільныя, магучыя багатырочкі!

— Скажыце ж вы мне яственную праўду: дзе Іван Гвідонавіч і маць ваша?

— Вот,— кажуць,— цяцінька, Іван Гвідонавіч на лаўцы сядзіць — ён у нас большым — і маць кала яго!

Протчыя браты кажуць:

— Што ты, Іван Гвідонавіч, не падайдзеш к айцу свайму?

А ён адказываіць:

— Не дастоін я к айцу падхадзіць і буйнай сваёй галавы схінуць, а дастоін ацец мне дванаццаць паклонаў аддаць!

— Пачаму ж так, каб ацец наш буйнай галавой хінуўся — паклоны даваў?

— А вот,— кажыць,— пачаму, што я айца свайго ў бочку не садзіў і на сіне мора не пушчаў, а мяне ацец з мацер'ю ў бочку пасадзіў і на сіне мора ўспусціў. Вот пачаму даўжон ён мне дванаццаць паклонаў іздаць, а мацеры дзевяць паклонаў!

Цар Гвідон Саміхлёнавіч к Івану Гвідонавічу падступаў і дванаццаць паклонаў іздаў. А жане сваёй толькі тры паклоны іздаў — Настасі-Прыкрасі Дзіміёнаўне: шэс[ц]ь паклонаў яна яму аслабаніла.

Тады Гвідон Саміхлёнавіч Івану Гвідонавічу кажыць:

— Вазьмі ты, сын мой вазлюблены, сваю цётку Арыну, каторая вас з свету звадзіла, навяжы яе на дванаццаць на конскіх хвастоў і раздзяры яе: першы гэта смерць даставалась вашай мацеры!

— Не, цяцінька, вялі сваім верным слугам даставіць Арыну сюды; а я з камяной канюшні прыкажу ім, каням сваім, каб стаялі ціха, змірна і спакойна!

Даставілі Арыну сюды. Вялеў Іван Гвідонавіч выступіць сваім добрым каням із канюшні, прыказаў стаяць ціха, змірна; вялеў слугам навязаць на хвасты цёціньку Арыну. І навязалі яе на дванаццаць хвастоў. Тады вялеў Іван Гвідонавіч народу аддаліцца ад гэтых каней, тады казаў, штоб гэты коні страпянулі хвастам[і]. Разляцеліся костачкі Арыніны драбней дробнага маку! І дзела не стала, і коні пайшлі па станкам, па сваім мястам. Тады цар Гвідон Саміхлёнавіч не пайшоў у свае старыя белакаменныя палаты жыць, а стаў у Івана Гвідонавіча жыць, пажываць. І аддаў сваю каруну царскую Івану Гвідонавічу і надзяліў яго. Іван Гвідонавіч стаў жыць ды пажываць ды ўсім царствам павелявань.

## 64. ДУБ ДАРАХВЕЙ

Жыў дзед ды й баба. Было ў іх тры дачкі. Баба, узрасціўшы дачок, узяла ды й памёрла, а дзед жаніўся на другей, маладэй княгіні. Як мачыха не родная мамка, дык яна неўзлюбіла сваіх падчарак і кажаць дзеду:

— Вязі сваіх дачок ліба ў лес, ліба ў ваду, ліба ў чыстае поле, а не то я сама сябе звяду со́ свету!

Жалка дзеду дачок, жонкі ж яшчэ горшы жальчэй. І паслухаўся ён яе — не ўзяў свайго розума; і кажаць ён дачкам:

— Ну, дачушкі, вазьміце вы карзінкі, а я тапор, і пойдзем мы ў балота!

Як прыйшлі яны ў балота, ён ім гаворыць:

— Вы, дочары мае любімыя, бярыце ягадкі на гэтай баравінке, а я пайду на тую баравінку лучыначку сеч!

Вот ён адышоў ад іх так, штоб ім не было відна; тады ўзяў сасновую досачку ды прывязаў к белай бярэзінке, а сам скарэй на каня ды й паехаў дамой, штоб серца горшы не ныла па родным дачушкам, ды штоб яны яго не заспелі. Досачка ж тая лясь ды лясь! па бярэзінкі, і яны кажуць:

— Во, наш татулька ўсё лучыначку сякець!

Ды бяруць, бяруць ягадкі. Бралі яны, бралі, пакуліцька спасцігла іх цёмная ночка. Тады большая сястра кажаць:

— Пойдзем, сястрычкі, к таткі: знаць, ён пра нас забыўся!

Прыйшлі яны к таму месту, дзе ляскала досачка, аж там нікога нетуці! Заплакалі, залілися яны гаручымі слязам[і]. А большая сястра гаворыць:

— Ну, прыйшла наша смяротка! Неўзлюбіла нас ліхая мачыха: заставіла яна нашага татку са свету нас зжыць. А ён сам не захацеў на вум нас настаўляць ды прывёз у гэты лес!

Сярэдняя ж кажаць:

— Пойдзем лепшы пад зялёную сосенку, з'ядзім хлебца, што ў нас у мяшочку, тады пойдзем далей — авось куды-ліба прыдзем.

Найшлі яны бальшую сосенку, селі пад ёй і сядзяць. Як стала ім дужа [абідна] на радзімага татку, што ён паслухаўся злэй мачыхі і звёз іх, родных дачок сваіх, на згібель у цёмны бор, як заплакалі, як залілісь яны буйным[і] гаручым[і] слязам[і]! Плакалі яны, плакалі, пакуліцька ад іх буйных чыстых слёз пайшлі рэкі на ўсе чатыры стараны.

І дайшла адна рака да царскага-гасударскага дома. Устаець у тое вутра цар раненька, умываецца бяленька, моліцца богу

шчырэнька і выходзіць на балхвон. І відзіць ён раку, што ўчора і слухо́м было не слыхаць, і відом не відаць. Цар ні здзівуецца на гэту раку. І захацеў ён узнаць, адкуліцька яна цякець. Сазываець ён сваіх верных слуг і прыказываець ім:

— Слугі мае верныя, слугі мае добрыя! Ідзіце вы па беражку гэтай ракі да самага тога места, адкуліцька яна цякець,— і хто там ёс[ц]ь — ці пень, ці калода, ці чалавек, ці пташка, ці звер, ці букашка,— вядзіце сюды ка мне!

Ішлі тыя слугі ці многа, ці мала, ці доўга, ці каротка, а дайшлі да сасёнкі. І ўвідзелі пад ёй трох красных дзявіц, трох родных сястрыц.

— Ну,— кажуць,— дзявіцы-красавіцы, мы возьмем вас у царскі дом! Так нам цар прыказаў!

Дзявіцы ім спакарыліся. Прыйшоўшы к цару, нізенька пакланіліся. Цар іх пытаець:

— Якога вы роду, якога вы племені?

Яны тады гавораць яму:

— Простага мы роду і племені! Неўзлюбіла нас ліхая мачыха і заставіла яна нашага роднага татку звясці нас у цёмны бор. А мы тамацька дужа прыбядзніліся, расплакаліся, растужыліся, і пайшлі ад нашых буйных слёз рэкі на ўсе чатыры стараны!

Па[г]лядзеў на іх цар, а тыя дзявіцы такія прыгожыя, што ні ў сказцы сказаць, ні пяром напісаць. Цар і кажаць:

— Вы дзявіцы, а я холаст: якая із вас праварней, тую і замуж вазьму!

Большая на гэта яму атвячаець:

— А калі дасі мне, цар-гасудар, адно пшанішнае зярэшка, дык я ўсё тваё царства пракармлю!

Сярэдняя ж гаворыць:

— Я аднэй ніткай усё царства шаўковай адзёжай надзену!

Пасля за ўсіх пытаець цар у малэй:

— А ты ж чым праворна і разумна?

Яна яму атвячаець:

— Цар наш найяснейшы, айцец наш наймілейшы! Я й не вумна і не дурна: а калі возьмеш мяне замуж, дык я дванаццаць сыноў спараджу — голас у голас, волас у волас, пахводка ў пахводку, гаворка ў гаворку, ліцом як адзін; па калена ў золаце, па пояс у серабрэ, ва лбу ясён месяц, у патыліцы дробны звёздачкі, па віскам красна солнышка!

Цар стаў думаць-гадаць ды савет з князям[і] дзяржаць. І парашыў ён жаніцца на малэй. А тых надзяліў зямлёй і ўсякім багацтвам.

Жылі яны ні многа, ні мала, а знаць тры гадá. Царыца стала бярэменна. У гэту ж пору-ўрэмечка спанадабілась цару іці вайной у чужыя далёкія землі. Паехаў ён, а царыца тутацька радзіла дванаццаць сыноў: голас у голас, волас у волас, пахводка ў пахводку, гаворка ў гаворку, ліцом як адзін; па калена ў золаце, па пояс у серабрэ, ва лбу ясён месяц, у патыліцы дробны звёздачкі, па віскам красна солнышка. Большыя сёстры ўздумалі тады іх з маткай страціць. Падкупілі яны на гэта бабку-пупарэзніцу. Ды слугі царскія не дапусцілі тую бабку, а царыцу з сынам[і] берaглі, як свой глаз ва лбу. І паслалі яны ■ цару ганца ■ пісьмом, што бог даў гэдакую радас[ц]ь. Ішоў гэты ганец цэлы дзень, пакуль не спасцігла яго цёмная ночка. Тады стаў ён нашлегу сабе іскаць і папаў к большай сястры. Яна ўзнала, хто ён такей, і стала казаць:

— Начуй у нас, мілы гос[ц]ь! Ды ці не вытапіць табе лазню; ты б ■ дарогі папарыўся!

Старык сагласіўся. Палажыў пісьмо за бажніцу, а сам пайшоў у лазню. Вот, як пайшоў ён у лазню, яна ўзяла, прачытала тое пісьмо і напісала к сярэдняй: «Сястрычка родная! Спарадзіла наша мілая сястра, як гаварыла! А мы напішам цару, што радзіўся ў яго ні жук, ні жаба, ні паўзучая лягуха; ні йдзець, ні паўзець, ні сквярэцца, ні пяець! Тады ён вяліць яе страціць і жэніцца на якей-ліба з нас!» Прыйшоў ганец з бані, павячэраў і лёг спаць. Пераначаваў, а назаўтра ўстаў раненька, умыўся бяленька, памаліўся богу шчырэнька і пайшоў апяць у пуць-дарожаньку. Ішоў ён да самай цёмнай ночанькі; а як спасцігла яго ноч, ён і заначаваў у сярэдняй сястры. Гэта так, як і большая, распытала яго пра ўсё і затапіла лазню. Ён пайшоў у лазню; яна ж тым часам прачытала пісьмо сястры, сажгла тое, што пісалі к цару, а заместа яго напісала, як казала ёй большая сястра. І яшчэ прыбавіла: «Такую сквер твая жонка радзіла, што ні ў басні збаіць, ні ў сказкі сказаць, ні людзём паказаць!» Заклеіла яна гэта пісьмо і палажыла за бажніцу. Прыйшоўшы з бані, ганец павячэраў і лёг спаць. Пераначаваў, а назаўтра, устаўшы раненька, умыўшысь бяленька, памаліўшысь богу шчырэнька, апяць адправіўся ў дальні пуць. [І]шоў ён, [і]шоў, дайшоў да цара і падаў яму пісьмо. Цар прачытаў і зжахнуўся: «Божа мой, божа! Як гаварылася, а як спарадзілася!» Думаў ён, гадаў ён і напісаў: «Хто там урадзіўся — ці жук, ці жаба, ці сквер якая — аставіць да майго прыхода, да майго прыезда!» Пайшоў ганец з гэтым прыказам узад і прыходзіць ён на ноч к сярэдняй сястры. Яна, як і першы раз, вялела вытапіць яму

баню. Ён пайшоў туды, палажыў царскі прыказ у бажніцу. А яна ўзяла, прачытала ды сажгла, а на тое места напісала, штоб іх, добрых маладцоў, січас сказнілі. Прыйшоў ганец з бані, павячэраў і лёг спаць. На другей дзень апяць пайшоў далей. [І]шоў ён да позняй ночанькі і заначаваў у большай сястры. І ў ёй стапілі яму баню. Пайшоў ён у баню, дык яна прачытала тое пісьмо ды й прыбавіла: штоб адзінаццаць сыноў зашылі ў кожаны мех, а царыцу з малым сынам засадзілі ў смаляную бочку і спусцілі ўсіх на сінё мора.

Прыйшоў ганец з гэтым прыказам у царскі горад. А горад так і сіяець ад іх, добрых маладцоў! І князі, і баяры на іх не ўзлюбуюцца і царскаму прыказу не здзівуюцца! Ды дзелаць нечага: воля царская — воля божая: спаўняць яе нада! Узялі яны адзінаццаць сыноў зашылі ў кожаны мех, а малага з маткай усадзілі ў бочку, засмалілі і спусцілі ўсіх на сінё мора.

Ды зміласаваўся над ім[і] бог і паслаў павецер'я: той мех не тонець, а плывець. І прыплыў ён у трыдзевятую зямлю, у трыдзесятае царства. У гэтым царстве быў дуб Дарахвей на дванаццаць караклей, на самым беражку сіняга мора. І ёс[ц]ь у таго дуба бальшое дупло.

Вот старшы брат кажаць:

— Братцы мае мілыя, братцы радзімыя! Даець нам бог гуляння-аддыхання: разарвём мы мех і выйдзем на волюшку!

Яны ж яму атвячаюць:

— Не разарваць нам, брацітка, гэтага мяха!

— А,— кажаць,— нас маць спарадзіла — на шчасце благаславіла,— благаславім жа і мы адзін другога!

Благаславілі яны друг дружку раз, другей ды й трэці. І як панатужыліся, панасіліліся яны за трэцім разам, дык разляцеўся той мех на дробныя кусочкі! Выйшлі яны, добрыя маладцы, на крутэй беражок, увідзелі дуб Дарахвей на дванаццаць караклей і залезлі ў яго дупло.

Царыца ж з малым сынам плавала па мору тры дня і тры ночы. На чацвёрты дзень сын кажаць:

— Ну, радзімая мамка, чую я, што мы к востраву прыбіліся: як бы нам з бочкі выбрацца?

— Не, дзіцятухна,— гаворыць царыца,— дзе нам разбіць гэдакую бочку?

— І, маць мая родная! Ты мяне спарадзіла — на шчасце благаславіла,— благаславі ж і цяпер!

— Бог благаславіць, і я благаслаўлю!

— Благаславіла ж раз — благаславі і другей!

Яна і другей благаславіла.

— Благаславіла другей — благаславі і трэці!

І трэці благаславіла. За трэцім разам ён панатужыўся, як ударыць кулаком па бочцы, дык яна і разляцелась на ўсе стораны. Тады выйшлі яны на вастроў Будай, і пастроіў ён тут горад Кітай. Як зажыліся яны тут, ён і пытаецьу маткі:

— Дзе б нам, мамухна, сыскаць адзінаццаць родных братцаў?

Царыца ж яму атвячаець:

— Не сыскаць нам іх, дзіцятухна: згіблі яны на сінім моры!

Ён жа каець:

— Ведаю, мамка: ёс[ц]ь у трыдзевятай зямлі, у трыдзесятым царстве дуб Дарахвей на дванаццаць караклей і ёс[ц]ь там бальшое дупло. Яны і сядзяць у гэтым дупле ды не могуць выйсці, зато што ля дуба ёс[ц]ь такая пціца, што людзей спажыраець. І хочаць яна іх сажраць, ды не ўлезець у дупло; а адтуліцька яны не выходзяць! Спякі ты, родная мамка, з свайго малака дванаццаць просвір і благаславі мяне ў дальні пуць-дарожаньку: пайду я іскаць родных братцаў!

Яна так і здзелала. Пайшоў ён, маладзец-удалец, у трыдзевятую зямлю, у трыдзесятае царства; увідзеў ён там дуб Дарахвей на дванаццаць караклей: вялік дуб, а пціца яшчэ большы!

— А,— кажаць яна яму,— здарова, добры моладзец! Не такіх я відала і то спажырала, а цябе нічога не стоіць з'есць!

Ён атвячаець ёй:

— Ты, пціца-карыпіца, пагадзі спахваляцца: дай-ка мы з табой пабарахваемся!

Схваціў ён яе, як ударыць аб крэпкі дуб,— так з дуба дванаццаць сукоў далой! Ён другей раз ударыў аб сыру зямлю — і тут яна спаконьчалася! Тады ён гаворыць:

— Хто ёс[ц]ь у дупле, выхадзі сюды! Калі стары чалавек — будзь мне бацюшка, калі роўня мне — брацетка!

Выйшла адзінаццаць добрых маладцоў. І сталі яны прасіць у яго чаго-ліба паес[ц]ь. Вынуў ён тых дванаццаць просвір і даў ім па аднэй, а адну сабе ўзяў. Як сталі яны ес[ц]ь просвіры, дык січас распазналі, што яны спечаны з маткінага малака. І дагадаліся яны, што гэта іх брацетка родны. І пайшлі яны ўсе з ім, у яго горад Кітай.

І ехалі чэраз гэты горад купцы-карабельшчыкі ў царства іх бацькі. Малы брат прыляпіўся к іх караблю мухай і прыехаў к

цару. Цар стаў пытаць у купцоў, дзе яны бывалі, што відалі. Яны яму кажуць:

— Былі мы ў трыдзевятай зямлі, у трыдзесятым царстве. У гэтым царстве ёс[ц]ь востраў Будай, а на ім горад Кітай. Ён весь так і сіяець, зато што там ходзіць дванаццаць добрых моладцаў — голас у голас, волас у волас, пахводка ў пахводку, гаворка ў гаворку, ліцом як адзін; па калена ў золаце, па пояс у серабрэ, ва лбу ясён месяц, у патыліцы дробны звёздачкі, па віскам красна солнышка!

Цар січас дагадаўся і кажаць:

— Гэта, верна, мае дзеці!

А большая сястра гаворыць:

— Ту, цар, што гэта за дзіва? Не твае гэта дзеці. Вот то-то будуць твае дзеці, хто дастанець у трыдзевятай зямлі, у трыдзесятым царстве ката Валдая. Ёс[ц]ь там дуб Дарахвей на дванаццаць караклей: дык на гэтым дубу жывець кот. Уніз ён ідзець — басні баіць, уверх ідзець — сказкі кажаць!

Царэвіч усё слышыць. Як паехалі купцы ўзад, ён вярнуўся з імі ў свой горад і кажаць братам і царыцы:

— Загадала нам цётка загадку — не ведаю, як яе і разгадаць! Благаславі ты нас на гэта, матушка!

Яна іх благаславіла, і яны, добрыя моладцы, выйшлі ў чыстае поле, у зялёныя луга, у запаведныя ляса: крыкнулі, гаркнулі багатырскім голасам — і за ноч у іх усё стала! Купцы ж апяць праехалі чэраз іх горад у царства іх бацькі. Малы царэвіч абярнуўся мухай, прыляпіўся к іх караблю і паехаў з імі. Цар апяць пытаець іх, дзе яны бывалі і што відалі. Яны гаворáць, што на вастраву Будай, у горадзе Кітай ёс[ц]ь дуб Дарахвей на дванаццаць караклей; па гэтаму дубу ходзіць кот Валдай: ён уніз ідзець — басні баіць, уверх ідзець — сказкі кажаць. Цар на гэта чуда ні здзівуецца і гаворыць, што, верна, гэта яго дзеці дасталі яго.

А большая сястра апяць кажаць:

— Гэта, цар, чуда не чуда! Вот то чуда, што ў трыдзевятай зямлі, у трыдзесятым царстве ёс[ц]ь ябланька сярэбраная, ябланька залатая, яблачка сярэбранае, яблачка залатое, ветачка сярэбраная, ветачка залатая. Хто дастанець гэта чуда, то і будуць твае дзеці!

Царэвіч апяць усё слышаў. Вярнуўся з купцам[і] ў свой горад, расказаў пра ўсё маткі і братам. Царыца ім кажаць:

— Не, дзіцятухны! Не дастаць нам гэтага дзіва і не вярнуць вам свайго бацюшкі!

Яны ж папрасілі яе, штоб яна іх благаславіла. Выйшлі апяць у чыстае поле, у зялёныя луга, у запаведныя ляса: крыкнулі, гаркнулі багатырскім голасам — і за ноч вырасла ім ябланька засярэбраная, ябланька залатая, ветачка сярэбраная, ветачка залатая, яблачка сярэбранае, яблачка залатое.

Апяць жа купцы-карабельшчыкі праехалі чэраз іх горад к цару на паклон. З ім[і], абярнуўшысь мухай, прыехаў і малы царэвіч. Стаў цар апяць пытаць іх, якое яны відзелі чуда. Яны расказалі, што на востраву Будаю, у горадзе Кітаі відзелі адну ябланьку сярэбраную, адну залатую, ветачку сярэбраную, ветачку залатую, яблачка сярэбранае, яблачка залатое. Цар гэтаму дзіву ні здзівіцца і кажаць:

— Гэта, верна, мае дзеткі дасталі!

Большая ж сястра апяць гаворыць:

— Ну дзе, цар, той аджывець, хто ўтапіўся! Вот то твае дзеці, хто дастанець у трыдзевятай зямлі, у трыдзесятым царстве мост, што адна маснічынка сярэбраная, адна залатая, а як едзеш па ім, дык упярод ёс[ц]ь, а ззадзі нетуці!

Царэвіч вярнуўся з карабельшчыкам[і] дамой і расказаў братам і мацеры, якую ім цётка загадала загадку. Царыца ім кажаць:

— Не, дзіцятухны, не разгадаць вам гэтай загадкі — не вярнуць вам свайго бацюшкі!

Малы сын атвячаець:

— Благаславі ты нас, як благаслаўляла ўпярод!

Яна благаславіла. Яны апяць пайшлі ў чыстае поле, у зялёныя луга, у запаведныя ляса: крыкнулі, гаркнулі багатырскім голасам — і за ноч явіўся мост. Вось, як расказалі купцы-карабельшчыкі пра гэта чуда цару, ён і кажаць:

— Гэта ўжо мае дзеткі дасталі яго! Паеду я к ім!

Большая сястра нічога не найшла сказаць. Ен і паехаў. Яна ж за ім услед. Як пад'ехалі к таму мосту,— яму мост ёс[ц]ь, а ей нет! Яму мост ёс[ц]ь, а ей нет! І прыехаў цар на востраў Будай, у горад Кітай. А ён увесь так і сіяець ад яго сыноў. Увідзеў там цар царыцу і січас узнаў яе. Яна ж паказала яму дванаццаць сыноў — голас у голас, волас у волас, пахводка ў пахводку, гаворка ў гаворку, ліцом як адзін; па калена ў золаце, па пояс у серабрэ, ва лбу ясён месяц, у патыліцы дробны звёздачкі, па віскам красна солнышка. На радасці яны задалі пір на ўвесь мір. А большых сясцёр цар вялеў прывязаць к конскім хвастам і пусціў у чыстае поле.

# 65. ІВАН ІВАНАВІЧ — ЦАРЭВІЧ

Зачынаецца казка ад сіўца і бурца і ад вешнага канурца... Хто будзіць казку саслыхаць, таму будзіць бальшая награда.

Як жыў сабе цар на яком-то царстве і на яком-то гасударстве. І быў у яго сын Іван Іванавіч — царэвіч, божы каралевіч. Тады цар яго не пускаў нікуды лет да васемнаццаці, каб не заглядаўся ні за чым, не балаваўся. Ну, тады ён давай прасіцца:

— Бацюшка радной, пусціце свету павідаць!

Тады яму ацец даў роту салдатаў, даў каня, збрую, меч, ружжо. Ну, тады ён ездзіў, ездзіў, паляваў, паляваў, па лясах, па пушчах. Ну, послі таго выязджаіць ён на палянку, астанаўлііцца на палянцы. Ажны на той палянцы Баба Яга Касцяная нага раскапала ляда і засеяла ільном. (Стала быць, яна была не прастая.) Ну, тады паслала ў лён трох дачок: дзвюх родных, трэцюю падчарку, лён палоць. Ну, тады яны завідзелі яго, лён полючы, а ён іх. Ну, яны яго завідзелі, што ён такі прыгожы маладзец, тады большая дочар яе кажыць:

— Эх, які добры маладзец, харош-прыгож! Каб ён мяне ўзяў за сябе, я б яму вышыла такі кавёр, што ён ва ўсім царстве, ва ўсёй інперыі не найдзіць!

Й а сярэдняя доч гаварыла:

— Гэта твая не сказка, а прысказка! Вот мая загадка: каб бог прыізвёў яму мяне ўзяць, дык я б аднэй пакулінай адзела роту салдатаў, сама адзелася і яго адзела б!

А ён усё гэта слухаў і чуў, панімаўся. Ну, а трэцяя, ужо падчарка, абяшчала, гаворыць:

— Гэта вашы ні сказкі, ні загадкі! Вот мая сказка і загадка: ежалі б бог прыізвёў мяне яму ўзяць за сябе замуж, дык я ба яму ў адну ноч забярэміла, спарадзіла б дванаццаць сыноў — голас у голас, волас у волас, ува лбе звёзды, у патыліцы месік, па калені ногі ў золаце, а рукі па запясця ў се́рабры!

А ён гэта ўсё чуў. Тады ён выслухаў, узяў сваю армію і паехаў дамой. Прыязджаіць дамой, ацец спрашыіць:

— Што, сынок мой любезны, ідзе бываў, што ідзе відаў, што ідзе чуваў, якое дзіва?

Ён гаворыць:

— Вот, бацюшка! Нійдзе я не бываў, нічога не чуваў, а толькі відзеў на пушчы, на лесе, Баба Яга Касцяная нага раскапала ляда, насеяла лёну і прыслала дачок лён палоць. Як замецілі мяне, што маладзец очань удалы, очань прыгож, харош, дык большая дочар казала, што каб мяне ўзяў за сябе замуж

Іван Іванавіч — царэвіч, божы каралевіч, дык я б яму кавёр вышыла, штоб ён такога ва ўсём сваём царстве, ва ўсём гасударстве не найшоў, які ба зработала! Ну, тады,— гаворыць,— сярэдняя кажыць: «Эй, сястра! Я б яму большую загадку загадала: я б аднэй пакулінаю роту салдатаў адзела, сама адзелася і яго адзела!» Ну, а трэцяя, падчарка, кажыць: «Гэта вашы ні сказкі, ні загадкі! А мая то сказка і загадка: я б яму,— гаворыць,— у адну ноч забярэміла і парадзіла дванаццаць сыноў-сакалоў — волас у волас, голас у голас, па запясця рукі ў серабры, па калені ногі ў золаце, ва лбе звёзды, у патыліцы месік».

Ну, тады ацец гаворыць:

— Лучча, сынок, гэту ўзяць, каторая пародзіць дванаццаць сыноў як сакалоў: волас у волас, голас у голас, па запясця рукі ў серабры, па калені ногі ў золаце, ва лбе звёзды, у патыліцы месік. У нашым царстве багатыроў мала, дык болі будзіць! То уж будуць не прастэя, а багатыры!

Ну, тады, ізвесна, ён, царэвіч, кажыць, што яна ў дрэнну адзежу ўвабраўшы, непрыгожа.

А бацька кажыць:

— Нічога, сынок, бяры! Калі ты царэвіч, дык і яна будзіць царыцаю! Вясціма ў мачахі: яна затым яе гэдак дрэнна адзяець, што каб ніхто не заглядаўся!

Ну, тады ён паехаў к бабе тэй у сваты. Дык яна адбіла яго, што яна дура, нічога не ўмеіць дзелаць! А ён павідзеўся із ёй, дык яна яго вучыць:

— Глядзі ж, яна паставіць мяне за трэцім дзесяткам, адзеніць мяне ў луччую адзежу. Дык ты мяне так не вызнаеш. А муха заўецца ад цябе цераз маю галаву, дык ты мяне і бяры! Яна будзіць цябе адбіваць, ну ты не слухай і бяры ўсё-ткі мяне!

Ну, Баба Яга два разы выводзіла па дзесятку, ну ён ніводныя не выбраў:

— Няма тут,— каіць,— тыя, што мне трэба!

Тады яна вывела трэці дзесятак. Так муха ад яго вуха завілася цераз яе галаву. Ён узяў яе, вывеў за руку з шару, кажыць:

— Во гэта мая, болі ніякія не хачу!

Ну, тады яна, як народная дачка, дык ён узяў яе на свой кошт, жаніцца з ёй. Паслаў бумагу к інтрапаліту, штоб жаніцца з ёй. Інтрапаліт звянчаў іх. Ну, тады, як згуляў ён свадзьбу, прысылаіць які-то цар, хочыць ваявацца з ім. Ён як палучыў бумагу ад таго цара, што ўжо хочыць ваявацца з ім,— бярэць

сваю армію і едзіць ваявацца з ім на граніцу. А жана яго за два дня забярэміла. Дык ён кажыць бацьку:

— Бацюшка радзімы! Як родзіць мая жана ці жывое, ці мёртвае, ці худое, ці добрае, дык прышліце мне кур'ера веставога на граніцу, каб я знаў, што бог дас[ц]ь!

Тады яна пайшла ў стайню радзіць. Ну, дык яна раджала, а мачаха, змяя, сарокаю скінулася і адзінаццаць патрабіла, а дванаццатага яна сабе ў падолак узяла, у сваю палату занесла. Ён там, гэты сын, стаў плакаць, кугакаць. Яны пачулі і палядзелі. Ажны ў яе рабёнак, сын такі, як яна казала, толькі адзін. Ну, тады сычас бацька пішыць бумагу сыну на граніцу, што парадзіла твая жана сына, якога абяшчала — волас у волас, голас у голас, па запясця рукі ў серабры, па калені ногі ў золаце, ува лбе звёзды, у патыліцы месік, ды толькі аднаго, а не дванаццаць! Ну, тады яна, ведзьма гэта, знала, што будуць іці бумагі на граніцу к яму, дык яна на дванаццаці бальшакоў паставіла дванаццаць кабакоў: хто будзіць ехаць, дык яна бумагу прачытаіць. Тады едзіць генерал з пісьмом на граніцу к сыну. Тады ён едзіць, а яна выйшла і гаворыць:

— Здраствуй, здраствуй, нашага свата чалавек і пасланец! Заедзь к нам нанач, мы для вас здзелаем угашчэніе! Вытапім баню, прыкажам прыслузе выпарыць вас; каню дадзім сена, аўса!

Ён паслухаў, заехаў. Так яны вытапілі баню. Ён схадзіў, выпарыўся і прыйшоў. Яны яго накармілі, напаілі і спаць палажылі. І каню далі сена, аўса. Ну, як ён заснуў, яны ўзялі тую бумагу, што бацька пасылаў, ды ў печ укінулі, а другую самі напісалі, што вот, гаворыць, сынок мой любезны! Парадзіла твая жана нет-што: не то парасёнак, не то шчанёнак — саўсім не чалавечыя пастáць, падобіе. Ідзе яго прыкажаце падзець? Той генерал устаў, бумагу ў карман і пайшоў, думаў, што тая самая. А яны тую ў грубцы спалілі. Прыязджаіць генерал к сыну, шапку зніміаіць здалёку, пад'язджаіць бліжа — укланяецца:

— Здраствуй, Іван Іванавіч — царэвіч, божы каралевіч!

А ён атвяшчаіць:

— Здраствуй, генерал веставы! Што, з бумагамі ка мне?

— З бумагамі!

Ён тады ўзяў гэту бумагу і чытаіць, што парадзіла твая жана ні парасёнка, ні шчанёнка, нет-каго, саўсім не чалавечага падобія. Што прыкажаце з ім дзелаць?

Ён як прачытаў, за вушы ўзяўся, заплакаў. Тады ён пішыць к бацьку: «Ацец радной! Што ж дзелаць? Хто ні ёс[ц]ь, ах-

рысціце да майго прыезда!» Так ён, гэты генерал, як пісьмо палучыў, апяць выправіўся ў сваю старану. Яны апяць выйшлі к яму і кажуць:

— Заедзь к нам нанач, васпан, нашага свата чалавек!

Ён зайшоў к ім. Яны яго напаілі, накармілі і спаць палажылі. Ну, як ён лёг, дык яны ўзялі ў яго гэта пісьмо і прачыталі. І ўзялі гэта пісьмо спалілі, а самі напісалі, што, ацец мой радной! Калі мая жана радзіла не тое, што абяшчала мне ў дзеўках, радзіла нет-каго, дык ідзе хочаце дзеньце як з дзяцёнкам да майго прыезда, каб мае і глазы не відалі! Калі яна не так радзіла, як абяшчала!

Тады ён, генерал веставы, назаўтрага рана ўссеў на лошадзь і паехаў.

Ну, як прыязджаіць ён дамой, ацец спрашыіць:

— Ну што, генерал веставы! Ці ўсё благапалушна на граніцы ў сына?

— Слава богу, усё харашо!

І падаў яму пісьмо. Ну, тады ён, бацька, узяў гэта пісьмо, разламіў яго і як прачытаў, дык заплакаў. Тады сабраў санот: ідзе падзець яе з рабёнкам? Што сын прыслаў, што пакуль я прыеду, каб яе не было: ідзе хочаце падзеньце з рабёнкам! Тады адзін санатар абабраўся, кажыць:

— Нада шкляную бочку зрабатаць, жалезныя абручы нагнаць, смалою абсмаліць і на мора-лукамор'е пусціць. Няхай плывець, куды бог пазволіць!

Ну, тады січас шкляры зработалі шкляную бочку, усадзілі яе туды з рабёнкам, кавалі акувалі бочку, засмалілі смалою і пусцілі на мора.

Сын звярнуўся з граніцы. Ездзіў ён, ездзіў кала мора — нійдзе не найшоў — сплыла. Ён заплакаў горка. Ну, тады паехаў к Бабе Язе, к тэй самэй, і ўзяў родную дачку яе. А гэты, што паплыў з маткай, плыў-плыў сколькі там і рос не нядзелямі, не днямі, а рос часамі. А матка ўсё плачыць. І наплакала поўну бочку слёз, што ён і яна тонуць у слязах. Тады ён прыгаварыў:

— Матушка мая радзімая! Благаславі ты мяне, штоб шкляная бочка і жалезныя абручы рассыпаліся на́разна!

Ну, кажыць:

— Бог цябе благаславі, сынок!

Ну, дык ён як крыкнуў маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй, шкляная бочка, жалезныя абручы! Рассыпцеся на́раз-

на! Дакуль мая матушка будзіць пячаліцца, я буду тапіцца ў маткіных слязах?

Так яна пок-пок, абручы рассыпаліся, бочка на макава зярно пасыпалася! Ён тады ўзяў матку за руку і павёў. Узвёў на такую вісокую гару, што ні здумаць, ні згадаць, ні ў казках сказаць. Называецца гэта гара Буда-гара. Тады там зняў план. Тады ён узяў матку за руку і абвёў вакруг гары. Ну, тады гаворыць:

— Матушка! Благаславіце мяне, я буду на гэтай гарэ Будай-горад завадзіць!

Матка яму кажыць:

— Дзіцятко маё міленькае, дзіцятко маё даражэнькае! З чым ты будзеш горад завадзіць: у нас тут няма нічога, толькі адна душа?

А ён кажыць:

— Матушка мая даражэнькая! Мне толькі дорага тваё благаславенства.

Як выйшаў ён за два часы да свету, сышоў з гары ўніз, як крыкнуў маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй,— гаворыць,— дай божа, штоба бочка золата, бочка серабра прыкацілася ка мне!

Ну, прыкацілася бочка золата і бочка серабра. Ну, тады ён гаворыць матцы:

— Матушка мая любезная! Дзеньгі ў нас ёс[ц]ь, цяпер благаславі ты мяне, каб к нашай Будай-гарэ лес прыплыў!

Тады мацер атвяшчаіць:

— Бог цябе, дзіцятка, благаславіць!

Тады ідуць баркі із лесам, із бруссем, з латамі, з дошкамі, су ўсякім усячынай ад таго ўжо цара, ад бацькі. Бацька ўжо пробу знімаіць. Ён ведаіць, што яго сын жыў, што ідзе-ідзе акаснецца — акажацца. Ну, тады ён выйшаў на гару і відзіць, што ідуць баркі па мору із лесам су ўсякім. Ну, ён як крыкніць маладзецкім голасам, багатырскім посвістам, гаворыць:

— Эй, купцы, купцы! Грабцы, грабцы! Грабіце к маёй крутой гарэ, я буду тавар пакупаць, пацэнна даваць, вашаму цару гасцінца пасылаць!

Яны прычалілі баркі, тавар пазвалілі ля крутой гэтай гары. Ён заплаціў ім у дзве цаны. Ну й якога там падарку паслаў цару іхняму, адкуль гэтыя купцы.

Тады яны паехалі дамой, а ён кажыць:

— Матушка мая радзімая, благаславі ты мяне праведаць, што там будзіць ацец з мачахай гаварыць, як прыедуць купцы!

Матка кажыць:

— Сынок мой злюблены, бог цябе благаславіць!

Ну, ён тады здзелаўся галубцом і паляцеў услед за купцамі. Ну, прыязджаюць гэтыя купцы к свайму цару. Ён іх спрашыіць:

— Ну, рабяты, ідзе бывалі, што відалі?

Яны кажуць:

— Ваша вялічаства! Прыявілася крутая гара, што ні здумаць, ні згадаць, ні ў сказках сказаць — якой вісачыны, якой шырачыны! І ■ той гарэ якей-то купец усе баркі прычаляіць, тавары, лес адкупляіць, кажыць: буду Будай-горад ставіць! Ён нам у дзве цаны заплаціў і вам гасцінца прыслаў!

Цар кажыць:

— Верна, гэта мой сын! Нужна пабольша пасλаць, каб скарэй горад ставіў!

Ён ужо паслаў, што яму й такі і такі лес нужан! А сын паляцеў галубцом к матцы. Тут апяць стаў маладцом і кажыць:

— Матушка мая радзіменькая, благаславі ты мяне: думаю я Будай-горад станавіць!

Матка кажыць:

— Бог цябе благаславіць!

Ну, ён тады выйшаў на гару і крыкнуў маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй, ідзе ёс[ц]ь плотнікі, тапорнікі, столяры, кавалі! Усе сабірайцеся к маей крутой гарэ! Я буду пацэнна плаціць, Будай-горад станавіць!

Ну, як крыкнуў ён, дык сабраліся к яму пільшчыкі, плотнікі, муляры, кавалі, усе, усе. Ён абвёў план і стаў горад строіць. І за паўтара месяца ён із імі састроілі горад, лаўкі, цэрквы зачыналі. Ну, тады апяць едуць гэтыя купцы з таварамі. Ён кажыць:

— Матушка, благаславі мяне! У мяне лесу не хватаіць!

Матка благаславіла. Тады ён выйшаў ды як крыкніць маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй, купцы, купцы! Грабцы, грабцы! Грабіце к маей крутой гарэ: мне нужна Будай-горад строіць!

Яны лес яму звалілі. Ён ім у дзве цаны заплаціў, накарміў, напаіў і дамой адпусціў. І яшчэ цару гасцінец паслаў. Тады яны паехалі, тады ён кажыць:

— Матушка, благаславі ты мяне праведаць, што там бацюшка будзіць гаварыць з мачахай!

Матка кажыць:

— Бог цябе, сынок, благаславіць!

Ён скінуўся ўзнова галубцом і паляцеў за купцамі. Пакуль тэя купцы прыехалі, дык ён слухаіць. Прыязджаюць купцы. Цар спрашыіць:

— Што, рабяты, па якіх гарадах, па якіх старанах ездзілі? Што чувалі, што відалі?

Яны кажуць:

— Ваша асіяцельство! Далі Будай-горада нідзе не бывалі! Той купец не 'дпускаіць дальша!

Ну, дык ён гаворыць мачасе:

— Верна, гэта мой сын прыявіўся!

А мачаха атвяшчаіць:

— Гэта не дзіва-дзівушка, што Будай-горад выстраен крэпка і прыгожа, а вот ёс[ц]ь у маёй матушкі, на трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зе́млі ёсць,— гаворыць,— горад, большы Будая, кругом сцяна ў тры аршына глубачыны і шырачыны і ёс[ц]ь у маёй матушкі на стайні пара канцоў-жарабцоў! Як пойдуць гуляць, дык іскры наскрозь сцяну ў тры аршыны праламуюць!

А ён з галубцамі сядзіць ды ўсё слухаіць. Тады прыляцеў к матушцы і стаў маладцом. Матка спрашыіць:

— Што, мой сынок узлюбленны, што там бацька з мачахай казалі?

А ён кажыць:

— А вот, як прыехалі купцы ды сталі хваліцца,што мы далі не былі нійдзе, толькі ў Будай у горадзе, у крэпасці, дык мачаха атвяшчала, што гэта не дзіва, што Будай-горад вялікая крэпасць! У мае,— гаворыць,— матушкі ёс[ц]ь горад, у тры аршыны сцяна глубачыны і шырачыны і ёс[ц]ь у яе на стайні пара канцоў-жарабцоў; як пойдуць по́ гараду гуляць, дык іскры канцоў наскрозь сцяну прабіваюць!

Тады ён кажыць:

— Благаславі мяне, матушка, штоба за ноч тая сцяна ад Бабы Ягі перайшла ка мне, стала кругом майго горада і штоба пара канцоў-жарабцоў у мяне на стайні стаялі і па гораду так гулялі!

Матка кажыць:

— Бог цябе благаславіць, дзіцятко!

Ну, тады ён за два часы да свету выйшаў на крутую гару ды як крыкніць маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй,— гаворыць,— ідзе-то ў трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зе́млі, у Бабы Ягі ёс[ц]ь каменная сцяна ў тры аршы-

на ў шырычыну і глубачыну! Прыбудзь ка мне, стань кругом майго горада! І штоба пара тых канцоў-жарабцоў прыбыло!

Ну, як толькі крыкнуў так, усё тое, што ў Бабы Ягі, радзілася. Тады ён паслаў к цару пісьмо, каб ён прыслаў яму ўжо краснага тавару і рыбы. Цар прыслаў. Тады ён гэтых купцоў пачаставаў і гасцінцаў цару паслаў. Купцы тэя паехалі. Тады ён кажыць:

— Матушка мая радзімая, благаславі ты мяне праведаць, што там бацюшка з мачахай будзіць гаварыць?

Матка благаславіла. Тады ён скінуўся галубцом і паляцеў за купцамі. Прыязджаюць яны дамоў, ён сеў з галубамі ды сядзіць. А бацька спрашыіць у купцоў:

— Ну што, рабяты, ідзе бывалі, што відалі? Па якіх гарадах, па якіх старанах ездзілі?

Яны кажуць:

— Далі Будай-горада не пускаіць той купец! І вот вам гасцінчыка прыслаў. І што вы тут сказывалі з жаной, тое там усё прыявілася: і тая сцяна ў тры аршына шырычыны-глубачыны, і тых пара канцоў-жарабцоў: як пойдуць пó гараду гуляць, дык заднімі нагамі сцяну праламуюць! Гэткая чыстата!

Гэты цар кажыць:

— Нада мне туды з'ездзіць палядзець: верна, гэта мой сын!

А мачаха кажыць, жана яго:

— Гэта не дзіва, ды дзівушка! У маёй матушкі, у трыдзевятым царстве, у трыдзевятай зéмлі стаіць пад горадам дуб, ні здумаць, ні згадаць! На тым дубе дванаццаць кокатаў, а на тых кокатах дванаццаць катоў: як угору йдуць — басні баюць, як уніз ідуць — на гуслі йграюць. Вот то-то чыстата ў маёй матушкі!

Ну, тады ён паляцеў к сваёй матцы. Матка спрашыіць:

— А што, мой сынок, што там бацька з мачахай гаварылі?

А ён кажыць:

— Як прыехалі купцы ды сталі хваліцца, што далі горада Будая не былі, і што вы гаварылі, то ўсё там стала: і сцяна, і жарабцы — такая чыстата! Дык мачаха кажыць: «Гэта не дзіва, а дзівушка! Ёс[ц]ь у маей матушкі, у трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зéмлі дуб; на тым дубе дванаццаць сокатаў, на тых сокатах дванаццаць катоў: як угору йдуць — басні баюць, як уніз ідуць — на гуслі іграюць».

Тады ён кажыць:

— Благаславі мяне, матушка, штоба ў мяне быў такей дуб!

Матка кажыць:

— Бог цябе, сынок, благаславіць!

Выйшаў ён тады за два часы да свету на крутую гару ды як крыкнуў маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй, ідзе-то на трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зе́млі ў Бабы Ягі ёс[ц]ь дуб на дванаццаць кокатаў, на тых кокатах дванаццаць катоў — прыбудзь ка мне! — каіць.

Ну, толькі ён крыкнуў, усё тое і ёс[ц]ь.

Ідуць узнова тавары. Ён выйшаў на гару, як крыкнуў маладзецкім голасам, багатырскім посвістам, гаворыць:

— Эй, купцы, купцы! Грабцы, грабцы! Грабіце к маёй гарэ! Я тавар купляю, пацэнна плачу, вас напаю, накармлю і цару гасцінчыка пашлю!

Тады яны тавар пазвалілі, дзеньгі палучылі. Ён іх накарміў, напаіў і гасцінца цару паслаў. Тады ён кажыць:

— Матушка, благаславі мяне, штоба мне праведаць, што там будзіць гаварыць ацец із мачахай!

Матка кажыць:

— Бог цябе, сынок, благаславіць!

Тады ён скінуўся галубцом і паляцеў. Прыляцеў на двор і сеў з галубцамі. Прыязджаюць купцы. Цар спрашыіць:

— Што, рабяты! Ідзе праязджалі, што чувалі, што відалі?

Яны кажуць:

— Ваша сіяцельство! Далі таго горада той купец, ці хто, бог яго знаіць, не пускаіць! Ён у нас тавары адкупіў, пацэнна заплаціў, накарміў нас, напаіў і вот гасцінца прыслаў. І што вы з жаной казалі, той дуб пад горадам стаіць, на дванаццаць кокатаў, на тых кокатах дванаццаць катоў: угору йдуць — у гуслі йграюць! Вот то-то красата!

Цар кажыць:

— Верна, гэта там мой сын! Нада з'ездзіць палядзець!

Ну, яна стала адгаварываць яго:

— Гэта не дзіва, а дзівушка! — каіць. — У маёй матушкі на трыдзевятым царстве, у трыдзесятай зе́млі ёс[ц]ь чушка-вопер. Ён па гораду ідзець, лычам арэць, а нагамі скародзіць, а вушамі сеіць і веіць. Як пройдзіць па гораду — хлебушка нейдзі дзець!

Паляцеў ён к матцы.

— Ну, што бацька з мачахай гаварылі?

— Бацька хацеў ехаць, а мачаха каіць:

«Гэта не дзіва, а дзівушка! Як у маёй матушкі ёс[ц]ь чушка-вопер. Ён по́ гараду ідзець, лычам арэць, нагамі скародзіць,

вушамі сеіць і веіць. Як пройдзіць пó гараду — хлебушка нейдзі дзець!» А ў нас, матушка, хлеба ўмалення, дык благаславі мяне, каб да нас прыбыў такей вопер!

— Бог цябе благаславіць, сынок! — кажыць.

Ён тады за два часы да свету выйшаў на гару, як крыкніць маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй! Ідзе-то ў трыдзевятым царстве, у трыдзесятай зéмлі ў Бабы Ягі ёс[ц]ь чушка-вопер. Ён лычам арэць, нагамі скародзіць, вушамі сеіць і веіць; як пройдзіць пó гараду — хлебушка нейдзі дзець! У мяне нету хлеба, прыбудзь ка мне ты, у горад Будай!

Той вопер ідзець, лычам арэць, нагамі скародзіць, вушмі сеіць і веіць; як прайшоў пó гараду, дык хлеба нейдзі дзець: па хлебу ездзяць, як па масту! Ну, тады купцы гэтыя едуць па мору. Ён ужо выйшаў, крычыць маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй, купцы, купцы! Грабцы, грабцы! Грабіце к майму к Будай-гораду! Я тавар купляю, пацэнна плачу!

Вот яны тавар звалілі. Ён іх накарміў, напаіў і гасцінца цару паслаў. Сам просіцца ў матушкі, кажыць:

— Благаславі мяне, матушка: я хачу праведаць, што там бацька з мачахай будуць гаварыць.

Матка гаворыць:

— Бог цябе благаславіць, сынок!

Ну, тады ён галубцом скінуўся і паляцеў. Пралецеў на двор і слухаіць. Прыязджаюць купцы. Цар спрашыіць:

— Што, рабяты, ідзе бывалі, што відалі?

Яны кажуць:

— Далі горада Будая нійдзе не былі! Той купец тавар у нас адкупіў, пацэнна заплаціў, нас напаіў-накарміў і вам гасцінчык прыслаў. І той чушка-вопер, што вы гаварылі з жаной, там у яго! Якая чыстата!

Цар кажыць:

— Верна, гэта мой сын там! Нада з'ездзіць к яму!

Ну, жана яго стала адгаварываць:

— Гэта,— гаворыць,— не дзіва, а дзівушка! Ёс[ц]ь у матушкі мае ў каменных палатах адзінаццаць малайцоў, па дванаццаць пудоў булдава. Як пойдуць пó гараду малаціць, дык мая матушка смашна спіць, у каменных палатах!

Ну, ён асеўся, не паехаў к сыну. Тады ён прылятаіць ка двару і стаў малайцом. Матка спрашыіць:

— Што, сынок мой? Што там бацька з мачахай гаварылі?

Ён кажыць:

— А што? Як прыехалі купцы, сталі расказваць, што яны далі нійдзе не былі, толькі ў горадзе Будаі: той купец у нас тавар адкупіў, пацэнна плаціў, нас накарміў-напаіў і вам гасцінца прыслаў; бацька кажыць: «Верна, гэта мой сын! Нада з'ездзіць к яму!» А мачаха стала адгаварываць яго, гаворыць: «Гэта не дзіва, а дзівушка! А ёс[ц]ь у маёй матушкі ў трыдзевятым царстве, на трыдзесятай зёмлі каменныя палаты; там адзінаццаць малайцоў, па дванаццаць пудоў булдава; як пойдуць па гораду малаціць, дык мая матушка крэпка ў каменных палатах спіць!»

І заплакаў: што мае браты так дужа страдаюць! Тады гаворыць:

— Матушка, вазьмі спячы дванаццаць праскурак і з свае грудзі малака прыцыркні! А я пайду к кавалю, булдаву каваць!

І заказаў сабе на дарогу булдаву дванаццаць пудоў весам. Тады ён скаваў булдаву, выйшаў за горад і кінуў яе ўгару, за воблакі. Яна там лятала-лятала, тады ляціць уніз. Ён узяў выснавіў правую ладонь. Дык яна як ударылася, дык і рассыпалася! Ну, тады ён пайшоў назад к кавалям. Яны перадзелалі яму: палавіна жалеза, а палавіна сталі. Ну, тады ён выйшаў за горад, як кінуў яе ўгару за воблакі, йна там лятала-лятала, потым ляціць уніз. Ён узяў, шапку здзеў і выснавіў лоб. Яна як ударыць яму ў лоб, дык толькі ўвагнулася. Тады ён гаворыць:

— Ну, рабяты, хараша будзіць!

Прыйшоў у двор, узяў дванаццаць праскурак, папрашчаўся з маткай і пайшоў к Бабе Язе, у трыдзевятае царства, у трыдзесятую землю.

Ну, тады, як ісці, дык ісці, скора кажацца, ды няскора дзелаецца. Прыйшоў к Бабе Язе. А яна спіць, яны аддыхаюць — толькі булдовы на гарэ тырчаць. Ён узяў праскуркі на булдовы ўсклаў, а сам за камень схаваўся. Ну, тады яны адзін другога тоўх-тоўх! «Будзем, братцы, уставаць малаціць!» Вядома, яны ў яе ў цьвіку. З'елі праскуркі. Вецер як дунуў, дык яны пачулі маткіну кроў.

— Эй, брат,— кажуць,— брат у госці прыйшоў!

Тады ён выйшаў, кажыць:

— Укажыце мне яе!

А яны кажуць:

— Брат, уцякай!

А ён кажыць:

— Такую яе, гэтакую! Толькі ўкажыце мне яе ды памажыце тады мне! Я пайду яе сваёю булдавою біць!

Яны тады яму ўказалі яе, а самі пайшлі малаціць. Прыходзіць ён туды к ёй, ажны яна спіць: із наздзёр дым шыбаіць, із рота полынь, а з вушэй іскры сыплюцца. Ну, тады ён прыйшоў, раз трэснуў пó лбу — не чуіць! Другі раз — пачула. І схваціліся. Яна його агнём паліць, дымам душыць. Ён тады крыкнуў на братоў. Браты падскачылі і забілі яе. Ён тады ўзяў вазоў пяць саломы, палаты яе запаліў, братоў узяў за рукі і павёў у сваю старану, у свае царства.

Прыводзіць ён іх дамоў к матцы. Яны пакланіліся матцы, паздароўкаліся і жывуць у Будай-горадзе з братам. Як пойдуць па гораду гуляць — голас у голас, волас у волас, ва лбу звёзды, у патыліцы месік, па запасця ў серабры, па калені ў золаце — дык увесь горад зззяіць! Ну, тады цар гэты пасылаіць сваіх купцоў ■ таварамі. Купцы едуць па мору: ён выйшаў на гару, крычыць маладзецкім голасам, багатырскім посвістам:

— Эй, купцы, купцы! Грабцы, грабцы! Грабіце к майму гораду: ■ тавар пацэнна купляю, і вас напаю-накармлю, і цару гасцінца пашлю!

Яны прыязджаюць, тавар зvalілі; тады ён іх напаіў-накарміў, цару гасцінец даў і дамой адпусціў. Тады кажыць матцы:

— Матушка мая радзімая! Я,— кажыць,— братоў атыйскаў, цяпер як ба айца ў свой Будай-горад звараціць? Ці ёс[ц]ь там у мачахі якея загадкі, ці няма?

Матка кажыць:

— Бог цябе благаславіць, сынок!

Тады ён скінуўся галубцом і паляцеў к бацьку. Купцы як прыехалі, цар спрашыіць:

— Ну. што, купцы-грабцы! Ідзе бывалі, па якіх гарадах, па якіх старанах ездзілі? Што чувалі, што відалі?

Тады яны кажуць:

— Ваша сіяцельства! Далі таго горада той купец, ці бог яго знаіць, не пускаіць! І што вы з жаной тут гаварылі, то тое там прыявілася: там дванаццаць братоў стала!

Мачаха як пачула, што яны сыйскаліся і што яе маткі ўжо на свеце няма, дык яна схваціла нож і закалолася. Тады тэй цар кажыць:

— Слава табе госпадзі, што бог апрастаў маю галаву ад акаянныя сілы! Паеду я к сваёй жане, к сваім дзяцём!

Тады ён паляцеў дамой. Прыляцеў дамой, здзелаўся маладцом. Матка кажыць:

— Што ж ты чуў?

А ён кажыць:

— А вот што я чуў: як прыехалі купцы ды сталі расказываць, што мы відалі ў Будай-горадзе дванаццаць братоў — голас у голас, волас у волас, ва лбе звёзды, у патыліцы месік, па запясця рукі ў серабры, па калені ногі ў золаце, як пойдуць па гораду гуляць, дык увесь горад ззяіць,— дык як пачула гэта мачаха, уазнала, што яе матку забілі ўжо, дык яна нóжам сябе закалола. А бацька кажыць, гаворыць: «Слава табе, госпадзі, што бог апрастаў маю галаву ад акаянныя сілы! Цяпер,— кажыць,— пайду к сваёй жане і к сваім дзяцём!» Слава богу, ацец у госці заўтра к нам будзіць! Матушка, благаславі мяне, штоб за два часы да свету правесці дванаццаць вёрст дарогу, выбіць красным сукном і цераз мора мост — залатая масніца і сярэбраная масніца, залаты стоўп і сярэбраны стоўп.

Матка сказала:

— Бог цябе благаславіць, сынок!

За два часы да свету выйшаў ён на гару. Як крыкніць маладзецкім голасам, багатырскім посвістам, гаворыць:

— Я дажыдаюсь айца ў госці! Штоба да свету цераз мора мост вымасціўся і штоба была дарога на дванаццаць вёрст, і гэту дарогу красным сукном уваслалі!

Як ён толькі сказаў, так сійчас адкуль явіліся масцяры, усё гэта зработалі. Чуць-дзень едзіць цар к жане ў госці. Прыехаў, паздраствуаўся з жаной, з дзяцьмі. І стаў жыць у Будай-горадзе. І цяпер там жывуць.

## 66. ЦУДОЎНЫЯ ХЛОПЧЫКІ

Было ў бацькі тры дачкі; пайшлі на рэчку бялізну мыць. Ехаў каралёў сын.

Адна кажа:

— От, каб я за каралёвага сына пайшла, то б [redacted] адной голкай [у] весь двор абшыла.

Другая кажа:

— Каб я за каралёвага сына пайшла, то б я адной булкай [у]весь двор абкарміла.

А трэцяя кажа:

— Каб я за каралёвага сына пайшла, то б два сыны прывяла: на лбе па месяцу, у патыліцы па звёздачцы.

Прыехаў кароль да тае, што казала: «Два сыны прывяла б»!

Дык яны жывуць гадок, другі, стала яна ў ценжы. Паехаў круль і прыказывае мацеры:

— Што бог дасць жонцы, то няхай гадуе.

Ад'ехаў ён міль дваццаць, дак бог даў жонцы дзіця, прывяла яна два сыны: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы. Напісала жонка карту, што бог даў два сыны: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы. Парабак панёс карту да яго і зайшоў да яе сястры начаваць і не ведаў, што яго пані сястра. Лёг ён спаць, дак яна ўзяла да й адкрыла карту, тое скасавала, што было напісана: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы, і напісала, што не уж, не гад — не знаць што прывяла. Той чалавек даганіў круля, падаў ліст. Ён прачытаў.

— Што ёй бог даў, то няхай не трацяць без мяне.

Ужо назад ён ішоў і зайшоў туды зноў начаваці; яна ўзяла зноў лісты, адкрыла і тое скасавала, што ён напісаў, і напісала, пакуль ён вернецца, каб пахаваць тыя сыны.

Як ён прыйшоў, каралева жана перачытала і стала плакаць: ёй жаль было тыя харошыя сынкі пахаваць.

На дварэ выкапала дзве магілкі і пахавала; выраслі два явары — залатая галінка і срэбраная. Прыехаў круль дахаты і адправіў за тое, што пахавалі без яго. Паехаў ён жаніцца да другой, да жонінай сястры. Жывуць яны, дак яна кажа то:

— Мой мужу найяснейшы! Каб мы гэтыя явары ссеклі да зрабілі ложко сабе.

[І стала яна спаць і стаў ёй ценжар рабіцца. Так яна кажа]:

— Ах, мужу мой найяснейшы! Пасячом мы гэта ложко і спалім, і попел на дарогу высыпем.

Гнаў пастух авечкі, адна аўца забегла і попелу ўхваціла, прывяла два бараны: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы. Дак яна знелюбіла тых бараноў, вялела парэзаць і кішкі на уліцу выкінуць. Першая жонка выйшла, кішкі падабрала, зварыла і з'ела і стала ў ценжы і прывяла два сыны: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы.

Дык тыя сыны растуць, дак растуць і шапачкаў не здымаюць. Дак круль захацеў, каб хто [і]шоў байкі баяць, дак там сказалі:

— Ёс[ц]ь два браты, яны ўмеюць байкі баяць.

Дак яны прыйшлі байкі баяць. Сталі баяць байку:

— Быў сабе круль з кралеўнаю; прывяла кралеўна два сыны: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы. После круль паехаў на паляванне, напісала каралеўна карту і паслала. Чала-

век зайшоў нанач да сястры; яна ўзяла, адкрыла карту і напісала, што не уж, не гадзіна — не знаць што прывяла кралеўна. Круль, прачытаўшы, адпісаў, што няхай гадуюцца ці уж, ці гадзіна. Чалавек, [і]шоўшы дадому, ізноў туда зайшоў, дзе начаваў. Яна адкрыла і напісала, каб пахавала да майго прыезду. Дак яна (маці) выкапала дзве ямы-магілы і закапала, і выраслі два явары — залатая галінка і срэбненкая. Яна (новая жонка) пацялася, каб пасеч і ложко зрабіць. І стала яна спаць і стаў ёй ценжар рабіцца; яна вялела гэта ложко пасеч і спаліць і на двор попел выкінуць. Пастух авечкі гнаў, адна авечка попелу захваціла і стала котная, прывяла два бараны: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы. Каралеўна вялела тыя бараны парэзаць і кішкі на уліцу выкінуць; яна (першая жонка) выйшла на уліцу, кішкі падабрала, прынесла ў хату, зварыла і з'ела і ў ценжы стала, прывяла два сыны: на лбе па месяцу, на патыліцы па звёздачцы.

Хлопчыкі гэтыя скланіліся да шапачкі знялі, так і засвяцілі [ў] весь пакой.

Другую жонку на жалезную барану расцягалі, а першую круль узяў і сталі жыць.

## 67. ТРЫ ДАЧКІ

Вот было ў пана тры дачкі. І яны ішлі ўтрох каля жыта. Адна гаворыць:

— Хто мяне замуж возьмець, таму я харошае жыта раджу.

А другая кажа:

— А хто мяне возьмець, харошую пшаніцу раджу.

А трэцяя:

— А хто мяне замуж возьмець, і таму харошага сынка раджу: па баках звёзды, ува лбе месяц, а ў патыліцы сонца, а па локці рукі ў золаце, а па каленкі ножкі ў серабрэ.

Вот зачуў гэта адзін ужо панаў сын і гаворыць:

— Не будзем гэтых браць, а возьмем гэту, што харошага сына родзіць.

Узяў ён яе, а сам у вармію, яго забралі. А даўней жа служылі доўга-доўга, дваццаць пяць гадоў, гэта называліся рэкруты. Ну, тады гэта ён пайшоў служыць, а радзіўся гэты сынок яго такі ўжо, як яна абяшчала яму радзіць. І сонца ў патыліцы да й месяц ува лбе, і звёзды ў баках, і рукі ў золаце па локці, і па каленкі ногі ў серабрэ. Вот даўней жа ж пошту насіў старык,

пяшком насіў. Жонка яго ўзяла і напісала пісьмо і гаворыць да старычка:

— Занясі гэта пісьмо ўжо майму мужу, што вот такі сынок у нас радзіўся.

А гэты дзядок ішоў і зайшоў да яе сясцёр начавоць. Ён заначаваў, сёстры яго пісьмо ўкралі, прачыталі і напісалі пісьмо яму абы-якое, што гавораць так:

— Радзіла твая жана ні то кацяня, ні то парася, пішчыць, вішчыць, не знаюць, што з ім дзелаць.

Ён прачытаў гэта пісьмо, што яму аддалі ад сясцёр, і напісаў так і дзеду аддаў:

— Нясі. Хто там ні нарадзіўся, няхай гадуецца і ажыдаюць мяне.

Ну вот, ішоў назад той пасланец. І ізноў зайшоў к гэтым сёстрам начаваць. Яны тады ўзялі прачыталі пісьмо і напісалі сваё: «Дзе хочаш дзейся, нашто ж ён мне такі — ні то кацяня, ні то парася».

Ну што ж, сабралася гэтая жанчына і з сынам з сваім. Пайшлі яны, пайшлі, ішлі, ішлі. Дайшлі да мора. Ажно там рыбаловы лавілі рыбу. Яна кажа:

— Закуйце нас у бочачку і пусціце на мора.

І вот яны яе закавалі ў бочачку з гэтым мальчыкам і пусцілі на мора. Яна плавала тры гады і тры дні, гэта бочачка. Потым ужо мальчык у бочачцы вырас і гаворыць:

— Мамка, каб гэта бочачка выкацілася на бераг і лопнула і каб мы з табой выйшлі і пайшлі жыць. Хваціць нам у цемнаце тут ужо шалёпацца.

І гэтак здзелалася. Бочачка выкацілася, лопнула, і яны выйшлі і пайшлі. Прыходзяць яны якраз к адной старушцы начаваць. Старанькая хатка на курынай ножцы, на блошцы. Зайшоў ён туды начаваць. А бабка гэта пячэць пірагі, прыбіраецца на свадзьбу ісці і носіць пірагі ў печ. Ён:

— Бабулька, зязюлька, спячы мне піражок, хоць курачок.

Ну, баба не хацела, але ўзяла ды ўкінула гэты піражок у печку. А гэты пірог як вырас і з печкі не хоча лезьці. Ну, але вылезлі. Тады ўжо баба складаець пірагі, ідзець на свадзьбу. А куды ідзець на свадзьбу, яны ж не знаюць, ні гэта яго маць, ні гэты мальчык. А ён:

— Бабулька, зязюлька, пайду і я з табой.

Яна кажаць:

— Цябе ж там заштурхаюць, запіхаюць тамачка на гэтай свадзьбе.

А ён усё роўна ўчапіўся і пайшоў з бабкай на гэта вяселле. Вот ідзець, бабка парог ужо перайшла, і мальчык гэты туды ідзець. Ажно там гэты самы жаніх, а гэта не жаніх быў, гэтага мальчыка бацька. І вот нясець кораб поўны арэхаў і кораб пусты і падняў яго і гаворыць:

— Вот, хто гэтыя арэхі пералічыць, я таму ўвесь маёнтак свой адпішу.

Гэты мальчык падняўся ды гаворыць:

— Я пералічу ўжо, гэта ўсё перасчытаю!

Ну, яго піхаюць, штурхаюць, кажуць:

— Ой, лягушка, ён ужо будзець перасчытваць, гэтка пасчытаець. Дзе ж гэта пасчытаеш, такі ўжо!

— А вот пасчытаю.

Ну, узяў гэты кораб. Пусты паставіў тут, а поўны з арэхамі побач. І вот пачаў:

— Было ў пана тры дачкі, ішлі яны кала жыта, цот арэшкі ў кораб! Адна кажаць: «Хто мяне замуж возьмець, таму харошае жыта раджу», цот арэшкі ў кораб. Другая кажаць: «Хто мяне замуж возьмець, таму харошую пшаніцу раджу». Трэцяя кажаць: «А я, хто мяне замуж возьмець, харошага сынка раджу: па баках звёзды, ува лбе месяц, у патыліцы сонца, па локці рукі ў золаце, па каленкі ножкі ў серабрэ», цот арэшкі ў кораб.

І так перасчытаў. А патом гэты жаніх узяў мальчыка на рукі і панёс за стол к сабе. І пасадзіў яго радам, раз ён перасчытаў гэта ўсе. А ён жа ж знаець,што гэта было. Потым мальчык здзеў шапачку і асвяціў: тут месяц, а тут сонца; здзеў рукавічкі — рукі ў яго такія, як ён гаварыў, здзеў чулочкі і што там у яго было на ножках — і ўсё ў яго тое самае, што вот пан гэты як браў, усё гэта чуў. Ну і што. Прыйшлося яму гэту жонку сваю, што ён браў, прагнаць, ануліраваць гэта вяселле, а ўзяў сваю жонку з гэтым мальчыкам. Ну, вот і ўсё.

## 68. ДВА У КОРАБ АРЭШКІ

Жыў-быў старык са старухай. Было ў іх тры дачкі. Гэтыя дочкі ўсё пралі ўтрох. Раз пралі яны ў лазні, а ехаў цар з фурманам. Едзець і кажаць:

— Што такое? Ніколі агню не было ў гэтай лазні, а цяпер аганёк гарыць. Пайдзі паглядзі.

Зайшоў гэты фурман у лазню. Глядзіць: тры дзеўкі пра-

дуць. Пастаяў ён пад дзвярмі. Пастаяў ён пад дзвярмі, чуець, адна кажаць:

— Го, каб я за цара пайшла, нічога б не хацела, увесь бы свет абаткала б я ўжо.

А другая кажаць:

— А каб я зайшла за цара, так бы аднэй ба нітачкай увесь бы свет адзела.

А трэцяя кажаць:

— А я каб зайшла за цара, за пана круля, дык ба двух сынкоў прывяла: аднаго з-пад мясёнца, окала гвяздачкі, а другога з-пад слонца, слонца б свяціла. На адным слонца, на другім месяц і звёзды свяцілі.

Гэты фурман пазваў караля. Падышоў гэты кароль, паслухаў, паслухаў.

— Ну,— кажаць,— як гэтак, паедзем дамоў.

Паехалі яны дамоў. Прыязджаець назаўтра кароль да іх у сваты. Прыехаў гэты ўжо кароль у сваты і кажаць:

— Дзе тая, каторая казала, што двух сыноў прывядзець: аднаго з-пад мясёнца, окала гвяздачкі, а другога з-пад слонца.

Гэта была самая меншая. Ну, і ўзяў ён ажаніўся ўжо, гэты кароль. Ажаніўся ён, кароль гэты, ну і жывець з ёй. Жывець. Прыходзіць яму аб'яўленне на вайну ехаць. Паехаў ён на вайну, а ў яе яшчэ не было гэтых сыноў. Прыйшлі ейныя дзве сястрыцы, старэйшых яна забрала к сабе гэтых абедзвюх, каб яны ўжо жылі і ёй весялей было. Нарадзіліся ў яе два сыночкі. Адзін — у лобе месяц свеціць і звёзды, а ў другога слонца над галавой. Як ён ідзець, так слонца свеціць, дзе ні йдзець, усюды слонца свеціць. Толькі як шапкі надзенуць — тады нічога не відаць. Як шапачкі здзенуць — тады ў іх відаць.

Не панаравілася гэтым сёстрам, што яна маладзейшая, а яна царыцай, а мы старэйшыя і мы нічым.

Напісала яна пісьмо ўжо цару гэтаму, каралю. Напісала яна пісьмо каралю, што ў яе два сыны нарадзіліся, што адзін ужо з-пад слонца, другі з-пад мясёнца. Паслала. Гэтыя сёстры ўзялі пісьмо, слуга ж нёс, яны яго пераналі, напаілі ў хаце там недзека. Узялі пісьмо, перапісалі ягонае і напісалі, што яна двух шчанючкоў прывяла, два шчанюкі ёсць у яе. Ну што ж. Прачытаў цар гэта пісьмо, ну і ўсё роўна, што ні ёсць, пускай будзець. «Да майго прыезду нічога штоб не дзелалі. Няхай яны гадуюцца, гэтыя самыя шчанючкі». Яны ўзноў пераналі яго, прачыталі пісьмо, зноў напісалі, каб нямедленна выкідалі яе вон, вывезлі саўсём, дажа ў лес, штоб яе нагі не стала ў хаце. Ну што, узялі

гэтыя слугі ўсе сабраліся, мусяць жа ж прыказ цара слухаць. Узялі яе, адзежу ейну царскую здзелі з яе ўсю, дзяцей гэтых саўсём павыкідвалі голенькіх на двор, не было нічога ў яе, што надзець. Тады яна нейкіх там анучак знайшла рваных, паўкручвала гэтых рабятак ужо і пайшла ў свет. Торбамі абчапілася на плечы і пайшла ўжо жабраваць.

Хадзіла яна доўга, жабравала, гэтыя сынкі падраслі, па пяць, па шэсць гадоў ім ужо. Выраслі яны і ходзяць па свету ўсё і жабруюць. Вярнуўся гэты цар з вайны і жывець. Яму сказалі яны, што яна сама кінула ўсё і ўшла затое, што гэтыя шчаняты прывяла яму. Шчаняты ў яе. Ну, што ж ён будзець рабіць. І жывуць гэтыя сёстры, жывуць у яго, і ён жывець, гэты цар.

Тады яна ўжо раз ідзець каля возера. Прыйшла ўжо ў возера. Цяжка хадзіць, трудна жабраваць, і кажаць:

— Мае вы дзеткі, я ўжо вас падгадавала, а я вазьму і ўтаплюсь ужо ў гэта возера.

Яны сталі плакаць:

— Мама, не тапіся, мы падрасцём, будзем жыць, тады неяк мы табе ўжо выгадаем. Мы выгадуемся самі і цябе будзем глядзець. Пойдзем да таты да нашага, да цара свайго, пойдзем туды.

А там баль, сільна залажыў баль вялікую цар гэты. Ай, неперанасіма гасцей сазваў са ўсяго свету, якія толькі былі госці, усіх гасцей паззываў ён туды на гэта ўжо, на баль. Ну, прыйшлі, прыйшлі яны ў кухню, у служанкі просяцца:

— Можа вы пусцілі б нас нанач?

Дык яна:

— Ой, у нас нідзе месца няма сягоння — гэтулькі многа людзей, не магу нідзе вас пусціць.

Дык яны:

— Ну, хоць мы пад краваццю, хоць дзе, пазвольце вы нам ужо хоць дзе-небудзь схавацца, ноч на двары.

Ну, служанка кажаць:

— Толькі схавайцеся пад краваццю і ціханька сядзіце, каб ніхто вас не ўвідзеў, бо, барані бог, хто ўвідзіць, дык і мяне выганяць вон за вас.

Ну, тады гэдак ужо схаваліся яны і ляжаць пад ложкам. А ў цара балявалі, пілі, гулялі, тады цар прынёс цэлы кораб арэхаў і кажаць:

— Хто разгадаець гэты кораб арэхаў, таму апішу палавіну свайго царства.

Усе разгадвалі, усе разгадвалі — ніхто не разгадаў. Тады гэтыя хлопчыкі просяцца:

— Мама, мы папросімся ў служанкі, мы разгадаем гэты кораб арэхаў.

Яна кажаць:

— Дурачкі, ён вас не прымець абадраных, гэтакіх страшных.

— Не, мы разгадаем.

І вот яны прасіліся, прасіліся, служанка гаворыць:

— Ну, я схаджу, я схаджу, папрашу ў цара гэтага, ці прымець ён вас.

Пайшла, спыталася:

— У мяне жабрачка начуець, двое ў іх мальчыкаў, яны просяцца, што разгадаюць ужо гэты кораб арэхаў.

— Ну, няхай ідуць.

Прыйшлі яны і сталі разгадваць абодва, адзін і другі. Вот ён бярэць пару арэшкаў і кладзець у другі кораб арэхаў, у парожны кораб. І кажуць:

— Два ў кораб арэшкі, быў стары, два ў кораб арэшкі, былі ў яго тры дачкі, два ў кораб арэшкі, яны пралі, два ў кораб арэшкі, яны гаварылі, два ў кораб арэшкі: «Каб мы зайшлі за пана круля», два ў кораб арэшкі. Адна казала, два ў кораб арэшкі: «Я б аднэй ба нітачкай увесь свет бы абвяла», два ў кораб арэшкі. Другая казала, два ў кораб арэшкі: «Каб я выйшла за пана круля, два ў кораб арэшкі, я ўсім ба кросны ткала, два ў кораб арэшкі, я ўсіх ба аднэй ба адзежкай адзела», два ў кораб арэшкі. А трэцяя кажаць, самая меншая, два ў кораб арэшкі: «Я каб зайшла за пана круля, два ў кораб арэшкі, я б двух бы сынкоў прывяла, два ў кораб арэшкі, аднаго з-пад мясёнка каля гвяздачкі, два ў кораб арэшкі, а другога з-пад слонца», два ў кораб арэшкі.

Пан круль ехаў, два ў кораб арэшкі, пачуў, што гэтак гаварылі тры сястры, два ў кораб арэшкі, пан круль падслухаў пад дзвярмі, два ў кораб арэшкі. Ён ажаніўся з гэтай, два ў кораб арэшкі, каторая гаварыла, два ў кораб арэшкі, што двух сынкоў прывядзе, два ў кораб арэшкі. Пану крулю прыйшлося, два ў кораб арэшкі, ехаць на вайну, два ў кораб арэшкі, а крулёва нарадзіла двух сынкоў, два ў кораб арэшкі: аднаго з-пад мясёнца, два ў кораб арэшкі, а другога з-пад слонца, два ў кораб арэшкі. Напісала пісьмо, два ў кораб арэшкі, пану крулю, каб ён ведаў, два ў кораб арэшкі, што яна прывяла двух сынкоў, два ў кораб арэшкі. Паслала слугу, два ў кораб арэшкі, а слугу сёстры перанялі, два ў кораб арэшкі, пісьмо перапісалі, два ў

кораб арэшкі, што прывяла двух шчанюкоў, два ў кораб арэшкі. Ён, цар, сказаў, два ў кораб арэшкі, што толькі ні прывяла, няхай гадуе, два ў кораб арэшкі. І адпісаў пісьмо, два ў кораб арэшкі. Яны перанялі, два ў кораб арэшкі, адпісалі, каб яна вон выхадзіла, два ў кораб арэшкі, вон з дварца саўсём і з сваімі шчанятамі, два ў кораб арэшкі, каб яна скарэй пайшла, каб яе выгналі, два ў кораб арэшкі. Яны выгналі яе з дварца, два ў кораб арэшкі.

Яна пайшла жабраваць, два ў кораб арэшкі. Яна хадзіла, два ў кораб арэшкі, прыйшла да возера, два ў кораб арэшкі, хацела ўтапіцца, два ў кораб арэшкі, а сынкі сталі плакаць, два ў кораб арэшкі: «Не тапіся, мама, мы цябе глядзець будзем», два ў кораб арэшкі. У пана круля быў баль вялікі, два ў кораб арэшкі. Кажуць: «Мама, пойдзем да свайго таты, два ў кораб арэшкі, сходзім, пагледзім, які ён ёсць», два ў кораб арэшкі. І мы прыйшлі, два ў кораб арэшкі, а там служанка не пушчала, два ў кораб арэшкі. Папрасіліся нанач, два ў кораб арэшкі, а яна пусціла, два ў кораб арэшкі. Пад ложкам мы схаваліся, два ў кораб арэшкі. Мы паляжалі, два ў кораб арэшкі. Пан круль прынёс кораб арэшкаў і сказаў, два ў кораб арэшкі, хто разгадае гэты кораб, два ў кораб арэшкі, таму поўцарства, два ў кораб арэшкі. Мы прасіліся ў мамы, два ў кораб арэшкі: «Пусці, мама, нас», два ў кораб арэшкі. Мама не пушчала, два ў кораб арэшкі, мы папрасілі служанку, два ў кораб арэшкі, каб яна, два ў кораб арэшкі, папрасіла нас разгадаць гэты кораб, два ў кораб арэшкі. Пан круль пазволіў, два ў кораб арэшкі.

І яны шапачкі паздымалі: слонца засвяціла ў хаце, месяц, усё. І круль увідзеў і пазнаў сваіх сынкоў.

І тады сёстраў ейных да конскіх хвастоў прывязаў і паганяў, і іх паразрывалі. А тады выцягнулі яе з-пад ложка, прыбралі яе, і яна стала царыцай, і сыны сталі з імі жыць.

## 69. БАРАНЧЫКІ-ПАНІЧЫКІ

Было сабе дзвёх сёстраў: менша была надта хароша, а старша не такая. Ну, аднаго разу тая менша кажа:

— Буду я мела двох сыноў мудрых: месяц у лобе, зорка ў патыліцы і адзінваласок сярэбраны, другі залаты.

Ажно акуратне пачуў гэта кралевіч, ну, і ажаніўся з ею.

У рок ці ў два паехаў ён недзека на вайну, ці куды, а яна

без яго мела сына. А была пры ёй сястра на той час, так яна, завідуючы ёй, узяла палажыла голуба, а дзіця панясла ў кусты да й закапала.

Ну, як прыехаў кроль, так яна давай то казаць:

— Бачыш,— ка[жа],— яна казала, што будзе мела сына такога і такога, а тут заміж сына голуб.

Але кроль такі дараваў жонцы гэта.

Неяк у рок ці ў два зноў паехаў недзе, а яна як на тое зноў прывяла дзіця, а сястра то, узяўшы, палажыла шчаня каля яе, а дзіця закапала ў тое сама месца.

Прыехаў кроль, як даведаўся, што мела шчаня, нат не хадзіў ужэ да яе, адно казаў яе прагнаць з дому, каб яна і не смярдзела.

Перагналі яе ў пушчу, была яна там рок ці два, ажно аднаго разу бегла гавечка, ухапіла кветачку з магілы, дзе тыя хлопчыкі ляжалі, да й то пабегла. Яна то бегла, бегла, да й узяўшы, акацілася, а тыя баранчыкі, за ёю бегучы, паперакідаліся панічамі. Так то тады пашукалі сваю даўнейшу мацеру і давай ёй расказваць:

— Бегла,— кажуць,— гавечка, ухапіла з магілы нашай кветачку, як пабегла, так пабегла і акацілася; тыя баранчыкі за ёю як пабеглі, так пабеглі, ажно з баранчыкаў зрабіліся панічыкі і от,— кажуць,— мы есць. Цяпер хадзем, мамо, пашукаем татка.

— Няхай яго спруціць! Я,— ка[жа],— не пайду да яго.

Так то яны самі пабеглі. Прыбеглі тут, ажно іх не пушчаюць, яны такі ўпрасіліся, пайшлі да кроля да й просяцца нанач. Кроль кажа:

— Для вас тут месца німаш,— але-такі, паміргаваўшы крышку, пазволіў.

Яны пераначавалі, прыходзяць да кроля і кажуць:

— Няхай кроль нам пазволіць у гарэшкі пагграць.

Так кроль:

— Добра, пагграйце.

Прынеслі яны каробачкі з гарэхамі, паселі на зямлі да й кажуць:

— Два гарэшкі ў кораб: было дзвёх сёстраў. Два гарэшкі ў кораб: адна мела мець двох сыноў. Два гарэшкі ў кораб: месяц у лобе, зорка ў патыліцы. Два гарэшкі ў кораб: пайшла яна замуж і г. д. Два гарэшкі ў кораб: як пабеглі, так пабеглі, сталі панічамі.

Тады пазнімалі шапачкі, падышлі да кроля да й кажуць:

— Кролю, ты наш оцец, цётка нас закапала, а палажыла голуба да й шчаня заміж нас, а мацеру нашу оцец прагнаў, яна, бедна, сядзіць у пушчы.

Тады кроль казаў пашукаць жонку і прывясці, а сястру жончыну казаў на жалезныя бораны разадраць.

## 70. [ЗАЧАРАВАНАЯ ДЗЯЎЧЫНА]

Быў гэта сабе адзін удавец, яшчэ не вельміся стары, ды й меў адную дачку і заманўў з ёю, канешне, жаніцца, а дачка ніяк не хацела ісці за бацька сва[й]го роднага ды й перад самютка вяселле пайшла ўпрочкі. Ну, ідзе яна, так ідзе неякімсьці лесам, убілася ў такую гушчару, што не прагляняць, после крышку выскрабалася на неяку прагаліну, глядзіць, асёж тамакава стаіць такі харошы палац! а нікагусенькага не чуваць і не відаць. Уходзіць яна туды — такія ўжэ пакоі харошыя! Налічыла яна іх адзінаццаць, дванаццаты цэлы золатам пабіты, а ў вадном мусіць нехта еў, бо на стале стаялі каравыя талеркі, нажы, лажкі, вілачкі ды й крошак гібель. Так яна гэта барждждэй папратала пасуддзе, пашаравала, найшла з чаго есці наварыць, панаварвала, панапекала з такімі прыправамі ды й прыпахамі, што анно еш да пальцы ліжы! ды й гэта, парабіўшы ўсенечка, пастаўляла на стале, а сама схавалася ў залатым пакоі пад ложак. Асёж чуе яна, што ляцяць так як чэрці з пекла, а гэта былі дванаццаць разбойнікаў, ды й убегшы да пакою, нюх-нюх:

— Ото пахата,— кажуць,— ото смаката!

Ды й зараз хацелі ісці шукаць, хто гэта такі панаварваў, але не маглі самі сябе перамагчы ды й хапіліся перш-наперш да яды. Елі, няхай бог крые, сцеражэ! так бы то сорак дзён яны ў хляву стаялі ды й нічога на зуб не клалі. Ужэ наеўшыся, старэйшы кажа:

— Хадзем, браткі, шукаць тае душы, катора нам гэдакі смашны абед зварыла.

Ну, ды й кажа так:

— Калі замужняя, будзе матка наша, а калі незамужняя, будзе жонка наша.

Яны ўсюды шукаюць па закатулках, а яна сядзіць, як сучачка, пад ложкам загнуўшыся. Асёж і яе находзяць! Выцягнулі яе з-пад ложка, глянулі, што яна такая хароша,— аж ім

вочы засвяцілісяl Хапіліся яны ўсенькія да яе ды й пачалі маленгацi, каб яна іх не баялася, да гэта кажуць:

— Мы табе, паненачко, нічога ліхога не зробімо, анно ты не ўцякай да жыві ў нас.

Так яна к[ажа]:

— Добра, буду.

Ну, так зараз гэта прыбралі яе ўсенечку ў золата ад пят да галавы; яна то ім расказала, як да іх заблуталася, ды й так пазнаёміліся, што ўжэ лепш не трэба. После, пацешыўшыся ёю, прыказалі, каб нікога да палацу не ўпускала, ды й самі пайшлі ў лес, пакінуўшы ёй усё сваё багацтва. Жыве яна ў іх дзён скулькі, яны з яе такія ўжэ кантэтныя, а яна ім заўсюды панаварвае, панапякае смашна. Яны ў вадну пору прыдуць, панаядаюцца ды й пойдуць, сапачыўшы крышку.

Асёж бацька той паненачкі мала ні здурэе дома; пайшоў ён раз да кабальніцы, а тая кабальніца была разам і ведзьмаю.

— Мая галубко,— кажа,— закінь ты мне кабалу, дзе мая дачка абарачаецца, ці яна яшчэ ў жыцці, ці не?

Яна то, закінуўшы кабалу, кажа яму:

— Твая дачка жывюсенька, ды й надта ўжэ ёй добранка, яна ў разбойнікаў, яны яе вельмі любяць, што задумае, то ўсё мае, анно ёй птушынага малака нестае.

Ну, так пачаў ён яе прасіць:

— Ці не можна было б як яе з свету зрадзіць?

Так яна яму кажа:

— Калі мне дасі сто сярэбных рублёў, то я яе з свету зраджу.

А ён адказвае:

— Усенечка дам, што захочаш, анно хуценька ідзі ды й яе з свету збаў.

Так узяўшы то з сабою надта ўжэ харошу сарочку, пайшла туды. Прыходзіць, асёж тая яго дачка сядзіць у таком залатом крэсле на ганку і нештасьці шые. Так яна нібы-то стала жабрачкаю, дала ёй пахвалёны, так тая кінула ёй нéкалькась грошай здалёк, да се не прыпусціўшы. Так даў чорт угледзець той купальню надта ўжэ харошу, так як стала то маліць:

— А паненачка, а кралеўначка, а харошанька, а зазулечка, а маё сонечкоl Пазволь ты мне, пазволь старыя косці выкупаць у гэтай купальні.

Так паненачка не магла ад яе адкараскацца ды й нішто, пазволіла. После, канешне:

— Змый мне, паненачко, плечыl

Так яна, паслухаўшы, улезла ды й мые, а ведзьма тагды стала мóнтаць тую харошую сарочку перад ёю ды й кажа:

— Паненачко, улажы яе, яна мне, старой, непатрэбна.

Паненачка ўпінаецца, не хоча, ведзьма прасіла, прасіла, узяла ды й сілаю на яе ўлажыла, так у том маменце паненачка нежывая стала. Тагды ведзьма то яе барждҗэй прыбрала, занесла на ложак, палажыла ды й сама ўцекі. Асёж надходзяць і разбойнікі, той найстаршы зірнуў у вакно ды й моргае на сваіх таварышаў:

— Паскідаймо,— к[ажа],— боты, бо наша паненка легла спаць.

Яны гэта параззуваліся, увайшлі паціхенечку, селі, з'елі ды й на палаткі сапачываць, а самы старшы кажа:

— Пайду я хоць на яе сонну нагледжуся.

Падышоў да ложка, узіраецца, асёж пацікаваў, што не сапе, хапіўся да рук, да твару — халодны! Так, заламаўшы рукі, кажа:

— Паглядзеце, браткі, німа нашай паненкі! Ужэ нежывая.

Так то давай усе вычытваць:

— Ну, што мы цяпер рабіць будзем? Як мы без яе на свеце парадзім?

Ды й кажуць:

— Зрабім ёй залатую труну ды й павесьмо на чатырох дубох, а самі пастраляймося, але ўпярод прыбярэм яе ў што толькі знайдзем найхарушчае.

Так давай то яе распратваць,— як знялі з яе сарочку, так і ажыла! Такія ўжэ яны ўцешныя, такія рады! Ды й ну ж распытваць:

— Што табе такое зрабілася?

Так яна ім расказала ўсенечка так і так, як тая на яе сарочку накінула:

— А больш,— кажа,— не ведаю, што са мною чаўплося.

Так яны ўжэ з тае пары заўсюды аднаго з паміж се кідалі, каб яе пілнаваў. Ну, асёж зноў раз прыснілася бацьку, што ажыла, так то ён пайшоў да тае кабальніцы, закінуў кабалу — асёж праўда — жыва! Так ведзьма:

— Ну, што мне будзе за тое, то я ўжэ пайду ды й начыста збаўлю яе з свету.

Ну, так ён ёй і нешта і даў, яна то, узяўшы залаты пярсцёнак, пайшла да яе. Прыходзіць туды, асёж той вартаўнік сядзіць з мечам ды й не пускае яе, так яна, гэта што робячы, накінула на таго слепату, а сама, падбегшы, паненцы пярсцёнак

на палец уткнула ды й сама ўцекі. Прыходзяць тыя з разбою, асёж і таварыш аслёп, і паненка нежывая! Так ужэ яны плачуць, так енчаць, але нішто рабіць, так радзяцца:

— Ну, браткі, зрабем ёй залатую труну, павесьмо на чатырох дубох ды й самі пастраляймося.

Пачалі яе разбіраць, каб прыбраць у харошча, асёж, як знялі таго пярсцёнка, так яна і схапілася! Ну, трэба ім ізноў ісці на лес, так пакінулі ўжэ гіншага ды й кажуць:

— Глядзі, хто схоча да палацу ўвайсці, каб голаў ссёк.

Асёж сніцца яна зноў бацьку, што жыва, так пайшоў да ведзьмы, закінула кабалу — праўда — жыва!

— Ну,— кажа,— забірай ты ўсё, што маю, анно яе з свету збаў.

Пайшла ведзьма туды. Прыходзіць пад палац, так той як замеціўся на яе мечам, так яму і рука спруцянела, ды й стаў, як стоўп у вадной меры, трымаючы меч угарэ, а яна то баржджэй каля паненкі памулялася ды й усадзіла невялічкага страмячка падногаць, так тая ўпала. Ведзьма ўцекі, ды й зараз і разбойнікі надышлі.

— Ну, што тут рабіць? — аж яны ўжэ самі на сабе валасы з жалю дзяруць. Сталі то баржджэй распратваць яе, пазнімалі ўсенютка — не ўстае! Што ўжэ рабіць, прыбралі яе ў што мелі найхарошчае да найдарожша, да то зрабілі залатую труну, улажылі яе, паняслі ў цёмны лес, павесілі на чатырох дубох ды й самі пад тымі дубамі пастраляліся. Перайшоў пасля таго якісь час, паненку ўсё вецер калыша, калыша, асёж прыязджае кралёў сын да таго лесу на паляванне. Як пусцілі сабакі, асёж яны адразечку зветрылі, пабеглі пад тыя дубы ды й то як пачалі пішчаць, скавытаць, на тую труну гледзячы, так кралевіч паехаў туды глядзець, што там такое? Прыехаў, заглянуў угору — вісіць не[й]ка залатая труна на чатырох дубох! Так узяла яго цікавасць пераканацца, што ў той труне. Шчарапкаўся ён яксьці па том дубе, а[д]чыняе труну, асёж ляжыць паненка, так як жывая, і надта ўжэ хароша! Кралевіч ужэ сам не ведае, што тут рабіць, і баіцца, каб яго дваране не сцікавалі, дзе ён падзеўся, і злазіць адтуль не хоча, бо не можа наглядзецца на яе. Але нішто, мусіў цішком вярнуцца, як нібы-то так, як нічога не бачачы. Не ў галаве ўжэ яму было паляванне, казаў сабак пасклікаць ды й паехалі дадому. Вярнуўшыся да двара, ходзіць проста як пакопаны: не п'е, не есць, цёнгле ў думках, ды й не кажа нікамутанькаму, што яму такое. Зараз то і бацькі сцікавалі тое, так ужэ і стражу паставілі, каб сабе чаго не зрабіў лі-

хога. Ну, але-такі аднае ночы, яксьціка, хоць яго добра вартавалі, уцёк ён з тых палацаў, да ў лес, да ў тыя дубы, да то за тую труну з паненкаю, ды й то паціхусеньку прынёс яе да двара, ды й то неяксьціка праз акно ўпёр тую труну ў свой пакой, і, бало, ужэ як выйдзе на ранкі, так зачыніць пакой, ключ у кішэнь ды й ужэ нікога ў свой пакой не ўпусціць. Раз выпер яго бацька сілаю на паляванне, а сам, адбіўшы дзверы, увайшоў да таго пакою, глянуў сюды-туды, аж стаіць тая труна а[д]чынена, а ў ёй не[й]ка паненачка! Ён то, перапалохаўшыся, увесь анямеў, так то дваране, убегшы, ледзве яго ачуцілі. Кролеві яшчэ харошча, ніж сыну, здалася. Ён, што тут рабіць? — радзіцца то з тым, то з сім:

— Трэ яе баржджэй пахаваць, каб кралевіч яшчэ з нуды што сабе не зрабіў. Ляньцеся,— кажа,— то ж ён у мяне адзін, як вока ў лобе! Ай, ліхачко! Каму ж маё кралеўства па мне астанецца?

Да то барджджэй вынялі з труны, каб прыбраць у 'надшу адзежу, да то сам сваею рукою твар ды й рукі ёй памыў, ды й неяк прыгледзеў, што ногці завялікія, так то ўзяўшы ножанкі, стаў абрэзваць, ды й то, абрэзваючы, прыгледзеўся, што неяка парушынка страміць пад ногцем; так ён то выкалупаў тую парушынку, так яна і блінкнула вачыма! Ён з радасці і сам не ведаў, што чыніць! Асёж якраз і сын наязджае; як зочыў, што яна сядзіць — ля, жывая! — так і хапіўся яе цалаваць рукі, ногі, а после давай то бацька малёгаць, каб пазволіў з ёю абвянчацца. Кроль пазволіў ды й зараз разаслаў пасланцоў на даўкалічнасць, каб ужэ наспрашалі гасцей, ды й пажаніў іх.

Дзе быўшы, сніцца яна зноў свайму бацьку, што жыва і што выйшла замуж, за кролевага сына. Ідзе ён зноў да свае кабальніцы, закінуў кабалы — асёж праўда — жыва, каб яе ўдушыла!

— Ужэ я не пайду,— кажа ведзьма,— ідзі ты сам ды й то не адкладай доўга, бо ім ніўбаўкі бог дасць сына, то,— к[ажа],— яны будуць тое дзіця хрысціць, а ты тагды магчымеш штокольвячы вырабіць,— ды й то навучыла яго, як што зрабіць.

Ідзе ён туды, прыходзіць, асёж якраз яна ўжэ сына мела, ды й ужэ да хрэсьбінаў прыбіраюцца. Так ён то, прыйшоўшы, кажа:

— Я бы мог за кухара згадзіцца, бо я службы ішчу.

А ім от якраз трэ было кухара, так яны, узяўшы, згадзілі яго. Ну, так расказалі ўжэ, што яму рабіць, ён так ужэ завіха-

еца, стараеца, у хожку ўходжвае, ужэ і тое дзіцятка да хрысту скупалі, анно ўжэ нажыдаюць, каб кумы наехалі, а кралевіч з жонкаю пайшлі ў горад на спацыр. Тагды той кухар барджджэй у пакой, да тое дзецяня зарэзаў, да то нож пад хфартух ды й бяжыць проці іх, ды й то размінаючыся, усадзіў той нож ёй у кішаню ды й пабег нібы-то дзе за чым пільным. Ляньцеся, ужэ і кумы наехалі ды й усенечкія госці на той банкет, уходзяць у пакой, дзе тое дзецяня — асёж нежывое! Тут такая зрабілася раструшня, крычаць, вычытваюць, што хоць уцякай! Што тут рабіць? Трэба трасці ўсіх, хто яго зарэзаў. Перагледзелі — нідзе ў нікагуткага нічагуткa нямашака. Давай то яшчэ трасці кралёў, асёж у кралёвай находзяць у кішані нож закрываўлены! Ну, судзяца ўсе, што тут ёй зрабіць за тое? Ды й асудзілі так:

— Паадрэзваць ёй рукі па локці, прывязаць тое дзіця да шыі ды й выправіць упрочкі.

Ну, ды й зрабілі гэтак. Ходзіць яна, бедна, па шырокум свеце, ходзіць; асёж варона на со́сне корміць дзеці, узяло адно вараняпятка ды й упала якраз на яе, так то кралевічыха ўзяла яго тымі куксамі ды й дзяржыць. Так ужэ варона просіць, так просіць:

— Аддай мне,— кажа,— маё дзіця, аддай!

Так яна адказвае гэтак:

— Як ты мне,— к[ажа],— прынясеш вады жывушчай ды й гаюшчай, то я табе тваё дзіця аддам.

Ну, так варона барджджэй то паляцела недзе, асёж ніўбаўкі прыносіць дзве пляшачкі; пашмаравала з аднае — ажыло дзіця, пашмаравала з другой — загаілася! Такая ўжэ яна кантэтна, што божа мілы! Такі ўжэ той хлопчык харошы, разумны, бегае ўжэ сам каля яе, такі разулітны, што і куды! Асёж захацелася яму піць, так ён стаў прасіць мацеры:

— Ідзем,— к[ажа],— да гэтага дзядзька, што гарэ, папрасем вады напіца.

Падышлі да таго чалавека, так ён ім кажа:

— Гось тут недалёка крынічанька, пайдзеце сабе нап'ецеся.

Так то той хлопчык пабег ды й яна за ім, пакуль яна дайшла, ён нагнуўся ў тую крынічку піць воду, так і шабаўснуў галавою. Яна чыста спалохалася да то ўсадзіла тыя куксы, лавіць дзіця, асёж як бач і рукі абедзве папрыраслі. Выняла яна тое дзіця, такая ўжэ рада, а хлопчык кажа:

— Мамо, ідзем ужэ цяпер да сва[й]го татка на баль — на мяніны.

Яна то ўздыхнула цяжанька, а ён кажа:

— Не бойся, ма, ідзем, анно адразечку не ўказывайся, што ты яго жонка, але так, нібы-то жабруючы.

— Добра, дзеткі.

Прыходзяць яны туды, асёж той яе бацька ўсё яшчэ там жыве. Яны прыйшлі збéдніўшыся, аж ім кажуць:

— От астанься ў нас, жонко, скольki дзён, бо гэта будзе замятня, то сякая, то такая, то паможаш, то рондлаў памыць, то свінням вынесці, ды й сама пад'ясі з хлопцам.

Так яна:

— Добра,— к[ажа],— то пабуду ў вас, што мела дзе цягацца.

Жыве яна там адзін дзянёк, другі, мо ўжэ і з тыдзень, а той хлопчык усё за печчу сядзячы ўсім басні бае і такія харошыя і жаласлівыя, што аж вушы вянуць услухаючы. Ужэ і сказалі аб том хлопчыку кроляві і кралеўскаму сыну, ну так кроль думае сабе:

— Як будзе баль, а госці наедуць, то заклічу таго хлопчыка, няхай і нам збае якую басню.

Асёж і надышоў ужэ той баль, наз'язджалася адсюль гасцей, пілі, гулялі, прыдумаў кроль аб том хлопчыку ды й кажа сваім там дваранням:

— Клікнеце тое хлапчаня, няхай ён нам збае басню.

Прыходзіць той хлопец, зняў шапачку, пакланіўся нізенька, так кроль кажа:

— А што, хлопчык, умееш ты басні харошыя?

— О, каб не ўмеў! Але няхай найяснейшы і міласцівы кроль раскажа, каб і слугі прыйшлі ўслухацца ды й каб пры ўсіх дзвéрах і вокнах варта стаяла.

Як ён папрасіў, так кроль дзіцяці дагадзіў. А была пры том хлопчыку каробачка маленечка з гарэхамі, так ён сабе сеў серад пакою, ножкі паўцягаў, каробачку паставіў ды й то пачаў, выняўшы колькісь гарэшкаў з каробачкі:

— Цот, цот да цаток, два гарэшкі, тры гарэшкі ў карабок. Быў сабе адзін бацька ды й меў харошу дачку.

Ды й зноў:

— Цот, цот да цаток, два гарэшкі, тры гарэшкі ў карабок. Захацеў той бацька з сваёю дачкою жаніцца. Цот, цот, да цаток, два гарэшкі, тры гарэшкі ў карабок.

Ну, так гэтакім спосабам расказаў усе матчыныя прыгоды з канца ў канец: хто яго зарэзаў да мацеры нож у кішэню ўлажыў, хто яго аджывіў ды й як у мацеры рукі ўзяліся. Ну, так то кралевіч, не даўшы яму ўжэ скончыць, ухапіў на рукі, выца-

лаваў, вымілаваў ды й то з ім пабег да кухні, упаў жонцы да ног ды й стаў перапрашаць. А кухар, тое ўгледзеўшы, у дзверы, а вартаўнікі яго зымалі ды й то за кралеўскім прыказам барж-джэй яго на жалезныя бораны расцягнулі ва ўсе стораны света. Тады зноў нанава бясёду разнялі, ды й пілі, елі, ды й плакалі з радасці. Ну, і я там была, мед-віно піла, у губе не было, па барадзе цякло.

## 71. РЫБАК УМЕСЦІ З ЦАРАМ АСВАБАЖДАЮЦЬ СЫНА ПЯТРА I

Как быў бедны рыбалоў, і была ў яго шэсцера дзяцей; ён ніякімі работамі не занімаўся, акрамя рыбы лавіць. І быў у яго закон: больш трох тонь у дзень не закідываць: када за тры разы што выцягніць, то прадасць і етым корміць дзяцей. Толькі адзін раз на яго злучылася: тры разы закінуў, ні воднай рыбкі нету, а хлеба-то дома ні крошкі, дзяцей карміць нечым. Ён уздыхнуў цяжало:

— Ну, што будзь, а закіну чэраз закон чацверты раз.

Толькі ў чацверты раз цяніць із ракі кукшын медны; еты кукшын закрыт, царкоўнаю пячаццю запячатаван, і наврху кукшына крэст выбіт. Рыбалоў узяў і падняў ету крышку з храстом: у етым кукшыне нетуці нічаво, толькі із яго пашоў гужыкам дымок за ўзвал. Рыбалоў еты сам з сабою рассуждаіць:

— Ну, хоць рыбкі не паймаў, дык еты кукшын прадам, усё якей руп дадуць.

Толькі з-за ўзвала, куды пашоў дымок, ідзець адтуда к рыбалову чалавек агромны і гаворыць на рыбалова:

— Я цябе, рыбалоў, уб'ю.

Ён гаворыць:

— За што ты мяне будзеш біць, нявіннага чалавека, за якоя дзела?

— А за то: зачым ты мяне бяссрошна выпусціў із кукшына?

— Як я цябе выпусціў бяссрошна, па какому дзелу?

— А па такому: я быў заперт у кукшыне на дзвесце лет.

Рыбалоў гаворыць:

— Як ты магіш памясцііца ў кукшыне, еткі злябінішча, я етаму не веру, патаму што твая ніпраўда!

— Ну, када ты мне не верыш, то глядзі, як я буду вон з-за тэй гары ідзіць дымком у кукшын — ты відаў, што із кукшына дым ішоў — ета быў я.

Пашоў ён за гару, скінуўся дымком і ідзець у кукшын. Рыбалоў дзяржыць кукшын, а дым у яго ўбіраецца, і думаіць рыбалоў: «Вазьму, как дым убярэцца, закрыю кукшын, а то ні за што ўб'ець». Толькі дым увабраўся ў кукшын і гаворыць:

— Ну, рыбалоў, ты гаварыў, што я не ўбяруся, а тапер сматры: я ўвесь увабраўся.

Рыбалоў січас хляп крышку, ды й прыпячатаваў, што как было, гаворыць:

— Ну, нікаянны, сядзеў ты на дзвесце лет, а цяпер я засадзіў цябе на трыста.

— О не, рыбалоў! — гаворыць дым. — За што на столькі засадзіў: нужна памілаваць.

— А за што ж ты хацеў убіць мяне занявіння, так і я цябе?

Дым гаворыць:

— Я жа зразу сказаў, ды не ўбіў, а за што жа ты мяне адразу хочаш засадзіць на столькі? Нет, рыбалоў, ты мяне пусці: ■ цябе навек пасажу на хазяйства.

— Ты мне салгеш, ніпраўда, нікаянны дух!

— Нет,— гаворыць,— наш дух вярней вас; я праўду гавару,— толькі выпусці, пажалуста.

— Ну, харашо сабе, выпушчу, када спраўдзіш толькі мне.

Адкрыў рыбак кукшынок, із яго вышаў дымок і пашоў за ўзвал. Патом ідзець к яму чалавек агромны і гаворыць:

— Ну вот, рыбалоў, ты мне не верыў, што я цябе пасажу хазяінам навек! Вот я табе пакажу амшарыну, ігдзе табе лавіць рыбу, пер'авалаківай у тую амшарыну сець сваю і лодку, такоя-то і такоя места, там і лаві рыбу; будзеш ты там многа выцягіваць рыбы,— ну ты большы трох шчучак не бяры: што за іх запросіш, то табе і дадуць.

Рыбалоў пашоў у тую амшарыну, закінуў сець сваю і выцягнуў многа рыбы; тую рыбу назад паўпускаў, а тры шчучкі з сабою ўзяў. Нясець ён па гораду ету рыбу, страчаецца з рыбаловам царскі повар:

— Што, рыбалоў, прадаеш рыбку?

— Прадаю.

— Што ж ты за яе просіш?

— Па тры чарвонца шчучку.

Повар яму дзевяць чарвонцаў выкінуў, а шчучкі еты пазабраў. Прынёсшы іх на кухню, ён прыгатуваў іх, як нада, штоба палажыць на пліту іх жарыць. Толькі палажыў на пліту етых ён рыбак, січас ідуць тры дзевушкі із кухні і спрашыюць:

— Рыбкі-сёстры, вы тут?

— Тут,— атвячаюць рыбкі.

— Пайдзем з намі!

Січас брык — у кухні адна сцяна вон; еты рыбкі саскачылі з пліты, скінулісь дзевушкамі і пашлі з первымі скрозь сцяну. Повар етых штук смотрыць ды й гаворыць:

— Купіў было гасудару рыбы згатовіць, а тапер нечага; бог знаіць, што злучылась!

Січас зачаў прыгадываць, какоя ба кушанне згатаваць на рыбным месце, якоя ба паслажай. Гасудару панравілась ета кушанне на рыбным месце: харашо!

І гаворыць:

— Ах, повар, як ба ты і заўтра еткія кушання згатаваў!

Повар пашоў і назаўтрага пакупаць рыбу. Еты рыбалоў апяць нясець тры шчучкі. Повар гаворыць:

— Прадаеш рыбку?

— Прадаю.

— Што просіш за іх?

— Па тры чарвонца.

Повар апяць выкінуў яму дзевяць чарвонцаў. Прыносіць іх на кухню, гатовіць так, штоба палажыць на пліту жарыць. Толькі палажыў іх на пліту, апяць ідуць тры дзевушкі:

— Што, сёстры-рыбкі, вы тута?

— Тута.

— Пайдзем з намі!

І апяць брак — адна сцяна вон; рыбы скінулісь дзевушкамі, узялі і пашлі. А повар смотрыць ета дзіва апяць жа-ткі. Апяць повар зачаў гатаваць кушання на рыбным месце, каторыя паўкусней, как ба і ўчара. Рыбалоў жа, прадаўшы ету рыбу, апяць адпраўляецца ў амшарыну рыбу лавіць. Падносіць апяць повар цару кушання на рыбным месце сладкія. Гасудар апяць спрашыіць:

— Ідзе ты еткія кушання навучыўся гатаваць із рыбы? (Ен знаў, што даваў повару дзеньгі на рыбу.)

Повар гаворыць:

— Пазвольце сказаць, свет вялікі гасудар, я бяру рыбу ў знакомага, беднага рыбалова, і толькі вам, гасудар, ні разу тэй рыбы кушаць не дастаецца. Я рыбалову за тры рыбы выкідываю пастаянна дзевяць чарвонцаў, но я сам прымышляю гатовіць еткія кушання на рыбным месце за свой капітал.

— А йдзе жа ваша ета рыбка дзяваецца? — гаворыць гасудар,— ты мне аб етым не талкаваў.

Ен атвячаіць:

— А прыдзіце самі, свет вялікі гасудар, вы ўвідзіце, ідзе яна дзяваецца.

— Ну,— гаворыць гасудар,— ідзі к тому рыбалову, старгуй у яго тры рыбкі і, дзеньгі не плацёмшы, прывядзі яго суда з рыбкаю.

Повар пашоў на рынак і ўстрэў тога рыбалова с трымя рыбкамі:

— Што, рыбалоў, прадаеш рыбку?

— Да, канешне, не пакупаю: вы самі знаеце пра маю нужду!

— Ну,— гаворыць повар,— нясі за мною рыбку на кухню, там цябе заплоцяць, а пры мне тут дзенег нету.

Прыведшы яго на кухню, узяў у яго рыбку і давай абчышчываць. Прыбраў яе так, як ставіць на пліту. Січас пашоў і далажыў цару:

— Свет вялікі гасудар, падзіце, пасматрыце, як я вам рыбу гатую!

Прышэдшы на кухню, цар гаворыць:

— Рыбалоў, ты мне рыбку прадаеш, а я яе не кушаю.

Рыбалоў еты саўсім ета дзела не знаіць нічаво і гаворыць:

— Свет вялікі гасудар! Я яе прадаю і не знаю, ідзе ж вы яе дзяваеце?

Гасудар гаворыць:

— Ну, рыбалоў, я сам не знаю, ідзе яна дзяваецца, а тапер паглядзім умесце, ідзе яна дзяваецца.

Повар січас наставіў ету рыбу пры іх на пліту. Січас ідуць тры дзевушкі:

— Рыбы-сястрыцы, вы тут?

— Тут.

— Пайдзем з намі.

Брык! Сцяна адна вон вывалілась, тры рыбкі скінулісь дзевушкамі і пашлі з первымі. (Яны тры разы выхадзілі з кухні, і сцяна тры разы выварівалась і ізнова станавілась на сваё места.) Гасудар спрашыіць у рыбалова:

— Вот, рыбалоў, сам відзіш, ідзе яна дзяваецца!

Рыбалоў гаворыць:

— Свет вялікі гасудар! Я сам не знаю, пачаму ета ўсё дзелаецца.

— Раскажы, рыбалоў,— гаворыць гасудар,— ідзе ета ты ловіш ету рыбу?

— Вот, вялікі гасудар, лаўлю я ў таком-то месце, у такойта амшарыне.

— Скажы ты мне, хто табе тую амшарыну паказаў?

(У тэй амшарыне із веку праваліўся горад Пятра I.) Рыбалоў расказаў, як ета і што было.

— Ну,— гаворыць цар,— вот табе за рыбу тры чарвонцы, і заўтра паязжай з сеццю ў тую амшарыну як можна раней і зацяні сець — толькі не выцягівай, пакеля прыеду я.

Рыбалоў так і здзелаў: закінуў сець у амшарыне і стаў дажыдаць цара. Гасудар назаўтрага раненька ўстаў, узяў сваю вострую меч і пашоў к рыбалову. Стаў ён іскаць рыбалова і не найдзець і біўся цэлы дзень, іскаў рыбалова і не нашоў, а заблудзіўся ў тэй амшарыне. Прабыў да цёмнага, ужо запалілі агні. Аднака ж ён замеціў пасерадзі амшарыны аганёк і дай к етаму аганьку бліжы падайдзіць. Прыходзіць к етаму аганьку — стаіць дом агромнейшы, царскія палаты. Уходзіць ён у палаты, там нет нікаво, толькі сядзіць Пятра Первага сын: палавіну ламарнага камня, ■ палавіну чалавека. Гасудар увайшоў і скланіваецца яму, а ён толькі галавою кіўнуў. Гасудар гаворыць:

— Як так можна: я табе так нізка кланяюсь, а ты мне не можаш пакланіцца?

Пятра Первага сын атвячаіць:

— Эка, вялікі гасудар, разве вы не відзіце, як я суродаван: палавіну ламарнага камня, а палавіну чалавека?

Гасудар і спрашыіць:

— Хто ета цябе так асуродаваў, што ты страдаеш?

— Свет вялікі гасудар. Мая жана мяне так асуродавала: яна ўгаждаіць нікаяннаму духу, яна з ім знаецца. Када хаціце пасматрэць, як яна нада мною зругаецца, то ізвольце схараніцца за шках і сматрэць аттуда: яна мне кажныя суткі па сто лазаноў даець і, как сто лазаноў уваліць, то на мне суконную рубашку перадзяваіць, а корміць — пасматры чым: аднэю валоўю жылай.

Цар спрашыіць:

— А ідзе яна тапер?

— А яна вялікая валшэбніца і тапер ідзе-то лятаіць па рускаму царству і скора даўжна прыляцець.

Цар узяў і за шках спратаўся, штоба пасматрэць, што яна над ім будзіць дзелаць. Січас яна прыляцела з палёту, січас яму сто лазаноў уваліла і суконную рубаху перамяніла і дала яму ў рот валоўю жылу жваць. Цар сматрэў з-за шкахва, як яна яго наказывала. Патом яна падашла к сундуку, ідзе ляжаў нікаянны дух, яе узлюбленны, і начала яго ўпрашываць. (Яна яго чым-то разгневала.) Патом яна ўляцела. Цар вышаў з-за шкахва і гаворыць на сына Пятра I:

— Как ба цябе спасці атсюда, і штоба здзелаць горад горадам, а чалавека чалавекам?

(Ведзьма ў угоднасць узлюбленаму абараціла людзей у рыбу і горад у возера). Пятра І сын гаворыць:

— Вот вазьмі і перарубі нікаяннага духа сваею востраю меччу крэст-накрэст, ні большы,— схавайце яго пад мост, а самі ляжце ў сундук: када яна апяць прыляціць, мне сто лазаноў уваліць, суконную рубаху перадзеніць, то думаўшы, што ў сундуке нікаянны дух, то станіць упрашываць вас...

Цар нікаяннага духа хрэст-нахрэст перасек, а ён закрычаў:

— Прыбаў, вялікі гасудар, яшчо раз!

А цар гаворыць:

— Будзіць з цябе і етага!

Яго з сундука выкінуў, пад мост схаваў, а сам у сундук лёг. Ведзьма прыляцела з палёту, даець у хрыбет мужу сто лазаноў, перамяняіць суконную рубашку, даець у рот валіную жылу, а сама ідзець к сундуку ўпрашываць нікаяннага духа, не зная, што ён спатраблен, і гаворыць:

— Што ты на мяне сердзішся, што ты мне не атвячаеш, скольк і ўрэмя я цябе спрашыю?

Цар гаворыць:

— Што жа буду табе атвячаць: какоя я із цябе віжу давольствія?

— Как какоя? Я ўсё, што ты мне прыказыеш, я ўсё выпалняю.

Цар гаворыць:

— Нашто ты свайго мужа здзелала палавіну ламарнага камня, а палавіну чалавека? Ета нам ні пад нужду. І горад ты здзелала возерам, а людзей рыбамі? А вот ты мне здзелай удавольствія: мужа свайго — як быў ён трыццаць пяць лет, так і здзелай такім жа, горад, як быў ён горадам, так і здзелай горадам, людзей здзелай людзьмі!.. Пайдзець тады па нашаму гораду таргоўля; вот ета і будзіць мне ўдавольствія, а то сядзім мы тут, як у вастрогі, і свету не відзім.

Яна думала, што ета гаворыць з ею нікаянны, січас і гаворыць:

— Я сама знаю, што мы тапер жывем у неўдавольствіі, ну, я дзелала, як ты мне прыказываў.

Січас з радасцю пабегла ўсё перадзелываць. Падзелала, як ей цар гаварыў, прыбегла к нікаяннаму духу і гаворыць:

— Ну, усё падзелала, як ты мне прыказываў: выйдзі, паглядзі!

Цар гаворыць:

— Ну, ці верна ж ты здзелала?

— Верна.

Цар гаворыць:

— Ну, бяры мяне за левую руку: я залежыўся і не ўстану!

Яна ўзяла яго за левую руку, а ён яе як секанyў меччу, так галава і пакацілась. Патом сын Пятра I абнялісь з царом і пацалавалісь. Сян Пятра I гаворыць:

— Ну, тапер рубі яе на мелкія кусочкі: благадару, што ізбавіў мяне.

Так яны ўзялі і парубілі яе э нікаянным духам на мелкія кусочкі, вывезлі яе на поле, касцёр дроў злажылі і іх спалілі; попел размялі і на мора па ветру пусцілі,— хто таго смуроду набраўся, на век ведзьмаком астаўся. Самі пашлі па етых палатах расхажываць і ўсё разглядываць, усе лі так стала, як прэждзі. Толькі ідуць у ва зал у свой і відзяць: сядзіць у зале рыбалоў, што цару прадаваў рыбу, і сядзіць ён, абцянуўшысь сеццю кала сцяны. Сын Пятра I спрашыіць у цара:

— Свет вялікі гасудар, хто жа ета ?

— Маўчы, брат, еты цябе адсель і вывеў. Ну, збірай, рыбалоў, сеці, пайдзем адсель із залы! Благадару цябе, што ты ўказаў мне ету мясціну: мы тут спаслі горад, цара і народ, запаланётыя нікаянным духам.

Сталі яны тады піць да гуляць, да дабро нажываць. Рыбалова паставілі первай гільдзіі купцом, дзецям яго павек палажылі жалавання. Пасеяў мужык аўса, а басня мая ўся.

## 72. БЯДНЯК І МЕРТВЯЦЫ

Жылі-былі два брата. Адзін быў бедны, другі багаты. У багатага была бяседа. Бедны брат прыйшоў к яму, а ён гаворыць:

— Чаго ты прыйшоў? Ты мне не брат, ідзі ад мяне!

Бедны і пайшоў. Як толькі выйшаў ад брата, дак не пайшоў дамоў, а пайшоў саўсім у другі бок. Ішоў ён, ішоў, відзіць царкву. Ён зайшоў у царкву, памаліўся богу, пакланіўся перад каждым абрáзам і пайшоў дальшы. Ішоў, ішоў нескалькі дней і падходзіць к драмучаму лесу. Толькі стаў уходзіць у драмучы лес, а тут і стала цямніцца. Вот ён ішоў, ішоў, ужо пад поўнач. А цёмна — нічагухтынька не відаць. Толькі ён прайшоў дальшы, відзіць маленькі аганёк. Стаў ён дальшы і[с]ці, чуець —

нехта гаворыць. Ён стаў за тоўстым дзеравам, аж ідуць дванаццаць чалавек. Адзін спрашуець:

— Ну што, ці заклалі там сена коням, аўса ці засыпалі, вады ці налілі?

Яму атвячаюць:

— Усё падзелалі: і сена наклалі, і аўса насыпалі, і вады налілі, дос будзець ім на дванаццаць дней!

— А ці харашо запёрлі, ці замкнулі, і дзе ключы палажылі?

Яму атвячаюць:

— Усё запёрлі, замкнулі, а ключы паклалі павышы дзвярэй!

— Ну, добра! Пойдзем!..

І пайшлі ўсе. А бядняк тэй усё гэта чуў. Вот ён абдумаўся і пайшоў туды, дзе аганёк бачыў. Прыйшоў туда, найшоў ключы, усё паразамкнуў, парасчыніў, улез у пакоі. А ес[ц]ь яму хочацца! А галодны жа заўсёды перва ес[ц]ь ішчэць. Пайшоў ён есць разойскаваць і нашоў разнага піцення, ядзення — напіўсь і наеўсь. Стаў тады хадзіць па пакоях. Прыходзіць к склепу, адмыкнуў, відзіць — адны толькі трупы ды галовы! Ён спужаўсь. Але думаець: «Яны ж пайшлі на дванаццаць дней! Я шчэ спраўлюся!» І пайшоў дальшы. Адпёр другі склеп, відзіць — адна адзежа. Ён дальшы. Адпёр трэці склеп, відзіць — адна пасуда, залатая ды сярэбраная. Пайшоў яшчэ дальшы, найшоў чацвёрты склеп, з грашамі, а грошы — усё золата ды серабро. Тады бядняк гэты думаець: «Ну, цяпер я мажа разжывусь!»

Пайшоў атыскаў канюшню, адпёр яе — а там трыццаць шэс[ц]ь коней стаіць. Ён пайшоў найшоў калёсы; запрог дванаццаць коней. На первых траіх коней ён налажыў адны трупы; на другую тройку паклаў адной адзежы; на трэцюю наклаў адные пасуды, залатыя ды сярэбраныя, а на чацвёртую тройку насыпаў грошай. Тады сабраўся і паехаў адтуль. Ехаў, ехаў, ну толькі ўехаў у сярэдзіну леса, захацелася яму крэпка спаць. Звярнуў ён з дарогі ў лясок, выпраг коней, ес[ц]ь ім даў, а сам лёг спаць у пярэднім вазу. Вот ён спіць адзін дзень, спіць і другі. Тады яму пачулася — нехта яго будзіць. Прашнуўся ён, ажно і калёсы выкачаны на дарогу. Пачулася яму, што нехта кажаць:

— Запрагай скарэй коней ды як можна ўцякай: а не ўцячэш, дык смерць будзець табе!

Ён запрог коней, пераксціўся і давай уцякаць.

Прыехаў дамоў. Упярод за ўсяго сыйскаў папа і дзяка і пахаваў тыя трупы, што прывёз ад разбойнікаў. За хаўтуры ён

даў папу гарнец серабра, дзяку даў палавіна гарца, а старасту з паламаром па прыгаршнях. Справіў харошы хаўтуры, памянуў іх, як трэба, і стаў сабе жыць па-хадзяйску.

Вот ён жывець сабе пры ўсей выгодзе. Раз была ў яго бяседа. Бядняк пазваў у госці свайго багатага брата. А багаты гаворыць:

— Куды я пайду к тэй голі? Што ў яго ёс[ц]ь? Чым ён мяне будзець частаваць? Скарынкамі, ці што,— што па свету сабраў?

А жонка багатага стала яго ўгаварываць:

— Ну дык што, што ён бедзен, а мы багаты? Можа ён нас на савет завець!

Ён паслухаў і пайшлі ў госці. Як прыйшлі яны к яму, пасадзіў ён іх за стол, стаў падносіць страву такую, якую яны шчэ не елі і зроду. Дзівіцца багаты і стаў распытываць у брата:

— І дзе ты найшоў столькі багацця?

А бедны гаворыць:

— Мне бог даў!

— Як жа табе бог даў?

— А вот як: калі я ў цябе быў і ты мяне не прыняў, я пайшоў у свет. Ішоў я, ішоў, увідзеў я царкву. Я зайшоў, памаліўся і пайшоў дальшы. Ішоў, ішоў — прысцігла мяне ноч у лясу. Тады выйшаў я к агню і ўвідзеў людзей. Я стаў за дзерава і стаў глядзець, ці многа іх: стаў счытаць і насчытаў іх дванаццаць чалавек. Адзін спрасіў: ці залажылі коням сена, ці пасыпалі аўса, ці налілі вады? А другі кажаць: «Усё падзелалі, дос ім будзець на дванаццаць дней». Пасля гэтага і пайшлі. Як толькі яны пайшлі, дык я пайшоў у іх дом. Як увайшоў у іхны пакой, дак усё роўна як у рай. Стаў я хадзіць па іхных скляпах. Расчыніў адзін склеп — віджу ■ адны голавы ды трупы. Я спужаўся. Але думаю, што яны пайшлі надоўга і я спраўлюся. Пайшоў дальшы, віджу другі склеп. Я расчыніў — а там адна адзежа. Я пайшоў дальшы, найшоў трэці склеп. Я апяць расчыніў — там пасуда адна. Тады найшоў я чацвёрты склеп. Расчыніў я яго, аж там адно золата ды серабро. Пайшоў я тады, запрог коней, насыпаў гэтага золата і серабра, набраў адзежы, пасуды, наклаў і мёртвых трупаў і паехаў дамоў. Прыехаўшы, трупы я пахаваў, а гэта ўсё мне асталось. Вот я з тых пор і жыву, слава богу!

Завідна стала багатаму: задумаў ён ісці і набраць сабе грошай. Як толькі ад брата прыйшоў, так запрог каня і паехаў. Ехаў, ехаў і дзе толькі ўстрэціць каршму якую, там заедзець і

нап'ецца гарэлкі. А як уссядзець на каня, толькі засвішчыць, запяець ды й пакоціць. Праязджаець ля царквы — не заехаў, не памаліўся, а толькі запеў ды засвістаў і паехаў дальшы. Калі хто спросіць:

— Куды ты едзеш, чалавечак?

Ён кажаць:

— Багацця шукаць!

Ехаў ён, ехаў, ці доўга, ці каротка — уязжаець у цёмны лес. А тут яго і цёмна ноч абняла! Едзець ён дальшы і ўвідзеў аганёк. Ён звярнуў на бок з дарогі да й стаў за ляском ціхенька. Відзіць — ідуць людзі. Адзін кажаць:

— Ці залажылі там коням, ці добра запёрлі?

Другі кажаць:

— Усё ладна падзелалі: і коням есць заклалі, до будзець дней на восем!

А трэці кажаць:

— Не, не пойдзем на столькі, а то і яшчэ хто абкрадзець нас. Мы сабіраем панямногу, а хто прыедзець — і ■ цэлай кучы набярэць. Не большы як на шэс[ц]ь дней пойдзем!..

Ну, і пайшлі. А багач, як толькі яны пайшлі, сычас сеў на каня да й марш у разбойніцкі дом. Як толькі ўз'ехаў на двор, так сычас каня свайго прывязаў, а сам і пайшоў у пакоі. Ну, пакуль прыехаў, ес[ц]ь захацеў. Ён пайшоў іскаць сабе чаго з'ес[ц]ь. Найшоў разных напіткаў-наедкаў — наўеся як трэба, напіўся і стаў песні пець.

А разбойнікі на гэты раз не ўсе пайшлі, толькі ўвасмярых, а чатыры асталось дома, пілнаваць, каб хто ўзноў не прыйшоў ды не пакраў грошы. Як яны пачулі гэты песні, яны пайшлі да й забілі яго...

Жонка багатага ждала-ждала — не чуць яе мужыка. Пайшла яна к бедняку і гаворыць:

— Верна, майго хадзяіна забіта, што яго не чуць. Ідзі ты яго пайшчы!

Тэй і пайшоў. Ішоў, ішоў і к ночы чуць да лесу даброў. Ідзець ён па лясу ўсю ноч. Як толькі стаў падходзіць к дому, увідзеў і разбойнікаў. Ён схаваўся за дзерава, і яны сабраліся ўкучу і гавораць:

— Ну, на сколькі дней пойдзем?

Другі гаворыць:

— Да дней на восем, не большы!

А трэці кажаць:

— Не, ужо ніхто не будзець красці: мы таго ўжо забілі!

Парадзіліся гэдак і пайшлі. А ён іх, стоючы, пералічыў, ці ўсе яны пайшлі, каб хто не застаўся дома ды не загубіў яго, як ён прыдзець.

Пайшоў ён у дом. Ну, як есці хацеў, пайшоў іскаць сабе пішч. Тады наеўшысь, напіўшысь, пайшоў коней запрог і стаў іскаць свайго брата. Толькі расчыніў первы склеп, відзіць — брат яго ляжыць навярху. Ён узяў брата, усклаў на павозку, а тады і астальныя трупы забраў на тры павозкі, а на тры павозкі наклаў адзежы, на тры пасуды і на тры золата і серабра. І адправіўся дамоў. Толькі ўехаў да палавіны леса, як яму крэпка захацелася спаць. Ён звярнуў з дарогі ў лес, коней выпраг, папрывязаў, а сам лёг у пярэдняй павозцы і заснуў. Спіць ён адзін дзень, спіць і другі, тады яму пачулася, што яго нехта будзіць. Ён прашнуўся і відзіць, што яго і калёсы выкачаны на дарогу, і коні запрэжаны. Пачулася яму зноў, што нехта кажаць:

— Едзь, чалавечак, скарэй, а то смерць блізка!

Ён як прашнуўся, так сычас і паехаў. Ехаў, ехаў і стаў пад'язджаць к царкве. Ён апяць узяў грошай і панёс к царкве; ажно відзіць — у ёй служэння няма. Ён тыя грошы паклаў на крыльцы і паехаў. Як толькі прыехаў дамоў, прывёз папа, дзяка і пахаваў усіх тых забітых. Адправіў хаўтуры па ўсіх, расплаціўся, як следаваець, а сам стаў жыць сабе спакойна са сваёй бабай.

Падняліcь скора яго дзеткі. Тады сыны і гавораць:

— Вот, тат, жывём мы багата і ўсяго ў нас ёс[ц]ь — і золата, і серабра, і пасуды, і адзежы, і жывём мы ў гэдакай курнай хаце! Пастроім мы сабе, тат, новую хату!

А бацька гаворыць:

— Не, мае сыны! Я ўжо стар і ў гэтай хатцы веку дажыву, а вы калі хочаце, дык сабе стройце!

Вот яны сталі йскаць места харошага ля дома. Іскалі, йскалі і выбралі места ля дарогі. Задумалі тут пастроіць заездны дом, бо тут, думаюць, места выгадна. Ну, як задумалі, так і здзелалі — выстраілі дом. І ўпрасілі-такі свайго бацьку пакінуць курную хату і жыць з імі.

Тыя ж разбойнікі, як толькі вярнуліся, так і ўвідзелі, што іх дом абобран. Сталі яны тады думаць, як ба ім най[с]ці сваё. Вот яны парадзіліся ды разбіліcь на чатыры шайкі і пайшлі ва ўсе чатыры стораны сойскаваць прапажу. Хадзілі, хадзілі, а тады прыйшлі ўтрох у самы тэй заездны дом і заначавалі. Спрасілі сабе есць, ім і падалі на сярэбранай пасудзе. Яны ві-

дзяць, што гэта ўся пасуда іхная. На другі дзень яны расплаціліся і заплацілі за ўсё утрая даражэй, чым стоіла тая вячэра. Выйшлі за вароты, агледзелі харашэнька гэты двор. Ну, ён быў хоць на адзіноцы, але дужа ўкраплён. Адзін кажаць:

— Дужа крэпак двор!

А другі кажаць:

— Гэта ж ля нас яшчэ луччы. Як мы прыедзем сюды, то мы ўсё запром і ніхто не выскачыць. І мы ўсіх іх парэжам, і сваё дабро забяром.

А калі яны начавалі, дык хадзяін спрасіў:

— Адкуль вы і хто?

— Мы,— каець,— купцы, таргуем салам! Вот, можа нядзелі чэраз дзве будзем везць па гэтай дарозе сала!..

Сабраліся ўсе разбойнікі дамоў і сталі гаварыць, хто йдзе быў і што відзеў. Адзін гаворыць:

— Я нічога не найшоў!

Другі:

— І я нічога!

Трэці:

— І я,— каець,— нічога не відзеў, нічога не найшоў.

А гэтыя ўжо гавораць:

— А вот мы дык найшлі таго, што нас абакраў. Ён ужо і заездны дом выстраіў, і там жывець цяпер. Як толькі мы прыйшлі к яму ды папрасілі есць, дык ён паднёс нам пішч на нашай пасудзе. Мы яе і спазналі, што гэта наша пасуда. Вот цяпер і пойдзем туды!

А другі гаворыць.

— А як ён нас не пусціць?

Тады трэці кажаць:

— А вот як мы к яму ўбяромся: возьмем бальшую бочку, і дзевяць улезець у гэту бочку, а трое астанецца, тыя, што там былі. Як спросіць: «з чым гэта бочка?», дык няхай скажуць, што з салам. Тады ўкоцяць бочку ў сарай, а вы самі заначуйце ў асобнай комлаце, каб нікога там не было. Як яны ўспяцца, тады запаліце свечку, прыдзіце ў сарай, нас выпусціце, а тады ўжо мы іх парэжам і вешчы свае забяром!

Так і здзелалі. І паехалі. Ехалі, ехалі, сталі пад'язджаць к заезднаму дому, схавалі тых таварышаў у бочку, а ўтраіх асталісь. Прыехалі, папрасіліся начаваць. Ён пусціў іх, паказаў ім сарай, ідзе коней ставіць і бочку, даў замок, каб замкнуць, і адвёў іх у асобенную комлату. І даў свечку, каб ноччы палядзець коней луччы было. Даў бог ноч, хадзяін запёр вароты,

пазамыкаў усё і лёг спаць. У самую глуш, у поўнач, калі ўсе спалі, разбойнікі гэтыя ўсталі, запалілі свячу і хацелі йсці выпускаць тых. Толькі выйшлі на двор — чуюць, нехта едзець із званком. Яны спужаліся, патушылі скарэй свечку і пайшлі ў сваю комлату. А тэй, з званком, пад'ехаў к варотам і стаў будзіць хадзяіна. Будзіў-будзіў, гукаў-гукаў — ніяк не дагукаецца. Паслаў ён тады кучара чэраз замёт пералезці ды пад вакно крычаць, каб ён прашнуўся. Чуць-ня-чуць дабудзіліся таго хадзяіна. Устаў ён, адпёр вароты, упусціў таго чалавека. Тэй увайшоў у хату і папрасіў, каб далі чаго цёплага, сагрэцца. Хадзяін паставіў самавар, падаў яму. Тэй напіўся, абагрэўсь і гаворыць:

— Ну, чалавеча! Табе сядні будзець страшная ноч!

І паехаў. Хадзяін запёр за ім вароты і ўзноў лёг спаць. Тыя ж разбойнікі ўсталі, свечку запалілі і пайшлі выпускаць тых разбойнікаў. Толькі выйшлі на двор, чуюць — іграець палкавая музыка, крычаць ура! б'юць у барабаны! Яны патушылі скарэй свечку і пайшлі ў сваю комлату. А тая музыка ўсё бліжы, бліжы, і падышоў к гэтаму дому цэлы полк салдатаў. Абступілі двор і сталі будзіць хадзяіна. Будзілі-будзілі — не прашынаецца. Пералезлі яны чэраз замёт і сталі ў вакно крычаць. Узбудзілі яны і гавораць:

— Хто ў цябе ёс[ц]ь?

Ён каець:

— Трое купцоў!

— Пакажы іх!

Ён павёў іх паказываць. Як толькі паказаў, так енарал сказаў салдатам убіць іх. Салдаты рассеклі двох папалам. Тады хадзяін стаў прасіць іх:

— Што вы гэта робіце? Як гэта можна?

А енарал кажаць на таго на трэцяга разбойніка:

— Ідзі, пакажы ваша сала!

Узялі салдаты гэтага разбойніка, прывёў ён іх к бочцы. Разбілі салдаты бочку, ажны там дзевяць чалавек разбойнікаў. Салдаты і засеклі іх усіх.

Тады енарал гаворыць хадзяіну:

— Гэта тыя разбойнікі, ідзе ты грошы браў. Вот яны прыйшлі перва ўтрох разведаць, а цяпер прыйшлі ўсе, каб вас парэзаць і грошы свае ўзяць!

Тады хадзяін спрашываець у іх:

— А хто ж вы такія ёс[ц]ь?

— А первы, што прыязджаў і разбудзіў цябе — гэта брат твой! Якурат у гэтае самае ўрэмя разбойнікі хацелі цябе загу-

біць. Ну, як пачулі званок твайго брата, спужалісь і патушылі агонь. Тады, як брат паехаў, яны зноў усталі, запалілі агонь і пайшлі выпускаць тых, што сядзелі ў бочцы. Ну, як пачулі нашу музыку, спужаліся і зноў схаваліся ў комлату! Я енарал, забіт быў разбойнікамі. Ты мяне пахаваў умесце з братам. А салдаты — гэта тэй народ, што ты адтуль вывозіў ды хаваў. Мы да таго ўрэмя, пакуль ты нас не пахаваў, былі ні на тым свеце, ні на гэтым! А цяперака ты едзь туды, у тэй дом, забяры усё іхнае дабро, а дом спалі і спажывай усё. А цяпер прашчай, цяпер цябе ніхто не тронець!..

З тых пор стаў тэй хадзяін там жыць ды пажываць без усякага страху.

## 73. СУЗАМА

Жыў-быў мужык са сваёю жонкаю. Бедна яны жылі. Але ж неяк кідаліся ад вясны да вясны.

Вот паехаў мужык на сваёй кабылцы ў лес па дровы. Едзе ён па лесе і так задумаўся над сваім цяжкім жыццём, што не заўважыў, як заехаў вельмі далёка, у нейкую пушчу. Злез ён з воза, прывязаў кабылку да дрэва, а сам глядзіць, што зрэзаць. Ідзе і глядзіць па баках. Раптам бачыць вялікую-вялікую скалу. Агледзеў яе мужык з усіх бакоў, з аднаго боку заўважыў дзверы.

Стаіць мужык і думае, як жа дазнацца, хто там жыве. І тут надумаўся вот што: засесці дзе-небудзь і дапілнаваць. Нехта ж пакажацца.

Пайшоў мужык, загнаў кабылку ў гушчар, а сам пайшоў і сеў недалёка каля дзвярэй у нейкім кустарніку. Сядзіць і чакае. А час так доўга цягнецца. Аж у жываце ўжо стала рэзаць, ды і галава закружылася. «Не, усё ж такі дапілную»,— думае сам сабе мужык.

Раптам чуе ён нейкі трэск і гоман, людскія галасы. Сядзіць мужык, аж валасы сталі дубам. А гоман усё нарастае. Тут бедняку не на жарт стала страшна, хоць ты драла давай.

Тут падходзяць да скалы шмат мужчын. Здаровыя такія, з барадамі некаторыя. Адзін з іх, самы здаровы, падышоў да дзвярэй і сказаў:

— Сузама, адчыніся!

Дзверы адчыніліся, і яны сталі ўваходзіць. Сядзіць мужык

і лічыць. Аж сорак іх налічыў. Увайшоў апошні з іх, і дзверы самі зачыніліся. А мужык сядзіць і думае: «Пасяджу і пагляджу, што будзе далей».

Доўга яшчэ сядзеў мужык і думаў усё сам сабе: «Што гэта за скала, чаму дзверы самі адчыняюцца? А што гэта за людзі?» Пакуль мужык думаў так, дзверы адчыніліся, і ўсе сорак мужчын выйшлі. Пастаялі трохі і пайшлі ў той самы бок, адкуль і прыйшлі.

Хацеў ужо мужык дадому ехаць, але думае: «Давай зайду і пагляджу, што там знаходзіцца». Падышоў да дзвярэй і сказаў:

— Сузама, адчыніся.

Дзверы адчыніліся, ён і ўвайшоў туды. Агляну ўся, аж там зіхаціць кругом! Золата, што вокам не акінуць, нейкіх дарагіх рэчаў поўна. Яды ўсякай шмат. Сеў ён наеўся. Затым думае далей: «Набяру я гэтага золата і завязу дахаты». Скінуў ён світку, кашулю, завязаў рукавы, набраў поўна і думае: «Як жа выйсці адсюль?» Тут падышоў і сказаў:

— Сузама, адчыніся.

Дзверы адчыніліся, мужык выйшаў і панёс золата да воза. Злажыў, едзе і мурлыкае нешта сабе пад нос, так узрадаваўся. Гэтак здорава абмануў ён разбойнікаў, столькі золата дастаў.

Дома паказаў мужык гэта золата сваёй жонцы ды кажа:

— Схадзі да суседа і пазыч гарца. Памераем, колькі ў нас яго ёсць.

Пайшла жонка да таго суседа. А суседзі былі вельмі багатыя ды вельмі ж хітрыя былі. Намазала суседка дно гарца мёдам і дала. Мералі яны гэтым гарцам золата, а некалькі залатнікоў і прыляпіліся да дна. Здзівіўся багач, калі бедныя аддалі гарнец. Думае ён: «Дзе гэта яны столькі золата ўзялі, што гарцам мералі? Яны ж ніколі нічога не мелі».

Распытаў багач мужыка, а той усё і расказаў. Ад зайздрасці сусед аж кіпіць. Запрог ён добрага каня, сеў і паехаў. Прыехаў, падышоў да дзвярэй і крыкнуў.

— Сузама, адчыніся!

Дзверы адчыніліся, увайшоў ён і давай награбаць поўныя мяшкі золата. Набраў, выцер лоб ад поту, падышоў да дзвярэй... А тут забыўся, што сказаць, каб дзверы адчыніліся. Тут давай крычаць як мог:

— Дзверы, адчыніцеся! Адапрыцеся, дзверы! Хата, адчыніся! — а потым і клясці яе пачаў усяк. Змогся, сеў і думае, як жа вылезці. Сядзеў, сядзеў, і тут раптам дзверы адчыніліся

і ўваліліся туды сорак тых самых разбойнікаў. Убачылі яны тоўстага мужыка на мяшках з золатам і кажуць:

— А, папаўся. Дык гэта ты і тады ў нас золата пакраў.

Стаў багач апраўдвацца:

— Ды гэта не я, не я...

Але яму і прагаварыць не далі. Забілі і выкінулі яго. А той бядняк падзяліўся тым золатам з другімі беднякамі і зажылі яны весела. А прагны багач так і загінуў, не ўдалося яму ўкрасці золата.

## 74. АБ РАЗБОЙНІКУ, ШТО ПАНЕНКІ КРАЎ

Было сабе ў адных паноў тры дачкі, у самую найменшую залюбіўся разбойнік і прыйшоў ён аднаго разу, перабраўшыся за жабрака, каб яе ўкрасці. Маці тых дачок выслала яму асьмак, але праз найстаршу; яна яму дае, а ён яе — цап! за руку, закінуў за плечы, як воўк гаўцу, да й памчаў як дуж. Агледзеліся бацькі, як яго ўжэ нідзе і следу не было. Прымчаў ён яе ў глухі лес да свае зямлянкі, а ў ёй было трынаццаць пакояў. Яна, небарака, плача, а ён яе цешыць, хоць агледзеўся ўжэ, што гэта не тая, каторай ён хацеў, але што зрабіць! Водзіць яе па тых пакоях, паказвае ёй багацтва ўсё, але яна плача да й плача. Трэба яму адходзіць у лес, так даў ёй ключы ад усіх трынаццаці пакояў да й прыказаў, каб да трынаццатага не зазірала, і даў ёй чырвонае яблыка і сказаў:

— Як ты да таго пакою пойдзеш, то я па яблычцы пазнаю.

Як ён пайшоў, пачала яна хадзіць па пакоях, а яблычка схавала за пазуху. Перайшла ўсе да й кажа:

— Недаждане яго, каб ён пазнаў, што я загляну да гэтага пакою! — да й увайшла туда.

Глядзіць, ажно там паўнюсенька людзей парэзаных ляжыць, і стаіць кадушка вялізна, а ў ёй кроў чалавеча. Яна нагнулася ў тую кадушку заглядаць, ажно яблычка з-за пазухі выпала ў тую кроў. Яна за тое яблычка, давай абціраць, але яно чыста збляднела. Села ўжэ яна, небарака, да й плача, ажно ідзе іх аж дванаццаць з лесу, а ён падышоў проста да яе і кажа:

— Ля, чаго ты так плачаш?

— Як жа мне не плакаць, то ж мае бацькі не ведаюць, дзе я падзелася.

— А не захадзіла ты да трынаццатага пакою?

— Не, не была.

— Ну, то пакажы ж мне яблычка.

Паглянуў:

— Ну,— кажа,— то хадзі, я табе пакажу!

Увёў яе туды, адцяў голаў, кроў спусціў у тую кадушку да й кінуў міжы трупамі, а сам пайшоў зноў да тых бацькоў, перабраўшыся за крамніка. Прыходзіць ён туды, ажно выйшла серадольша сястра голкі купляць. Ён гэта кінуўшы кромку за яе! да й пабег. Прынёс ён яе да зямлянкі, павадзіў па пакоях, даў яблычка і ключы і пакінуў яе; анно і з ёю так зрабіў, як і з старшаю, а сам пайшоў па трэцюю, учыніўшыся агроднікам. Прыходзіць туды, ажно якраз тая наймельша ходзіць па гародзе, так ён падышоў і кажа:

— Ці паненцы не патрэба агродніка?

А яна кажа:

— І оўшам, трэба,— да й стала з ім хадзіць па гародзе да й паказваць то тое, то сёе, а ён яе цап! закінуў за плечы да й памчаў. Прыносіць ён яе, такі ўжэ кантэцен, водзіць яе ўсюдыма, паказвае ўсё... Назаўтра трэба яму было пайсці да лесу на разбой, так пакінуў ён ключы, яблычка тое і кажа:

— А не хадзі туды, бо заб'ю!

Так яна, як анно выйшаў, яблычка тое пад по́душку падлажыла да й сама пайшла па ўсіх пакоях, увайшла да трынаццатага, ажно там яе сёстры парэзаны, так давай плакаць. Потым выйшла на надворак, села і сядзіць сабе, знябожыўшыся, ажно і ён прыходзіць. Глянуў да й кажа:

— Чаго ты такая маркотна?

— А чаго,— ка[жа],— я буду вясёла: там мае бацькі забіваюцца ад плачу, а я тут адна, як калок у полю, ні да каго загаварыці слова.

— А мо,— кажа,— ты была ў трынаццатым пакою?

— Ы-ы не.

— Пакажы ж мне яблычка.

Яна з-за пазухі, ажно яно яшчэ харошчае як было. Такі ўжо ён уцешны з яе! Пацешыўся ён ёю, пацешыўся да й і зноў павіхрыўся на лес. Яна пайшла да таго пакою, паплакала над сваімі сёстрамі, а потым выйшла на двор і села пад со́снаю задумаўшыся. А на той сосне было круковае гняздо, да й з таго гнязда якраз пры ёй выпала кручанятка. Так яна зараз яго падняла да й шчарапкалася на дзерава і ўсадзіла яго ў гняздо. А кручыца ўсё гэта здалёк бачыла, так падляцела і кажа:

— Паненко, ты маё дзіця ад смерці выбавіла, раскажы ты мне, чаго ты такая хмурная, мо я стану табе ў якой прыгодзе.

Яна ўцешылася, што хоць з птушкаю пагаварыць можа, да й давай ёй усё чыста расказваць. Так кручыца ёй на тое:

— Я табе прынясу вады жывушчай, то ты свае сёстры адживіш і ўцякайце згэтуль як дужыя.

Да й хуценька то паляцела, вады ёй прынясла́, яна гэта зараз пашмаравала горла сваім сёстрам, так у той момант аджылі, пашмаравала другою — пагоіліся. Потым пачалі думаць да гадаць, як бы да бацькоў дастаціся, а тут нават не ведаюць, кудэма ўцякаць. Потым-такі тая наймельшая прыдумала раду і як той прыйшоў з лесу, так кажа да яго:

— Будзь ты такі добры, дай маім бацьком хоць з скрыню адзежы, гэта яны такія бедныя, не маюць чаго насіць, а ў нас і так глуміцца.

Так ён кажа:

— І оўшам, накладзі колькі хочаш, я сам занясу.

Так яна кажа:

— Яшчэ я цябе буду аб адну рэч прасіць: як ты прыдзеш, не будзі мяне, бо як ты мне сон пераб'еш, то я захварэю, анно вазьмі цішком і нясі; а не заглядай да скрыні, бо я ўсё буду чуць і бачыць.

Так ён кажа:

— Добра, не буду,— бо яе надта любіў.

Ну, так як ён пайшоў на разбой, так яна гэта барджэй сваю сястру ў скрыню да й яшчэ наклала то сяго, то таго, а сама легла спаць. Прыходзіць ён, папрабаваў скрыню, што цяжкая, так кажа сам да се:

— Трэба несці, мусі ўжэ напакована,— да й закінуўшы гэта за плечы, памчаў.

Нясе, так нясе, нясе, так нясе, а потым кінуў на пень да й кажа:

— Мо яна не даведаецца, трэба паглядзець, што яна тут наклала.

Ажно тая адзываецца ў скрыні:

— Бачу я, чую я, што мой міленькі да скрыні заглядае!

Так ён гэта — «а!» — задзівіўся да й памчаў, да й памчаў далей. Прыходзіць да двара, ужэ ноч была, так падышоў пад дом, кінуў тую скрыню і кажа:

— На табе, бацьку, чорт адзежы прыслаў! — да й сам уцекі.

Бацькі гэта пасхватваліся, выбеглі на двор, а[д]чыняюць скрыню — анно іх дачка сядзіць! Так ужэ яны ўцешыліся, што і сказаць трудна, але як ім пачала расказваць усё, то аж млелі

ад жалю. Тым часам, як той вярнуўся, так Марыська кажа:

— Мой міленькі, занясі ты яшчэ калі маме адзежы.

— Добра,— кажа,— прыгатуй анно, то ўзаўтры занясу.

Так яна таксама зрабіла з другою сястрою, а ён скрыню гэту замчаў, шпурнуў пад сце́ну да й кажа:

— На табе, маці, чорт адзенне прынёс! — і сам уцекі.

Прыйшоў, а яна яго зноў просіць:

— Занясі, міленькі, яшчэ ім грошай, усё роўна ў нас гэтак веле есць.

— Што хочаш,— кажа,— занясу, анно ты будзь вясёлай і любі мяне.

Ну, так як ён анно пайшоў на разбой, яна гэта спякла паненку цукровую, велічыні як сама, прыбрала ў тую сукеначку, што сама хадзіла, палажыла на ложку да й прыкрыла хустачкаю твар. Прыбягае ён гэта з лесу, сюд-туд завінуўся, за скрыню, закінуў цішком за плечы да й памчаў. Прынёс, кінуў пад акно да й кажа:

— Бацько і маці, п'еце і ешце і с... ў хаце, бо чорт грошай прынёс! — а сам ужэ хутчэй да свае Марыські.

Прыбягае да зямлянкі, анно яна яшчэ спіць! Дзівіцца ён: што то такое?! Адкрыў хустачку, пацалаваў у руку — салодка, пацалаваў у другую — салодка, у твар, у нос — усюды салодка! Эх, як ні по́рве яе з ложка, як ні возме яе есць, так еў, еў, еў, еў, а рэшту паламаў, пагракатаў, на землю пакідаў, а сам на со́сне павесіўся з жалю.

## 75. АБ ІВАНЕ БЯШЧАСНЫМ

Жыў купец багаты чалавек, у яго была тры сына. Када ён жысць кончыў, адказаў двум сынам, а Івану нічаво ні 'дказаў — ні гарэлага гроша. Іван еты быў із сібя красавец, і празвалі яго, што «Іван няшчасны», і нечага яму нігдзе ўзяць. Ён узяў сумку і пашоў по́ міру. Нескалька ўрэмя хадзіў, і паўсямесна яго знаюць, што Іван Бяшчасны. Царская дочка ўвідала Івана і красату яго нібнакавенную, задумала, как ба за яго выйці замуж, і ўзяла царская дочка сумку, і ўзяла з сабою злата і серабра, і пашла по́ міру, штоба найці Івана Бяшчаснага. Нескалька ўрэмя хадзіла і яго не нашла. Адзін купец карміў старцаў. Яна ета ўслыхала і пашла на еты бал; прыходзіць, нашла Івана Бяшчаснага, пакланілась:

— Здрастуй, Іван Бяшчасны!

Адышоў еты абед старцаў, тада яна начала гаварыць:

— Вазьмі мяне за сябе, Іван Бяшчасны!

— А как жа мне цябе ўзяць?

— Пупрасі купечаства, штоба нас ажанілі!

Аб'явілі купечаству. Купечаства множыства сабраліся і сагласілісь ажаніць іх, іменна для смеху, і началі складаць дзеньгі: каторы дваццаць пяць, каторы пяцьдзесят, каторы сколька мог.

Жанілісь, паблагадарылі ўсё купечаства, а тада яны пашлі ў другой горад. Яна сабе купіла дом і начала жыць, паісправіла ўсё хазяйственныя дзяла. Абжымшысь, яна даець пяцьдзесят рублей Івану:

— Падзі, друг мой, купі мне золата.

Ён пашоў у горад. Хадзіў, хадзіў, нійдзе не найдзёць. Ува аднаго старыка на ўгалке нашоў золата, купіў, прышоў дамой, аддаў золата. Паужыналі, лёг Іван спаць, а жонка запаліла свечку і начала вышываць платок. За нескалька ўрэмя вышыла платок. Іван чаю напіўся, ідзець у горад прагулівацца; жана аддаець платок:

— Прадай платок!

Ён пашоў, хадзіў па ўсяму гораду, к катораму купцу ні пакажацца, усе баяцца ўзяць і думаюць, какея ета тавары странныя; па ўсяму гораду хадзіў, ніхто не купіў. Заходзіць к самаму етаму стараму, у каторага купіў золата. Ён і клічыць:

— Што, Іван Бяшчасны, ці прадаеш, ай пакупаеш?

— Прадаю платок.

— Пакажы!

Пасматрэў старык платок і гаворыць:

— Што, Іван Бяшчасны, што бярэш: ці дзеньгі, ай добрае слова?

Іван атвячаіць яму:

— Бяру добрае слова.

Прышоў дамой, спрашываіць жана:

— Што ты, мой друг, узяў за платок?

Атвячаіць ён:

— Узяў добрае слова.

Яна і сумілась: сама сабе і думаіць, што еты дарагой платок за добрае слова. Апяць ідзець еты Іван у горад, яна яму даець сто рублей купіць золата. Ён пахадзіў па гораду, не находзіць ні ў аднэй лаўкі золата, апяць к етаму старыку. Купіў на сто рублей, прыносіць дамой, аддаець сваей супругі; яна

апяць начала вышываць платок. Вышыла за нескалька ўрэмя. Апяць ідзець Іван у горад, даець яна яму платок.

— Прадай платок!

Хадзіў па гораду: у каторую лаўку ні зайдзіць, пакажыць платок — купечаства баіцца купіць і думаюць, гдзе ён, Іван Бяшчасны, бярэць етакія платкі. Апяць ішоў кала етага старыка, старык і клічыць:

— Іван Бяшчасны, ці прадаеш, ай пакупаеш?

— Прадаю платок!

— Што бярэш: ці дзеньгі, ай добрае слова?

Іван думаіць:

— Што ж, узяў добрае слова — вазьму і другое.

Патом і гаворыць:

— Вазьму добрае слова.

Прыходзіць дамой. Жана спрашываіць:

— Што ж ты ўзяў за платок?

— А ўтарое добрае слова.

Жана апяць думаіць:

— Што ж ■ естага будзіць: слова да слова — што ж з етага будзіць?

Апяць замаўчала, церпіць. Нескалька пажылі, апяць яна яму даець дзенег паўтараста рублей.

— Ідзі ў горад, купі золата!

Пашоў, на паўтараста рублей золата ў етага старыка купіў, прынёс дамой, аддаў сваей жане. Жана начала вышываць трэці платок і вышыла луччы прэжніх. Ідзець Іван у горад, яна яму аддаець платок:

— Ідзі, прадай платок!

І думаіць, што ён вазьмець за еты платок. Пашоў ён у горад, па ўсіх лаўках насіў, штоба яго прадаць, і ніхто не купіў: усе баяцца пакупаць етакія вешчы. Ідзець кала етага старыка. Старык крычыць:

— Што, Іван, прадаеш іլі пакупаеш?

— Прадаю платок!

— Пакажы!

Пасматрэў старык і гаворыць Івану:

— Што бярэш: ці дзеньгі, ай добрае слова?

Іван гаворыць:

— Добрае слова.

Тада старык гаворыць:

— Будзь даволен, толька сматры, не забудзь майго прыказанія: замахні, да не рубані, да падумай!

Паблагадарыў Іван етыга старыка і пашоў. Прышоў дамой, жана і спрашываіць:

— Што ж ты ўзяў за платок?

— Узяў добрае слова!

Жана ў бальшом сумленіі, і началі жыць. Нескалька ўрэмені жылі. Жана гаворыць:

— Што, друг мой Ваня, я дзенег эдзержыла многа, а таперы-тка, как хаціш, нада імець работу.

Іван пашоў на прыстань і наняўся там у купцоў у работнікі, штоба ехаць з купцамі за граніцу, і ўзяў дзеньгі ўпярод, аддаў сваей жане на расход, а сам Іван распрашчаўся з сваею жаною і ўехаў за граніцу на караблях. Жана яго тут забрэменіла. Прыехамшы, за граніцай пражылі там шаснаццаць лет, набралі тавараў на сем караблёў, купцы і адправілісь дамой. На моры здзелалась на іх трывога: началі караблі тануць — такое места, што нужна чалавека бросіць у мора. Яны началі прыглашаць Івана Бяшчаснага, штоба ён сагласіўся ў мора,— ён сагласен, і на яго імя штоба карабль адпісан сядзьмой яму. І бросілі яго ў мора, а караблю апусцілі якар. Караб астанавіўся там. Іван Бяшчасны папаў у пучыну, сайшоў у прысподнюю, а там свет такой жа, как і здесь,— папаў ён к цару, а яго там знаюць.

— Здрастуй, Іван Бяшчасны! Рассудзі ты нас з царыцаю, што мы жывем пятнаццаць лет, а ўсё ў нас праізводзіцца вражда, і спорым, а іменна за што: я гавару царыцы, што ў свеці дарожы нету злата да серабра, да дарагога камення, а царыца гаворыць, што сталі і залеза дарожы ў свеці нету!.. Іван Бяшчасны, рассудзі ты нас!..

Іван гаворыць ім:

— Я вас рассужу: золата і серабро і дарагея каменя — ета для царэй, для князей, для вялікіх ліц; а сталь і зялеза — ета для мужыкоў.

Ён іх рассудзіў, і яны асталісь давольны Іванам, і січас жа цар і з царыцаю памірыліся і пацалаваліся.

— Благадарым цябе, Іван Бяшчасны, што ты ўспакоіў серца нашы, а мы цябе за ета паблагадарым!

Далі Івану яшчык бруліянтава камення, прыдзелалі яму пузыры і падвязалі яму яшчычак з бруліянтавым каменнем, а тада і сказалі:

— Благадару, Іван, у етым і прашчай!

Іван і пашоў: усхваціла яго етымі пузырамі наверх мора. Пасматрыць Іван: карабль тут і стаіць, каторы купцы на яго

імя адказалі; ён цоп! цоп! да ў караб і адправіўся у пуць за купцамі. Нескалька праехаў, пасматрыць: наганяіць сваіх купцоў, а купцы пасмотруць: Іван Бяшчасны уж іх наганяіць. Нагнаў, пашлі яны ўмесці сем караблёў. Едуць пуцём. Для мора жывець кароль. Даець знаць у караблі, штоба не праязжалі міма, штоба зайшлі на паклон каралю. Яны астанавілісь возлі дварца каралеўскага і началі выбіраць харошыя тавары каралю на паклон, атабралі ў купцоў і кажды па штуке і спрашыюць у Івана:

— Іван Бяшчасны, што жа ты вазьмёш?

Іван ім атвячаіць:

— Знаеце, брацця, какой караб вы мне пустой далі: з рагожамі да з мяхамі, да самы паследні тавар? Няўжлі ж я, няўжлі ж мяне за вашымі падаркамі не прымуць? І мяне за вашымі падаркамі прымуць.

Купцы еты не знаюць, што ва Йвана ёсць бруліянтава камення яшчык. Ён адбіў із яшчыка бруліянтава камення са кусрыны жаўток і спратаў у рукаў і пашоў умесці з купцамі. Купцы кала яго смяюцца:

— Как Іван, как Бяшчасны, так і Бяшчасны, і ідзець ні з чым к каралю.

Прышлі і началі аддаваць падаркі каралю; а Іван кала яго паварацііўся, і вышаў кароль у другую комнату; Іван даў яму драгацэнны камень. Как пасматрыць кароль на еты камень драгацэнны, так і асвяціла ўсяе комнату. Пасадзіў кароль Івана за стол на куце. Купцам падносяць віно прыслугі каралеўскія, а Івану сам кароль. Ім, етым купцам, абідна: бымшы іх работнік — і знаюць, што караб яго пустой, і нічаво ён не прынёс каралю. Паблагадарылі яны караля і пашлі к караблям. Іван іх нагнаў і смяецца кала етых купцоў:

— Вот вы хазяіны былі мае, а кароль мяне ўгасціў са сваіх рук.

Ім ета прыскорбна, купцам. І захацела жана каралева папрасіць [redacted] сабе на паклон.

— Пажалуйце, гаспада купечаства, ка мне на паклон: хочыць вам каралеўна чэсць аддаць.

А ета купечаства бяруць палуччы тавар і спрашыюць у Івана Бяшчаснага:

— Іван Бяшчасны, што жа ты вазьмеш на паклон?

Іван атвячаіць купцам:

— Братцы, вы знаеце, што мой караб пустой,— буду я сыт за вашымі падаркамі.

А сам Іван адбіў у яшчычку ўтарой камушак, і пашлі. Прыняслі купцы каралеўне тавар; яны тавары еты прынімаюць, а каралеўна ета кала Івана верціцца. Іван із рукава каралеўне падаў камушак. Каралеўна ў другую комнату ўвайшла, асвéціла ўсяе комнату. Пасадзілі купцоў за стол, началі подчываць, а Івана на куце. Купечаству етаму паднасілі служыцелі каралеўскі віно, а Івану сама каралеўна паднасіла і подчывала. Купечаства пасматрываюць адзін на другога:

— Што такое, што Івану прылішні чэсць, чым нам?

Яны паблагадарылі і пашлі, і межда сабою купечаства гаворацъ:

— Ну, када б трэці раз папрасілі на паклон, то тада ба мы здзелалі то, чаго Іван і не думаіць!

Захацела каралеўская дочка папрасіць на паклон: не дарагі еты тавары, што яны носяць, а хацелась, штоба Іван прынёс каралеўскай дочке камушак. Вот началі яны выбіраць самыя луччыя тавары, а на Івана гаворацъ:

— Іван, а што ж ты панясёш?

— А што ж, брацця, вы знаеце: за вашымі таварамі і я буду сыт.

Яны етым ужасна абідзелісь, а Іван у рукаў камушак палажыў, і пашлі к каралю і міжда сабою здзелалі сагласію:

— Што-нібудзь будзіць адно: ілі мы прападзем, ілі Іван прападзець.

Прышлі к каралю, аддаюць тавары, а окала Івана каралеўская дочка ўецца; ён ей із рукава тайком падаў камушак. Вышла каралеўская дочка ў асобую комнату, пасматрэла: камень асіяў. Пасадзілі купцоў за стол, Івана на куце; началі подчываць, купцоў подчыюць прыслугі, а Івана Бяшчаснага подчыіць кароль, каралева і каралеўская дочка. Яны вышлі із-за стала, паблагадарылі караля і сказалі ўсе ўголас, што яны недавольны. Кароль спрашыіць купцоў:

— А чым жа вы недавольны?

— Вот цем мы недавольны, што бымшы ўпярод работнік — яму чэсць большы нас.

Кароль і гаворыць:

— Можыць быць яго тавар дарожы вашых усіх караблёў.

Яны і гаворацъ:

— Мы сагласны па закону: ежаль у яго, у нашага работніка, у Івана, да будзіць тавар дарожы нашага, дак мы сагласны, штоб нам голавы парубілі, но ежалі ў яго хужэй тавар, то яму адрубіць голаву.

Спрашыць кароль у Івана:

— Сагласен ты на еты суд: ежалі твой тавар хужы будзіць, сагласен ты, голаву штоб табе рубіць?

— Я сагласен.

Сказаў Іван, і етым дзела кончылі. Патрэбаваў кароль прысуствія сваё і купцоў етых саміх, штоба і яны маглі распісацца ў етай атветнасці:

— Ілі Івана голаву далой, ілі вам.

Яны ўсе распісаліся. Как яны, шэсць чалавек, так і сядзьмой, Іван Бяшчасны, пашлі ў караблі выгружываць тавар, вымгрузілі і перасматрэлі: аказалася ў купцоў, шасці чалавек, тавар луччы і багачы, а ў Івана саўсем нету.

— Ну,— гавораць купцы,— вот, кароль, за то нам і абідна: быўшы наш работнік — і чэсць яму луччы.

Прысудзілі Івану адрубіць голаву. Еты купцы засмяяліся. Тагда Іван гаворыць каралю:

— Пазвольце мне схадзіць у караб у пустой.

Пашоў у караб і прынёс драгацэннага камення яшчык. Как прынёс, адкрыў — засіяла жарчы сонца. Тады еты купцы шэсць чалавек усе срабелі, штоб лішыцца галаў, палі на калені перад Іванам:

— Прасці ты нам ету ашыбку, не пагубі нашых жон і дзяцей. Прасці і прасці! Мы табе за ету ашыбку аддаём шэсць караблей са ўсімі таварамі і абяшчаем даставіць да горада на самую прыстань, будзем тваімі падвласнымі!

Ён ім прасціў і палучыў крэпасць на ўсе караблі. Адправілісь яны к свайму гораду. Прыехалі яны ўначы, караб Іван Бяшчасны аставіў з прыкашчыкамі на прыстані, а сам пашоў к жане. Прышоў у дом ціхонька, нікаго не разбудзіў, дастаў агня, пасматрыць на жану: жана спіць і два маладцы абапал ляжаць. Іван і думаіць:

— Я за граніцаю спраўляўся, а яна тут завяла двух любоўнікаў...

Рассердзіўся ён, схваціў саблю, толька падняў і хацеў зарубіць іх, а патом уздумаў:

— Мне старык сказаў тры словы добрых: «Замахні, ды не рубані, да падумай».

Ён не стаў рубіць, разбудзіў жану, гаворыць:

— Здрастуй, жана!

Жана прашнулась, іспужалась, потым гаворыць:

— Здрастуй, мой друг, Іван Бяшчасны, даўно ўжу я відала цябе, ужу шаснаццаць лет.

— Друг мой, какея ета ляжаць кала цябе маладцы?

— А ета, друг мой, ета твае сынаўя: ты када адпраўляўся за граніцу, аставіў мяне бярэменную — я двух сыноў і радзіла. Ну, а тваё дзела какаво?

— А маё, слава богу: прыгнаў сем караблёў з таварамі.

Жана яму не верыць:

— Ідзе табе узяць іх, без дзенег?

— А бог мне паслаў за то, што мне ацец нічога не аставіў.

Даў бог вутра, Іван Бяшчасны папрадаў тавары і караблі, а дзеньгі, калічаства не малыя, прынёс к жане:

— Ну, жана, тапер пажывём!

— Ну, друг мой, тапер нада ідзіць к майму атцу папрасіць прашчэнія! Знаеш лі, какога ■ роду? Відзь я роду — царская дочка!

Іван думаіць:

— Как жа ета: ішла яна за мяне нішчай, а тапер — царская дочка?

— Я,— гаворыць яна,— на тваю красату прылсцілась, дык і пашла за цябе, і ў міня па сю пору храніцца золата і серабро, каторыя я ў атца ўзяла. Таперіча, мой друг, паслушай і мяне, да сматры не ашыбісь! Не назаві атцом да ўрэмя, а вазьміка бруліянтавы камушак аддай, ды нясі цару і папрасі пазваленія, штоба пазволіў табе цар у віду царскага дому і табе выстраіцца.

Пашоў Іван Бяшчасны к цару і падарыў яму бруліянтавы камушак. Цар столька быў даволен, што не знаіць, чым наградзіць Івана Бяшчаснага, спрашыіць у яго:

— Чым наградзіць цябе?

Іван яму атвячаіць:

— Када міласць ваша, ваша высочаства, пазвольце мне выстраіць дом ублізі вашага дварца.

Цар гаварыць:

— Я цібе пазваляю. Када ў цябе не хваціць капіталу, то я пумагу цібе.

Іван Бяшчасны цара паблагадарыў. Начаў Іван строіць дом, наняў разных масцяроў: каменшчыкаў, сталяроў, кровельшчыкаў і какея масцяра яму былі толька нужны. Дом еты аддзелалі ў два года. Тада ўзяў Іван нескалька комнат — бруліянтам камнем павыбеліў сцены. Аддзеламшы дом, узяў бруліянтавы камушак і панёс цару ў благадарнасць. Цар благадарыць Івана:

— Спасіба табе, Іван Бяшчасны. Нет, ты тапер ні Бяшчасны, а Іван Шчасны! Не знаю, чым цябе благадарыць!

— А вот чым: када міласць ваша, то прашу на пасвяшчэнія дому майго вас і ліц раўных вам — вот етага я ад вас жалаю.

Цар, відзімшы Івана вумнага, прыгласіў некатарых каралей і князей быць у Івана на пасвяшчэніі. У назначанае ўрэмя заваныя ліца сабраліся к Івану Бяшчаснаму. Была цырымонія, пілі, гулялі, Івана паздраўлялі.

— Не будзь ты Іван Бяшчасны, а будзь ты Іван Шчаслівы!

Прышоў Іван Бяшчасны к жане, гаворыць:

— Ну, тапер как мне ў атца прасіць прашчэнія?

— А ты ідзі і скажы: «Прасціце, цар!»

Прыходзіць Іван к цару і гаворыць:

— Прасціце, цар!

— Да я за табою не віжу нікакой віны, і мне нечага табе прашчаць.

А ён апяць за сваё:

— Прасціце, цар!

Цар яму гаворыць, што яму не ў чым прашчаць, а цары і каралі гавораць:

— Ну, вы яму прасціце, хуш ён і не віновен!

Цар гаворыць:

— Ну, харашо, я табе, Іван, прашчаю!

Как толька цар сказаў, што «прашчаю»,— выходзіць Іванава жана і здзелала паклон цару; Іван гаворыць:

— Вот, ета ваша дочка, а мая жана.

Тада ўзнаў цар, аб чым у яго Іван прасіў прашчэнія. Цар быў вочынь даволен, што яго зяць вумны чалавек. Сталі яны жыць, пажываць да дабро нажываць.

## 76. АГОНЬ У СЭРЦЫ, А РОЗУМ У ГАЛАВЕ

Даўно тое было, бо ■ яшчэ была блазніцаю, як нам гаварыла старэнькая баба ўсялякія казкі да байкі, а яна, кажа, чула тыя байкі ад свайго нябожчыка дзеда, як яшчэ была дзеўкаю. Многа яна казала казак, да такіх харошых, што толькі заслухацца. Але ■ пазабывала, бо, дзеткі, доўга жыву, мо хутка будзе дзевятдзесят гадкоў. Бачыце, як мяне сагнула ў сучок, а даўней была маладзіца, як кроў з малаком, а як гуляла

дзеўкаю, дак каса аб лыткі білася. От седзімо мы, бывала, чуць не ўсю ноч пры лучыне да прадом у двор талькі, да такія тоненькія, каб сарачня пасам пралезла праз пярсцёнак. Седзімо мы, а баба сусліць зрэбе да кажа казкі, каб мы не заснулі. От, дай божа памяць, і ўспамянула адну казку. Дак слухайце, як тое было.

Жыў сабе адзін чалавек. Быў ён вельмі цікавы й хацеў усё знаць. Куды ні гляне, што ні ўбачыць, та ўсё пытае, што гэта такое, зачым яно да навошта? Казалі яму, казалі людзі, нарэшце ўбачылі, што й самі не знаюць, да й кажуць яму:

— Дзівачны ты чалавек, колькі ні пытай, та дурнем памрэш, бо ўсяго не пазнаеш.

Не слухае ён людзей, кінуў гаспадарку да й пайшоў у свет.

— Пайду,— кажа,— к яснаму сонейку, яно ўсюды свеціць, усё бачыць, дак усё знае. Запытаю ў яго, чаму так робіцца на свеце.

От ідзе ён да йдзе, бачыць — сядзіць кала дарогі на камені чалавек да ўсё крычыць, пытае:

— Дакуль я буду сядзець?

І просіць ён, каб запытаў у сонейка, калі ён устане. Пайшоў далей да й бачыць, што якісь чалавек падпірае тын. Зірнуў ён, але не ведае, што гэта ён робіць. Ідзе ён далей, аж дзве жанчыны пераліваюць у рацэ воду. Зацікавіўся ён, але не ведае, што яны гэта робяць, да й пайшоў далей. Мо ўжэ саўсім блізка падышоў ён к сонейку, дзе яно з-за зямлі ўсходзіць на неба, да й бачыць, што чалавек пераграбае смецце. Пайшоў ён далей да як зірнуў праз лес, дак аж вочы зажмурыў, такі там бляск. Падышоў ён бліжэй, аж гэта сонейка палацы блішчаць у золаце, бы вагонь гарыць. Насілу вайшоў ён туды, чуць не аслеп ад бляску, да й сустракае там сонейка матку. Тая й пытае, чаго ён прыйшоў?

— Прыйшоў,— ён кажа,— да сонейка, каб запытаць, зачым так робіцца на свеце?

А тая й адказвае, што сонейка паднялося на неба аглядаць адтуль землю.

— Пачакай, яно хутка вернецца.

От ён наклаў сабе агеньчыку, сядзіць, грэецца да смажыць сала на ражэньчыку. Наеўся сала з хлебам. Захацелася яму піць.

Пайшоў ён к рацэ, каб напіцца. Толькі ён схіліўся к вадзе, аж адтуль выплыла вельмі гожая паненка, да як зірнула на яго, дак ён і стаў бы ўкопаны. Стаіць, пазірае да й ачу

не мажэ адарваць ад яе. Спадабаўся ён той паненцы, от яна й кажа яму:

— Не пі вады з ракі, бо тагды сонейка цябе спаліць.

Да й павяла яго пад стары дуб, дзе была крыніца. Схіліўся ён да й пачаў піць тую чыстую да халодную воду. Колькі ён ні п'е, дак усе больш хочацца й не мажэ ніяк напіцца.

— Годзі ты піць,— кажа тая паненка,— бо ўсё добра ў меру. От ты хочаш усё знаць, зачым яно гэ, а не йнак, а не ведаеш таго, што хутчэй выпіць усю воду, чым усё знаць. От ты трохі напіўся, та й будзеш жыў, трохі свету пабачыў, та й будзеш знаць пра патрэбу.

Зірнуў ён, аж сонейка апускаецца з неба ў свае палацы. Трэ йці туды, але не мажэ ён адарваць ачу ад тае паненкі. А яна й кажа:

— От мой бацька вярнуўся да гасподы. Лядзі, нічога не кажы яму, што ты пазнаў і што мяне бачыў.

Тут яна ўзнялася ўгору да й заблішчала адтуль гожаю зоркаю. Пайшоў ён да сонейка ў палацы. Убачыла яно, што чалавек асмеліўся прыйсці да яго, да як пачне смаліць яго да пякці, дак аж мур кругом трашчыць, а ён як напіўся халоднае вады, дак і ні па́нкі. Абазлілася сонейка, давай яшчэ гарэй пякці, а ён шапку насунуў на вочы да й падходзіць бліжэй. Бачыць яно, што нічога не парадзіць з упартым чалавекам, от і пытае яго, што яму трэ. Расказаў ён сонейку, чаго прыйшоў, а тое й кажа:

— Як будзеш усё знаць, та хутка памрэш — і бліснула яму сонейка ў галаў.

От і пачуў ён, што многа знае, але галава гарыць, а ў сэрцы холадна бы лёд. Выйшаў ён ад сонейка да й сустракае сонейка матку. От тая й кажа:

— Памрэш ты, чалавеча, калі не сагрэеш сэрца, бо без сэрца галава згарыць.

Дагадаўся ён, як нагрэць сэрца, да й пайшоў шукаць тую паненку да зваць яе з неба. Пачула яна, хутка пакацілася з неба яснага зоркаю да й стала кала яго тою гожаю паненкаю. От і загарэлася ў яго ў сэрцы да й пачуў ён, што пакуль будзе там гарэць, патуль ён будзе знаць, чаму так усё робіцца на свеце. От пабраліся яны да й пайшлі ў яго край. От падходзяць яны к таму месцу, дзе чалавек пераграбае смецце.

— Ой, чалавеча,— кажа ён,— ты ў смецці шукаеш згубленыя грошы да дарам траціш час. Ідзі ты рабіць дзела, та хутчэй заробіш больш тых грошай.

Пазнаў той чалавек сваю амылку да й пайшоў гараваць да

працаваць — дак і нажыў гаспадарку й грошы на патрэбу. Ідуць яны далей, аж тыя жанкі ўсё пераліваюць воду. І растлумачыў ён ім, што колькі б яны ні пераlівалі, та вада вадою будзе, як колькі б яны ні гаварылі, та нічога не выгавараць. Ідуць далей, аж чалавек падпірае тын. От ён і кажа яму:

— Не падпірай у жыццю гнілое, бо яно ўсё роўна ўпадзе.

Нарэшце падышлі яны к таму чалавеку, што ўсё сядзіць на камені, да пайшлі міма яго. Адышліся трохі, от ён і кажа здалека:

— Патуль ты сядзіш, пакуль другі тут сядзе, бо ў жыццю кожын займае свае месца.

От прыйшлі яны ў яго край, нашлі тую вёску, дзе ён жыў, але там ужэ без гаспадара й хатка яго абярнулася, да яе хлопцы расцягалі на вагонь. Няма чаго рабіць, трэ жыць, як набяжыць. І пачаў ён будаваць сабе харомы да заводзіць гаспадарку. Па немалум часе абрабіліся яны да й пачалі жыць да пажываць да дабра нажываць. І дзівіліся людзі, што яны жывуць і ніколі не тужаць. Пачалі яго пытаць, чаму яны так добра жывуць, а ён і кажа:

— Затым мы добра жывом, што ў нас вагонь у сэрцы, а розум у галаве.

## 77. ЗНАЙДА ДУБРОЎСКІ

Была сабе адна ўдава ды й мела яна сына малога. Залюбілася яна ў харошым маладзіку ды й наставала, каб ён з ёю жаніўся. А той маладзік яе любіў, але хацеў яе серца выпрабаваць упярод, так сказаў:

— Каб ты магла сваё дзіця як страціць, то я з табою ажаніўся б.

Была гэта пара зімавáя, так удава думае сабе: вынесу селязёна ў лес, няхай яго дзікі звер з'есць, або можа змерзне. Як задумала, так і ўчыніла; дзіця ў хфартушыну ўпавіўшы, занясла́ ў дуброву ды й пакінула на снягу. Сама, прыбегшы дахаты, кажа свайму палюбоўніку.

— Ну, дзіцяці ма[й]го німа, ужэ я адна-адзінютка, можаш са мною жаніцца.

— Ой ты,— кажа,— удава, удава, дурная твая галава, каб я цябе замуж браў! Я це анно прабаваў: страціла ты сына сва[й]го, страціш мяне маладога. Каб ты сама і залата была,

але сумленне жалезна — адступіся ад мяне, я не хачу знаць цябе.

Ажно якраз ехаў праз той лес купец, анно бачыць, што каля гасцінца сядзяць два анёлкі, дзяржаць залатыя пальмачкі і залатыя звоначкі, свецы дзве гарыць, а паміж імі ляжыць пухавая падушачка да на ёй дзецятка накрыта пухавою пярынкаю, ды й анёлкі залатымі звóначкамі забуляюць яго. Здзівіўся той купец ды й прыглядаецца таму.

Купец то ўрадаваўшыся забраў тое дзіця і паехаў дадому. Тое дзіця ў яго гадавалася не жарты: расло яно не днямі, не тыднямі, але гадзінамі і мінютамі ды й такое разумненька было, што ўсе дзівам дзівіліся. Яго сталі называць Знайда Дуброўскі.

Было то аднаго разу, што праз тры дні слонка не свяціла ды й праз тры рокі дождж не падаў. Падумаў сабе купец: Знайда Дуброўскі разумны хлопец, трэба яго паслаць да бога, каб ён распытаўся, што гэта за прычына. Утэды выпраўляючы, прыказаў яму так:

— Калі дойдзеш да бога і даведаешся аб гэтай прычыне, то аддам табе ўсё сваё багацтва, а як не, то зышлю на це ведзьму з Лысай гары, то яна цябе страціць.

Знябожыўся ён, небарака, ды й то цяжка ўздыхнуўшы, узяў ляску дубовую ў рукі і пайшоў.

Ідзе ён, так ідзе, і зайшоў ужэ на той свет, ажно там сядзіць чалавек пад варотамі, плячыма аб іх апёршыся, і кліча яго:

— Знайда Дуброўскі, дзе ты ідзеш?

— Іду да бога мілага.

— Скажы ж ты там аба мне, ці доўга я яшчэ тут ляжаць буду, бо ўжэ з сваіх плячэй не чую.

— Добра, скажу!

Ідзе ён, так ідзе, ажно кабета б'е масла ў бойцы, ды й то ўгледзеўшы яго, пытае:

— Знайда Дуброўскі, дзе ты ідзеш?

— Іду да бога мілага!

— Распытайся ты аба мне, ці доўга я гэтае масла біць буду? Бо з гэтае смятаны не робіцца масла, да так бы то ўжы, чарвячкі, вароны, крукі, а з маслянкі бы то кроў.

— Добра,— ка[жа],— распытаюся!

І пайшоў далей. Ідзе ён, так ідзе, ажно ляжыць на слонку кабета такая тлустая, але голая як маці радзіла, а з вялікае палкасці мала ні расскварыцца. Угледзеўшы, пытае яго:

— Знайда Дуброўскі, дзе ты ідзеш?

— Іду да бога мілага!

— Распытайся ты аба мне, ці доўга я тут ляжаць буду? Бо ўдзень мяне слонка пячэ, а ўначэ камары тнуць так, што я проста вытрываць не магу.

— Добра, распытаюся,— кажа і пайшоў далей.

Ідзе ён, так ідзе, анно дзве кабеты гнілое яблычка па зямлі качаюць, да ўгледзеўшы, пытаюць яго:

— Знайда Дуброўскі, дзе ты ідзеш?

— Іду да бога мілага!

— Раскажы ж ты аб нас, дакуль мы гэтае яблычка качацьмем?

— Добра, скажу! — і пайшоў далей.

Ідзе ён, так ідзе, анно чалавек ляжыць пад грушкаю, а грушкі падаючы, зуўсім яму твар паабівалі, і ўжэ ён на адных ранах.

— Знайда Дуброўскі, дзе ты ідзеш?

— Іду да бога мілага!

— Раскажы ж ты аба мне, дакуль я тут ляжаць буду?

— Добра, раскажу.

Ідзе ён, так ідзе, ажно прыходзіць пад залатую браму, ажно там два вялікія сабакі на залатых ланцугах, сталі на яго брахаць. Ажно пачуў якраз сам бог ды й то выходзіць:

— А нашто,— ка[жа],— ты, маё мілае дзіця, сабакі дразніш? І чаго ты да мяне прыйшоў?

Так ён давай богу расказваці:

— Мой,— кажа,— купец, мой апякун прыслаў мяне распытацца, чаму тры дні слонка не свяціла ды й чаму ўжэ тры рокі як дождж не падае?

Так бог яму адказвае:

— Пайдзі ж ты да мора, там ёсць тры Яваркі, яны ўсе тры родныя сёстры, яны морскія каралёўны, так ты злапай з іх адну, самую найменшую; яна на правай ручцы значак мае, той значак не большы, як макавае зернятка. Але ведай, што да яе прыступіцца бліжай няможна як на мілю, ну, так я, шкадуючы цябе, дам табе такія акуляры, што ты хоць за мілю той значак прыгледзіш. Анно,— кажа,— старайся, каб ты яе ўхапіў хуценька, каб яна крыку не нарабіла, бо яе падданыя як учуюць, то цябе ўхопяць ды й страцяць.

Ды й даў яму бог сівага коніка, залатую булаўку, акуляры і залатога бічыка:

— На табе,— кажа,— гэтага коніка, ён што раз ступіць, то мілю дарогі робіць, то ты як украдзеш тую каралёўну, то ўця-

чэш, і яны цябе не дагоняць. А залатая,— кажа,— булаўка будзе табе патрэбна ўтэды, як Яварка накажа прыгнаць коні і быдло яе; залаты бічык будзе патрэбен, як пашле цябе па птаства сваё; сівы жа конік будзе табе парадпічкам.

Так Знайда Дуброўскі падзякаваў богу ды й зачаў расказваць, што ён бачыў на дарозе.

— Ішоў я,— кажа,— так да бога, аж чалавек сядзеў аперты аб варота плячамі. Што гэта значыць?

— Ото так, маё мілае дзіця: як ён быў жыў, так ён велькі гультай быў; як яму хто сказаў: «Чаму ты ніц не робіш і не запрацуеш хоць для се, за што пахавацца?» — то ён адказваў: «Такой бяды! Па смерці няхай сабе мною хоць варота падапруць!» Так цяпер ён у мяне пакуту адбірае і будзе так аж да скачэння света.

Так Знайда зноў кажа:

— Мой божа мілы, ішоў я далей, аж кабета ў бойцы масла біла ды й казала, што яна ўжэ не помніць, колькі лет б'е, а не робіцца масла, да рожнае гадства, а з маслянкі кроў. Што гэта значыць?

— Ото, маё дзецятко: як яна жыла на свеце, то была з яе велька ведзьма, а масла нігды з свае смятаны не біла, толька чужою працаю і крвёю жыла — так яе маслянка кроў, а яе масла з самага гадства.

Так і зноў пытае:

— Мой божа мілы, што гэта значыць: відзеў я кабету лежачы на слонку, яна зусім голая, а скура яе ад упалаў папэнкана?

Так бог яму кажа:

— Гэта дзеля таго, што яна за жыцце ніц працаваць не хацела, а як ёй маці ці хто казаў: «Чаму ты хоць на смерць кашулі сабе не зробіш?» — то яна адказвала: «Няхай сабе мяне і голаю пахаваюць, то мне ўсё роўна!»

— Мой божа мілы, а гэта чаму так: ішоў я, анно дзве бабы гнілое яблычка качалі?

— Ото так, маё мілае дзіця: хто за жыцце што ўбогаму дасць, то па смерці ў мяне ўсё тое знайдзе. Яны ж, як на том свеце былі, то мелі вельмі многа яблык і грушак, так то раз ішоў жабрак ды й просіць іх, каб хацямсе адно далі, то яны выбралі сама паршыва і яму падкінулі.

І зноў пытае:

— Мой божа мілы, бачыў я два чалавекі, як білі бізунамі каменні, што гэта такое?

— Гэта так: за жыцце сваё то яны былі акоманамі ды вельмі людзей катавалі, так цяпер за кару каменні б'юць.

— І бачыў я яшчэ адну рэч: ляжаў чалавек пад грушаю, а грушкі, падаючы, чыста яму твар пабілі, а ён іх есці не мог, хіба катора сама ў рот яму ўпала. Што гэта значыць?

— Гэта зьле таго, што як ён быў жыў, то ленаваўся на[в]ат сагнуцца па грушку да ждаў, пукіль сама ў губу ўпадзе, так і цяпер яму таксама і ўсім гэта пакута будзе аж да сканчэння света.

Утэды Знайда Дуброўскі, падзякаваўшы богу міленькаму, сеў на таго каня ды й паехаў таею самаю дарогаю, а пытаючым адказваў:

— Казаў бог, што будзеце так пакутаваць да сканчэння света.

Ехаў Знайда, ехаў ды й за радаю сівага каня заехаў да вялікага места, накупляў тамака дарагія сукні, чаравікі, пярсцені, грэбені срэбныя, залатое люстра ды й усялякія рэчы, што патрэбны найбагатшым каралёўнам да ўбору. Купіўшы гэта ўсё, паехалі да мора, ды й там уночы на берагу Знайда ўсё гэта паўстаўляў так, як яму сівы конь дарадзіў, а сам за люстра схаваўся.

Ажно выходзіць з мора Яварка, высока, тонка, яе сукні і чаравікі срэбныя, яе валасы і бровы залатыя, а твар такі харошы, што і сказаць трудна! Так то вышаўшы з мора, сюд-тут аглянулася, вядома, як дзіка, ды й нарэшце прыступілася да гэтых убораў. Убіралася яна, прыстроівалася перад люстрам, але ён ціха сядзеў, бо бачыў праз акуляры, што яна значку на ручцы не мае; потым распранулася і дзыгець у воду. Нядоўга ждучы, выходзіць з мора другая, яшчэ пякнейшая ад тае. Яна таксама ўбіралася і разбіралася, але ён ціха спраўляўся, бо бачыў, што і гэта значку не мае. Толькі што ўскочыла і тая ў глуб мора, анно выходзіць трэцяя, да з такім бляскам, што яму аж у ачу запалала. Яна то ідзе, а перад ёю дыямэнтава раса, як зоры коціцца. Ледва што яна прыступіла да тых строёў, аж Знайда Дуброўскі, угледзеўшы, што мае знак на ручцы, выскачыў з-за люстра, парваў яе знячэўку ды й ускочыў з ёю на каня. Так то яна як стала крычаць, верашчаць, тут у мамэнці выскачыла на бераг гібель морскага люду — не[й]кіх пакракаў, гналіся за імі, але надарма іх ганілі, бо сівы конь што выскачыў раз, то зрабіў мілю дарогі.

Ляцелі яны так як з бураю, аж і ў момант сталі перад дваром купца. Утэды ён, узяўшы яе пад руку, прывёў да купца-

вых пакоёў ды й стаў расказваць усё за парадку. А яна спадабалася вельмі купцу таму, вядома, гэдако хараство! Ажно яна ўсё плача, ляменціць, яны ж то яе давай цешыць, забаўляюць усяляк, але ўсё надарэмне. Так Знайда стаў дапытваць:

— Па чом ты плачаш найболей?

Так яна кажа:

— А то ж па сваіх коніках, што ў моры.

Так ён ёй прыдаў слова, што іх прыжане.

Пайшоў ён да стайні, пакарміў сва[й]го каня на далёкую дарогу, але надта пасмутнеў, бо не ведаў, ці гэта ўдасца яму за штуку. Так конік, глянуўшы на яго, пытае:

— Чаго ты такі смуцен?

Так ён яму і расказаў шчыру праўду. Утэды конь кажа:

— Прашкі, прывядзем, анно вазьмі ты з сабою залатую булаўку, што табе бог даў.

Нядоўга думаючы, паехалі яны да мора. Прыязджаюць туды, так конік стаў над берагам ды й заржаў трэйчы, ажно з мора выскачыла такая кабыла, як найбольшае гумно, а за ёю семдзесят жарабят у залатых уздэчках. Утэды то Знайда Дуброўскі схапіўся на яе ды й зачаў біць залатою булаўкаю, так яна паляцела проста ў купца двор, а сівы конь пагнаў за ёю тыя жарабята. У мамэнце прыляцелі ды й завалілі цэлы купцоў двор, як цёмная хмара.

Ажно тая Яварка, развітаўшыся з сваімі коньмі, яшчэ плача і просіць, каб Знайда яе каравы з мора прыгнаў. Ён то, зноў спахмурнеўшы, пайшоў да сва[й]го каня, а той глянуў на яго ды й пытае:

— Чаго ты такі хмурны?

— Як жа мне не хмурнаму быць, калі Яварка хоча, каб я яе яшчэ каравы з мора прыгнаў.

— Ты аб гэтым,— кажа конь,— не смуціся, анно пайдзі пастарайся для мяне з мерку аброку, а як я пад'ем ды й стану дужайшы, то зараз паедзем у дарогу, а ўсё будзе добра.

Выехаўшы з дому, не агледзеўся, як стаў над морам. Утэды заржаў сівы конь трэйчы, ажно выскачыла з мора стада кароў, а такая іх была моц, як зораў на небе. Як яны выйшлі, то так стала ясна, як ад слонка, бо ўсе яны былі з залатымі рагамі, са срэбнымі ракавінамі ды й з дыямэнтавымі ачыма, а дойла ў іх былі такія велькія, як найбольшая дзяжа. Так гэта хутчэй Знайда, заняўшы іх сваёю булаўкаю, пагнаў! Прыганяе, ажно яна яшчэ тужыць ды й плача:

— А-ей,— кажа,— а то ж яшчэ мае гусі, качкі ды й дзевак дванаццаць засталіся ў моры!

Так Знайда, нядоўга думаўшы, наўпярод прыгнаў шарыя гусі — велькія калі то печ гаспадарска!

За другім разам, як заржаў конь трэйчы, то выйшла з мора вялікае стада качак белых, як лебедзі, а вялікіх з жораўля. Як прыгнаў Знайда качкі, так яна яго яшчэ паслала па тыя дзяўчата, а на знак, што гэта яна пасылае, дала яму з правае ножкі чаравічак свой. Як толькі прыехалі над мора, заржаў конік трэйчы, а ў вокавідзі выйшла дванаццаць дзявок з мора ды й пытаюцца:

— Чаго, Знайда Дуброўскі, патрабуеш?

Так ён адказвае:

— Вашая і мая пані прыслала мяне па вас, каб вы ішлі ёй услугоўваць, а на чысту праўду, то ось, чаравічак з яе ножкі.

Яны то ўгледзеўшы пляснулі з радасці ў далоні ды й пайшлі за ім выскакваючы. А яны былі такія самыя, як іх пані, анно што ў іх былі едвабныя хфартушкі, залатымі ніцьмі вышываны.

Угледзеўшы свае слугі, Яварка ўжэ стала вельмі вясёла ды й зу ўсімі развіталася, як з дзецьмі сваімі.

Ажно нібавам стаў купец наставаць на Яварку, каб яна за яго замуж ішла.

— Добра, учыню,— ка[жа],— як захочаш, анно ты ўпярод мусіш зрабіць тое, што я табе скажу.

— Добра, учыню,— кажа,— абы ты толькі маею была.

Тады Яварка пайшла і падаіла сваю кабылу, а надаіўшы малака вялікі кацёл, паставіла на агні. Ажно як зачало тое ўжэ малако кіпець на цэлы кацёл, заклікала старога ды й кажа:

— Ну, мыймося цяпер, стары, гэтым малаком, а як умыемся, утэды паедзем да шлюбу.

Так стары на гэта вельмі замысліўся, яна ж то, хочучы задаць яму ахвоты, перш-наперш ускочыла як вяёрка ў кацёл, умылася кіпятком ды й яшчэ пякнейша выйшла, як была ўпярод.

Утэды і яго ахвота ўзяла, каб адмаладзеў, але баіцца, так просіць, каб яшчэ Знайда выкупаўся. Так Знайда, нядоўга ждучы, дзыгець! — выкупаўся і таксама шмат папякнеў.

Утэды стары падышоўшы — шабалдых! у кіпячае малако, ажно як бач стаў круціцца ў малацэ, паказваючы то руку, то ногу — зусім як той млын ветраны. Так яны, гледзячы, аж

заходзіліся зо смеху; бачаць, ажно з старога зрабілася анно квашаніна!

Утэды, нядоўга ждучы, пажаніліся і жылі ў купца таго дабрах і яшчэ да гэтых пор жывуць у разыграцы да ў весялосці.

## 78. ЗАЛАТОЕ ПЯРО

Даўно-даўно некалі жыло ў нас два браты. Паехалі яны раз у Сянно. Ехалі, ехалі і знайшлі на дарозе дзяцёнка і жарабёнка. Старэйшы кажаць:

— Няхай мне будзець гэты дзяцёнак!

А меншы кажаць:

— Не, няхай мне.

І сталі яны ажны сварыцца за таго дзяцёнка. Спорыліся, спорыліся яны гэтак, але кажуць:

— Ну, пойдзем і к пану, панясём гэтага дзяцёнка, няхай нас пан рассудзіць.

— Ну, й пойдзем!

— Ну, й пойдзем! — кажуць яны адзін аднаму.

Сказалі гэдак і пайшлі к пану. І панянслі туды гэтага дзяцёнка і жарабёнка. Як прынянслі к пану дзяцёнка і жарабёнка, пан як увідзеў — яны яму дужа знаравіліся. От, ён ім і кажаць:

— Чымсі вам спораваццa, аддайце вы мне лучча іх, я вам заплачу.

Браты тыя парадзіліся ды ўзялі ды й аддалі пану гэтага дзяцёнка і жарабёнка, а пан заплаціў ім, скольні яны там згаварыліся.

Асталіся яны ў пана. Пан узяў, адгарадзіў ім па пакою: адзін пакой рабёнку, а другі пакой жарабёнку. І назваў яго пан Іванькам. Стаў пан іх гадаваць, сталі яны рэсць, не па гадах растуць, ды па чыслах. Скора казка кажацца, ды няскора дзела дзелаецца, так і тут. Вырас Іванька. Пан раз паслаў яго із халіварку ў дзярэўню — як вот із Багданава ды ў Андрэйчыкі — прыказываць мужыкам на прыгон ісці. Едзець ён на тым, на сваім, кані па дарозе, ажны відзіць — ляжыць на дарозе залатое пяро, ды якое прыгожае! Толькі Іванька сагнуўся яго браць, а конь кажаць:

— Іванька! Не руш пяра, не будзець бяда!

Іванька не паслухаў каня і ўзяў пяро. Узяў Іванька пяро і паехаў на дзярэўню, прыказаў тамацькі мужыкам, каб ішлі заўтра на прыгон к пану, і паехаў у двор. Прыехаўшы, занёс пяро к сабе ў пакой і палажыў. Як палажыў, так увесь пакой і асвяціла. Прыходзіць пан, увідзеў гэта пяро і кажаць Іваньку:

— Іванька, аддай мне гэта пяро!

Іванька кажаць:

— Бяры сабе!

Унёс пан пяро ў свае пакоі, дык так і асвяціла пакоі, усё роўна як днём, так і ноччу. Стаў з тых пор пан Іваньку любіць і жалець. Тады парабкі набунтавалі пану на Іваньку.

— А паночак наш! Іванька казаў, што ён можаць дастаць тую птушку, што ссорыла гэта пяро!

Пан прызваў Іваньку і кажаць яму:

— Ну, Іванька! Калі ты знайшоў гэткае пяро, цяпер жа ты мне знайдзі тую птушку, што ссорыла гэта пяро. А не, дык мой меч — табе галава з плеч!

Іванька, як пачуў гэта, як заплачацца! Пабег к каню:

— А конічак! Божа ж мой, божа! Што я буду дзелаць?

— А што?

— А што ж? Загадаў мне пан: як дастаў пяро, дык дастаў і тую птушку, што гэта пяро згубіла. А калі не знайду я тую птушку, дык пан сказаў: «Мой меч, а табе галава з плеч!»

— А што, Йванька, я табе казаў: не руш пяра, не будзець бяда! Ну, да гэта бяда — не бяда, бяда яшчэ ўперадзі.

— А што ж дзелаць?

— А йдзі к пану ды вазьмі ў яго бочку смалы і лакон палатна.

Іван пайшоў к пану, узяў тамацькі бочку смалы і лакон палатна і прынёс к каню.

— Ну, садзіся на мяне, Іванька, ды бяры бочку смалы і лакон палатна!

Сеў ён і паехалі. Ехалі, ехалі і пад'ехалі яны к сасоннічку. Конь і гаворыць Іваньку:

— Ну, цяпер, Іванька, вазьмі палатно ды намаж яго смалой і расцялі на гэты сасоннік!

Іванька ўзяў, намазаў палатно, разаслаў на сасоннік, а сам сеў, схаваўся ды й пільнуець. Ці доўга, ці не ён ждаў, ажны ляціць птушка. Села яна на гэта палатно; ну як села, дык і прыкіпела. Конь крычыць:

— Скарэй, Іванька, лаві, каб яна не паляцела!

Іванька падскочыў і схапіў яе, улажыў за пазуху, уссеў на

каня ды й паехаў. Прыехаў к пану, аддаў яму птушку, а сам пайшоў аддыхаць.

Прайшло сколькі там урэмя, пагніло ў таго пана ўсё сена. Пан думаў, думаў, адчаго б гэта яно пагніло, і ніяк не ўгадаець. А парабкі ўзялі ды зноў набунтавалі на Іваньку пану:

— А паночак! Іванька казаў, што ён можаць схадзіць і к богу запытацца!

Пан вялеў ім пазваць Іваньку. Парабкі пазвалі Іваньку. Прыходзіць ён к пану, пан кажаць Іваньку:

— Іванька, схадзі-тку ты к богу, спытайся ў бога, чаго гэта ў мяне сена пагніло. А калі не сходзіш, дык мой меч — табе галава з плеч!

Іванька як пабяжыць к каню ды як заплачацца:

— А божа ж мой, божа! А канёчак мой! А што ж я буду дзелаць? Сказаў пан і схадзіць к богу спытацца, чаго яго сена пагніло!

А конь кажаць:

— А што, Іванька! Я казаў табе: не руш пяра, не будзець бяда. Ну, ды гэта шчэ бяда не бяда, яшчэ ўся бяда напарадзі. Але што дзелаць? Садзісь, Іванька, на мяне ды паедзем!

Уссеў Іванька на каня і паехалі. Ехалі, ехалі — стаіць хатка.

Уходзяць яны ў хатку, ажны ў тэй хатцы дзед на печы качаецца ды крычыць гвалту. Увайшоў Іванька ў хатку, ён і кажаць:

— Куды цябе, Іванька, бог нясець?

— А іду к богу, пытацца, чаго пагніло панава сена.

— Ах, мой ты унучак, спытайся ж у бога, чаго я гэдак качаюся на печы! І злезці няможна, і ногі мае адмёрзлі!

— Добра, спытаюся!

Пайшоў Іванька далі; ішоў, ішоў, ажны бачыць — качаецца па дарозе маладзіца і яе ўсе топчуць, і ўсе чэраз яе ездзяць.

— Куды цябе бог нясець, Іванька?

— Іду к богу, пытацца, чаго панава сена пагніло.

— Запытайся ж там у бога, Іванька, чаго гэта я ўвесь свой век ляжу на дарозе, і мяне ўсе топчуць, і ўсе чэраз мяне ездзяць!

— Добра,— кажаць Іванька, і паехаў далі.

Ехаў ён, ехаў, ажны бачыць — удвох чалавекі пераліваюць ваду з аднаго калодзезя ў другі калодзезь ды не могуць ніяк пераліць.

— Куды цябе бог нясець, Іванька?

— Іду я к богу, пытацца, чаго панава сена пагніло.

— Скажы ж ты, Іванька, там богу, што мы гэта ўвесь век свой пераліваем ваду з аднаго калодзезя ў другі калодзезь, ды ніяк не пераллём: у вадным калодзезі не меншыіць, а ў другім не большыіць.

— Добра, скажу! — кажаць Іванька, і паехаў далі.

Ехаў ён, ехаў і прыехаў ажны к самаму мору. Відзіць Іванька, ляжыць у моры рыбіна, ніяк не можаць яна перавярнуцца.

— Куды цябе, Іванька, бог нясець?

— А іду к богу, пытацца, чаго панава сена пагніло.

— А скажы ж ты там, Іванька, богу, чаго гэта я ляжу на 'дным баку і ніяк не перавярнуся.

— Добра,— кажаць Іванька,— скажу!

Пераехаў Іванька мора ды й паехаў далі. Ехаў, ехаў — стаіць хатка. Едзець ён кала тые хаткі, ажны выходзіць з тые хаткі старэнькі чалавечак.

— Куды ты едзеш, Іванька?

— Еду к богу, пытацца ў бога, чаго гэта ў пана сёлета ўсё сена пагніло.

— А таго ў пана сена пагніло,— кажаць старэнькі чалавечак — гэта быў бог,— што Дзеўка-Паланянка дванаццаць дней купалася ў моры ды гуляла з сонцам. Ад гэтага не было сонца, ішоў дождж, панава сена і пагніло.

Іванька тады кажаць:

— А божа, божа! Што я відзеў на дарозе, як ішоў сюды: нейкі чалавек у хатцы на печцы качаецца ды крычыць гвалту, што злесць няможна і ногі яго адмёрзлі?

— Гэты чалавек быў мароз, і ён дужа многа ў людзей дабра памарозіў, многа людзей голад цярпела праз яго і многа людзей ён пасіраціў. Калі ён зложыць рукі наўхрэст, што не будзець болі нікога марозіць і нікога абіждаць, дык пойдзець і будзець хадзіць. А калі не зложыць рук наўхрэст, дык узнова будзець ляжаць на печы не злязаючы.

— А божа, божа! Што я яшчэ відзеў: нейкая маладзіца ляжыць, качаецца на дарозе, чэраз яе ўсе едуць, яе ўсе топчуць, усю яе прытапталі?

— Гэта маладзіца была старая ведзьма — змяя; адбірала яна чужэя малокі. Людзі мелі па дванаццаць каровак, ды не мелі малачка; а яна ніводныя каровы не мела, ды малако ела. Людзі праз яе смяглі! Вот яна за гэта ляжыць на дарозе, што людзей многа абіждала. Калі яна складзець наўхрэст палцы, прысягнець, што не будзець адбіраць у чужых кароў малокі,

дык устанець, а не прысягнець, дык узнова будзець ляжаць на дарозе!

— А божа, божа, што я яшчэ відзеў на дарозе: удвох чалавекі пераліваюць ваду з аднаго калодзезя ў другі ды ніяк не пераллюць: у вадным калодзезі не меншыіць, а ў другім не большыіць?

— Гэтыя людзі былі ўперадзі багатыры і дужа прыганялі бедных мужыкоў на прыгон к сабе — і малых і старых — і здзекаліся над імі. Калі яны складуць рукі накрыж ды прысягнуць, што болі не будуць так дзелаць, дык тады яны выллюць ваду, а калі не складуць рукі накрыж, дык узнова будуць пераліваць!

— А божачка, божа, што я яшчэ відзеў: ляжыць на моры рыбіна ўвесь век свой на 'дным баку і не можаць перавярнуцца?

— Гэта рыбіна полк салдатаў з'ела; калі яна выпусціць іх, дык паплывець, а калі не выпусціць, дык узнова будзець ляжаць!

Пайшоў Іванька ў двор к пану. Ішоў ён, ішоў — прыходзіць к мору, дзе ляжыць тая рыбіна. Рыбіна кажаць:

— А што, Іванька, што мне бог казаў?

— Пастой, як перайду на тэй бок, тады скажу!

Перайшоў на тэй бок і кажаць:

— Бог казаў, калі ты выпусціш полк салдатаў, дык паплывеш, а калі не выпусціш, дык не паплывеш!

Рыбіна разінула рот. І — іх! Салдаты ідуць, музыка йграець! Як выйшлі ўсе, рыбіна й паплыла. Пайшоў Іванька далі. Ішоў, ішоў, ажны відзіць — тэя самыя два чалавекі ваду пераліваюць.

— А што, Іванька? Што нам бог казаў?

— Пастойце, дайце выйці наперад.

Зайшоў ён наперад, тады кажаць:

— А во што вам бог казаў: вы былі ўперадзі багатыры, вы прыганялі мужыкоў бедных на прыгон к сабе, і малых і старых, і здзекаліся над імі. Калі вы складзяцё рукі накрыж, што не будзеце болі абіждаць бедных, дык вы пераллццё гэту ваду, а калі не складзяцё, дык вы нізашто не пераллццё!

Мужыкі, пачуўшы гэта, як пабягуць за Іванькам, а Іванька як пабяжыць уцякаць... Бег, бег, але-ткі ўцёк. Пайшоў ён далі, ажны на дарозе ляжыць тая маладзіца, і чэраз яе і ходзяць, і ездзяць — усю яе стапталі.

— А што, Іванька, што там мне бог сказаў?

— Пастой, я зайду наперад, тады скажу!

Зайшоў ён наперад тэй маладзіцы і кажаць ёй:

— Во што табе бог казаў: ты ўперадзі была старая ведзьма-змяя; ты адбірала чужэя малокі, людзей дужа абіждала, людзі тагды смяглі. Калі ты складзеш рукі накрыж, што не будзеш гэдак дзелаць, дык пойдзеш, а калі не зложыш рук, дык і век тут ляжаць будзеш!

Маладзіца зложыла рукі накрыж і пайшла з дарогі. Пайшоў Іванька далі. Ішоў, ішоў, ажны качаецца тэй чалавек на печцы.

— А што, Іванька, што там мне бог казаў?

— Пастой, зайду наперад, тады скажу!

Зайшоў наперад і кажаць:

— Ты быў уперадзі бальшэй мароз і многа памарозіў у людзей дабра, многа людзей цярпела праз цябе, многа ты людзей пасіраціў. Калі ты складзеш накрыж рукі, што не будзеш болі абіждаць людзей, дык злезеш з печы, а калі не, дык ніколі не злезеш.

Чалавек тэй склаў рукі накрыж, злез з печы і пайшоў. Пайшоў Іванька далі. Ішоў, ішоў, ішоў, ішоў і прыходзіць у двор.

Пан пытаецца:

— Ну, Іванька, што бог сказаў, чаго маё сена пагніло?

— А во чаго, паночак, казаў бог, пагніло тваё сена: Дзеўка-Паланянка дванаццаць дней купалася ў моры і гуляла з сонцам. І ад гэтага не было сонца, быў дождж, сена тваё і пагніло!

— Маладзец, Іванька, ступай аддыхай!

Пайшоў Іванька аддыхаць. Прайшло сколькі ўрэмя, парабкі зноў набунтавалі пану на Йваньку:

— А паночак наш! Іванька казаў, што ён Дзеўку-Паланянку дастаць можаць!

— Пазавіце мне сюды Іваньку.

Пабеглі яны, гукнулі Іваньку з яго пакою. Прыходзіць ён к пану, пан кажаць:

— Дастань ты мне, Іванька, тую Дзеўку-Паланянку! А калі не дастанеш, дык мой меч — табе галава з плеч!

Іванька як заплачацца, як пабяжыць к каню:

— А канёчак ты мой! А божа ж мой, божа! А што мне дзелаць: пан сказаў мне дастаць Дзеўку-Паланянку, а калі не дастану, дык панаў меч — мне галава з плеч!

— А што, Іванька, ці я не казаў табе: не руш пяра, не будзець бяда. Ну, ды гэта бяда не бяда, бяда яшчэ ўся напе-

радзі. Што дзелаць, садзісь на мяне, паедзем іскаць Дзеўку-Паланянку!

Уссеў Іванька на каня і паехалі. Ехалі яны, ехалі, ажны ідзець тэй чалавек мароз, што ўперадзі на печцы ляжаў.

— Добры дзень табе, Іванька! Куды цябе бог нясець?

— На здароўе! Іду іскаць Дзеўку-Паланянку, пан сказаў.

— Ну, Іванька, пайду і я з табой. Ты ж мне памог, можа і я табе памагу што-небудзь!

Пайшлі яны ўдвох ўжо. Ішлі, ішлі, ажны ідзець тая маладзіца — ведзьма, што ляжала на дарозе.

— Добры дзень табе, Іванька! Куды цябе бог нясець?

— На здароўе! Так і так: іду па Дзеўку-Паланянку, мне пан сказаў дастаць.

— Пайду й я з вамі. Бо ты мне памог, можа й я табе, Іванька, што-небудзь памагу!

Пайшлі яны ўжо ўтраіх. Ішлі, ішлі, ажны страчаюць тых двох чалавекаў, што ваду пераліваліі ўперадзі. І яны Іваньку добры дзень не далі. Пайшлі яны ўтраіх далі. Ідуць, ідуць і прыходзяць к мору. Як бы тутацькі дастаць з мора Дзеўку-Паланянку? Думалі, думалі, але-ткі ўздумалі. Маладзіца тая скінулася крамкай і стала на марскім беразе; і ў тэй крамцы відаць дужа прыгожыя стужкі, хусткі і ўсё чысценька, што каму трэба, усё ёсць. Ды такое прыгожае, што і ўздумаць няможна. Вытыркнула Дзеўка-Паланянка галаву з мора ды як увідзела гэту крамку, дужа ёй захацелася што-небудзь у гэтай крамцы ўзяць. Але баіцца, ці няма каго. Вытыркнула яна галаву другі раз, палядзела, палядзела — няма нікога, бо Іванька з канём захаваўся, маладзіца скінулась крамкай, а чалавек тэй стаў марозам. Вытыркнула яна галаву ў трэці раз; глядзіць — узнова нікога не відаць. Тады яна сама сабе думаець: ужо тут нікога няма, пайду ў крамку. Вылезла з мора і пайшла. Толькі яна вылезла, а мароз узяў ды мора ўсё і замарозіў. Конь крыкнуў на Йваньку:

— Бяжы, Іванька, лаві скарэй Дзеўку-Паланянку!

Тая як пачула гэта, што хочуць яе ўлавіць, пабегла ў мора. Ажны там усюдых лёд. Іванька яе тут і ўхваціў.

— Ну,— кажаць конь,— дзяржы, Іванька, пакрапчэй гэту Дзеўку-Паланянку ды паедзем!

Падзякаваў Іванька маладзіцы тэй і марозу, што памаглі яму ўлавіць Дзеўку-Паланянку, ды ўссеў на каня і паехаў к пану ў двор. Прыехалі ў двор, аддаў Іванька пану Дзеўку-Паланянку, а сам пайшоў аддыхаць. Аддыхнуў ён сколькі та-

мацькі, тая Дзеўка-Паланянка вялела пану даставіць ёй з мора яе скрынку. Прызваў барджэй пан Іваньку і кажаць:

— Дастань ты мне з мора скрынку Дзеўкі-Паланянкі! А калі не дастанеш, дык мой меч, а табе, Іванька, галава з плеч!

Іванька як заплачацца, як загалосіцца! Пабег к свайму каню:

— А канёчак! А татачка ты мой! А божа ж мой, божа! А што ж я буду дзелаць цяпер?

— А што там?

— Мне пан сказаў: калі ты дастаў Дзеўку-Паланянку, дык дастань жа ж цяпер скрынку яе з мора, а калі не дастанеш, дык мой меч, а табе галава з плеч!

— А што, Іванька! Ці я табе не казаў, што не руш пяра, не будзець бяда? Ну, ды гэта бяда не бяда, бяда яшчэ ўперадзі. А трэба як-небудзь дастаць скрынку. Садзісь на мяне, паедзем!

Уссеў Іванька на каня і паехалі. Ехалі, ехалі, ехалі, ехалі — нікога нійдзе не відаць. Прыехалі к мору, ажны выходзіць рыбіна, што ляжала на 'дным баку.

— Добры дзень, Іванька! Куды бог нясець?

— А іду даставаць скрынку Дзеўкі-Паланянкі з мора, пан сказаў.

— Ну, Іванька, ты мне ўперадзі памог, а я цяпер табе памагу. Пасядзі-тку ты тут, а я пайду прыкажу ўсёй рыбе іскаць скрынку!

Сеў Іванька на беразе, а рыбіна пайшла ў мора і загадала ўсёй рыбе іскаць скрынку. Іскала, іскала ўся рыба і не знайшла. Рыбіна ўзноў загадала іскаць, другі раз. Рыба іскала, іскала — не знайшла. Трэці раз як загадала рыбіна іскаць, як пайшла ўся рыба! Іх! Аж кішыць, аж мора шуміць! Іскалі, іскалі, але-ткі адна маленькая рыбінка нясець скрынку Дзеўкі-Паланянкі! Ухваціла рыбіна скрынку і падала Іваньку. Узяў ён скрынку, падзякаваў, уссеў на каня і паехаў к пану. Ну, прыехаў у двор, аддаў скрынку Дзеўцы-Паланянцы, а сам пайшоў у свой пакой аддыхаць. Аддыхнуўшы, думаець сабе: ну, ужо ж нікуды я не пайду. Ажны во табе: Дзеўка-Паланянка загадала пану даставіць вады гаючыя і жывучыя.

Пазваў пан Іваньку:

— Сходзі ты, Іванька, прынясі мне вады гаючыя і жывучыя! Калі прынясеш, дык ладна, а калі не прынясеш, дык мой меч, а табе, Іванька, галава з плеч!

Іванька як пачуў гэта, як заплачацца, як зальецца слязьмі! Пабег і к каню:

— А божа мой, божа! А канёчак мой, а татка мой! А што я буду дзелаць?

— А што?

— Ды загадаў мне пан прынесці вады гаючыя і жывучыя, а калі не прынясу, дык панаў меч, а мая галава з плеч!

— А што, Іванька: ці я табе не казаў, што не руш пяра, не будзець бяда. Ну, ды шчэ гэта бяда не бяда, бяда будзець наперадзі. Садзісь на мяне, паедзем!

Сеў Іванька на каня і паехалі. Як ехаць, дык ехаць — і прыехалі к мору. Тады конь кажаць Іваньку:

— Злязай-ка ды рэж мяне!

— Як я цябе буду рэзаць? А хто ж мяне будзець тады ўчыць?

— Я табе кажу: злязай ды рэж! Улезеш у мае косці, і як будуць тут садзіцца крукі клюваць мяне, дык ты, як можна, хапай, лаві кручанёнка!

Іванька ўзнова кажаць:

— Як я цябе буду рэзаць?

А конь гаворыць:

— Нябось, рэж!

Нечага дзелаць. Злез Іванька з каня, разрэзаў пуза ды ў сярэдзіну, у косці ўлез, схаваўся — сядзіць, пілнуець крука. Ажны якраз ляцяць крукі. Кручанёнкі ляцяць ды крычаць:

— Тата, мяса! Тата, мяса!

А стары крук крычыць:

— Не, дзеткі, гэта зрада наша, зрада наша!

Але кручанёнак зляцеў ды сеў на касцях; толькі хацеў ён клюнуць, а Іванька й схапіў яго. Тут крук стаў прасіць, каб Іванька аддаў яму дзяцёнка яго, а Іванька кажаць:

— Злятай ды прынясі мне гаючыя і жывучыя вады, дык я табе аддам, а то не ддам.

— Ну, дай жа мне, Іванька, дзве пляшачкі!

Даў яму Іванька дзве пляшачкі, ён адну пляшачку прывязаў к аднаму крылцу, а другую к другому і паляцеў. Ляцеў, ляцеў, прылятаець туды, дзе жывучая і гаючая вада. Бачыць, тую ваду пілнуюць бабы з качоргамі. Ніяк няможна вады дастаць! Ён тады ўзяў і паляцеў кала самых іх. Бабы тыя і загледзеліся:

— Вунь, вунь,— кажуць,— якая дзіўная птушка з пляшачкамі пад крылцамі!

Заглядзеліся і адышліся ад вады. Крук тады скоранька к вадзе, зачэрпнуў ў вадну пляшку гаючыя вады, у другую — жывучыя, падняўся і паляцеў, панёс ваду к Іванньку. Прыносіць ён ваду, Іванька ўзяў ды кручанёнка і разадраў папалам. Тады ўзяў гаючыя вады, узліў на кручанёнка, кручанёнак згаіўся; узліў жывучыя вады — кручанёнак аджыўся. Быў кручанёнак харошы, а то яшчэ палепшаў. Тады Іванька кажаць:

— Злятай ды дапоўні мне пляшачкі!

Узяў крук пляшачкі, схаваў пад крыллем, набраў прыгожых стужак і паляцеў. Прыляцеў ён к вадзе, а там узноў бабы сядзяць з качоргамі і нікога не пускаюць. Што тут рабіць? Адляцеў ён трошку ад вады ды так як ляцеў і кінуў істужкі. Бабы пабеглі сабіраць істужкі, а крук скоранька к вадзе, зачэрпнуў у абедзве пляшачкі і паляцеў. Узяў Іванька ваду, аджывіў каня, аддаў круку кручанёнка-дзяцёнка і паехалі ў двор. Аддаў Іванька ваду гаючую і жывучую Дзеўцы-Паланянцы; яна і гаворыць яму:

— Можа ты мяне абманюеш, трэба цябе пасеч!

Іванька кажаць:

— Сячы сабе!

Узяла яна тапор і пасекла Іваньку на дробныя частачкі. Тады ўзяла гаючыя вады, спырснула яго — цела згаілася. Узяла жывучыя вады ды спырснула — Іванька ўстаў.

— Ах,— кажаць,— як я смашна быў заснуў!

Быў Іванька прыгожы, а то яшчэ прыгажэйшы стаў! Пан тады кажаць Дзеўцы-Паланянцы:

— Здзелай і мне гэдак!

Дзеўка-Паланянка ўзяла сякерку ды й пасекла пана на дробныя кавалачкі, улажыла ў гаршчок і зварыла. А Іванька пасваталіся з Дзеўкай-Паланянкай і пажаніліся, і сталі жыць.

## 79. З ТАГО СВЕТУ НАВІНЫ

Жыў сабе так старык са старухай, і было ў іх трое сыноў: два разумных, а трэці Іванушка-дурачок. І дужа бедна жылі яны, па старому ўрэмю. Тады бацька гаворыць на большага сына:

— Ідзі ты куды-небудзь служыць!

Сын тэй пайшоў і наняўся на службу к суседу. І ўгаварыліся яны так, што калі па праўдзе служыць будзець, дык шэс[ц]ь-

дзесят цалковых дам, а калі не па праўдзе, дык трыццаць. Ну, тады хадзяін яму гаворыць:

— Аднак у нас цяпер работа не вяліка — вядзі-тку коней пасціць!

Павёў гэты работнік коней пасціць, пусціў іх на луг, а сам пайшоў на гару, сеў пад дубам, сядзеў-сядзеў ды й заснуў. Ці доўга, ці не спаў, прашынаецца — няма коней. Што тут дзелаць? Шукаў ён іх, шукаў — няма нійдзе. Ён ужо хацеў дамоў і[с]ці, калі палядзіць, аж коні яго ідуць із лесу. Стаў ён дужа рад, што яны найшліся, і пагнаў іх дамоў. І яму здалося, што ён дзень пасціў, а гэта не іменна дзень, а год прайшоў. Хадзяін тады пытаецца:

— А што,— каець,— ці не відзеў ты ідзе якія навіны?

— Не,— каець,— нійдзе нічога не відзеў.

Тады хадзяін даў яму трыццаць рублёў і адправіў яго дамоў.

— Вот, сынок,— каець,— не па праўдзе ты у мяне служыў!

На другі год адпраўляець старык свайго сярэдняга сына на службу к суседу. Ён і таму так жа сама гаворыць:

— Вядзі,— каець,— сынок, коней пасціць, аднак цяпер дзелаць нечага!

Ён павёў коней, пусціў на лугу, а сам пайшоў на гару, сеў пад дубам і ў скорасці заснуў. А коні й пайшлі. Прашнуўся ён — няма коней. Шукаў, шукаў да самага вечара. А ўвечары коні самі прыйшлі [illegible] лесу. Ён іх і пагнаў дамоў. І тож не іменна дзень прайшоў, а цэлы год. Прыгнаўсь ён дамоў, хадзяін у яго пытаець:

— Ці не відзеў, сынок, ідзе-небудзь якія навіны?

— Не,— каець,— нійдзе нічога не відзеў!

Тады хадзяін гаворыць:

— Вот, сынок, і ты ў мяне няверна служыў!

І даў яму трыццаць цалковых і адправіў яго дамоў.

На трэці год просіцца Іванушка-дурачок у бацькі:

— Пайду я, тат, служыць!

— Ідзе табе, дураку, служыць? Большыя, разумнейшыя не ўслужылі, а то ты ўслужыш!

— Не, тат, пайду!

І ўпрасіўся ў бацькі, і пайшоў служыць. Хадзяін і яму гаворыць:

— Вядзі коней пасціць!

Ён павёў, пусціў іх на лугу, а сам пайшоў на гару, сеў пад дубам і стаў табаку курыць і лапці плесць. Палядзіць ён на ко-

ней, а коні ўва 'дным месці не ходзяць, ды ўсё дальша йдуць.

— Э,— каець дурак,— тут ужо лапцяў не сплядеш!

Кінуў лыкі пад дубам, а сам пайшоў за конямі. Коні ідуць дальша, і ён ідзець. Куды коні, туды і ён. Ішлі, ішлі гэтак і прыйшлі к рацэ. Коні паплылі чараз раку, і Іванька ўхваціўся за конскі хвост, і ён пераплыў. Ішлі-ішлі і прыйшлі ў сад. А ў том саду касцёл. Тады коні абярнуліcь чалавекамі і пайшлі ў касцёл богу маліцца. І Іванька за імі. Памаліўшысь богу, выйшлі з касцёлу і скінуліcь узноў конямі. Выйшлі з касцёла, Іванька сарваў у саду два яблыкі: адно залатое, а другое сярэбранае, і пайшлі назад. Толькі адышліся ад касцёла, гоняць два малцы авечак. Адзін гоніць белую стаду, а другі — чорную. Тады Іванька пытаець:

— Куды вы іх гоніце?

А яны яму сказалі:

— Ідзі, дурань, куды йдзеш!

Тады Іванька пагнаў коней дальша. Ідуць яны і прыходзяць к бальшой хаце. Зайшоў Іванушка туды, аж там бегаець чалавек ды крычыць:

— Ай, цесна, ай, цесна!

Тады Іванушка гаворыць:

— Чаго ты крычыш? Гэта ж тут раскошна!

А ён гаворыць:

— Ідзі, дурак, куды йдзеш!

Пайшоў Іванька далі за сваімі лашадзьмі, відзіць — уклаў чалавек галаву ў гаршчок і ес[ц]ь і ўсё крычыць:

— Ай, есці хачу! Ай, есці хачу!

Тады Іванушка гаворыць:

— Чаго ты крычыш, ты ж ясі?

А ён каець:

— Ідзі, дурак, куды йдзеш!

Ну, ён і пайшоў далі. Прыйшлі к рацэ, відзіць ён, што уклаў чалавек галаву ў раку і крычыць:

— Ай, піць хачу! Ай, піць хачу!

Іванушка яму гаворыць:

— Што табе, ці мала? Ты ж уклаў галаву ў ваду!

А ён кажаць:

— Ідзі, дурак, куды йдзеш!

Тады коні паплылі чараз раку, і Іванька за імі. На беразе найшоў дзве травінкі: адну залатую, другую сярэбраную. Ён іх сарваў і паклаў к яблакам. Тады прыгнаў ён коней дамоў, хадзяін і пытаецца:

— А што, ці не відзеў ты якей навіны?

Іванушка-дурачок яму гаворыць:

— А вот якую я табе навіну скажу! Ішлі мы, ішлі, прыйшлі к рацэ. Мае конікі пераплылі, і я з імі, узяўшысь за конскі хвост. Прыйшлі мы к саду, а ў том саду касцёл. Тады конікі паабярнулісь чалавекамі, і пайшлі мы ў касцёл богу маліцца. Выйшлі мы, памаліўшысь, з касцёла, тады яны па'бярнулісь конікамі, а я атарваў там два яблачкі: адно залатое, другое сярэбранае!

І аддаў яму гэты яблачкі.

— Ну,— каець,— ці не відзеў ты і другей якей навіны?

— А вот, як выйшлі мы з касцёла, дык відзелі — гналі два малцы авец, адзін белых, другі чорных. То я пытаюсь: «Малцы, куды вы гоніце гэтых авец?» А йны гаворaць: «Ідзі, йдзі, дурак, куды йдзеш!» То мы й пайшлі дальша.

Тады хадзяін гаворыць:

— Гэта вы былі на том свеце. Белыя авечкі — гэта людзі йшлі з пекла ў рай, а чорныя — гэта йшлі з раю ў пекла! Ну, а шчэ ці не відзеў якея навіны?

— А вот,— каець,— ішлі мы, ішлі, відзім — бегаець чалавек па ўсёй хаце ды крычыць: «Ай, цесна!» Я кажу: «Гэта ж хата бальшая, чаго ты крычыш?» А ён каець: «Ідзі, дурак, куды йдзеш!»

— Вот, сынок, гэты чалавек на гэтым свеце, як хто папросіцца начаваць, не пускаець, кажаць: «У нас цесна!» Вот яму і там цяпер цесна. А шчэ ці не відзеў якея навіны?

— А як мы ішлі, то адзін чалавек уклаў галаву ў гаршчок і ес[ц]ь і ўсё крычыць: «Ай, ес[ц]ь хачу!» Я гавару: «Ты ж ясі, ці табе мала?» А ён каець: «Ідзі, дурак, куды йдзеш!»

— А гэта, сынок, калі на гэтым свеце папросіць нішчы есці, а йму не дадуць, скажуць: «Нам самім нечага есць!» Вот ім і на том свеце мала!

— А яшчэ табе скажу навіну. Ішлі мы, ішлі, прыйшлі к рацэ. А там адзін чалавек уклаў галаву ў раку і крычыць: «Ай, піць хачу!» Я яму кажу: «Ты пі! Што, табе мала?» А ён каець: «Ідзі, дурак, куды йдзеш!» То я й пайшоў далі.

— А гэта, сынок, яму на гэтым свете ўсё было мала, вот яму й на том мала. А шчэ што ты відзеў?

— А больш я нічога не відзеў, толькі як пераплылі чараз раку, сарваў я дзве травінкі: адну залатую, а другую сярэбраную!

І даў яму гэты травінкі. Тады старык тэй каець:

— Вот, сынок, ты ў мяне верна служыў!

Даў яму шэс[ц]ьдзесят цалковых і адправіў дамоў. І з тых шэс[ц]ьдзесят цалковых яны разжыліся і сталі жыць харашо і багата.

## 80. ДЗІКІ БУРМА

Быў сабою хазяін багаты. Што ў яго была дочар вельмі прыгожая. І яна, замуж не выйшаўшы, забрэменела. Нарадзіла яна сабе сына і сама сабою яна, па-нашаму, баіцца ўжо бацькі. Нарадзёмшы яна сына, нікому яна не аб'яўляла і січас гэтага рабёшачка ўвярнула ў палу і пайшла. І знала яна недалёка ад сябе пушчу непрахадзімую, што па ёй мала хто хадзіў. Вот яна ўзяла гэтага рабёшачка і занясла туды і кінула ў лес. Снягі былі бальшыя. Цяпер, яна прарэзала яму жываценка, штоб выпусціць яму кішкі, каб ён акончыў січас. Ну, па гэтым дзеле пайшла яна дамоў, адправілась. Ацец той пытаецца ў яе:

— Адзе ты прабывала, урэмя прадаўжала доўга?

— А была ў таварышкі свае, гуляла так, сама сабою. За мной дзел няма ніякіх, дак я гуляла!

І даў так бог, што кругом гэтага рабёшачка растаў снег на дзесяціну, жывот яго стаў зусім як нада быць, кішкі гэтыя назад увайшлі і жываценка яго зросся, што яна прарэзала. Так стала, што як зверх дзесяціны ад яго, дак марозы пякуць такія, што няможна духу ■ сабе прыгарнуць, а кала самаго красачкі цвітуць, і ён то за тую красачку хапаець, то за тую, гукаець, забаўляецца сам з сабою. Дзеўчыне ж здалося, што яна яго занясла бог знама куды сярод пушчы, а таго не знаець, што ля дарогі ў пяць шагоў бросіла.

Гэтаму ўрэмю нямнога дзеецца, прабыў рабёнак шэсць часоў у лясу, і едзець купец Іван Іванавіч за таварам з сваім з ізвошчыкам. І чуець ён — у лясу гу-гу, гу-гу, гу-гу! гукаець нешта, толькі нязвесна што. Вялеў ён свайму звошчыку прыдзержыць коней і ісці ўзнаць гэтага дзела. Гэты звошчык пайшоў к гэтаму рабёнку, дак па такім снягу! Нагу ўсодзіць, нагу вынець, нагу ўсодзіць, нагу вынець! А падходзіць к рабёнку — кала яго краскі цвітуць. Прыходзіць назад к купцу. Купец спрашуець:

— Што, брат, ты там бачыў такое?

Ён адказуець:

— Вот што, гаспадзін купец, бог знаець, што такое: сядзіць рабёшачак і няма ля яго ні снегу і нічога, толькі краскі цвітуць і ён з імі гуляець.

Купец злез із свае паязды і пайшоў сам. Прыходзіць к рабёнку, і дух яго разгарэўся, каб узяць гэтага рабёнка. Угарнуў яго ў палу, каб яму было цёпла, і прынёс да свае паязды. Сеў на паязду і вяліць свайму звошчыку завярнуць коней і не ехаць за таварам, а завесць гэтага рабёшачка к сабе дамоў. Прывёз к сабе дамоў і січас сабраў кумоў. Прыняслі к папу ксціць яго. Бярэць поп вангелію і падымаець кнігу станавіць гэтаму рабёшачку імення. Паўтара часа глядзеў у вангелію, каб паставіць яму імення якое,— не выпадаець яму імення ніякага, як Дзікі Бурма. Ну, аксцілі яго, і стаў ён у купца гадавацца. Купец наняў яму мамку, і ён расцець не гадамі, а часамі. Пайшлі гэтаму купцу даходы такія, што, бывала, утаргуець у тры гады, дак цяпер утаргуець у тры нядзелі тое самае. І трох год ён аддаў яго ў школу, да сямі год ён выйшаў із школы і як ёсць на свеце якая грамата, так ён усё паняў. Прабыў ён у купца дванаццаць год, і пайшлі купцу, значыцца, сільныя даходы. Тады купцы суседскія праміжды собкі думаюць: «За што яму такія даходы? За чужога рабёшачка даў бог шчасце! Адпісаць к цару, пушчай лучшы служыць цару, чымся яму!» Узялі напісалі к цару на бумазе гербавай і адаслалі, што «вот так і так, у такога-то купца жывець знайдзён, малец такі вумны, такі разумны, што ён будзець гадзіцца вам у сынод. Празваніе яго Дзікі Бурма». Цар палучыў бумагу, прачытаў і рад стаў:

— Ну, мне гэтакія людзі і нада вумныя!

Прыпісаў у гэту губерню, штоб ён у чатыры часы быў прыстаўлен. Ну, яго ў чатыры часы прыставілі. Патрэбаваў яго цар к сабе, спрасіў у яго акзамінтаў із разных языкоў. Ён яму аддаў акзамінты на дванаццаці языках дóразу. Зняўшы з яго гэтыя акзамінты, сычас яго перавялі ў сынод. І што ў сынодзе ён скажаць, не можаць ніхто перамяніць — ні цар, ні хто. Прабыў ён ў сынодзе дзевяць гадоў. Гэта з роду яму знаходзілась дваццаць адзін год. Думаець ён так сабе, як ба ўжо і жаніцца. Наканец гэтаму, цар не вялеў яму браць ні'ткудава, а хаціць аддаць сваю дочар, каб ён палуччы стараўся ў сынодзе, каб яму вочы не дралі, што ён — ліба які старац — ля гасударя, што супрацію яго нямажна ніякімі судзьбамі. І аддаў дочар за яго. І што ён уславіўся ў цара па ўсём царстве, што цар за ім пастаянна спакоен — усё ён распараджаецца.

Цяпер, на прыдзевятым царстве, на прыдзесятай зямлі па-

мёр цар. Асталося ад яго кастыль і панахвіда і царская каруна. Дакладаюць гэтыя санодчыкі і найпача гэтыя пабольшыя начальнікі цару:

— Калі ў вас Дзікі Бурма веран, няхай ён вам даставіць ад такога-та цара кастыль і панахвіду і царскую каруну.

Дзікі Бурма прыходзіць на ʼбед, цар і пытаецца ў яго:

— Ну што, Дзікі Бурма? Знаеш?

— А што, ацец?

— Я хочу пасладь цябе ў дарогу!

— У якую?

— А вот на прыдзевятым царстве, на прыдзевятай зямлі памёр цар, дак засталося ад яго кастыль і панахвіда і царская каруна. Як ба ты даставіў яе?

А ён атвяшчаець:

— Я даставіць-то гэта магу, калі ж той пойдзець са мною, хто гэта вам нараіў!

Ну, па царскаму прыказанню трэба тым начальнікам ідіць. А самі-то яны і не хацелі б. Бярэць ён з сабою дужа многа салдатаў, цэлную, можа, берагату, і начальнікаў гэтых усіх, што нараілі цару, і капэлію з сабою, музыку і паехалі. Ехалі яны нескалькі ўрэмя, можа паўгода,— цераз дзесяць царстваў перабрацца не малое расстаяніе! Падʼехалі яны к таму царству. Не даязджаючы таго царства вярсту, а можа і дзве, стаіць хатка. Гэты Дзікі Бурма вялеў коней адпрэч ля гэтае хаткі, а сам заходзіць у хатку ў гэту. Там жывець старушка адна і яна гэтай царыцы-ўдаве не із радні, а значыцца, знакомая гэтай царыцы, і яна ёй можаць паверыць абы-што, не зматала яна. Гэты Дзікі Бурма здзелаў гуль: сталі піць, гуляць, музыка граець. Гоніць пастух з поля, дак усе скачуць: каровы сабе, воўцы сабе, козы мудраней усіх скачуць! І Дзікі Бурма давай прасіць гэту старушку, каб яна прасіла царыцу сюды выйсці, каб як-як яе выманіць. Гэта старушка напісала царыцы: «Прашу вас к сабе ў госці, не так у госці, як паглядзець дзіва». Гэта царыца сама не едзець і не йдзець, а шлець сваіх самых верных слуг і прыказуець слугам:

— Калі яны харашо ўгасцяць вас і прывецяць, дак і вы к сабе завіце іх.

Слугі тыя прагулялі гэдак суткі і завуць іх з сабою прама туды, усю гэту сілу, усю капэлію. А старуха адправілась уперадзі к ёй, ёй расталкавала, які чалавек, што, куды. Прыехалі яны, музыка зайграла, сама царыца выйшла, прыняла іх да чэсці. Дзікі Бурма атвяшчаець:

— Вот што, рабяты! Піце, гуляйце, сколькі вам нравіцца, ну, толькі вума не прапівайце нікалі!

А Дзікага Бурму прыняла яна асобенна да чэсці. І праміж собку ўдаліся ў разгаворы: што, куды, як? А ён гэтых рэчаў ёй вытаўкавацца не хочаць, а загаварыецъ ёй зубы другімі рачамі. Было ў яго разныя напіткі, ён кое-як з ёй паладзіў, загасціўся і сваіх напітак, і падабраўся к ёй. І здзелалась яна хмельная. Былі ў яго кала боку січас жа сонныя каплі. Як-то ён даў ёй панюхаць — там яна і заснула на том месце. Гэта старушка січас за кастыль, за панахвіду, за царскую каруну, да Дзікаму Бурму ў рукі:

— Да і адпраўляйся-ка ты з гэтым, адзе быў!

Гэты Дзікі Бурма на рабят і кажа:

— Каторыя паўпіліся, тыя няхай сабе астаюцца, а каторыя не, дак запрагайце коней і паедзем. Да паскарэй!

Яны коней тых запраглі і паехалі. А царыца гэта спала шэсцера сутак пасля гэтага. Праехалі яны чатыры царствы, узехалі на луг на харошы, так Дзікі Бурма і кажаць:

— Во што, рабяты, коней мы папазбілі і цяпер, слава богу, паўдарогі ўехалі. Адпрагайце вы, коней папасём і самі аддыхнём!

Яны сталі коней адпрагаць, а ён злез з паязды да на лугу перакінуўся. Як перакінуўся, так січас і заснуў. А яны коней не 'дпрагаючы марш па конях — і паехалі, і ўсё тое павязлі. А ён праспаў трое сутак. Тады ўстаў, богу пераксціўся — няма нічога пры ім! І есць хочацца, і негдзі купіць, і грошай няма пры ім, і саўсім голы. Так сабе думаець: «Э, што бог дасць, да дасць: пайду гэтай дарогай, куды-небудзь да выйду!» Прайшоў ён сутак трое, бачыць ён — стаіць дом, без канца агромны, вісокі, такі, што... Баіцца ён у гэты дом заходзіць! І трэба зайсці, і баіцца, і есць хочацца. А тады думаець, што бог дасць, дак дасць — пайду! Заходзіць ён у гэты дом. Сядзіць баба 'дна за сталом. Ён каець:

— Добры дзень!

— Добрага здаровіка! Ну што, Дзікі Бурма? Ад мае сястры ўкраў кастыль, панахвіду і царскую каруну? Ад яе ўцёк, думаеш, што і ад мяне ўцячэш — не!

— Ах, божа, божа наш міласэрны! У нашай-то старане, ці б'юць, ці вешаюць, дак сытага, а не галоднага!

— І я табе за піцяннё, за едзяннё не стаю! Садзісь, пі і еш, колькі тваёй душы ўгодна!

Ён сеў за стол, можа там разоў пяць-шэсць укусіў, сам сабе пад нос і гаворыць:

— Божа, божа наш міласэрны! Як я ў сваім царстве быў і верна служыў і не выслужыў нічога. А як ба тут, кажацца, сваю галаву б палажыў, так ба верна служыў, стараўся!

— Калі ты, Дзікі Бурма, па праўдзе гаворыш і будзеш жыць са мною верна, то я цябе губіць не буду!

І прысягнуў ён ёй так, што «буду служыць верна, луччы як у сваём царстве буду вераваць. Ты будзеш мне жана, а я твой муж!»

Тое ж начальства вешчы гэты даставіла і сказала на Бурму, што Бурма сп'янстваваўся, збуяніўсь, ні навошта. Ну, а Бурма пражыў із ёю год, прыжылі яны сабе дзяўчоначку. Пражылі другі — апяць меюць хлопчыка. І па гэтым боку яны жывуць, а па другім мора, заняло яго, куды яму іціць у пуць. Падгаварыецъ ён яе:

— Што ты, душачка, знаеш? Жывём мы на свеце, не бачым ні бога, ні людзей — нікаго, званія! Ці ў нас няма грошай, ці чаго? Запраглі б мы коней, паехалі б у царкву — ці ў рускую, ці ў польскую...

Яна, баба, на гэта і рот разінула. Раз запраглі, паехалі, і ў другі, хоць і ў трэці. А ў чацвёрты раз ён і кажа:

— Я ж такі хазяін знаходжуся ў сваім добрым — своіць ужо — паязджай ты, душачка, адна, а я тут прыгледжу ў хазяйстве!

Яна вялела запрэч коней і паехала сабе з кучарам адна. А на дварэ сказала:

— Вароты, зачыняйцесь, замкі, замыкайцесь, каб Дзікі Бурма не ўцёк!

Січас вароты хляп! зачыніліcь, замкнуліcь, а Дзікі Бурма на дварэ астаўсь, хоць галавой біся! Доўга не зяваючы, Дзікі Бурма узяў баркан раскідаў і здзелаў сабе тарок. Сеў сабе на гэты тарок, набраў сабе хлеба, грошай, 'дзежы і паплыў па мору. Уязджаець можа ў палавіна мора — і яна на двор гатова. Як уз'ехала на двор — січас і з ума сыйшла:

— Ага,— кажаць,— Дзікі Бурма, вот вераваеш, дак вераваеш! Луччы ўжо некуды, як вераваеш!

Січас ускочыла ў хату, узяла гэту дзяўчоначку, на 'дну нагу стала, другую ўгору — і разадрала папалам.

— На ж,— кажа,— Дзікі Бурма, і табе палавінку!

Як шыбне, дак гэта палавінка прама на тарок! Дак гэты тарок куляй воб зямлю — у ваду патануў. Гэты Дзікі Бурма

бачыць дзела, што патанаець саўсім, узяў яе, як бросіў гэту палавінку ў ваду — січас тарок наверх. Яна ўзяла і другую палавінку так жа! Ён і тую так. Тады ўзяла хлопчыка:

— На ж табе,— кажаць,— сына-хадзяіна на завод.

Як кінула за ногі і ўскінула яму на тарок, вярсты за тры! Гэты тарок шчэ скарэй тонець таго. Ён думаў-думаў, што тут дзелаць? Шарах нагой, да яго ў ваду! Тарок наверх. Во й пераехаў. Стаў на беразе і сабе думаець: слава табе госпадзі — перабраўся! І адпраўляецца ідціць у пуць. Ну, ішоў ён, можаць, сутак трое ці чэцвера, з харчою, з гэтаю, што набраў. Прыбраў яе, папаеў, а суткі ўжо ідзець не еўшы. Прыходзіць к і двару на бальшаку. Ён рад быў, думаў, што гэта карчма. А грошы ёсць. «Ну, думаець, вып'ю, закушу!» І баіцца заходзіць, затым што вялік, але сабе думаець, «што бог дасць, то дасць, а пайду!»

Прыходзіць у гэты дом, сядзіць Дзед Шкурапет з адным вокам. Уходзіць ён у хату.

— Добры дзень табе, Дзед Шкурапет!

— А, добрага здаровіка табе, Дзікі Бурма! Хто мне нада, дак мне тэй сам ідзець у рукі! Адну пляменніцу абкраў і ўцёк, кала другой насмяяўся: пару дзяцей прыжыў і ад тые ўцёк. Дак ты думаў, што і ад мяне ўцячэш? Не, ад мяне ўжо не ўцячэш!

— Божа, божа! Дзед Шкурапет, дай-ка ты мне ўкусіць чаго-небудзь! Тады сабе ўжо што хочаш дзелай: ці бі, ці дзяры, ці вешай!

— Во на стале стаіць піцяннё і едзяннё, садзісь, пі і еш, колькі табе ўгодна!

Ён сеў, можа разоў пяць-шэсць укусіў. Дзе ўжо палезець у рот чалавеку, калі смерць над шыей! Падпёрся рукой правай да й кажаць:

— Божа, божа наш міласэрны, святы! Як у сваім царстве быў за дохтура за такога, што ў каго не было нагі, дак ногу прыстанаўліваў, у каго не было рукі, руку прыдзелываў, у каго не было бока, дак бок прыстаўляў!

— А вока ці ўмееш пользаваць?

— Да што, дзедзечка, я табе гэта вока выпальзаваў бы ў тры мінуты, толькі дакладу багата трэба!

— А які жа даклад!

— А вот які: трэба медная чарпаха, вядры ў тры, і завесіць кацёл вісучы ў варотах, і натапіць яго повен смалы, і трэба з жэньскага воласу савіць канат, каб ты не варахнуўсь!

— Э, гэта саўсім глупасны даклад! Калі ты мне вока вы-

пальзуеш, дак я цябе дастаўлю ў тваё царства ў тры часы, а даклад усякі магу даставіць адтуль, дзе ты браў кастыль, панахвіду і царскую каруну — у два часы!

Січас, пайшоў ён у клець, выстаўляець вісучы кацёл, судаў у семера, і завесілі яго ў варотах, натапілі яго павнюхтаняк смалы. Палажыў ля катла медную чарпаху ў тры вядры, а самі сталі віць канат із жэньскага воласу. І звілі яны сорак сажняў. Ускіпяцілі смалу жыдка так, як алей. Ён яго паклаў у варотах і ўкруціў яго гэтым канатам усяго.

— Ну-ка, дзедушка, пацісніся!

Дзед тэй пацconfigure нуўся, дак канат толькі павыцянуўся!

— Аднача, дзед, ты сілен!

— У мяне, каб у неба ды ў зямлю стоўп быў устаўлен, дак бы я свет абярнуў!

— Ну, дзедзечка, глядзі-тка ты на небяса: як па небу ходзяць болакі шведка, каб тваё вока так хадзіла шведка ўва лбе. Як на небе сонца свеціць жарка, ярка, каб тваё вочачка свяціла ўва лбе жарка і ярка!

Тады зачарэпаець чарпаху смалы да як узаллець на тое на здаровае вока... Як варахнецца Дзед Шкурапет! Аж зямлямmatка здрыганулася! Пасыпаліcь тыя канаты ўсе чыста, і ён крычыць:

— Эй, вароты, зачыняйцесь, замкі, замыкайцесь, каб Дзікі Бурма не ўцёк нікуды з двара!

Так гэтыя вароты січас хляп-хляп! зачыніліcь і замкнуліся! А Дзед Шкурапет за вочы аберуч узяўся:

— Во вылечыў, дак вылечыў! Што ж цяпер рабіць? Во нахваціўся, сукін сын!

Стаіць Бурма і не ведаець, што дзелаць. А тады ўзяў гэтыя канцы сабраў, да й падвязаўся казлу пад пузу, да й вісіць. Дзед Шкурапет поўзаець па двару, шукаець Бурму. Прыпаўзаець к карове, спрашыець:

— Ці тут Дзікі Бурма?

— Не, дзед, няма! Калі б быў, мы б табе на рагах яго вынеслі!

Папоўз ён к коням.

— Коні, ці тут Дзікі Бурма?

— Не, няма, дзедзечка, мы б табе капытамі выкацілі.

А казёл гэты:

— Білль-білль-білль! — гаворыць. — У мяне Дзікі Бурма пад пузам! Бяры яго!

А той гаворкі яго не разбярэць. Тады казёл разагнаўся да

яго рагамі пад рабро: во дзе Бурма, бяры яго! А Дзед Шкурапет усердзіўся:

— Мне надаеў Бурма, а тут ты шчэ пад рабро колеш!

Схапіў яго да цераз баркан і перакінуў. А Бурма крычыць:

— Ай, дзедзечка! Ты ж мяне акалечыў!

— Ці ты ўжо там?

— А тут,— кажаць,— аставайсь здароў!

Папоўз ён тады ў хату, узяў сякерку.

— На табе,— кажа,— разбойнік, за твае выгоды, што ты мне вока выпальзаваў! На дарозе дроў насячэш, цяпло накладзеш!

І шыбнуў сякерку. За варотмі стаяла сасонка, гэта сякерка ў сасонку і ўліпла. Ён хацеў яе ўзяць усёй рукой, да пабаяўся, да мезінным — торк! палцам. Палец гэты і прыліп к сякерцы! Дзед Шкурапет крычыць:

— Сякерачка, ці ўзяла?

— Узяла, дзедзечка, да нямножка!

Ён выхваціў ножык з кармана да па палцу! Да й сам пайшоў.

Прайшоў ён суткі — і там добра не паядаў, і тут нейдзі — есць хочацца. Чуець ён у лясу: хлоп-хлоп! Сабе думаець: «Трэба б было іціць палядзець, што там хлопаець, ды баюся! Э, дай пайду паляджу, што такое?» Прыходзіць ён туды, дак леў із змеем ваюецца. Як змей лева секанець, дак толькі шэрсць разлягаецца, а як леў секанець змея, дак перасячэць усяго — адна жылка астанецца; а пакуль яшчэ замахнець, дак змей ізноў увесь зрастаецца.

— Добры дзень вам!

— Здароў, Дзікі Бурма! Памажы нам ваявацца — каторы каторага. Каму пасобіш зваявацць, дак даставім ў твае царства!

Астанавілі яны бойку сваю і далі яму есць удвох, каб памог ім біцца. Ён разы тры ўкусіў і думаець: што гэта такое? Леў такі з храшчоных людзей, а змей — гэта ж нячысты дух!

Леў як секанець змея, дак адна жылка асталася, а ён ножык выняў да па жылцы па гэтай, дак змей і пакаціўся!

— Ну,— кажаць,— дагадаўся, каму пасобіць, даставіў ба я цябе ў твае царства: назад к Дзеду Шкурапету.

А леў кажаць:

— Садзісь на мяне, прывязвай шапку крэпка, затыкай бавоўнай вушы!

Сеў ён на яго, леў і панёс у яго царства. Прынёс яго к царству і кажаць:

— Божа сахрані пахвалішся, што я цябе прынёс, тады з'ем я цябе!

Прыехаў ён удвору. Тут жонка рада стала без канца, і цесць яго стаў рад. Так яго падгасцілі нямножка і давай спрашваць:

— Як ты суды дастаўся?

Ён не прызнаваўсь, не прызнаваўсь, але прызнаўся:

— Так і так, даставіў мяне леў!

Толькі выходзіць на крылцо, ён і стаіць, рот разінуўшы.

— Ну вот, Дзікі Бурма, варацісь назад к жонцы, папрашчайся, бо ад мяне ўжо не выкруцішся: гэта не царэўны да не Дзед Шкурапет!

Ён вярнуўсь, папрашчаўся, выходзіць ізноў к яму.

— Ну што? Папрашчаўсь?

— Папрашчаўсь, да гэта не я казаў!

— А хто ж?

— Хмель!

— А дзе ён расцець?

— Я табе не пакажу, дзе ён расцець, я табе пакажу сок з хмелю з таго.

— Ну, пакажы!

Вот ён яго ўвёў у склеп, адзе гарэлка стаяла можа паўтараста гадоў, жоўта, як івалга, салодка, як мёд,— піць прыкра. Вот гэты леў пакушаў яе — смашна. Выпіў вядро, выпіў два, і патуль ён піў, пакуль на тым месце і сунуўся. Гэты Дзікі Бурма назбіраў аблычча, паскубак і гэтага лева ўсяго ўкруціў, уматаў у аблычча і паскубкі, да ўзяў дубовы колік, дак як узяў таго лева праць на рабрах! Праспаў ён трое сутак. Тады ўстаў, дак нямажна і галавы падняць, ні выплутацца ніякім родам. І спрашыець у Бурмы:

— Як гэта можна, каб з хмелю балелі косці і каб не памятаваць нічога — гэтак я ўплутаўся!

— А вот жа, ты мне не верыў! Так жа і нашчынец: як вып'е, дак нічога не помніць. А ты мяне хацеў з'есці за глупасць.

— Ну, я табе тое прашчаю! Пакажы ты мне, дзе ён расцець! Я яго арашу, і звання яго не будзець на свеце!

А над морам стаяла сасонка. Дак сонца на заходзе, сцень на во́дзе балшушчы! Дак яго сабіраюць да ў бочкі ллюць. Вот леў як кінецца ў мора, да ваяваў-ваяваў — карэннем, паленнем — узмуціў гэту ваду, не відна сцені стала. Тады вылез. Папрашчаліся, пацалаваліс.

— Ну, ступай з богам, жыві здароў. Не кажы нікому ні ты,

хто цябе даставіў, ні я, што са мной было. А хмель цяпер не будзець із роду!

На гэтым астаўся Дзікі Бурма жыць у гэтым царстве. А начальнікаў тых сам цар ужо панаказываў.

## 81. МАРКА БАГАТЫ

Даўней быў на свеце адзін чалавек багаты, называўся Марка. А бог хадзіў па свету, яго ніхто не знаў. Зойдзе то к таму, то к таму, а да багатага Марка не зойдзе. А гэты багаты Марка багатшы быў за ўсех, нікога на свеце не было гэдакага багатага. Адзін раз Марка выслаў каля свайго дому сукном і выслаў двор сукном, хоча, каб да яго бог зайшоў. Адзін раз ідзе жабрак і заходзіць на яго двор, ідзе па гэтым сукне. Марка ўгледзеў гэтага жабрака, падышоўшы, да ў шыю яму:

— Судэма будзе ісці сам бог.

А гэта ішоў бог. Так гэты жабрак просіцца:

— Пусці мяне нанач.

Ён кажа:

— Ідзі онь туда, там удава жыве бедная. Яна называецца мая сястра, чорт яе ведае, якая яна сястра.

Як Марка быў багаты, то ён не хацеў свае сястры глядзець беднае.

Пайшоў гэты жабрак да гэтае ўдавы беднае, і яна яго пусціла, і стаў гэты жабрак аддыхаць. А гэта не жабрак, а сам бог. Прылéцелі ўночы два ангелы і пытаюцца ў бога:

— Ото, божа ласкавы, гэтую ноч нарадзілася трое дзяцей і ўсе тры сынэ, два купецкія, а адзін беднага чалавека.

То бог сказаў:

Дайце вы ім талент, калі купецкія, то няхай будуць купецкімі, а ў беднага чалавека астанецца багацтва Маркава.

А гэтая ўдава на той час не спала і гэта яна ўсё чуе. Устала назаўтрае і пайшла да багатага Марка і сказала яму:

— От, Марачку, гэта ўчора не жабрак ішоў, але сам бог.

Марка кажа:

— Ідзі ты, як каб гэта бог ішоў, бог калі ішоў бы, то да мяне зайшоў бы.

Яна кажа:

— Бо,— кажа,— уночы прылéцелі два ангелы і пыталіся ў яго: «Трое дзяцей нарадзілася, які ім талент будзе?» То бог

сказаў: «Купецкім дзецям талент, як бацькé — купцамі, то і дзеці будуць купцамі, а беднага чалавека дзіцяці Маркава астанецца багацтва».

Марка паехаў шукаць, дзе нарадзілася беднага чалавека дзіця. І найшоў. Узяў гэтае дзіця, адкупіў, вязучы дахаты ды ўкінуў яго ў снег, каб яго ўжо не было, і паехаў. Аднаго разу пераязджалі з субору манахі да ў другі. Едуць дарогаю, бачаць — між снегу крыніца, а каля гэтае крыніцы растуць краскі.

Пайшлі яны глядзець туда і кажуць:

— Што то ёсць такое, гэдакая зіма марозлівая, а там растуць краскі.

Прыйшлі манахі, паглядзелі — ляжыць дзіця маленькае і забаўляецца краскамі. Яны ўзялі з сабою і павязлі яго, і сталі ў суборы гадаваць. Гэтае дзіця выгадавалася вялікае. Дачуўся Марка, што найшлі гэтае дзіця. А Маркава дачка да любіла гэтага хлопца, хацела з ім жаніцца.

А Марка стаў хварэць, кажа на гэтага хлопца:

— Падзі ты за мора, за морам ёсць такі чарадзей, ён знае пра маё ліха. Што ён скажа... тады ты ажэнішся з маёю дачкою.

Гэты хлопец пайшоў аж за мора. Прыходзіць пад мора — едзе чалавек на чайцы, дзяржыць у руках вясло. Ён падышоў пад мора, махнуў рукою, гэты чалавек пад'ехаў.

Ён яго забраў і паехалі да таго чарадзея. Гэты чарадзей гаворыць гэтаму хлопцу, кажа:

— Як прыдзеш дахаты, то Марка ачуняе.

А гэты чалавек прасіў гэтага хлопца, каб ён папытаўся ў гэтага чарадзея, ці шмат ён будзе ездзіць на чайцы. Патаму ён ездзіць на чайцы, гэта бог яго пакараў і сказаў яму ездзіць на чайцы, пакуль цябе хто зменіць.

— Ты,— чарадзей сказаў гэтаму хлопцу праз гэтага чалавека, кажа,— гэты чалавек ужо ездзіць трыццаць год на гэтай чайцы. Ён будзе датуль ездзіць, пакуль каго не ашукае.

— А як яму ашукаць? — пытаецца хлопец у чарадзея.

Чарадзей кажа:

— Як ён аддасць каму вясло ў рукі, то той будзе ездзіць, а ён пойдзе, куда ён захоча.

Прыйшоў гэты хлопец пад мора і кажа на гэтага чалавека:

— Перавязі мяне назад.

Гэты чалавек кажа:

— А пытаўся ў чарадзея аба мне?

Хлопец кажа:

— Пытаўся.

— А што ён казаў?

— Перавязі мяне на той бок, то я табе скажу.

Хлопец баяўся яму казаць, каб ён не ашукаў яго, каб не аддаў яму ў рукі вясло. Пераехалі на той бок, хлопец вылез на бераг і кажа гэтаму чалавеку.

— Будзеш ездзіць датуль, пакуль не аддасі свайго весла каму ў рукі. Як аддасі вясло, тады той паедзе, а ты пойдзеш, куда ты хочаш.

Гэты хлопец пайшоў да Марка, а гэты чалавек паехаў за мора. Прыходзіць хлопец да Марка, Марка ўжо здароў. Ідучы хлопец да Марка, у адном месце крычаць вараннё. Дай яму паглядзець, што то там вароны крычаць. Заходзіць туды — вароны грабуцца, а выграблі шмат золата. Гэты хлопец набраў золата і пайшоў. Як прыйшоў да Марка, так Марка пытаецца:

— Дзе ты набраў шмат золата?

Хлопец кажа:

— За морам.

— А ці шмат яго там ёсць? — Марка пытаецца.

А хлопец кажа:

— Ой-ёй-ёй, колькі яго ёсць.

Марка кажа:

— Чаму ж ты больш не браў?

Хлопец кажа:

— На чорта яно мне? З мяне будзе гэтага пакуль я буду жыў.

Марка думае: «Ну, я пайду, я там яго ўсё забяру» — і пайшоў Марка па золата.

Прыйшоў да мора, махнуў на гэтага чалавека, гэты чалавек пад'ехаў пад яго, і садзіцца Марка на чайку і едзе па золата. Пад'язджаюць пад другі бераг, гэты чалавек гаворыць:

— Но, Марко, падзяржы ты вясла, а я закуру.

Гэты Марка ўзяў вясло ў рукі, а гэты чалавек злез і пайшоў. Марка як пайшоў па золата, каб шмат прынесці, то і цяпер нясе. Гэты хлопец сказаў яму, каб ішоў па золата, то ён ездзіць па моры цяперачы, а хлопцу асталося тое золата, што ён прынёс, і Маркава ўсё багацтва.

## 82. ПРА МАРКУ БАГАТАГА

Быў Марка багаты. Быў ён купец, а фамілія Багаты, і была ў Маркі адна дачка. Вот ён жыў так, што ён нічога ані нікому

не даў. Нішчыя такія былі, ён ім ніколі нічога не даваў. Аднойчы прыйшоў к яму старык нанач папрасіўся. Марка гаворыць на сваю служанку:

— Вот пусці яго туды,— а ў яго цётка была старая. — Вот пусці, хай ён з цёткай там пераначуе.

Ну, стары і пайшоў туды, што яму аказалася. А там дзе-та радзіўся Васіль Бедны. Ноччу нехта запытаў старога, якую судзьбу даць Васілю.

— Вот,— гаворыць той стары,— судзьба гэтага Васіля Беднага спользаваць багацтва Маркі Багатага.

Цётка Маркава гэта чула, але баялася яму сказаць так. А гаворыць:

— Вот, Марка, што я сніла.

— Ну, што ты сніла?

Гаворыць:

— Сніла вот што: тваім багацтвам даўжон спользаваць Васіль нейкі Бедны.

Ён не верыў, Марка. Паехаў к свяшчэнніку, спрасіў. Свяшчэннік гаворыць, што вот ёсць у такой і такой дзярэўні Васіль Бедны. Ага. Ён узяў, Марка, паехаў к гэтаму — чалавек быў бедны,— каб купіць яго гэтага хлопца, Васіля. Ну й купіў. І паехаў дамоў. Ехаў, ехаў, на кучара:

— Стой!

Значыць, кучар астанавіўся.

— Вазьмі гэтага хлапца, занясі куды-небудзь у аўраг.

Занёс кучар. А ў Маркі купцы пазычалі пяць дзенег, ехалі за ім услед і везлі гэтыя дзеньгі. Едуць, значыць, аж адзін відзіць — аганёк гарыць. Ну што ж. Яны на кучара:

— Стой! Ідзі паглядзі, што там дзелаецца.

Той пайшоў, пагдядзеў, аж дзіця гуляе. Прыходзіць і расказвае. А той:

— Ідзі яго вазьмі і прынясі.

Ну, прынёс. Паехалі дальшы. Прыязджаюць к Марку і гавораць:

— Вот, знаеш, якое нам шчасце. Дзяцёнка вот найшлі.

Яму стукнула, Марку, штой-та не так. Ну, што з ім дзелаць? Ён узяў бочку, усадзіў гэтага рабёнка ў бочку і на раку. Гэта бочка прыплыла аж к манастыру. Манастырскія пайшлі там, паглядзелі, злавіўшы гэту бочку. Дзіця! Ну ўзялі і гадавалі. Выгадавалі ўжо бальшога хлопца. Ён ужо мог, значыць, услугаваць.

Недзе Марка ездзіў па свеце. Апяць жа прыязджае туды к

ім, у сталоўку зайшоў. Гэты хлапец падае. Ён гаворыць:

— Дзе-та вы такога хлапца бралі?

— Да,— гаворацъ,— вот найшлі ў бочцы.

Апяць Марку стукнула — апяць ён жывы, ён яго, значыць, не загубіў. Ён гаворыць:

— Каб вы мне яго далі, гэтага хлапца, дамой пісьмо аднесці жане.

Напісаў пісьмо, значыць, штоб гэта, як толькі гэты хлапец прыдзе, штоб жана яго страбіла. Пайшоў гэты хлапец. Вот ён ідзе, ідзе, ужо й не рана. Прыходжае, значыць, у тое места. Настрэчу ідзе старык.

— Куда ты ідзеш?

— Ды вот іду, пісьмо нясу туды.

— Давай пасмотрым.

— Ай,— гаворыць,— нельга.

— Да пасмотрым.

Стары гэты пасматрэў, гаворыць:

— Куды ж ты ідзеш? Ты ж ідзеш па сваю смерць. Але,— гаворыць,— ладна, ідзі.

Вот прыношае гэта пісьмо. Жана паглядзела, а там ужэ не пастрабіць напісана, а жаніць з дачкой з яго, з Маркавай. Ну, пажанілі іх. Вот прыязджае Марка. Ой, дзяла, што ж гэта здзелалася? Куды ж яго пасладь? Нада пасладь. Доўг быў у гэтага Маркі Багатага ў змея за морам. Ён і паслаў туды Васіля. Ідзе, ідзе гэты Васіль. Стаіць асінавы пень і ківаецца. Гаворыць:

— Спрасі, Васіль Бедны, у змея, сколькі мне яшчэ ківацца?

— Харашо, спрашу.

Ідзе, баба ваду пераліваe кала калодзежа. Гаворыць:

— Спрасі, Васіль Бедны, сколькі мне яшчэ пераліваць?

— Харашо,— гаворыць,— спрашу.

Падходжае к парому, на пароме нада пераехаць. Паромшчык спрашывае:

— Спрасі, сколькі мне яшчэ вазіць?

— Харашо,— гаворыць— спрашу.

Прыходжае к мору. Ляжыць рыба-кіт цераз мора пераходжае. Гэтая рыба-кіт гаворыць:

— Васіль, спрасі, мне сколькі ляжаць яшчэ?

— Ну, харашо.

Прыходжуе туды к гэтаму змею, а там, знаеце, змей і руская дзяўчына была. Гэтая гаворыць:

— Куды ж ты прыйшоў? Ты ж прыйшоў па сваю смерць. Але ладна.

Яна яго там ужо закутала, захавала. Прыляцеў змей, чмыхнуў.

— О, у цябе,— гаворыць,— рускім воздухам слышна.

— Да не,— гаворыць,— гэта ты па свеце лятаў, дык напітаўся.

Назаўтра змей апяць, значыць, пажраў, пажраў, паляцеў. Васіль гэты Бедны расказаў ёй, чаго ён ішоў, што бачыў. Яна ўсё ў змея распрасіла.

— А,— гаворыць,— так. Рыба-кіт, значыць, адглыне дванаццаць караблей, тых, што яна, значыць, праглынула, пойдзе плясаць.

— А паромшчык?

— А паромшчык,— гаворыць,— хто заедзе, ён злезе, той будзе перавожаваць.

— Ну, а баба?

— Бабе,— гаворыць,— пераліваць ваду.

— А пень?

— А хто адгорне, золата набярэ.

Гэты Васіль Бедны, значыць, прыехаў. Рыба гэта адглынула караблі. Ён прыехаў, адагнуў пня, набраў гэтага золата, прыязджае дамоў.

Марку стала завідна, што гэты найшоў, дзенег столькі прывёз.

— А я ж на конях паеду, дык я шчэ болей прывязу.

Вот ён паехаў. Прыехаў к парому. Паромшчык яго спусціў, зачыніў, сам саскочыў. Дык Марка і сягоння возіць.

## 83. ПРОВАРНА ЯРЫЖКА

Да быў сабе Іван Іванавіч — рускі царэвіч. А ён быў бальшы карцёжнік і любіў крэпка ў карты гуляць. І была на вазмор'і, у каторым-то царстве, жыла там Васіліска Дыябалска, і яна тож ахвотніца ў карты гуляць. Ну, гэты Іван Іванавіч тожа знаў, што яна любіць у карты гуляць, ну і мог ён к ёй даехаць, і мог ён з ёй у карты разыйграцца. Ну, ігралі яны многа ўрэмя, да й датуль яны ігралі, пакуль Іван Іванавіч — рускі царэвіч абыйграўся. І так ён абыйграўся, што і гасударственную каруну прайграў.

Як ён паехаў дамоў, Васіліска Дыябалска і замуравала гэту каруну ў печ. Ну, гэта ён ад яе ад'ехаў у свой гасударскі дом і

стаў ён праз гэта клапатаць. Сабраў роту салдатаў к сабе і гаворыць:

— Ідзіце-тка па ўсём маім царству і васпытайцеся такога чалавека, ці не абярэцца хто маю каруну атыйскаць.

Ну і прыходзіць салдат, быттам так, як і ў Гарадзішча, і заходзіць ён у каршму і ў каршме спрашывае:

— Ці няма тут такога чалавека, каб царскую каруну атыйскаць?

Лезе із-за печкі ў каршме чалавек і аб'яўляецца:

— А вот я магу!

— Ну, хто ж ты такі ёс[ц]ь?

— Я Проварна Ярыжка, прагоркая п'яніца!

Ну, сычас салдат бярэ яму стаканчык гарэлкі. А ён гавора, Проварна Ярыжка:

— Ах ты, служба! Проварна Ярыжка ў каршме гуляе і не па гэткім стаканчыку выпівае!

І паказаў яму вядро:

— Во мой стаканчык!

Ну, як увідзеў салдат, што ён багатырскі чалавек, то ён, салдат, мог старацца гэтаму. Відзіць, што на ём світка плашэнькая, то ён рад старацца лі яго купіць, і павёў яго да цара. Прыводзе яго к цару, і ён гавора:

— Здраствій, ваша царскае вялічаство!

— Ну,— спрашывае яго гасудар,— як цябе зваць?

— Зваць мяне Проварна Ярыжка, прагоркая п'яніца!

— Ну, што ж ты можаш маю каруну атыйскаць у Васіліскі Дыябалскі?

Атвяшчае ён цару:

— Магу, толькі мне нада салдатаў полк і нада караб, і нада пораху, і нада ўвесь прыпас салдацкі!

Цару ці доўга? Убралісь на караб і паехалі морам. І можа яны ехалі месяц і больш, і пад'язджаюць пад дварэц, так не дальша як вярсты ў тры да дварца да Васіліскі Дыябалскі. Цяпер Проварна Ярыжка вылез на бераг і пайшоў берагам, а ім сказаў ажыдаць. Ну, прыходзе Проварна Ярыжка, прагоркая п'яніца пад дварэц, і там кругом яе дварца абвіўся бальшы вуж і ў зубы хвост узяў; і хто ідзе ў двор к ёй, ён пускае, а хто ідзе з двара, таго не пускае. Ну й упусціў ён яго. І ўходзіць ён у первую комнату, Проварна Ярыжка. І сычас, як увайшоў ён, і ўвідаў гасударскую каруну, умураваную ў печ, і чуць яна відна. Ну, гэты Проварна Ярыжка сычас яе выдраў і схаваў за пазуху. Аяўляецца тады к Васіліскі Дыябалскі:

— Здраствій, Васіліска Дыябалска!
— Здрастуй, Проварна Ярыжка! Ну, чаго ж ты сюды прыйшоў?
— Я слышаў, што вы ахвотнікі ў карты гуляць?
— Да, ахвотнікі!
— Ну вот жа, пазвольце мне на караб схадзіць: у мяне ёсць кніжачка такая, што вы можаце ўвесь свет абыйграць!
— Ну, ступай сабе на караб і прынясі мне кніжачку гэту!
Выйшла яна на двор і крычыць:
— Вартавы! Адпусці Проварну Ярыжку, прагоркую п'яніцу на караб схадзіць!
Ну і пайшоў ён. Прыходзе на караб і гаворыць салдатам:
— Сматры, рабяты, будзець да вас ад Васіліскі Дыябалскі нападзенне!
Ну, а сам у лёгкую лодку сеў і паехаў.
— Грабіце,— ка[ж]а,— рабяты, як можна і ўцякайце як можна, і адбівайцеся арудзіем!
А сам паехаў. Ехаў ён можа дзень, а можа і два, і захацелась яму ес[ц]ь. Вылез ён на бераг. Ідзе берагам — стаіць хатка. Уходзіць ён у хатку, аж там на стале стаіць чан капусты, чан кашы. Ну, гэты Проварна Ярыжка садзіцца за стол і кушае, і толькі кушае і скучае, што не ведае, чый стол, а пакушаць то ён пакушае. Ну, і пакушаў ён, Проварна Ярыжка, і сядзіць. А адчаго ён сядзіць? Што гэта хатка такая: хто ў яе ідзе, яна пускае, ну назад не пусце нікога. Сядзіць ён, жджэ. Ну, і аяўляецца гэтай хаты хадзяін, касавокі багатыр:
— О,— ка[ж]а,— русь-кось пахне!
А ён кажа:
— Гэта не русь-кось, а Проварна Ярыжка!
— А! Гэта ты, Проварна Ярыжка, маю сястру пабядзіў?
А гэта Васіліска Дыябалска пасылала на караб, і яны не маглі даступіцца да карабля. Адчаго яны не маглі даступіцца — што тыя салдаты, што асталіся на караблі, ударылі із пушак. Васіліска Дыябалска ждала, ждала іх і не даждалася. Села яна на зялезную ступу і таўкачамі паганяе, і прылятае к караблю. Садзіцца на караб і бярэ салдата і пытаецца:
— Ці ты Проварна Ярыжка?
Як скажа салдат: «Я Проварна Ярыжка!» — яна глоць! і праглыне. І так, што ўвесь караб паела. Цяпер гэты Проварна Ярыжка садзіцца з касавокім багатыром абедаць. Цяпер гэты касавокі багатыр гаворыць:
— А што так, Проварна Ярыжка, на мяне так пазіраеш?

— А я,— гавора,— на цябе пазіраю, што ты на 'дно вока касавокі, а на другое саўсім не бачыш!
— А што, ты мне вылечыш?
— Я б то табе мог вылечыць, калі б быў у цябе прыпас!
— А які табе трэба прыпас?
— Трэба прыпас мне: пуд саломы і трэба, трэба мне зялезны ланцуг харошы, і трэба мне прыпас — кацёл!
Атвяшчае яму касавокі багатыр:
— Ёс[ц]ь у мяне увесь гэты прыпас!
Дае яму ўпярод кацёл, тады смалу ўслед. Разграває Проварна Ярыжка гэту смалу і разагрэў сілна. Цяпер спрашуе:
— Нясі ланцуг!
Уносе ён ланцуг яму. Ну, сычас Проварна Ярыжка ўвязвае касавокага багатыра ланцугом:
— Страпянісь-ка, ці будзе крэпка?
Страпянуўсь ён — ланцуг пасыпаўся!
— Не,— кажа,— шукай крапчэйшага!
Прынёс ён ланцуг другі, стаў ён увязваць яго другім ланцугом:
— Страпянісь ізноў!
Ну, страпянуўся — ён не падаўся, гэты ланцуг. Садзіцца касавокі багатыр на парозе ля таго, каб Проварна Ярыжка не ўцёк.
— Цяпер,— кажа Проварна Ярыжка,— вылуп вочы харашо!
Узяў ён коўш, зачэрпаў смалы і лінуў яму ў вочы! Як ускоча касавокі багатыр, разарваў ланцуг:
— Дак во як,— ка[ж]а,— ты лечыш! Пагуляй жа, не ўцячэш ад мяне!
Сеў на парозе і сядзіць. А быў у касавокага багатыра казёл такі любімы, што ён з ім гуляў. Проварна Ярыжка садзіцца на гэтага казла і шчоўк яго пад пуза! Гэты казёл як брыкнець праз парог і праз гэтага багатыра! Цяпер крычыць касавокі багатыр:
— Ідзе ты, Проварна Ярыжка?
— А я ўжэ на дварэ!
— А хто цябе вынес?
— А казёл,— кажа,— вынес!
Выскачыў ён цяпер услед, касавокі багатыр, да як пусце ім услед сякеркай:
— На табе,— кажа,— і маю сякерку!
Гэты Проварна Ярыжка цап за гэту сякерку адным пал-

цам — гэты палец і прыстаў к сякерцы. Крычыць гэты касавокі багатыр:

— Ці дзяржыш ты?

— Дзяржу, да мала!

Бача Проварна Ярыжка, што гэта дзела плоха, ён чык да палец і адрэзаў і пайшоў.

Ішоў ён, ішоў апяць берагам, можа дзень, а можа й два — стаіць хатка тож. Заходзе ён у тую хатку, аж там на стале чан капусты, чан кашы. І садзіцца ён за стол і начынае ес[ц]ь. Ну, укусіў ён трошкі, прыходзе Аплетаў-багатыр:

— Э,— кажа,— русь-кось пахне!

А ён кажа:

— Не русь-кось, а Проварна Ярыжка тут ёс[ц]ь!

Садзіцца гэты Аплетаў-багатыр кушаць і садзіць яго апяць з сабой:

— Кушай,— кажа,— кушай да й пойдзем!

Ну, пакушалі яны, вылезлі із-за стала, і садзіцца Аплетаў-багатыр яму на плечы, Проварну Ярыжку. Ён яго і панёс. Нёс, нёс ён яго, паднёс пад ябланку і просіцца:

— Пазволь мне на гэту ябланку злазіць, дастаць яблак!

Тэй пусціў. Ён палез, дастаў яблакаў сабе і яму. Сеў тады Аплетаў-багатыр яму зноў на плечы, і зноў ён яго панёс. Падносе яго к другой ябланцы. Яблакі на гэтай ябланцы — як пакушаеш, дак і заснеш. Спрашуе Проварна Ярыжка ў Аплетаў-багатыра:

— Пазволь мне і з гэтай ябланкі дастаць яблакаў.

Багатыр дазволіў. Ён палез, дастаў яблакаў і даў яму ес[ц]ь. Ён як із'еў, дак і заснуў. Проварна Ярыжка бача, што Аплетаў-багатыр заснуў, і пайшоў.

Ішоў, ён ішоў апяць берагам і прыходзе к гарэ, і к бальшой гарэ, і на тэй гарэ леў і змей б'юцца, сілна б'юцца. І просяць Проварну Ярыжку рассудзіць іх. Ён рассудзіў іх так:

— Ты, змей, стань пад гарой, а ты, леў, стань на гарэ! Змей, разінь рот: як леў будзе бегці з гары, ты яго праглынеш!

Леў як разагнаўся з гары, так і разбіў змея. Тады леў гаворыць:

— Ах ты, Проварна Ярыжка, садзісь на мяне! Павязу цябе ў тваё царства!

І павёз. Падвозе к царскаму дварцу і гавора:

— Проварна Ярыжка, не хвалісь нідзе, што ты на льву-

зверу ехаў. А калі ты пахвалішся, што ты на льву-зверу ехаў, то не будзе табе нічога!

Проварна Ярыжка прыносе к цару крэпку дзяржаву і аддае цару. Цар яго спрашуе:

— Што табе трэба за гэта?

— Трэба мне за гэта, штоб куды ні пайшоў, усюды кабакі былі адчыняты!

Вядома, што Проварну Ярыжку трэба? Цар дазволіў. Вот распіўся Проварна Ярыжка, расп'янстваваўся і пахваліўся п'яны, што на льву-зверу ехаў. Як пахваліўся, так січас кабакі і закрылісь.

## 84. КАВАЛЬ І АДНАВОКАЕ ГОРА

Быў сабе каваль, а ў яго былі тры сыны: адзін — шавец, другі — кравец, а трэці — каваль. Зжылі яны ўжо і век свой, а ніколі не бачылі гора. Вот і пайшлі яны шукаць да пытацца, што гэта за гора?

Пайшлі. Прыходзяць яны ў вадну каршму. У каршме найшлі яны многа людзей; яны бедавалі да гаравалі; адзін кажа: «Бяда, хлеба нямашака», другі — «Кароўку задавілі ваўкі», трэці — «Мядзведзь выдраў пчолкі». А кавальчукі глядзяць, слухаюць да дзівяцца, чаго гэта людцы гаруюць да бядуюць, да ўсё ў іх дужа добра вялось, і не бачылі яны ніякога гора.

Пасядзеўшы трохі ў каршме, пайшлі яны далей шукаць гора. Прыйшлі ў лес, ажны ў лесе, на дарозе, напалі на іх разбойнікі. Бяда! Як гэта ад іх адбараніцца? Але неяк-такі адбараніліcь, хоць і ім трохі давялося.

Пайшлі яны далей па дарозе, а там звярнулі зусім у лес. Хадзілі яны па лесе, хадзілі, аж глядзь — стаіць хата, а ля дзвярэй ляжыць дужа вялікі камень. Яны ў хату — ажны там ні духу. Палядзелі ў печ — аж там пячэцца цэлая авечка; а пад лаўкаю і пад сталом ходзяць тры авечкі.

Яны гэта дасталі із печы пячыстую да і давай есці; аж тым часам глядзяць — прыйшоў у дзверы нейкі дужа ж вялікі чалавек, з адным вокам. Убачыўшы іх, аднавокі боўдзіла кажа:

— Добра ж, пажджыце, добра мне будзе паабедаць вамі.

Сказаў ён гэтак да і заваліў камнем дзверы, а сам пайшоў — чорт яго ведае куды. А гэта было Гора.

Бедныя кавальчукі адчураліся ўжо і пячэні, стаяць да й кажуць:

— Во дзе Гора! Чаго нас пагнала нячыстая з дому? Што тут рабіць? Як гэта тут вылезці!

Паспрабавалі яны, каб якляль адкаціць камень ад дзвярэй, дак дзе ж? — а ні блізка: дужа вялікі, каб яго маць прапала! А тут вылезлі б можа ў вокны, дак дужа малыя, і галава не ўлазіць. А, ліха матары, мабыць, прыходзіцца прападаць!

Аж чуюць — ідзе той саменькі, што заваліў каменем дзверы, Аднавокае Гора, і кажа ім:

— Во якое шчасце: нікога не пакінуў, як выходзіў, аж тут разам найшоў трох — будзе чым закусіць! Хто ты? — пытаецца яно ў аднаго.

— Я — шавец.

— А, у мяне боты шчэ цэлы — не трэба мне шаўца!

Сказаў — да шаўца за ногі, да ў гарачую печ і ўсадзіў яго. Пячэцца той небарака ў печы, а гэтыя два стаяць да і калоцяцца, як асіны.

— А ты хто? — пытаецца Аднавокае Гора ў другога.

— Я — кравец.

— Не трэба ж і ты мне!

Сказаў — да й таго ў печ.

Пякуцца ўжо два, астаўся трэці.

— А ты ж хто? — пытаецца Гора ў трэцяга.

— Я — каваль.

— А добра, калі ты каваль,— кажа яму Аднавокае Гора. — Ці не ўставіў ба ты мне адно вока?

— А чаму? Калі трэба, дак устаўлю. Толькі ты прынясі мне вяровак і зялезны штых, бо мне трэба звязаць цябе, каб можна было ўставіць вока, а то ты не будзеш стаяць супакойна.

Трэба ведаць, што гэты каваль быў дужа хіцер.

Пайшло некуды Аднавокае Гора, прынесла вяровак і зялезны штых. Каваль узяў да й прывязаў Гора вяроўкамі да і кажа яму:

— Страпяніся!

Гора страпянулася, да так, што і вяроўкі не судзержалі. Каваль нанова прывязаў Гора; яно як не трапяталася, але ніяк не адарвалася. Мабыць, каваль крэпка прывязаў яго. Тады каваль узяў да нагрэў чырвона-чырвона зялезны штых. Выняўшы із цяпла гарачы штых, каваль і кажа Гору:

— Ну, глядзі ж, стой ціха, а я табе ўстаўлю другое вока.

Да і сунуў штых у відушчае вока...

— А бра..,— як рванецца Гора, як закрычыць,— а што ж

ты гэта зрабіў, трасца тваёй матары?.. Навошта ж ты выкалаў мне відушчае вока! Стой жа, вырадак, не выйдзеш жа ты адсюль: абмацаю ж я цябе як!

Да й пачало мацаць і лавіць каваля па хаце. А каваль чуць жыў забіўся ў куточак да й сядзіць моўчыкам. Гора мацала, мацала па хаце, лавіла, лавіла, да не злавіла каваля, а толькі абмацала сваіх авечак; яны былі пад сталом і пад лаўкай. Тады Гора села на парог да й кажа:

— Ну, недзе ж ты дзенешся: пяраз дзверы будзеш выходзіць,— не дажджэш, каб я цябе не злавіла.

Каваль гэта вылез тады ціханька з куточка, злавіў адну авечку да кідзель сляпому Гору на ўлонне. Гора памацала — бачыць авечка, узяло да й выкінула яе за дзверы. Каваль так сама і другую авечку кінуў на ўлонне Гору; Гора і гэту авечку выкінула за дзверы. Тады каваль узяў, вывярнуў кажух, надзеў яго да і бабух на ўлонне Гору; Гора думала, што гэта ўжэ трэцяя авечка, узяло да замест авечкі выкінула каваля за дзверы.

— А дзякуй жа ж табе, Гора, што ты хоць аслабаніла мяне,— закрычаў каваль зда́леку.

— А, ліха ж тваёй матары і бацьку твайму, калі гэта я цябе выкінула!.. Ну, злодзей, маеш шчасце, не жыў ба ты болей! Глядзі ж, будзеш ты іцці ў лесе ля калоды, не вазьмі ты там хаця мае сякеркі — залатое лязо, срыбны абушок, што ўткнута ў калодзе!

— Трасца табе ў бок, хвароба ў жывот, да не сякерка! Выхвараеш ты, пакуль я не вазьму! Абы толькі найшоў!

Ідзе, аж бачыць: ляжыць велязная калода, а ў калодзе ўткнута сякерка: залатое лязо, срыбны абушок. Каваль гэта хлоп! за тапарышча, аж рука і прыстала к тапарышчу. Ён і так і сяк рваўся, рваўся — нічога: ніяк не адарвець рукі. Ажны тут чуе — бяжыць сляпое Гора. Ён гэта рвацца зноў, ніяк, а тут ужо і Гора блізка.

— Вот жа ж цяпер не выскрабешся ты ад мяне! — крычыць Гора.

Што тут рабіць? Абмацаў каваль каля сябе ў кішэні нож, дастаў яго скарэй да чырах! адрэзаў руку да скарэй наўходала — некалі было ўжо разінькі прадаваць. І яшчэ рад быў, што хаця і так адкупіўся.

Пасля ж таго годзе ўжо і Гора шукаць, бо ўжо бачыў, якаво яно.

## 85. КАВАЛЬ БЯДЫ ІСКАЎ

Жылі сабе былі кравец і шавец, і каваль, і яны век бяды не відзелі. Вот яны пайшлі бяды іскаць. Ішлі яны, ішлі і відзяць яны — стаіць баба. І гэта баба была ведзьма. Яна ў іх пытаецца:

— Куды вы ідзіцё?

А йны кажуць:

— Бяды іскаць. Век бяды не відзелі!

— А! Наце ж вам клубочак і каціце гэты клубочак: куды ён пакоціцца, туды й вы йдзіце. І найдзеце бяду!

Вот кравец узяў за кончык нітачку, і пайшлі. Клубочак сам коціцца, і яны за клубочкам ідуць. Каціўся, каціўся гэты клубочак і ўкаціўся ў хатку. І яны за ім улезлі ў хатку. Палядзяць, ажно печка топіцца. Палядзяць, ажно чорт сядзіць ля печы — красныя вочы. Улезлі яны ў хатку, тады чорт кажаць:

— Грэйцеся, рабяты: зараз будзем гуляць, весяліцца.

Тады пытаецца ў іх:

— Хто вы?

— Я каваль!

— Ну, добра. А ты хто?

— Я кравец!

Ён узяў, краўца скруціў, скамкаў, паджарыў і з'еў.

— А ты хто?

— Я шавец!

Ён і шаўца ўзяў скруціў, скамкаў, паджарыў і з'еў. А на каваля кажаць:

— Ты каваль?

— Каваль!

— Ну, скуй мне вілкі, у пекле грэшных варсаць!

Ён стаў каваць, а чорт прыйшоў ды глядзіць на вілкі. Вот каваль узяў ды напаліў вілкі ды як дас[ц]ь яму па вачах! Ён і заваліўся. Але ўскочыў, на парог сеў і не пускаець каваля. А ў чорта ў хаце было тры авечкі. Каваль узяў адну авечку, як ударыў у чорта — чорт толькі калыхнуўся. Ён узяў другую авечку, ударыў чорта — не збіў чорта з парогу. Узяў ён трэцюю авечку, як ударыў у чорта — чорт зваліўся з парогу і ляжыць без памяці. Каваль узяў гэтага чорта і прыкаваў яго к мосту, а сам пайшоў. Ішоў, ішоў, бачыць — на бярэзіне вісіць муляваны тапор. А бяроза дужа бальшая. Лез ён, лез за тым тапаром, узлез. Толькі ўзяўся за тэй тапор — рука і прыстала! А чорт ачучурыўся і бягіць даганяць каваля. Відзіць каваль —

ідзець чорт з рагамі, вот ён выняў з кішэня ножык, адрэзаў руку ды ну-тку драла бегчы! Прыбег у двор і стаў казаць жонцы:

— А бабулька, навідаўся гора! Не дай бог вам, дзеткі, такога гора!

Стаў тэй каваль жыць.

— Не,— кажаць,— не хочу і век такей бяды, і не давай бог нікому такей бяды!

І стаў жыць, і бог шчасце яму стаў даваць. І нажыў ён многа дабра і ската многа.

## 86. ЛІХА

Быў сабе адзін каваль і не ведаў, што гэта за ліха, так пайшоў шукаць. Ідзе, так ідзе, аж у лесе стаіць хатка на курачай лапцы, а ў той хатцы было Ліха. Так ён увайшоў у сярэдзіну, залез на печ і сядзіць, ажно ідзе Ліха і жане стада бараноў. Як увайшло, так панюхала і кажа:

— Тут нехта е!

І палезла да каваля на печ. Зара гэта яны пабраталіся, Ліха зарэзала барана, ядзяць, так ядзяць, аж Ліха пытае:

— Чым ты займаешся?

А ён кажа:

— Кавальствам.

— То скуй мне другое око (бо ў Ліха анно адно было). Так каваль кажа:

— Прынясі дзве вяроўкі!

Як Ліха прынесла, так каваль звязаў яму рукі, ногі, а Ліха як павярнулася, так вяроўка пэнкла. Так ён звязаў другою, а як абярнулася, так заскрыпацела, але ўжо не пэнкла. Тады каваль напаліў шворня і саўгець! Ліху ў здарова око, да молатам, да молатам па шворні! Як выпек, так Ліха схапілася, села на парозе і кажа:

— Цяпер то ты ад мяне не ўцячэш! —і давай бараны краз парог выкідаць. На шчасце каваль меў кажуха, так гэта перакінуў на другую сторану, стаў ракам і паўзе да Ліха, а Ліха па хрыбёце махнула рукою і думаючы, што баран, перакінула каваля праз парог. І так каваль вырабіўся ад смерці. Прыйшоў дахаты, так пытаюцца:

— А што, бачыў Ліха?

— Бачыў,— кажа,— як хочацца спаць, да не спіцца, як хочацца есці, да не есца, як хочацца піці, да не п'ецца, то гэта ліха.

## 87. АБ ГАНДЗІ

Быў адзін чалавек надта бедны, і да таго яму дзеці яшчэ мерлі. Анно ж раз нарадзілася яму дзе́ўчынка, так ідзе сабе, каб дзе каго ў кумы папрасіць. Анно ж у чыстым полі судашае яго неякась пані, так ён давай яе прасіць, каб дзяржала тое дзіця. Яна кажа:

— Добра, оўшам, але ведай, што па трох летах забяру яе да се на выхаванне.

Ён прыстаў на тое. Тымчасове ахрысцілі да й далі імене Гандзя. Прывозяць з касцёла, анно ж німа чаго есці, так тая пані кажа:

— Ідзі ж да хлява да й паадрэзвай у сваіх валоў па кумпяку.

Чалавек — німа рады, пайшоў, паадрэзваў і прыносіць, так гэта напяклі зараз, наварылі да й патрахтавалі людзей. Анно ж увечары тая пані кажа:

— Ідзі дай валом!

— Ля! А каму ж я буду даваць?

— Ідзі ўпярод да па[г]лянь!

Той чалавек пайшоў, глядзіць — анно ж німа ўжэ знаку, што рэзана! а валы яшчэ сыцейшыя. Ён урадаваўся без меры, прыходзіць дахаты, анно ж тае пані ўжэ німа — згінула! Утэды ж то яны дагадаліся, што гэта была матка боска. Тая ж то дзе́ўчынка гадавалася так добра, анно ж па трох лецях прыйшла матка боска да й забрала яе да неба. Яе там так пеставалі: сам бог яе ўчыў, а́нялкі забулялі, усё, а яна бога называла «тату», а матку боску — «маму». Анно ж, як ужэ падрасла, так матка боска дала ёй ад усіх нябескіх пакояў ключы да й заказала, каб да аднаго не смела хадзіць. Але Гандзя была вельмі цікава, да й як матка боска аднаго разу недзесь пайшла, так яна то, а[д]чыніўшы, увайшла да таго пакою. Глядзіць, анно ж там кроў кіпіць, душы енчаць, бо гэта быў чысцец, праз каторы душы пераходзяць. Так Гандзя, не ведаўшы, што гэта, усадзіла палец у кроў, так яна ёй і акіпела. Яна ж то, са страху хуценька зачыніўшы пакой, пабегла да й давай нажом скрабсці тую кроў. Ажно і нож нічога не памог, так абвярцела той пальчык лапінкаю. Утом прыходзіць матка боска да й пытае:

— Што ў це на пальцу?

— Нічога,— кажа,— мамачко, разрэзала.

— Ну, то пакажы!

Яна — німа рады, развярцела. Так матка боска:

— Эй, Гандзю, прызнайся, мусіць ты была ў том пакою?

— Не,— кажа,— не была!

Мэнчыла яе матка боска, мэнчыла, але яна не прызналася. Так за гэта скінула яе з неба. Яна ўпала проста на неякагось кроля дварэц, а сын таго кроля, угледзеўшы яе, адразу ў ёй закахаўся. Ідзе ён да бацька да й просіць, каб пазволіў яму з ёю ажаніцца. Кроль упярож не пазваляў, а после, памеркаваўшы, кажа:

— Жаніся.

Так кралевіч зараз гэта абзнаёміў усім чыста; наз'язджалася людзей, паноў, ксяндзоў да й то выправілі гучнае вяселле. У неякісь час яна прывяла сыночка такога харошага, што і не здзівіць! Аднаго разу, як усе паўходзілі, прыходзіць да яе матка боска:

— Ну, Гандзю,— кажа,— прызнайся, ці была ты ў том пакою, ці не?

— Не, мамачко, дальбо так не была!

Так то матка боска, узяўшы, таму сынку мізіны пальчык разрэзала дай то пашмаравала тою кроўю Гандзіны губы, а сама, узяўшы дзіця, пайшла да неба. Прыходзяць — німа дзіцяці! Так то зараз зрабілася такая струшня, такі розрух, глядзяць — анно ж у яе на губах кроў!

— Ля! — кажуць,— а то ж сама маці дзіця з'ела, трэба ж за гэта ёй кару якую залажыць!

Але кралевіч дараваў ёй, і жылі сабе зноў добранька. Анно ж у неякісь час даў ім бог і другога сыночка. Ахрысцілі яго, перайшло колькась нядзель, аж аднаго разу, як усе чыста паўходзілі, прыходзіць зноў матка боска да й пытае ў яе:

— Гандзю, прызнайся мне, была ты ў том пакою?

— Не,— кажа,— не была!

Так матка боска зноў таксама разрэзала дзіцяці мізіны пальчык, пашмаравала ёй губу да й, забраўшы дзіця, пайшла да неба. Уходзіць кралевіч, глядзіць — і зноў дзіцяці німа, а ў ёй кроў на губах! Так зноў на яе ўсё памышленне. Пачала ж яна прасіцца, так і той раз яшчэ дараваў, а жылі зноў добра. Анно ж прыводзіць яна і трэцяга сынка, да й аднаго разу, як усе парасходзіліся, то таго, то сяго, зноў прыйшла матка боска:

— Гандзю,— пытае,— была ты ў том пакою?

— Не, мамачко, не была!

Так матка боска за кару зноў таксама зрабіла. Прыходзяць — дзіцяці ані следу, а яна ў кроў упэцкана! Данеслі то зараз кралевічу, так ён ужэ гэты раз не дараваў. Утэды казаў зрабіць з галля так як хату, увесці яе туда да й падпаліць з усіх канцоў. Яны так і зрабілі. Увялі яе, падпалілі, так дым стаў іці надта аж пад неба. Ужэ і агонь яе захапляе, дзе быўшы, уходзіць матка боска да й кажа:

— Гандзю, згінеш, прызнайся: была ты ў том пакою ці не?

— Была, мамачко!

— То чаму ж ты мне адразу не прызнавалася?

— Бо баялася, каб мамачка не карала.

Утэды з гэтага дыму зрабілася муравана вежа, аж пад неба высока, а на ёй розныя кваты, якіх на свеце няма, і яе тры сынкі, такія харошыя, як анёлачкі. Паждаўшы, высылае той кралевіч двараніна, каб па[г]лядзеў, ці ўжэ зусім згарэла. Той то калі гляне, аж яму очы пабялелі, такая харашыня! Так убег да палацу да й кажа так і так. Кралевіч зараз схапіўся, пабег туды, уходзіць у сярэдзіну, ажно ля! Гандзя яго сядзіць сабе, і пры ёй тры сыночкі! Утэды ж, угледзеўшы тата, тыя дзеткі да яго:

— Ах, ах! — крыку нарабілі. — Наш татко родненькі!

Ён то з велькай радасці буждэнк! на землю і абамлеў. Анно ж слугі зараз убеглі, ачуцілі яго, і жыў ён ужэ ў той вежы з жонкаю шчасліва доўгія лета.

## 88. МІКІТА-ДУРАК

Неўкаторым царстве, неўкаторым гасударстве жыў сабе так адзін чалавек законны. І меў сабе трох сыноў. Два так і сяк, а трэці Мікіта-дурак. Ён паклаў іх спаці і накладаў на іх сон. І будзе старшага прэждзі, і будзе і гавора:

— Шчо табе,— кажа,— снілася?

— А вот,— гавора,— шчо мне снілася: шчо паставілі мы кузні, дак я кую-кую, да ніяк завозу не ’дпраўлю, усё многа работы е!

— Ты, мой сын, кавалём будзеш!

А другога ўзбудзіў, гавора:

— Шчо табе снілася?

— А пайшлі мы,— гавора,— у тое места, от у тое і тое ўрочышча і выкапалі ляда, да насеялі проса. Дак проса наша ўрадзіла такое, шчо божа, божа!

— Ты будзеш, мой сын, пахарам!

А Мікіту ўзбудзіў:

— Шчо табе снілася? — кажа.

Мікіта сказуе:

— Мне ногі мылі, а ты тую воду піў!

А ён гавора:

— Дурак, дурацкая гавора!

І так пад началу пакавалі сакеры і капаніцы і пачалі ляда капаць — прэжда ўсяго. А Мікіта ўвайшоў у клець і надзеў адзежу мужыцкую празнішную і прыйшоў к ім, і ходзе з пасашком, дзе яны работаюць. І браты гаворацць:

— Палядзі,— гаворацць,— ацец, шчо ён дзелае, у шчо ён надзеўся, дурак?

Ацец гавора:

— Няхай, мае сыны! Не чапайце, гэта яму так хочацца, няхай паходзе!

Вот жа ён там ходзе, а тудою была дарога бальшая, шлях. І ехалі па той дарозе купцы. І спрашуюць у іх:

— Хто гэта ходзе? На баршчыне вы работаеце гэта? Прыгоньшы ходзе ў вас гэта?

— Не! Гэта,— гавора,— у мяне сын такі гуляка!

Яны спрашуюць:

— Як жа ён гуляе?

— А вот так,— гавора,— мала вума ў яго!

— Дак прадай ты нам яго, можа ён нам спадабіцца!

— Як жа я,— гавора,— сваё дзіця прадам?

А ён гавора:

— Прадавай, тат, я ў тэбе жыць не буду!

— Я не знаю,— гавора,— шчо за тэбе прасіць!

— А от,— гавора,— дайце аршын, у вас е аршын!

Купцы аршын далі. Ён адмераў зямлі аршын шырыны і глубіны кругом. Выкапалі яму.

— І насыпце грошай атцу майму!

І выбраў самага луччага каня ў купцоў:

— На, ацец,— гавора,— гэту лошадзь, пашы ляда сабе!

І купцы павязлі яго. І прывязлі сабе купцы тыя ў дом. І за то ён купіў, шо не было ў яго дзяцей, сына ні ядынага. І пайшла яму польза такая няйзметная з купленым яго сынам. І то былі лаўкі, а то падзелаў і магазыны ўжэ. І гавора ён:

— Шо, сын Мікіта? Ты гуляй, выбірай — жаніць тэбе я магу ўжэ!

А ён гавора:

— Шо, бацюшка, я не магу жаніцца, хочу дзяліцца.
Ён гавора:
— Сын мой, без шчоту грошыкі бяры, пі і гуляй, а дзяліцца не дзялісь!
А ён гавора:
— Не хачу піць і гуляці, а дзяліцца буду!
Вот узяў, аддзяліў яго, даў яму лавачку худую — на йзругу. Мікіта правёў год і другі, дак загнілі ўсе тавары ў ватца, а Мікіта расшырыўся, у яго таргоўля пайшла. А гэты купец пад каралеўскаю вобласцю быў прычынен. І вот давай выдумываць, протчым купцом гаварыці:
— Давай мы напішам і к каралю сведзенія, шчо купец Мікіта піў і гуляў з намі і гэта гаварыў, што здзесь — ня здзесь, на дзесятам царстве і ў некаторам гасударстве ■ кароль, і ў яго ■ доч пракрасная Марыя Паўлаўна. І ежалі б мяне кароль мала-мальска шчо папрасіў, я б за яго высватаў яе. Дак ён як паедзе, дак без галавы прыездзе адтуль. А то нам не быць купцамі, а быць старцамі, ежалі яго не згубім мы!
І напісалі, і падалі каралю гэта. Кароль трэбуе яго:
— Шчо ты,— гавора,— купец Мікіта? Я ж усіх вам жалаю і жалею! Як жа ты, шчо знаеш, чаму ты мне не гаворыш? Ты з такімі-то піў і гуляў і от такія рэчы гаварыў!
А ён гавора:
— Я гэтага не знаю!
— Вот,— гавора,— не знаеш ты, дык вон, у мяне е меч, а табе галава з плеч!
Мікіта сказуе:
— Ну, каралеўскае вялічаства! Найдзі шчэ адзінаццаць Мікітаў, такіх, як і я, як адзін голас, як адзін волас, і ўся парода такава!
Кароль як стаў шукаць, дак толькі трох найшоў у сваём каралеўстве.
— І такіх лашадзей, як у мяне бацькоўскі!
Ён стаў купляць, дак купляў па чужых царох да каралёх, яшчэ да дванаццаці Мікітаў, як адзін волас, як адзін голас. І лашадзей такіх даў усім, як бацькоўскі. І паселі на каней, і гавора:
— Ну, купец Мікіта, адпраўляйся ў сваты!
А ён гавора:
— Не, пусці мяне на тры гады ў навуку!
Пусціў на тры гады ў навуку, дак ён іх научыў разнага масцярства: і калёсы дзелаць, і карэты, і белую пасуду дзелаць,

і ўсё, што на свеце — разнага наўчыў. Выходзе тры гады, дак і трэбуе кароль. Прыехалі яны к каралю ўсе дванаццаць, на лашадзях, і сталі пад крыльцом. І гавора кароль:

— Не ўва гнеў вам, гаспада Мікіты! А дзе старшы Мікіта?

Роўныя ліцы, нічога не ўгадае. Ён прызнае:

— Я е больш!

Ён заве к сабе з чэсцю папіраваць. І пілі-гулялі тры дні. І патом сталі ўбірацца ў дарогу, у сваты. І ён гавора:

— Давай мне запрагай лашадзей дваццаць пяць і з цялегамі, і накладай усякага мне — мацерыял шчоб быў!

І адпраўляецца ў пуць. І едуць яны, дак на пуце злучылася яму, шчо два ваўкі на дарозе і не раздзеляць галаву конскую. І гавораць:

— Купец Мікіта! Раздзялі ты нам сю галаву! Будам табе ў вялікай прыгодзе!

Ён павялеў рассячыць галаву. Мікіты рассеклі галаву: адзін павалок на той бок дарогі, а другі на той. І ваўкі паляглі есць галаву. І ўехалі ў лес, дак дужа бальшы пажар ідзе. Мурашка крычыць:

— Купец Мікіта, паратуй маё сямейство́! Паедзеш ты к каралю ў сваты, у вялікай помачы буду табе!

Мікіта сказуе:

— Мікіты! За мётлы і за вёдры, абратаваць яе!

Абратавалі мураўёў і паехалі. Едуць дальш — зноў пажар падымаецца. А прэжда пажару бяжыць мыш і гавора:

— Купец Мікіта! Выратуй ты мяне, бо як паедзеш к каралю ў сваты, я табе буду ў вялікай прыгодзе!

Купец Мікіта і перанес яе чэраз пажар. І едуць далей, дак дзве пчалы на 'дном цвяту б'юцца. І гавораць:

— Купец Мікіта! Раздзялі ты нам сей цвет! Будам табе ў вялікай прыгодзе!

Купец Мікіта злез і сам разразаў цвет папалам. І пчолы набралі мёду і паляцелі беза спору. І прыехаў у каралеўскую ў вабытнасць.

І не даязджаючы дварца, паставіў шатры сабе. Кароль выйшаў павутру ўранні і бача шатры. І пасылае ад сябе праведчыка:

— Ідзі, палядзі, шчо гэта е такое? Ці які чалавек зланраўны, а й так які? Заняў, без спросу шатры паставіў!

І гавора праведчык прыйшоўшы:

— Хто такі е вы? Шчо вы без спросу шатры паставілі: ці вы хочаце драку завесць, а й шчо такое?

А Мікіта гавора:

— Не,— гавора,— мы прыехалі ў сваты!
Ён гавора, праведчык:
— Э-э! Не такія прыязджалі, да без галоў паехалі, а вам і ехаць нечага!
Праведчык прыехаў к каралю і атвяшчае:
— Каралеўска вялічаства! Гэта прыехалі ў сваты!
Ну, кароль гавора:
— Вот і харашо!
Яны ўзялі і прыйшлі к каралю: узяў з сабою чатырох Мікітаў, сам пяты. І прыйшлі, каралю чэсць аддалі, як луччы быць няможна. І кароль многа дзівіўся: ніколі не бачыў такога случаю, шчоб прыйшло пяць чалавек, як адзін волас, як адзін голас, і ростам усе як ядынственна. І спрашуе кароль:
— Хто ж жаніх тут?
Мікіта гавора:
— Я е жаніх!
Ён за сябе сватаў. Ён павялеў уззваць дочар сваю:
— Відала,— гавора,— ты калі? Ну, толькі я старшы цябе,— гавора,— а не відаў! Можна гэта быць: пяць чалавек у вадзін вобраз — разлічыі няма? Я думаю, што не тыя сваты прыехалі, штоб не 'даць, а тыя, штоб аддаць!
А яна гавора:
— Пара, пара, бацюшка, я ў цябе выгулялась.
І сталі піць да гуляць, дак тры дні і тры ночы магарычы пілі. І ён гавора, Мікіта:
— Шчо ж, бацюшка, калі будам вянчацца?
Ён гавора:
— Загадаю табе загадку, адгадаеш — тады!
— Ну, якую загадку?
— Ё у мяне скірта пшаніцы, дванаццаць сажняў даўжыны і шырыны, кругом, шчоб ты яе за ноч змалаціў і звеяў, і ў закром іссыпаў, скірты не разварачуючы і снапоў не развязуючы!
Мікіта гавора:
— Як жа гэта можна дзелаць так?
— Не здзелаеш так — без галоў вам ехаці!
І йдзе ён, Мікіта, журыцца, у шатры ў свае — уцякаць трэба. А мурашка стрэла яго і гавора яму:
— Купец Мікіта! Ідзі ў караля спрасі дзіркі забіць у закраме, чым забіць, ці хлопка, ці шчо, а то й тым будзеш вінават, ён віну і тым найдзе, шо рассыпаў! І йдзі лажысь спаць — будзе змалочана!

А мурашка была старшая над мураўямі, не над адным сваім, а над усімі была старшая. Як згукнула мураўё, дак не сталося па 'дном несць, а ўдзвёх па 'дном зерню няслі, а па 'дном не стала кожнай. А мышыныя недаедкі — трацінкі і к трацінкам клалі, а палавінкі і к палавінкам. Назаўтра ўранні прыходзе Мікіта з сваімі Мікітамі зноў. Ну, кароль спрашуе:

— Змалаціў?

— Змалаціў!

Пайшлі, паглядзелі ў закрамы. І бача кароль, што:

— От,— гавора,— гэта цэлная пшаніца, а гэта палавінкі, а гэта трацінкі!

Кароль сабе і дзівіцца:

— Не,— гавора,— гэта якаясь хітрасць ужэ прыехала!

І стаў скірту развaрачваць і снапы развязваць да самыя зямлі. І не найшоў ні аднаго зерня ні ў ядынам снапу. І прыйшлі дамоў да сталі піць да гуляць, зноў на тры дні. І гавора дачцы:

— Вот, дачка! Не тыя сваты прыехалі, шоб не 'ддаць, а тыя, шчоб аддаць.

А дачка гавора:

— Пара, пара, бацюшка! Я ў цябе загулялась ужэ!

Ён кажа, купец Мікіта:

— Ну, бацюшка, вянчацца ўжэ!

— Не,— гавора,— так няльгá: пашый чаравічкі ёй такія, як бацькоўскія, шчоб такія мерай, і красою такія, і вагой — шчоб на шалі прыкінуць,— і не сматрэўшы!

Мікіта гавора:

— Як жа можна гэта?

— Не здзелаеш гэтага, без галавы ехаці!

Мікіта і пайшоў у свае шатры, зажурыўшыся, і думае ўблжаць. А мыш стракае яго і гавора:

— Я ўжэ прынясла табе іх, ідзі жа загадуй Мікітам, няхай дзелаюць!

А Мікіты навучаны былі ўсяго рамяства, яны маглі ўсё дзелаць. І на таком блюдцы і паднесць шчоб каралю. І блюда такое шчоб было. Мікіта павялеў — дак за ноч і здзелалі ўсё — і чаравікі і блюда, і мераю, і красою, і вагою — асоба чаравікі зважылі, і блюда асоба, і ўмесцях. І здзелалі і вываЖылі. Мыш аднясла, на месце паставіла. Мікіта назаўтра ўранні ўзяў чаравікі і пайшоў к каралю з Мікітамі. І прынёс, паставіў. Кароль павялеў унесці свае, і ўзялі мерацц мераю — мераю роўны, і красатою роўны, і на шалі паставілі — вагою роўны: і асоба

развярнулі, самі важылі — роўна, і блюда і чаравікі — усё ядынственна. Ен і гавора, кароль:

— От, дачка, не тыя сваты прыехалі, шчоб не 'ддаць, а тыя, шчоб аддаць.

А яна гавора:

— Пара, пара, бацюшка! Я ў цябе загулялась тут!

І яны пілі тры дні зноў і тры ночы да гулялі. І ён гавора:

— Ну,— гавора,— бацюшка, пара вянчацца!

Ага! А ён гавора:

— Не, зяць, яшчэ табе загадку загадаю: іздзелай цэркву васковую за ноч, шоб і званы і папы, і здзелай тут, на правым крылцэ, шоб ударылі званы, і я прашнуўся і пайшоў на завутрань, як ударадь у званы!

Мікіта гавора:

— Ці ёсць жа,— гавора,— гэта дзействія дзе, шчо ты загадуеш, гэта ж нету нідзе!

Кароль гавора:

— Не здзелаеш гэтага, без галоў паедзеце!

Ен ідзе ад караля, абраціўся, у журбе ў бальшой. Пчолы стрэлі яго і гаворадь:

— Ідзі, Мікіта, ля крылца лажыся спаць, як ударадь у званы, дак шчоб ты прэжда быў у цэркві, чымсь кароль!

Мікіта пайшоў, лёг там із сваімі Мікітамі. І пчолы здзелалі цэркву васковую — і званы, і папы. І ўдарылі ў званы. Мікіта ўстаў і моліцца богу, і радуецца ўжэ. І кароль прачнуўся і не падперазуваўшысь, толькі халат надзеў на сябе, і дзівіцца сабе:

— Шчо гэта такое? Ізбуваецца! Я ж думаў сабе, шчо не будзе гэтага нічога ў свеце, шчо я загадываў!

І адышла завутрань, началась абедня. І ў абедні павянчаліся. І давай піць і гуляць тры дні і тры ночы. І цяпер гавора:

— Бацюшка, пара ўбірацца, дамоў ехаці!

Кароль гавора:

— Мая дочка не можа на такой карэці ехаці, а здзелай карэту такую, шчоб вішчала і пішчала і крычала.

А ён, Мікіта, гавора:

— Таго я не баюсь! У мяне майсцяра свае, іздзелаю!

І здзелаў карэту, і пад'ехаў. Карэта тошна такава. Кароль гавора:

— Шчо, так тошна, карэта такая, да мая дачка не можа на такіх лашадзях ехаць. А ёсць у няведамых лугох кабыліца, пад ёй дванаццаць жарабцоў, і на іх масць залатая да сярэбраная, дак мая дачка на такіх лашадзях можа ехаць!

Ён узяў і гавора:

— Хто ж гэта здзелае? — гавора Мікіта.

— А не здзелаеш, зноў без галавы паедзеш, дарма, шчо звянчаўшысь! У мяне старожа крэпкая!

І ён выйшаў, Мікіта, і ў журбе ў бальшой, журыцца. А стракаюць яго на дарозе ваўкі ды і гаварацъ:

— Купец Мікіта! Бяры гнуэду і йдзі вот на тую дарогу. Там на той дарозе стаіць вярба. Дак ты ўзлезь, на яе садзіся — мы навернам яе к табе!

І ваўкі навярнулі туды кабыліцу з жарабцамі. Кабыліца прыйшла і стала часацца аб вярбу, і Мікіта бросіўся на яе зразу, на храбет. І стала яна яго насіці, шчоб як-нібудзь іскінуці ■ сябе. Мікіта стаў яе біць між вушэй гнуздою! І патудава біў, пакудава яна аціхла. Вот загнуэдаў яе і сеў і паехаў. І жарабцы ўслед ідуць. Ён запрог у тую карэту і пад'ехаў і к каралю. Кароль гавора:

— Шчо гэта за чуда такое? Я думаў, шчо нету ў свеце такога! Вот,— гавора,— дачка, верна,— гавора,— аддаць трэба.

А дачка гавора:

— Пара, пара, бацюшка, я даўно ў цябе выгулялась!

І ўзялі ўбірацца, укладацца, у дарогу ўжэ. І едуць па дарозе, дык ён і гавора, Мікіта:

— Я не за сябе цябе высватаў і звянчаў! Гэта за караля за свайго!

А яна гавора:

— З кім звянчалась, ■ тым і жыць буду!

І едуць па полю, і 'дсылае ён прэжда сябе бумагу к каралю:

— Вот, я еду ўжэ, высватаў каралеўну, Марыю Паўлаўну!

А той купец, шчо купіў яго, дак пачуў, шчо едзе ён, дак ён напісаў каралю:

— Каралеўска вялічаства! Купец Мікіта як ехаў сватаць за цябе каралеўну, дак ён меўся: я ■ ёй буду жыць, а караля перавяду!

Кароль дажыдаецца яго, і выкапаў яму на парозе ў горніцах, на ўходзе, і насыпаў жару. І сычас Мікіта як прыехаў к горніцам, да ўвідзеў кароль і такія лошадзі і такую каралеўну із залатымі кудрамі, і не мог цярпець, у вакно глядзя, і пабег на стрэчу і ўваліўсь у яму. Купец Мікіта жджэ, дажыдае, шчо кароль не йдзе? Наўстрэчу нужна выйсці, а ён не йдзе? І Мікіта ўвайшоў, і зірнуў у яму, аж кароль у яме ляжыць, выпраставшысь, і не жывы. Мікіта спрашуе:

— Што гэта за случай такі?

Яны сказуюць:

— Гэта ён на цябе капаў яму і прыгатаваў агня, жару; і вот,— гавораць,— з радасці хацеў цябе стракаці, да сам уваліўся, і ўтапіўся, і прапаў!

— Зарыйце яго! — павялеў купец Мікіта.

Узялі, закапалі.

І Мікіта жыве спакойна, і стаў каралём. І дапрасіўсь, хто на мяне наводзіць гэта зло?

Сазваў купцоў. Купцы атвячаюць:

— Гэта твой, шчо купіў цябе, нам аклятаваў, шо не быць нам купцамі, а быць старцамі, а трэба яго з свету перавесць!

Ён узяў, яго павесіў. І жыве спакойна цяпер ужэ сабе. Яна, жана, спрашуе:

— Якога ты рода?

Ён гавора:

— Я рода мужыцкага!

— Ну, давай,— гавора,— паедам палядзім свайго каралеўства да й заедам к айцу к твайму, пасмотрым, ці жыў ён? Ежалі жыў, дак к сабе возьмем, а памёр — памінаць будам!

І аб'ехалі яны свае каралеўства, і прыехалі ў тое сяленія, дзе айцец яго. І даў ён знаць:

— Шчоб мне была ў такога старыка хвацера на ноч!

Паказаў на свайго айца. Ацец жыў, братоў не было, адзін із старухаю. Началнікі гавораць:

— Вот к табе кароль на ноч жалае па якойся даўнай дружбе!

А старык саўсім быў драхлы ўжэ. І ўзяў і заехаў ён к яму. І старык хоча ўцякаць ад яго:

— Няхай сам начуе!

А ён ка[ж]а:

— Як жа можна начаваць без хазяіна? Гэта няможна, ісці з свайго дому!

І заначавалі. І сталі ужынаць даваць ім, і пасадзілі старыка міжда сябе і старуху. Кароль з жаною па краях селі, а іх пасадзілі пасярэдзіне сябе і накармілі харашо. Хата небальшая. І паслалі пасцель каралю, і занялі ўсю хату, няможна прайсці. І памылі яму ногі і таз з вадой паставілі на прыпечку. Ноччы старык захацеў піць вельмі і ў бабы спрашуецца:

— Ой, баб, я піць хочу!

А баба гавора:

— Цярпі, дзед пранцаваты! Сказана ад старых людзей: на хаценне ёсць цярпенне! Цярпі! Ты бачыш, кароль озлі сябе які

нож паклаў войстры! Як секане, дак галава твая зляціць, як ступіш на іх пасцель нагамі!

А ён гавора:

— Я нап'юсь із тые міскі ясныя, шчо яму ногі мылі! Яго ногі чыстыя!

І узяў піць. І ўзяўсь рукамі, да шкрабнуў. Дак таз той і зазвінеў. А ён і пачуў. І гавора:

— Святла!

Січас засвяцілі.

— І шчо такое гэта?

А старык сядзіць ракам над тазам.

— Панок, галубчык! Піць хацеў, дак напіўся вадзіцы!

— Да гэта ж вада, мне ногі мылі ёю — яна нячыста!

— Не,— гавора,— твае ногі чыстыя, гэта нічога!

Тады кароль устаў.

— Вот,— гавора,— бацюшка! Ты мой бацюшка,— як ты закладаў нам, тром брацінам, лажыўшысь спаць, і большага брата прабудзіў, і большы брат сказаў, шчо я кую, кую, да ніяк завозу не адпраўлю, быццa кавалём ужэ стаў! Ну, ты будзеш, мой сын, кавалём. А другога брата ўзбудзіў: «Шчо табе снілась?» Другі сказуе: «Айцец мой, у том і ў том урочышчы выкапалі ляда мы да й насеялі проса, дак проса ўрадзіла харошае». Дак ты сказаў, шчо ты будзеш пахар. А мяне ўзбудзіў і гаварыў: «Шчо табе, Мікіта-сын, снілася?» А я табе гавару, шчо мне ногі мылі, і ты ваду піў, тую, шчо ногі мылі. Дак вот ты яе сягеначы напіўся!

Дак ён гавора:

— Няўжэ ж ты мой сын?

— Твой, бацюшка!

І сталі ўбірацца яны, годзі начаваць. І іздзелі худую адзежу з яго і надзелі сваю харошую адзежу, і на старыка і на старуху. І ўзялі і павязлі з сабой. І жывуць там, і весяляцца, каралеўствам упраўляюць. І я там быў, і мёд-віно піў, і ў роце не было, і па барадзе не цякло.

## 89. СЛУГА СТАЎ КАРАЛЁМ

Было двое старых людзей. Мелі дзеці, сказалі ім:

— Хто які сон прысніць на божа нараджэнне, то выйдзе на праўду.

Сын прысніў сон, што будзець каралём. Яны яго дапрашывалі, каб сказаў гэты сон. Так яны ўзялі яго і прадалі. Купіў яго з другой зямлі кароль. І той дапрашываў, і таму не сказаў. Так ён яго ўсадзіў у турму, а выехаў у трэцяе царства жаніцца. Служанка прыйшла, прынясла яму абед. Ён стаў пытацца, дзе выехаў кароль. Яна яму расказала. Так ён стаў прасіцца ў яе, каб выпусціць яго з няволі. Яна яго пусціла, і ён пайшоў у пагоны за каралём сваім.

Застрэў на дарозе трох чарцей, б'юцца: найшлі боты, шапку-відомку і каня-самалёта. Так ён сказаў:

— Дайце мне гэта, так вас паміру.

Улажыў боты на ногі, шапку на галаву, сеў на каня і паехаў, а іх аставіў. За тры гадзіны даганіў свайго караля. Стаў прасіцца ў караля за слугу, і кароль узяў. Прыехалі на места. Каралеўна задавала яму задачу:

— Ежалі даставіш такія чаравікі, якія будуць у мяне, так пайду за цябе замуж, а ежалі не, то галаву далой.

Яна паслала рабіць шаўца свайго, а той, яго слуга, убраўшыся ў тыя боты, каторыя ад чарцей адабраў, і шапку тую самую ўлажыўшы на сябе, прыйшоў да таго шаўца і стаіць закрыўшысь. Зрабіў шавец адну пару, той узяў і ўкраў. Зрабіў другую, ён і другую ўкраў, а шавец не ведаў таго.

Ён зрабіў трэцюю: трэцюю каралеўна забрала. Прыносіць ёй. Каралеўна паказвае яму адну пару, а кароль дзве такіх. Потым каралеўна дае задачу:

— Ежалі пакупіш такую хустку, якая будзе ў мяне, то пайду за цябе замуж, а ежалі не, то галаву далой.

Паслала каралеўна ў краму купляць хусткі. [Гандлярка] аддрала адну, а караля слуга ўзяў і ўкраў. Аддрала яна другую, ён і другую ўкраў. [Гандлярка] пытаецца:

— Здаецца, я табе аддрала хустку?

Яны кажуць:

— Не.

Так яна аддрала трэцюю. Узялі і панясли каралеўне. Каралеўна паказываець каралю свайму адну хустку, а кароль такіх дзве. Каралеўна задала яшчэ задачу:

— Еслі будзеш мець такія воласы, як будуць у мяне, то пайду за цябе замуж, а ежалі не, то галаву далой.

Так ён сказаў, што дастаўлю. Яна паслала свае слугі на мора. Там быў дзядок: на галаве волас срыбны, а на барадзе злотны. Слугі сталі прасіць, каб той дзед даў два валаскі: адзін

27. Зак. 265

з галавы, а другі з барады. Так ён ім пазволіў вырваць. А караля слуга ішоў за імі следам і чуў гэтыя слава.

Яны сталі рваць з галавы адзін валасок, а караля слуга цэлую жменю, і яны яго ні разу не відзелі. Прынясслі яны валасы, падалі каралеўне. Каралеўна паказывае: адзін валасок срыбны, а другі злотны.

Кароль паказывае жменю адніх і другіх. Так яна яму задае задачу яшчэ:

— Ежалі даставіш дванаццаць хлопцаў, як у мяне будзе дванаццаць дзевак, і каб яны былі волас у волас і голас у голас, і з росту роўны, так пайду за цябе замуж, а ежалі не, то галаву далой.

Так кароль сказаў:

— Дастаўлю.

Выйшаў яго слуга на двор у тых ботах і ў той шапцы, каторую ад чарцей адабраў, і гукнуў. Наляцела да яго чарцей і сабралася дванаццаць роўных. Назаўтра прыходзіць каралеўна сваімі слугамі, дванаццаць дзевак, і просіць караля:

— Дзе твае хлопцы?

Так ён клікнуў свайго слугі, і слуга яго прыходзіць і прыводзіць адзінаццаць такіх, як сам, і ў той час яны павянчаліся. Пасля ўзнала яна, што ў яго быў такі слуга, што яму дастаўляў усё, і хацела страціць слугу. Нарабіла такой атруты і просіць:

— Каторы старшы віромка, ідзьце на водку.

А той слуга знаў, што атрута ёсць, і падмавіў усіх тых хлопцаў. Прыбеглі кампанню і разбілі тую шклянку і вылілі атруту. Так каралеўна зрабіла такое ложка і прасіла яго, каб ён лёг спаць. Так ён падмавіў сваіх хлопцаў. Прыбеглі і паламалі ложка. Яна хацела страціць яго на ложку і нічога не зрабіла яму. Кароль і каралеўна паехалі ў сваю старану, а слугу аставіў на месце. Слуга ўлажыў боты, шапку і сеў на таго каня, каторы ад чарцей адабраў. Сеў і паехаў. Абмінуў свайго караля другой дарогаю і ў тры гадзіны прыехаў на места. Расказаў усё той служанцы, каторая выпусціла яго з турмы, як ён рабіў, сам сеў у турму зноў. Прыехаў кароль у сваё царства з жаною і сталі жыць умесце. Служанка расказала каралеўне, што гэты, каторы сядзіць у турме, так яму ўсё дастаўляў.

Пасля каралеўна ўкахала яго за тое і свайго мужа страціла, а з тою слугою ажанілась. Ён стаў каралём.

## 90. АБ КРАЛЕВІЧУ-ЧАРАЎНІКУ

Быў сабе адзін бедны чалавек, меў ён сына, але не мог яго пры сабе дзяржаць, так аднаго разу кажа:

— Хадзем, сынку, дзе ў свет, мо я це аддам дзе на науку да якога майстра.

— Га, нішто зрабіць,— добра, татку.

Пайшлі яны. Ідуць, так ідуць, ажно ў лесе спатыкае іх неякісьці стары чалавек да й пытае:

— Куда вы ідзеце?

— Іду,— ка[жа],— у свет, мо дзе сына аддам да майстра на науку.

— То мо мне аддайце, я яго за тры лет усяго выучу.

Так то чалавек урадаваўся, што не трэба ўжэ далей ісці, пакінуў сына, а сам, згарнуўшыся, пайшоў да хаты, не ведаючы, што ён чараўніку сваё дзіця пакінуў. Ажно жыве ён там рок, два, тры, нічога не учыць, ужэ тры нядзелі да трэцяга року не ставала, тады вядзьмар кажа да яго:

— Напалі ў печы!

Ён напаліў, калі то ведзьма аж чырвона.

— Лезь,— кажа,— у печ!

Яму валасы дубам сталі, але думае сабе: «Будзе горай, як не паслухаю». Так улез — ажно нігарачо! Паляжаў крыху, а чараўнік кажа:

— Вылезь!

Ён зараз вылез, да й улез чараўнік, а, паляжаўшы крыху, вылез да й кажа:

— Ну, дзяціно, будзеш ты разумнейшы ад мяне!

І аддаўшы яму такое лычка, кажа:

— Як ужэ це бацька забярэ, то будзеш перакідаўся ў коні, сабакі, усё.

І наўчыў яго, як рабіць трэба.

— Адно скажы,— ка[жа],— свайму бацьку, каб не браў больш за це на кірмашы як сто злотых, да й каб лычка часом не аддаваў, бо як пакіне на табе, то ты ўжэ не магчымеш перакінуцца ў чалавека.

У той сам дзень выйшаў хлопец у лес, ажно якраз угледзеў сва[й]го бацька, так падбег да й кажа:

— За тры нядзелькі прыдзеце ўжэ па мяне, а нас е там многа такіх, то чараўнік нас паперакідае ў коні, потым у галубы і паненкі да й скажа, каб вы мяне пазнавалі, то помніце, як паперакідае ў коні, то я прытулю правае ўха, а як у галубы,

то ўсе будуць галоўкі пад крыламі дзяржаць, а я высаджу дзюбку з-пад правага крылачка, а як у паненкі, то я буду крыху вышайшы.

Сказаўшы гэта, пажагнаўся з бацькам да й пайшоў назад. У тры нядзелі якраз прыходзіць да чараўніка бацька яго, так то чараўнік затрубіў на медзяную трубу, аж як бач, з усіх старон пазляталася коней рожных, а гэта ўсё былі хлопцы. Тады чараўнік кажа:

— Ну, чалавеча, пазнавай жа цяпер сва[й]го сына, ці ўзнаеш?

Той ходзіць ад каня да каня, глядзіць, ажно ў аднаго прытулена права ўхо́.

— Ці патрапіў,— ка[жа],— ці не, але гэта, мусіць, ці не мой?

— Няўжо ж што, праўда, гэта ён!

Потым паперакідаў іх у галубы, так яго сын высадзіў дзюбку, так ён кажа:

— Мусіць, гэта!

— Ну, гэтыя разы згануў якраз, па[г]лядзімо ж цяпер, ці пацэліш! — да й гэта паперакідаў іх у паненкі. Так бацька, перайшоўшы раз, другі, стаў каля найвышайшай да й кажа:

— Гэта мой сын!

— Ну, німа што, браце, круціць — забірай сабе яго!

Да й гэта кажучы, перакінуў яго ў хлопца, а тыя паразляталіся на ўсе стораны. Так то чалавек падзякаваў чараўніку, узяў за руку сына дай пайшоў дахаты. Ідуць яны, так ідуць, ажно ў лесе сталі птушкі спяваць, так хлопец кажа:

— Тату, знаеце, што яны спяваюць?

— Ці хто яго знае!

— А я такі знаю: яны кажуць, што я буду ногі мыць, а тата будзе тую во́ду піць.

— О, ужэ гэтага не дажджэш ты,— кажа,— банкарце, каб я тую воду піў!

— Ну, палядзімо! — і пайшлі далей.

Прыходзяць дахаты, пабылі там дзён зо два, ажно ён кажа да бацька:

— Тату, я перакінуся ў каня, а тата няхай зложыць на мяне гэта лычка і павядзе на кірмаш: анно няхай тата больш не бярэ, як сто злотых і лычка купцу не аддае,— да й гэта кажучы, перакінуўся ў каня.

Бацька, злажыўшы лычка на яго, прыводзіць на кірмаш, ажно зараз знайшоўся купец і пытае:

— Колькі просіце?

— Сто злотых,— кажа.

Той без торгу выняў зараз грошы і даў бацьку, а той, зняўшы лычка, пайшоў дахаты. Ідзе, так ідзе, калі аглянецца, ажно бяжыць конь за ім! Прыбегшы, перакінуўся ў хлопца да й пайшоў з бацькам дахаты. На другі кірмаш перакінуўся ўжэ ён у вогера. Прывёў бацька яго да места, пастаяў крыху, ажно падыходзіць нейкі чалавек, а гэта быў той сам чараўнік, але бацька яго не пазнаў.

— Колькі вы,— ка[жа],— за яго хочаце?

— Тысячу,— кажа,— рублёў!

— То добра, калі не ўступіце.

Да й гэта выняў, заплаціў, ногу закінуў на каня — паа-йшоў! А той тады агледзеўся да й то крычыць:

— Паночку, аддайце лычка маё, аддайце!

— Э-э, годзі, не ў мяне ты лычка дастанеш!

Бацька, німа рады, пайшоў дахаты. Ажно той чараўнік, прыехаўшы да се, наклаў у лесе дроў, паставіў кацёл з вадою, падпаліў, да й вогера ўпапярок таго агню паставіў. Тая пара з катла стоўпам на яго верне, а ён, небарака, стаіць, бо чараўнік лычка не зняў. Ужэ стала цела коваламі адпадаць, ажно ўгледзела гэта жонка чараўніка, так падбегла — шах! лычка скінула, вогер пайшоў, а чараўнік за ім. Прылятаюць пад бераг рэкі, ён стаў вокунем, а чараўнік шчупаком, і давай яго ганяць. Ажно над берагам неякаясь дзеўка з кралеўскага двара хусце мыла, так хлопец стаў харошым пярсцёнкам і ўскочыў той дзеўцы на палец. Яна адраклася і таго хусця да й пабегла з пярсцёнкам да кралеўны. Кралеўна, угледзеўшы, не магла здзівіцца, бо такі быў харошы, да й то адкупіла яго ад тае дзеўкі. Надышоў вечар, а ад таго пярсцёнка такі бляск б'е, як у белы дзень ад слонка! Кралеўна днём носіць на пальцы, а ўночы кладзе яго пад по́душку, тады ён перакідаецца ў хлопца і гаворыць з ёю, усё. У колькась дні прыходзіць той чараўнік да й кажа, што ён дасць за той адзін пярсцёнак пятнаццаць харошайшых. Яна, падумаўшы, кажа:

— То і добра, адно прыдзеце заўтра.

Як легла ўжэ спаць, так ён кажа да яе:

— Як прынясе заўтра чараўнік пярсцёнкі, то вы, як будзеце мяне даваць, упусцеце на зямлю, то я перакінуся ў мак, то вы на адно зернятка наступіце, а як чараўнік усе й пазбірае, то паднясеце ногу.

Яна так і зрабіла. Назаўтра прыходзіць чараўнік, даў ёй

тыя пярсцёнкі, а яна, яму сва[й]го даючы, упусціла на зямлю, так поўна ў пакою зрабілася маку! Тады чараўнік перакінуўся ў пеўня і стаў збіраць. Як пазбіраў, яна ногу падняла, так як га! з таго зернятка маку зрабіўся шуляк і задзёр пеўня. Потым ужэ кралеўна, канешне, захацела за яго пайсці замуж, бо надта ёй быў да спадобы. Як усё ўжэ ўлажылі, так ён паслаў па сваіх бацькоў, а да іх было недалёка, так то іх сплюшчых папераносілі, што яны аб нічом і не зналі. Паклалі іх у палацы ў таком харошым пакою, што а-ей! Назаўтра прачхнулася яго маці, як гляне, аж ёй у ачу зазыяла — думала, што ў раі, так давай будзіць дзеда:

— Дзеду, дзеду, устань, абач, мусіць мы ў раі, глядзі, якое ўсё хароша!

— Але,— кажа,— мусіць у раі.

Ажно ўходзіць іх сын, да й то прывітаўшыся, расказаў ім усё чыста. Таго дня на вячэру даў ім селядцоў і слугам заказаў вады даваць, а сам узяў у нештась вады, усадзіў адну ногу, другую і як яны заснулі, паставіў каля іх. Дзед прачхнуўся, захацелася вады, так мац, мац, ажно стаіць, так напіўся. А той яго сын пад дзвярыма ўслухаўся, так выбег да й кажа:

— А што, тату, уласне я вам ні казаў, што я буду ногі мыць, а вы гэту воду піць.

— Але, сынку, казаў.

— А то ж я ў гэтай вадзе ногі мыў, а вы яе пілі.

— Калі вада чысценька і ножкі твае чысценькія.

Незадаўга ажаніўся ён з таею кралеўнаю, а па смерці яе бацька кролем яго абабралі. А на том вяселлі і я быў, мед, віно піў, па барадзе цякло, у губе не было.

## 91. ХІТРАЯ НАВУКА

Быў сабе адзін чалавек, імеў ён многа дзяцей. Так прыйшоў адзін вельмі научны пан, але ён быў надта здалек, так кажа яму:

— Дай мне аднаго тваега сынка на службу, так я яго да ўсяго выучу.

— Добра! — кажа.

Узяў ён яго, пасадзіў да карэты і павёз шасцю коньмі, завёз ён яго ў свой бок і выўчыў яго пераварачывацца ў разныя

звяры і пташкі. Так пайшоў яго бацька іскаці, аж знайшоў у первым месце і кажа:

— Глядзі ты, татку, як ты прыдзеш да майго пана, то ён кажа мне, каб я ўпярод перавярнуўся ў голуба, і скажа ён табе: «Калі адгадаеш, каторы твой сын, то я аддам табе, а калі нет, не дам табе сына». А нас усіх галубей будзе дзвенаццаць, то ў мяне будзе на шыі беленькая нітачка.

— Добра.

Прыйшоў ён да гэтага пана і кажа:

— Я прыйшоў па свайго сына.

— Добра,— кажа,— калі пазнаеш, каторы твой, вазьмі сабе, а калі не твой — мой будзе.

Вывеў ён і паказаў дзвенаццаць галубей; паглядзеў ён і пазнаў:

— Гэта,— кажа,— мой сын!

Потым гэты пан казаў пер[а]вярнуцца ім у петухі, але яму ўпярод казаў сын, што я буду петухом і мяне будуць шчыпаці ўсе.

— Добра.

Вывеў дзвенаццаць пар ён і сказаў:

— Каторы твой сын?

Ён бачыць, што адзінаццаць петухоў шчыплюць дзвенаццатага, і сказаў:

— Гэта мой сын!

Потым пан сказаў:

— Перавярніцеся вы ўсе за людзей! — і ўсе ўдруг сталі людзьмі; але сын яму ўпярод сказаў, што ў мяне будзе на шыі беленькая хусціначка — і пазнаў яго бацька:

— Гэта мой сын!

— Добра,— кажа,— вазьмі яго сабе.

Ідуць яны сабе дарогаю і прыйшлі да першага места, дзе быў торг, так сын бацьку сказаў:

— Татку! Я перакінуся за каня, а ты мяне прадай, але, глядзі, абруць вазьмі сабе.

І бачаць людзі, што чалавек продае каня стаеннага, і купіў яго адзін пан, даў яму сто рублёў, а абруць узяў сабе назад. Але ён як прыйшоў дахаты і бачыць, сын ужо дома. Потым сын кажа:

— Татку! Я перавярнуся за вала, і ты зноў прадай мяне.

Перавярнуўся ён за вала, і бацька павёў яго прадаваці, аж пазнаў яго той самы пан, дзе ён быў, і кажа:

— Чалавечку, прадай мне гэтага вала.

— Купі, пан.

Папрасіў ён шэсцьдзесят рублей. Пан от слова даў, але татка не хацеў даці валавода, так ён кажа:

— На так другія шэсцьдзесят рублёў, аддай мне валавод.

Ён і даў яму. Тагды гэты пан надта начаў мучыці гэтага вала. Мучыў, мучыў, а потым павёў да каваля і хацеў падкаваці, але ён як быў прывязаны да кузні, так перабіў кузню, і вол гэты ўцёк і перавярнуўся за зайца, а пан забачыў і перавярнуўся за хорта і пабег за ім. Бег, бег — не дагнаў, і потым заяц дабег да вялікай рэчкі і перавярнуўся за рыбу. Дагнаў пан і перавярнуўся за вялікую рыбу. Так гэты мелкая рыба перавярнулася ў жуковінку, і выйшаў на бераг. Але йшла паненка адна, вельмі пракрасна, і найшла гэту жуковіну і налажыла на свой палец. Пан гэты пазнаў яго і сказаў паненцы:

— Аддай мне гэту жуковінку.

Але паненка не аддала яму, і гэта жуковінка шапнула на ўха паненцы:

— Тагды аддай яму, як ён усенкі стол наложыць грошай.

Яна гэдак і сказала. Так гэты пан насыпаў поўны стол грошай, то яна ўпярод узяла ўсе грошы, панесла да шапы, захавала, як ёй было сказана ўпярод, а потым начала здымаць жуковінку з пальца, і жуковінка ўпала з рук, рассыпалася на дзесяць зёран макавых — і пяць у адзін бок, пяць у другі. Калі адныя пяць зёран паненка нагой затаптала, то тагды гэты пан перавярнуўся за петуха і пяць зёран маку з'еў, а як паненка паднесла нагу сваю, то з другіх пяці зрабіўся велькі птак, і гэты птак узяў ды і з'еў петуха. Тагды ён узяў перавярнуўся зноў у чалавека і з гэтаю паненкаю ажаніўся.

І там на вяселлі быў, мёд, віно і гарэлку піў, па барадзе цякло, у рот не папала.

## 92. АБ ХЛОПЦУ, ШТО Ў ВЕДЗЬМАРА ВУЧЫЎСЯ

Быў адзін бедны чалавек і меў сына, але не меў хлеба, каб усю сям'ю выкарміць, так узяў яго за руку і павёў у свет, каб аддаць дзе на службу. Вядзе яго, так вядзе, ажно спатыкае іх неякісь пан, а гэта быў вядзьмар, да й кажа:

— Куда, чалавеча, хлопца вядзеш?

— На службу, паночку.

— То аддай яго мне.

— Добра,— кажа,— няхай пан бярэ.

І аддаўшы сына, сам пайшоў дахаты. Жыве той хлопец тамака рок, два, ужэ і трэці, вядзьмар яго выучыў усялякіх штук, анно бацька прыдумаўшы:

— Пайду,— ка[жа],— да сва[й]го, даведаюся, ці ён тамака жыў, а мо і забяру дахаты.

Пайшоў ён, ажно на надворку спатыкаецца з сынам.

— Ну, што,— кажа,— здароў ты, сынку?

— Здароў, татульку!

— Ну, ведаеш, хачу я це ўжэ забраць дахаты.

— То добра,— кажа,— але там нас есць з пяцьдзесят, а вядзьмар усіх, як ты па мяне прыдзеш, паперакідае ў жарабцы і скажа вам пазнаваць, то помніце, татку, я права ўхо прытулю; а после зноў паперакідае ў валы, то я буду ўсё праву ногу паднімаць, а як вы мяне пазнаеце, то яшчэ паперакідае нас у паненачкі, то я за тых буду крыху вышайшы.

Гэта сказаўшы, сам пабег, а бацька пайшоў да ведзьмара. Прыйшоўшы да яго, кажа:

— Паночку, што ж, я ўжэ прыйшоў па сва[й]го хлопца.

— Ну, то добра!

Да й гэта кажучы, затрубіў у медзяную трубу. Ажно як бач, пазляталася з усіх старон жарабцоў.

— Ну, пазнавай,— ка[жа],— сва[й]го хлопца!

Так той пачухаўся, па[г]лядзеў, па[г]лядзеў:

— Гэта,— ка[жа],— мусіць мой!

— Праўда, згануў,— кажа, да й гэта ўзяўшы, зноў у валы паперакідаў. Так ён і зноў пазнаў. Так той:

— А, ля, няшчасце! Бач, як пазнае!

Да й гэта зноў паперакідаў у паненачкі. Той глянуў на найвышайшу да й кажа:

— Гэта мой!

— Ну, то забірай сабе, калі гэтак узнаеш!

Так стары, узяўшы хлопца, пайшоў. Ідуць яны, так ідуць, ажно едзе бы то пан, так той хлопец кажа да бацька:

— Тату, я перакінуся ў хорта, а вы мяне вядзеце, а як пан блізка пад'едзе, то спусцеце.

— Добра.

І ўзяў на вяровачку і вядзе. Пан пад'язджае, аж тут як на тое шмыгануў заяц з-пад куста, так ён то хорта пусціў, а хорт цап за зайца. Пан, гледзячы на ўсё гэта, выдзівіцца не мог.

— Прадай,— ка[жа],— мне яго.

— Добра, паночку.

— А колькі ж хочаш?

— [С]толькі а [с]толькі.

Пан зараз выняў асыгнаткі, даў яму, хорта на каляску да й паехаў. Выехалі на поле, ажно зноў выскачыў заяц, так пан то хутчэй спусціў яго, а ён за зайцам пёр, пёр, забег за горку, перакінуўся ў чалавека да й ідзе. Так пан, даехаўшы да яго, пытае:

— Чалавечку, не бачыў ты тут часам хорта?

— А як жа, міласцівы пане, бачыў: папёр зайца калі то барана ў гэты лес.

Да й гэта сказаўшы, пайшоў да бацька. Ніўбаўкі падышоў кірмаш, так ён кажа да бацька:

— Тату, я зраблюся валом, а вы завядзеце мяне на кірмаш, анно вяроўкі не спрадавайце.

Бацька так і зрабіў. Павёў ужэ таго вала, як увёў у места, зараз то як наляцела жыдоў, як крукоў, купілі то яго, завялі ўжэ да рэжніцы, а вол як стане дуба, да после на дах, после з даху на людзі паверх галоў, да й уцекі ў поле. Заляцеў за горку, стаў чалавекам і ідзе, ажно падбягаюць жыды:

— Чалавечку, не бачыў ты тут валу наш?

— Бачыў, а тож пагнаўся, анно што выбрыкаючы туда.

— А шкода!

Тым часове надышоў і бацька, так то пайшлі разам дахаты, урэзаўшы штуку. Незадоўга меў быць другі кірмаш, так ён кажа да бацька:

— Тату, я перакінуся ў вогера, а вы мяне завядзеце да й прадайце, то набярэце грошай, як жаба мулу.

— Ну,— кажа,— добра, сынку.

Да й як той дзень надышоў, так ён вуздачку на яго завёў. От, як на тое, на том кірмашу быў той вядзьмар, і ён зараз пазнаў сва[й]го вучаніка. Падышоў да старога (а ён яго не пазнаў) і пытае:

— Колькі хочаце?

— [С]толькі і [с]толькі.

Ён без таргу і даў, а сам на каня, пайшоў. Тады то бацька а[г]лядзеўся, што вуздачкі не зняў, але той ужэ быў далёка, так анно пачухаўся да й пайшоў дахаты. Тым часове вядзьмар падуў проста да свае сястры ў гасціну. Прыехаўшы туда, узяў то вяроўкі, закінуў на бэльку і так яго прымітыкаваў, што пярэднія ногі былі ўгарэ, да й сам пайшоў да сястры. После сястра выйшла, ажно глядзіць, конь на паветры вісіць, так зняла вуздачку, пайшла да брата да й кажа:

— Але ж ты, братко, вогера ўвязаў! Няхай цябе! Чуць ля ні задушыўся.

— Пэўне ж,— кажа,— ты адвязала?

— Але,— ка[жа],— адвязала, бо глядзець няможна было.

— А, няхай цябе ў ланцугі звяжуць, хоць ты мая сястра!

І пабег на двор. Тым часове, як анно яго спусціла тая сястра, зрабіўся ён то зайцам і ўцекі, а вядзьмар хортам і за ім. Ён бачыць, што піва не пераліўкі, так перакінуўся ў чалавека, после ў сабаку, а вядзьмар у воўка, і от туж, туж ужэ бярэ, ажно і яго хата. Так ён то ўскочыў у хату, зрабіўся пярсцёнкам і ўсунуўся сваей сястрэ на палец, так вядзьмар німа што, пайшоў назад. Сястра прыглядаецца пярсцёнку, ажно ён зрабіўся яе братам і кажа:

— Заўтра прыйдзе па мяне вядзьмар і будзе ад це адкупляць яго, то ты, узяўшы грошы, як будзеш яму даваць пярсцёнка, бы то пусці на землю.

Ажно назаўтра прыходзіць вядзьмар і просіць, каб прадаць пярсцёнка.

— Добра,— ка[жа].

Так ён выняў машонку і даў ёй колькі сама хацела. Яна ўзяла тыя грошы, после зняла пярсцёнак і, даючы, ўпусціла на землю. Так з таго пярсцёнка як бач зрабілася поўна маку! Ну, так то той вядзьмар перакінуўся ў гараб'я і стаў збіраць, але адно зернятка ўлезла ў шпаруну да й то з яго зрабіўся шуляк, да й то вылецеў, да й то на гараб'я, задзёр, закляваў да й ужэ годзі.

## 93. СІНЯЯ СВІТА

Жыў-быў цар-валшэбнік. Стаў ён кліч клікаць, вызываць ахотніка, штоб узяўся схавацца ад яго. І за таго, хто схаваецца, абяшчаў выдаць сваю дачку замуж і палавіна царства аддаць. Найшоўся такей Сіняя Світа налева сшыта Саломенны каўпак. Узяўся ён схавацца ад цара, а калі не схаваецца, дык яго на смерць даўжны сказніць. На гэтым ён і распісаўся. Сіняя Світа налева сшыта Саломенны каўпак перад царом стаяў добрым моладцам, па двару бег чорным собалем, пад вароты лез белым гарнастаем, па полю бег шэрым зайцам. Як бяжы, дык бяжы за трыдзевяць зямель у трыдзевятае царства. А ў гэтым царстве ёс[ц]ь дужа бальшэй луг. На гэтым лугу рас-

сыпаўся ён на тры цвяты. На другей дзень цар, устаўшы раненька, умыўшысь бяленька, пасматрэўшы ў свае валшэбныя кнігі, узнаў усё і кажыць:

— Перада мной стаяў добрым моладцам, па двару бег чорным собалем, пад вароты лез чорным гарнастаем, па полю бег шэрым зайцам. Збег на бальшэй луг у трыдзесятым царстве і рассыпаўся на тры цвяткі разнацветных. Слугі мае верныя, слугі мае добрыя, ідзіце вы ў трыдзесятае царства. Ёс[ц]ь там дужа бальшэй луг, а на ім тры цвяткі разнацветных. Вы іх адарвіце, у платок завярніце і мне прынясіце!

Слугі і пайшлі. Ішлі яны ці доўга, ці каротка, толькі найшлі тыя цвяткі, у платок завярнулі і к цару прыняслі. Тады цар пытаіць:

— А што, Сіняя Світа, ці схаваўся ты ад мяне?

Стаў Світа цара прасіць, каб дазволіў схавацца яшчэ раз. Цар дазволіў. Сіняя Світа налева сшыта Саломенны каўпак перад царом стаяў добрым моладцам, па двару бег чорным собалем, пад вароты лез белым гарнастаем, па полю бег шэрым зайцам. Як бяжы, дык бяжы за трыдзевяць зямель у трыдзесятае царства. У гэтым царстве ёс[ц]ь такей мох, што зверху балота, а паднізом бяздонная вада. Зайшоў ён у мох, абярнуўся рыбай-вокунем, забраўся на самае дно і сядзіць там. Назаўтра цар, устаўшы раненька, умыўшысь бяленька, пасматрэўшы ў валшэбныя кнігі, кажыць:

— Перада мной стаяў добрым моладцам, па двару бег чорным собалем, пад вароты лез белым гарнастаем, па полю бег шэрым зайцам. Збег за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства і схаваўся ў балоце, абярнуўшысь рыбай-вокунем!

Вялеў цар сваім слугам іціць у трыдзесятае царства, вычысціць балота і злавіць вокуня. Слугі так і здзелалі: зрубілі, павычысцілі тое балота так, што толькі адна буза асталась паверху; закінулі яны сеці, паймалі окуня, завярнулі ў платок і к цару прыняслі.

— Ну што, Сіняя Світа, ці схаваўся ты ад мяне? — пытаіць цар.

Сіняя Світа налева сшыта Саломенны каўпак апяць стаў прасіць цара, каб дазволіў яшчэ схавацца. Цар і яшчэ дазволіў. Сіняя Світа перад царом стаяў добрым моладцам, па двару бег чорным собалем, пад вароты лез белым гарнастаем, па полю бег шэрым зайцам. Як бяжы, дык бяжы за трыдзевяць зямель у трыдзесятае царства, дзе ёс[ц]ь такей дуб, што корні ў зямлі, а макушка ў небе. Узлез ён на дуб, абярнуўся

іголачкай ды пад карынку і сядзіць. Прыляцела на дуб пціца Нагай, узнала, што тут ёс[ц]ь чалавек, і пытаіць:

— Хто тут ёс[ц]ь?

— Я,— кажыць,— Світа.

— А зачым ты забраўся сюды?

— Ды вот, узяўся я схавацца ад цара-валшэбніка, ды ніяк не схавацца.

— А хош, я цябе схаваю? — кажыць пціца.

Світа стаў яе прасіць. Нагай-пціца абярнула яго пярынкай, узяла к сабе пад крыло, знесла і палажыла соннаму цару за пазуху. Вутрашкам цар ўстаў, умыўся, пасматрэў па валшэбным кнігам і гаворыць:

— Перада мной стаяў добрым моладцам, па двару бег чорным собалем, пад вароты лез белым гарнастаем, па полю бег шэрым зайцам, збег у трыдзесятае царства. Ёс[ц]ь тамацька дуб, што корні ў зямлі, а макушка ў небе. Забраўся ён за яго кару і сядзіць, абярнуўшысь іголачкай.

Прыказаў цар слугам, каб яны спілілі дуб, пакалолі яго на дровы і сажглі. Слугі так і здзелалі, а Сіней Світы не найшлі, аб чом цару і далажылі. Вот цар выйшаў на крыльцо і завець:

— Сіняя Світа налева сшыта Саломенны каўпак, пакажыся!

— Не,— гаворыць Світа,— збяры першы вяльможай і каралей, тады пакажуся.

Цар думаў, што ён тутацька, дзе-ліба ля яго: кружыўся, кружыўся вокала сябе, а Світа сядзіць сабе ў яго за пазухай. Вот цар сабраў вяльможай і енаралаў, выйшаў на крыльцо і апяць завець:

— Сіняя Світа налева сшыта Саломенны каўпак, пакажыся!

— Не, баюсь, абманеш! Снаражай-ка дачку пад вянец, тады і я буду.

Цар вялеў залажыць у карэту шасцёрку лашадзей, пасадзіў у яе каралеўну і выйшаў на крыльцо. Удруг выляцела пярынка і стала добрым маладцом. Сеў ён к каралеўне ў карэту і паехалі пад вянец. Павянчаліcь і сыгралі свадзьбу. Цар адпісаў яму палавіну царства, а пасля смерці і ўсё.

## 94. ЧАРАДЗЕЙНАЯ ДУДКА

Жыў сабе дзед да баба. І было ў іх дзве дачкі, а трэці сын Кірылка. Пайшлі яны ў лес па ягады. Дак дзеўкі не бяруць ягад да гуляюць, а Кірылка ягадак глячок набраў. Тады сёст-

ры ягады ў яго адабралі, ножыкам яго зарэзалі, пад калодачку падкацілі, карынкай вочкі накрылі і пайшлі дамоў. І сказалі дома, што Кірылка згубіўся.

Вырас на Кірылку дубчык залаты і сярэбраны. Вот ехалі там купцы, убачылі той дубец, выразалі яго і здзелалі дудачку. Зайграў купец на дудачцы, а яна выігравае:

Не йграй, купчык, не йграй:
Мае раны не ўразь.
Мая рана вялікая:
Мяне сёстры зарэзалі,
Пад калодку падкацілі,
Карынкай вочкі накрылі!

— А, брат,— кажа купец,— дзіўная якая дудка!

Падзівіліась, падзівіліась і паехалі. Заязджаюць яны ў сяло. А хатка дзедава стаяла край сяла. Купцы і заехалі к ім на ноч. Разгаварыліся і сталі казаць пра сваю дудачку.

— Вот,— кажаць,— у нас якая дзіўная дудка! На-тка, дзед, пайграй-ка!

Стаў дзед іграць, а яна выігравае:

Не йграй, татачка, не йграй:
Мае раны не ўразь.
Мая рана вялікая:
Мяне сёстры зарэзалі,
Пад калодку падкацілі,
Карынкай вочкі накрылі!

— На-тка ты, бабка, пайграй! Што гэта за дудка?

Стала бабка йграць, а дудачка кажа:

Не йграй, мамачка, не йграй:
Мае раны не ўразь.
Мая рана вялікая:
Мяне сёстры зарэзалі,
Пад калодку падкацілі,
Карынкай вочкі накрылі!

— А божа ж мой! Ці не пра Кірылку яна пяе? Наце-тка вы, сёстры, пайграйце!

Стала адна іграць, а дудачка выігравае:

Не йграй, канарэзная душа, не йграй:
Мае раны не ўразь.

Мая рана вялікая:
Вы мяне зарэзалі,
Пад калодку падкацілі,
Карынкай вочкі накрылі!

Тады на другую сястру кажаць:
— Ну-тка ты пайграй!
Яна зайграла, а дудачка кажа:

Не йграй, канарэзная душа, не йграй:
Мае раны не ўразь.
Мая рана вялікая:
Вы мяне зарэзалі,
Пад калодку падкацілі,
Карынкай вочкі накрылі!

Дзед і баба дазналісь, што дочкі зарэзалі Кірылку — сына, і вельмі заплакалі. І прагналі тых дачок ад сябе.

## 95. ЧАРОЎНАЯ СКРЫПКА

Былі ў бабы дзве дачкі, а ў дзеда была адна. Дзедава звалася Леначка, а бабіна была адна Зоська, другая Малгоська. І гэта баба сабралася ісці з імі ў ягады.

— Пойдзем,— кажа,— дзеткі, у ягады.

Пайшлі яны ў ягады. Сваім дочкам яна дала маленькія вядзёрачкі, скарэй ужо ж назбіраць ягад, а дзедавай дачцэ дала вялікае вядро, што ваду насіць. Гэта дзяўчына кажаць:

— Божа ж мой, чаму ж гэта ім такія малыя вядзёркі, а мне вялікае?

— Ну нічога, назбірай,— кажаць мачыха,— не назбіраеш, дамоў не прывядзём, астанешся ў лесе.

Дзед кажаць на сваю Леначку:

— Ты глядзі, не аставайся ад іх, дзе яны як адойдуць, дык і ты за імі, гукай іх, гукай.

Яны ўсё ўцякаюць, па лесе лётаюць, хаваюцца ўсё ад яе, а яна ўсё ходзіць за імі ззаду:

— Зоська, гу-у! Малгоська, гу-у! Адзавіцеся, адклікніцеся, не пакідайце мяне ў лесе адну!

Матка на іх кажаць:

— Паляцім, паляцім па лесе, схаваемся.

Лятала, лятала яна за імі. Што ж, у іх вядзёрачкі маленькія, а ў яе вялікае, нада ж назбіраць, дык яна знайшла палянку ягад, чырвона-чырвона на палянцы. Дык яна кажаць:

— А што ж я буду за імі лётаць, у іх вядзёркі маленькія, яны скора назбіраюць, а я ж буду збіраць тут, што бог ні дасць, заблуджу дык заблуджу, а можа ж і дамоў прыду неяк.

І збіраець яна, збіраець, збіраець. Назбірала поўнае вядро ягад. А тыя лcraталі-ляталі — пустыя ж вёдры ў іх. У іх маленькія пустыя, а гэта вялікае назбірала поўнае вядро, дзедава дачка. Што тады бабе рабіць? Стыдна ж. І думаець баба, што зрабіць, каб гэтыя ў яе ягады забраць. Кажаць баба:

— Хадзі, Леначка, пасядзім пад кустком, аддыхнём.

— Да не, пойдзем дамоў, вечар ужо на двары, нада ж нешта і дома парабіць.

Усё дома рабіла яна: і ваду насіла, і дровы насіла ім, і бульбу скрабала. Гэткая дзяўчына была загнаная. Ёй толькі дадуць бульбы з шалупінкамі і капусты сырой, яна з'есць, а работа ж была цяжкая. Ну, яна рупіцца дамоў, каб работу тую парабіць. Тады гэта баба кажаць:

— Хадзі, аддыхнём трошкі, хадзі аддыхнём.

Ну, гэта дзяўчынка не хацела, але ж села. Тады яе ўзялі ейныя дочкі за рукі прыцягнулі, пасадзілі.

— Хадзі,— кажаць мачыха,— я табе ў галоўцы пагляджу.

Яна не хацела, але ж ужо падалася, дзе ж дзенешся. Баялася мачыхі. Села і пяець гэта мачыха:

Засні, засні, адно вочка,
Засні, засні і другое.
Засні, засні, адно вочка,
Засні, засні і другое.

Узяла гэта Леначка і задрамала. Тады яны яе і зарэзалі. Зарэзалі і палажылі пад кустом, закрылі яе лісцем, закапалі. Гэтыя ягадкі яе ўзялі і панеслі дамоў. Панасыпалі свае малыя вядзёрачкі, прыйшлі дамоў. А дзед пытаецца:

— А дзе ж мая Леначка?

Яны кажуць:

— Там яшчэ. Збіраець. Найшла многа, а вядро ў яе вялікае, не можаць назбіраць.

Дзед чакаець, чакаець — няма яе, чакаець, чакаець — няма яе. Прыходзіць, пытаецца:

— Дзе мая Ленка, можа вы яе дзе згубілі, утапілі?

— Не, прыдзець яна зараз.

Чакаець, чакаець дзед, чакаець, чакаець — няма яе. Сядзіць дзед і бядуець, што гэта будзець.

Тады ідзець музыкант, скрыпач ідзець ужо вяселле іграць, падходзіць, а ў яго зламаўся смык, тады ён з гэтага кустка стаў выразаць палачку, каб іграць. Выразаў палачку, смык гэты, і стаў іграць. Яна тады, дзяўчынка гэта:

Іграй, іграй, мой музыканцік,
Мяне мачыха загубіла,
Пад кусцікам палажыла
За мае ягадкі.

Музыкант думае, што гэта такое ёсць, нешта ж тут не гэтак, чаму гэта яна так іграець. Прыйшоў дахаты, да той вёскі, адкуль дзяўчынка, даець іграць другому музыканту. Другі стаў іграць, нейкі Альфон ці хто. Дык яна:

Іграй, іграй, мой Альфонька,
Мяне мачыха загубіла,
Пад кусцікам палажыла
І хварасточкам накрыла,
А мае ягадкі забрала.

Гэты кажа, што такое можа быць, не йграецца ні полька, ні вальца, ні мазурка, во гэтак іграецца. У вяселлі ж нада іграць усялякія танцы.

Тады бацька дзяўчынкі кажаць:

— Дай жа мне скрыпку, я пайграю.

Узяў ён іграць, а яна тады:

Іграй, іграй, мой татулька,
Мяне шлюбніцы загубілі,
Пад кусцікам палажылі
І хварасточкам накрылі,
Мае ягадкі забралі.

Тады бацька кажаць музыкантам:

— Давай заплачу колькі хочаш за гэту скрыпку, давай скрыпку разаб'ём, што гэта тут будзець?

Тады бацька ўзяў скрыпку, музыкант аддаў, як кінуў гэту скрыпку, яна разбілася — стаіць дзяўчынка жывая.

Тады гэта баба як спужалася, дзед як пачаў лупцаваць гэту бабу, як пачаў лупцаваць і Зосю, і Малгосю, збіў, збіў іх. А гэта дзяўчынка і сягоння жывець, а тыя пахварэлі, паўміралі, закапалі іх у ямкі. Няма іх.

## 96. ЯК ПА ЯГАДКІ СЯСТРЫЧКІ ХАДЗІЛІ

Жыў дзедка з бабкаю. Была ў іх дачушка. Бабка памерла, дзедка жаніўся. Узяў сабе жонку, у тэй былі дзве дачушкі.

Прыйшла вясна, стала ўсё расці, параслі ў лесе ягадкі. Дзедка паплёў кошыкі дзевачкам, і яны пайшлі ў лес па ягадкі. Дзедкава дачушка скора збірала ягадкі; прыйшлося к абеду, у яе быў чуць не поўны кошык. Бабчыны дачушкі марудна збіралі. Яны адышліся ўбок і гавораць:

— Давай мы яе зарэжам, а ягадкі падзелім і пойдзем дадому.

— А мы давай будзем часаць ёй галоўку.

Яны ёй і гавораць:

— Ідзі сюды, мы цябе пачэшам.

Яны сталі яе часаць, яна ўзяла і заснула. Узялі яны яе зарэзалі, пад кусцікам пахаранілі, карынкаю вочкі накрылі, а самі ягадкі падзялілі і пайшлі дадому з поўнымі кошыкамі. Прыходзяць дадому. Маці ўжо рада, што яе дочкі прыйшлі, ягадкі назбіралі.

— А дзе ж дзедкава дачушка? — пытаецца яна.

— А яна яшчэ там асталася, у яе няпоўны кошык. Яна дазбірвае кошык.

І дзедка пытае:

— Дзе мая дачушка?

— Кошык дазбірвае ваша дачушка. Яна яшчэ поўнага кошыка не назбірала.

Той дзедка ўжо чакае, на вуліцу выходзіць, у канец вёскі глядзіць, і пройдзе — ніяк не дачакаецца ён яе. Стала цямнець, і сцямнела — нямашака дачушкі. Гукаў ён, гукаў, хадзіў па лесе, і па полі, гукаў, думаў, мо выйшла на якое поле, заблудзілася — няма дачушкі.

Тэй дарогаю ехалі купцэ на базар, якраз была сybота, а яны ехалі ўжо нанач на нядзелю на базар. Вот адзін злез купец з воза, гаворыць:

— Вось там расце нейкая трасцінка, я пайду яе выражу і зраблю дудачку.

Зрабіў ён дудачку, сеў на воз і зайграў. Дудачка грае:

Грай, грай, мой купчык,
Грай, грай, мой галубчык,
Былі ў мяне дзве сястрыцы,
Ды тыя няродныя.

Узялі мяне зарэзалі,
Пад кусцікам пахаранілі,
Карынкаю вочкі накрылі.

О! Той купец прыслухаўся, дак вымаўляе словы дудка. Яшчэ ён пайграў раз, другі раз. Ну, ехалі яны і якраз у тую дзярэўню прыехалі.

— Трэба,— гавораць яны,— на начлег дзе-небудзь астацца. Ужо і базар недалёка. Заедзем, пераначуем тут у дзярэўні.

Якраз яны прыехалі к гэтаму дзедку, начаваць просяцца. Селі за стол, павячэралі. Вот яны ўжо сядзелі, гаварылі. Пасля дастаў дудачку адзін купец. Зайграў, тая дудка зайграла зноў:

Грай, грай, мой купчык,
Грай, грай, мой галубчык,
Былі ў мяне дзве сястрыцы,
Ды тыя няродныя.
Узялі мяне зарэзалі,
Пад кусцікам пахаранілі,
Карынкаю вочкі накрылі.

Той дзедка слухае, слухае, слухае. Слухаў, слухаў:

— Дай жа ж я пайграю на гэтай дудачцы,— кажа дзед на купца.

Купец даў дзедку. Дудачка зайграла:

Грай, грай, мой татачка,
Грай, грай, мой родненькі.
Былі ў мяне дзве сястрыцы,
Ды тыя няродныя.
Узялі мяне зарэзалі,
Пад кусцікам пахаранілі,
Карынкаю вочкі накрылі.

Раз дзедка прайграў, другі раз прайграў, дык бачыць, што гэта ж яго дачушка праз тую дудачку спявае гэтак. Ён узяў дудачку тую на калена і пераламаў. І перад ім стала яго дачка. А гэтую бабку і бабчыных дачушак ён узяў паразрываў, паразрываў, з хаты павыкідаў. А і сёння з сваёй дачушкаю жыве і хлеб жуе.

## 97. ЯК ДЗВЕ СЯСТРЫ ЗАБІЛІ ТРЭЦЮЮ

Жыў сабе бацька і маці. У іх было тры дзевачкі. От бацька ад'язджае ў горад за пакупкаю, за гасцінцамі. Адна дачка просіць:

— Мне, тата, прывязі алае кітайкі ў коскі.

А другая просіць:

— Ты, мне, тата, прывязі кумачу на сарахван.

А трэцяя сядзіць у вугалочку і просіць:

— А мне, папка, прывязі сярэбранае блюдачка, наліўное яблачка.

Яны думаюць: «Што гэта яна гаворыць, што ёй гэта яблачка і блюдачка?»

От прыязджае бацька з горада. Прывозіць, адной падаў падарак адзін, а другой другі падаў. А гэтай падае:

— Вот табе, дочачка, сярэбранае блюдачка, наліўное яблачка.

Яна села ў вугалочку, гаворыць:

— Каціся, каціся, маё наліўное яблачка, па сярэбранаму блюдачку, паказвай мне гарада, мара, паля, і з гор высаты, з нябес красаты.

Як засіяла хата! Яны крычаць:

— Ой, дурачка запаліла хату! Што гэта так відно?

Яна барджэй закрыла, і ўсё. От цяпер яны сталі на яе завісць такую мець. Возьмуць яны — у іх не палучаецца, а яна як сядзе сабе ў вугалочку і гаворыць:

— Каціся, каціся, наліўное яблачка, па сярэбранаму блюдачку, паказвай мне палкі на палях, караблі на марах, і з гор высаты, з нябес красаты.

Як засіяе ёй усё! Прама як пажар які ў хаце, страшна глядзець. І сонейка свеціць. Яны заздаваліся на яе і гавораць:

— Ну, даволі,— адна на адну сёстры,— павядзём яе ў лес да ўб'ём. Нашто ж яна нам, гэтакая сястра. Што ёй паказвае, а нам не. Тады мы будам качаць, яно будзе нам паказваць, як яе ўб'ём. Гэта што яна сядзіць.

Надумаліся так.

— Сястрычко, пойдзем у лес, набяром земляні́чкі ягадак.

— Ну, пойдзем,— кажа,— сястрычкі, калі хочаце, каб я з вамі ішла.

За сваё яблачка наліўное і блюдачка, паставіла на печы ў вугалочку і сама пайшла з імі.

Яны ідуць і ідуць, падходзяць у лес, бачаць заступ, ля-

жыць жалезны заступ. Схвацілі гэты заступ, самі шэпчуць. Яна ж не знае, ідзе з імі, мой бог, меншанькая.

— Скажам,— кажа так адна,— папе і маме, што ваўкі з'елі. Наша дурачка пабегла ад нас, і яе ваўкі з'елі.

Далі ёй па галоўцы і яе прыбілі. Прыбілі гэта яе, мой божачка, гэту дзевачку. Яна, бедненька, ляжыць, трэба дзе яе заграбці. Січас стаіць бярозка, пад бярозкай бугарочак, гэты бугарочак разграблі кіпцямі трохі і заграблі ў той мох.

І вот толькі ж ляжыць яна ў том імху, а там чараціначка гэтака вырасла бальшая, высоканька і такая харошая. Вот пастушок жа неяк прыгледзеўся, што гэта за такая чараціначка.

Пайшла ўжо гавара́ ў дзярэўні: дзевачка пабегла, і ваўкі з'елі, а сёстры прыйшлі і сястры не прывялі трэцяй, з'елі ваўкі яе. Плача маці і бацька. З'елі дзевачку. Яны яе жалеюць — няма, ну што ж ты.

Цяпер пастушок узяў зрэзаў гэту чараціначку і зрабіў дудачку, начаў іграць.

Іграй, іграй, дудачка,
Пацяшай майго бацюшку,
Радзімую матушку
І злых маіх сёстраў.
Мяне бедную згубілі,
Са свету збылі.
Мяне ўбілі за сярэбрана блюдачка,
Наліўное яблачка.
Не ўстану я ад сна цяжкага,
Пака не дастанеце вады
З калодзежа царскага.

От, мой божа, дала задачу. Пастушок жане, гэтак іграе, дудачка прыгаварвае. Як увайшоў у сяло, як зайграў, усе:

— Ой, таго й таго гэта дзевачка пагібла.

Січас ён падыходзіць пад іх двор і зайграў. Бацька барджэй схваціў гэту дудачку, сталі плакаць. Як зайграў, так:

Іграй, іграй, дудачка,
Пацяшай майго бацюшку,
Радзімую матушку
І злых маіх сёстраў.
Мяне бедную згубілі,
Са свету зжылі
За сярэбрана блюдачка,
За наліўное яблачка.

Не ўстану я ад сна цяжкага,
Пака не дастанеце вады
З калодзежа царскага.

Січас яны за пастушка, запраглі лошадзь і паехалі шукаць дзевачку, бацька і маці, усе. А сёстры ўжо пахаваліся і не ведаюць, што будзе з імі. Паехалі яны, паслалі ў калодзезь царскі той вады жывой дастаць, гэту дзевачку адграблі. Яна ляжыць што й жывая. Шчэ ж, вядома, толькі яны яе прыбілі, трошкі прыгрэблі да й ўсё. Думаюць, мо ваўкі з'ядуць як прабудзе.

Прывезлі яе дадому, вады ўжо дастанавілі, скрапілі яе вадой, дзевачка ўстала.

— Што,— сказалі,— здзелаць з сёстрамі?

— Татка мой дарагі, нічога не дзелайце, няхай. Ну што, сёстры, нагуляліся з маім сярэбраным блюдачкам, з наліўным яблачкам?

Кажуць:

— Нічога нам не паказвае, мы парабіліся старыя, як сталі качаць.

Яна ж села, на стале і пакаціла:

— Каціс, каціс, маё наліўное яблачка, па сярэбранаму блюдачку, паказвай мне палкі на палях, караблі на марах, і з гор высаты, з нябес красаты.

Як засіяла хата, яна стала такая харошая — кукла. Яны ўжо, мой божа, сядзяць у вугалочку. Яна сказала:

— Нічога ім не дзелайце, я ж асталася жыва.

От і казка ўся.

## 98. ЦУДОЎНАЯ ДУДКА

Жыў сабе дзед ды баба. Было ў іх тры сыны: два разумных, а трэці дурак. Вот, як бацька састарыўся, сабраў ён сваіх сынаўёў к сабе і кажыць ім:

— Вот, дзеткі, я стар ужо. Калі я памру, дык хто на маёй магілцы пераначуіць, тэй уловіць залатога вапярка!

А гэты вапярок царскі сад рыў, і цар абяшчаў таму вялікую награду, хто гэтага вапярка ўловіць. Вот памёр іх бацька. Тады яны схавалі яго на могільніку ў магілцы і сталі хадзіць пача-

родна на магілку начаваць. Пайшоў перва большы сын начаваць. Прыйшоў ён на могільнік і сеў пад бярозкай. Сядзеў ён, сядзеў — у самую поўнач закалацілася зямля. Ён спужаўся і пабег у двор. Прыбег у двор, і пытаецца яго жонка:

— Ці пераначаваў?

— Не!

— А што?

— Ды зямля закалацілася, я чуць уцёк адтуль!

На другую ноч пайшоў сярэдні сын. І сярэдні сын так жа: зямля закалацілася, ён не ўцéрпеў і ўцёк у двор. На трэцюю ноч пайшоў дурачок начаваць. Узяў ён з сабой мяшок і пайшоў. Прыходзіць на могільнік, абабраў сабе места пад бярозай і сеў пад бярозкай начаваць. А гэтая бяроза стаяла над бацькінай магілкай. Сядзеў ён, сядзеў, у самую поўнач закалацілася зямля. Відзіць ён — бяжыць вапярок, залатая шарсцінка, сярэбраная шарсцінка. Вот ён бяжыць, гэты вапярок, прама ■ дурачку. А ён расставіў мяшок ды як дас[ц]ь вапярку даўбешкай, вот ён і ўскочыў у мяшок. Ён завязаў мяшок і панёс у двор. Нёс ён, нёс, ідзець яму наўстрэчу большы брат.

— Што ты нясеш, дурак? — пытаецца ў яго.

— А якое табе дзела, разумны? Вапярка нясу!..

Тады большы брат адабраў у яго даўбешку і забіў яго, выкапаў ямку і захаваў. А вапярка панёс к цару. Прынёс і кажаць:

— Здраствійце!

— Здароў, што скажаш?

— А прынёс я вам звярка таго, што ў тваім садзе рыў!

Цар рад, засадзіў яго за стол, пачаставаў яго, даў яму сколькі до грошай — нāградзіў яго. Пайшоў разумны дамоў, рад ён. Прыходзіць дамоў, расказуець, як цар яго наградзіў — і жонка рада, і дзеці рады. І сталі жыць. Так яму тое і мінулася; аб дурака і забылісь.

Сколькі ўрэмя прайшло, прыгналі пастухі статак на тое места, ідзе дурак схаван. А на том месце, ідзе дурак ляжаў, турасцінка. Пастухі зрэзалі яе і здзелалі пасвірэль і сталі іграць. Ігралі яны, ігралі, чуюць голас із пасвірэлі:

— Іграйце, іграйце, мае пастушкі! Мяне брат тут забіў за залатога вапярка!

Дзівяцца пастухі, што гэта ёс[ц]ь? Ідзець падарожнік. Пастухі далі і яму пайграць. Іграў, ён іграў, і яму тое кажаць. Дзівяцца яны, аж ідзець цар. Далі яны цару пайграць. Стаў ён іграць і чуець голас з пасвірэля:

— Іграй, мой паночак, іграй! Мяне брат тут забіў за залатога вапярка!

Дагадаўся цар, што яго абманіў тэй большы брат. Сычас яго вялеў узяць, і прэдалі яго смерці.

## 99. ПРАЎДА І КРЫЎДА

Начном сказку, а не сказку, да прыказку, сказка будзе заўтра пасля абеда, пад'еўшы мяккага хлеба.

Былі сабе два хлопцы: адзін зваўся Крыўда, а другі Праўда. І хадзілі яны па кусочках. Так Праўда просе хлеба, а Крыўда крадзе. У Праўды хлеба няма, а ў Крыўды поўна койстра. Адзін раз завялі яны між собку сварку, як луччы жыць.

Крыўда кажа:

— Крыўдай луччы жыць!

А Праўда кажа:

— Не, праўдай луччы жыць!

— Ну, хадзем дарогай, каго пападом, у таго й папытаем, чым луччы жыць — ці праўдаю, ці крыўдаю?

Ішлі, ішлі і бачаць — на полі пасе дзед авец.

— Зайдам к яму, папытаемся!

Прыходзяць к дзеду.

— Здрастуй, дзед! І скажы ты нам, як луччы жыць, ці праўдаю, ці крыўдаю?

Дзед падумаў, падумаў, задраў вочы ўгару і кажа:

— Крыўдаю луччы жыць, а праўдай цяпер не пражывеш. Крыўдай жыўшы, скарэй што-нібудзь украдзеш: ці ў пана лесу ўкрадзеш, ці хлеба ўкрадзеш, усё-такі большы е. А праўдаю ідзе што возьмеш?

Праўда кажа:

— Не, няпраўду, дзед, кажаш! Праўдай луччы жыць. Хадзем, Крыўда, далі!

Прайшлі далі па дарозе і бачуць — ідуць [купцы].

— Давай папытаем у гэтых [купцоў].

— Здаровы, купцы!

— Здароў, здароў, хлопцы!

— І скажыце вы нам, як луччы жыць — крыўдаю ці праўдаю?

— А што ж? Крыўдаю луччы жыць! І мы вот жывом крыўдаю: каго не падманеш, і няма нічога!

Тады Крыўда кажа Праўдзе:

— А што, не казаў я табе, што крыўдай луччы жыць?

Пайшлі ізноў далі. Праўда захацела есці і просе ў Крыўды:

— Дай мне, брат, хлеба, хоць кусочак!

А Крыўда кажа яму:

— Дай я табе выкалю вока!

— Ну, калі бога не баішся!

Крыўда выкалала вока і дала хлеба кусок. Ён з'еў і пайшлі далі. Праўда ізноў захацела есці.

— Брат, дай мне хлеба яшчэ!

Крыўда кажа:

— Дай я выкалю другое вока!

Праўда дала выкалаць вока другое. Крыўда выкалала вока і дала хлеба яму. Тады кажа:

— Што ж, я цябе цяпер вадзіць буду сляпога?

Кінуў ды й пайшоў.

Праўда попаўзкам, попаўзкам ды й вайшла ў лес. І чуе, хтось гавора ёй:

— Ідзі ты гэтай сцежкай, і прыдзеш ты а к ручайку, і памый вочы: ты будзеш бачыць. Тады глянь удоль па ручайку — убачыш бальшога дуба. І ты ўзлезь на гэтага дуба і там начуй. Зляцяцца ўначы пад гэтага дуба рознае змяйё. Што будуць казаць, ты ўсё слухай.

Ён так і зрабіў. Зляцеліся змяйё на ноч. Адзін кажа:

— Я там-то быў вот.

Другі кажа:

— А я там-то.

А трэці кажа:

— А я вот у каралеўскай дачкі; колькі лет мучу яе ўжэ і ніхто не можа вылечыць. Каб такі найшоўся, узяў — у ваднаго купца ё на варотах божая мацер — узяў тую вікону да спусціў із яе вады, да даў ёй напіцца, я б тады ні разу не паляцеў, і яна б была здаровая за 'дзін час!

Як стаў дзень, Праўда злезла з дуба і пайшоў а к купцу а к тому.

— Дзень добры, купец!

— Здароў, здароў, Праўда! А чаго ты прыйшоў?

— Я прыйшоў, дайце мне гэту божую мацер!

— Я табе дам яе, толькі адслужы мне год за яе!

Праўда астаўся служыць. Прайшоў год. Купец грошы дае, а божыя мацеры не дае, затым, каб яшчэ год паслужыў ён. Ен быў столяр добры: дзелаў розныя стулкі, сталы дарагія. Ён жа

грошай не бярэ ў купца. А купец божыя мацеры не дае. Астаўсь яшчэ год служыць. Праслужыў два гады. Тады купец аддаў яму божую мацер. Ён узяў і пайшоў к каралю. Каралеўскія слугі не пускаюць яго.

Ён і кажа:

— Скажыце каралю, што я прыйшоў лячыць паненку.

Слугі сказалі каралю. Кароль яго з ахвотаю прыняў, накарміў, напаіў і даў яму часы два аддыхнуць. Праўда аддыхнуў і пайшоў а к паненцы. Спусціў з божыя мацеры вады і даў ёй напіцца, і спырснуў на яе трохі. Яна стала здаровая. Тады прыходзе кароль і пытаецца:

— Вылечыў?

А яна ўперад за яго адказуе:

— Я ўжэ здарова!

— Ну што ж, ты жанаты, ці халосты!

— Халосты!

— Ну, буду жаніць я цябе на сваёй дачцы!

Жаніў Праўду на паненцы. Вяселле згуляў добрае: гарэлкі было тры соткі з палавінай! Пажыў Праўда гады два і кажа:

— Тата, я пайду ў сваё сяло!

Кароль яму пазволіў. Ён сабраўся ехаць, просіцца і паненка ўслед. Ён узяў з сабой і жонку і паехалі ў сваё сяло.

На дарозе сустрэўся ён з Крыўдай. І ён Крыўду ўгадаў, а Крыўда яго не ўгадала.

— Здароў, Крыўда!

— Здароў, здароў, ваша сыяцелства! Толькі я не ведаю, хто вы такія ёсцека?

— А ці ведаеш ты Праўду, што ты ёй вочы калоў?

— Ведаю, ведаю!..

Стаў на каленцы і ўмаляе богам:

— Прасці мне, што я табе здзелаў!

— Не бойсь, не бойсь, не будзе нічога. Я й табе нараю так. Ідзі вот у гэты лес і нойдзеш сцежку. Пойдзеш ты гэтай сцежкай і нойдзеш ты ручаёк. Памыеш вочы і глянеш удоўж ручайка — убачыш бальшога дуба. Узлезь на яго і заначуй!..

Крыўда гэта здзелаў усё, што казала Праўда. Зляцеліся змяйё пад дуба на ноч. Адзін кажа:

— Я там быў!

Другі кажа:

— Я вот там-то быў!

А трэці кажа:

— А я, брат, што тады казаў, дак тое ўсё і здзелалася:

нехта найшоўся такі, што ўзяў мяне да й выгнаў. Ці не сядзіць, брат, тут хто на дубе, ці не слухае ён, што мы расказуем?

Узяў змей і ўзлез на дуба.

— Э, брат! Дак гэта ты тутака сядзіш і ўсё слухаеш, што мы кажам!

Узяў яго за каўнер і скінуў яго з дуба.

Рассыпаўся ён на семсот кускоў, і здзелалася семсот шынкоў. І цяпер у іх гарэлку п'юць.

## 100. [КРЫЎДА І ПРАЎДА]

Жыла гэдак Крыўда і Праўда ўмесце. Але нарáдзіліся яны пай[с]ці абы-куды ў свет. Ішлі яны, ішлі, але захацелася Праўдзе есці. Тады Праўда кажаць:

— Ці ведаеш што, Крыўда?

— А што?

— Ды во што: я есці хачу!

— Праўдзішняя праўда! Вот праўда, дык праўда!

— А чыё ж мы будзем есць?

— Будзем сабе тваё есці,— кажаць Крыўда.

— Ну, будзем!

Пад'елі яны Праўдзінага і пайшлі далі. Ішлі, ішлі, узнова захацела Праўда есці.

— Ці ведаеш што, Крыўда?

— А што?

— Ды я есці хачу!

— Праўдзішняя праўда! Вот праўда, дык праўда, што есці хочацца!

— А чыё ж мы будзем есці?

— Ды будзем ужо тваё даядаць!

Выняла Праўда сваё, і з'елі ўдвох. З'елі і пайшлі далі. Прайшлі яшчэ троху, Праўда ўзнова захацела есці і кажаць на Крыўду:

— Я есці хачу, давай цяпер будзем тваё ес[ц]ь!

— Не,— кажаць Крыўда,— я не дам свайго есці!

— Во, праўдзішняя крыўда! Вот крыўда, дык крыўда: як маё, дык ела, а свайго не хочаш даць мне!

— Ну ўжо, калі дасі вока выкалаць, дык дам есці!

Праўда думала, думала: як тут здзелаць? Есці дужа хочацца, хоць ты ўмірай.

— Ну, на,— кажаць,— калі!

Крыўда выкалала вока і дала Праўдзе есці. Пад'елі яны Крыўдзінага і пайшла далі. Ішлі яны цяпер доўга, але захацелася ўзнова Праўдзе есці.

— Ці ведаеш што, Крыўда? — кажаць яна.

— А што?

— Ды каб ты знала, мне ес[ц]ь хочацца!

— Праўдзішняя праўда, што есці хочацца! Вот праўда, дык праўда!

— Ну, давай жа будзем есці тваё!

— Не, не дам!

— Вот праўдзішняя крыўда! Вот крыўда, дык крыўда: як маё, дык паелі ўдвох умесце, а свайго дык вот цяпер не даеш мне!

— А дай, выкалю другое вока, дык дам ес[ц]ь!

Праўда заплакала ды думаець: як ба здзелаць? А есці хочацца, хоць умірай.

— На,— кажаць,— калі!

Выкалала Крыўда другое вока Праўдзе і дала ёй есці. А пакуль яна ела, дык Крыўда яе і кінула, а сама пайшла далі.

Праўда пад'ела ды тутыцькі і асталася, бо куды іці без воч? Ляжала, ляжала на 'дным месце і заснула. І саснілася Праўдзе ўва сне: «Паўзі ты, Праўда, на расу ды жменькай расы на вочы ўзлі!»

Прашнулася Праўда, папаўзла на траву і ўзліла жменькай расы на вочы. То бачыла Праўда харашо, а то стала бачыць яшчэ лучча! Пайшла Праўда далі. Ішла, ішла, відзіць, стаяць у бару калоды з пчаламі. Праўда хацела ўзяць з'есці мёду, а пчолы кажуць:

— Няруш нас! Мы табе некалі будзем знадобны!

Праўда падумала, падумала: а можа і праўда, можа калі яны будуць знадобны! Мінула яна гэтых пчол і пайшла далі. Прайшла далі, ес[ц]ь ёй хочацца! Бачыць яна гняздо на дзераве. «Палезу,— думаець,— хоць птушыных яец пад'ем!»

А птушка кажаць:

— Няруш майго гнязда! Я табе некалі буду знадобна!

Праўда падумала, падумала: а можа і праўда, можа калі яны знадобяцца! Пакінула гняздо ды й пайшла. Ішла, ішла, зайшла ў хальварак, ажны там Крыўда ўжо стала за лакея. Наняў пан Праўду к сабе за 'канома. Ну, Крыўда ўвазнала Праўду, а Праўда ўвазнала Крыўду. Жылі яны, жылі, але Крыўда думаець: як бы тут зжыць Праўду? Думала, думала Крыўда, але

надумалася. У пана не было дяцей, і пан дужа хацеў дзяцей. Тады Крыўда-лакей пайшоў к пану ды кажаць:

— Паночак, наш аканом казаў, што ён можаць даставіць вам дзяцёнка!

Прызваў пан аканома:

— Дастаў,— кажаць,— мне дзяцёнка!

— А йдзе ж мне яго ўзяць?

— А дзе хочаш! Мне што за дзела!

Выйшаў аканом на двор і плачаць. Ажны ляціць птушка:

— Не плач,— кажаць,— будзець табе дзяцёнак!

Паляцела бог ведаець куды на поле, ухваціла ў бабы дзяцёнка і прынясла к аканому. Аканом яго і аддаў пану.

Тады Крыўда ўзноў набунтавала пану:

— А паночак, наш аканом казаў, што ён за ноч цэркву выстраіць, толькі званоў не пачэпіць, і пераксціць гэтага рабёнка!

Пазваў пан Праўду:

— Пастрой,— кажаць,— мне цэркву за ноч, толькі званоў не вешай, і пераксці гэтага рабёнка. А калі гэтага не здзелаеш, дык я цябе з свету збасую!

Выйшла Праўда на двор ды як заплачацца! Ажно ляціць пчала:

— Ня бойсь,— кажаць,— усё будзець гатова, толькі ідзі спытайся ў пана, ідзе цэркву стнавіць?

Пан сказаў пастнавіць цэркву на пагорку. Тады пчолы як узяліся і пастнавілі цэркву з вузы. Назаўтрага ідзець пан з Крыўдай у цэркву, нясуць рабёнка. Увайшлі ў царкву — ў цэркві ўсё чысценька ёс[ц]ь. Пераксцілі с рабёнка; пан аддаў яго Праўдзе дамоў занесці, а сам з Крыўдай застаўсь у цэркві, разглядаваць цэркву. Хадзілі, хадзілі, а соўнійка прыгрэла — вуза і растала. Цэркаўка паваліласъ, яны там у вузе і прапалі. А Праўда засталася ў тым хальварку жыць-пажываць.

## 101. ЧОРТАВАЯ МАЦЬ

Жыло сабе так два браты: адзін быў багаты, а другі бедны, ён яго і за брата не счытаў. Вот і злучылася ў багатага вяселле. Пазваў ён і яго на вяселле; толькі счот тэй, што пазваў!

Ну, бедны, як ні стараўся, выстараўся хлебец і пайшоў к яму на вяселле. Прыйшоў да й стаіць у парозе, а багатыр часту-

ець гасцей і не глядзіць на брата. Бедны падышоў, пацалаваў яму ў руку і гаворыць:

— Прымі, брацец, мой хлебец!

А ён гаворыць:

— Ідзі к чортавай мацеры!

Ён заплакаў і пайшоў дамоў к бабе і гаворыць:

— Паслаў мяне брат чортавы мацеры іскаць!

Узяў ён тэй самы хлебец і пайшоў. Ішоў, ішоў, прыйшоў у лес. А там стаіць хатка. Ён прыйшоў у хатку, а там баба.

— Чаго ты прыйшоў сюды?

— А чаго ж? Паслаў мяне брат чортавы мацеры іскаць!

Яна кажаць:

— А я сама ёсць чортавая маць!

Аддаў ён ёй хлебец, яна яму і гаворыць:

— Ну, ідзі ж к мору, а там абярнутых тры лодкі. Ты падлезь пад лодку і слухай, хто што будзець гаварыць!

Ён пайшоў, падлез пад лодку і сядзіць. Ідуць тры пары чарцей. Першая пара гавораць:

— Вот я сянні здзелаў штуку: у царскія дачкі жаба!

— А як бы гэта направіць?

— А вот як: узяць падняць у мосце доску, масніцу, а там лягушка караватая. Узяць яе, раздзерці і вымазаць язык. Яна і паправіцца!

А другая пара гавораць:

— А я здзелаў штуку: пруд малоў на сем камянёў, а цяпер стаў і не мелець.

— А як яго направіць?

— А вот як: узяць кол асінавы і ўдарыць аб камень, і пойдзець малоць!

А трэцяя пара гавораць:

— А я штуку здзелаў: вада, дзе была — у рэчках, вазяра́х, у балотах — усюдах перасохла!

— А як яе направіць?

— А там на полі стаіць куст лазовы. Узяць за віхор яго калануць, і пойдзець вада!

Даў бог дзень, вылез ён з-пад лодкі і ідзець. А тут за дахтарамі ездзяць, шукаюць, хто б вылечыў царэўну. Ён і гаворыць:

— Я дам рады!

Тут яго сыйчас узялі, прыставілі к цару. Ён падняў масніцу, там сядзіць лягушка караватая. Ён узяў яе, раздзёр і вымазаў язык. Яна і паправілась. Далі яму платы, скольні яго змога, і

запраглі тройку лашадзей і вязуць яго. А тут ходзяць, плачуць...

— Чаго вы тужыце?

— Да во пруд малоў на сем камянёў, а цяпер стаў.

— Ну, я напраўлю!

Узяў кол асінавы, як даў па камяню, і пайшло малоцца. Заплацілі яму і тут харашо. Едзець ён дальшы, а тут уміраюць без вады.

— Ну,— кажаць,— пастой, я напраўлю!

Пайшоў на поле, а там стаіць куст лазовы. Ён узяў яго за віхор, як калануў — і пайшла ўсюдах вада. Яму й там заплацілі добра. Прыехаў ён дамоў і стаў багаты.

А тэй жа багатыр пазавідаваў яму і так жа сама пайшоў ■ мору і падлез пад лодку. Прыляцелі чэрці і гавораць:

— Вот, братцы, мы што паддзелалі, нехта й пааддзелаваў. Ці не быў хто тут?

Адвярнулі лодку, а там багатыр ляжыць. Яны яго й расцярзалі на частачкі.

## 102. ПРА БЕДНАГА І БАГАТАГА БРАТА

Жылі брат бедны і багаты. Вот багаты сабраў ужо ■ сабе гасцей, прыйшоў і бедны брат гэты к яму. Ён яго і за сталом дажа не пасадзіў. Пасадзіў ідзе скрайку. Ну, усе пілі, пілі, тады ён:

— Ай, што, брат, я цябе пашлю к кадуцкай мацеры.

Бедны брат кажа:

— Ну і што ж? Пашлеш, дак пайду.

Вот бедны гэты сабраўся і пайшоў. Ішоў, ішоў па дарозе, стаіць хатка на курынай ножцы, на сабачай галёнцы. Ён у тую хатку, там баба бліны пячэ, ■ носа юшка цячэ.

— Добры дзень, бабка!

— Добрае здароўейка. Куды ідзеш?

— А іду к кадуцкай мацеры.

— А гэта я!

Ну вот.

— А што ты хочаш?

— А што ты пасаветуеш і мне?

— Пасаветую? Ты хочаш, каб я пасаветавала. Ну, пададжжы, пасаветую. Вот, дзетка,— наклала яму хлеба, не к яму,

а бліноў к яму. А ён цераз бліны хлеба дастае. «А-а! Вот гэта бедны чалавек, хлебца хоча. Як каторы сыты, дык бліны дастае, а каторы галодны — тэй хлебца». Тады:

— Ну вот, дзетка, на, павячэрай і ідзі,— кажа,— к сіняму мору начаваць. У мяне не начуй.

Ну, павячэрацъ дала яму, ён павячэраў, пайшоў, лёг там для мора. Пеўні сталі пець — адзін вылажуе, другі вылажуе з мора, трэці.

А яна яму сказала:

— Ты,— кажа,— пад човен лажыся, там човен, ты пад човен лажыся.

Вылезлі яны і селі на човен на гэты, тры гэтых. Тады адзін кажа:

— Ты дзе быў, што новае чуў?

— А што новае? Вот,— кажа,— два браты б'юцца, забіваюцца: памёр бацька і не сказаў, ідзе грошы. А грошы,— гэты кажа,— у гумне ў мякіне. Адзін кажа — ты забраў грошы, тэй — ты, а яны не знаюць, бацька ім не сказаў.

Другі кажа:

— А я ў такой дзярэўні быў, што вады няма. А там запраста вады дастаць. Там сасна стаіць,— кажа,— на кручы, і тую сасну толькі выверну́ць, і вады будзе сколькі каму трэба.

А трэці кажа:

— А я быў у таком месце, у пана. А панова жонка забалела. А чаго яна забалела? Яна прычасць узяла і прыйшла кашлянула, а лягушка,— кажа,— тую прычасць падабрала. Вот толькі тую лягушку найсці, разадраць, аддаць пані тую прычасць, і пані як гром будзе.

І певень запеў. Яны шчаўбок, шчаўбок у мора і палезлі.

Ну, прыходжуе ён ужо к бабе той.

— Ну, што ты, дзетка, чуў?

— А, бабушка, чуў навасцёў багата.

— Ну вот, ты чуў, от ідзі цяпер па гэтых па дзярэўнях. От ідзі ў гэту дзярэўню, дзе вады няма, і скажы людзям, што дайце коні, мы сасну вам выверне́м і вады вам будзе сколькі трэба.

Пайшоў у тую дзярэўню.

— Пусціце нанач,— зайшоў,— пусціце.

— А ў нас, галубок, вады няма.

— А я вады вам дастану.

— О-о! Як дастанеш, мы табе заплоцім харашо, толькі дастань, а то ў нас вады саўсім няма.

— От у вас,— кажа,— на кручы сасна стаіць. Давайце

столькі і столькі коні, зачэпім вяроўкамі і вывернем, і вады будзе вам сколькі хочаш.

Вот яны сабралі коні і вяровак і к той к сасне зачапілі, коні гэты як ірванулі, так вада гэта як пакручэла, як пабегла. І госпадзі, вады ўжо сколькі хочаш.

— Ну што, мы табе заплоцім.

І хлеба далі, і грошы яму далі.

Пайшоў к пану. Прыйшоў.

— Паночак, каб ты,— кажа,— пусціў мяне нанач.

— От, мой галубочак, у мяне няшчасце, мая жонка бальная.

— А я вылечу табе.

— У-у! Дык мне ж гэткі і трэба, што вылечыць.

— Толькі,— кажа,— вот я астануся, яна да я ў комнаце, а так усе з комнаты штоб выйшлі.

— Пажалуста.

Ну, прыйшоў ён і яна толькі.

— А то няхай сабе й яна выйдзе, а я адзін.

Палез, тую лягушку шукаў, шукаў, найшоў, разадраў, тую прычасць у ложачку. Тады яна ўжо прыйшла, ён даў ёй, яна ўзяла праглынула і здарова стала. Пан і хлеба, і грошы надаваў яму.

Ну, пайшоў у тую дзярэўню, дзе два браты б'юцца. Ідзець, яны б'юцца, забіваюцца.

— Чаго, хлопчыкі, б'яцёся?

— А-а! Гэта чаго бацька наш памёр, дак я на яго кажу, што ты грошы забраў, а ён на мяне кажа, што ты грошы забраў.

— Дак вот, і ты не браў, і ты не браў, а я знаю, дзе вашы грошы. Вядзіце мяне, дзе ваш двор, і ■ вам найду.

— О-о! Толькі найдзі нам грошы, мы табе дадом багата грошай.

Пайшлі яны, павялі яго, ён пайшоў, там дзе мякіна. Ён у тую мякіну, капаўся-капаўся — найшоў.

— Во вашы дзе грошы.

— Ой! Дзядзечка, спасіба табе, мы табе дадом грошы.

І далі яму грошай багата. От, ён ужо пасабіраў гэта і ад пана, і з тыя дзярэўні, дзе ваду, і адсюля гэта ўсё і грошы і хлеба — павёз дамоў. Прывёз, тады адправіў свайго хлапца небальшога.

— Ідзі к дзядзьку (к брату яго, каторы адправіў яго ■ кадуцкай мацеры). Няхай дасць дзесятуху памерадь, сколькі я хлеба прывёз і грошай.

Вот ён пайшоў:

29. Зак. 265 

— Дзядзька, дай-ка нам дзесятухі. Папа наш багата прывёз хлеба і грошы.

Ён даў. Ён пятачкоў яму наторкаў за абручы і прынёс.

— На,— кажа,— во і табе.

— А брат ты мой, ідзе гэта ты?

— Ідзе! Ты ж паслаў мяне к кадуцкай мацеры, я й пайшоў. Вот там ■ і разжыўся.

— Стой! Дык і ты мяне пашлі.

— Пажалуста,— кажа,— пашлю. Пайшоў ты,— кажа,— к кадуцкай маці.

— І пайду.

Пайшоў той жа самай дарогай, у тую хатку зайшоў, к той бабе.

— Добры дзень, бабка!

— Добрае здароўейка! Куды ідзеш?

— А іду к кадуцкай мацеры.

— А дак гэта ж я!

— А-а!

Ну, ды паклала хлеб, а бліны далей, а ён цераз хлеб да бліны дастае. «А-а! Во гэта сыты, ты не галодны. Што хлеб ляжыць, ты не хлеба, а бліноў хочаш». Ну, што ж дзелаць? Дала есці, пад'еў ён.

— От павячэрай і ідзі,— кажа,— к сіняму мору, там човен, ты пад човен лажыся. І там ты начуеш.

От, ён пайшоў, лёг. Апяць з мора шчаўбок! шчаўбок! вылажуюць утраіх. Садзяцца на човен. Садзяцца, тады:

— Ну, балакі-балакі, панюхаем табакі, і што мы гаварылі, то ўсё,— кажа,— адкрылася. Ці не ляжыць тута хто пад чоўнам?

Палядзяць — ажно ляжыць. Яны за яго ды ў мора. І ён утапіўся. От і казка ўся.

## 103. ПРА ДВУХ БРАТОЎ

Было ў чалавека вяселле. Ён пазваў брата на вяселле. Брат бедны, а ў багатага вяселле было. І ўжо ж гэты бедны спёк аўсяную перапечку да й пайшоў на вяселле да й стаў у парозе. Брат жа на яго не пазірае, што гэта ён прыйшоў на вяселле, толькі ўжо багатых глядзіць. Гэты ж брат ужо стаяў, стаяў, стаяў, ён на яго нічога не акажа, ужо з таею аўсянаю перапеч-

каю. Нічога не акажа. Дак ён думае: «Дай я падчаплю. Мо ён мяне не бачыць». Ён узяў да й падчапіў. Той ужо кінуўся да й кажа:

— Ідзі ж ты к чортавай матары з сваёй перапечкаю!

Ну, той ужо бедны ўзяў і пайшоў дарогаю. Ідзе дарогаю, ідзе, ідзе баба.

— Куды ж ты ідзеш?

Ён кажа:

— Быў у брата на вяселлі. Ён мяне,— кажа,— паслаў і к чортавай матары з сваёю ўжо перапечкаю. Дак я іду дарогаю шукаць чортавай мацеры, каб аддаць гэту перапечку.

Яна кажа:

— Ну, добра. Давай мне гэту перапечку. А ты ідзі пад човен ляж. Мае сыны ночы прыляцяць, толькі ж маўчы, і будуць гаварыць, а ты добра слухай.

Ён пайшоў, пад чоўнем лёг. Прылятае ўночы тры ўжо сынэ тае бабы і гавораць:

— От, там робяць мост. Ніяк не зробяць мосту. Я ночы прылячу, як свісну, усё і раскідаю.

А другі ўжо кажа:

— А панская дачка хворая, саўсім хворая. Пан поўна грошай бы даў, каб хто яе адлячыў. А ніхто не ведае. Яна як была ў цэркаве і прычашчалася, яе як таўканулі, так у яе з рота прычасце выпала. Дак чарапаха ляжыць пад памостам і з'ела тую прычасць. Чарапаха вельмі таўстая й вялікая расце, а панская дачка сохне.

Ну, ён жа і гэта чуе, гэты ўжо пад чоўнем. Дак кажа трэці:

— От каменне ляжыць, а пад тым жа каменнем кацёл грошай ляжыць. І ніхто не ведае. Каб хто гэта каменне падняў, там кацёл грошай.

Ну, ён ужо гэта ўсё выслухаў і пайшоў дамоў. Пайшоў дамоў, прыходзіць дамоў да на дзеўку ўжо кажа:

— Ідзі к брату, папрасі шаснасткі.

Дзеўка прыйшла:

— Дзядзька, дай шаснасткі.

Дак ён:

— А што вы там будзеце мераць?

А яна:

— Да не ведаю, што будзе тата мераць. Нешта будзе.

Ён ужо кацёл грошай прывёз. Ён памераў тыя грошы, кругом абручоў натыкаў ужо грошы да й на дзеўку кажа:

— Ты ж цераз парог кінь, каб усё й пасыпалася.

Дак яна, дзеўка, прыйшла, да як кінула, грошы і пасыпаліся. Гэты ж ужо багаты бяжыць.

— Дзе ж ты ўзяў? Дзе ж ты набраў гэтак грошай?

Ён кажа:

— А ты ж мяне паслаў к чортавай мацеры, паслаў, дак я,— кажа,— пайшоў да і разжыў грошай.

А бедны брат пайшоў і к пану.

— Пан,— кажа,— я тваю дачку адлячу.

Пан кажа:

— І-і, чалавечак! Што хочаш, чалавечак, дам, колькі хочаш грошай дам, толькі дачку ўжо адлячы.

Ён пайшоў у цэркаў, задралі памасціну, задралі памасціну, вынулі чарапаху, тую ўжо прычасць абмылі. Тая дзеўка з'ела, яна і палепшала. Пан поўна грошай даў. Ён пайшоў, дзе мост робяць.

— Што вы мне дасцё? Я вам нараю, мосту не парве. Забіце асінавы часнок (часнок — гэта ж у мосце часнок б'юць). Забіце асінавы часнок, будзе вам мост стаяць.

Яны тожа яму поўна грошай далі. Брат думае: «Пажджы ж, калі табе за аўсяную перапечку толькі-то далі грошай, а я ж спяку пытляваную і пайду, і мне ж будзе!»

Спёк ужо брат той багаты пытляваную і пайшоў дарогаю. Пайшоў дарогаю, ідзе баба.

— Куды ж ты ідзеш?

— О-о, мой брат хадзіў з аўсянаю перапечкаю, а я спёк пытляваную.

Яна кажа:

— Ну, давай жа мне пытляваную. Ідзі пад човен, ляж і слухай, што мае сынэ будуць гаварыць, толькі ж маўчы,— гэта ўжо на багатага.

Той лёг пад чоўнем, прылятаюць ужо гэтыя сынэ.

— І-і! Няўжо ж хто тут быў? Ужо панская дачка палечана, ужо і каменне развернены, ужо і золата дастана. Ужо і мост — я сёння свістаў, свістаў ля моста — нічога не ўзяць моста! Ужо асінавы часнок забіты. Няўжо ж хто пад чоўнем быў?

Дак ён кажа:

— Хто ж быў? Мой брат быў!

Дак яны:

— А-а! Калі брат твой быў,— адвярнулі човен і задушылі яго.

От, брат брату дабра не думае.

# 104. ШЧАСЦЕ І ГОРА

Жылі сабе так два браты. Адзін з іх быў вельмі багаты, а другі бедны. Пайшоў раз бедны папрасіць у багача каня поле папахаць, а багач яму і кажа:

— Ідзі сабе вазьмі, да глядзі не змуч.

Во бедны і пайшоў. Толькі выйшаў за гумны, ажно коні тут і ходзяць. Стаў ён забратаваць каня, а нейкі чалавек падышоў к яму да і не дае. Бядняк і пытае ў яго:

— Што ты за чалавек такей, што мне каня майго брата не даеш?

А тэй яму і кажа:

— Я Шчасце брата твайго.

Во бядняк і пытае ў яго:

— А дзе ж маё Шчасце?

— Вон там пад кустом ляжыць у краснай сарочцы.

Бядняк узяў добры кол да й пайшоў к кусту, глядзіць, ажно вялікі чалавек ляжыць расцянуўшы. Бядняк падышоў да як трэсне яго па баку, да і кажа:

— Што ж ты тут ляжыш, а?

Тады як падхопіцца тэй чалавек да і кажа:

— Ой, не бі ты мяне, я не прывык зямлю пахаць, а калі ты хочаш, так ідзі да прадавай што, я табе тады буду памагаць.

Бядняк кінуў каня да і пайшоў дамоў. Тады ўзяў ён новы жонкін андарак, пайшоў на базар і прадаў яго за два цалковых, а другі купіў за паўціннік да яшчэ прадаў; так ён нядзелі дзве папрадаваў і зарабіў багата грошы, купіў сабе там у горадзе двор і сялібу да і стаў перавозіцца. Забраў усё да хацеў з хаты ісці — чуе, нехта плача. Во ён і пытае:

— Хто там гэта?

— Я,— кажа.

— Хто ж ты такей?

— А Гора тваё.

— Чаго ж ты плачаш?

— А што ты мяне не бярэш з сабой?

— Цыц жа! Не плач, я вазьму — лезь во ў гэту скрыню.

Гора ўлезла, а бядняк узяў замкнуў скрыню да і закапаў, а сам паехаў і стаў жыць багачом.

Прыехаў раз к яму яго брат у госці да і пытае:

— Чаго, брат, стаў такі багаты?

А ён і кажа:

— Я Гора закапаў у зямлю.

— Дзе?
— А на старым дворышчы.
Багач і рад, што бядняк сказаў яму, дзе ён закапаў. Прыехаў ён дамоў да і адкапаў і кажа:
— Ідзі ізноў к майму брату.
А Гора яму кажа:
— Не! Твой брат чалавек ліхі, а ты добры, што мяне адкапаў,— я к табе і пайду.
Хацеў ён ізноў паймаць да закапаць, а Гора і не відно стала. Тады збяднеў зусім багач, а бядняк разбагацеў.

## 105. ДОЛЯ АРАТАГА І КУПЦА

Вот сабе былі два браты. Падзяліліся яны. Адзін дужа багаты быў, а другі бедны. Багаты мені робіць, да багата жывець. Доля служыць, а бедны робіць, робіць і нічога не маець. Ну, раз была ў багача талака: жалі жыта, складалі снапы. А беднякова стаіць не жата. Назаўтрага бядняк выйшаў на поле, сцярэч свайго жыта, рана, дужа рана — зарою. Сматрыць — ходзіць па багачовай ніве чалавек то які, сабіраець калосся і кладзець у снапы. Ён падышоў, бедны той, да й ухапіў яго за каўнер:
— Хто ты такі?
Ён гаворыць:
— Я братняя Доля!
— А мая дзе?
Яна гаворыць:
— Ляжыць твая Доля пад ябланькай у паповым садзе, у красным жупане. Калі,— гаворыць,— яблачка пападзець у рот, дак яна з'есць, а не пападзець, дак і так жывець!
— А што мне дзелаць з ёй? — гаворыць.
— А вазьмі бізун, ідзі ў папоў сад, спаймай яе да й задай ёй бізуном харашэнька. Дак яна табе скажаць, з чаго жыць!
Ён узяў бізун, пайшоў. Ляжыць яна пад ябланькай дагары. Ён падышоў к ёй паціхоньку, паймаў яе, як задаў ёй бізуном харашэнька, разы тры ці пяць даў, гаворыць:
— Братняя Доля на ніве ходзіць, калосся сабіраець, а ты што?
— Я так не хачу!
— А як жа ты хочаш?

А йна атвячаець:

— Я не хачу пахатай, а хачу занімацца купцом! Ідзі на торг, купі лык хоць на тры капейкі і пляці лапці — будзем купчуваць!

Цяпер паплёў ён тыя лапці. Прадаў лапці,— што аддаў тры капейкі, то ўзяў злот. Гэта Доля памагаець яму. Цяпер апяць купіў за злот лык; тыя паплёў — прадаў за палцінніка.

Цяпер яна гаворыць яму:

— Зрандуй лаўку і таргуй-ка вот луццямі.

Вот ён што купіць за пятак, прадасць за грывенік — і стаў багаты-разбагаты купец, і цяпер купчуець.

## 106. ЛІХАЯ ДОЛЯ

Жылі-былі два браты, два родныя браты. Яны разам радзіліся, разам хрысціліся, адзін бацька з маткаю іх гадаваў, да не аднакую ім бог долю даў. За што старшы ні вазьмецца, усё яму ймецца. А малодшы што ні робіць, як ні б'ецца, а яму нічога не даецца. Памёр бацька, а за ім і матка. І пайшла паміж братамі звадка. Мо яны яшчэ й ужылі б у ладу, да праміж жанкамі няма сладу. Як дзве маткі ў уллі, так і дзве жанчыны ў хаце не ўжывуцца ціха да робяць ліха; перш праміж сабою падзяруцца, потым к мужыкам прыстануць. Тыя цераз баб і самі памацуюць лбамі.

— Ну, братко,— сказаў тут брат малодшы,— чым праз баб нам нагдырацца да не ў згодзе жыць, толькі богу грашыць да людзей смяшыць, давай лепей не сварэмся да па праўдзе падзялемся.

— Добра, браце, кажаш,— старшы брат на тое абазваўся да й за падзел узяўся.

От шчабечуць бабы, бы сарокі; а браты як трэба падзялілі ўсё ад ніткі да кусочка хлеба. Ціха разышліся да [redacted] жывуць браты, гаруюць да працуюць, зарабляюць хто як можа на кусочак хлеба. Большы брат што дзень, то багацее, а малодшы, як ён ні працуе, а што дзень, то ўсё бяднее. То карова голаў падвярнула, то ў жанчыны села скула: некаму ні жаць, ні абед падаць. Кожын дзень — няўзгода, кожын крок — прыгода.

— Боская воля. Такая,— кажа,— мая доля.

От гэ ж меншы брат біўся, біўся да й саўсім пражыўся. Трэ торбу на плечы браць да куські збіраць. Баба лае, зневажае;

сваякі дзьмуцца, суседзі смяюцца. Калі долі няма — пніся, не пніся, нічога не парадзіш, хоць ты засіліся. От ідзе раз бедны, бачыць, аж брацiха — няма ёй ліха — на палянцы жыта дажынае, а пад хрэшчыкам яе калышку дзевачка хістае.

— Дзевачка, чыя ты? — бедны тут яе пытае.

— Дзянніна я доля,— тая адмаўляе.

Гарэй цяжка беднаму на серцу тое слухаць, тое знаць, што яго доля яму не хоча прыяць. І пацёгся ён па полі шукаць свае долі. От ідзе ён да йдзе з дзялянкі на дзялянку, з палянкі на палянку; сустракае ў гаю пад вярбою старога дзядочка з сіваю барадою. Падышоў, схіліўся да дзядочку пакланіўся. А дзядочак пазірае да й яго пытае:

— Чалавеча божы, чаго тут блукаеш? Чаго па гаю шукаеш?

А ён адмаўляе, што долі не мае та яе й шукае.

— Твая доля — валацуга, па гаю гуляе да песні спявае. На кiёчак да й ідзі па полю, то й убачыш сваю долю.

От, падзякуваўшы дзеду, кій узяўшы ў руку, пайшоў бедны па полю шукаць сваю горкую долю. Ось ідзе да йдзе ён, кругом пазірае; бачыць, аж пад дубам яго доля грае. Бачыць — голая дзяўчына лынды б'е на мяккай траўцы да хістаецца на гольцы. От схапіў бядняк яе за косы да давай пярэсціць кіем, да давай вучыць, як на свеце жыць. Доля просіць, абяцае, што з тае пары яна старэннаю быць мае. От вядзе ён долю голую па полю. Сорам стала без адзежы. Доля цягне к лесу, цягне, каб закрыцца. Увайшлі яны ў гушчэчу да прыселі на калодзе. Бедны кажа:

— Доля, доля, пагаворымо ж мы а прыгодзе.

— Не ўбівайся, не лякайся,— на тое доля сказала да й пацалавала.

Бедны азірнуўся да й ачом не верыць — доля сыпле яму ў полы прыгаршчамі грошы.

— Бяры, не лякайся, спажывай як воля,— кажа доля,— гэта нашы грошы, наш харошы.

Доля знікла, бы туман, а золата ззяе. Згроб яго ён да кішэні да й кажа:

— От цяпер я — пан.

Да й пусціўся да гаспады. Ён ідзе, аж лес гудзе; пад сабою ног не чуе, бо ў кішэні грошы чуе. От з тае пары пачаў ён добра жыць... Гэ ж, бо на свеце толькі той шчасце мае, каму доля спрыяе, або хто сваю долю да ў руках трымае. Бо без ушчунку й ад долі няма ратунку.

## 107. ДОЛЯ І ЗЛЫДНІ

Жылі сабе так два браты: большы багаты, а меншы бедны. Раз бедны пайшоў уранні, шчэ да света, у поле паглядзець, ці няма шкоды. Прыходзе да брацкія паласы, чуе — хтось плача. Падышоў ён бліжай, прыгледзеўся, аж гэта маладая дзеўка, прыгожая, зносе снапы, што коні паразбівалі, і складае іх у копы. Мужык думае сабе:

— Што гэта такое? Сянні нядзеля, а яно работае!

Падкраўся к ёй да за плечы:

— Стой! Ты хто такі?

— А я твайго брата Доля!

— А мая дзе Доля?

— А твая Доля ў лесе пад дубам іграе ў балабайку. Ідзі, дак і пабачыш яе!

Пайшоў той мужык у лес, прыходзе к дубу, аж там сядзіць голая дзеўка, прыгожая-прыгожая, сядзіць да й грае ў балабайку. Ён тады выразаў ладны дубец да падкраўся ззадзі на цыпачках да й ну яе жарыць па спіне хлудзінай!

От, яна заплакала да й кажа:

— За што ты мяне б'еш бязвінна?

— А як цябе не біць: братняя Доля снапы носе, работае, а ты гуляеш, у балабайку граеш, а не памагаеш. Я зусім збяднеў.

Яна тады кажа:

— Я ў гэтым дзеле не вінна: твае дзялы мне неспадрушны. От калі б ты пайшоў к пану да ўзяў каршму на 'рэнду, дак ты б тады ўбачыў, тады б я не йграла, а табе памагала. І ты б быў багацей за брата!

Тады мужык прыйшоў дамоў, прадаў хату і ўсё і пайшоў, зарандаваў каршму ў пана. Стаў складаць худобу сваю на воз, пераязджаць, бач, аж чуе — хтось плача пад печкай у яго ў хаце ў старой.

Ён пытае:

— Хто гэта тут плача?

— А гэта мы, твае Злыдні!

— Чаго ж вы плачаце?

— А як жа ж нам не плакаць: колькі год ты карміў, кукобіў нас, а цяпер пакінаеш!

— Ці багата ж вас тут?

— Багата!

— Дак што ж мне з вамі дзелаці?

— А вазьмі нас з сабой!

— Ну, добра! Палязайце ў бачонак!

Адамкнуў ім барылку, яны і палезлі туды.

— Ну, ці ўсе ўлезлі?

— Усе!

Ён тады ўзяў і забіў шпунт. Узяў тую барылку з сабою да едучы і кінуў у ваду, у рэчку:

— Вот вам, праклятыя! Жывіце тут!

Пераехаў у каршму, і не болі як з паўгода прайшло, эдзелаўся ён сілна багат, куды багацей за брата. Дачуўся гэта большы брат, што ён стаў багацей за яго:

— Дай,— гавора,— жонка, паедам у госці к брату, паглядзім, што йто за дзіва!

Запраглі каня і паехалі. Прыязджаюць туды, брат той рад крэпка-сілна, што хоць раз яго брат к яму ў госці прыехаў. Пасадзіў яго з жонкай за стол, стаў частаваць; падаў чаю, гарылкі, мёду, віна, піва, усяго-ўсякага: і малака, і масла, і сыру, і каўбас, і пірагоў. Брат той дзівіўся, дзівіўся і гавора:

— Скажы мне, пажалуста, як гэта ты скора так разбагацеў?

Той брат з радасці, што ўбачыўся, расказаў яму ўсё чысценька, усю праўду. Ну, тады папілі, паелі, брат той распрашчаўся і паехаў.

Едучы па дарозе, думае сабе: «Дай я зноў напушчу яго тых Злыдняў!» Паехаў к рэчцы, дастаў барылку і пытае:

— Хто тут?

А яны чуць-нячуць прагаворацы:

— Гэта мы, Злыдні твайго брата!

От ён адбіў шпунт:

— Ну, вылазьце! — кажа.

Яны вылазяць, касматыя, не то каты, не то сабакі .

— Ідзіце ж,— кажа,— зноў к майму брату.

— Ой, не, чалавеча,— кажуць,— як мы пойдам к яму? Бач, ён як нас памарыў. Спасіба табе, што ты нас адратаваў, мы луч к табе пойдам ,ты чалавек добры!

І пайшлі. Дак што ж ты думаеш: за паўгода з'ехаў багач так, што і кошкі ў дварэ не асталась.

## 108. ШЧАСЦЕ

Жылі два браты: адзін багаты, другі бедны. Гэты багаты і плашэй работаў, і харашо жыве; ну бедны, кажацца, і харашо работае, а жыве бедна — не шаньдзіць ні ў чом. Так ён, бедны,

устае рана, смотрыць — у брата тая работа ўжо здзелана. Усё брат паперадзі.

Ну, даждалі яны ўрэмя, паехалі сеяць жыта. Потым гэты бедны брат рупіцца, як ба раней устаць і захваціць пярод, пасеяць раней брата — ці не лучча будзе. Прыязджае ён к сваёй паласе шчэ цёмна; чуе — сеецца братава жыта, чвікаюцца зярняты аб сяўно, і не відна хто, цёмна. І так, што не можа ён папярэдзіць брата ні ў чом. Даждалі ўрэмя; урадзіла жыта; багатага — таго лучча, а беднага — хужа. Потым ён послі жніва склаў сваё жыта ў копы. Тое худое і топчацца і травіцца, дык ён пайшоў сцярэч на ноч. А палосы з братам былі ўмесце. Сматрыць — ходзе па братняй паласе бурая карова, сабірае калосся. і па чужых палосах ходзе ды ў багатага брата капу носе. Тады прыйшла й на яго паласу і давай шчыпаць калосся з яго капы. Тады ён, бедны брат, з-за капы! Паймаў за рогі гэту карову і стаў яе наказываць, паймаўшы, цапком.

— Што ты,— гавора,— воўк цябе рэж! Што ты такая за карова: ідзе многа, туды й носіш, у нашых палосах бярэш?

Яна гавора яму:

— Я,— гавора,— не карова, а твайго брата Шчасце!

— Ну што ж,— гавора,— я яшчэ буду цябе біць: укажы,— гавора,— маё Шчасце!

— Да я,— гавора,— укажу і тваё Шчасце, не бі толькі мяне! Ідзі,— гавора,— у такім-то гамонішчы стаіць ліпа дуплінатая. І ў тэй ліпе тваё Шчасце ў карты гуляе з протчымі. Ты йдзі і бяры яго за хахол!

Ён пусціў тую карову і пайшоў к ліпе. Прыйшоў к ліпе, сматрыць — два ліцы гуляюць у карты. Ён тады тое за лоб, што карова ўказала:

— Ты што,— гавора,— у карты йграеш, а на мяне забываеш!

Яна тады гавора:

— Стой, не біся! Ты не тым занімаешся! Я б табе памагала, дык табе не трэба ні пахаць, ні касіць, а табе трэба занімацца таргоўлей!

А ён гавора:

— Чым мне занімацца таргоўлей — грошай у мяне няма?

— Ну вот,— гавора,— на табе на 'сігнацыю два грошы, ідзі на базар і купі сабе, што трапіцца!

Ён прыходзе на базар. Носе чалавек бальшую шчуку прадаваць: перакінуў чэраз плячо і носе прадаваць. Ну, ён, гэты бедны чалавек, думае:

— Што купіць? Купіць ба сабе гэту рыбу — грошай толькі два грошы ў мяне!

Прыходзе к гэтаму чалавеку і думае: куплю, не куплю, а хоць патаргую, што ён за яе просе. І спрашуе:

— Што табе за рыбу?

Ён сказаў там капеек дваццаць ці трыццаць, а ў яго толькі два грашы. Ён кажа:

— Я б табе даў больша, ды няма больша ў мяне. Бяры, калі хочаш, два грошы!

Гэты чалавек насіўся-насіўся з гэтаю рыбаю — не дае больша ніхто, як ён пасуліў. Ён сустракае гэтага чалавека і гавора:

— Больша ніхто не дае, давай два грошы, бяры рыбу, пакармі дзяцей!

Ён узяў аддаў яму два грошы, узяў рыбу. Так ён прынёс гэту рыбу дамой і прыказаў хазяйцы абчысціць і патрашыць. Так хазяйка выпатрашыла яе нутры і бросіла ў карыта. Потым напакарміла семяйство і астальное вынесла вон. Дажыдаючы начы, просяцца к яму нанач два купцы. Ён адказуе ім:

— Я рад пусціць вас, гаспада, дык мая хата гразна лі такіх людзей!

Потым яны адказалі:

— Ну што ж,— гавора,— у дарозе злучаецца ўсяк: ідзе худа, ідзе харашо, аднача нам нравіцца ў цябе пераначаваць!

Ён пусціў іх нанач, згатаваў рыбы, даў павячэраць — прыняў іх, чым мог. Потым яны пагасілі агонь і ляглі спаць. Так із гэтыя рыбы стала асіяць. Яны будзяць хазяіна гэтага:

— Што, хазяін, у цябе гэта ў карыце?

Ён гавора:

— А што ж,— гавора,— я вялеў хазяйцы выбрасіць нутры з рыбы вон, а яна — баба — убросіла ў карыта. Што, можа вам смярдзіць?

Яны гавораць:

— Не, гэта харашо, што яна не выбрасіла, ты нам прадай гэтыя нутры!

Ён гавора:

— Я не знаю, што яны стояць!

Яны гавораць:

— Мы знаем, што яны стояць, мы не хочам цябе абіждаць!

Пасматрэлі яны — у гэтых кішках драгацэнныя камні. Яны яму далі грошай, скolькі яны мелі.

Потым, дзеньгі гэтыя палучомшы, ён узрадаваўся; апяць на-

чаў спраўляць хазяйства, як у брата, купіў хлеба, справіў лашадзей і начаў занімацца, як і брат. Ну, потым, ці многа ці мала пажыў — зжыўся апяць, не шаньдзіць яму. Ну, зжыўся; апяць к ліпе Шчасця шукаць пайшоў.

Як ён прыйшоў, явілася яна яму і гавора:

— Я табе не казала гэтым занімацца!

Дае яна яму валасяную торбу і гавора:

— Як захочаш есць, дык гавары: стол з торбы!

Ну, пайшоў ён дамой. Прайшоў нямнога з гэтай торбай, канешне, есці хочацца, і нада ж палюбапіствавань, што пакажацца з торбы. Так ён сказаў:

— Стол з торбы!

Аяўляецца яму ўсё: хлеб-соль, і піць, і есць — што яму ўгодна.

Ну, потым, пажыў ён з гэтаю торбаю, усім даволен; ну, не відзіць ніхто багацтва. Давай тады з братам мяняць: брат яму даў коней, кароў, усё, а ён брату торбу. Ну, брат разумны, думаець: нашто мне работаць, калі можна не работаючы жыць, і піць і есці. Ну, а тэй з братам прамяняў і 'пяць пражыў усё хазяйства, і 'пяць стаў бедзен. Апяць трэба іці к ліпе прасіць Шчасця. Прыходзе к ліпе, аяўляецца яму яго Шчасце:

— Ну, нашто ж ты ізвадзіў сваю торбу, што я табе дала? Ты быў сыт з сямейсцвам! Хто ж табе вінават, што ты дурак! Учыць цябе трэба. Ну, дала ж я табе валасяную торбу, а цяперыча на табе залатую торбу. З гэтай торбай, як захочаш піць да есць, скажы: «Два з торбы!» А як будзеш сыт, дак гавары: «Два ў торбу!»

Ну, пайшоў ён дамоў. Вот ён прайшоў, любапітна яму. Прайшоўшы і гавора:

— Два з торбы!

Так яўляецца яму два малайца з дубінамі і давай яго карміць дубінамі, у два дручка, што не ўмеў жыць. Пакуль з гэтыя чэсці не ўздумаў сказаць:

— Два ў торбу! — дык яны ўсё яго дулі.

Ну, тады, папотчывалі яны яго, прыходзе дамой ён к брату з тою торбаю. І хваліцца брату:

— Ну вот, брат, тая торба была хараша, што я табе аддаў, ну, а сабе дастаў луччую — залатую!

Тэй давай прасіць яго:

— Давай, брат, замяняем!

Ну, канешне, тэй сагласен. Замянялі.

— Ну, вот жа, брат, на гэту ўжо не кажы: «Стол з тор-

бы!» — а кажы: «Два з торбы!» А як станеш сыт, кажы: «Два ў торбу!»

Вот тэй, бедны, узяў сваю валасяную торбу і стаў жыць харашо. Тэя навучылі два з торбы, як жыць, дос мяняць. І хаэяйства багатага звёў, і торбай залатой яго надзяліў. А багаты стаў рад. Патрэбавалася яму там піць ці есць, вот ён кажа:

— Два з торбы!

Ну, і аяўляюцца два з торбы з дручкамі потчываць; і потчывалі яго, пакуль ён не ўздумаў сказаць:

— Два ў торбу!

Ну, і стаў зжывацца.

## 109. ДОЛЯ

Было два брата: адзін багаты, а другей бедны. У багатага ж рож зарадзіў густэй, а ў беднага плахей. Тады бедны асматрэў — яго копы расцягваюцца, жыта, снапы, а багатага яшчэ паўнеець: то густа было на паласе, а то яшчэ паўнеець. Тады бедны пайшоў сцярэч. Ну, і сматрыць — кот з яго капы сноп цягнець і нясець у капу багатага. Улавіў бедны ката і давай біць яго, нашто снапы цягаець, гаворыць:

— Ён і без маіх снапоў багат, а ты яшчэ мае паследнія цягаеш!

А ён адказаець:

— Я абвязан яму цягаць: я яго Доля!

А ён б'ець гэтага ката ды гаворыць:

— Што ж такое? Ты яго Доля, а йдзе ж мая Доля?

А ён атвяшчаець:

— Твая Доля пад лесам, на камені спіць, мохам зарасла!

Тады бедны гэты чалавек узяў добрую дубіну і пайшоў будзіць сваю Долю. Падышоў к ёй ды дубінай поверху:

— Уставай! Чужэя долі харашо стараюцца, а ты мне ніяк не сстараешся!

Яна яму адказала:

— Мне тут нельзя табе старацца! Прадавай усё сваё імушаства і выязджай у другей горад! Тады я табе ў другім горадзе буду служыць харашо!

Ён прыйшоў і сказаў сваёй жане:

— Прададзім вот сваё імушаства і выедзем у другей горад?

Жана сказала:

— Ну й прададзім і выедзем у другей горад, няхай тут усё астаецца — усё роўна няма ні ў чом шчасця!

Яна гэтаму рада. Тады яны прадалі ўсё, сабраліся і пайшлі. І не ўзялі з сабой ніякога судна. Ну, тады ішлі каля пруду, па грэблі, і захацелі піць. Было ў іх тры малых мальчышкі, дык тэя піць захацелі. І асталося ў іх дома два судны. Тады жонка пасылаець яго ў двор за судзянцом:

— Схадзі,— гаворыць,— вазьмі біклагу!

Вараціўся ён, пайшоў дома, за судзянцом сваім, біклагаю. Прыходзіць ён дома, пішчаць у яго доме, плачуць. Ён гаворыць:

— Хто тут плачаць?

— Мы, Злыдні твае!

— Чаго ж вы плачаце?

— Нашто ж ты нас адных пакінуў? Што мы тут адны будзем дзелаць? Бяры і нас з сабою! — Злыдні ўжо гавораць на гэтага мужыка.

А ён адказаў ім:

— Вас жа многа ёс[ц]ь, усіх я вас адзін не забяру! А калі хочаце, лезьце ў біклагу, я й панясу!

Яны тады паскідаліс мурашкамі і палезлі ў гэту біклагу. Тады ён заткнуў іх там і пайшоў. Сабе думаець:

— Дос жа вам уродавацьǃ

Прынёс на грэблю і закапаў іх там пад вярбою. Прыходзіць к жане і кажаць:

— Забыўся ўзяць судна!

А жана і не знаець, што ён злыдняў закапаў.

— Ну, пойдзем так! — яна ўжо гаворыць.

Тады, чуць яны грэблю перайшлі, так січас аявіўся ім сабачка маленькі. Тады меншы мальчык іх узяў гэтага сабачку на бярэма і рад яму:

— Тат,— гаворыць, — дай яму хлеба!

Потым яны хлеба яму далі, і ён з'еў і пабег наперад іх. А яны ўслед за ім. Захацелі, ідучы, аддыхаць сесць. Удруг сабачка адвярнуўся на бок ад іх і нясець ім партаманец грошай у зубах. Яны грошы ўзялі і рады сталі. І апяць наперад за іх пабег сабачка, а яны ўслед за ім, да самага горада.

Прыходзіць сабачка і к крайняму двару і астанаўляецца. І яны ўслед за ім. Увідзеў яўрэй у вакошка, што яны стаяць, і выходзіць к ім, гаворыць:

— Куды вы ідзяцё, людзі? Найміцеся ў мяне пограб рыць!

Яны січас наняліся рыць у яго пограб. Рыўшы гэты пограб, найшлі кацельчык золата: начала Доля старацца сваім парад-

кам! Тады яны, прыкончыўшы гэту работу, расчыталіся з яўрэем, яўрэй ім заплаціў за труды. Ну, яны, прайшоўшы дальша на горад, абабралі сабе каменны дом і лаўку і адкупілі за гэта золата. Тады сталі жыць.

І разжыўся гэты бедны багачэй таго ўжо багатага. Што купяць — з пользаю, што прададуць — з пользаю. І прыязджаець у гэты горад дзядзька таго беднага, што купцом стаў. Тады ён і давай распрашаваць:

— Як там мой брат пражываець? Скажыце яму, пажалуста, няхай ён у госці ка мне прыедзець!

Ну, а гэты ўжо адказуець:

— Ну, а як вы тут пражываеце?

А ён гаворыць:

— А пойдзем ка мне ў дом!

Ну, ён прыйшоў к яму ў дом і гаворыць:

— Ну, харашо, брат, разжыўся! Як табе бог памог так скора разжыцца?

Ну, пакушаў там хлеба-солі, паблагадарыў яму і адпраўляецца дома. Прыязджаець к тому брату і гаворыць:

— А твой брат харашо разжыўся! Багачэй цябе! І прасіў вас у госці к сабе!

Ну, ён тады сказаў:

— Я к яму не паеду! Ён лянівы чалавек! Быць не можаць, каб ён там разжыўся! Ён лянівы, ён работаць не можаць!

А таго не знаець, што ён багачэй за яго. Ну, але раздумаўся:

— Вазьму паеду! Разведаю, ці праўда гэта, ці не, што ён багачэй мяне!

Ну, прыязджаець у гэты горад і дапытаўся яго дому. Потым прыязджаець к двару — сабачка ляжыць у варотах гэты самы. Ён зірнуў на гэты дом і спугаўся, што гэты дом тры разы даражэй яго дому. І пазнаў гэтага сабачку, што гэта ён ім жывець, што гэта яго Доля. Гаворыць на брата:

— Брат! Забі ты гэтага сабачку! На чорта ён табе?

А ён атвячаець:

— Ах, брат, у мяне есць хлеба хваціць, няхай есць!

А гэты апяць адказуець:

— Дармо што ў цябе хлеба многа ёсць, але забі яго, нашто ён табе?

Ён захацеў свайго брата ўцешыць і прыказаў батраком забіць гэтага сабачку. Ну, тады яны ўдарылі гэтага сабаку, і ён пабег на гэты сарай, а йдзе каровы стаяць. Трапянуў вухам, і

кроў з яго капнула на падцёлку. Гэта цяліца стала ўжо Долею ад крыві, а гэты сабака прапаў. Узнаўшы гэты багач, што цяліца яго Доля, стаў ён слёзна прасіць брата, каб ён зарэзаў і яму сэрца аддаў. Брат тэй гэтага сам не знаець, што гэта цяліца — яго Доля; ён прыказаў яе зарэзаць і выняць із яе сэрца, і зварыць яго, і даць яму пакушаць, і каб ніхто кроме яго не спытываў. Батракі цяліцу зарэзалі, а хазяйка сэрца згатавала. Стала сэрца яму падаваць, а сыны яе падбеглі і сталі прасіць:

— Мама, дай мне! Мама, дай мне! Мама, дай мне! — усе тры.

Яна ім па крошачцы дала. Яны ўсе сталі шчаслівы, долею сталі ім наўсягды. Ну, тады яна яму паднесла сэрца, а ён узнаў, што не ўсё. Тады гаворыць:

— Не, брат, сэрца гэта патронута! Калі б [redacted] ўпярод усіх скушаў, я б тваю долю спажыў, а ты б узнова бедны стаў!

Ну, і стаў спрашаваць:

— Адчаго ты, брат, так скора разжыўся?

А ён яму адказыець у непрыятнасці:

— Я разжыўся харашо! Найшоў грошы, да й множаства, і ад гэтага скора разжыўся! Яшчэ,— каець,— у запасе знаю цэлую біклагу грошай, на грэблі, пад вярбою!

А сам думаець: «Пастой жа! Я табе ўкажу, [redacted] чаго разжыўся! Разжывешся і ты, пагуляеш!»

Потым ён спешна паехаў дома, багаты гэты. А на яго сказаў:

— Ну, шчасце ж тваё, у цябе ўсе тры сыны шчаслівы будуць, цяпер у цябе шчасця ніхто ня 'тымець ніколі!

Прыязджаець дома і сказаў сваёй жане, што [redacted] знаю грошы!

Яна сказала:

— Пайдзём скарэй, адрыем, а то яшчэ хто-небудзь адрыець: ці ён, ці яшчэ хто!

Пайшлі, адрылі, прынята дома. Яны думалі — грошы, ажны там Злыдні. Яны ататкнулі гэту біклажку, а яны — спраўна ўсе адтуль; рады, што іх ататкнулі адтуль, і сталі багатага благадарыць. Ён павідзіў, што не грошы, а Злыдні, просіць іх:

— Лезьце назад!

А яны адказуюць:

— Ах, давольна адзін дурак абманіў! А мы ж відзім, што ты добры чалавек! Мы лучча палезем к табе пад печку і будзем жыць памаленьку!

Ну, тады за год, за два зжылі яго, што не меець і куска хлеба. Тады ён паехаў к тому брату свайму хлеба прасіць — ужо зжыўся саўсім. Ну, брат яму не ўгнявіўся, што ён быў яму лі-

хадзей. А гледзя на яго беднасць, насыпаў яму хлеба і адсылаў яму ў двор. Ну, і так паддзержаў яго да смерці яго. Ну, й на гэтым усё.

## 110. БЯДА

Было сабе двох братоў: адзін вельмі багаты, другі зусім бедны. Багатаму і ў полі радзіла, і ў хляве́ пладзіла, а бедны ці пасеяў што, то прапала, ці пусціў якую жывіну на гадоўлю, то здохла, і ніколі нічога не мог дабіцца. Аднаго разу нідзе ўзяў голу костку і агрызае седзячы сабе, ажно нешта лап! яго за плечы:

— Што ты ясі? Дай мне!

Аглянуўся ён — стаіць неяка страшыдла худое, так ён пытае:

— А хто ж ты?

Яна кажа:

— Гэта я, Бяда!

Так ён:

— Што я,— кажа,— табе дам, калі я сам голу костку грызу.

Бяда прыгледзела, што крышачка шпіку сядзіць у косцы:

— Ты,— кажа,— таго шпіку не дастанеш, а я ўлезу і з'ем.

— На,— ка[жа],— лезь, калі хочаш.

Бяда ў костку па шпік, а ён узяў ды й загваздзіў костку калочкам, ды й занёс на поле, ды й палажыў і вялікім каменем навярнуў. Ад тае пары як пачало яму ўсё шыхавацъ: ці што пасее, то і без бога яму родзіць, ці жывіна, ці гандаль які, проста зрабіўся той багач цёмнік! А брат мала сам се за валасы ні рве з завісці, чаму ён гэтак збагацеў. Упярод брат багаты на яго крывым окам не глядзеў, а цяпер пачаў да яго падлізвацца. Аднаго разу, прыйшоўшы да брата, даўнейшага бедака, пачаў гаварыць то сёе, то тое, а потым кажа:

— Скажы мне, брацішку, што гэта такое, чаму ты даўней яшчэ больш гараваў, а не меў ані хлеба, ані адзетку, а цяпер ты ўсё, богу дзякаваць, маеш? Але-такі не думай, брацішку, што я табе зайздрошчу, хавай божа, я вельмі рад, што ты такі сам багаты, а можа і багатшы ад мяне.

І далей жа налягаці, ці ён не знайшоў якога скарбу. Але той не быў хітры, так кажа яму па праўдзе:

— Калі я, брацішку, сваю Бяду загваздзіў у костку.

— Якую Бяду? — пытае брат.

Так той ад мала да веля расказаў усё як было і сказаў, дзе і пад якім каменем ляжыць костка з Бядою. Брат, гэта выслухаўшы ўсё, за шапку да з хаты, а выйшаўшы за варота, мармытнуў сам да сябе:

— Ого, не дажджэш ты, я табе Бяду выпушчу з косткі, бо ты зара будзеш багатшы ад мяне. Так то ўсе казалі, што я найразумнейшы, бо і найбагатшы, а цяпер зара яго разумнейшым зробяць.

Да і пайшоў проста, дзе тая Бяда ляжыць. Адваліў каменя, костку дастаў, гвоздзіка адаткнуў:

— Ідзі,— кажа,— Бяда, ужэ ты тут намэнчылася!

Тым часам Бяда баялася ісці да даўнейшага сва[й]го пана да пайшла за тым, хто яе выпусціў. Мо праз рок або праз два з брата-багатыра зрабіўся такі бедны, што і свае торбы не меў злажыці, з чым ісці жабраваць. Жывіна яму выздыхала, у полі не радзіла, от і нарабіў сабе зайздросны брат!

## 111. ПРА БРАТА СЦЯПАНА І ІВАНА

Быў брат Сцяпан багаты, а Іван бедны. І гэты брат ужо багаты справіў пір і пазваў беднага ў госці. Дык ён як выпіў, дак і запеў ужо за сталом, бедны. Як запеў, дак і нужда запела. Дак ён ужо пытае:

— А хто-та пяе?

Яна ж кажа:

— А хто? Я, нужда твая, пяю. З гэтага ж ты бедны быў, я ў цябе за плячымі сяджу,— тая ўжо нужда.

Дак ён кажа:

— Ну, калі ж нужда, я табе зроблю калыску і буду цябе калыхаць.

Да зрабіў, выдзеўб палена, узяў дубовыя гваздэ да кажа:

— Ак ідзі.

А яна:

— Я ўжо ў калысцэ.

А ён яе хлоп! на дубовыя гвазды да й забіў тую нужду. Ды й панёс на кладбішча, да й пры Пракопу схаваў тую нужду. Стаў багаты. Ведама, нужду закапаў. Гэтаму ж брату стала завідна.

— Што ты,— брат ужо Сцяпан,— ад майго ты піру забагацеў?

Дык ён кажа:

— Забагацеў. Забагацеў, а бо нужду закапаў.

— А дзе?

— На кладбішчы пры Пракопу.

Ён пайшоў, той ужо багаты, ды й адкапаў тую нужду. Адкапаў нужду да й кажа:

— Ідзі, нужда, мой ужо брат багаты быў. Ідзі к яму.

— А ну яго,— кажа,— к чорту з тваім братам. Ён мяне і так чуць не ўгубіў. — А яна ўжо чуць-чуць жыве. — Добра, што ты мяне адкапаў! — да яму шумелях! к багатаму на шыю. Ён мігам і збяднеў, ужо бяднее, бяднее. Ужо стаў такі бедны, саўсім. Той жа ж патом бедны пытае:

— Што гэта мы з табою пагаварылі, ты ад таго разу стаў бедны?

— А бо ж я бедны, нужду адкапаў.

— А нашто ты адкапаў?

— Ну,— кажа,— а што ты стаў багаты. Дак яна ад цябе пайшла да ка мне.

— Ну, добра. Збяры што якое, збяры, пазаві мяне,— у таго сэрца было, што пагараваў. — Пазаві мяне.

Ён ужо пазваў яго. Дак брат Іван:

— Вот, дарую цябе, брат, кашальком з дзяньгамі, ну не з нуждою.

А нужда ўжо сядзіць у кашальку да кажа:

— А я ўжо ў кашальку!

Дык яны зашчапілі, камень прывязалі да й у рэку, гэта той бедны. А багаты брат от што рабіў. Зайздрасць брала, што багаты. Так ужо другі брат забагацеў, нужду ж закапаў, у рэчку ўтапіў.

## 112. РАЗУМНЫ ТО І ЧОРТА ПАДЫДЗЕ

Адзін хлопчык, узяўшы калясачку, паехаў па дрова; прыязджае ён у лес, ажно бачыць, не[й]кі жабрак стары ідзе да й, падышоўшы, кажа да яго:

— Дзецянятко, падвязі ты мае пасталы туды да таго луга, што е ў лесе, то я табе дам, што ты схочаш.

А той хлопец не дагадаўся, што гэта быў чорт, так кажа:

— То чаму ж, дзядзюшку!

І павёз. Завёз ён туды да таго лугу, скінуў іх, а стары пытае:

— Ну, а што ты хочаш: ці ўглёў, ці грошай?

Так хлапчаня, падумаўшы, кажа:

— Углёў, дзядзюшку.

Так чорт і насыпаў яму мяшок углёў, ледзве завёз дахаты. Прыехаў дахаты, ажно бацька пытае:

— Назбіраў, сынку, дроў?

— Не, тату, я прывёз углёў для вас.

— А скуль ты ўзяў?

Так і так.

— Пакажы, мо што і людзка.

Падышоў стары, развязаў мяшок, аж яму ў вачох зазыяла!

— А то ж гэта,— кажа,— не углі, да грошы!

І гэта пацішко́м занясли́ дахаты да й схавалі, каб ніхто не бачыў (бо даўней, каб двор даведаўся, то і забралі б). После бацька давай яму расказваць:

— Будзем, сыночку, цяпер і мы жыць, як людзі, купім сабе валоў, коні, завядзем гаспадарку — пайшлі і мы ўгару!

Назаўтра бацька паехаў купляць сёе-тое, а хлапчаня, узяўшы сваю калясачку, зноў па дрова да лесу. Едзе ён, так едзе, зустрачае яго зноў той самы чорт, за дзеда прыбраны, і пытае:

— А што, добрыя углі?

— Чаму не, дзядзюшку, добрыя, яшчэ мо е, то дайце такіх.

— Добра,— ка[жа],— сынку, дам табе, анно мне падвязі крыху.

Той сеў, хлопец давай цягнуць: цягнуў, цягнуў — не даў рады. Так чорт кажа:

— То хацямся паварушы з месца.

Так хлопцу аж вочы на́ лаб вылезлі, а такі паварушыў. Тады чорт злез да й кажа:

— Ну, добра, хадзі ж цяпер за мною.

Так хлопец пайшоў і калясачку за сабою павалок. Прыйшлі да таго лугу, чорт насыпаў яму зноў такі мяшок велькі! што ледзь за [ў]весь дзень зацягнуў дахаты. Прывалок нeяк, ажно ўжэ і бацька ў хаце. Так ён кажа:

— Тату, я зноў прывёз такіх углёў.

Стары ўрадаваўся:

— Ну,— кажа,— то хадзем, сынку, хутчэй унясем.

Унясли́, зноў схавалі ў тое месца, паселі і давай бацька расказваць, што ён даў за валы, што за коні і за ўсё разам. А той стары быў надта хітры на грошы, так после кажа:

— Ведаеш што, завядзі ты мне ў тое месца, скуль ты браў гэтыя углі, то мо яшчэ іх набярэмся.

— Добра, татачку, завяду.

Так бацька зараз гэта набраў свецаў з касцёла, ксёнчку ўзяў ад набажэнства і пайшлі. Прыходзяць на тое месца, давай стары запальваць свечкі, а чорт з лугу крычыць:

— Не руш, бо ўдушу!

Але стары не слухае, зноў запальвае, так гэта чорт выскачыў.

— Не запальвай, — кажа,— бо ўдушу!

Стары анно перажагнаўся, адапхнуў яго і зноў сваё робіць. Як ужэ пазапальваў усе свечкі, тады сеў і давай чытаць на ксёнчцы. Чытае, ажно чэрці пачалі выць, вішчаць, скрыгітаць, бо ўжэ і занялася тая смала гарэць, у каторай сядзелі. Ажно тое хлапчаня чыста спалохалася, бо іскры па цэлым свеце разносіла, то яно думала, што і хата іх займецца і ўсё чыста дабро згарыць. Так бацька кажа:

— Не бойсь, дурань! Да све́нчанага дому смала не прыстане.

Ажно, паждаўшы, і чэрці пачалі ўцякаць ■ таго луга па аднам, паперакідаўшыся то ў ката, то ў сабаку. Так той хлопчык узяў кала ў рукі і як чорт бяжыць, то як дасць па вотлях, так і заб'е. Біў ён так усіх, ажно на канцы выбег сам старшы чорт, а хлопец як дасць яму калом, так ён яму пад ногі і рассыпаўся ў горбу золата. Хлопец думаў, што гэта няведама што, да й спалохаўшыся, упаў на зе́млю нежывы. Ідзе ўжэ бацька назад дахаты, шукаючы хлопца, ажно бачыць: ляжыць на дарозе і горба золата каля яго! Так бацька давай яго трасці, турзаць, ён ачуціўся, тады забралі гэтыя грошы, панясл́і дахаты і схавалі. После пайшлі сабе да карчмы, купілі було́к, піва да й то давай есці, піць. Ажно прыходзіць да іх не[й]кі стары жабрак да й кажа:

— Дайце мне што перакусіць, я цэлы дзень нічога не еў. Бог за мяне заплаціць вам.

Так стары кажа:

— Хадзі, хадзі, дзедку, перакусіш і ты. Быў і я калісь такі, як ты,— жабраваў, а цяпер багатыром стаў.

— А як ты збагацеў?

Так і так, і ўсё яму чыста ад канца ў канец расказаў.

— Пайдзі ты,— ка[жа],— да таго лугу, то мо яшчэ і ты набярэшся.

Так ён давай бягом бегчы туда. Прыбегшы, стаў шукаць у

смале, шукаў, шукаў і не агледзеўся, як на ём адзенне загарэлася. Ажно стары гэта ўгле́дзеў, так прыбег, выцягнуў яго з смалы, патушыў той агонь, прывёў дахаты, насыпаў яму поўну шапку грошай да й адправіў у свет.

## 113. ШЧАСЦЕ І НЯШЧАСЦЕ

Быў чалавек бедны: не меў ні снасціны, ні скаціны, а дзяцей меў шмат. Прыйшла вясна, а яму няма чым гараць; людзі ідуць з сахою і скацінаю, а ён ідзе з жалязнікам. Устрачае ён дзве панны, тыя панны былі: адна — шчасце, а другая — няшчасце. Пытаюць яго:

— Куды, чалавеча, ідзеш?

Так ён кажа:

— Панначкі мае, кралеўначкі! Маё такое няшчасце: людзі ідуць з скацінаю, а я з жалязнікам, няма чым пражывіць дзяцей.

Дак тыя, адна з другою гаворачы, кажуць:

— Надарым мы яго.

Дак шчасце кажа:

— Калі твой, то ты яго і надары.

Дак вынялі і далі яму дзесяць рублёў, і сказалі:

— Ідзі дахаты і купі сабе вала.

Дак ён прыйшоў дахаты і тыя грошы схаваў у гаршчок, дзе быў попел.

Назаўтра прыйшла да яго суседка, кума багатая, ды й кажа:

— Чы няма ў вас попелу, бо мае палотна вельмі рудыя.

— Вазьмі сабе, вот у гарнушку стаіць,— сказала беднага чалавека жонка.

Мужык, каторага не было дома, стаў аглядацца і ніяк не ўбачыў гаршка з попелам, ды й стаў на жонку (крычаць):

— Куды дзела грошы з гаршком?

Жонка зачала бажыцца, што не ведала, што там былі грошы, і сказала, што гаршчок узяла суседка-кума. А после мужык (пайшоў) да кумы і стаў прасіць, каб аддала грошы.

Яна кажа, што я не бачыла іх у цябе ніколі. Мужык пайшоў да пана і там не знайшоў справы, бо пан сказаў, што ты грошай ніколі не меў, а хочаш толькі ў яе адабраць.

І так грошы мужыка прапалі.

Плакаў ён, плакаў ды й ізноў ідзе з жалязнікам, аж устра-

чае тыя дзве панны. Ён іх не пазнаў, а яны яго пазналі. А после пытаюць таксама, як упярод, і ён ім таксама адказаў, як упярод, і яны далі яму дваццаць рублёў. Мужык ізноў, прыйшоўшы дадому, схаваў грошы ў гумне ў патруху. Назаўтра прыйшла тая самая кума і зачала прасіць патрухі для цялят. І жонка беднага мужыка ізноў дала патруху, бо не ведала, што там грошы. Мужык, прыйшоўшы дадому, пайшоў у гумно выняць грошы і ізноў не знайшоў. Прыйшоў у хату і стаў сварыцца на жонку:

— Куды дзела грошы з патрухою?

Жонка сказала, што кума прыхадзіла і забрала патруху. Дак той мужык таксама, як упярод, хадзіў і да кумы і да пана, але нідзе не знайшоў справы. Усе казалі, што ў цябе ніколі грошай не было.

Мужык паплакаў ды й ізноў ідзе і спатыкае тыя самыя панны, і яны далі яму толькі два грошы і сказалі:

— Ідзі да рэчкі Немна, там будуць лавіць рыбу, ды й ніяк не зловяць. Ты папрасі, каб на тваё шчасце закінулі.

Ён так і зрабіў. Пайшоў да Немна і папрасіў, каб на яго шчасце закінулі. Як закінулі, дак так многа выцягнулі рыбы, што негдзе было дзець. Рыбакі запыталіся:

— Колькі бы табе даць за гэта?

Ён кажа, што прадайце мне за два грошы.

Яны прадалі адну рыбку за два грошы, а другую далі яму дарам. Мужык, узяўшы тыя рыбкі, пайшоў дадому і аддаў жонцы, каб зварыла. Жонка вельмі была рада з дзецьмі з тых рыбак і не варыла, а палажыла так. Аж ехаў адзін пан чэраз тое сяло; той мужык пайшоў адчыніць варота і зачаў смяяцца, а пан запытаўся:

— Чаго ты смяешся?

Ён сказаў, што ў мяне ёсць такая рыбка: хто на рыбку гляне, то кажды смяецца. Таму пану вельмі захацелася рыбкі, і за тую рыбку даў мужыку пару валоў, пару коней і [с]толькі збожжа, колькі мужык хацеў.

І так мужык знайшоў сваё шчасце ў двух грошах.

## 114. ДОХТАР

Неўкаторым царстве служыў стары салдат дваццаціпяцілетнюю службу. Наканец выслужыўся ён, і было ў яго чатыры дзенежкі. За 'дну дзенежку для таварыша ўзяў гарэлкі на рас-

пращчэнія, як яму дамоў трэба іці. Асталося ў яго тры дзенежкі, і пайшоў ён з імі дамоў. І была ў яго балалайка, і ён умеў іграць на яе. Ну й выправіўся на такія сцяпа́ непрахадзімыя, што няма нікога: ні дзярэўні, ні вады. Апяць ён, можа з час падумаўшы, найшоў лужынку вады. Ён сеў і пераксціўся. Сухарэй было хунты два ці тры. Ён памакаваець да снедаець. Січас явіліся к яму два старыкі, сівыя такія, і просяць у яго міласціны. Ён сюр'ёзна на іх пасматрываець, што не еўшы сташчаў за трое сутак.

— Ну якая ж у мяне міласціна, у салдата такога? Калі хочаце, дак про́шу пакушаць! А болей нету нічога міласціны!

Вот яны селі з ім і паелі гэтыя сухары. Усталі і давай міласціны прасіць.

— Што ў цябе за міласць, што мы елі ўмесце? А ты нам давай міласціну!

Ён сказуець:

— Якая ў мяне міласціна? Ес[ц]ь у мяне тры дзенежкі ўсяго. Вот за 'дну, як прыду дамоў, дак пастаўлю хату, за другую жанюся, а за трэцюю каня расстараюся — так і жыць буду!

Ну, цяпера абдумаўся гэты самы салдат:

— Няхай будзе так: ізбу састрою, а за другую ажанюся, а трэцяя няхай будзе вам! Няхай, як бог хаціць, так і будзець: без кабылы буду жыць!

Вот ён і аддаў ім дзенежку і гаворыць:

— Вы, сівыя, убірайцесь! Цяпер вы ідзіце, куды йдзяцё, а мне вот сюды прадаўжаць. Скажыце, ці не відаць якога горада ці чаго?

Яны ў атвет сказалі:

— Самі ідзём трэція суткі і тожа не відалі ні дзярэўні, ні горада ніякога!

Ну, яны сабе пайшлі, а ён сабе пайшоў. Апяць ён трое сутак ішоў.

На трэція суткі яшчэ яўляецца пара сівых.

— Здрастуй, гаспадзін!

— Здрастуй!

— Просім міласціны радзі хрыста! — апяць просяць сівыя гэтыя.

Ён і аб'ясняець апяць ім:

— Адкудава вы берацёся ўсё сівыя гэтакія па пары? Ці многа вас падрадзілася па той дарозе ўсё па пары хадзіць?

Яны атвяшчаюць:

— Многа не многа, мы не ведаем, а мы толькі ўдваіх,— ка-

жуць. — Дай да дай міласціны радзі хрыста! — апяць сваё плятуць.

Ну, салдат гэты рассярчаў:

— Якая ж міласціна ў салдата, да й шчэ ў падарожнага? Вот,— гаворыць,— я міласціну даў парам сівым гэтакім; цяперыча на том месце балалайку забыў, ідзе ўмесце елі! Вот вы й сівыя гэтакія! Цяперыча,— гаворыць,— што жа ў мяне, асталося ў мяне ўсяго дэве дзенежкі. Было тры, дак я адну аддаў. Ну, цяперыча нада несці дамоў. Нада за 'дну жаніцца, а за другую трэба йзбу пастроіць. А протчам,— гаворыць,— наце вам і гэту!

А адну сабе аставіў — рассярчаў, кінуў ім — што ж? Просяць — і пайшоў з аднэй. Ну, цяпера ізнова на трое сутак ён ідзець. Няма нічога: ні сяла, ні двара, ні дзярэўні — няма нічога, апяць на трое сутак. Як кончылася трое сутак, так ранняя чацвёртыя суткі яўляюцца апяць пара сівых і апяць сваё:

— Здрастуй!

— Здрастуй! І адкуда вас сівых набралась! Ну што ж, гаспада, я,— гаворыць,— знаю, што ў вас на уме! Вы ж большай нічога, як будзеце міласціны прасіць!

— Так, гаспадзін зямляк! Так і нада, каб нам міласціны далі!

— Ну, я,— гаворыць,— так і думаю! Як,— гаворыць,— прыду дамоў, няхай нічога не будзець! Я,— гаворыць,— тым даволен, што гэтых сівых тры пары надзяліў, няхай астануся так, ні прычом. Калі здароўе, дак буду жыць!

Так усердзіўся і пайшоў і нічога ім не сказаў, аддаў паследнюю дзенежку і нічога ім не сказаў, пайшоў сабе. Яны сабе, і ён сабе. Ужо да глыбокага яго дабралі, ужо не распрашаваў ні гарадоў, нічога! Ідзець і думаець, сам сабе талкуець:

— Што я прыду цяпер без паследства дамоў? Тры дзенежкі былі — нішчым аддаў, а сам прыду дамоў, як чужэй!

Толькі ён пракраціў гэту рэч, яўляецца пазадзі — едуць нейкія два гаспадзіны, у тарантасе, на пары коней.

— Здрастуй, зямляк!

— Здароў, гаспада!

— Што,— гавораць,— зямляк, як ба ты пайшоў у горад — горад недалёка ўжо відаць — і вот як ба для нас абабраў ба ты ідзе-небудзь заездны двор харошы, пастаялы двор, і каб комлаты былі харошыя, і каб аўса коням, і для нас каб барана цэлага купіў і абжарыў, і каб цэлы быў, нетрывожаны, із нагамі, із рагамі; і полуштоп гарэлкі нам повен быў!

Ён ім атвяшчаець:

— Вы,— гаворыць,— гаспада, самі адпраўцесь, а я вашых лашадзей астанусь папасаваць!

Яны гавораць:

— Ідзе нам? Ідзі ў горад і нанімай для сябе слугу, а як ты пойдзеш, дык ты сам там барана купіш і гарэлкі полуштоп повен купіш. І мы будзем скора ехаць туды!

Ён цяпера пайшоў. Яны яму далі пяць рублей на спраўкі на гэтыя: барана купіць, хвацеру наняць, і палуштоп гарэлкі каб повен быў, і аўса лашадзём прыспасобіў. Ён узяў грошы і пайшоў. Січас найшоў трахтыр гэты і пастаялы дом і спрашыець у хадзяіна:

— Што, для господ памяшчэнія будзець у вас? Вот такія-то заедуць два гаспадзіны на пары конях?

— Адчаго ж,— гаворыць,— у нас ёс[ц]ь комлаты для господ, якія заўгодна для вас, мы з гэстага жывём!

Ён, салдат гэты, пайшоў рассматрэў, каб комлаты харошы для гаспод былі. Ну, цяпер ён і спрашыець:

— Ці ёс[ц]ь у вас баран для гаспод?

Ён выгнаў яму цэлы табун бараноў і гаворыць:

— Выбірай каторага ўгодна.

Ён, салдат, як хваціў самага луччага барана, так січас разрэзаў і спрашыець дроў, і стаў гатовіць яго. Ну, й січас абгатаваў. Няскора дзела дзеецца, а скора казка кажацца. Ён абжарыў барана гэтага і ажыдаець гаспод. А есць дужа хочаць крэпка да пасматрываець на гэтага барана і на палуштоп, і хлеба булкі на стале — тожа прыгатовіў ён для іх. Выйшаў за горад і слухаець, вуха прыклаўшы. Ужо цёмна становіцца, прыслухаець — не чуць едучы іх, не слыхаць. Ён увайшоў у комлату і асмеліўся так, што есць дужа хочаць. Ён прыхітрыўсь. Узяў, пячаць, гэты палуштоп, атарваў і стакан чайны ўзяў, наліў гарэлкі, тады заплюшчыў вочы — дак не стыдна ў поцьмах — ды й выпіў. Тады ўзяў, вады наліў у стакан і повен даліў штоп. Цяпера палядзеў задняе сцягно і пячонкі нашкроб адтуль, мякаці, да ўзяў і паеў. Цяпер узяў, замазаў салам, но́жам загладзіў, каб незнашно́ было, адкуль выняў ён пячонку гэту. Так і штоп даглядзеў, каб незнашно было́. Прыгрэў гэту самую пячаць і здзелаў як было. І выйшаў зноў на горад і стаў слухаць. Удруг явіліся гэтыя гаспадзіны і з парамі лашадзямі і спрашуюць:

— Што ж, зямляк, тут хвацера?

Ён атвяшчаець:

— Здзесь!

Коней узяў, на двор вядзець на пастаялы.

— Вы ж, гаспада, убірайцесь туды ў комлату, а я коней убяру сам, аўса ім засыплю і прыду к вам!

Ну, яны пайшлі ў комлату. Пасмотраць, што комлата для іх хароша, выбраў ён. Так яны селі за сталом, адзін на правай руцэ, а другей на левай. Уходзіць салдат у комлату, коней ужэ вабраў.

— Ну, гаспада,— гаворыць салдат,— цяпер пара вячэраць!

— Як то вячэраць? Што, баран не цэл да й палуштоп гарэлкі не повен,— кажуць гаспада.

Ён, салдат, глядзіць да й начаў спорыць:

— Як жа не цэл? Ён цэл да й полуштоп повен!

— Не,— гавораць,— ён вадой даліт — нехта выпіў стакан.

— Я,— гаворыць,— не знаю, прысягаць не стану, трахтыршчык прадаець, можа вадой даліваець. Пячаць цэла!

— Вот, ты гаворыш! I баран не цэл!

— Як жа не цэл? Вот, цэл!

— Да нехта пячонку вышкраб з гэтыя з лапаткі!

— Ну да,— гаворыць,— гаспада, вам усё здаецца так! Развi ён радзіўся такі, што ў яго пячонкі няма, а я цэльнага вам зжарыў. Я не знаю!

Ну, послі гэтага спору і сталі вячэраць. Ну, ён, гэты салдат, узяў палуштоп адкубрыў і стакан сабе наліў гэтыя гарэлкі з вадой і выпіў. Яму дазволілі другей выпіць. Ён п'ець і пахваліваець:

— Вот,— гаворыць,— гаспада, вы гаварылі — вада! Гэта ж гарэлка!

Ну, сталі яны й самі прымер дзелаць, нібытцам выпіваць — здалося яму так — ну й кушаць. Ну, цяпер яны ўзноў усталі. Ён стаў ім коней прыбіраць. Прыбраў іх.

Яны сталі яго пытаць:

— Ну што, зямляк, у катору сторану табе пуць весці?

Ён каець:

— Вот у гэту!

Яны кажуць:

— Ну, зямляк, і нам жа ў гэту! Будзь у нас за хурмана!

— Ну,— гаворыць,— і бог ба з вамі, я б жалаў пад'ехаць, я здарожыўся!

Ну, селі і паехалі. Ехалі яны цэльныя суткі, апяць нанач заехалі ў горад. Заехалі яны к удаве к беднай нанач, там на канцы горада. Убраліся ў хату начаваць ужо, а салдат коней

убіраецъ на дварэ. Потым і салдат улез у хату. Ну, у іх разгаворы ідуць, нешта баба расказуецъ, тая ўдава.

— Вот,— гаворыць,— гаспада, вы ездзіце па разных старанах. Ці не слыхалі такіх дахтарэй, каб вылечылі ў нас царэўну?

Яны гавораць:

— Мы не слыхалі дахтарэй, а мы вот самі дахтара!

Тая баба січас як толькі пачула, што яны самі дахтары, так падняўшы і пабегла да цара, каб не зачапіцца. Так часавых там туды-сюды ўпрасіла, што вот, дапусціце, да цара, у мяне дахтары два начуець і гавораць:

— Царэўну злячыць можам!

Яна січас к цару падышла і просьбу яму з'ясніла. Цар ад радасці вялеў січас тройку лашадзей закласць, і тры жандары, і каб гэтых дахтарэй к яму січас даставілі. Ну, цяпера, паехалі січас па дахтарэй у карэце, баба гэта вядзець іх у свой дом. Яны січас прыйшлі і гэтым дахтаром сказалі:

— Убірайцеся да цара!

Яны ўзялі ўбраліся і паехалі к цару. І салдата з сабой гэтага ўзялі. Ён цяпера, цар, наўстрэчу выйшаў і спрашыецъ ад радасці такія:

— Што жа вы, дахтара харошыя? Можаце маю дшчэр злячыць?

— А як жа, мажом! Ну дак вот, ваша царскае вялічаство, ё ў вас комлата такая асаблівая, каб нам лячыць, каб нікога не было?

Ён сказуець:

— Ё для вас у мяне хаця й дзве!

— Ну, нам дзве не нужна, а адна нужна, і каб у тэй комлаці было — січас вяліце — дзве ванны былі: адна халодная, а другая цёплая. І каб хворую туды ўняслі, і каб салдаты былі ў два шары, із голымі штыхамі і ружжа з нарадамы, і каб туды ніхто не ўходзіў і не сматрэў!

Ну, ён ўсё гэта вялеў здзелаць. Яны ўвабраліся ў гэту комлату і сталі разгавор між сабой мець. Гэты салдат гаворыць:

— Што жа вы заняліся? З царом не з іншым! Вы відзіце, што тута стаіць з нарадамы поўнымі! Да й самі навялі. Лячыць дак лячыць!

— Ну, зямляк, калі хочаш, дак для цябе павялім, каб наняслі піць і есць разныя разнасці!

Так прыказалі січас дзяжурнаму, каб падалі есць разных

разнасцеў, што ў свеце ё, тры трубкі з длінными цыбукамы і табака харошая каб была на стале, ну й напіткі каб і французкія і шпанскія, па тры бутылкі!

Ну, січас цар гэта іспольніў, што яны прасілі. Потым салдат стаў з імы спорыць:

— Што жа? Піць і есць нанясли, дак будзем піць і есць!

— Адчаго ж, зямляк, кушай!

Ён, салдат гэты, вып'ець, закусіць, у трубку закурыць і ходзіць. Потым узнова і спрашыець:

— Ну, што жа, гаспада, заняліся? Так самі сябе слаба ведзяцё. Калі лячыць, дак лячыце!

Яны сказалі:

— Не тваё дзела, зямляк. Пад'еў дак і аддыхай!

Гэты салдат і лёг, шынялём накрыўся, а вочы пакінуў і глядзіць, а быццам ён накрыў і морду і ўсё. А ён смотрыць і храпіць, прытвараецца. Яны як сядзелі за сталом, дак адзін з левыя рукі злез і пайшоў к бо́лнай і стаў яе пасматруваць тама. Потым узяў стаў нож тачыць. І салдат гэты ўсё гэта смотрыць. Да як увідзеў, дак і думаець: «Ну, клямка! Што верна зарэжуць хворую тую».

Вот ён прыйшоў, узяў галаву адрэзаў ёй. Потым усю па часцях парэзаў, і руку, і нагу, і ў ванну цёплую складаець. Тады ўзяў з ванны цёплыя перамываць да й у халодную апяць і кідаець. Тады сеў і аддыхаець. А салдат смотрыць усё гэта, толькі ўжо ў яго дух замёршы. А тэй пасядзеў троху і стаў з вады з халодныя вымаць і перацірать трапкай. Так узяў галаву перамыў халоднай вадой і трапкай перацёр, так і паклаў на стале кала гэтага, што па правым боку сядзеў. Так і ўсю ён яе перамыў і перацёр і склаў на стале проці гэтага. Цяпер гэты, седзя, узяў дунуў скрозь усю яе, і аснавалася так яна. Послі ў другі раз дунуў — так яна як жывая стала, ляжыць. Ён у трэці раз дуець — яна й успрыгнула. Гэты ўзяў адзежу на яе накінуў. Бо́лная царэўна тады пакланілася, пацалавала ім у рукі і ў ногі — чэсць — і стала з імы разгаваруваць, што я нарадзілася на свет цяпер, з акоў зялезных сарвалася!

Гэты салдат січас успрыгнуў, тут ад радасці ходзіць па хаце, выпіваець і закусуець і пахваляець, што харашо вы лячылі:

— Вот цяпер я знаю, што вы дахтары! Што будзець награда, што мы захочам!

Ну, січас скрыкнулі дзяжурнага:

— Далажыце гасудару, што доч яго здарова!

Тэй дзяжурны адчыніў дзверы і ўсматрэў, што яна была

прыгожа, а то на сем крат папрыгажэла. Сычас цару далажыў:

— Ваша царскае вялічаство, доч ваша здарова! Была прыгожа, а цяпер прыгажэй стала!

Цар услыхаў гэта, што царэўна здарова, пайшоў ад радасці сматрэць і царыцу з сабой павёў. Прыйшоўшы, увідзеў, што яго доч здарова, так палі на коленках цар і царыца перад гэтымі ўрачамі:

— Што вы з нас жалаеце, то і бярыце: ці тут жывіце, ці палавіну царства вазьміце, а па смерці і ўсё вам!

Яны сказалі:

— Не, ваша царскае вялічаство, нам не трэба нічога!

Ён, цар і з царыцай:

— Ай, як жа нічога? Мы ад радасці не знаем, што дажа вам і саветаваць. Ну, не хаціце нічога, дак ідзіце хоць нашыя казны паглядзіце.

Узялі, падвал ім адпёрлі — склеп, значыцца, без усякага назору:

— Ідзіце, ці золата грабіце, ці серабро, ці бумажкі!

Яны ў ватвет сказалі проці гэтага салдата:

— Сходзім, падзівімся!

Вот, пайшлі яны ў склеп у тэй, узялі па чырвонцу ў ме́зяныя пальцы і ходзяць па грошах. А салдат тэй гроб-гроб: і ранец, і халявы, і сюды во за рукавы насуваў, так што не мог устаць,— нагроб, што не ўстанець. Яны гаворапь, гэтыя дахтары:

— Ну, зямляк, пойдзем ужо!

— Зачым жа вы грошай не берацё з сабою?

Яны гаворацъ:

— Нам грошы не трэба!

Узялі і тыя кінулі там. Ён цяпер узяў, гэты салдат, адсыпаў сколькі там, каб ужо можна было ўстаць. Узялі і пайшлі цяпера з царом распрашчацца. Распрашчаліся і пайшлі на тую хвацеру, куды заехалі. Запраглі лашадзей. Ну, цяпера салдат тэй ім усё пакамандаваў, запрог лашадзей і ўсё якраз. Тады спрашыець:

— Ну, куды вам, гаспада, будзець цяпер дарога?

Ну, яны так, як знаюць, што й яму трэба сюды іці, дак яны сказалі:

— Вот сюды!

— А мне вот сюды! — у другі бок.

Грошай набраў, дак каб не 'табралі. Ну й паехалі: яны сабе, а ён сабе. Січас жа, як заехалі за горад, дак ён зайшоў у трах-

ціp, січас начаў піць і гуляць. Пата́ гуляў, пакуля з ума збіўся. Так і лёг сабе. Тады ўзялі яго абваравалі, дажа й капейкі яму не 'ставілі пахмяліцца. Ён устаў, падумаў-падумаў, ну як спрашваць: не ведаець нічога ніймзе. Узяў і пайшоў. Ішоў, ішоў, нядзелю ці дзве, і заблудзіў ён, не папаў на сваю дарогу, куды йшоў. І зайшоў у другое царства, у чужую старану. Так і выпрасіўся начаваць. І так галаву пашкрабуваець, падумываець, што было, да нету. Там была на хвацеры на той, ідзе ён заначаваў, старуха нейкая. І яна із ім разгаварвала і стала ў яго спрашуваць:

— Зачым, зямляк падарожны, шкушны?

Ён гаворыць:

— Зачым жа не скучаць? Што было, да й нету!

— А што ў цябе было? — баба спрашыець.

— Вот у мяне была казна несчыслёная, а цяперыча і нету!

— А як жа табе гэта казна, адкуда прыйшла?

— Вот,— гаворыць,— бабулька, не табе слухаць, не мне гаварыць. Я,— гаворыць,— у таком-то царстве, у іншым гасударстве злячыў царэўну. І са мной было два вучанікі, дак тыя ў сторану паехалі к сабе, абучыліcь кала мяне. Цяперыча я казны сабе набраў, серабра ды золата, сколькі панесці. Зайшоў у трахтыр і выпіў касушку небальшую. Нешта захацелась мне аддышыць. Я лёг, заснуў.— А таго не кажаць, што чэразчур напіўся і не помніць.— Прашнуўся і нету нічога, і не ў каго спрашуваць. Забыўся, куды й пуць дзяржаць, і вот у чужую старану зайшоў!

Гэта баба і гаворыць:

— Вы самі дахтары? Мы слыхалі аб тую царэўну, да нешта,— гаворыць,— утраіх там злячылі яе!

Ён у атвет гаворыць:

— Гэта былі са мною два вучані, а я сам лекар!

А ў том царстве ў цара была жонка нездарова. Сем лет яе лячылі і не вылечылі. І розыск пасылалі, і дахтарэй гэтых нійдзе не найшлі. Вот тая баба і пабегла к цару. Стала цару расказваць:

— Вы сколькі,— каець,— паслоў пасылалі і не найшлі нійдзе такіх дахтарэй, а ка мне прыйшоў начаваць самы тэй, каторы злячыў царэўну ў таком-то царстве!

Вот цар вяліць пару лашадзей залажыць і дахтара́ гэтага тойчас даставіць. Коней заклалі і січас із бабай з тэй паехалі па гэтага дахтара́. Прывязлі гэтага дахтара́, цар стаў спрашуваць:

— Можаш ты вылечыць маю жану?

Ён гаворыць:

— Магу! Ну што ж,— гаворыць,— ваша царскае вялічаство, нада комлата асаблівая і нада дзве ванны каб было — адна цёплая, другая халодная, і послі дзяжурны каб стаяў для дзвярэй і не пускаў нікога сматрэць.

Цар прыказаў січас гэта справіць, ванны наліў гэтыя, цёплыя і халодныя, салдатаў калавур паставіў вакруг комлаты, два шары, ружжы з нарадамы, і дзяжурнага паставіў. І салдат гаворыць:

— І каб стол быў убраны, з разнымі напіткамі і ■ кушаваннем, і каб тры трубкі былі із длінньмі цыбукамы, і табака каб ляжала на стале! Ён цяпер увабраўсь січас у тую комлату, січас выпіў, закусіў харашо і па комлаце пахаджуваець, і курыць, і думаець сам сабе: нешта доўга было там, як лячылі, а тут я адзін прымуся паскарэй лячыць. Ну й узяў нож тачыць, такім жа прымерам. Узяў січас прыйшоў к ёй і пашчупаў, узяў руку стаў рэзаць. А йна яўкнула:

— Ай!

Дак ён гаворыць:

— Іш, старая псіна! Тая і младшая, да цярпела, ■ ты не выцерпіш! Пагадзі, я з табой разбяруся.

Узяў да й галаву проч адрэзаў і ўкінуў у цёплую ваду.

— Вот, цяпер, псіна, пакрычы тут! Забалбочашся ў ванне!

Ну, цяпер узяў, як па часцям, як ні папаўшы, парэзаўшы, і паклаў усю ў цёплую ванну. Цяпера ўзяў пакурыў, пад'еў і начаў:

— Што мне аддыхаць? І начану я сваім парадкам, а тады з ёй буду савешчувацца, як яна аджывіцца!

Узяў перамыў троху і стаў складаць на стол такім жа манерам, як і тэй — на правай руцэ, і дунуў злёгка. Яна дажа й ляжыць, як ляжала. Ён сам сабе і думаець:

— Вот, сцерва, псінае мяса! Адразу шчэ й не думаець нічога асновувацца!

Ён яшчэ дужэй дунуў. Як ляжала, так і ляжыць мясам. Ён тады і начаў дуць, пакуль і вочы вылупіў — задуўся ўвесь. Пасядзіць, пасядзіць, да й апяць знова дзмець. Прайшла ноч, адчыніў дзяжурны дзверы, палядзіць, што мяса пасечанае, палядзіць, што ўся [царыца] пасечаная, січас цару далажыў:

— Вот, ваша царскае вялічаства, лекар харошы: парубіў царыцу на шмацця, і ляжыць яна на стале так!

Цар січас — відзіць, што дзела дрань — вялеў шыбельніцу

здзелаць і дахтара́ гэтага павесіць. Січас царскае павяленіе састроілі ўдруг, шыбельніцу саснувалі. Цар прыказаў барабан прабіць, каб народ сабіраўся на трывогу, на дахтара́ глядзець. Ну і начапілі гэту ўжо шыбельніцу і спусцілі кнізу зверху. Ну, й вядуць яго вешаць. Прывялі яго к шыбельніцы, ён азірнуўся назад і ўвідзеў, што ў варотах гэтыя вучанікі яго стаяць. Ён стаў цара прасіць:

— Дай мне, ваша царскае вялічаство, папрашчацца з сваімы вучанікамы!

— А дзе твае вучанікі? Ты ж гаварыў, што сам лекар. Ну, пазваляю, разпрашчайся з імы! Усё адно,— гаворыць.

Дапусцілі іх к яму для распрашчэння. Яны сталі прасіць цара:

— Ваша царскае вялічаство, пазвольце нам яе лячыць?

Ну, цар гаворыць:

— Усё 'дно для мяне! Сягоння адна шыбельніца, к заўтраму дзве састроім!

Пазволіў лячыць. Апяць увялі іх, усіх трох, у гэту ізбу, і павялеў лячыць. Яны сказалі, каб ванна была пераменіта другая і каб кушання і табака і ўсё разнае пераменіта другое, і каб часавыя стаялі ў два рады — ружжы з нарадамы і з штыхамы, і каб дзяржурны стаў у дзвярах, каб ніхто не сматрэў туды. Цар усё гэта здзелаў. Салдат гэты ні п'ець, ні есць і лёг спаць січас, не зацяваець лячыць. Лёг і дзівіцца. Яны, узноў пад поўнач злучылася, як настала поўнач, адзін гэты стаў перабіраць гэтыя кускі; ідзе нада перарэзаць — перарэзаў ящчо і ўкладаець у цёплую ванну. Паўклаў у цёплую ванну, сеў аддыхаць. Нямнога аддыхнуў і пачаў укладаць у халодную, перакладаць і перамываць, а трапкай уціраць і апяць на стол укладаць. Перша галаву паклаў, а тады і ўсё. Злажыў ён яе цяпера. А другі, седзя на правам баку, дунуў. Як толькі дунуў, так аснувалася; другі раз дунуў — яна стала як жывая, толькі не гаворыць; трэці раз дунуў, дак яна і ўскочыла. Вот тады салдат тэй як ускочыў, дак стаў і піць і есць і падхваліваць. А то саўсім залягло было! І спрашыець у царыцы:

— Ці здарова ты?

Вот дзяжурны ўсматрэў у шчэль і ўвідзеў, што йна здарова, далажыў цару. Цар ад радасці січас убег глядзець. Відзіць, што яго жана здарова, і стаў спрашуваць у іх, у лекарэй у гэтых:

— Што награды хаціце за гэта, што ізлячылі?

Яны гавораць, што мы нічога не жалаем!

Салдат гаворыць:

— Як жа нічога не жалаеце? Сколькі трэба да трэба ўзяць! Пойдзем грошай палядзім!

Ну і пайшлі грошай палядзець. Пайшлі глядзець, вот ён апяць пачаў грэсці ў ранец і ў штаны — ідзе толькі было места якое, дак ён нагроб. Да тых пор гроб, пакуль не ўстанець, з радасці ўжо. Яны гавораць:

— Ну што ж, зямляк, пара йціць!

— А што, гаспада, я не магу ўстаць: грошы цежалы!

Дак яны гавораць:

— Адсып, так, каб устаць, ці ты ж будзеш сядзець ля грошай?

Ён тады ўзяў, з галянішчаў высыпаў, з рукавоў адсыпаў. Тады чуць падняўся, на ногі стаў, як грошы высыпаў.

Яны гавораць:

— Пойдзем, зямляк, пуць весці свой, дарогу — дамоў!

Ну, потым яны з гасударом распрашчаліся, хоць гасудар і не хацеў іх пусціць. Выйшлі за горад, ужо пешшу, коней не было. Выйшлі за горад і сталі спрашваць у салдата:

— Куды дарога табе, зямляк?

Ён гаворыць:

— Мне сюды!

— Ну й нам сюды! Пойдзем умесце!

Нямнога яны ўвыйшлі — вярсту ўвыйшлі ці паўтары — тама й тама рэчка такая, што яна глыбокая і троху шырокая; кладкі няма. Яны, гэтыя два, як ішлі, дак так і пайшлі пóвярху. Яны й не замяклі, перайшлі рэчку. А салдат ступіў — січас жа па калена ў ваду; другі раз ступіў — па пояс стала вада; трэці раз ступіў, дак ён абалбочаць — льецца чэраз хурашку яго — вада ўжо пакрываець. Яны гавораць:

— Салдат, утопішся! А скажы, хто пячонку з'еў з барана і водкі адліў, дак не ўтопішся; прызнайся, дак не ўтопішся!

— Гатоў патапіцца, а я не браў!

Ну, яны гавораць адзін з адным:

— Утопіцца!

Ну, спрасілі яшчэ:

— Прызнайсь!

Ён апяць не прызнаецца. Далі яму слабоду, лехчай, лехчай, што ён стаў выходзіць, так і выйшаў. Ну, і пайшлі дальша. Можа прайшлі не далі дзесяць сажнеў ад рэчкі, найшлі бугарочак абсушыцца салдату, што ўжо змяк увесь, і грошы замяклі. Салдат распрануўся і стаў круціць сваю адзежу. Вы-

сахла гэта адзежа, ён давай грошы гэтыя высыпаць на шынелю. Ну й перамешаець іх рукой, сушыць на шынелі. Вот яны гавораць:

— А што, зямляк, пара йціць!

— Да, я замячаю, што пара!

— Ну,— гаворыць,— зямляк, трэба грошы гэтыя падзяліць усе на тры кучкі, каб усім тром параўне было!

Ён, салдат, і думаець і гаворыць:

— Я казаў вам, што бярыце грошы, а зачым не бралі? А што ■ набраў, цяпер хаціце дзяліць. Цяпер я знаю, што аднаму з дваімы не драцца. Воля ваша: дзяліце сабе!

Тэй узяў рассыпаў на чатыры кучкі. Салдат гаворыць:

— Зачым жа на чацвёртую, мы ж,— гаворыць,— утраіх.

Ён, гаспадзін тэй, гаворыць, што чацвёртая таму, хто пячонку з'еў з барана і із штопа няпоўнага выпіў стакан гарэлкі!

— Гэта, гаспада, прасціце, гэта я; хацеў дужа есці крэпка, дак я й з'еў і выпіў!

Яны гавораць:

— Ну, бяры, зямляк, грошы і ўсе гэтыя!

І так яны знаюць, што ў яго двор блізка, недалечка, вярсты ў дзве ад тыя меснасці, сталі яны абое, гаспадзіны гэтыя, нявідзімы ад салдата. Вот ён узнаў, што бяседаваў із самім богам. І гаворыць:

— Вот каб я знаў, што гэта быў бог, я ба к сабе на бяседу пазваў! Ну, як страпілася так, пайду дамоў. Слава табе, госпадзі, што дамоў данёс!

Прыходзіць дамоў, аж яго ацец жыў, і тры браты жывы, і жоны іх, і ў жон дзяцей ёс[ц]ь, і хадзяйства вядзецца. Парадкі харошыя ў іх. Так яны яго прынялі: бацька, як сына, браты, як брата, нявесткі, як дзевяра́, і ўсе любяць яго і ўгаждаюць.

Ён гаворыць:

— Грошы вазьміце!

А яны гавораць:

— Гэта тваё, вазьмі, куды хочаш, нам не трэба: мы рады, што цябе бог прынёс дамоў.

Ён, салдат, і стаў распараджацца: возьмец троху грошай да й у кабак. Прап'ець да й яшчэ возьмець, тыя прап'ець да й яшчэ. Правёў ён гэдак тры гады жызню сваю. Ніхто не ўкарыў яго, ні ён нікога. За яго службу паслаў бог смерць яму лёгкую, што смерць заспела яго яшчэ дома вутрам рана і выняла душу з яго, і не чуствоваў ён. І пайшла тая смерць з

душой з яго гуляць у іхны сад. З саду вярнулісь і ідуць дамоў. Тама плачуць у доме. Душа гаворыць смерці:

— Што гэта ў нашым доме плачуць?

Смерць у ватвет гаворыць:

— Тваё цела мёртвае, ідзі папрашчайся з ім да й пойдзем к богу!

Ён папрашчаўся і пайшоў к богу. Прыйшлі з смерцю к богу. Вот салдат як увідаў бога:

— А, здрастуй, гаспадзін,— гаворыць,— даўно відалісь!

Ён гаворыць:

— Цішай, цішай! Ужо на том свеце твая душа. Ідзіце дарогай гэтай прама ў рай!

Паказаў яму дарогу. Ну, салдат сядзеў у раі дзень, ні піць, ні есць яму ніхто не даець. Ён і стаў гаварыць:

— Што за рай бог паслаў, што ні піць, ні есць? Вот то рай быў, як царэўну лячылі са мной, царыцу, дак разныя напіткі і наедкі і табака была. А тут — рай, і няма нічога. Што то за рай?

Ангалы ўслыхалі:

— Цішай, цішай! — гаворагь.

— Да як жа цішай, калі няма нічога!

Ну, тады бог прыказаў ангалам прывесць яго ў тую комлату на калавур паставіць, куды смерць уходзіць і выходзіць. Там яму нявідзіма даў і піць, і есць, і курыць трошкі. Пасля таго, нямнога спусця, нехта такі ідзець і стучыць у дзверы. Ён і запёр, салдат.

— Хто такі стучыць там?

Яна атвячаець:

— Смерць!

Ён адпёр ёй дзверы і спрашыець:

— Зачым жа ты, смерць, ідзеш сюды? Маё дзела к богу йці, а тваё тут; ут, я прыстаноўлен на часы для таго, каб я к богу ўходзіў. Зачым жа ты прыйшла?

— Я прыйшла, якіх бог скажаць людзей умярыць!

Ён пайшоў сам к богу:

— Госпадзі,— гаворыць,— прыйшла смерць і спрашыець, якіх людзей марыць прыкажаш?

— Хай, пус[ц]ь старых падбіраець тры гады!

Бог сказаў старых марыць, а ён думаў, думаў, што бацька ў яго стары, дак з'ець, дак ён і сказаў смерці:

— Вялеў табе госпадзі лес старых падбіраць тры гады!

Ну, прайшло тры гады. Яўляецца смерць апяць к яму.

Узнова апяць стучыць у дзверы. Ён апяць не пускаець і спрашыець:

— Хто там такі?

— Смерць!

— Да, вы толькі й ходзіце сюды! Надаела! Усё смерць да й смерць!

І дзвярэй не 'дчыняець да й спрашыець:

— Зачым жа йдзеш сюды?

— Я йду ■ богу, што прыкажаць дзелаць тры гады, якіх людзей марыць?

— Ну, пастой, я схаджу к богу. На то я часавы!

Ну й пайшоў.

— Госпадзі, прыйшла смерць апяць другі раз, якіх людзей прыкажаце марыць?

— Пус[ц]ь цяпера серадовых морыць тры гады!

Ён падумаў, што ў яго тры браты ў самай сіле, яна іх паесць. І пажалеў іх.

— Вот, табе госпадзі сказаў, каб ты лес ела тры гады серадовы, самы луччы!

Яна і адправілася. смерць, і пайшла. Так гэта скора кажацца, да няскора дзеецца. Прайшло тры гады апяць, і яўляецца смерць. Знова стучыць у дзверы к салдату к гэтаму, каб адчыніў. Салдат спрашыець:

— Хто такі сюды ідзець?

— Смерць!

— Да ты, смерць, усё ходзіш сюды! Пастой тут!

А йна не хочаць да з ім бораццa, а ён яе не пускаць! Потым салдат угаварыў яе і пайшоў к богу сам, адзін.

— Госпадзі, прыйшла смерць у трэці раз, спрашыець, які народ марыць?

— Пус[ц]ь тры гады сабіраець маленькіх!

Ён падумаў, падумаў, што ёс[ц]ь дзеці маленькія ў братоў,— паесць! І гаворыць смерці:

— Вялеў табе госпадзі, каба самыя атростачкі паела за тры гады!

Ну й адправілась смерць тры гады парасні́чак, гэтыя атростачкі, даядаць за тры гады. Заелася смерць нашчэнт уся. Пайшла зноў ■ богу і стучыць у дзверы, дзе гэты салдат часавы. Ён гаворыць:

— Хто там такі?

— Смерць!

— Ну да, ты ўсё ходзіш, спакою ад цябе няма!

Адчыніў ёй дзверы, і стала яна з ім спорыць і сама йдзець к богу. Ён не пускаець. Зайшоў у іх крупны разгавор ужо. Пачуў бог і спрашыець у салдата:

— З кім ты шуміш?

— Госпадзі,— гаворыць,— з смерцю. Яна ідзець к табе, а я жа зачым тут? Я даўжон далажыць табе для аб'ясненія, што прыкажаце, то я аб'ясню!

— Ну, хай ідзець сюды, і смерць сюды, і ты, разам абое!

Яны ўвайшлі туды абое. Госпадзі спрашыець у смерці:

— Што ты тры гады дзелала, і яшчэ тры, і яшчэ тры? Дзевяць гадоў, а няма ніякага парадку: душы няма ні 'дные нійдзэ?

— А мне салдат казаў: перша тры гады лес есці стары — я й ела; другі раз сказаў крупны лес есці, серадовы, самы луччы, тры гады,— я й ела; яшчэ сказаў за ўтрэцім разам: кажаць табе госпадзі: ідзі, атростачкі сабірай малыя тры лета!

Бог абраціў уніманія к салдату:

— Што жа,— гаворыць,— салдат, па маім прыказу не спольніў?

— Госпадзі, саграшыў перад вамі, прасціце! У мяне бацька стары, браты серадовыя, і дзеці ў іх малыя. Я думаў, што яна паесць усіх. Ну, я й прыказаў, хай лес есць дзевяць гадоў. Так яна й ела!

— Вот цяпер табе,— гаворыць бог салдату,— нясі яе на сваёй спіне тры гады, куды йна задумаець! І мары,— гаворыць на смерць,— хворых людзей тры гады!

— Ну, госпадзі, карусь вам! Палязай на спіну! — прыказыець.— Да свідання, госпадзі!

І пайшлі. Выйшлі яны січас жа ў параснік і сталі разгаварываць із смерцю.

— Што за ты, смерць? Табе бог як сказаў? Ты думаеш бальных марыць, а цяперыча мы ідзём удваіх з табой і нам нічога. На случай выйдзем на поле, мужыкі ж зямлю работаюць, там і лошадзі, там і самі, усе здаровыя. Як цябе ўвідзяць такую страшную, лошадзі паўпудзяцца і разнясуць усё: і сохі, і бароны, і саміх паб'юць — то й здаровыя хваробу палучаць. А табе ж бог хворых казаў марыць!

— А што мне, салдат, нарай, што дзелаць? Гэта праўда твая!

— А вот я табе нараю як: ёс[ц]ь у мяне ражок у кішэні, вот ты ўлезь у яго, дак я яго і панясу. Прыду ў дзярэўню, папрашуся нанач. Там я разгавор памею, дзе хворые ё. Там я

тады пайду к бо́лнаму да й пушчу цябе. Дак ты яго з'ясі да й апяць у ражок! А то цябе такую страшную нясі!

Яна сагласілась, улезла ў ражок. Ён узяў, захляпаў ражок і наругаецца смерці:

— Вот тут тры гады паеш усіх, там папробуй-ка!

А сам пайшоў дамоў. Апяць паздароваўся з сваімі, набраў грошай да ў кабак і начаў куціць. Прайшло тры гады, а ён усё куціць у кабаке. Паслаў тады госпадзі трох ангалаў разыскаць салдата з смерцю, ідзе ён смерць падзеў? Ангалы зляцелі і найшлі яго ля кабака: ляжыць і спіць. Разбудзілі яго, сталі спрашуваць:

— Салдат, ідзе смерць падзеў?

— А вам якое дзела да мяне? Вы хто такія?

— Мы ангалы, нас гасподзь паслаў, ідзе ты смерць дзеў?

— Ну, дак вот, калі вас гасподзь паслаў, дак вот яна ў ражку, наце яе вам.

І табака там, повен ражок быў. Узялі, адкубрылі, найшлі. Чуць жывая смерць шаволіцца, ужо не дзействуець нічым. Узялі яе ангалы, адкалыхалі на ветры і ўзялі з сабой салдата і смерць, і павялі к богу. Вот яны прывялі к богу, бог стаў спрашуваць усе праступкі яго. Ён сазнаўся богу:

— Праграшыў, госпадзі, прасціце!

Ён узяў і адправіў яго:

— Вядзіце ў пекла яго!

Яны яго павялі. Там ужо ангелы адчынілі яму дзверы, ужо рады, што салдата вядуць. Салдат стаў спрашуваць:

— Дзе ж у вас павесіць ранец, пратупею, пісталет, ружжо, шаблю?

Началі чарцяняты колічкі калаціць у сценкі малаткамы. Ён начаў, салдат, закурываць у трубку, выняў сабе трубку. Січас падбягаець чарцянок і спрашыець:

— Дзядзька, ці не даў ба мне пакурыць?

— Пагадзі, пляменнік, налажу й табе!

Узяў пісталет з сценкі, зарадзіў цэлным зарадам і гаворыць:

— Бяры за дула: я табе адрублю агня, тады ты й закурыш!

Ён узяў за дула ротам і ссець, а ён агня будзець адрублівадь. Дак ён узяў, курок адцянуў да як хляснуў яму — так яго галава на сколькі часцей раскацілася. Тут яны, усе чэрці, павыскачылі ўсе з пекла. А ён гаворыць:

— Вам усім гэта будзе!

Яны сталі яго прасіць:

— Хадзі сам вон адтуль!

А ён не йдзець:

— Мяне сам бог паслаў! Вам усім гэта будзець.

Яны думаюць: што гэта? Бяда ім будзець, нейдзе жыць ім будзець! Узялі падхітрыліс. Стары чорт стаў у барабан біць трывогу. Салдат увабраў сваё на сябе да й ідзець на трывогу. Яны ўзялі да дзверы запёрлі, самі ўскочылі ў пекла, а яго і не пусцілі. Салдат ходзіць, не на тым свеце, не на гэтым. Ніхто ў яго не пытаець, ні ён ні ў кога не спрашуваець. Так ён і цяпер жывець: дзе дзень, дзе ноч, абы суткі проч.

## 115. САЛДАТ І СМЕРЦЬ

Калісьці салдат служыў дваццаць пяць год у арміі. Ішоў дамоў, адслужыўшы дваццаць пяць год. З сабой яму грошай не далі. І ён ішоў, дзесяць капеек імеў, кашалёк меў з сабой і люльку. Ішоў, прытаміўся, захацеў аддыхнуць. І спаткаліся яму тут ля дарогі тры жабракі, нішчыя. І сталі яны прасіць салдата, каб ён ім што-небудзь падарыў. Але што салдат мог даць?

— Нічога ў мяне няма, мае мілыя людцы! — гаворыць салдат.

— Ну падары нам што-небудзь!

І падарыў салдат аднаму кашалёк, другому дзесяць капеек, трэцяму — люльку. Пагаварылі яны і разышліся: салдат сваёй дарогай, нішчыя сваёй. Потым чуе салдат — яго аклікаюць. Ён абвярнуўся, а яго завуць нішчыя.

— Хадзі,— гавораць,— салдацік, мы хочам табе аддзякаваць.

І аддаюць яму: адзін аддае люльку і кажа:

— Гэта ўжо не простая люлька, а люлька-нявыкурка.

Другі дае сумку-ранец і кажа:

— Патрасі гэту сумку і што захочаш, што задумаеш, тое табе і будзе.

А трэці, якому даў грошы, дае яму невялікі кашалёк і кажа:

— У гэтым кашальку заўсёды будзе столькі грошай, колькі табе трэба.

Падзякаваў салдат і пайшоў. Адышоўся ён кіламетраў колькі і дай, думае, папробую, ці не абманулі яны мяне. Патрос сум-

кай і задумаў, каб там было што паесці. Адкрыў сумку — ёсць. Паеў ён, абрадаваўся, закурыў люльку-нявыкурку і пайшоў далей. Ідзе да сваёй сям'і. Ішоў, ішоў, сцямнела ўжо. Трэба было дзе-небудзь пераначаваць. Ішоў лесам, кустамі. Бачыць уперадзе агеньчык — свеціцца ў хаце. Зайшоў ён у гэту хату папрасіцца пераначаваць. Праўда, у гэтай хаце была толькі адна бабка. Спытаў ён у бабкі, ці можна ў яе пераначаваць. А яна кажа:

— А мой ты салдацік дарагі, у нас ніхто не начуе.

— Чаму? — пытаецца салдат.

— Не хочуць, не начуюць, мне не шкода,— загаварыла бабка і нічога яму больш не сказала.

І салдат рашыў пераначаваць. Патрос сумку, павячэраў, закурыў люльку-нявыкурку і лёг спаць. Прайшло колькі часу, гадзін так у адзінаццаць пачаўся свіст, шум, паадчыняліся вокны, дзверы — набегла поўна хата чарцей. «Што тут мне далей рабіць? — думае сабе салдат.— Праўду бабка гаварыла, выходзіць, што людзі сюды не заходзяць». Думаў, думаў ён, а потым як крыкне:

— А ў ранец!

І як пачалі лезці гэтыя чэрці ў сумку, аж пішчаць, ды лезуць. А ён іх яшчэ каленам прыціскае. Просяцца чэрці:

— Не ціскай нас, салдацік, не ціскай!

А ён іх яшчэ больш ціскае. Ды каленам, ды каленам. Націскаў добра і выпусціў — паўцякалі чэрці. Раніцаю бабка прыходзіць з кошыкам, каб забраць косці, бо хто начаваў у гэтай хаце, заўсёды заставаліся толькі косці — чэрці заядалі чалавека. Бачыць бабка: ляжыць салдацік. Узрадавалася яна. Выйшла, няхай, думае, паспіць салдацік. Устаў салдацік, паснедаў і сабраўся ўжо ісці далей, дамоў. Бабка стала прасіць салдата пераначаваць яшчэ адну ноч.

— Што ж ты, бабка, не папярэдзіла мяне,— гаворыць салдат,— прыходзяць у цябе тут нейкія ўночы, спаць не даюць.

— Няможна было гаварыць,— кажа бабка,— пераначуй яшчэ адну ноч, потым усё раскажу.

Згадзіўся салдат пераначаваць яшчэ адну ноч. Павячэраў, закурыў люльку-нявыкурку, ляжыць, можна сказаць, чытае газету і чакае. І вось у палове дванаццатай гадзіны зноў пачынаюць злятацца з віламі, косамі, тапарамі. Узняўся шум, свіст, крык, гвалт. На гэты раз салдат ужо не разгубіўся. Адкрыў сумку-ранец і крыкнуў:

— А ў ранец!

Так яны ўсе пакорчыліся і палезлі ў ранец. Адціскаў ён іх, адбіў, адмяў і выпусціў.

Назаўтра зноў прыходзіць бабка з кошыкам па косці. А салдат ляжыць. Узрадавалася бабка. Няхай, думае, адпачывае. Прыду пазней. Устаў салдат, паснедаў і зноў сабраўся ў дарогу. Хацеў ісці дадому. А бабка зноў просіць:

— Пераначаваў ты, салдацік, дзве ночы, пераначуй і трэцюю, а тады ўжо ўсё раскажу!

Ды так просіць, так просіць. Салдат ужо сам зацікавіўся: што тут такое? Застаўся на трэцюю ноч. І зноў у дванаццаць гадзін пачалі злятацца чэрці. Ды ўжо ў тры разы больш. А напаследак прыляцеў самы галоўны іх Люцыпар. Ціскаў, ціскаў іх салдат у ранцы, мяў, мяў. Выпусціў тых памятых, загадаў самому Люцыпару ў ранец лезці. Мяў, мяў яго, ціскаў, ціскаў і ўсё дапытваецца:

— Чаго вы сюды прыходзіце?

— Не скажу,— гаворыць Люцыпар.

— Зараз я табе галаву адсяку! — пагражае салдат.

Тады Люцыпар прызнаўся.

— Тут ёсць,— кажа,— у гэтай хаце пад падлогай склеп. У склепе ляжыць самая прыгожая дзяўчына на зямлі. І прыляталі ўсе чэрці сюды, каб пашчакатаць яе.

— Пішы,— загадаў салдат Люцыпару,— дагавор, што ніколі ні ты, ні твае чэрці на зямлю больш не прыдзеце.

Люцыпар напісаў дагавор крывёю, і ўсе чэрці разам са сваім галоўным зніклі. Тады прыйшла бабка і кажа салдату:

— Цяпер я скажу ўсё. Тая дзеўка, што ляжала ў склепе, павінна сёння аджыць. Ты пераначаваў тры начы і выратаваў яе.

Пайшоў салдат у склеп, а там дзеўка. Як глянуў ён на яе — як на сонца ўсё роўна паглядзеў. Прачнулася яна, і не мог ён ужо з ёй расстацца. Жаніўся ён з ёй. І гэта з імі бабка. І трое дзетак знайшлося. Але ўсяму прыходзіць канец. Прыйшла пара паміраць. Папрасіў салдат перад смерцю дзяцей і жонку пакласці яму ў труну ранец. Памёр ён і пайшоў на той свет з ранцам. Пераняла яго чэрці. Уперадзе Люцыпар ідзе.

— Ага! Папаўся? — гаворыць салдату Люцыпар.— Павозіш тут у нас смалу, будзеш кожнаму чорціку дагаджаць.

Салдацік схапіў свой ранец ды як гаркне:

— А ў ранец!

І пачаў мясіць чарцей. Скорчыліся чэрці. Пабудаваў ён у

пекле казармы. Пачаў ганяць чарцей, займацца салдацкай справай. Паслаў Люцыпар да бога свайго ганца.

— Божа, божа,— просяць чэрці,— вазьмі к сабе гэтага салдата.

— Не трэба мне такі,— адказвае бог,— у яго грахоў шмат: ён і п'е, і курыць, бога не паважае.

А салдат тым часам яшчэ больш узлаваўся на чарцей. Самога Люцыпара гоніць на страявую. Няма чарцям спакою. Даймае іх салдат пабудкаю, трывогу ім робіць, гоніць на заняткі, прысесці не дае.

Пайшоў Люцыпар сам да бога. Просіць дапамагчы хоць парадаю якою.

— Да сябе не вазьму, а параіць магу,— кажа бог.

І параіў.

— Здзярыце,— гаворыць,— з вала скуру, зрабіце барабан і падніміце яго ноччу па трывозе. Ён салдат, выскачыць па трывозе, і не пускайце яго больш да сябе.

Чэрці так і зрабілі. Садралі з вала скуру, расцягнулі яе зубамі, стала яна тонкая як папера, аж звініць. Ударылі тады паленнямі аб гэту скуру. Салдат думаў, што трывога, схапіўся ды і выскачыў з пекла голы, як стаіць. А чэрці пазакрываліся, рагочуць. Рады, што збавіліся ад салдата.

— Выкіньце мне хоць ранец! — просіць салдат.

Праўда, выкінулі яму чэрці ранец. Узяў ён свой ранец і пайшоў. Хадзіў, хадзіў — ні ў пекла яго не прымаюць, ні ў рай. Пайшоў ён да бога прасіць якой-небудзь работы. Дзе ж яму, беднаму салдату, дзявацца. Ангел расказаў богу аб гэтай просьбе.

— Ну што ж,— кажа бог ангелу,— калі ён салдат, давай яго паставім сторажам, няхай старажыць ля дзвярэй каля майго падходу. Перш чым хто да мяне захоча звярнуцца, няхай звяртаецца да салдата.

Вот далі яму свісточак такі — трывогу свістаць і паставілі ля дзвярэй. Стаіць ён, стаіць, аж вось прыходзіць смерць да бога пытацца, якіх ёй людзей браць, ці старых, ці маладых, ці сярэдніх. Ну, бог кажа:

— Няхай адзін год старых пабярэ.

Салдат, пакуль ішоў ад бога, дагадаўся: старых, а ў мяне жонка старая, смерць можа прычапіцца да жонкі. Абмануў ён смерць.

— Бог,— кажа,— загадаў старога асінніку год пагрызці.

Пайшла смерць, зморшчылася, скрывілася. Думае, за што

бог такое наказанне даў. Цэлы год людзі не паміралі. Прыйшла зноў смерць пытацца, каго ёй цяпер браць. Салдат пайшоў да бога і пытаецца:

— Якіх людзей, пытаецца смерць, ёй цяпер браць.

Бог кажа:

— Няхай цяпер тры гады маладых бярэ — маладога свету завялося многа.

Салдат як ішоў ад бога, здагадаўся: у яго ж дзеці ёсць маладыя, можа, думае, за маіх дзяцей учапіцца.

Прыйшоў сказаў:

— Бог,— кажа,— загадаў тры гады цяпер алешніку пагрызці маладога.

Зморшчылася смерць, за што, думае, такая кара? Але бог сказаў — пайшла. Тры гады смерць на зямлі алешнік грызла. А людзей развялося многа, размнога. Смерць не бярэ. Усе жывуць. Ну, тры гады яна грызла і прыходзіць да бога. А салдат усё стаіць.

— Ты, відаць, мяне абманваеш,— гаворыць смерць,— я сама ўжо пайду да бога.

А салдат кажа:

— Я сам цябе пушчу да бога, ты скажы мне, як ты бярэш людзей у мурох. Там жа ўсё закрыта: і вокны, і дзверы, там ўсё шчыльна зачынена.

— Ну, як я іх бяру, зраблюся мухай ці камаром і тады, як прыходзіць хто да чалавека, я сяду на плечы ці на руку і іду забіраць чалавека.

— А як гэта ты робішся мухай ці камаром?

— А вось так.

Яна раз — ды зрабілася мухай. А ён у свісточак ды заторнуў, ды ў кішэню. І стаіць салдат каля бога. І забыўся на смерць. А бог здагадаўся: і людзі не мруць, і смерць не прыходзіць. Бог пытае ў салдата:

— А дзе смерць? А ці ёсць у цябе свісточак?

— Ёсць.

Выняў ён свісточак, адкрыў, а там муха-смерць чуць жыве.

— Вот табе,— кажа бог,— кара: бяры гэту смерць на плечы і нясі яе на зямлю. Яна цяпер худая, сама не дойдзе на зямлю — нясі яе.

Ну што ж? Узяў ён яе, нёс, нёс, замарыўся. А тады дагадаўся, што ў яго ранец ёсць. Есць жа яму захацелася. Сеў, аддыхнуў, заказаў паўлітру водкі. І так выпіў, стаў п'яны, ідзе ды як ударыць смерць то аб сцяну, то аб камень, то аб дзе-

рава якое. Збіў чыста гэту смерць. Але ўсё-такі прынёс яе на зямлю. Прынёс ён яе, яна памалу ачуняла і цяпер людзей панямногу з'ядае.

## 116. ПРА САЛДАТА

Раньша была служба салдацкая дваццаць пяць лет. Адслужыў салдат дваццаць пяць лет, адпраўлялі яго дамой, далі яму тры сухарэ ў дарогу.

Ідзець ён дамой, страчае на дарозе мальчыка. Мальчык спрашвае:

— Куды ідзеш?

Салдат атвячае:

— Дамой.

— А што ты нясеш?

— Тры сухарэ.

Мальчык просіць хаця аднаго папрабаваць. Аддаў салдат сухара, пайшоў дальшы. Перарадзіўся другой мальчык, той самы на другую пародзію. Забег наперад, спрашвае салдата, дзе быў. Салдат атвячае:

— У салдатах.

— Што нясеш?

— Тры сухарэ было, аннаго аддаў мальчыку, два асталося.

Мальчык просіць сухара папрабаваць. Салдат аддаў другога сухара, ён не знаў, што гэта той мальчык. Пайшоў салдат дальшы. Мальчык перарадзіўся на трэйцюю прыроду. Зноў спрашвае:

— Дзе быў, што нясеш?

Салдат атвячае:

— Нёс тры сухарэ, два аддаў, трэці яшчэ ёсць.

Ён просіць:

— Аддай таго пасledняга сухара.

Ён яму аддаў сухара. Мальчык вымае карты новыя, такі маленькі мяшэчак і прыказвае:

— Дзе хочаш садзіся іграць, ніхто цябе не абыграе. Калі хто правінаваціцца, загадай палязаць у мяшэчак і зашчапі мяшэчка, будзе сядзець віноўны ў мяшэчку, пака ты захочаш.

Салдат забраў карты і пайшоў. Падходзіць к гораду. У канцы горада здзелана змейская гасцініца. Салдат задумаў там начаваць. Прыйшоў к гасцініцы, націснуў на кнопку, заэвінеў званок, ускаквае дзяўчына, прыняла ў комнату. Салдат рас-

палажыўся, запаліў свечку і чытае газеты. У дванаццаць часоў ночы нехта крычыць:

— Па́даю!

Салдат адвярнуўся і гаворыць:

— Па́дай, чорт з табою.

Цераз пяць мінут крычыць другі:

— Па́даю!

Салдат адвярнуўся, гаворыць:

— Па́дай, чорт з табою.

Падходзяць к салдату, сталі разгаварваць. Крычыць трэці:

— Па́даю!

Салдат адвярнуўся і гаворыць:

— Што-та ў вас усё па́дае і ніхто не ўпадзець.

Удваёх атвячаюць салдату:

— Сейчас узнаеш, хто гэта па́дае.

Салдат атвячае:

— Не запугаеце мяне.

Цераз тры мінуты ідзець змей храмы на аднойназе. Абселі салдата ўсе тры і спрашуюць салдата, што дзелацьмем. Салдат атвячае:

— Будзем у карты іграць.

Яны атвячаюць салдату:

— Ці будзе ў цябе з чым іграць?

Салдат атвячае:

— Дзела не ваша, раз я прыглашаю, будзем іграць.

Сталі іграць. Салдат іх стаў абыгрываць. Яны насілі, насілі дзеньгі і больш ужо дзяваць няма куды. Ну, то яны так думаюць: «І дзеньгі нашы і ты наш, паіграем і цябе ўністожым».

Прыходзіць ім урэмя ўністажаць салдата.

Салдат відзіць, што яны да дракі лезуць. Выцягнуў мяшэчак, расцягнуў і скамандаваў палязаць у мяшэчак. Яны паслушалі, палезлі ў мяшэчак. Салдат іх засцягнуў і павесіў на кручок, і сам лёг аддыхнуць.

Навутра ідзець дзеўка ўбіраць салдацкі пасцель, бачыць, салдат спіць. Пайшла яна далажыла старшаму хазяіну. Старшы змей тожа здзівіўся і гаворыць:

— Ну, нічога, няхай спіць.

Аддыхнуў салдат. Устаець, заяўляець старшаму змею купіць тры малаты бальшыя, наняць тры малатабоі. Змей падчыніўся яму, гэта ўсё споўніў. Але змей не знае, нашто гэта. Прыходзяць тры малатабоі, тры малаты. Салдат узяў мяшэчак з кручка, паклаў на кавадла, загадаў малатабоям біць мяшэчак.

Два ўбілі малатабоі, ён выбрасіў іх, а храмога, гаворыць, вазьму з сабою. Узяў з сабою. Ідучы па дарозе, узнёс на сухую сасну і павесіў яго там.

## 117. ЯК СМЕРЦЬ ВЫУЧЫЛА ЧАЛАВЕКА ЗНАХАРСТВА

Адзін чалавек быў надта бедны, так наварыў сабе стравы, узяў у збаночак да й пайшоў сабе ў свет. Ідзе, так ідзе, анно ж спатыкае чалавека, а гэта быў бог, і пытае ў яго:

— Куда ідзеш?

— У свет.

— А што нясеш?

— Абед; калі трапілася б з кім справядлівым, то з'еў бы.

— Ну, то з'еш са мною.

— А хто ж ты?

— Я бог.

— Э-э, калі ты бог, то я не буду з табою ў паляруша есці: які ты справядлівы, калі адзін аж надта мае, а другі з голаду здыхае!

І пайшоў далей. Ідзе, так ідзе, анно ж спатыкае пана Езуса. Ну, так пан Езус кажа:

— Куда ідзеш?

— У свет.

— А што нясеш?

— Абед; калі трапілася б з кім справядлівым, то з'еў бы.

— Ну, то з'еш са мною.

— А хто ж ты?

— Я сын божы.

— Э-э, такія вы ўсе справядлівыя: які бацька, такі і сын — усей род ваш гэдакі!

І гэта ўвайцяўшы, пайшоў. Ідзе, так ідзе, анно ж спатыкае смерць. Смерць таксама ў яго пытае, а ён:

— А хто ж ты?

— Я смерць!

— О, калі смерць, то з табою з'ем, бо ты прынаймей справядліва: усіх бярэш — і багатага, і беднага.

Гэта кажучы, селі, з'елі, тады смерць кажа:

— Цяпер то ты будзеш багаты, заўсёды мяне будзеш ба-

чыць: усім кажы, што ты дохтар, да й глядзі, як цябе да хворага зазвуць, а я буду стаяць у канцы галавы, то ты на[в]ат і не леч, а калі ў канцы ног, то дай сякога-такога зельечка, то й выачуняе.

— Добра.

І разышліся. Той ідзе, так ідзе, заходзіць да аднае хаты, анно ж ляжыць слабая жонка, глянуў — смерць у канцы ног стаіць, так даў якогась зельечка, то як рукою ўняў. Тут усе пачалі яго зазываць, упярож да вёсак, после і да двораў. Аднаго разу заклікалі яго да двара, а было недалёка, так ён пайшоў пяхтом. Уходзіць у двор, анно ж парабкі, угледзеўшы, змовіліся: адзін лёг у жолаб і стогне, а тыя падыходзяць да яго да й кажуць:

— Егамосцяньку, няхай ягомасць пахфатыгуецца, тут парабак захварэў, мо якую раду дасце.

Той уходзіць у стайню, глянуў, анно ж смерць стаіць у канцы галавы.

— Э-э, яму я нічога не параджу.

Тыя гэта ў смех:

— Га-га-га! Такі з егамосці і дохтар.

— Ну, абачце сабе!

Калі тыя глянуць, анно ж умёр! Тады далі веры, што ён дохтар велькі. Анно ж, аднаго разу смерць кажа:

— Ну, за тыдзень буду ў це — прыгатуйся там.

Той кажа:

— Добра.

Прыйшоў дахаты, зрабіў круцяшча ложко, анно ж ідзе смерць і стала ў галаве. Ён гэта пакруціў, так смерць ужэ ў нагах. Што смерць зойдзе ад галавы, то ён зноў перакруціцца. Скакала смерць каля яго, скакала, а после кажа:

— Круці не круці, трэба ўмярці!

Да й то дзыгець! у ложко і ўдушыла яго.

## 118. СМЕРЦЬ КУМОЮ

Быў сабе адзін мужык з жонкаю, былі яны ўжэ надта бедныя! Трапілася, даў ім бог дзéцятка, асёж ніхто не хацеў паслухаць таго дзéцятка ахрысціць. Пайшоў ён сабе дарогаю плачучы, асёж сустрэў паню: уся ў чорным убранні і ў руцэ нясе дзве свечкі запаленыя. Скланіўся ён ёй нізка, а яна кажа:

— Чаму ты, чалавечку, гэтакі заплаканы?

— Ах,— кажа,— мая пані міленькая, як мне не плакаць,— кажа,— калі мне бог даў дзéцятка,— кажа,— і нікога не ўпрашу, каб хто да храсту дзяржаў.

— Чаму ж цябе,— кажа пані,— ніхто паслухаць не хоча?

— Таму,— кажа мужык,— што я надта бедны: у мяне ў хаце ні куска хлеба, ні солі німа.

Так гэта тая пані выняла з кішонкі жменю грошай, дала яму і кажа:

— Ідзі ж ты і купі, чаго табе на хрэсьбіны патрэбна, і пастарайся кума, бо ўжэ цябе кажан паслухае, а ўзаўтры ранюсенька я,— кажа,— сама табе за куму прыду.

Падзякваўшы ён ёй харашэнька, прыйшоў да хаткі, да гэта барждэй шалду да балду! да за глячок, за торбачкі ды й да места. У месце накупляў усяго ўсялякага, дастаў кума і ўжэ ўсё як мае быць. Назаўтры, чуць свет, прыходзіць тая пані, так зара гэта павязлі да ксёндза, ахрысцілі тое дзіця і справілі хрэсьбіны. Ужэ па хрэсьбінах, пані, адходзячы дахаты, просіць таго чалавека:

— Прыдзі ж ты, кумятку, да мяне ў госці.

— Ах,— кажа,— мая пані міласціва, ласне я ведаю, куды да пані іці?

— Будзеш,— кажа,— ісці шырокаю дарогаю, так угледзіш мой палац, на маём палацу цёнгле свечкі гараць.

Адходзячы, яшчэ яму на спамажэнне многа грошай пакінула. Ён зараз узяў сваю гаспадарку папраўляць: зрабіў хату новую, усе будынкі да і можа ў год ці ў паўгода пайшоў да тае пані ў госці. Ідзе ён, так ідзе шырокаю дарогаю, асёж угледзеў палац, на ём свечкі так як зоры трамацяць: што адна згасне, то другая загарыцца; свечак гэтых было там без ліку. Зцікавала пані яго праз акно да і выхапілася проці яго:

— А мой кумятко, я цябе так доўга ждала!

Павяла яго ў пакой: корміць, поіць, трахтуе і не ведае, як яго ўгасціць. Потым давай ён яе пытаць:

— Мая пані міленька, чаму гэта на паніным палацы цёнгле адны свечкі тухнуць, а другія загарваюцца?

— Ага, мой кумятку, я табе скажу, бо гэта,— кажа,— я е Смерць, а гэтыя свечкі — то душы, і як свечка стухне, то чалавек,— кажа,— умрэ, а як загарыцца, то дзіця народзіцца.

Так ён чыста спалохаўся! А яна кажа:

— Не бойсь, кумятку, ты яшчэ дзесяць год будзеш жыць,— да і дала яму многа грошай і сама кажа:

— Цяпер ідзі сабе з богам, а за дзесяць лет я да це ў госці прыду.

Пайшоў ён дахаты і не казаў аб гэтым на[в]ат жонцы нічога. Пілі яны, елі смачна, хадзілі харашэ, і наш чалавек не агледзеўся, калі яму тыя дзесяць год мінуліся.

Асёж аднаго разу прыходзіць яго кума і шэпча яму на ўха:

— А што, кумятку, пара табе ўміраць.

А ён яе так просіцца, так модліцца:

— Я,— кажа,— у гэтакам дабрэ! у гэтакай роскашы! Мне здаецца, што я ўчора нарадзіўся: пазволь, пазволь, пані міласціва, яшчэ хаця з дваццаць гадкоў пажыць!

Так яна крыху падумала, памеркавала ды й пазволіла яму жыць дваццаць год і дала яму яшчэ больш грошай, а сама пайшла. У роскашы жывучы, хутка яму тыя дваццаць год зноў мінаюць, тады ён гэта ўзяў і справіў сабе ложак на круцюлцы. Прыходзіць Смерць:

— А што, кумятку? — кажа.— Пара ўміраць! Цяпер ніц не паможа: кладзіся, будзеш уміраць!

Лёг ён на том сваём круцяшчым ложку: як Смерць зайдзе ад галавы, так ён возьме ложак і нагамі перакруціцца. Яна зноў да галавы, ён зноў нагамі адкруціцца. Бегала яна акруг ложка, бегала да і кажа:

— Круці, кумятку, не круці, трэба ўмярці!

Сама дзыг! на ложко ўскочыла ды й задушыла.

## 119. КРУЦІ НЕ КРУЦІ, А ТРЭБА ЎМЯРЦІ

Кажуць — даўней быў вельмі вялікі паморак на людзей. Такога паморку ніхто й не памятáе. Не было такое хаты, каб двое-трое не памерла, а ў некаторых усе паўміралі, так што й гаспадаркі запуставалі. Быў адзін чалавек; у яго было дванаццацера дзяцей: сем сыноў і пяць дачок. Усе яны былі гожыя да ўдалыя. Працаваў ён сам, працавалі й дзеці, й даў бог ім багацтва й ва ўсём дастатак. А ведама, калі дасць бог здароўе, у сямейцэ лад да худобку, та не трэ[ба] большага шчасця. І гэта была шчаслівая хата. Але ж кажуць, што шчасце не вечнае. Так і на гэтую хату пасыпалася няшчасце адно па другом: пошасць за весну скасіла ўсіх дзяцей. Астаўся той чалавек адзін з бабаю, да й бабу сагнула ў сук. Улетку змокла ўсе сяло, і ў таго чалавека згарэла ўся сядзіба. Град збіў збожжа, а пакосы паплылі. Прыйшла осень, і ад паморку пра-

пала ўсё гаўяда. Астаўся той чалавек адзін, як кол, і гол, як маці радзіла. Цяжка йці жабраваць. І пайшоў ён к рацэ тапіцца. Стаў на беразе й давай наракаць на бога й зваць к сабе смерць. Усхадзілася бура: загуў лес, затрашчалі веткі. Ось і выходзіць смерць, да такая страшная, што няможна й сказаць.

— Ты зваў мяне? — пытае смерць.— От я прыйшла, але ты не памрэш.

— Чаго ж ты хочаш? Нашто ты мяне мучыш? — кажа чалавек і давай яе зневажаць.

Слухае смерць да толькі смяецца так, што аж рэбра ляскаюць.

— Ты,— ка[ж]а смерць,— не толькі скора сам не памрэш, але й другіх вылечыш; толькі не лячы тых, у каго мяне ўбачыш у галавах.

І знікла. Пастаяў чалавек, падумаў і яшчэ гарэй яго апанаваў жаль. Узышоў гэта ён на высокі бераг і кінуўся адтуль у рэку. Упаў у воду, бачыць, ажно смерць стаіць у нагах да пад азадак падтрымоўвае. Як ён ні круціўся, не мажэ патануць. Плюнуў гэта ён смерці ў зубы і пайшоў у свет. Хворых людзей усюды многа: куды ні прыдзе, е каго лячыць.

От ходзіць той чалавек па свету і лечыць усялякіх хворых. Пагдядзіць, гдзе ў хворага стаіць смерць, калі ў нагах, дасць яму выпіць вады, той і выздаравее, а калі ў галавах, та скажа, што гэтага хворага бярэ ■ сабе бог. Пайшла слава аб том чалавеку па ўсём свеце. От захварэў адзін цар. Не хочацца яму паміраць. Прызваў ён дахтароў су сяго царства; але чаго яны ні рабілі — нічога не зробяць. І абяцаў цар даць таму паўцарства, хто яго вылечыць. Але не найшлося такога дохтура, каб вылечыў цара. Прачуў цар, што е такі чалавек, што ўсіх вылечвае, й паслаў яго шукаць. Ці доўга шукалі, ці скора, толькі знайшлі таго чалавека й прывезлі к цару. А тут цар ужэ чуць дыша. Паглядзеў той чалавек, ажно смерць стаіць у нагах, і вялеў ён дастаць вады з дванаццаці крыніц. Дасталі вады. Узяў ён карэц тае вады, насыпаў туды трошкі гліны й даў цару выпіць. Насілу цар палыкнуў каплю вады, як яму лягчэй зрабілася, ■ цераз тры дні саўсім паправіўся. Выздаравеў цар і абдарыў таго чалавека, чым ён захацеў.

Зажыў з тых ча́саў той чалавек, як у бога за пазухаю: усяго яму даволі, усе яго шануюць. Жыве сабе ў палацах і нічога не дбае. Але толькі адно яго грызе — гэта, што прыдзецца калі-небудзь паміраць. А яму цяпер ой як не хочацца паміраць. Ведама, чалавек здаровы, багаты. От і прыдумаў ён, як абшу-

кацць смерць, і вялеў зрабіць сабе такую каравацць, каб яна круцілася. Ось па немалым часе й захварэў той чалавек. Бачыць, аж смерць стаіць у галавах, от ён і пакруціў каравацць так, каб смерць была ў нагах. Паглядзела смерць, што яна стаіць у нагах, і пайшла далей.

Пажыў трохі чалавек, але зноў прыйшла к яму смерць і стала ў галавах. Пакруціў чалавек каравацць, і зноў пайшла смерць шукаць другога чалавека. Пажыў так той чалавек яшчэ гадоў з два; але зноў захварэў, і захварэў вельмі моцна. От лёг ён на каравацць і чакае, пакуль прыдзе смерць. Толькі зірне, аж яна стаіць у галавах да смяецца. Пакруціў гэта чалавек каравацць, а смерць зноў стала ў галавах. Чалавек зноў пакруціў каравацць, а смерць зноў перабегла на другі бок. Доўга ён так круціў каравацць, а смерць усё бегала, як непрытомная, але потым і кажа:

— Круці, не круці, а трэ[ба] ўмярці,— і ўссела яму на голаў.

Як ён ні круціў каравацць, дак пазірае, а смерць усё ў гавалах: «Не,— думае,— праўду кажа смерць: круці, не круці, а прыдзецца ўмярці. Мабыць, смерці не абмануць».

## 120. ЯК САЛДАТ ТРЫ НАЧЫ СТАРАЖЫЎ ПАКОЙНІЦУ

Как жыў адзін купец міліёншчык, і была ў яго дочка валшэбніца. Наканец яна чуствувала сваю кароткую жысць, прызываіць свайго бацюшку і гаворыць:

— Ну, бацюшка мой мілы, бацюшка любімы, ■ уж уміраю, а што вам я буду прыказываць, то вы іспалняйце тое, как я ўмру: караульце мяне тры начы ў бані і тры начы ў цэркві.

Наканец, здзелаўшы ўсе заяўленія, яна памярла. Ён і давай нанімаць гроб дзелаць і яму капаць; патом прыказаў кавалю здзелаць два абручы зялезных, улажыў яе ў гроб і нагнаў еці абручы на гроб, і паставіў яе ў бані. Патом і давай нанімаць старажá карауліць еты гроб з купечаскаю дочкаю. Вот і сагласіўся адзін салдацік карауліць. Прыходзіць ноч. Ён узяў з сабою свячэй, ладану і кнігу, пашоў у баню, сеў на стаўбе і давай кнігу чытаць; чытаў, чытаў; патом у самую поўнач как лопнуць еці абручы, как лезіць яна із гроба і гаворыць:

— Хто тут такей пры мне ёсць?

Увідзела етага салдаціка на стаўбе і гаворыць:

— Эй, сляпэя, крывэя, сабірайцеся сюды ўсе!

Вот яны, як сабраліся, і давай етага салдата даставаць са стаўба: нікак не могуць яго дастаць са стаўба. Патом пятух кукарэку, то яны і прапалі. Прыходзіць еты салдат, і купец яму даў сто рублей. Патом, узяўшы дзеньгі, ён пашоў у кабак і для смеласці выпіў водкі, сколька яму было нужна. Патом купец стаў прасіць салдата на другую ноч і уж набіў чатыры абручы зялезных і гаворыць:

— Ну, брат, служыў ты мне да барады, служы і да вуса. Вот табе дзвесце рублей, толька пераначуй і другую ноч!

Ён сагласіўся, набраў з сабою свячэй, узяў кнігу і пашоў у баню, сеў на стаўбе і чытаіць кнігу. Падходзіць дзела к паўночы; вот яна вылязаіць із гроба, і абручы зялезныя ўрозь. Яна і гаворыць:

— Эй, хто ета такей ёсць?

І крычыць:

— Сляпэя, крывэя, сабірайцесь усе сюда!

Вот яны как ідуць, как двінуць, і давай етага салдата цянуць, хто ражном, хто кулаком. Паролі, паролі, нікак не маглі яго дастаць. Патом пятух кукарэку, і яны нізнама ідзе падзяваліся. Вот ён злез са стаўба і ідзець к етаму купцу. Вот ён і спрашыіць у яго:

— Ну, што табе там было?

А ён гаворыць:

— Еслі хочаш спрасіць, то можаш сам схадзіць, а мне пажалуй дзеньгі.

Вот ён яму аддаў дзеньгі, а ён пашоў у кабак і напіўся водкі п'яна-до́п'яна. Патом і гаворыць на яго еты купец:

— Ну, брат, служыў ты мне да вуса, служы і да барады: пераначуй уж і трэцюю ноч! Вот табе трыста рублей!

Ох, салдату уж как награзіла, то уж і не хочацца ідзіць, да нечага дзелаць, нужна паслушаць. Вот ён пашоў, набраў з сабою свячэй, узяў кнігу, і нагналі на гроб восем абручэй зялезных. Вот ён узабраўся на стоўб і чытаіць кнігу. Толька падходзіць дзела к поўначы, абручы еты на гробе ўрозь, і выходзіць яна із гроба. Патом і гаворыць:

— Хто тут ёсць такой?

Патом і крычыць:

— Эй, сляпэя, і храмэя, і крывэя, і аб двенаццатмі галавах, штоб былі ўсе суды!

Вот как ідзець самы іх глаўны з двенаццатмі галавамі, і пасабраліся ўсе. Патом і гавораць:

— Ну, как мы яго адтуда знімем?

А самы старшы з двенаццатмі галавамі і гаворыць:

— А во как мы яго дастанем: ідзіце і сабярыце це агаркі, каторыя са 'боіх старон палены.

Вот яны пабеглі ў разныя стораны і сабралі са 'боіх старон агаркаў. Вот яны і падпалілі еты стоўб. Відзіць еты салдат, што дзела яго плоха: уж дабіраецца агонь да яго. А патом пятух кукарэку, так яны пашчэзлі, а стоўб еты заваліўся, і салдат еты жыў астаўся. Патом даў бог вутра, салдат еты ідзець к купцу і гаворыць:

— Ну, гаспадзін купец, то мне была бяда не бяда, а сяводні мне была бяда: мяне саўсем сташчылі, так што стоўб згарэў, а я астаўся, слава богу, жыў.

Патом купец аддаў яму трыста рублей дзенег, ён і пашоў у кабак, напіўся водкі і прыходзіць к купцу, а купец пашоў к кавалю і прыказаў, штоба ён увесь гроб паскуваў зялезам. Каваль усё ета ісправіў. Вот купец прыказаў, штоба яе няслі ў цэркву і схаранілі ў яму. Вот прыняслі яе ў цэркву, а папа дома нету, паставілі яе начаваць у цэркві. Патом купец і гаворыць на салдата:

— Ну, брат, начаваў ты ў бані, пераначуй ужо і ў цэркві: я табе за ета палавіну свайго імушчаства аддаю.

Вот ён сагласіўся і пашоў у цэркву начаваць. Толька нямнога ўрэмя прайшло, січас абручы еці ўсе ўрозь, яна і вылязаіць із гроба. Салдат і ўрабеў, а яна на яго гаворыць:

— Не бойся, мой мілы, я віжу, как ты мяне бірагеш і как ты многа стараешся!

Патом как абняла яго, а ён яе за шыю крэпка, так што яны не маглі разжацца. А пятух кукарэку, так яна і атсталась жыва; узяў яе салдат за руку і павёў дамой. Перавянчаліся, сталі жыць да пажываць да дабро нажываць. Я там быў, мёд, віно піў, па вусам цякло, а ў рот не папала. Ета сказка ўся і расказываць нельзя.

## 121. МЕРТВАЯ ВЕДЗЬМА І ШАВЕЦ

Ува 'днэй дзярэўні жыла ведзьма, баба. Як памерла йна, дак яе схавалі на царкоўі. Яна, памёршы, не давала збыту, кажную ноч дзелала порчу ў цэркві: вабразы паб'е, свечы пагрызе... Сколькі ні стаўлялі старажоў, усіх паесць і костачкі не пакіне. Бяда з бабай — ведзьмай. Яны сталі дакладаць на-

чальству. Начальства паставіла калавурыць салдатаў, а ведзьма і тых паела. Сталі тады шукаць смельчака, каб тэй пераначаваў у цэркві. Ну й знайшлі ў шынку шаўца-п'яніцу; ён усім мужыкам дужа надаеў п'яны, от яны і сталі ўгавараваць яго іці ў цэркву калавурыць ноччы.

— А зачым,— кажа,— можна! Толькі дайце мне на ноч тарнец гарэлкі і гарнец маку, і плець зямца, і хрэст, і пеўня!

Ну, яму, звесна, усё гэта далі. Ён убіў баньку ў булаве, прывязаў плець, узяў з сабою свае начыння і пайшоў. Усцягнулі яго ў булаву. Ён паставіў перад сабой гарэлку: вып'е да й пяе. Сярод ночы прыходзе ведзьма і давай сваім парадкам:

— Ага, хто тут ё?

— Шавец-п'яніца!

— Ну, сяйчас і костачкі не 'стаўлю!

А шавец і не спужаўся: пяе да часценька гарэлку п'е. Ведзьма й закрычала:

— Старыя і малыя, ка мне на памогу!

Тут усе мертвяцы ідуць і дамавінкі з сабой нясуць, церамкі. Ведзьма завалала ім стаўляць дамавінкі і церамкі адзін на адзін і палезла па іх наверх. Толькі хацела ўзяць шаўца, а ён сыпель маку! Так усё і пабурылася, і ведзьма звалілась.

— Пагадзі ж,— каець.— Станавіце ўзноў!

І палезла. Толькі ўзяць шаўца, а ён яе па лбу хрэстам — яна й звалілася.

— Пагадзі ж, п'яніца дурны! Рабяты, узноў начынайце складуваць!

Тут усе мертвяцы ўзноў узялісь складуваць. Палезла ведзьма за ім, а ён пеўня краць! А певень кукарэку! Ведзьма ўпала і забілася, і мертвяцы памёрлі. Адзін шавец астаўся жыў; сядзіць на булаве, пяе да гарэлку п'е. Прыйшлі людзі, цэркву адпёрлі, аж там поўна цэрква мертвяцоў, і ведзьма ляжыць няжыва. Тады людзі знялі шаўца, пахавалі ўсіх мертвяцоў, ведзьму прабілі асінавым колікам і спалілі на асінавых дровах. Пасля таго ў цэркві ўсё змірылась. А шавец за гэта не ўзяў нічога.

## 122. ЛЯКАЙ І КРУЛЕЎНА

Адзін лякай служыў у пана дваццаць пяць гадоў і браў па дваццаць пяць рублёў кажды год. Потым ад пана выдаляўся, і пан яму адлічыў з пэнсіі за пабітыя талеркі і шклянкі. Яму з пэнсіі засталася толькі тры рублі. Як выдаліўся ад пана, так

пайшоў у свет. Прыйшоў да карчмы і там знайшоў умершага: гэты ўмершы быў доўжан шмат дзенег людзям. Прыходзіць той лякай, пытаецца:

— Чаму так зашліся многа людзей?

Так яму кажуць:

— Вінават шмат грошай нам, прыйшлі мы дахадзіць.

Так той лякай кажа:

— Усякаму пятую часць сплачу, што ён доўжан.

Той лякай зачаў плаціць даўгі з сваіх трох рублёў, і яму засталася з таго толькі тры грошы. Потым лякай пайшоў зноў у свет з тыма грашамі. Як адышоў тры мілі, даганяе яго чалавек другі і пытаецца:

— Дзе йдзеш?

— Іду ў свет.

Той кажа:

— Ідзем разам, што знайдзем, то будзем па палове дзяліцца.

Падашлі дзве мілі, знайшлі саракоўку. Зайшлі да карчмы, паснедалі і пайшлі зноў у свет. Знайшлі рубля аднаго, зноў зайшлі да карчмы і выпілі гарбату. Потым пайшлі колькі міль і знайшлі дзесяць тысяч грошмі рублёў. Прыехалі да места і купілі сабе окрант. Накуплялі розных тавараў і паехалі гандляваць у свет. Прыехалі да аднаго места. Той чалавек, каторы знайшоўся да лякая, кажа на яго:

— Бяры і насі да двара і больш не баўся як тры гадзіны, бо як забавішся больш, то будзе пакута вялікая.

Гэты лякай бавіўся больш тры гадзіны. Яны кажуць на яго, што хто больш перабудзе ў нас як тры гадзіны, то мусіць начаваць у касцелі. У том касцелі была крулеўна заклента і той крулеўне адпускаўся чалавек на з'ядзенне. Таго лякая засадзілі да касцёла. Ён першу ноч хаваўся пад бэльку ў касцеле. Тая крулеўна вылезла шукаць есць; не знайшла, у труну замкнулася зноў. Ён кленчыў і начаў маліцца каля алтара.

Цар кажа:

— Пайдзеце, косці прыбярэце таго лякая.

Прыйшлі, аж ён модліцца каля алтара. Прывялі яго да пакоя, і цэлы дзень прабыў ён у пакоі. Давалі яму піць, есць. Ён вечарам просіцца, каб пусцілі да свайго камрата. З салдатамі яго павялі да камрата. Камрат яго пры акрэнце.

Той камрат кажа:

— Я табе казаў: ты больш не баўся як тры гадзіны; ты забавіўся, цяпер згінеш.

Заклікаў яго да сябе і сказаў яму, каб ён схаваўся ў склеп, дзе скідаюць косці.

Уноч вядуць да касцёла. Як ён прыйшоў да касцёла, укленчыў і начаў маліцца. Прыйшла дванаста гадзіна, ён схаваўся ў склеп. Вылезла крулеўна, начала яго шукаць. Не знайшла яго, улезла ў труну і замкнулася. Ён зноў начаў маліцца каля алтара.

Назаўтра прыйшлі, зноў забралі да пакоя, зноў давалі яму піць, есць. Пад вечар у тую пору, як ішлі да касцёла, просіць зноў пусціць яго да камрата. Пусцілі яго да камрата. Камрат кажа:

— Як яна адчыніць труну, пайдзе іскаць, так ты ўлезь у труну і замкніся; не пускай, аж пукі дванаста гадзіна не праб'е; яна начне прасіцца, тады адчыніш труну і вылезеш.

Так ён і зрабіў, як гаварыў камрат. Прыйшла дванаста гадзіна, крулеўна прасілася, каб ён пусціў; ён не пусціў, аж пукі дванаста гадзіна не прайшла. Прайшла дванаста гадзіна, ён вылез з труны, і пайшлі абое маліцца да алтара. Бацька прыйшоў зноў з салдатамі ўбіраць косці. Яны модляцца абое. Так цар сказаў:

— Ах, даваў аднаго чалавека, цяпер трэба двох.

Цар узяў войска, пайшоў да касцёла глядзець іх. Пакленчылі яны перад царом і сказалі:

— Мы не ўшкодзім ніц.

Ён забраў іх абое і павёў дадому, да пакоя. Кажа:

— Ты яе адкупіў і ты з ёю будзеш жаніцца.

Ён кажа:

— Без камрата не магу, трэба пайсці да камрата, чы ўзволіць камрат.

Прыйшлі да камрата. Камрат узволіў. Далі вяселле, музыка грала. Ён казаў:

— Пайду зноў да камрата.

Прыйшоў да камрата і прывёў на вяселле. Той камрат праз тры дне быў. Кажа камрат:

— Цяпер будзем дзяліцца.

Падзяліліся грашмі, каторыя знайшлі; дзяліліся, што за тавары бралі, прадалі. Камрат кажа:

— Трэба дзяліцца жонкаю.

Ён кажа:

— Як жа я магу дзяліцца жонкаю?

Той камрат кажа:

— У нас така была ўмова: што знайдзем, што прадамо, то па палове; трэба і жонкаю дзяліцца па палове.

Той камрат узяў і жонку раздзёр па палове; палова сабе, палова табе.

— Бяры ўсю, я з паловай гэтаю нічога не зраблю.

Камрат кажа:

— Ото ж, бачыш, дурню, ніц не знаеш; за тры годы яна зноў пажырала б людзей, трэба яе ўзяць, вымыць у сярэдзіне.

Вымылі яе. Той камрат хухнуў і ажыла. После кажа:

— Ото ж відзіш, я табе даў крулеўства, а ты мне даў крулеўства.

## 123. ПРА ЗАЧАРАВАНУЮ ДАЧКУ

Быў пан, а ў пана быў сын і хацеў ён гора знайсці. Ну, вот сказаў:

— Тата, я пайду шукаць гора, я не хачу багата жыць, каб мне ў бядзе пажыць.

І пайшоў. Бацька, ну што ж, плакаў, прасіў усё. Ідзець, ідзець гэты сын. Ніякага надта і гора няма, бо ён грошы з сабой меў, у яго хватала гэтых грошаў. Прыходзіць ён, так што ў даль такую ўжо. Раскашэліў грошы. Стала яму тошна і цяжка, стала яму есці хацецца. А як пабыў у холадзе і голадзе, думае, каб памерці. Вот прыйшоў ён у горад у адзін. Ідзець салдацік дамоў, а тут выскачылі бандзіты і ўбілі купца, і самі скрыліся, а людзі на гэтага салдаціка сказалі, што вот гэты ўбіў, гэта ён якраз вот січас быў. Ну што ж, гэты салдат просіцца, плача:

— Бо я ж не вінават ні ў чым.

А яны ж, бандзіты, уцяклі, не стала ж іх. Вот тады панскі сын думае:

— А што ж, бедны гэдак плачыць, ну ён жа ж не хочыць уміраць, а я хачу ўміраць, вазьму я яго замяню.

Ну, ужо гэтага салдаціка будуць судзіць. Вот і суд зачаў, судзяць ужо салдаціка. Смертнай казняй гэта яго ўжо будуць судзіць, даўней жа ж ужо смерць за смерць. Ну дык што ж, панскі сын гаворыць:

— Нада ж мне памерці, за што жа ён будзіць уміраць, калі ён не хочыць?

Кажыць:

— Няправільна, суддзі, судзіце. Я яго відзеў сам, што ён не вінават. Гэта ж я ўбіў.

Ды гэтыя глядзяць, суддзі, што гэта такое? Ну, дык не пусцілі ж надта і салдата гэтага, а панскага сына ўзялі і ўжэ будуць судзіць. А гэты разбойнік відзіць усё, што тут ужо робіцца. «Вот,— думаець,— за маі грахі хочыць у неба папасць гэты ўжо панскі сын. Не, брат, не пайдзёць так». І гэтыя грошы дзяржыць, ён жа ж ужо і вінават сапраўды, і крычыць:

— Расступіцеся,— на народ,— расступіцеся!

Тут расступаюцца, расступаюцца, ён ужо падходзіць:

— Панове суддзі! Вот вы няправедна судзіце. Ён не вінаваты, ні адзін, ні другі. А вот гэта я ўбіў. Вот і дзеньгі, вот той і кашалёк.

Паглядзелі — праўда, такая сума ж ужо вялікая. Панскі сын устрывожыўся, ну што, не дадуць ужо ж умерці, а гэтак хочацца ўміраць. І гэтага ўзялі ж ужо, узялі ж там растралялі пэўна, а салдата пусцілі дамоў і пана. Ідзець-ідзець, ідзець-ідзець пан. Падыходзіць да горада. Горад вялікі, але ўвесь у жалобе. Хорангелкі чорныя вісяць — страх глядзець. Ён гаворыць:

— Што гэта такое? — у першы дом увайшоўшы,— што тут такое? Чаму тут такая жалоба?

Кажуць:

— Ты што, не ведаеш? Тут жа ў нас цар закляў сваю дачку, і вот яна ляжыць у касцеле. Ляжыць у шкляной труне і яе нада штоноч пілнаваць, штоб харошы, красівы кавалер прыйшоў. А сягоння такі красівы хлопец гэдак плачыць, гэдак не хочыць, і вот пагібнець, яна яго з'есць, толькі косці знайдуцца, і ўсё.

Тады кажыць ён:

— Ну, дык вот я пастаражу.

Ух, тут скарэй падхапілі яго за падручкі да да цара, што дабравольна з'явіўся, кажуць. Вот яго січас уткнулі ўжо ў касцёл гэты. Ён глянуў: там перавернута ўсё, а куча касцей ляжыць, увесь у крыві гэты ўжо касцёл, страх там, што робіцца. Трошку і яму страшна зрабілася, але думаіць: «Усё роўна ўміраць». Укленчыў каля гэтай труны, а труна стаіць шкляная пасярод касцёла, а там відаць праз века шкляное страшнаястрашная дзеўка: валасы чорныя, яшчаркі па гэтай галаве поўзаюць, сукенка ў гадзіны ў такія, розныя выкрантасы, вужакам падперазана, ну проста страх глядзець, якая. Толькі ўжо стала сумяркацца троху, чуіць: скрып дзверы. Швэп! швэп!

швэп! чалавечак у лапціках сівенькі-сівенькі выйшаў з закрыстаі.

— Чаго ж ты прыйшоў, маё дзетка? Ці ж ты не чуў? Ты ж згінеш, ты ж не выйдзеш адгэтуль, гэта ж табе канец будзець, гэта страшная смерць.

Дык ён неяк змякіціўся, забаяўся ўжо, стаіць зхмурнеўшы. А стары кажыць:

— Калі ж ты толькі вытрымаеш, я цябе схаваю. Толькі маўчы. Яна цябе будзець і па іменню звацць, не адзывайся. Вот пастаі яшчэ троху тут, а тады ідзі на хоры — гэта былі такія хоры ў касцёле, там спявалі. Там стаіць статуя такая святая. Ты за гэту святую статую зайдзі і ціханька стаі, і глядзі адным вокам. Глядзі, дзе яна паварачваецца і што будзець.

Ну вот, пайшоў ён ужо, стаў за статую. Праўда, вялікая тая статуя, большая за чалавека, нейкі святы ўжо быў там. Стаіць ён і глядзіць. А што ж ужо падступаець паўноч. Бах, адкрылася труна, вылазіць высокая высмуглястая такая, стройная дзеўка. І як вышчарылася, як вышчарылася, як заламіла рукі, і гэдакая яна страшная, усё там па ёй гады страх-страхам якія! Як завыла, як зараўла:

— А дзе ж ты ёсць, чаму ж цябе сягоння няма?

Ну і паляцела ўсюды шукаць. Яна заляцела перш за абразы пaглядзела, паглядзела, тады як бразнець, як стукнець яна ў закрыстаю — і там няма.

— Я знаю, што ты ёсць, я знаю,— во і па іменню завець.— Выйдзі, мой спасіцель, мой збавіцель,— на яго.

А ён усё стаіць, не адзываецца. Тады толькі какарыку! пятух, а яна тады скок, скарэй у гэту труну, хлоп! дзверка і закрылася. Тады ён выйшаў, абразы папавешаў, усё пачысціў, косці гэтыя параскідвала яна была, узноў злажыў.

І тут скарэй, чуць дзянёк, лятуць слугі, адчыняюць дзверы: ах, стаіць ён! І тады толькі хлясць! ізноў замкнулі і да цара:

— Ай, жывець, ёсць!

Цар ляціць на тройцы лашадзей, падляцеў. Глядзіць і кажыць:

— Ну вот, калі другую ноч пераначуеш — золатам абсыплю з ног да галавы, а калі нет — галава далой.

Дык ён у адказ:

— Скідайце сабе гэту галаву, усё роўна яна мне ўжо не нада, я і так не выжыву.

Ну, ён тут ужо адвесіў шаблю, цар, хацеў ужо сякануць, а той спужаўся.

— Ну, зноў застануся,— узяў і застаўся.

Тады гэдак сама ізноў чуіць, толькі скрып у дзверы, толькі шлэп, шлэп, шлэп, ізноў ідзець стары:

— Ты ўзноў прыйшоў, захацеў багацтва, золата? Вот прападзеш, ■ ж табе ўжо не дам ніякай рады.

— А дзядулька, а міленькі, а ратуй жа ты мяне.

— Калі ж выдзержыш — будзеш спасёны, а не — дык не.

— Ну, дык як жа ж мне ўжо выдзержаць?

Кажыць:

— Укапаю цябе ў косці. Толькі глядзі, каб не зашавяліўся.

Выскакнула яна гэта, ён ужо схаваўшыся быў, і лятаець. Узноў няма ў другую ноч. Лётала, лётала, лётала, бразгала, стукала, божа ж мой мілы, ён жа ж відзіць яе, ужо не такі страх, але ж так непрыятна ў такіх касцях чалавечых, у трупах гэтых ляжаць. Вот ён чуіць ужо хлоп! — дзверы зачыніліся, як пеўні праспявалі. Вылез ён, спарадкаваў усё, узноў стаіць. Вот тады зноўка лятуць гэтыя слугі. Глядзяць, што ён жывы. Як жа ж паляцелі ўзноў па цара, ужо ж на шэсць каней прыляцеў, шаблю падвесіўшы. Прывялі яго. Кажыць:

— Нізашто не буду больш.

— Ну, раз не будзеш, дык галава далой, а не — дык з ног да галавы ў тры столкі абсыплю золатам.

Ён кажыць:

— Не хачу ні золата, нічога.

І ўжо чуць-чуць да галавы не даткнулася шабля, але ж як уздзержалася. Ну і астаўся. «Усё роўна,— думаець,— памру дык памру, усё роўна ж паміраць, горай, як ужо ж засячэць».

Толькі ўжо тыя ад'ехалі, ён зноў там усё папарадкаваў. Чакае старога. Няма і няма нікога, а тады скрып! толькі дзверы. Стары ўжо:

— А, ты прыйшоў, не паслухаў мяне, я цябе ўжо не знаю, як ратаваць.

Дык ён як зачаў плакаць, як зачаў галасіць, як зачаў прасіць. Тады ён кажыць:

— Ну, калі выдержыш, вот так. Пастаі яшчэ, тады ляж каля труны, з гэтага боку, дзе завесы, крышка і закрые цябе. І на табе залаты ліхтарык гэты, і як яна паляціць у закрыстую, ты ціханька выскач і ляж у яе труну і на грудзі палажы гэты ліхтарык. Як яна толькі будзіць ляцець, дык спужаецца.

І гэдак ён зрабіў. Як толькі ўжо паляцела яна ў закрыстую, ён скоранька лёг, ляжыць, а яна скіялух туды ды на яго. Як спужалася, далоў. А ўжо такая царэўна, красата, якая там су-

кенка золатам вышыта, ленты такія бліскучыя, валасы светлыя, а сама такая красівая, ну ні ў казках казаць, ні пяром апісаць, такая красавіца. І тады яна яго абняла, пацалавала:

— Мой ты спасіцель, я столькі страдала.

Пайшлі, укленчылі на алтары, удваёх стаяць. Прыбягаюць слугі, папужаліся. Замкнулі і скарэй да цара. Цар прыляцеў. Тады яны пакланіліся ж ужо ў ногі. І ўся басня. Ну, там золатам жа ж то абсыпаў цар хлопца таго.

## 124. АБ РЫЦАРУ, ШТО НЕ БАЯЎСЯ

Быў сабе адзін пан, велькі рыцар, і ён нічога не баяўся да яшчэ казаў, што ён невядома што даў бы, каб анно яму хто паказаў, якое гэта «баюся». Але, вядома, ніхто яму не паказаў, так ён аднаго разу кажа да хлопца:

— Запрагай коні, паедзем у свет шукаць таго «баюся».

Ну, так той, хочучы не хочучы, запрог ды й паехалі. Едуць яны, так едуць, едуць, едуць, але нідзе і не чуваць і не відаць «баюся». Ажно аднаго разу захапіла іх ноч серад чыстага поля; калі глянуць, ажно па горцы такі агонь палае! Так то пан кажа:

— Ідзі, палядзі, што там такое?

— Калі, пане, баюся!

— Ат, дурню ты, чаму ж я не баюся? Злазь з каляскі!

Хлопец то злез, а ён сеў і паехаў пад тую горку. Пад'язджае, ажно там скарб! Так набраў поўну калясачку ды й, пад'ехаўшы да хлопца, кажа:

— От бачыш, ты баяўся, а я, палядзі, чаго набраўся! Сядай і едзьмо дахаты.

Як прыехалі, так кажа:

— Перапражы, хлопча, коні, паедзем яшчэ гэтаю ноччу шукаць «баюся».

Так і паехалі. Едуць яны, так едуць, ажно назаўтра захапіла іх ноч каля магілак.

— Ну,— кажа той пан,— не варта нідзе ехаць далей, начуймо тут.

А таму хлопцу аж валасы дубам сталі і ушы звялі, ды й то кажа:

— А-ей, паночку, я тут баюся!

— Ну, калі так,— ка[жа],— то будзем тут, канешне, начаваць, я хачу хоць раз угледзець «баюся».

Так выпраг коні — ніўто рабіць, калі наняўся, то як запрадаўся! Ну, хлопец той загнуўся з страху ў брычцы, а пан пайшоў на могліцы ды й то лёг сабе на свежай магіле. Ляжыць, ажно ніўбаве калі затраскаціць нештась, зямля расступілася, ды й то вылез мрэц у белым і пайшоў. А пан як нігды ніц, ляжыць сабе. Ажно паждаўшы крыху, ідзе назад, так пан у труну. Той прыйшоў, панюхаў.

— Хто тут?

— Я!

— Пускай!

— Не, не пушчу!

Той давай прасіць.

— Не, не пушчу!

Цэрталіся яны, цэрталіся, нарэшце певень какарэку! Так той мрэц бурждэнк! ды й перакінуўся каля магілы. Так то пан, вылезшы з труны:

— Янку! — крычыць.— Нясі мяшка, ест ужэ адно «баюся».

Хлопец прыбег, калі гляне, што гэта мрэц, мала ні абамлеў са страху, але што рабіць, усадзіў у мяшок ды й панёс на каляску. Тым часам ужэ пачало світаць, так паехалі далей, а пан такі ўжэ рад, што прынаймсе хоць аднаго знайшоў страха. Ужэ было не адвячоркам, як прыехалі да аднае карчмы, так пан кажа да карчмара:

— Ці не можна было б тут пераначаваць?

— Оўшам,— ка[жа],— я панаві не шкадую, але і не раджу.

— Чаму?

— Калі тут нешта страшыць — я сам баюся.

— О, таго я і хачу! Выпрагай коні ды й прынось таго гіцля сюды!

Хлопец зараз прынёс, коні выпраг, і лёг той пан спаць. Спіць, спіць, ажно ў глухую поўнач зрабіўся такі грукат, стукат ды й нешта мічыць пад печчу:

— Лезу, лезу!

А пан:

— То лезь, калі лезеш!

Так той зноў пад печчу:

— Рука, рука, рука!

А пан:

— Давай сюды руку!

Так то зноў:

— Нага, нага, нага!

А пан:

— Янку,— кажа,— давай сюды нашага!

Хлопец то зараз вытрас з мяшка гэтага мярца, утэды як ні шчэпяцца, як ні стануць рваццa зубамі, а пан усё бегае надаўкол іх да ўсё крычыць:

— Мой тва[й]го бяры! Мой тва[й]го бяры!

Біліся яны, біліся, аж утом певень какарэку! Так яны бурждэнк! абодва ды й пападалі нежывыя. Утэды пан казаў забраць у мяшок абодвых, паўносіць на каляску, ды й кажа да таго карчмара:

— Ну, ужэ ж цяпер не бойцеся нічога, бо я забраў вашага «баюся».

Да то сеўшы, паехаў. Едуць яны, так едуць, анно ўжэ іх ноч пачала захапляць у лесе. Едуць далей, ажно ўгледзелі — серад лесу ў хатцы агонь блішчыць; так то хлопец злез, паглянуў праз акно ды й кажа паціхеньку:

— А-ей, паночку, уцякаймо, бо тут разбойнікі!

А пан:

— То што, дурны! Яны нас не заб'юць, у нас грошай німа.

Разбойнікі разлажылі сабе серад хаты агонь, ды й на ражон ссадзіўшы, пякуць неяку пячэню, ажно пан увайшоў ды й стаў прасіцца ў іх нанач. Так яны агляну́ліся па сабе, засмяяліся ды й кажуць:

— То начуй!

Так ён сабе сеў, клікнуў хлопца ды й кажа:

— Янку! Прынясі сюды і нашу пячэню, то за адным заходам і мы сабе прыпячэм.

Так то Янко, узяўшы мярца за ногі, прывалок, а пан яго ссадзіў на меч і давай пячы. Разбойнікі чыста папалохаліся, гэту камедзю бачачы. Ён пёк, пёк, потым урэзаў кусочак, скаштаваў ды й кажа:

— Янку! Падай свежага, бо гэты ўжэ пратух.

А разбойнікі як ні пойдуць, як падмецяны з хаты! (бо думаліся, што з іх катарага), ды й то выракшыся сваe пячэні, усялякіх прыштыкаў, грошай, пайшлі з слыхамі, пакінуўшы ўсё сваё багацтва. Утэды гэта і пан насоўваўся і напіўся, калі гэта паршук, і хлопца накарміў і напаіў здаволі, а потым, загарнуўшы ўсё багацтва ў скрыню, паехалі дахаты. Прыехаў, увайшоў да пакою, так кажа да жонкі:

— Ну, сэрданько, я толькі прыехаў адвезці гэта, што мне

бог даў, а сам зараз зноў еду ў свет, бо я яшчэ не знаю, што то за «баюся».

Жонка яго так просіць, так лемянтуе, ледзьве ўмаліла, каб адну ночку пераначаваў. Як прыйшла ўжэ пара класціся спаць, жонка яму выслала ложка ды й пад прасціродла падсадзіла ожыка. Як лёг ён, як укалола яму ў сцягно, так давай ён крычаць:

— А е-ей, баюся! баюся!

І па той раз не паехаў ужэ нідзе шукаць «баюся».

## 125. ПРА ПАНА І ХЛОПЦА

Даўно, даўно гэта было, многа гадоў назад, жыў адзін пан. І служыў у яго хлопец. Хлопец быў добрым, усё рабіў добра. Прабыў у пана шэсць гадоў, а платы не браў. Пан яго карміў і надзяваў, хлопец у яго вырас вялікі. Вот пан сказаў хлопцу:

— Выцеплі лазню, памыемся.

Хлопец выцепліў лазню, і пайшлі з панам мыцца, памыліся і прыйшлі дамоў. Пан яму кажыць:

— Кончыўся год, а ты ў мяне шэсць гадоў служыў добра і справядліва. Садзіся, будзем есці. І скажы, колькі табе за шэсць гадоў нада заплаціць.

— Я пану служыў шэсць гадоў, а пан паслужы мне шэсць дзён. Я буду панам, а ты маім парабкам, што я буду казаць — выпаўняць.

Падумаў пан і кажыць:

— Добра, буду я табе служыць шэсць дзён.

Саглласіўся пан служыць шэсць дзён; цяпер хлопец будзець за пана, а пан за парабка. Вот рана новы пан будзіць свайго парабка:

— Уставай, ідзі кармі каня.

Слухаець парабак, устаець і пайшоў карміць каня. Накарміў, напаіў каня; пан сказаў устроіць сняданне. Тады пан кажыць на парабка:

— Садзіся, еш разам.

Сеў парабак з панам есці, пад'елі яны. Пан кажыць парабку:

— Ідзі запрагай каня.

Пайшоў парабак, запрог каня, падагнаў пад ганак. Новы пан кажыць парабку:

— Надзявайся, паедзем.

Парабак надзеўся, сеў за хурмана, а пан сеў як і пан ззаду.

— Ну, паедзем,— кажыць новы пан.

Выехалі на дарогу і паехалі ў адну старану. Едуць і едуць і ўжо і палудзень прайшоў, а яны едуць. Тады парабак кажыць пану:

— Есці хочацца.

А пан кажыць:

— А ты відзеў, што я еў, едзь далей.

Вот яны і едуць. Ужо і сонца зайшло, а яны едуць; у вялікі лес уехалі і едуць лесам. Відзіць пан — гарыць аганёк, кажыць на парабка:

— Дзяржы каня, ідзі паглядзі, хто там ёсць.

Злез парабак з воза, пайшоў глядзець, хто там ёсць. Прыходзіць да хаткі, а там нікога нет. У хаце на стале гарыць свечка, а пасярод хаты ляжыць нежывы чалавек у думаўі. Прыходзіць парабак да пана і кажыць пану, што відзеў.

— Вярні каня да хаткі, там будзем начаваць.

Парабак павярнуў каня, пад'ехаў да хаткі. Адпрог каня і пайшоў з панам у хатку. У хаце стаяла печка, а за печкай ложак.

— Будзем класціся спаць.

Парабак аж дрыжыць ад страху. Новы пан лёг на ложку і спіць, а парабак скруціўся ў пана ў нагах і аж дрыжыць ад страху, і не спіць.

Сярод ночы прыходзіць гэткі другі мярцец. Устаець і гэты з думаўя і схапіліся біцца і пішчаць. Парабак будзіць пана:

— Уставай, паглядзі, што гэта робіцца.

Новы пан падняў галаву, паглядзеў на іх і кажыць:

— Што вы робіце? Пазабіваецеся.

Чалавек, што прыйшоў у хату, за дзверы і пайшоў, а гэты паваліўся ў думаўё і лёг. Парабак увесь дрыжыць ад страху, а пан спіць хоць бы што. Развіднелася, устаў пан і кажыць парабку:

— Запрагай каня, паехалі.

Парабак запрог каня, выехалі на дарогу. Пан кажыць парабку:

— Ідзі вазьмі гэтага чалавека.

Парабак прынёс нежывога чалавека і паехалі далей, нічога не еўшы, бо ў іх не было чаго есці. Едуць яны цэлы дзень, к вечару прыязджаюць у лес, ужо цёмна. Едуць яны лесам і бачаць, гарыць аганёк у кустах. Пан кажыць на парабка:

— Схадзі паглядзі, хто там ёсць, можа і нам можна там пераначаваць.

Парабак пайшоў да агню, а там сядзяць разбойнікі, п'юць гарэлку і закусваюць.

— Ці можна нам пры вас пераначаваць?

Разбойнік пытаецца ў парабка:

— А многа вас ёсць?

Парабак кажыць:

— Нас двух, я і пан.

Разбойнік кажыць:

— Едзьце і начуйце.

Парабак сказаў пану, прыйшоўшы да ваза, што там разбойнікі. Пан кажыць:

— Вярні каня да агню.

Пад'ехалі да агню. Пан сказаў парабку:

— Адпрагай каня,— а сам пайшоў да разбойнікаў. Парабак адпрог каня і сам прыйшоў да разбойнікаў, селі каля агню і сядзяць, глядзяць, як разбойнікі ядуць і п'юць. Тады малады пан кажыць свайму парабку:

— Ідзі і нясі з ваза мяса, і мы будзем есці.

Пайшоў парабак да ваза, выняў мерцяца, прынёс да агню і кінуў. Глядзяць разбойнікі, што мерцяца будуць есці, і маўчаць. Старшы разбойнік узяў нож, адрэзаў мерцяцу вуха, іскнуў на нож, паднёс сабе да зубоў і нюхаець. А пан як ударыць разбойніку па нажы, нож і ўлез яму ў горла. Разбойнік і паваліўся нежывы, астальныя разбойнікі паўцякалі хто куды. Вот новы пан бярэ сала печанае, хлеб і гарэлку, даець парабку і сам выпіў, пад'елі і кажыць парабку:

— Кладзіся, будзем спаць.

Сам лёг і спіць, а парабку не спіцца, баіцца, каб разбойнікі не прыйшлі і не пабілі іх. Ляжыць ён і прыслухаецца. Стала віднецца. Пан устаў і кажыць парабку:

— Цяпер будзем есці і запражом каня і паедзем.

Вот селі яны паснедалі, выпілі гарэлкі патроху, запрог парабак каня. Пан яму кажыць:

— Цяпер бяры хлеб, сала, гарэлку, кладзі ў воз і паедзем.

Паклаў парабак усё ў воз і паехалі. Едуць яны ўсё ў адзін бок, едуць і едуць. Падходзіць пара к абеду, луг такі пекны. Пан кажыць на парабка:

— Вярні каня на луг, няхай конь аддыхнець, а мы будзем палуднаваць.

Парабак звярнуў каня на луг, адпрог і пусціў хадзіць. Яны паелі, аддыхнулі.

— Цяпер запрагай каня і паедзем.

Парабак запрог каня і паехалі (парабак — гэта стары пан, служыць свайму парабку шэсць дзён). Едуць яны ўсё ў адзін бок, ужо стала сонца ніжэць, а ўперадзі вялікі лес. Парабку і тут страху многа. Пад лесам стаіць пекны двор. Вот пан кажыць парабку:

— Схадзі ты ў новы двор, папытайся, можа пусцяць нас паначаваць.

Прыходзіць парабак у двор, спатыкаець паню і дзеўку гэтага двара і пытаецца, пусцяць пераначаваць ці не пусцяць.

— Нам не шкада пусціць, вы начаваць не будзеце. Ужо чацвёрты год як памёр пан. Ён прыходзіць кожную ноч, і хто тут ёсць, задушыць і толькі астануцца косці.

Пайшоў парабак да пана і кажыць, што яму гаварыла пані гэтага дома. Пан кажыць парабку:

— Нічога, вярні каня, будзем тут начаваць.

Парабак завярнуў каня, прыехалі ў двор, адпраглі каня, паставілі ў канюшню, далі яму есці. Самі пайшлі ў пакой, павячэралі і леглі спаць у першым пакоі на падлозе. Парабак ляжаў і дрыжаў са страху і не спаў, а пан спіць ды толькі пахрапываець. Вот толькі выбіла дванаццаць часоў, адчыняюцца дзверы, уходзіць памёршы пан і кажыць:

— Хто тут аспадар?

Парабак будзіць пана:

— Уставай, прыйшоў пытаецца, хто з вас аспадар?

Новы пан устаў і кажыць:

— Я аспадар.

Мярцец кажыць:

— Ну, хадзі за мной.

Пан пайшоў за ім ззаду і, пераходзячы дзверы, на дзвярах мелам ставіў крыжы. Прывёў пана ў дванаццаты пакой, хацеў кінуцца на яго душыць, глядзіць — усе дзверы адчыняныя, яму няможна душыць. Вот ён кажыць пану:

— Ты мяне збавіў. Я быў закляты і прыходзіў кожную ноч, і каго застану, душу, а ты мяне збавіў ад чараў. Я болі сюды хадзіць не буду. Пані будзець астаўляць, каб ты з ёй жаніўся, а ты не саглашайся з ёй жаніцца, бо йна зачаравана. Калі сагласіцца палучыць ад цябе бізуноў, тады можаш з ёй жаніцца і будзеш добра жыць. На табе гэты бізун і гэтым бізуном бі. Яна будзець пераменьвацца на вужоў, звяроў, а ты нічога не бойся, пакуль не зробіцца, якая была.

Мярцец, выходзячы з дому, стукнуў кулаком па стале, і каля стала насыпалася куча золата, і сказаў пану:

— Гэта табе, што ты мяне збавіў ад пакут.

Устаець пані гэтага дому рана і кажыць на сваю дзеўку:

— Уставай, выкінь косці.

Дзеўка ўстала, выйшла ў пакой, глядзіць, што яны спяць.

Прыходзіць да пані ў пакой, а пані пытаецца:

— Гэтак скора выкінула косці?

А дзеўка кажыць:

— Яны жывыя, спяць.

Пані не паверыла дзеўцы, устала сама і пайшла глядзець. Выходзіць, глядзіць — праўда, што яны спяць. Вот пані і дзеўка сталі строіць есці. Устаў пан і парабак, пані папрасіла іх есці, дала ім выпіць. Пад'елі, выпілі, вот пані і кажыць новаму пану:

— Будзем мы з табой жаніцца.

А ён кажыць ёй:

— Калі ты сагласішся, каб я табе даў пяцьдзесят бізуноў, тады буду з табой жаніцца.

Як ні круцілася пані, каб не біў, але сагласілася. Вот стаў ён яе біць бізуном. Яна стала рабіцца на ўсякіх звяроў і вужоў, а нарэшце такой, якой была. Вот і астаўся новы пан жаніцца, а на парабка кажыць:

— Цяпер ты едзь дамоў. Тры дні мы ехалі ў адзін бок, цяпер за тры дні ты заедзеш дамоў. Я табе служыў шэсць гадоў, а ты мне шэсць дзён. Я цяпер буду тут жыць у сваім доме, а ты будзеш ізноў панам.

Прыехаў пан стары ў свой двор і крэпка захварэў і памёр, доўга і не жыў. Крэпка ён перапужаўся. А хлопец, што ў яго служыў, ажаніўся з паняй і добра, багата стаў жыць.

Вот і кончылася мая казка.

## 126. АБ ВЕДЗЬМЕ, ШТО ДЗЕЎКУ З'ЕЛА

Была сабе адна дзеўчынка сірацінка, так яна цёнгле плача, так плача, што не мае ні роду, ні плоду. Аднаго разу прыходзіць да яе ведзьма:

— Дзеўка-дзявіцо, русо касіцо, чаго ты плачаш?

— От плачу, што адна на свеце, як людзі кажуць: «Хто схоча наглуміцца, ніхто за мяне не ўступіцца».

Ведзьма на тое:

— А каб цябе! А то ж я твая цётка, ці ты мяне не памятуеш?

І пачала яе ўсяк намаўляць:

— Прыйдзі да мяне ў гасціну, прыйдзі, саколко, з кудзелькаю.

Дзеўка кажа:

— Калі не ведаю куды?

Так яна расказала ёй дарогу, так сіротка нешта на другі ці на трэці дзень пайшла да яе. Ідзе яна так ідзе, ажно ляжыць чалавеча галава ды і кажа:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?

— Іду да цёткі з кудзелькаю.

— Не ідзі,— кажа галава,— бо гэта не цётка твая, а ведзьма: яна цябе з'есць.

Сіротка не слухала, пайшла далей. Ідзе так ідзе, ляжаць чалавечыя очы:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?

— Іду да цёткі свае з кудзелькаю.

— Гэта не цётка твая, гэта ведзьма: яна цябе з'есць.

— Не бойсь, не!

Ідзе далей, ляжыць чалавеча рука:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?

— Іду да цёткі з кудзелькаю.

— Не ідзі, гэта ведзьма, яна цябе з'есць.

— А-а! А то ж, а то ж цётка мая!

Ідзе далей, ажно ляжыць чалавеча нага:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?

— Іду да цёткі з кудзелькаю.

— Эй, не ідзі, бо гэта ведзьма, яна цябе з'есць.

— Не бойсь,— кажа дзеўка,— не з'есць.

Ідзе так ідзе, аж на плоце вісяць кішкі чалавечыя:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?

— Іду да цёткі з кудзелькаю.

— Эй, не ідзі, бо гэта ведзьма, яна цябе з'есць.

— Не бойсь,— кажа дзеўка,— не з'есць.

Ідзе далей, ажно ляжыць чалавечы тулуб:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?

— Іду да цёткі з кудзелькаю.

— Эй, не ідзі, бо гэта ведзьма, яна цябе з'есць.

— Не бойсь,— кажа дзеўка,— не з'есць.

Ідзе так ідзе, ажно стаіць чалавеча кроў у кадушцы і пытае:

— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?

— Іду да цёткі з кудзелькаю.

— Эй, не ідзі, бо гэта ведзьма, яна цябе з'есць.

— Не бойсь,— кажа дзеўка,— не з'есць.
Дзеўка такі пайшла далей. Ідзе так ідзе, ходзіць белы конь:
— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?
— Іду да цёткі з кудзелькаю.
— Эй, не ідзі, бо гэта ведзьма, яна цябе з'есць.
— Не бойсь,— кажа дзеўка,— не з'есць.
Ідзе так ідзе, ажно ходзіць сівы конь:
— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?
— Іду да цёткі з кудзелькаю.
— Эй, не ідзі, бо гэта ведзьма, яна цябе з'есць.
— Не бойсь,— кажа дзеўка,— не з'есць.
Ідзе далей, ідзе, ажно ходзіць чорны конь:
— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, куда ты ідзеш?
— Іду да цёткі з кудзелькаю.
— Не ідзі, бо гэта ведзьма Барабаха, яна цябе з'есць.
Дзеўка такі пайшла далей. Ідзе так ідзе, ідзе так ідзе, аж нарэшце прыходзіць. Ведзьма ў яе пытае:
— Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла? Бо я цябе з'ем, з'ем!
— Бачыла, бачыла чалавечу голаў.
— Гэта мой гаршчок! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?
— Бачыла, бачыла чалавечыя очы.
— То мае зоры, зоры! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?
— Бачыла, бачыла чалавечу руку.
— Гэта мае граблі, граблі! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?
— Бачыла, бачыла чалавечу ногу.
— Гэта мая качарга, качарга! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?
— Бачыла, бачыла чалавечы тулуб.
— Гэта мая хата, хата! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?
— Бачыла, бачыла на плоце кішкі.
— Гэта мая ашнова, ашнова! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?
— Бачыла, бачыла ў кадушцы кроў.
— Гэта мой кваш, кваш! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?
— Бачыла, бачыла белага каня.

— Гэта мой дзень, дзень! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?

— Бачыла, бачыла сівага каня.

— Гэта мой змрок, змрок! Дзеўко-дзявіцо, русо касіцо, скажы, што ты там чула, што бачыла?

— Бачыла, бачыла чорнага каня.

— Гэта мая ноч, ноч! А ты не пойдзеш проч?

Глам! — ды і з'ела.

## 127. САЛДАТ У ЧОРТА НА СЛУЖБЕ

Служыў салдат дваццаць пяць гадоў, без роду, без пароду — адзін душою. І служыў ён лі цара лі самага, у гвардзіі. Цяпер яго выпусцілі дамоў. Ён выйшаў за горад і гаворыць:

— Служыў богу і цару, а цяпер,— гаворыць,— ідзі хоць і к чорту!

А ён тутацькі і стаіць лі яго, ужо і ёс[ц]ь.

— Калі гэтак,— гаворыць,— дык хадзі ка мне, паслужы сем гадоў. У мяне,— гаворыць,— будзеш сем гадоў і нічога не будзеш работаць, толькі будзеш распараджаць грошы: медзь і серабро і золата — будзеш паказуваць, ідзе іх ссыпаць. І не будзеш у мяне,— гаворыць,— брыцца, ні стрыцца, ні мыцца, ні маліцца і каптуроў адразаць ні на руках, ні на нагах, ні на чом. І будзеш ты ў мяне пазывацца Грап Нячосаны. А тады,— гаворыць,— я цябе за сем гадоў ажаню і здзелаю царом; і палучу тры падаркі за цябе, што ажаню!

От, ён і пайшоў к яму служыць на сем гадоў. Ён яму паказаў, ідзе ссыпаць грошы,— у тры пары возяць. Праслужыў так сем гадоў ён. Цяперака ён гаворыць, чорт:

— Што ж, Грап Нячосаны, цяпер нада жаніць цябе — пара!

А ён кажаць:

— Як хочаш сабе!

Ну, ён пайшоў к цару ў сваты, сам, тэй адыявал. Сватаць то сватаць, за каго? За Грапа Нячосанага, бо́льшую дачку. А Грапа Нячосанага няма ў царстве. Цяпер ён паслаў, цар тэй, жывапіса зняць з яго патрэт, які ён. Жывапіс паехаў туды із ім. Паказаў яму Грапа Нячосанага. Аж такога Грапа і ў свеце няма: аброс як пёс — во́ласы да паяса, і барада і воласы, і каптуры доўгія. Ну, жывапіс з яго патрэт зняў, такі як ёс[ц]ь ён, як ляжыць. Прывёз к цару, паказаў патрэт той дзеўцы. Дзеўка не

йціць замуж. Тая не пайшла, большая, каторую засватаў, а пайшла сярэдняя. Цяпер трэба ехаць на свадзьбу Грапу Нячосанаму. Вот адыявал даў яму адну бутылку выпіць. Ён узяў выпіў бутылку. Цяпер гэта ўся руда на ём аб'ехала — стаў чысты. Даець другую — стаў маладзец — і ў свеце няма такога: здаровы, чысты, прыгожы. Цяпер запраглі лашадзей, уссадзіў Грапа і паехалі. Прыяжджаюць на крылец на двор — аж не тэй чалавек, што жывапіс зняў. Палядзелі, што не тэй чалавек, ён узяў жывапіса, цар, да й завесіў,— што няверна зняў патрэт. А большая дачка тая, як убачыла,— з дасады прапала. А сам тады цар тэй — няма жывапіса, няма дачкі — памёр і сам. А ён іх ажаніў і вяселле згуляў, і ў том царстве ён царом стаў — Грап Нячосаны. А дыявал усё-такі тры падаркі ўзяў: жывапіса завесіў, дачка з дасады прапала і цар памёр.

## 128. ПРА БАГАТАГА КУПЦА І ХЛОПЦА

Жыў багаты купец, было ў яго чатыры дачкі. Добра яму таргавалася і не знаў ён ніякай бяды. Але от прыйшла і да яго бяда. Паехаў купец за мора, накупляў дарагіх тавараў, пагрузіў на карабель і паплылі дамоў. Плылі некалькі дзён. Пачалася на моры вялікая бура, карабель разбіла і ўсе тавары затарыла. А купец астаўся жывы.

У гэта ўрэмя плыў і другі карабель. Бура затапіла і другі, астаўся адзін хлопец жывым. Ён зачапіўся за лодку, і бура панесла яго па моры. Сціхла бура, хлопец сеў у лодку і плаваў па моры. Не знаў ён, куды плысці, ён плыў ва ўсе бакі — нідзе берага не было. Стаў хлопец маліцца богу. Тры дні маліўся, але бог яму нічога не памог. Хлопец стаў маліцца чорту. Явіўся да яго чорт і пытаецца хлопца:

— Чаго ты хочаш?

Хлопец гаворыць чорту:

— Хачу, каб давёз мяне да берага.

Чорт кажыць:

— Я цябе давязу да берага, толькі ты будзеш тры гады служыць мне. Работа ў мяне такая: будзеш сядзець пры печы і падкладаць дровы. І тры гады не мыцца, не стрыгчыся і не абразаць пазногці.

Хлопец згадзіўся тры гады служыць чорту. Чорт туды-сюды павярнуў лодку, і выплылі на бераг, недалёка ад вялікага гора-

да. Чорт павёў хлопца ў горад, прывёў да вялікага мураванага дома і павёў яго ў дом. Пасадзіў хлопца пры печы і сказаў:

— Вот твая работа: сядзі на сундуку і падкідвай дровы, каб не патух агонь.

У горадзе ніхто не знаў, што гэта чорт, усе звалі яго барынням. Прыходзіць да чорта той купец, што карабель яго разбіла, і просіць:

— Змілуйся, барынь, пазыч мне тры тысячы рублей на тры гады.

— Добра,— кажыць чорт,— пазычу, толькі за тры гады мне аддасі, даўжэй я не магу ждаць.

Чорт кажыць хлопцу:

— Адкрый сундук, адлічы тры тысячы рублей і дай купцу.

Хлопец адкрыў сундук, на каторым сядзеў, адлічыў грошы і даў купцу. Закупіў купец тавараў і зачаў таргаваць. Таргоўля купцу ніяк не ўдавалася, купіць дорага, а прадасць дзешава — усё ішло на ўтрату. Стаў купец бяднець, доўгу няма з чаго аддаць. Праходзіць тры гады, нада аддаць грошы чорту, а грошай нет.

Вот чорт кажыць хлопцу:

— Схадзі да купца, скажы купцу, калі ў яго нет грошай, няхай аддасць за цябе сваю старэйшую дачку замуж, то я яму дарую грошы.

Хлопец пайшоў да купца. Купец як увідзеў хлопца, так і спужаўся, думаў, ідзець па грошы. Прыходзіць хлопец да купца і гаворыць купцу:

— Казаў барынь, калі аддасі за мяне старшую дачку замуж, то даруіць грошы.

Купец пазваў сваю старшую дачку і кажыць:

— Казаў барынь, калі пойдзеш за гэтага хлопца, даруіць нам грошы.

Старэйшая дачка паглядзела на хлопца і кажыць бацьку:

— Лепі я ўтаплюся, чым пайду замуж за гэткага страшыдлу, кажы, што я не пайду.

Купец сказаў хлопцу:

— Яна не пойдзець за цябе.

Хлопец пайшоў і сказаў чорту:

— Яна за мяне не пойдзець, сказала, лепі ўтапіцца.

— Добра,— сказаў чорт,— цяпер схадзі яшчэ да купца і скажы: калі аддасць другую дачку за цябе замуж, то дарую яму грошы.

Пайшоў хлопец яшчэ да купца і кажыць купцу:

— Казаў барынь, калі аддасі другую за мяне замуж, то барынь даруіць грошы.
Купец пазваў другую дачку і кажыць другой:
— Еслі ты пойдзеш за гэтага хлопца замуж, то даруіць нам грошы.
Паглядзела другая дачка на хлопца і кажыць бацьку:
— Лепі я павешуся, чым пайду за гэтага асмолка. Лепі я павешуся. Кажы яму — я за яго не пайду.
Купец сказаў хлопцу:
— Яна за цябе не пойдзець.
Хлопец пайшоў да чорта і кажа чорту:
— Другая казала: не пайду за яго, за такога асмолка.
Чорт кажыць хлопцу:
— Ідзі яшчэ да купца, скажы купцу, што я казаў, няхай аддасць трэцюю дачку за цябе, я дарую яму грошы.
Пайшоў хлопец да купца і кажыць купцу:
— Казаў мой барынь, еслі аддасі трэцюю дачку за мяне, даруіць вам грошы.
Пазваў купец трэцюю дачку і кажыць:
— Пойдзеш за гэтага хлопца замуж ці не пойдзеш?
Трэцяя дачка паглядзела на хлопца і сказала:
— Я лепі зарэжуся, чым ісці за такога страшнага хлопца. Кажы яму, я за яго не пайду.
Купец сказаў хлопцу:
— Скажы свайму барыню, што яна за цябе не пойдзець.
Хлопец пайшоў да чорта і сказаў:
— Йна сказала, зарэжуся, чым пайду за яго замуж.
— Ну добра, ідзі яшчэ да купца, скажы купцу, няхай аддасць чацвёртую дачку за цябе замуж. Я дарую яму грошы.
Пайшоў хлопец чацвёрты раз да купца і кажыць купцу:
— Казаў барынь — аддай чацвёртую дачку за мяне, даруіць вам грошы.
Купец пазваў чацвёртую дачку і кажыць ей:
— Паглядзі на гэтага хлопца, пойдзеш за яго ці не пойдзеш. Казаў барынь, еслі пойдзеш за яго, даруіць нам грошы.
Чацвёртая дачка паглядзела на хлопца, заплакала і сказала:
— Я за яго пайду. Хоць я буду гараваць адна, хоць вы будзеце жыць. Кажы хлопцу, няхай прыходзіць з барыням да мяне ў сваты, і буду я з ім жыць.
Купец сказаў хлопцу:
— Кажы барыню, прыходзьце ў сваты, йна пойдзець за цябе замуж.

Хлопец пайшоў да чорта і сказаў чорту:

— Чацвёртая дачка сказала, йна пойдзець за мяне замуж.

Чорт сказаў:

— Вот і добра.

Цяпер чорт узяўся за работу, бярэць ножніцы і стрыжэць хлопца, брыіць, адразаіць пазногці. Нагрэў вады, вымыў хлопца, надзеў яму дарагі касцюм, проста пякнейшага і на свеце не было. Сам чорт адзяецца добра, строіць брычку, запрагаіць чацвёра белых коні, садзіць хлопца ў брычку, сам садзіцца за фурмана, і едуць у сваты да купцовай чацвёртай дачкі. Прыязджаюць на купцоў двор, чорт ляснуў з пугі і прыдзяржаў коні. Тут выбег купец устрачаць сватоў і малодшая дачка. Як увідзелі старэйшыя сёстры — адна ўтапілася, другая павесілася, а трэцяя зарэзалася. Сталі сватацца. Купец пайшоў зваць старэйшых дачок, глядзіць — адна ўтапілася, другая павесілася, трэцяя зарэзалася. Пахавалі дачок, згулялі свадзьбу. Чорт аддаў хлопцу дом і аддаў яму сундук грошай, на каторым ён сядзеў і падкладаў дровы ў печку, і сказаў хлопцу:

— Мне на моры няможна было скарыстаць тваёй аднэй душой, а з тваёй дапамогай я скарыстаў трыма душамі. Вот і вялікае дзякуй табе, хлопец, жыві што пабагацей.

І сам знік. Вот і басні канец.

## 129. ЧОРТ ЗЛОДЗЕЙ

Жыў сабе дзед да баба. Жылі яны пры бальшой беднасці. Калі выпрасяць у каго зярнят, змелюць ды папалам з попелам спякуць прасначок — аб тым і жылі. Вот раз пайшоў дзед у поле, узяў з сабой сваю шаўлюгу і пянькі ўзяў. Паехаў і стаў араць. Араў, араў, захацеў ён есці. Тады ён выпраг сваю шаўлюгу, пусціў шаўлюгу на луг, а сам сеў на ўзмежку і стаў з пянькі вяроўкі віць. Віў, віў, ажны прыносіць баба яму прасначок. Палажыў дзед кала сябе прасначок, стаў канчаць вяроўку, ажны выскакуець чорт і схапіў прасначок. Дзед зір — няма прасначка! Палядзіць — аж чорт пабег у балота. Дзед за ім.

Увайшоў ён у палацы ў красівыя, ажны там дужа многа чарцей. Прыйшоў дзед к старшаму чорту і спрашыець:

— Дзе мой прасначок?

А ён кажаць:

— Шукай у маладых чарцянкоў, бо стары гэтым занімацца не будзець!

Дзед кажаць:

— Разявайце раты!

Як разінулі, ён і ўвідзеў свой прасначок у чарцянка ў роце.

— Во,— кажаць,— мой прасначок!

Тады старшы чорт гаворыць таму чарцянку:

— Нашто ты гэта здзелаў? Яны й так бедны! Вазьмі, дзед, яго служыць к сабе, хай адслужыць!

— Куды я яго буду браць? Што ён будзець у мяне дзелаць, мне самому ес[ц]ь нечага!

Ну, але-тку ўзяў — добра, думаець, дроў у лес з'ездзіць! Прывёў яго дамоў. Дасталі яны сабе жменьку жыта. Ён кажаць:

— Давайце мне малоць!

— А не, мы самі змелем, нам самім нечага дзелаць!

— Не, давайце!

Аддалі яму малоць. Ён малоў, малоў, ужо і хлеб замясілі, а ўсё поўны жорны мукі. Сталі яны яе ў засек сыпаць, сыпалі, сыпалі і насыпалі повен засек. Тады яны думаюць сабе: «Дадзём яму малоць і пшаніцы жменьку!»

Дасталі жменьку пшаніцы ў суседзей, стаў ён яе малоць і намалоў поўны засек пшонныя мукі. Дасталі яны тады жменьку ячменю; ён і з тые жменькі намалоў поўны засек ячменныя мукі. Жывець дзед із бабай ужо ладна!

Сталі яны тады зямлю пахаць. Чарцянок тэй туды-сюды павярнуўся — усё поле і спахаў.

— Што цяпер, дзед, будзем дзелаць? Возьмем у пана ізДзельна ляда высеч ды пасеем пшаніцы!

Узялі яны ляда. Ён яго за адзін дзень рассек, узараў і пшаніцу пасеяў. Зарадзілася пшаніца добрая. Сталі дзяліць. Гэты жа чарцянок кажаць дзеду:

— Няхай пан возіць вазамі, а я табе буду насіць ношкамі.

Пан сабе думаець: «Што то воз, а што то ношка! Усё-тку воз большы!» Ну, выслаў ён коней. Пан жа ўзяў з поля дзесяць вазоў, а тэй засіліў усё астальное ды пацёг.

Тады ён гаворыць дзеду:

— Ну, дзед, паедзем у дровы!

Прывёў дзед яго к лазе, а чорт кажаць:

— Не, я гэтых дроў сеч не буду, пакажы мне тоўстых!

Прывёў дзед яго ў бор.

— Ну,— кажыць,— цяпер ідзі сабе ў двор, я й без цябе ўпраўлюсь!

Пайшоў дзед дамоў, а чорт наваліў калод з карэннем, на-

клаў на шаўлюгу дроў, чуць не пад неба, сеў на воз і вязець, ды так вязець, што і чацверыком не дагоніш! Едзець пан на чацверыку і прыстаюць коні. Ён тады, тэй пан, гаворыць:

— Давай мяняць коней!

Чорт кажаць:

— Давай!

Памянялі яны коней і паехалі. Прыязджаець ён і к дзеду на чацверыку:

— Эй, дзед, адчыняй вароты, вязу дровы!

Адчыніў дзед вароты, бачыць чацвярык коней.

— Што ж ты,— кажаць,— прыехаў на чацверыку — у мяне ж сена няма!

Пайшоў тады чорт ік пану малаціць, сена зарабляць. На біцюк узяў бервяно, на цапілна ўзяў балку і стаў малаціць — сыйчас усё й памалаціў. Пайшоў к пану:

— Паночак, я памалаціў. Калі будзеце ласкавы, дайце мне румку гарэлкі!

Пан узрадаваўся:

— А йдзі, міленькі, у склеп! Там гарэлка стаіць і закусіць ёс[ц]ь чым!

Чорт пайшоў, папіў гарэлку, паеў хлеб, сыр, ветчыну і прыходзіць к пану:

— Дзякуй, паночак, выпіў, закусіў. Ці не далі б мне ношачку сена?

— А вунь там у лесе, за ракой стаіць стог. Ідзі, наскубі сабе ношку.

Чорт прыйшоў, узяў стог абматаў вяроўкамі і панёс. Увідзеў войт:

— Ах, паночак, вы казалі ношку наскусць, а ён увесь стог павалок!

— Ах, каб яго! Выпусціце на яго двох быкоў бадлівых, хай яго забадаюць!

Выпусцілі двох валоў, а чорт тых валоў за вушы, ды на стог і панёс!

— Ах, каб яго! Пусціце скарэй двох парсюкоў, хай яму лыткі абарвуць!

Пусцілі парсюкоў. Ён і тых за вушы, да на плечы і панёс. Прыносіць, сена на двара пастнавіў, а быкоў і парсюкоў у хлеў загнаў. І стаў дзед жыць па-хадзяйску. Праслужыў чорт год і кажаць:

— Дзядулька, адпраў мяне дамоў!

— А йдзі, маё дзіцятко, з богам!..

Тады чорт апяць кажаць:
— Дзядулька, пусці мяне дамоў!
— Да йдзі ж, маё дзіцятко, з богам!
Чорт тады ўзнова спрашыецъ:
— Пусці мяне, дзядулька, дамоў!
А дзед як рассердзіцца:
— А йдзі ты,— кажаць,— к чорту!
Ён тады зарагатаў і пабег.

## 130. ГУСЛІ

Жыў колісь круглы сірата Іваньчык. Яшчэ маленькі астаўся ён без айца і без маткі. Узяла яго к сабе хрышчоная маці, падгадавала трохі да й аддала ў людзі пасці гусі. Пасе ён гусі да разглядвае божы свет, а кругом так гожа, так радасна. Яснае сонейка свеціць і хукае, бы на дзіцятка родная матка. Ветрам ціхенька калыша зялёнае веццё на вербах. Рака блішчыць праз рэдкія кусты алешніку, бы тое люстэрка, што дзядзька купіў сваёй дачцэ Ганне; а ў затоне адбіваюцца тоўстыя, старыя дубы, курэнь дзеда Ахрэма кала перавоза, стог леташняга сена з плотам кругом і нават каровы суседняе вёскі, што пасуцца на беразе. Толькі ўсё гэта дагары нагамі.

Задумаўся пастушок Іваньчык, чаму гэта ў вадзе адбіваецца ўсе дагары нагамі, задумаўся, але не надоўга, бо ў той самы момант гусак выцягнуў шыю, крыкнуў і перасцярог гусей, што вораг блізка. Зірнуў Іваньчык на неба, аж там хутка плыве вялізазны шуляк да пазірае на яго гусянята. Закрычаў Іваньчык і памахаў хварасцінаю. Схаваўся шуляк за высокім лесам, а Іваньчык усё стаіць да пазірае на неба, да так пазірае, што забыўся й рот закрыць. І захацелася яму лятаць па небу, як той шуляк, замахаў ён рукамі да й пабег па зялёнай траве, па кветках, што так гожа раслі на поплаве. Доўга бегаў Іваньчык, растапырыўшы рукі, бегаў, кружыўся, бы птушкі ў небе, нарэшце ўтаміўся й лёг на траву дагары вачамі й усё глядзеў на неба, як там цудоўне, гожа, ціхенька плылі лёгкія белыя хмуркі, бы гусіны пух, як яны сустракаліся з ясным сонейкам, цалавалі яго й плылі далей. Разглядаў Іваньчык, як гожа й прамудра зроблен божы свет. Серца яго радасна білася ў грудзях, вочкі блішчалі, бы два дыяманты, яму так было лёгка, так весела тут на поплаве, на зялёнай траўцы, пасярод свежых, розных калёраў кветак, што ён нават забыў той час, калі трэба было йці

дадому абедаць, бо дзянна была сярдзітая жанчына, вяла свой парадак і не любіла, калі хто пазніўся на абед. Усхапіўся ён, зірнуў на сонейка, аж яно ўжэ схіляецца к захаду.

— Ужэ паабедалі,— думае пастушок і гуляе да вечара не еўшы.

Так той Іваньчык перш пасціў гусі, потым памагаў аўчару, а, нарэшце, як вырас, пачаў пасціць гаўяда. Тут ён навучыўся размаўляць з гаўядам, разумеў мову ўсялякае жывёлы й нават расліны. Яму здавалася, што птушкі паюць яго песні, што мушкі да полуднічкі жаласна гудуць, дак гэта яны плачуць над яго горкаю, пастуховаю доляю, што гаўяда пазірае на яго да й хоча яму сказаць: «Бедны пастух! Ніколі не быць табе гаспадаром... Кінь гэты край да йдзі ў свет шукаць шчасця».

Яму здавалася, што лесківае яму вецццем, што траўка й кветкі яму шэпчуць ціхенька: «Йдзі ў свет».

Паслухаў іх наш Іваньчык і пайшоў у свет шукаць шчасця. Хадзіў, хадзіў, але куды ні прыйдзе, усюды гарэй як там, дзе быў уперад. Кіне ён тое месца да йдзе далей. Дахадзіўся нарэшце да таго, што й свет не міл. От падышоў ён к рацэ да й хацеў утапіцца. Толькі ён ступіў на воду, аж тая зрабілася цвёрдая, бы лёд. І пайшоў наш Іваньчык па вадзе, бы па суху. Сустракае яго якісь панічык да й кажа:

— Наймі ся ка мне на службу.

— А чаму ж не,— адмаўляе наш Іваньчык,— якому чорту ні служыць — усё роўна.

— А пачом ты знаеш, што я чорт?

— Спявай песню павам, а чорт бачан па халявам.

— Бачу, што з цябе будзе добры слуга,— кажа чорт,— я ж табе заплачу за тое харошыя грошы.

— Дзе грошы, там і вошы,— адмаўляе наш Іваньчык.

— А чаго ж ты хочаш?

— Ты таго не маеш, хоць мяне служыць наймаеш. Да што нам таргавацца, лепш хутчэй за дзела брацца. Буду служыць хоць у пекле, абы было пекне.

Згадзіліся яны на том. Зняў чорт свой капялюшык і махнуў ім трэйко. Тады наш Іваньчык сапраўды ўбачыў у чорта рогі й паабапал плеч чорныя крыла, бы ў кажана. Зняў і наш Іваньчык сваю рваную кучомку, памахаў ёю трэйка й выраслі ў яго крыла, бы ў шуляка. От узняліся яны да й паляцелі, да толькі не ўгору, не к яснаму сонейку, а чорт ведае куды, паляцелі ў якуюсь пропасць усё ўніз і ўніз.

Доўга ляцелі яны, агарнула іх кругом цемень, хоць ты вока

выкаль. Але ось па немалым часе спераду штось заблішчала. Хутка яно разраслося, бы сухім летам у лесе пожар. Падлятаюць яны бліжэй, аж там стаяць вялізазныя катлы, а ў іх гарыць смала. Полам'е шыбае, а смала кіпіць, аж булбаткі падскакваюць. Дагадаўся наш Іваньчык, што гэта пекла. Але няма чаго рабіць, калі наняўся, та як запрадаўся, трэ служыць. Азірнуўся ён, а тут як шыбанула полам'е, дак яго крыла й згарэлі. Астаўся там Іваньчык. І вялеў яму чорт доўгаю залезнаю качаргою ў катлох смалу памешваць. Павярнуў ён качаргою, аж там у смале мучацца грэшныя душы. Варочае ён качаргою да разглядвае тыя грэшныя душы. Каго толькі там не было. Перш-наперш вынырнула лысая галава ксяндза, а поруч з ёю кіпелі ў смале доўгія кудлы папа. Павярнуў ён качаргою, дак разам выскачылі з смалы маладзенькая паненка, абняўшыся з старым панам, старая пані, хурман з бізуном, лёкай з пляшкаю ў горле, камысар з ксёнжкаю пад пахаю, пакаёўка, кухар, акамон, цівун і многа другіх дваровых людзей. Павярнуў ён яшчэ раз качаргою, дак тут ужэ былі: сам ландар з Соркаю, рабін з бібляю, цодык з тораю, маламед з ксёнжкаю, кавань, шавец, кравец, крамар і крамарка, шáпар, нават анучнік і той высунуў з смалы сваю голаў і патрос пейсамі, але яны зліпліся й гарэлі, бы зубленка. Пайшоў Іваньчык да другога катла, павярнуў у ём качаргою, дак тут ужэ паказаліся нашы браты хрысціяне й усе больш самыя набожныя людзі да такія, якіх лічылі пры жыцці чуць не святымі. Пабачыў тое наш Іваньчык да й думае сабе: «Не, мабыць кожнаму чалавеку прыдзецца закаштаваць гарачае смалы».

Хацеў ён і[с]ці далей, да зірк, аж тут і яго хросная маці. Убачыла яна яго да й кажа:

— Ой, мой сыночак, пакінула я цябе маленькага, дак за тое тут мучуся.

— Несправядлівы суд, мая матачка,— адмовіў ёй Іваньчык,— несправядлівы затым, што я толькі тады й быў шчаслівы, як ты мяне аддала пасці гусі.

Толькі ён гэтае прамовіў, як яго хросная матка выйшла з катла ўся ў белым убранні, бы снег, і стала поруч з ім.

— Дзякуй табе, мой сыночак,— кажа яна,— што аслабаніў мяне ад гэтае мукі. Уцякай ты адсюль, бо чэрці яшчэ жыўцом укінуць цябе ў смалу. Я памагу табе, як адсюль выбрацца.

От і павяла яна свайго сынка з пекла вон. Доўга яны йшлі паміж катлоў з гарачаю смалою, якое мукі яны там не бачылі, якіх енкаў не наслухаліся, нарэшце падышлі к краю пекла.

Хросная маці разам і знікла, а наш Іваньчык пакруціў трэйка сваёю кучомкаю, дак і выраслі ў яго крыла. От узняўся ён і паляцеў усё ўгору да ўгору. Ляціць, аж вецер свішчыць, хмуркі мінаюць, толькі мігаюць. Даляцеў ён да зямлі, вельмі ўтаміўся да й лёг сапачыць. Але ось прыйшоў Хрыстос, а можа гэта яму прыснілася, да й даў яму гуслі.

— На,— кажа,— у гэтых гуслях усё твае шчасце.

Да й знік. Устаў Іваньчык, узяў тыя гуслі да й зноў пайшоў у свет. Нядоўга ён хадзіў да й наняўся ў жыда-пахцяра пасціць каровы. От выганіць ён каровы на пашу, сядзе сабе на купіну да як пачне йграць на гуслях, дак і пусціцца ўсе скакаць. Скачуць [пахцярскія] каровы ўвесь дзень, а малако з цыцак цыр-цыр! і выліваецца. Прыгоніць ён каровы дамоў, пачнуць іх даіць, а малака нямаш. Дзівуецца пахцяр, якое б гэта ліха зрабілася, ды нічога не прыдумае. Пайшоў ён к рабіну на раду, расказаў сваю бяду. Той чытаў, чытаў біблю да й кажа:

— Гэта яляк ссе твае каровы.

І радзіць рабін пахцяру ўзяць ад усіх кароў патроху таго, што дарам выліваецца, наліць у кашэрны гаршчок, у пятніцу зварыць, а ў шабас ужываць разам з гугелем, а што астанецца, дак тым вышмараваць у кароў вым'е. Падзякуваў пахцяр рабіну, зрабіў рыхтык так, як ён радзіў, але нічога не памагае. Каровы не то, што не даюць малака, але й самі пачалі худзець, пятрэць, от бы на іх якая хвароба прыйшла. Ходзіць [пахцяр], бы шалёны, не ведае, што рабіць, што парадзіць. Сустракае яго адзін п'янчужка, што называўся кавалём, а тым часам заўжды сядзеў у карчме. Той і радзіць [яму] знайсці такога знахара, каб ён пазнаў, хто гэта прырабіў, што каровы не даюць малака.

— А хто ж будзе лепшы знахар ад цябе?

А гэты п'янчужка сапраўды знахараваў.

— Цуес,— прыстае к яму [пахцяр],— я ведаю, сто ты добры цалавек, ведаю, сто ты лепс ат усіх знаесса. Зрабі ласку. Я ўзэ дам табе кварту гарэлкі.

— Што кварта,— упіраецца той п'янчужка.— Дасі тры кварты, дак усё скажу, як мае быць.

Таргаваўся, таргаваўся [пахцяр], але мусіў згадзіцца на трох квартах.

— Але ж ты мне цяпер дай кварту, та пагляджу на зоры, хто гэта ўдзеяў.

Даў пахцяр яму кварту гарэлкі, от ён выпіў да й пацёгся на пашу цікаваць, як гэта наш Іваньчык пасе [пахцярскія] каровы. Падходзіць ён, аж пастух іграе на гуслях, а каровы ска-

чуць, аж з іх пена валіць. Дагадаўся той п'янчужка, чаму каровы не даюць малака, да й павярнуў, каб і[с]ці да карчмы, тольکі ось яму так захацелася скакаць, што от так самі ногі й хадзяць. Але, ведама, якія скокі п'янага. Паскакаў ён, пакуль іграў Іваньчык, да й сунуўся ў канаву. На другі дзень прыйшоў ён к пахцяру да й кажа:

— Ну, ведаю, хто гэта ўдзеяў. Давай гарэлку, та скажу.

Даў [пахцяр] яму дзве кварты гарэлкі да асяленец на закуску. От той п'янчужка й кажа, што ва ўсём вінен пастух. Не мае пахцяр веры.

— Ну, дак спраканайся сам,— кажа п'янчужка,— схадзі на пашу да пагляндзі, як твае каровы пасуцца.

Схадзіў пахцяр да як пачуў тую ігру, дак сам падняў лапсардак да як пусціўся скакаць, дак аж пейсы трасуцца. Скача да думае, што каб тое ўбачыла Сорка, та падумала б, што ён ашалеў. Скакаў той [пахцяр] разам з сваімі каровамі датуль, пакуль Іваньчык здаволіўся да й палажыў тыя гуслі.

Няма чаго рабіць, заскаржыў той [пахцяр] на Іваньчыка ў суд. Разабраў суд справу да за такое вядзьмарства прысудзіў Іваньчыка павесіць. От схапілі яго й вядуць на шыбеніцу. Ідзе ён і трымае гуслі пад пахаю. А тут сабралася людзей, як на кірмашы, каб паглядзець, як будуць вешаць ведзьмара. Бабы галосяць, дзецюкі шуткуюць, а іншыя кажуць, што калі гэта вядзьмар, та яго не павесяць. От ужэ кат падвёў Іваньчыка к шыбеніцы да й хацеў накласці яму на шыю вяроўку, але той выняў з-пад пахі гуслі да як зайграе, дак усе й пусціліся скакаць, баццэ гарох на гарачай скаварадзе. Скача кат, абняўшы шыбеніцу, скача суддзя з паперам у руках, скача поп з крыжам перад носам, скачуць мужыкі й бабы, аж пот з іх валіць, скача ўсё места, бы мошкі мак таўкуць. Іграў, іграў Іваньчык да ўсё далей адходзіў ад шыбеніцы, нарэшце саўсім знік.

Схамянуліся ўсе, разінулі рот да й стаяць, як дурні, а нашага Іваньчыка й след прастыў. Пачалі яго шукаць, каб злавіць, але ж кажуць, што нялёгка злавіць вецер у полі, да яшчэ гарэй злавіць таго музыку, каторы прымушае ўсіх скакаць.

## 131. П'ЯНІЦА У ПЕКЛЕ

П'яніца папаў у пекла. Чэрці далі яму варыць у катле трыста душ.

Но за етых душ на тым свеце ўсердна маліліс іх сродственнікі.

Прыходзіць к п'яніцы ангел за тымі душамі:

— Аддай мне етыя трыста душ!

П'яніца не 'ддаець.

Ангел дагадаўся, што п'яніцы нужна. Цераз нескалькі ўрэмя прыносіць п'яніцы палуштох гарэлкі.

П'яніца ўзяў ад ангела водку і давай яе цадзіць глаток за глатком — ап'янеў і выпусціў ангелу із катла трыста грэшных душ.

Прыходзяць чэрці, пасматраць — душ нет.

— Ідзе душы?

Спрашыюць у п'яніцы:

— Ідзе душы, што мы варыць прыказывалі?

П'яніца маўчыць (ён ужу адказываць не магіць), толькі палец к роту падносіць, ідзе душы паказыіць.

Чэрці панапужаліся:

— Ах, абжора! У якіх-небудзь два часа злопаў трыста душ, да ён увесь ад спусташыць, ні [а]днаго грэшніка нам на мучэнія не заставіць. Ганіце яго вон!

Патурылі із ада. Дзявацца яму нейдзі — пусцілі яго ў рай.

## 132. ЯК САЛДАТ ВЯРТАЎСЯ ДАДОМУ

Праслужыў салдат дваццаць пяць год у цара, а заслужыць нічога не заслужыў. Ідзе салдат дадому і думае: «Як далей быць? Хто дома астаўся, хто маю старасць дагледзіць?» Раптам сустракаецца яму хораша адзеты, у капялюшы, чалавек.

— Здароў, салдат! — гаворыць падарожны. — Дзе быў і куды ідзеш?

— Ды вось,— кажа салдат,— праслужыў дваццаць пяць год цару. Іду дамоў, а як буду жыць — не ведаю.

Чалавек гаворыць яму:

— Праслужыў дваццаць пяць год цару, паслужы яшчэ мне гадок, я цябе забяспечу на старасць.

Салдат падумаў:

— Ну што ж, давай паслужу.

І пайшлі разам з гэтым чалавекам. Ішлі праз лес, балоты, і ўбачыў салдат дварэц. Гэты чалавек і гаворыць:

— Вось тут будзеш працаваць.

— А што я тут буду рабіць? — пытаецца салдат.

Чалавек прыводзіць яго ў кут, дзе стаіць вялізны кацёл.

— Вось,— кажа,— будзеш у гэтым катле ваду грэць. Вось і дровы.

І незнаёмы чалавек раптам знік.

Салдат паклаў пад кацёл дровы, запаліў і пайшоў паглядзець, дзе тут што яшчэ ёсць. Заходзіць салдат у адзін пакой — там стаяць сталы, крэслы, а на сталах стаіць піць і есці — усё, што толькі душа жадае.

Салдат напіўся, наеўся, пайшоў далей. Заходзіць у другі пакой — там стаяць ложкі, пярыны, пуховыя падушкі, коўдры. Лёг салдат паспаць. Прачнуўся, падклаў пад кацёл дроў і зноў пайшоў шукаць каго-небудзь. Абышоў увесь дом — нідзе нікога не знайшоў. Жыве так салдат дзень, другі, трэці і такі напаў на яго смутак, што немаведама, што рабіць, за што ўзяцца, з кім павесяліцца. Пайшоў зноў салдат шукаць, ці не знойдзе якую кніжку ці газету, каб хоць пачытаць што-небудзь. У адным кутку ўбачыў раскіданую па лістках кнігу. Пачаў салдат гэтую кнігу па адным лістку складаць, склаў, пачаў чытаць. От чытае салдат кнігу і чуе голас:

— Салдат, салдат, выратуй мяне!

Салдат кінуў чытаць і пайшоў шукаць таго, хто яго клікаў. Абышоў усе пакоі, усе куткі — нікога не знайшоў. Прыходзіць, садзіцца зноў чытае. Толькі сеў чытаць, зноў чуе той самы голас:

— Салдат, салдат, выратуй мяне!

Кінуў салдат кніжку, зноў пайшоў шукаць. Прашукаў увесь дом, усе куткі — нічога. Толькі сеў чытаць, чуе зноў голас:

— Салдат, салдат, выратуй мяне!

Салдат зазлаваў ды кажа:

— Чорт цябе ведае, дзе ты ёсць і як цябе ратаваць?

Тады голас кажа:

— Я ў катле.

Прыходзіць салдат да катла і думае: «Ну, як жа ж яго дастаць?» Кацёл глыбокі, метры тры. Салдат зняў з сябе рубашку, парваў на стужкі, звіў вяровачку, прывязаў да канца каменьчык і давай апускаць у кацёл. Чуе — нешта ўчапілася. Давай салдат цягнуць угару. Калі выцягнуў — дык гэта была такая прыгожая дзяўчына, што ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць.

— Ну,— кажа,— дзякуй, салдат! Дапамог ты мне, дапамагу і я табе ў тваёй бядзе. Гэта,— кажа,— дварэц чараўніка. І ты ўжо ў яго праслужыў дзесяць год. Скора чараўнік прыдзе табе плаціць. Але ты ў яго нічога не бяры — ні золата, ні паперак, а

прасі ў яго, каб ён табе даў той рваны кашалёк, што ляжыць у той самай каморцы, дзе была растрапаная кніга. А я дачка цара,— і сама знікла.

Раптам адкуль узяўся чараўнік і кажа:

— Ну, салдат, адслужыў ты сваё ў мяне. Можаш ісці дадому. Вось ідзі, я табе дам за тваю службу. Чым хочаш бяры: хочаш золатам, хочаш паперкамі. І бяры, колькі ты можаш панесці.

Салдат успомніў словы, што казала яму царская дачка.

— Не,— кажа салдат,— не хачу ні вашага золата, ні паперак. А дайце мне рваны кашалёк, што ляжыць у тым кутку.

Чараўнік раззлаваўся:

— Прэч,— кажа,— пайшоў адсюль, нічога не дам!

Салдат выскачыў з дому і думае: куды ж ісці? Сюды ішоў па нейкіх балотах, па лясах, а то проста з дварца ідзе дарога і недалёка відаць якісьці горад. Ну, думае, пабягу проста.

Бяжыць салдат і думае: «Каб яго ліха! І тут нічога не заслужыў». Прыбягае на скрыжаванне дарог і адкуль ні вазьміся бах! пад ногі той рваны кашалёк, што ён бачыў у чараўніка. Падняў салдат кашалёк і думае: «Вось дык парадзіла яна мне, што ўзяць! Гэты ж кашалёк варты ўсяго тры грошы. А я ж мог бы ўзяць пудоў два-тры золата! Ну, пагляджу, што ж у тым кашальку ёсць!»

Адкрыў салдат кашалёк — у кашальку нічога няма, а пад нагамі нешта зазвінела. Глядзіць, а ля ног кучка золата. Салдат думае: «Адкуль золата?» Адкрыў зноў кашалёк — і зноў насыпалася кучка золата.

Узяў гэты кашалёк салдат, пабег у горад. Калі гляне — у горадзе на кожным рагу, на кожнай вуліцы вісіць аб'ява, што такі-та салдат украў у пана Сцяпана кашалёк. А ліхачка! Пабег ён у магазін, купіў сабе паліто, касцюм, шляпу, скінуў усё салдацкае.

Салдат думае: «Куды ж тут дзецца, каб не злавілі?» От рашыў салдат ісці да вартаўніка ў царскі сад. Адзеў усё зноў салдацкае, зайшоў да вартаўніка і просіцца пераначаваць. Вартаўнік не пускае, што няма дзе пераначаваць, а потым сказаў яму начаваць у будцы ў садзе.

Вартаўнік гаворыць:

— Вось у нашым садзе ёсць дуб у тры абхваты таўшчынёй. І наш цар дае вялікую ўзнагароду таму, хто гэты дуб зрэжа і на месца яго паставіць помнік. Але ніхто не знаходзіцца.

Салдат падумаў ды кажа:

— Далажы цару, што з'явіўся салдат, які можа гэта зрабіць.

На другі дзень вартаўнік далажыў цару, і цар даў распараджэнне рэзаць дуб і рабіць помнік. Праз некалькі дзён помнік быў гатовы. Зноў салдат і вартаўнік леглі адпачыць у будцы ў садзе. Не паспелі яны заснуць, як чуюць голас:

— Хто мяне пахаваў — выходзь!

Салдат кажа на вартаўніка:

— Ты выходзь, ты гаспадар у садзе.

А вартаўнік кажа:

— Не, я не пайду. Ты пахаваў, ты і выходзь.

Салдат кажа:

— Што будзе, то будзе, а выходзіць трэба.

Выходзіць салдат і бачыць — каля помніка стаіць чалавек:

— Ты мяне пахаваў? — пытаецца чалавек у салдата.

Салдат гаворыць:

— Я толькі зрэзаў дуб і паставіў помнік, а нікога не хаваў.

— Вось гэты дуб,— кажа чалавек,— гэта і быў я. А цяпер пойдзем за мной, і я перадам табе ўсё маё багацце.

І павёў чалавек салдата па балотах, па лясах. Прыходзяць да муру высачэзнага, што і канца не відаць. Чалавек дзмухнуў на гэтую сцяну — і сцяна разышлася. За сцяной відаць дварэц, увесь зззяе. Чалавек і кажа:

— Вось гэта мой дварэц, я табе яго перадам.

Прыходзяць яны ў сад. Чалавек прыводзіць салдата да яблыні, на ёй растуць чорныя яблыкі.

— Ну,— кажа чалавек на салдата,— з'еш адзін яблык.

Калі салдат з'еў, чалавек пытаецца:

— Ну, як сябе адчуваеш?

Салдат кажа:

— Учаплюся хоць за які поезд — астанаўлю.

— Гэта мала,— кажа чалавек,— з'еш яшчэ адзін яблык.

З'еў салдат яшчэ адзін яблык, чалавек пытаецца:

— Ну, а цяпер як адчуваеш сябе?

— А цяпер,— кажа салдат,— магу і зямлю нашу затрымаць.

— Гэта мала,— кажа чалавек,— з'еш яшчэ адзін яблык.

Калі салдат з'еў трэці яблык, чалавек пытаецца:

— Ну, а зараз як адчуваеш сябе?

Салдат кажа:

— Цяпер каб мне ўзяцца адной рукой за зямлю, а другой за неба — дык усё дагары перавярнуў бы.

— Ну, добра,— кажа чалавек,— цяпер ідзем у маю стайню.

Заходзяць у першы станок — стаіць прыгожы конь, а над ім вісіць меч.

— Вось табе,— гаворыць,— адзін мой конь.

Пайшлі ў другі станок, і там стаіць конь, і над ім вісіць меч.

— Вось табе,— кажа,— другі мой конь.

І пайшлі ў трэці станок. Там стаіць трэці конь і вісіць меч.

— Вось табе,— кажа,— і трэці мой конь. Гэтыя,— кажа,— коні табе ў жыцці нада будуць. А цяпер пойдзем, перадам табе мае грошы.

Прыводзіць салдата ў дом, а там цэлыя засекі золата, срэбра, паперак.

— Вось гэта,— кажа,— усё тваё. А цяпер,— кажа,— стукніся аб зямлю.

Салдат стукнуўся — стаў замест старога малады, прыгожы, моцны чалавек. А той чалавек знік. Салдат і думае: «Куды ж цяпер дзявацца?»

Рашыў пайсці ў царскі сад да вартаўніка. Падышоў да саду, стукнуўся аб зямлю і зноў ператварыўся ў такога ж самага старога салдата. Прыходзіць да вартаўніка, пытаецца, што ў іх новага чуваць? Вартаўнік расказвае, што ў нас недалёка горада ёсць возера, у гэтым возеры водзіцца змей. І з кожнага дома вадзілі гэтаму змею на з'ядзенне людзей, а цяпер чарга дайшла да самога цара. Заўтра павядуць на бераг возера старшую дачку цара.

Салдат, нядоўга думаючы, паімчаў у свой дварэц, ударыўся аб зямлю, ператварыўся ў моцнага чалавека, схапіў меч, сеў на каня і паехаў на бераг возера. Прыехаў і схаваўся ў кусце на беразе.

Раніцай прыбралі царскую дачку на смерць і прывялі яе на бераг возера. Пакінулі яе адну, толькі генералы асталіся выглядваць з-за бугра, што будзе з царскай дачкою. У гэты час зашумела вада ў возеры і з яго вылазіць трохгаловы змей. Салдат як кінуўся конна на змея, адным узмахам адсёк яму ўсе тры галавы, а потым сціснуў іх, і яны зрабіліся на камаровы носікі. Схаваў іх салдат сабе ў кашалёк. Царская дачка так рада, дзякуе салдату і запрашае да сябе ў госці. Але салдат кажа, што ён вельмі стаміўся і яму трэба адпачыць. І паехаў.

Царская дачка пайшла дадому, а генерал і гаворыць:

— Прысягні, што скажаш цару, што выратаваў цябе я, а калі не прысягнеш, дык застрэлю.

Царская дачка прысягнула і згадзілася сказаць так цару.

Салдат, завёўшы каня, прыходзіць зноў у царскі сад да вартаўніка. Вартаўнік і кажа:

— Сёння генерал выратаваў старэйшую дачку цара ад змея, а заўтра трэба туды весці сярэднюю дачку.

Салдат, доўга не думаючы, паімчаўся ў свой дварэц, узяў другога каня і меч і паімчаўся зноў на бераг возера ў той самы куст.

Назаўтра раніцай прыводзяць зноў туды ж другую царскую дачку. Адзін з генералаў зноў астаўся за бугром. Асталася царская дачка адна. Зашумела вада ў возеры, паднялася з берагоў, вылазіць шасцігаловы змей і ідзе на царскую дачку. Салдат кінуўся конна на шасцігаловага змея і адным узмахам адсёк усе шэсць галоў, сціснуў іх у камаровыя носікі і паклаў сабе ў торбу. І другая царская дачка ад радасці просіць салдата да сябе ў госці, але ён кажа, што яму трэба адпачнуць. Паехаў салдат да сябе ў дварэц, а царская дачка пайшла дадому. Яе сустрэў другі генерал і таксама патрабаваў прысягі, што ён выратаваў яе.

— А калі,— гаворыць,— не згодзішся, дык застрэлю.

Царская дачка згадзілася. А салдат ізноў прыйшоў у царскі сад да вартаўніка. Вартаўнік кажа:

— І сярэднюю дачку цара выратаваў генерал. Але заўтра трэба весці самую малодшую.

Салдат, доўга не думаючы, паімчаўся ў свой дварэц, асядлаў трэцяга каня, узяў меч і зноў прыляцеў на бераг возера ў куст.

Раніцай прыводзяць да возера і трэцюю, малодшую дачку цара. Адзін з генералаў зноў астаўся сачыць, што будзе з дачкой цара. Убачыў салдат царскую дачку і пазнаў, што гэта тая самая, што была ў доме чараўніка.

У гэты час запенілася вада ў возеры, зашумеў вецер і з возера вылазіць дзевяцігаловы змей. Салдат выскачыў з куста, махнуў мячом, шэсць галоў адсек, а тры асталіся. І адна галава ўхапіла салдата за руку. Салдат выхапіў руку і адсек апошнія тры галавы, а тулава змея спіхнуў у возера. А ўся яго рука залілася крывёю. Царская дачка атарвала стужку ад сваёй сукенкі і завязала руку салдата. Яна просіць яго да сябе ў госці, бо цар будзе рабіць пір з радасці, што дочкі выратаваліся ад смерці.

Пайшла царская дачка дадому. Сустракае яе і гэты генерал і кажа, каб яна прысягнула, што ён яе выратаваў, а калі не прысягне, то ён яе застрэліць. Што рабіць — і гэта згадзілася.

А салдат адвёў каня і прыйшоў зноў у царскі сад да вартаўніка. Вартаўнік гаворыць, што заўтра ў цара будзе пір на ўвесь мір і на пір цар запрашае ўсіх — і бедных і багатых.

Салдат кажа:

— Ну што ж, пойдзем, паглядзім.

Назаўтра пайшлі яны на пір. А там стаіць сталоў — канца не відаць. А на сталах усё, чаго толькі душа жадае: і піць, і есці, і курыць, і музыка іграе. Уладзіліся салдат з вартаўніком на самым апошнім стале. У гэты час царскія дочкі, узяўшыся падручку з генераламі, абходзілі ўсе сталы. Падышлі яны пад апошні стол, а самая малодшая царская дачка бачыць у салдата на руцэ стужку з свае сукенкі. Прыгледзелася яна і пазнала, што гэта той салдат, які выратаваў яе з катла. Як кінулася яна да салдата, а генерал давай яе не пускаць. Тады яна вярнулася да цара і расказала, што іх выратавалі ад змея не генералы, а салдат, які сядзіць ля самага апошняга стала. Цар загадаў генералаў арыштаваць, а салдата даставіць да яго.

Прышоў салдат да цара, паказаў змяёвыя галовы з камаровыя носікі і стужку малодшай царэўны. Расказаў ён, як выратаваў малодшую дачку цара з катла чараўніка, як выратаваў усіх трох дачок цара ад змея.

Цар загадаў генералаў расстраляць, а малодшую царэўну ажаніў з салдатам.

На гэтым вяселлі я быў, мёд-віно піў, па барадзе капала, а ў рот не папала. На гэтым казка ўся.

## 133. МЕРТВАЕ ЦЕЛА

Жыў сабе так адзін купец. І быў ён жанат на другой жонцы. Ад першыя ў яго застаўся адзін сын, а з другой ён нажыў двух. От, ён прызывае гэтых сыноў, ад другія жонкі, і кажа:

— Бярыце два вазы тавару і едзьце на ярмалак!

Яны набралі да й паехалі. Тады прыходзе большы сын і гавора:

— Што ж, тат, тым сынам па возу тавару даў і на ярмалак паслаў, а я што ж! Можа б я шчэ болей за іх здзелаў, дарма што ты мяне за дурня сьчытаеш!

— Ну, калі ты разумны,— кажа бацька,— дак набяры тры вазы тавару і едзь на ярмалак, да толькі штоб тавар прадаў і грошы ўзяў, і штоб заміж трох шэсць вазоў тавару дамоў прывёз!

Ну, ён узяў, тры вазы тавару наклаў і пайшоў к бацьку прашчацца. Ну, бацьку яго жалка стала, ён яму гавора:

— Будзеш жа ты ехаць, і на дарозе будзе табе бальшы лес, дак як трапіцца табе ўвечары пад'ехаць к яму, дак начуй у полі, а ў лес не едзь проці ночы!

Ну, ён і паехаў. Едзе, едзе і бача — ляжыць на дарозе мёртвае цела. Ён сабе і думае: «Божа, божа! Хто яго возьме і пахавае, як свайго роднага? Вазьму-тка я яго да пахаваю!» Да ўзяў, на калёсы ўсклаў і паехаў. Ехаў, ехаў, даганяе братоў.

— Вот, братцы, ці бачылі вы мёртвае цела на дарозе?

— Не, не бачылі!

— А я ж,— кажа,— во ўзяў пахавагь!

От яны і кажуць:

— Ну, як із ім, з дураком, ехаць! Шчэ ў суд забяруць.

І звярнулі ад яго. Паехаў ён зноў адзін; заехаў у сяло, наняў папа пахаваць таго чалавека, адслужыў па ём абедню і паваў на хаўтуры ўсё сяло. Ну, тады прыязджае ён у горад на ярмалак. Стаў шукаць ён сабе хлопчыка лі памогі. Наняў аднаго, пайшлі снедаць: стаў хлопец хлеб рэзаць і ўперад сабе адрэзаў, послі хазяіну. «Нехарошы жа, думае сабе, гэта хлопец, калі сабе хлеба рэжа ўперад за хазяіна!» Узяў і прагнаў яго. Наняў другога хлопца, і той так жа сама — і таго прагнаў. Сустракае тады трэцяга — маленькі хлопчык ідзе:

— Дзядзечка,— кажа,— наймі мяне!

— Не,— кажа,— ты шчэ мал, мне трэба большага!

— Дак нічога,— кажа,— я хоч мал, да болей за большага здзелаю!

Ну й наняў ён яго. Селі снедаць. От хлопец уперад хазяіну адрэзаў хлеба, а тады ўжэ сабе. Паснедаўшы, сталі яны тавар у балга́ні раскладаваць. Дак той тавар так скора раскладаецца, казаў ба жывы. От, сталі яны таргаваць. Чужыя ж балганы пустыя, а ў яго дак адбою няма ад людзей. Распродаў ён жыва свой тавар. Накупіў шэсць вазоў тавару ў двор і збіраецца ехаць. Гэты хлопчык і кажа:

— Дзядзечка, вазьмі,— кажа,— мяне з сабой!

— А добра, паедам!

Паклалі тавар на вазы, селі й паехалі. І пад'язджаюць увечары к тому самаму лесу. Хазяін гавора, штоб астацца на полі начаваць, а хлопец кажа:

— А не, дзядзечка, паедам у лес!

Ну, паехалі ў лес. Той, бач, здаўся. Адпраглі коней, пусцілі папасаваць. Тады хлопец выламаў дубок сабе і пайшоў у лес.

Ходзе па лясу да пасвістывае. Ішоў, ішоў і прыходзе к зямлянцы. У той зямлянкі сядзяць дзвенаццаць разбойнікаў, трынаццаты атаман. Вот атаман кажа:

— Выйду-ка я пагляджу па звёздах, ці няма каго ў нашым лесе!

Прыходзе з двора:

— Е,— кажа,— у нашым лесе, на дарозе, два чалавечкі і з імі шэсць вазоў тавару. Ідзіце ўтрох іх убіце, а тавар суды!

Толькі тыя выйшлі з зямлянкі, а ён як шарахне іх дубком, так усіх і паклаў. Ждаў, ждаў атаман, пасылае шчэ траіх:

— Што яны там забарыліся.

Выйшлі тыя, ён і іх убіў. І так пабіў чыста ўсіх. Тады хлопчык пайшоў у зямлянку, пазнаходзіў там скрыні грошай і пайшоў зваць хазяіна. Ідзе да пасвістуе. А хазяін той залез пад воз да й калоціцца, думае, што ён на яго разбойнікаў прывёў. Прыходзе к яму:

— Хадзі,— гавора,— хазяін, золата браць!

А той баіцца з-пад воза вылязаць. Выцяг ён яго адтуль і павёў у зямлянку. А ён яго просе:

— Мой галубец, што я табе здзелаў. Вазьмі ты сабе ўсё дабро, пусці толькі мяне жывога!

А ён кажа:

— Эх, ты,— кажа,— і дабро тваё цэла будзе і сам жыў будзеш!

Прыйшлі к зямлянцы, ён яму і паказуе:

— Бачыш,— кажа,— колькі я тут гэтых сабак пабіў?

— Гэта ж,— кажа,— не сабакі, а людзі!

— Не, сабакі: хай тут па-сабачаму і прападаюць!

Павёў яго ў зямлянку, паказаў золата, серабро, грошы, шаўкі, сукны, панскія павозкі, коні.

— От,— кажа,— бяры, хазяін, сколькі хочаш!

Ну, запраглі тых коней у тыя павозкі, навалілі ўсё тое дабро і паехалі к сваім вазам. Пераначавалі і паехалі далей.

Ехалі, ехалі, тады хлопчык гавора:

— От, хазяін: прыедам мы ў горад, і там прадаецца залатая карваць, і такая дарагая, што ніхто яе не купе. У нас цяпер грошай многа, купімо мы!

Ну, паехалі й купілі тую карваць. Едуці дальша і заначавалі на полі. Хлопчык той кажа хазяіну:

— Сягодні ты ляж на вазу спаць, а залатую карваць раскрый. І ўляціць у яе галубка, яна зачыніцца, і скінецца галубка царэўнай. Ты й жанісь на ёй!

Ну, так і было. Назаўтрага паехалі яны далі і прыехалі ў тое сяло, дзе ён пахаваў мёртвае цела, і там абвянчаўсь із царэўнай. І сабраў на вяселле ўсё сяло. Хлопчык жа той хазяінаву жонку стаў цёткай звацъ. Паехалі яны далей, заначавалі зноў у полі. Адвёў хлопчык коней на пашу, лёг пад возам да й ляжыць. Толькі ў поўнач прыляцелі тры вараны, селі над карвацЦю і запелі:

— Божа наш, божа! Сабралась любімая пара, дасталі серабра і злата і добрага малайца Булата, толькі нядоўга на свеце будзе жыць. Яго мацъ-мачыха ліхая хоча яго з свету страбіць. Як дасць яму першую чарку, дак ён у попел згарыць. А хто чуе да каму скажа, той па калена камнем стане!

Прапелі і паляцелі. Заначавалі на другую ноч. Зноў прыляцелі тры вараны і запелі:

— Божа наш, божа! Сабралась любімая пара, дасталі серабра і злата і добрага малайца Булата, толькі нядоўга будзе на свеце жыць. Яго мацъ-мачыха ліхая хоча яго з свету страбіць. Як дасць першую чарку, дак ён у попел згарыць. А не стрэбе гэтым, дак корме для яго каня, не каня, а змея. Як паедзе на ім катацца, дак ён яго косці разнясе. А хто чуе да каму скажа, той па пояс камнем стане!

На трэцюю ноч зноў прыляцелі і пяюць:

— Божа наш, божа! Сабралась любімая пара, дасталі серабра і злата і добрага малайца Булата, толькі нядоўга на свеце будзе жыць. Яго мацъ-мачыха ліхая хоча яго з свету страбіць. Як дасць першую чарку, дак ён на попел згарыць. А не стрэбе гэтым, дак корме для яго каня, не каня, а змея: як паедзе на ім катацца, дак ён яго косці разнясе. А не стрэбе гэтым, дак на трэцюю ноч у пасцелі нажом зарэжа. А хто чуе да каму скажа, той увесь камнем стане!

Назаўтрага ён кажа хазяіну:

— Што, дзядзька, ці паслухаеш ты мяне, што я цябе прасіць буду?

— Паслухаю, толькі што?

— А во што: як мы прыедам дамоў, дак мачыха будзе даваць табе гарэлкі выпіць, а ты не пі, да аддай мне. На другі дзень будзе йна табе даваць каня катацца, а ты не едзь, да пусці мяне ўперад паездзіць на ём. А на трэцюю ноч вядзі сам коней на нашлег!

Ну, прыязджаюць яны ў двор. Мачыха тая як не разарвецца! Яе сыны прыехалі з ярмалку без грошай і без тавару, а гэты

поўны вазы золата прывёз. Селі вячэраць, яна і дае яму гарэлкі:

— Вот,— ка[ж]а,— мой сынок, як знала, што ты прыедзеш, гарэлкі табе харошыя прыгатавала. На-тка, сынок, выпі з дарогі!

— Э, мамка,— кажа ён,— я да гарэлкі ня вот-то лас, а калі твая ласка, дак няхай мой хлопец вып'е!

І аддаў чарку таму. А ён, браўшы, быццам-то не нарошна і ўпусціў яе. Дак там так мост і выгарэў... На другі дзень мачыха кажа:

— Мой сынок, як знала, што ты прыедзеш, адкарміла табе коніка. Сядзь-ка, пакатайся на ім!

— Добра, мамка, толькі няхай мой хлопец паспрабуе!

Узяў хлопец таўкачык зялезны і паехаў. Толькі конь стаў падымацца з зямлі, а ён яго таўкачом пó галаве. І так умардаваў каня, што той насілу ногі прыцёг.

— Ну,— кажа,— дзядзька, цяпер садзісь, паязджай: не каня выкарміла, а кабана!

Сеў ён, праехаў трохі, а конь той і ног не пацягне. Ён узяў і вярнуўся. Выскачыла мачыха і пытае:

— А што, сынок, ці добры конь?

— Э, выкарміла ты, мамка, не каня, а кабана.

Мачыха тая аж трэскаецца ад злосці. На трэцюю ноч хлопец кажа хазяіну весці коней.

— Да ці ў нас,— кажа,— весці некаму, парабкаў няма, ці што?

— Ну, мала што, вядзі ты!

Павёў ён каня на начлежкі, а хлопчык узяў, адчыніў залатую карвацъ да й лёг збоку, для цёткі. У поўнач прыходзе мачыха з нажом, а ён устаў да й ходзе. Дак яна кінула нож да й пабегла. А хлопчык ізноў лёг. Назаўтрага ўранні прыводзе хазяін коней, уходзе к жонцы, аж із ёй хлопец спіць.

— А,— кажа,— дак ты такі! Мяне паслаў коней весць, а сам к цётцы пад бок! Я цябе за гэта павешу!

— Ну, павесіш, дак вешай! Толькі хадзі, я табе пакажу, дзе вешаць!

Прывёў яго ў сад, стаў пад вішняй і гавора:

— Во тут сабе вешай! Толькі чараз сем гадоў родзіцца ў цябе дзяцёнак, як будуць яго хрысціць, дак ты вазьмі, укалі яму іголкай мезяны палец да той кроўю памаж мяне, дак я зноў жыў буду. А цяпер слухай суды, што я буду гаварыць! Ці помніш ты, як я табе казаў не піць гарэлкі ад маткі, не ездзіць на

кані ўперад за мяне і весці коней на нашлег на трэцюю ноч. Цяпер я цябе за гэтыя тры дні адратаваў тры разы ад смерці: гарэлка, што табе матка давала, была з атрутай. Калі б ты яе выпіў, дак згарэў ба ў попел. Конь, што давала матка, быў не конь, а змей. Калі б ты сеў на яго ўперад за мяне, дак ба ён твае косці разнёс. Се́начы мачыха хацела цябе ў пасцелі зарэзаць. Калі б ты лёг, а не я, дак ба столькі ты й жыў. Гэта сказалі мне вараны, як мы ехалі; толькі казалі, што хто чуе да каму скажа, дак камнем стане!

Сказаў, так і стаў камнем. Хазяін той плакаў, плакаў над ім! Ну, тады радзіўсь у яго чараз сем гадоў дзяцёнак. Як сталі яго хрысціць, дак ён пракалоў у яго ме́зянец і пабег, пamазаў той камень кроўю. Як памазаў, так камень і стаў зноў хлопчыкам.

— Ну што,— кажа,— хазяін, ці знаеш ты, хто я такі?

— А бог жа цябе знае! Я не знаю!

— Я ж,— кажа,— душа таго чалавека, што ты падняў на дарозе да пахаваў!..

## 134. ЦАРКВА ВАСКОВАЯ

Жыў сабе дзед і з бабай, і яны былі дужа багатыя. Мелі яны дванаццаць пар валоў, дванаццаць пар канёў, на сябе і на людзей па шэсць пар. Быў у іх адзін сын. Ажанілі яны яго і жывуць так, і жывуць. Стаў бацька ўміраць і стаў ён прыказваць сыну:

— Глядзі ж, сынок, як я дзелаў, так штоб і ты дзелаў!

Памерлі бацька з маткай, стаў жыць сын на том хадзяйстве. Жыў ён так, як і ацец, памагаў бедным. Вот раз прыйшло к яму пад вакно і гавора:

— Ці ты луч будзеш гараваць за моладасцю, ці перад старасць?

Думаў ён сабе, думаў, ніяк не прыдумае. І спрашуе ў жонкі:

— Як мне казаць?

— Кажы: луч за моладасцю гараваць!

Ён так і сказаў. І стаў ён з тых пор бяднець, і чараз колькі ўрэмя не стала ў яго нічога: ні грошай, ні хлеба, ні скаціны. Жыў ён, жыў, дажыўся да таго, што есці нечага. Было ў іх двое дзяцей. Вот яны сабраліся і пайшлі ў свет за прапітаніем — по́ міру пайшлі.

Ішлі яны, ішлі, прыйшлі ў лес. І саўсім яны прымарылісь. Жонка кажа:

— Дай аддыхном!

Селі яны аддыхаць. Стала ў яго жонка вошай шукаць, і заснулі. А дзеці пабеглі шукаць цвятоў. Той убача харошы цвяток, а той яшчэ луччы — і адбеглі ад іх далёка ў лес, і заблудзілі. Бегаюць яны па лясу, плачуць! Бегалі-бегалі і ўзбеглі на дарогу. Аж едуць той дарогай цары. Убачылі гэтых хлопчыкаў і гавораць на кучароў:

— Ідзіце вазьміце іх у карэту.

Узялі іх і з сабой, падзялілі і павезлі. Прашнулісь бацька і матка — няма дзяцей. Шукалі яны, шукалі іх і не найшлі. Плакалі, плакалі і пайшлі адны. Ішлі, ішлі, прыйшлі к дарозе. Аж едзе па дарозе цар. Прыехаў к ім, убачыў жонку, — а яна была дужа прыгожая — і спрашуе:

— Ці гэта твая жонка?

Ён кажа:

— Мая!

— Аддай мне яе, ■ дам табе злата-серабра за яе!

— Не хачу я ні злата, ні серабра, не 'ддам я яе ні за што!

Цар тады кажа на кучара і на лакея:

— Вазьміце яе ў карэту!

Тыя злезлі, узялі яе за рукі і пасадзілі ў карэту, а яму ўзялі разасламі платок, насыпалі повен золата, кінулі й паехалі. Астаўся ён адзін у лесе і стаў плакаць. Плакаў, плакаў, узяў тыя грошы, паклаў на пень, сам лёг спаць пад кусцікам і спіць. Ляцеў арол, убачыў белы платок і думаў, што гусь, да за яго! Ухапіў і панёс. Узнёс на дуба, палядзеў — няма нічога. Ён і кінуў грошы на дубе. А ён прашнуўсь, бача — няма нічога: ні сыноў, ні жонкі, ні грошай. Зноў заплакаў і пайшоў.

Ішоў, ішоў, звёўся з яды. Ідзе ён — бяжыць мыш. Ён узяў і прыціс яе кастылём і кажа:

— Мышка, мышка, я хоць цябе з'ем!

А яна гавора:

— Не еш мяне, чалавеча! Ты мной не паядаеш, толькі душу напаганіш. Буду я табе ў вялікай прыгодзе!

Ён падумаў і гавора:

— Мажа гэта й праўда!

І пусціў яе. Пайшоў дальшы. Ішоў, ішоў — хочацца есці. Ідзе ён лесам, і ляжыць у лесе мураўя. Ён узяў, раскопнуў кучу мураўі, узяў мурашачку і гавора:

— Мурашачка, хоць я цябе з'ем!

А мурашачка яму адказуе:

— Не еш мяне, чалавеча! Ты мной не паядаеш, а сваю душу напаганіш. Пусці мяне, я табе буду ў вялікай прыгодзе!

Ён узяў і пусціў. Пайшоў дальшы. Ішоў, ішоў лесам, бача — лятаюць пчолкі. Ён паймаў адну пчолку і кажа:

— Ну, хоць гэту пчолку раздаўлю да з'ем, іх дзеці ловяць да ядзяць! Пчолка, пчолка, я цябе з'ем!

— Не еш мяне, чалавеча! Мной не паядаеш, толькі душу напаганіш. Пусці мяне, буду я табе ў вялікай прыгодзе!

Пусціў ён пчолку і пайшоў дальшы.

Ішоў, ішоў, відзен горад. Увайшоў ён у горад і гавора:

— Што гэта за горад?

— А гэта горад, дзе сам цар жыве!

От ён і пайшоў к цару. Прыходзе к цару:

— Ваша вялічаство анпяратарство! Прыміце мяне, чужастраннага чалавека, хоць за кусок хлеба!

Цар даў яму паядаць і паставіў яго на канюшню. Стаў ён карміць лашадзей, стаў іх даглядаць — сталі яны палуч тых, што цар праяздж ае. От, прыходзе к яму цар, убачыў коней і кажа:

— Маладзец, страннік!

Тады пайшоў і к кучарам:

— Э,— кажа,— вашы коні хужы за тых, што страннік даглядае. Я не буду вашых коней браць, а буду страннікавых коней браць на праезд!

Вот сталі тыя на яго се́рдзіцца, хочуць яго ўжэ страбіць. Думалі, думалі, што на яго сказаць цару. Адзін кажа:

— Я знаю, што вам сказаць. Скажыце цару, што казаў ваш страннік, што калі б ён тут ца́рам быў, то б увесь хлеб, колькі яго ё ў цара, за ноч перамалаціў і зноў у скірты склаў!

Яны сказалі цару. Вот цар выйшаў на крылцо і гукае:

— Эй ты, нішчы! Ідзі суды! Ці казаў ты так і так?

— Не, ваша вялічаство гасударство, я так не казаў!

А цар гавора:

— [Г]лядзі ж, калі ты гэтага не здзелаеш, то мой меч — табе заўтра ўранні галава з плеч!

Пайшоў ён і заплакаў. Плакаў, плакаў, а тады ўспомніў.

— Вот,— ка[ж]а,— дзе б тая мышка была да суды прыбыла!

А мышка і тут:

— Ідзі,— ка[ж]а,— чалавеча, спрасі, дзе жыта сыпаць?

Пайшоў ён к цару і спрашуе:

— Дзе ж жыта сыпаць?

Цар сказаў:

— У гамазею, а не ўлезе ў гамазею, дак кала гамазеі сып!

Сказаў страннік мышцы, а яна кажа:

— Ідзі ж, чалавеча, ляж спаць, а заўтра ўранні прыхадзі за мятлой, кала гамазеі замятай!

От ён устаў назаўтрага раненька, прыйшоў к гамазеі, ходзе з мятлой да зярняты замятае. Прыйшоў цар, бача — усё чысценька жыта перамалочана і салома зноў у скірты зложана!

— Ну, маладзец,— кажа,— ступай на места коней карміць!

Стаў ён апяць даглядаць коней. Прыходзе цар глядзець коней, яго коні зноў луч ад усіх. Ён тады гавора на кучароў:

— Не буду я браць вашых коней, а буду браць страннікавых коней на праезд!

Вот яны зноў хочуць страбіць яго. Пайшлі і сказалі цару:

— Казаў ваш страннік, што калі б ён у гэтым дзеле царам быў, то б ён усю гэту салому перамяў на палову і апяць у кучу склаў!

Вот цар і гукае яго:

— Эй ты, нішчы! Хадзі суды! Ці казаў ты так і так?

— Не, не казаў!

— Ну, дак [г]лядзі ж: калі ты гэтага не здзелаеш, то мой меч — табе заўтра ўранні галава з плеч!

Вот той выйшаў і плача:

— Ах,— ка[ж]а,— мурашачка! Дзе б ты была, да суды прыбыла! Яна ж мне казала, што будзе ў вялікай прыгодзе!

— Не клапачысь, чалавеча, я тут ужэ. Ідзі спрасі, куды салому класць?

Пайшоў ён к цару. Цар кажа:

— Кладзі туды, дзе салома ляжыць, пад строп, а не памесціш, сып на ток!

Тады мурашачка гавора:

— Ідзі ляж спаць, а заўтра ўранні прыхадзі заграбаць!

Вот ён назаўтрага прыйшоў ўранні да й ходзе з граблямі да з мятлой, да перакалачывае. Прыйшоў цар, аж уся чыста салома на палову перамята. Ён ніздзівіўся!

— Ну,— гавора,— маладзец! Ідзі на сваё места!

Ён пайшоў і апяць стаў даглядаць коней. Прыходзе цар — зноў яго коні луч ад усіх.

— Не буду,— кажа,— браць у вас коней на праезд, а буду ў нішчага!

Зноў яны хочуць яго страбіць. Пайшлі і гаворацъ цару:

— Казаў ваш страннік, што калі б я ў гэтым дзеле царам быў, то б я з воску царкву здзелаў: самі б папы пелі, самі б кніжкі чыталісь, кадэльніцы самі б боўталісь і самі б званы званілі!

Цар апяць выйшаў на крылцо і гукае странніка:

— Эй ты, нішчы, хадзі суды! Ці гаварыў ты так і так?

— Не, не гаварыў!

— Ну, дак вот: калі ты гэтага не здзелаеш, то мой меч — заўтра ўранні табе галава з плеч!

Ён пайшоў і плача:

— Ах, пчолка! Дзе б ты была, да суды прыбыла!

— Не журысь, чалавеча, я ўжэ тут. Ідзі спрасі, дзе строіць?

Ён пайшоў к цару. Цар сказаў:

— Строй ун там, на бугранку!

— Ну,— кажа пчала,— ідзі ляж спаць, а заўтра ўранні прыхадзі з крылцам пыль змятаць!

Назаўтрага ўранні ён прыйшоў з крылцам і змятае пылок на цэркві, і ў званы звоне. Прашнуўся цар, чуе: штось звоняць званы. Выйшаў ён без пояса на крылцо, палядзіць — ходзе страннік вакруг царквы. Пайшоў ён туды, у цэркву, цар. Ён жа думаў, што ён трохі пабыў там, аж ён прахадзіў да поўдня: так усё яму здалось вясёла ў царкве, прыгожа. Сонца прыпякло, царква і растала і цара заліла.

Прыбеглі казакі, енаралы.

— Што такое гэта ты іздзелаў, страннік?

Узялі яго і засадзілі ў цямніцу. А царкву гэту пасукалі на свечы. Пазбіралісь папы, князі, енаралы, казакі.

— Давайце,— кажуць,— з гэтыя царквы свечы падаём усім. У каго ў руках свечка загарыцца, таму й быць царам!

Узялі ўсім падавалі свечкі, і шчэ дзве свечкі выстались. Яны гавораць:

— Трэба прывесць странніка і таго, што сцеражэ яго адзін, прывесць іх і даць ім свечкі.

Прывялі странніка. Узяў ён свечку, свечка ў яго і загарэлась! Усе крыкнулі на ўра:

— Праздараўляем з новым царам!

А другія крычаць:

— Такому страннікў да быць царам?

Ну, аднача яму бог паказаў быць царам!.. І стаў ён на царах. Праздравілі яго і павялі к царыцы. І трэба яму было спаць лажыцца з царыцай, ну ён саромеўся і не лёг.

Выйшла царыца прагулівацца, і бача — едуці па мору два

караблі. Прыехалі к берагу, і злучыліся хадзяіны ўместа і адзін аднаго ўгадалі, і адзін аднаму гаворацъ:

— Як твой ацец жыў?

— А мой,— ка[ж]а,— ацец жыў з сваім бацькам, а з нашым дзедам. І меў наш дзед дванаццаць пар валоў і дванаццаць пар канёў. Паміраў дзед і нашаму айцу прыказваў: «Як я дзелаў, так і ты дзелай!» От ён памёр, а айцец так і пачаў дзелаць, як ён дзелаў. Раз падыходзе к яму пад вакно і гавора: «Ці ты будзеш перад моладасцю гараваць, ці перад старасцю?» Ён думаў, думаў і не прыдумаў, што яму сказаць. Узбудзіў жонку і кажа: «Як нам казаць?» Яна кажа: «Луч перад моладасцю гараваць, а перад старасцю красавацца!» От ён і адказаў яму, што хоча перад моладасцю гараваць. От ён пабыў колькі там-нібудзь — і грошы ўсе перавяліся, і валоў папраядаў і канёў папраядаў, і пайшлі мы ў свет. Ішлі, ішлі і прымарыліся. Яны леглі аддыхаць, а мы сталі красачак шукаць. Красачка за красачкай, красачка за красачкай — і збеглі мы ад айца і ад мацеры...

От царыца ўвазнала сваіх дзяцей і паваліласе. Тут січас прыбеглі, узялі яе і панясліи цару ў двор і паклалі ў пасцель. А тых забралі і павялі к цару. Ён і спрашуе:

— Што вы там здзелалі царыцы, што яна паваліласе?

— Да мы,— кажа,— нічога не здзелалі! Мы брацец братца ўзнаў, і гаварылі, як наш дзед жыў.

— А як ваш дзед жыў?

— Да ён меў дванаццаць пар валоў і дванаццаць пар канёў — на сябе шэсць пар і на людзей шэсць пар. Паміраў наш дзед і прыказаў свайму сыну, нашаму бацьку, так дзелаць, як ён дзелаў. Наш бацька так і дзелаў. Раз падышло к яму пад вакно і гавора: «Ці ты будзеш перад моладасцю гараваць, ці перад старасцю?» Ён сказаў: «Перад моладасцю». Пражылі мы пасля таго колькі-нібудзь, не стала й хлеба ў нас, і грошы папраядалі, і валоў, і канёў, і пайшлі ў свет. Ішлі, ішлі, прымарыліся: селі яны аддыхаць і заснулі, седзючы, а мы, удвох братцы, сталі краскі ірваць: краска за краскай, да й забеглі ў лес. Выбеглі мы на дарогу да і плачам. Ехалі цары, узялі нас, той на сваю павозку, а той на сваю, і вырасцілі нас. А цяпер мы тут стрэліся, увазналі адзін аднаго!..

Ну, цар угадаў, што гэта яго дзеці, і стаў іх цалаваць:

— Гэта ж,— кажа,— дзеткі, я ваш айцец, а царыца ваша мацъ.

Ну, выйшла суды і царыца і стала цалаваць дзяцей. От, здзелалі яны бяседу і сталі гуляць. Пасля таго выйшаў цар і з

сынамі з сваімі і з жаной прагуліваецца. Бачаць, на беразе, на дубу, сядзіць лебедзь. Цар загадаў казакам убіць тую лебедзь Білі, білі яны, не ўбілі. Палезлі на дуба — аж то платок з грашамі.

— А,— кажа цар,— гэта тыя грошы, што мне цар за жану даў. Іх у мяне арол украў!

І сталі яны там жыць-пажываць, гора забываць. Можа й цяпер шчэ там красуюцца пад старасць.

## 135. АБ УДАВЫ СЫНУ, ШТО НА МАГІЛКАХ НАЧАВАЎ

Быў сабе адзін удавы сын, надта бедны, і ў той самай вёсцы быў багатыр такі, што меў сем валоў. Аднаго разу прыходзіць удавы сын да карчмы, а там быў той багатыр і кажа:

— Хто на нашых магілках пераначуе, то таму дам быка.

А на тых магілках быў чалавек пахованы такі, што як прыдзе дванаста, так устае з магілы, ходзіць па свеце і страшыць. Як той хлопец гэта пачуў, так прыйшоў да маткі і кажа, што так і так, так і так. Тады матка кажа:

— Ідзі, сынку, і палажыся на том боку труны, на каторы века адчыняецца.

Потым дала яму пеўня жывога, лусту хлеба і кажа:

— Гэтага пеўня трымай у руках, а хлеб палажы пад галаў; як мрэц вы[й]дзе, то будзе пытаці: «Хто тут?» да трэцяга разу, а ты, сынку, маўчы.

Як маці сказала, так ён і зрабіў. Палажыўся на магіле, аж а дванастóй зрабіўся шум і нібавам труна выйшла наверх, а(д)-чынілася і вылез з яе той мрэц. Ажно пазнаў, што на магіле нехта ёсць, так пытае: «Хто тут?», а хлопец не аказаўся, так другі раз: «Хто тут?», а хлопец ніц.

— Аказвайся,— кажа,— бо ўдушу!

Так хлеб аказаўся:

— Я!

— Хто я?

— Мэнчэннік!

— Які ты мэнчэннік?

— Такі,— кажа,— мэнчэннік: возьме мяне гаспадар, параскідае па полю, потым баранамі давай драць і чыста мяне змяшае з пяском. Потым, як дасць дождж, заб'е мяне, так я храсткі

папускаю і расту. Расту, расту, расту, ужэ мне добра, аж як дасць снег, чыста,— кажа,— я змерзну, і гэта мне яшчэ ніц (а за каждым словам ацягаецца, каб даўжэй гаварыў). Потым, пад весну, снег зыдзе з мяне і ўжэ мне добра. Расту я, расту, аж як стане пячы слонка, чыста я,— кажа,— пажоўкну, ужэ я заўсім прапаў. Ажно як насходзіцца бабаў, як стануць мяне рэзаць! Так рэжуць, рэжуць і ўсё ў кучкі стаўляюць. Чыста яны мне кішкі паперарэзваюць, ужэ ў мяне заўсім духу німа! Пякуся я зо две нядзелі на слонку, аж прыязджае гаспадар, усё кідае на воз і да гумна возіць. У гумне за кожным разам кладзе мяне ў торп і ўсё каленьмі прытоптывае, і ўсё каленьмі прытоптывае. Яшчэ як людскі гаспадар да гумно вяліка, то ён мяне не так прытоптывае, а як іншы да гумно малое, то чыста мяне стопча. Ляжу ўжэ я ў торпе, аж прыходзіць гаспадар, скідае мяне з торпу на ток, скідае. Потым як стануць мяне цапамі біць, чыста з мяне костачкі павылятаюць. Потым збярэ мяне, выдмухае, вычысціць, напаліць печ, усыпле мяне, чыста я ўжэ згару да званя! І гэта мне яшчэ німа ніц! Потым выбярэ мяне з печы, завязе да млына да ўсё мяне каменнямі трэ да трэ. Чыста ўжэ мяне змеле, замне, анно чуць я жыў. І гэта мне яшчэ ніц. Дапёро як мяне, небараку, прывязе дахаты, так гэта прыдзе баба, насыпле мяне ў дзяжу, да ўсё наакол дзежкі ходзіць і кулакамі таўчэ да таўчэ. Як ужэ я ўкісну, так напаліць печ, так накладзе на лапату і ў печ садзіць. Тут ужэ мне канец. Потым сяджу я ў печы, сяджу, аж прыходзіць баба і выме мяне з печы, то як людска катора, то барждэй мяне вадою палье, тады мне крыху дух адыдзе.

Як ён гэтыя слава вымавіў, так гэта певень лоп! лоп! крыламі і какарэку-у! а мрэц нават не ў труну, але так нуртам у зямлю ўпаў. Назаўтра прыйшоў удавы сын і кажа так і так. Упярож багатыр не хацеў даць веры, але як убачыў, што нуртам у зямлю ўпаў, так аддаў таму хлопцу аднаго вала.

## 136. НЯБОЖЧЫК І ГРОШЫ

Жыла адна памешчыца дужа багатая. І ў яе было тры сыны. Вот гэта памешчыца захварэла і відзіць, што яна ўжо памрэць,— не захацела, каб яе грошы засталіся сынам. І была ў яе пакаёвая дзеўка, што служыла ў яе змалку. Дык яна просіць у сваёй вернай служанкі, каб яна дала ёй палатна:

— Я,— каець,— сабіраюсь уміраць, дык дай мне палатна, я буду сабе шыць на смерць падушачкі!

Дзеўка гэта дала ёй палатна, дык яна ўзяла, зшыла дзве падушачкі і ў вадну падушачку палажыла бумажкі, а ў другую палажыла золата. Тады прызвала дзеўку пакаёўку і кажыць:

— Глядзі ж,— каець,— як я памру, дык ты палажы мне гэтыя падушачкі ў дамавіну побач. Ты,— каець,— і адзявай мяне, я табе сто цалковых адказую!

Памёрла паня, дзеўка тая адзела яе, прыбрала як трэба быць, і палажыла тыя дзве падушачкі з ёй у труну. Ну, пахавалі яе. Тады агледзеліся, што няма грошай. А ведалі, што ў яе было многа. І напалі на гэтую дзяўчонку, сталі наракаць, што гэта яна пабрала. Яна й бажылася і клялася — ну яны не паверылі і засадзілі яе ў вастрог. Тады яна сядзела там і ўздумала пра тэі падушачкі. Прызвала сваіх панічоў і кажыць:

— Ці не былі гэта ў тых падушачках грошы, што йна шыла перад смерцю?

Ну, яны пайшлі і адкапалі яе. Калі палядзяць, аж у яе на грудзёх крук сядзіць і з аднэй падушачкі цягаець бумажку ды ёў у глотку, а йна глытаець, а з другей — золата ёй у глотку, і йна глытаець. Яны хацелі гэтыя грошы ўзяць, дык крук не даець. Яны яе ўзялі і закапалі із грашамі з тымі.

Каментарыі другой часткі тома «Чарадзейныя казкі», складзеныя Л. Р. Барагам і К. П. Кабашнікавым, будуюцца ў асноўным па схеме, якая была прынята ў томе «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі» і ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі». У каментарыях вызначаецца сюжэтны тып кожнай казкі па паказальніку Андрэева-Аарнэ[1] або Аарнэ-Томпсана[2], даюцца пашпартныя звесткі (хто, калі, дзе і ад каго запісаў твор), крыніца, адкуль узята казка, яе варыянты ў фальклоры ўсходніх славян. Апрача таго, у каментарыях падаюцца некаторыя звесткі пра казачнікаў, пра гісторыю асобных сюжэтаў, адзначаюцца асаблівасці таго ці іншага твора ў параўнанні з вядомымі яго варыянтамі і г. д. Пры вызначэнні паралеляў у славянскім фальклоры шырока выкарыстоўваюцца работы па сістэматызацыі і класіфікацыі рускіх казак Н. П. Андрэева і У. Я. Проппа[3], украінскіх Н. П. Андрэева[4], польскіх Ю. Кржыжаноўскага[5].

У каментарыях прыняты наступныя скарачэнні назваў навуковых прац і фальклорных зборнікаў:

Андр. — Н. П. Андреев. К характеристике украинского сказочного материала. У зб.: С. Ф. Ольденбургу. М.—Л., 1934, с. 60—72.

Анічэнка — Беларускі казачны эпас. Складальнік У. В. Анічэнка. Мінск, 1976.

Афанасьев — Народные русские сказки А. Н. Афанасьева. Подготовка текста и примечания В. Я. Проппа, т. I—III. М., 1957.

Балашов — Д. Балашов. Сказки Терского берега Белого моря. Л., 1970.

Бараг — Л. Бараг. Народные сказки, легенды, предания и были Башкирии. Уфа, 1969.

Бараг, 1975 — Сказки, легенды и предания Башкирии в новых записях на русском яз. Под редакцией и с комментариями Л. Г. Барага. Уфа, 1975.

---

[1] Н. П. Андреев. Указатель сказочных сюжетов по системе А. Аарне. Л., 1929. Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — АА.

[2] The Types of the folktale. A Classification and Bibliography Antti Aarne's. Verzeichnis der Märchentypen (FFC N3). Translated and enlarged by Stith Thompson. Second Revision. Helsinki, 1961. Агульнапрынятае абазначэнне паказальніка — AT.

[3] В. Я. Пропп. Указатель сюжетов. У кн.: Народные русские сказки А. Н. Афанасьева в трех томах, т. 3. М., 1957, с. 454—502.

[4] Н. П. Андреев. К характеристике украинского сказочного материала. У зб.: С. Ф. Ольденбургу. М.—Л., 1934, с. 60—72.

[5] J. Krzyżanowski. Polska bajka ludowa w układzie systematycznym, t. I—II. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1962—1963.

Б е л. с к а з к и — Белорусские народные сказки. Составители С. И. Василенок, К. П. Кабашников, С. И. Прокофьев. М., 1958.
Б е л. э п а с — Беларускі эпас. Мінск, 1959.
Б е с с а р а б а — Материалы для этнографии Херсонской губернии. Собрал И. В. Бессараба. Сборник ОРЯС АН, т. 94, № 4. Пг., 1916.
Б Н Т, 1971 — Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі. Складальнік К. П. Кабашнікаў. Мінск, 1971.
Б Н Т, 1973 — Чарадзейныя казкі. Складальнікі К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч. Мінск, 1973.
Б Н Т, 1976 — Сацыяльна-бытавыя казкі. Складальнік А. С. Фядосік. Мінск, 1976.
Г и р я к, 1966 — Українські народні казки Східної Словаччини. Упорядкування, післямова та коментарі М. Гиряка, т. 2. Пряшев, 1966.
Г и р я к, 1968 — Гора до неба. Українські народні казки Східної Словаччини. Запіс текстів, упорядкування і загальна редакция М. Гиряка і Н. Гиряк. Ужгород, 1968.
Г и р я к, 1969 — М. Гиряк. Українські народні казки Східної Словаччини, т. III. Пряшев, 1969.
Г и р я к, 1972 — Українські народні казки Східної Словаччини. Пряшев, 1972.
Г о с п о д а р е в — Сказки Филиппа Павловича Господарева. Запись текста, вступительная статья и примечания Н. В. Новикова. Петрозаводск, 1941.
Г р и н ч е н к о — Б. Гринченко. Этнографические материалы, собранные в Черниговской и соседних с нею губерниях, вып. I—II. Чернигов, 1895, 1897.
Г р и н ч е н к о, К а з к и — Б. Гринченко. Українські народні казки, вибрані для дітей. Київ, 1917 (3-е вид.).
Г у л е в і ч — Беларускія казкі, запісаныя ад Пятра Гулевіча. Зборнік склаў П. Ахрыменка. Мінск, 1963.
Д і д о-в с е в і д о — Д і д о-в с е в і д о. Закарпатські народні казки. Запис текстів та впорядкування П. В. Лінтура. Ужгород, 1969.
Д м и т р и е в — М. А. Дмитриев. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильно, 1869.
Д о б р о в о л ь с к и й — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. I. СПб, 1891.
Д р а г о м а н о в — Малорусские народные предания и рассказы. Свод М. Драгоманова. Киев, 1876.
Е р е м и н, Ф а л е в — С. Еремин, И. Фалев. Русская диалектология. М.—Л., 1928.
ЕЗ — Етнографічний збірник. Відає Етнографічна комісія наукового товариства імені Т. Шевченка у Львові. За редакцією В. Гнатюка, т. I — XXXVIII. Львів, 1896—1916.
З а х а р а в а — Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Складальнік В. А. Захарава. Мінск, 1973.
К а б а ш н і к а ў — Казкі і легенды роднага краю. Склаў К. П. Кабашнікаў. Мінск, 1960.
К а з к и — Українські народні казки, легенди, оповідання і речитативні вірші для дітей. Київ, 1939.
К а з к и Б у к о в и н и — Казки Буковини. Записав та впорядкував М. Івасюк. Ужгород, 1968.
К а л і н — Закарпатські казки Андрія Каліна. Запіс текстів та вступна стаття П. В. Лінтура. Ужгород, 1959.

Карнаухова — Сказки и предания Северного края. Л., 1934.
Карский — Е. Ф. Карский. Материалы для изучения белорусских говоров, т. I—V. СПб, 1898—1903.
Карский, Белорусы — Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. I. Пг., 1916.
Королович — Три золотих слова. Казки В. Короловича. Запіс текстів та впорядкування П. В. Лінтура. Ужгород, 1968.
Королькова — Русские народные сказки, рассказанные А. Н. Корольковой. Составитель и ответств. редактор Э. В. Померанцева. М., 1969.
Кравченко — Этнографические материалы, собранные В. Г. Кравченко в Волынской и соседних с ней губ. «Труды общества исследователей Волыни», т. V. Житомир, 1911; т. XII. Житомир, 1914.
Крачковский — Ю. Ф. Крачковский. Быт западно-русского селянина. М., 1874.
Кругляшова — В. П. Кругляшова. Фольклор на родине Д. Н. Мамина-Сибиряка. Свердловск, 1967.
Кулиш, Записки — Записки о Южной Руси. Издал П. Кулиш, т. I. СПб, 1856; т. II. СПб, 1857.
Кулиш, Предания — Украинские народные предания. Собрал П. Кулиш, кн. I. М., 1847.
Левченко — Казки та оповідання з Поділля. Упорядкував Микола Левченко, вип. I—II. Київ, 1928.
Малевич — С. Малевич. Белорусские народные песни. СПб, 1907.
Манжура — Сказки, пословицы и т. д., записанные в Екатеринославской и Харьковской губерниях И. И. Манжурой. Харьков, 1890.
Материалы, 1974 — Материалы и исследования по фольклору Башкирии и Урала, вып. I. Уфа, 1974.
Милорадович — В. Милорадович. Казки та оповідання, записанные на Лубенщине. Полтава, 1913.
МС — Могилевская старина. Сборник статей «Могилевских губернских ведомостей». Под ред. Е. Р. Романова, вып. III. Могилев, 1903.
Никифоров — Севернорусские сказки в записях А. И. Никифорова. Издание подготовил В. Я. Пропп. М.—Л., 1961.
Никифоров, Опись — Опись сказочного собрания А. И. Никифорова. У кн.: Севернорусские сказки в записях А. И. Никифорова. Подготовил В. Я. Пропп. М.—Л., 1961, с. 343—380.
Померанцева, 1957 — Русское народное творчество в Башкирии. Под общей ред. Э. В. Померанцевой. Уфа, 1957.
Померанцева, 1958 — Песни и сказки Ярославской области. Под общей ред. Э. В. Померанцевой. Ярославль, 1958.
Потявин — Народная поэзия Горьковской области. Составитель и ред. В. Потявин, вып. I. Горький, 1960.
Пропп — В. Я. Пропп. Указатель сюжетов. У кн.: Народные русские сказки А. Н. Афанасьева в трех томах, т. 3. М., 1957, с. 454—502.
Разумова, Сенькина — Русские народные сказки Карельского Поморья. Составители А. И. Разумова, Т. И. Сенькина. Петрозаводск, 1974.
Романов — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. III. Витебск, 1887; вып. IV. Витебск, 1891; вып. VI. Могилев, 1901.
Романов, Материалы — Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. I—II. Вильно, 1911—1912.
Рудченко — Народные южнорусские сказки. Издал И. Рудченко, вып. I—II. Киев, 1869, 1870.

С е р б о в — И. Сербов. Белорусы-сакуны. Пг., 1915.
С е р ж п у т о в с к и й — А. К. Сержпутовский. Сказки и рассказы белорусов-полешуков. СПб, 1911.
С е р ж п у т о ў с к і, К а з к і — А. К. Сержпутоўскі. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета. Л., 1926.
С е р ж п у т о ў с к і, П р ы м х і — А. Сержпутоўскі. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мінск, 1930.
С к. В е р х о в и н ы — Сказки Верховины. Закарпатские украинские народные сказки. Составитель И. М. Чендей. Ужгород, 1970 (2-е изд.).
С у х о б р у с — Г. С. Сухобрус. Українські народні казки. Київ, 1953.
У к р. к а з к и — Українські народні казки, легенди, анекдоти. Упорядкували Г. Сухобрус, В. Юзвенко. За редакцією П. Попова. Київ, 1957.
Х р э с т а м а т ы я — Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі. Пад рэд. Р. І. Аванесава і М. В. Бірылы. Мінск, 1962.
Ч и с т о в — К. Чистов. Перстенек — двенадцать ставешков. Петрозаводск, 1958.
Ч у б и н с к и й — Труды этнографическо-статистической экспедиции в западно-русский край. Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским, т. II. СПб, 1878.
Ч у д и н с к и й — Е. Чудинский. Русские народные сказки. М., 1864.
Ш а с т и н а — Елена Шастина. Сказки Ленских берегов. Иркутск, 1971.
Ш а с т и н а, 1975 — Е. Шастина. Сказки и сказочники Лены-реки. Иркутск, 1975.
Ш е й н — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I—III. СПб, 1887—1902.
Ш е й н, П е с н и — П. В. Ш е й н. Белорусские народные песни. СПб, 1874.
Ш л ю б с к і — А. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, т. I—II. Мінск, 1927.
Ш у х е в и ч — Гуцульщина. Написав В. Шухевіч, т. V. Львів, 1908.
Э р э м и ч — И. Э. Эрэмич. Очерки белорусского Полесья. Вильно, 1868.
Я в о р с к и й — Ю. А. Яворский. Памятники галицко-русской народной словесности, вып. I. Легенды, сказки, рассказы и анекдоты. Киев, 1915.
Я к и м о в и ч — Белорусские народные сказки. Пересказ Алеся Якимовича. Минск, 1968.
Я с т р е б о в — Материалы по этнографии Новороссийского края, собранные в Елизаветградском и Александровском уездах Херсонской губ. В. Н. Ястребовым. Летопись историко-филологического общества при Новороссийском университете, III. Одесса, 1894.
B a r a g — Belorussische Volksmärchen. Herausgegeben von L. G. Barag. Berlin, 1971 (5-е выд).
B a r ą c z — Ks. Sadok Barącz. Bajki, freszki, podania, przysłowia i pieśni na Rusi. Lwów, 1886.
F e d e r o w s k i — M. Federowski. Lud białoruski na Rusi Litewskiej, t. I—III. Kraków, 1897—1903.
G l i ń s k i — A. Gliński. Bajarz polski. Zbiór pieśni, powieści i gawęd ludowych, t. I—IV. Wilno, 1853.
K a r ł o w i c z — J. Karłowicz. Podania i bajki, zebrane na Litwie. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XI. Kraków, 1887; t. XII, 1888.
K l i c h — Edward Klich. Texty białoruskie z powiatu Nowogródzkiego. Materyały i prace Komisyi językowej, t. II. Kraków, 1903.

Kolberg, 1888 — O. Kolberg. Lud, t. IV. Pokucie. Kraków, 1888.
Kolberg, 1889 — O. Kolberg. Baśnie z Polesia. Zbiór wiadomośći do antropologii krajowej, t. XIII. Kraków, 1889.
Kolberg, 1891 — O. Kolberg. Przemyskie. Kraków, 1891.
Kolberg — O. Kolberg. Chelmskie. Kraków, 1891.
Kolberg, 1907 — O. Kolberg. Wołyń. Kraków, 1907.
Kolberg, 1968 — O. Kolberg. Dieła wszystkie, t. 52. Białoruś Polesie. Wrocław—Poznań, 1968.
Krzyżanowski — Julian Krzyżanowski. Polska bajka ludowa w układzie systematycznym, t. I—II. Wrocław—Warszawa—Kraków, 1962—1963.
Moszyńska — Bajki i zagadki ludu ukraińskiego. ZWAK, IX, 1875.
Nowosielski — A. Nowosielski. Lud ukraiński, jego pieśni, bajki, podania, klechdy, zabobony, obrzędy, zwyczaje, przysłowia, zagadki i t. d., t. I—II. Wilno, 1857.
Rokossowska — Z. Rokossowska. Bajki (skazki) ze wsi Jurkowszczyzny. Materyały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne, t. IX. Kraków, 1897.
Weryha — Podania białoruskie, zebrane przez Władysława Weryhę. Lwów, 1889.
Pietkiewicz — Czesław Pietkiewicz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Warszawa, 1938.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
бел.— беларускі
в.— вёска
вар.— варыянт
вобл.— вобласць
вол.— воласць
воп.— вопіс
вып.— выпуск
г.— год
гл.— глядзі(це)
г. нар.— год нараджэння
губ.— губерня
друк.— друкуецца
зап.— запісаў(ла)
зб.— зборнік
л.— ліст
літ.— літаратурны
літоўск.— літоўскі
м.— мястэчка
нар.— народны
п.— павет
параўн.— параўнай(це)
пас.— пасёлак
польск.— польскі
прыбл.— прыблізна
р-н — раён
руск.— рускі
склад.— складальнік
с/с — сельсавет
ст.— стагоддзе
с.— старонка
сш.— сшытак
т.— том
укр.— украінскі
ф.— фонд
частк.— часткова

### 1. Няшчасны Егар

АА 465 А + 569. Романов, III, с. 350—357, № 86. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Шарахоўскія Буды Рагачоўскага п. ад селяніна М. Пятрова, непісьменнага, 50 г.

Падобная кантамінацыя сюжэтаў адзначана толькі ў руск. і бел. апублікаваных фальклорных матэрыялах. Бел. вар. сюжэтнага тыпу 465 А

«Пайдзі туды, не ведаю куды»: Романов, VI, с. 70—81, № 7, Клімавіцкі п.; Господарев, с. 86—112, № 3; Анічэнка, с. 135—145; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 23, сш. 6, л. 28 (у кантамінацыі з АА 313 С). Руск. вар.— 49: Пропп, с. 470—471; Никифоров, № 107; Балашов, № 6, 87; Разумова, Сенькина, № 55; Шастина, № 9; Бараг, 1975, № 15, 16, 25 (запісы на руск. мове зроблены ад рускага, чувашскага і башкірскага казачнікаў). Укр. вар.— 5 (Андр.).

Бел. вар. сюжэтнага тыпу 569 «Торба, капялюш і дудка»: Романов, III, с. 244—247, № 40, Сенненскі п.; Романов, VI, с. 297—310, № 32, Чэрыкаўскі п.; Сербов, с. 169—173, Бабруйскі п. Руск. вар.— 9 (Пропп, с. 476; Королькова, с. 175—178).

У руск. і бел. вар. гэтага твора шмат агульнага і ў сістэме вобразаў, і ў мастацкіх дэталях, і ў вырашэнні асноўнага канфлікту. У традыцыйным для ўсходнеславянскіх казак тыпу АА 465 сатырычным плане намалявасны вобраз цара, якога па загаду Няшчаснага Егара салдаты паднялі на штыхі.

## 2. Іван Васільевіч — стралок

АА 465 А. Романов, VI, с. 70—81, №7. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Надзейкавічы Клімавіцкага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 1. Як і ў папярэднім вар., асноўны канфлікт твора набывае сацыяльную афарбоўку, антыпанскі характар.

## 3. Іван Пракрасны і князь Ладымяр

АА 465 В. Шейн, II, с. 168—170, № 81. Зап. Н. Котляр у другой палавіне XIX ст. у в. Дзяніскавічы Навазыбкаўскага п.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу 465 В «Самаграйныя гуслі»: Чубинский, II, с. 7—11, № 1, Кобрынскі п.; Шейн, II, с. 42—47, № 20, Ігуменскі п.; Сербов, с 169—173, № 1, Бабруйскі п.; Хрэстаматыя, с. 147—148, № 250, Ваўкавыскі р-н. Руск. вар.— 7 (Пропп, с. 471), укр.— 13: Андр.; Ск. Верховины, с. 272—277; Дідо-всевідо, с. 54—58. Польск.— 18 (Krzyżanowski, I, с. 143—145).

Героі гэтай казкі князь Ладымяр і Алёшка нагадваюць герояў былін кіеўскага цыкла. Яшчэ акад. Я. Ф. Карскі адзначаў, што ў гэтым творы можна заўважыць водгук старын аб князі Уладзіміры і Іване Гадзінавічы ці хутчэй Даніле Лаўчаніну. І ў быліне, і ў казцы князь, каб узяць сабе жонку героя, дае яму цяжкія даручэнні. Аднак пытанне аб тым, ці быліны ў дадзеным выпадку ўплывалі на казкі, ці казкі на быліны, патрабуе далейшага вывучэння. Імёны казачных персанажаў: Іван Пракрасны, Алёшка — лёгак на язык, сладак на слова, Алёна Сівалобаўна, Воўк Мінчыгрэй — даюць некаторыя падставы для вывадаў аб уплыве лубачнай літаратуры.

## 4. Прыгажуня-жонка

АА 465 С + 592. Шейн, II, с. 388—397, № 222. Зап. А. Я. Багдановіч у другой палавіне XIX ст. у Халопенічах Барысаўскага п.

Бел. вар. тыпу 465 С «Даручэнне на той свет»: Афанасьев, II, с. 466—467, трэці вар. (няпоўны), Навагрудскі п.; Добровольский, I, с. 669—673,

Смаленская губ.; Шейн, II, с. 42—47, № 20, Ігуменскі п.; Federowski, II, с. 300—301, № 333, Ваўкавыскі п.; Малевич, с. 20—22, Слуцкі п. Руск. вар.: Пропп, с. 471 (9 вар.); Бараг, 1975, № 16. Укр. вар.— 16 (Андр.). Параўн. польск. тэксты: Krzyżanowski, I, с. 147.

Бел. вар. тыпу 592 «Чарадзейная скрыпка»: Federowski, I, с. 25, № 84, Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1887, с. 266—268, № 26; Романов, VI, с. 486—488, № 54, Мсціслаўскі п.; Сержпутоўскі, Казкі, с. 192—197, № 77, Слуцкі п.; Barag, с. 335—337, № 42, Ашмянскі р-н. Руск. вар.— 4 (АА, с. 45), укр.— 5, польск.— 19 (Krzyżanowski, I, с. 194).

Кантамінацыя сюжэтаў 465 і 592 характэрна для ўсходнеславянскіх казак. У гэтым творы, які ў першакрыніцы мае назву «Муж багданы», выразна праявілася супярэчлівасць і абмежаванасць светапогляду сялянства ў мінулым стагоддзі. З аднаго боку — зварот да бога, які дапамагае бедняку ажаніцца і дае чароўную жонку, з другога — ярка выказаны сацыяльны пратэст, антыпрыгонніцкая накіраванасць. І ў рэалізацыі гэтага пратэсту казачнаму герою дапамагае пасланая богам жонка. Заключны эпізод казкі — купанне ў кіпені — нагадвае казкі тыпу 531 («Канёк-гарбунок»). У тэксце дапушчаны нязначныя скарачэнні.

## 5. Сірата Іван, дзявіца-чараўніца і пан

АА 465 В, С + 569 (частк.). Шейн, II, с. 42—47, № 20. Зап. настаўнік Калбчанскага народнага вучылішча Н. Г. Яцко ў другой палавіне XIX ст. у в. Ліпніца Ігуменскага п. ад сялянкі.

Вар. сюжэтаў 465 В, 465 С і 569 адзначаны адпаведна ў каментарыях 3, 4 і 1. Казка, як і папярэднія творы, вылучаецца антыпрыгонніцкай накіраванасцю. Своеасабліва распрацаваны фінал: Іван разам з жонкай ускочылі ў кацёл і сталі золатам; пан скіпеў у смале; чарадзейная сякера будуе Івану і яго жонцы палац. У першакрыніцы казка называецца «Сірата Іван, дзявіца-чараўніца і поп». У тэксце таксама аднойчы дзеючая асоба названа «поп». Але ў казцы ідзе размова пра пана, у сувязі з чым у назву ўнесена ўдакладненне.

## 6. Шкляныя горы

АА 518 + 400 А + 302 + 554. Романов, VI, с. 105—117, № 12. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Новая Ельня Чэрыкаўскага п.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу АА 400 А=АТ 400 «Муж шукае знікшую ці ўкрадзеную жонку»: Романов, VI, с. 117—123, № 13, Сенненскі п.; с. 225—233, № 25, Чэрыкаўскі п.; с. 404—412, № 44, Гомельскі п.; с. 495—507, № 57, Чэрыкаўскі п.; Federowski, II, с. 189—192, № 164, Ваўкавыскі п.; Господарев, с. 86—112, № 8; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, л. 5—10, Пастаўскі р-н. Руск. вар. звыш 60: Пропп, с. 468; Чистов, с. 133—145; Никифоров, № 86, 108. Укр. вар.—3 (Андр.; Калін, с. 142—149). Польск. вар.: Krzyżanowski, I, с. 126.

Сюжэт аб знікшай жонцы адлюстраваны ў «Панчатантры», у казках зборніка «Тысяча і адна ноч» і некаторых еўрапейскіх зборніках сярэдневякоўя. Вар. сюжэтных тыпаў 302, 554 і 518 адзначаны ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі» на с. 618, 615, 641.

Твор цікавы складанай і незвычайнай кантамінацыяй, яркімі рэалістычнымі замалёўкамі сялянскага быту і працы, адна з якіх з'яўляецца

экспазіцыяй казкі. У класічнай казачнай сітуацыі «Падманутыя чэрці» тут з'яўляюцца новыя дзеючыя асобы — тры ўюгі, што таксама надае казцы пэўную адметнасць.

### 7. Гусачкі-галубачкі

АА 400 А=АТ 400 (прыбл.). АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад Я. М. Альфер, 1908 г. нар., якая паведаміла яшчэ некалькі казак (гл. тэксты № 21, 46, 55, 128) і значную колькасць песень.

Вар. адзначаны ў каментарыі 6. Класічны сюжэт чарадзейных казак у гэтым вар. пераасэнсаваны, пазбаўлены многіх тыпова чарадзейных сітуацый і мастацкіх дэталей, як напрыклад пошукаў зніклай жонкі. У той жа час фінал казкі не мае паралелей у апублікаваным усходнеславянскім матэрыяле. Асобныя эпізоды — гускі скідваюць жонцы пер'е, і яна, нарэшце, адлятае разам з імі на радзіму — нагадваюць некаторыя матывы казак сюжэтнага тыпу 327 С.

### 8. Гора і бяда

АА 400 А + 518. Federowski, II, с. 189—192, № 164. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Вішневічы каля Шыдловіц Ваўкавыскага п. ад Попчыхі.

Казка мае шмат адметных рыс. Яе пачатак больш уласцівы бытавым або авантурна-навелістычным творам і ў пэўнай ступені набліжаецца да сюжэтнага тыпу АА *1528 I «Бяда». Своеасабліва распрацоўваецца і асноўная сюжэтная лінія АА 400 А, куды ўведзены эпізоды пераўвасаблення героя. Вар. адзначаны ў каментарыі 6.

### 9. Малады юнгер

АА *410 I + 400 *В + 508 А. Романов, VI, с. 462—469, № 50 (52). Зап. у прысутнасці Е. Р. Раманава К. Ц. Анікіевіч у канцы XIX ст. у в. Бялынкавічы Клімавіцкага п.

Іншых бел. вар. сюжэта АА *410 I=АТ 410* «Скамянелае царства» не адзначана. Руск. вар.— 11 (Пропп, с. 469; Балашов, № 3; Никифоров, № 89).

Бел. вар. сюжэта АА 400 *В «Цар-дзявіца»: Еремин, Фалев, с. 137, № 80; Господарев, с. 86—112, № 8. Руск. вар.— 18 (Пропп, с. 468; Балашов, № 57, 145; Разумова, Сенькина, № 12, 35). Укр. вар. адзначаны ў каментарыях да другога тома казак Афанасьева, выд. 1938 г., с. 616. Бел. вар. сюжэта 508 А «Удзячны нябожчык»: Barag, с. 111—119, № 6, Любчанскі р-н.

Да гэтага тэксту Е. Р. Раманаў зрабіў наступную заўвагу: «Мяжа двух гаворак. Твор, відаць, занесены» (с. 469).

### 10. Аб кралеўне, заклятай у жабу

АА 402. Federowski, II, с. 185—186, № 160. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кукелкі каля Шыдловіц Ваўкавыскага п. ад Сідаркевіч.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу АА 402 «Царэўна-лягушка»: Klich, c. 95—96, № 1, Навагрудскі п.; Federowski, II, c. 186—187, № 161, Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1888, c. 50—51, № 8; Господарев, с. 86—112, № 8; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 32, сш. 11, л. 10—16, Смаргонскі р-н. Руск. вар.— 29 (Пропп, с. 468—469; Никифоров, № 55; Разумова, Сенькина, № 12, 34; Бараг, 1975, № 12). Укр. вар.: Драгоманов, с. 313—316; Рудченко, I, № 43; II, № 29; ЕЗ, XIV, № 11; Калін, с. 142—148. Польск. вар.— 6 (Krzyżanowski, I, c. 129—130).

Ад іншых вар. тэкст адрозніваецца завязкай дзеяння: браты ідуць на паляванне, малодшы кідае сваю дрэнную стрэльбу ў луг і г. д., што дазваляе правесці паралелі з аналагічнымі польскімі казкамі і казкамі заходнееўрапейскіх народаў. У іншых вар. браты ідуць шукаць сабе жонак і знаходзяць іх кожны ў той старане, куды паляцела выпушчаная ім страла, што найбольш характэрна для ўсходнеславянскіх казак.

### 11. Заклятая панепка

АА 402. Klich, c. 95—96, № 1. Зап. Э. Кліх у канцы XIX ст. у Навагрудскім п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 10.

Казка мае незвычайную канцоўку: пасля таго, як муж спаліў скуру жабы, яна знікла і апынулася ў яйцы (параўн. смерць Кашчэя АА 302). Герой звяртаецца да арла, каб той злавіў яму вутку, а потым да ракаў, каб дасталі з мора яйцо. Распрацаваны ў традыцыях усходнеславянскіх казак гэты вар. мае некаторыя мастацкія дэталі, уласцівыя заходнеславянскім казкам гэтага тыпу. Напрыклад: жонка махне на сцяну, на сцяне робяцца залатыя квяты.

### 12. Разваліґара, Вырвідуб да й кралеўна-жаба

АА 402 (прыбл.). Federowski, II, c. 186—187, № 161. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Куклічы каля Лыскава Ваўкавыскага п. ад Праснячыхі.

Тэкст своеасаблівы і далёка выходзіць за межы сюжэтнага тыпу 402. Вобразы Разваліґары і Вырвідуба нагадваюць герояў казак тыпу 301 В «Тры падземныя царствы». Сустрэча героя ў палацы з заклятай кралеўнай, яе знікненне пасля таго, як спалілі скуру жабы, прыблізна адпавядаюць сюжэтным тыпам 401 і 402.

### 13. Царэўна-лягушка

АА 402. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 32, сш. 11, л. 10—16. Зап. Л. Друтко ў 50-х гадах XX ст. у Смаргонскім р-не.

Вар. адзначаны ў каментарыі 10. Гэты тэкст вылучаецца адноснай паўнатой і арганічным спалучэннем матываў, уласцівых усходнеславянскім казкам падобнага тыпу.

### 14. Рак-царэвіч

АА 440 + 400 А. Романов, VI, с. 419—426, № 46. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у Горках Чавускага п. ад мясцовага селяніна.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу АА 440 «Муж-рак»: Federowski, II, с. 181—185, № 156—159, Ваўкавыскі п. Руск. вар.: Карнаухова, № 4; Померанцева, 1957, № 11; Балашов, № 42. Укр. вар.— 8 (Андр.; Ск. Верховины, с. 265—271; Дідо-всевідо, с. 70—79). Польск. вар.— 14 (Krzyżanowski, I, с. 138—139). Найбольш тыповая кантамінацыя з сюжэтным тыпам АА 400 А=АТ 400, вар. якога адзначаны ў каментарыі 6.

Як адзначаюць даследчыкі, у казках сюжэтнага тыпу 440 адбіліся татэмістычныя ўяўленні нашых продкаў. Сюжэт адлюстраваны ва ўсходніх зборніках сярэдневякоўя.

## 15. Аб рачку

АА 441 (прыбл.) + 440 (прыбл.) + 400 А. Federowski, II, с. 181—183, № 156. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Рудзевічы Ваўкавыскага п. ад Ганцэвічыхі.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу 441 «Сын-вожык»: Federowski, II, с. 342—343, № 400. Укр. вар.: Nowosielski, с. 293. Польск.— 2 (Krzyżanowski, I, с. 139).

Гэты тэкст істотна адрозніваецца ад класічных сюжэтных тыпаў 441 і 440. Тут адсутнічае завязка «аддай тое, чаго дома не ведаеш», але ў той жа час уведзены матывы сватаўства, выканання цяжкіх даручэнняў і інш.

## 16. Як вужава жонка паставіла сынка дубком

АА 425 С + АТ 425 М. Federowski, I, с. 178—180, № 599. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Красная Весь каля Росі Ваўкавыскага п. ад Г. Чырвонікавай.

Бел. вар. тыпу 425 С «Пунсовая кветка»: Чубинский, II, с. 444—445, № 136, Кобрынскі п.; Сержпутоўскі, Казкі, с. 183—192, № 76, Слуцкі п.; Gliński, II, № 5. Руск. вар.— 9 (Пропп, с. 469; Балашов, № 156). Укр. вар.: Дідо-всевідо, с. 37—39. Польск.— 15 (Krzyżanowski, I, с. 136—137).

Бел. вар. тыпу АТ 425 М «Муж-вуж»: Добровольский, I, с. 277—278, № 40; Захарава, с. 256; Чубинский, II, с. 444—445, № 136, Кобрынскі п. (частк.). Руск. вар.: Карнаухова, № 59; Шастина, № 20; Бараг, 1975, № 19 (казка запісана на руск. мове ад чувашскага казачніка). Польск. вар.— 2 (Krzyżanowski, I, с. 136—137).

Казкі пра жонку вужа, якая пасля забойства мужа ператвараецца ў дрэва, а яе дзеці ў птушак, шырока прадстаўлены ў зборніках фальклору многіх народаў Усходняй Еўропы: рускіх, украінцаў, беларусаў, палякаў, літоўцаў, латышоў, эстонцаў. У песеннай форме сюжэт «Муж-вуж» распрацоўваецца ў фальклоры паўднёвых славян.

## 17. Любошчы

АА 425 С. Сержпутоўскі, Казкі, с. 183—192, № 76. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. В. Рожан Слуцкага п. ад казачніка Рэдкага.

Вар. адзначаны ў каментарыі 16.

## 18. Аб ведзьме, як сына жаніла

АА 428. Federowski, I, с. 87—89, № 266. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Студзераўшчына каля Дварца Слонімскага п. ад Т. Пытлічанкі.

Іншых бел. вар. сюжэта «Царэвіч-воўк» не адзначана. Руск. вар.— 8 (Пропп, с. 469; Балашов, № 52). У заходнеславянскіх зборніках не прадстаўлены. Экспазіцыя твора, вытрыманая ў традыцыі бытавых казак, нагадвае сюжэт 514 «Перамена полу», які ва ўсходнеславянскім фальклоры асобна не распрацоўваецца. Ролю дарадчыка і памочніка ў гэтай казцы выконвае не воўк-царэвіч, як звычайна, а сын ведзьмы.

## 19. Сястра і брацця-арлы

АА 451. Романов, III, с. 328—330, № 76, Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Азяраны Рагачоўскага п. ад селяніна С. М. Канавалава, 25 г., непісьменнага, як адзначаў збіральнік.

Бел. вар. сюжэта 451 «Браты-птушкі»: Романов, IV, с. 97—99, № 57, Сенненскі п.; с. 100—102, № 58, Сенненскі п.; Federowski, I, с. 86—87, № 265, Ваўкавыскі п. (прыбл.); с. 193—194, № 739, Ваўкавыскі п. (прыбл.); Karłowicz, 1888, с. 58, № 44; Gliński, IV, № 7; Захарава, с. 260—261; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, Пастаўскі р-н. Укр. вар.: Драгоманов, с. 304—306; Чубинский, II, № 16, ЕЗ, IV, № 21; Ск. Верховины, с. 365—369; Дідо-всевідо, с. 148—151; Гиряк, 1969, № 6. Польск.— 20 (Krzyżanowski, I, с. 141—142).

Вытокі фантастыкі падобных твораў даследчыкі бачаць у рытуале ініцыяцыі — пасвячэння юнакоў у мужчын, які яшчэ нядаўна бытаваў у некаторых народаў Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі. Гэты вар. адрозніваецца ад класічнай сюжэтнай схемы сваім пачаткам, завязкай дзеяння і ўключэннем у тэкст эпізоду нараджэння цудоўных дзяцей і спробы свякрухі звесці іх (параўн. АА 707).

## 20. Браты-птушкі і сястра

АА 451. Романов, IV, с. 100—102, № 58. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у Чарэйскай вол. Сенненскага п. ад мешчаніна Буткевіча.

Як і ў папярэднім тэксце, пачатак адрозніваецца ад класічнай сюжэтнай схемы: браты, якія пачалі бойку паміж сабой, становяцца птушкамі ў выніку гнеўнага слова сваіх бацькоў, што можна лічыць адметнай рысай бел. вар.

Вар. адзначаны ў каментарыі 19.

## 21. Пра склятых братоў і сястру

АА 451. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44. Зап. К. П. Кабашнікаў і Г. А. Барташэвіч у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад Я. М. Альфер.

У гэтым творы адсутнічаюць характэрныя для казак падобнага тыпу эпізоды жаніцьбы царэвіча на сястры склятых братоў, выратаванне сястры

ад смерці. У той жа час эпізод размовы птушак пра жывую ваду мае паралелі ў казках АА 613 «Праўда і Крыўда». Расказаўшы казку, Я. М. Альфер заўважыла: «Во гэта старынная басня. Цяпер жа вядомы пякнейшыя па кніжках. Можа і гэта ў кніжках была, але ж мабыць яе перакруцілі на ўсякія лады ўжо, пакуль яна да мяне дайшла».

У 1967 г. Н. Буганава і Л. Ванькові̇ч запісалі яшчэ адзін вар. гэтага твора «Сем братоў і сястра» (Захарава, с. 260—261). Тэкст яшчэ далей адыходзіць ад ранейшых запісаў, пазбаўлены многіх эпізодаў і мастацкіх прыёмаў, уласцівых традыцыйным казкам гэтага тыпу.

## 22. Браты-ваўкалакі і сястра

АА 451. Романов, IV, с. 97—100, № 57. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Меліхава Сенненскага п. ад селяніна М. Шаранды.

Вар. адзначаны ў каментарыі 19. Да тэксту збіральнік дадае наступнае:

«Шмат варыянтаў. Сыноў бывае дванаццаць, роўныя ростам, голас у голас, волас у волас. Маці прыказвае ім ехаць к абедні. Яны ўсталі, памыліся, прычасаліся і пабеглі ў стайню. За аднаго каня ўсе ўхапіліся, пасварыліся, пабіліся-падраліся і разыйшліся. І ў царкву не паехалі. Маці са злосці сказала: «Ах, каб жа вы век так драліся!» Яны тут жа ператварыліся ў ваўкоў, сталі грызці і пабеглі... Сястра бывае нямой тры гады. Пасля ліпіны яна залезла на елку начаваць. Пан зняў яе з елкі. Дзяцей забівае гадзіна. Пан два разы дае хабар суддзям і выратоўвае жонку ад пакарання, але за трэцім разам ёй надзелі ўжо камень на шыю і павялі тапіць. Тады яна крыкнула: «Ах, братцы, вы мяне ратуйце!» Прыбегла дванаццаць ваўкоў, у ваду бух! бух! і цягнуць яе з вады дванаццаць малайцоў, голас у голас, волас у волас. Тады гадзіне камень на шыю ды ў ваду».

## 23. Пра Івана бядняцкага сына

АА 314 (прыбл.). АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, № 65, сш. 1, л. 1—43. Зап. М. Я. Грынблат у 1973 г. у в. Бірча Бабруйскага р-на ад В. А. Жураўлёва, 1894 г. нар.

Дакладных паралелей у бел. фальклоры сюжэт 314 «Незвычайныя ўцёкі» не мае. Набліжаюцца да яго яшчэ тэксты: Federowski, I, с. 95—96, № 286; II, с. 54—55, № 46; с. 187—188, № 162, усе Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1887, с. 289, № 44.

## 24. Хорткі

АА *313 I (частк.)+315 А+300 А. Романов, III, с. 45—49, № 3. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х г. XIX ст. у в. Сукрэмна Сенненскага п.

Падобная кантамінацыя ў казках усходніх славян сустракаецца даволі часта. Сюжэтны тып АА *313 I, вар. якога адзначаны на с. 618 першай часткі тома, уласцівы казачнаму эпасу ўсходнеславянскіх народаў і некаторых іншых народаў СССР, звычайна служыць уступным эпізодам у казках пра звярынае малако або эпізодам у казках на іншыя сюжэты.

Бел. вар. сюжэта 315 A=AT 315 «Звярынае малако»: Романов, III, с. 38—45, № 1—2, Сенненскі п.; с. 60—63, № 6 (6), Гомельскі п.; с. 63—67, № 7—7 (6), Рагачоўскі п.; с. 67—73, № 8, Сенненскі п.; с. 148—154, № 19, Рагачоўскі п.; с. 172—180, № 22, Рагачоўскі п.; Federowski, I, с. 120—124, № 342; II, с. 62—65, № 51; с. 65—67, № 52; с. 68—74, № 54—56; с. 85—87, № 63, усе Ваўкавыскі п.; Weryha, с. 19—24, № 4, Лідскі п.; Добровольский, I, с. 495—498, № 15; с. 444—454, № 9; Господарев, с. 197—217, № 7; Анічэнка, с. 88—104, Рэчыцкі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 40-а, сш. 12, л. 1—6, Дзяржынскі р-н. Руск. вар.— 56 (Пропп, с. 466; Никифоров, № 114; Балашов, № 56, 95, 135; Разумова, Сенькина, № 54; Бараг, № 3; Бараг, 1975, № 17). Укр. вар. адзначаны ў каментарыі да зборніка Яворскага, с. 319, а таксама: Кравченко, 1914, № 117, 118; Kolberg, 1907, с. 438—439; Ск. Верховины, с. 232—243; Гиряк, 1972, № 1. Польск.— 10 (Krzyżanowski, I, с. 99—100).

Сюжэт AA 300 A=AT 300 «Пераможца змея» ў гэтай казцы не разгорнуты, пададзены нават схематычна. Яго вар. адзначаны ў першай частцы тома, с. 615.

### 25. Медзяны воўк

AA *313 I + 315 A + 300 A. Романов, III, с. 49—55, № 4. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Земкавічы Сенненскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 24. Гэты вар. можна аднесці да ўласцівай усходнеславянскаму і літоўск. матэрыялу разнавіднасці сюжэта — пра жалезнага (медзянога) воўка. Звяртае на сябе ўвагу пачатак казкі, дзе з поспехам выкарыстаны шырока распаўсюджаны ў казках пры жывёл прыём шматразовага паўтарэння і нарашчэння дзеяння. (Параўн. казкі AA 212 «Каза лупленая» і інш.). Казка вызначаецца эпічнай стройнасцю.

### 26. Юда — беззаконны чорт

AA *314 I + *313 I + 315 A. Романов, III, с. 60—63, № 5 (6). Зап. па ўказаннях Е. Р. Раманава селянін Герасім Крывашэеў у 80-х гадах XIX ст. у в. Перарост Гомельскага п.

Вар. сюжэтаў *313 I і 315 A адзначаны ў каментарыі 24. Бел. вар. сюжэта *314 I «Бычок-выратавальнік»: Романов, III, с. 49—59, № 4—5, Сенненскі п.; с. 63—65, № 7, Рагачоўскі п.; Federowski, I, с. 120—124, № 342, Ваўкавыскі п.; II, с. 62—65, № 51, Ваўкавыскі п.; с. 68—69, № 54, Ваўкавыскі п.; Господарев, с. 197—217, № 7. Руск. вар.— 16 (Пропп, с. 466; Балашов, № 64, 135).

Уступ «Бычок-выратавальнік», тыповы для ўсходнеславянскіх казак пра звярынае малако, часта зліваецца з сюжэтам «Уцёкі ад ведзьмы», як гэта атрымалася ў дадзеным тэксце. Як і папярэдні твор, казку можна аднесці да разнавіднасці сюжэта 315 A «Звярынае малако» — «Жалезны воўк». Тэкст вылучаецца шматлікімі мастацкімі дэталямі, своеасаблівым развіццём некаторых традыцыйных матываў.

### 27. Аб стральцу Рыгору

AA 315 A. Federowski, II, с. 71—74, № 56. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Клепачы каля Свіслачы Ваўкавыскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 24. Тэкст адрозніваецца ад іншых вар. некаторымі мастацкімі дэталямі і эпізодамі, якіх няма ў папярэдніх творах: падарожжа да млына за дванаццаць дунаёў, пакаранне жонкі і г. д.

## 28. Прамудры Салямон

АА 315 А + 300 А. Weryha, с. 19—24, № 4. Зап. У. Вярыга ў 1884 г. у Лідскім п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 24. Казка мае пэўную гераічную афарбоўку: у традыцыях твораў аб асілках (АА 650 А, *650 II) вытрымана завязка дзеяння, падрабязна распрацаваны сцэны змагання з шматгаловымі змеямі і інш.

## 29. Пра дзяўчыну — баранняя скура

АА 510 В (частк.) + 707 (частк.) + 315 А + 315 *В. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 90—103. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Явішчы Уздзенскага р-на ад Я. К. Лукашэвіч.

Бел. вар. сюжэта АА 510 В «Свіны чахол»: Романов, III, с. 292—295, № 60, Сенненскі п.; с. 304—307, № 64, Быхаўскі п.; Federowski, II, с. 103—108, № 75—76, Ваўкавыскі п.; с. 112—117, № 78, Слонімскі п.; Романов, Материалы, с. 368—370, № 13, Пружанскі п.; Анічэнка, с. 150—153, Рэчыцкі п. Проп адзначае звыш 10 руск. вар.

Бел. вар. сюжэта АА 315 *В = АТ 318 «Няверная жонка»: Karłowicz, 1887, с. 247; Добровольский, I, с. 444—454, № 9; Господарев, с. 297—312, № 14; Захарава, с. 266—268, Брэсцкі р-н; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 43, Ляхавіцкі р-н; Анічэнка, с. 88—104, Рэчыцкі п. Параўн. таксама: Афанасьев, II, № 287, с. 386—388 = Дмитриев, с. 170—172 (у кантамінацыі з асноўным сюжэтам 707); Federowski, II, с. 314—315, № 347. Руск. вар.— 20 (Пропп, с. 466; Никифоров, № 103; Бараг, 1975, № 10). Укр. вар.: Kolberg, 1889, № 16; Ск. Верховины, с. 189—195; Казки Буковини, с. 105. Польск.— 2 (Krzyżanowski, I, с. 188—189).

Вар. АА 707 і 315 А адзначаны адпаведна ў каментарыях 63 і 24.

## 30. Як Іван-дурак пайман у рэпе лятучага старыка

АА 502 (частк.) + 560 + 315 *В. Добровольский, I, с. 444—454, № 9. Зап. У. М. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у Смаленскай губ.

Вар. сюжэтаў 502 «Медны лоб» і 560 «Чарадзейны пярсцёнак» адзначаны адпаведна ў тамах БНТ, 1973, с. 632 і БНТ, 1971, с. 485; вар. сюжэта 315 *В — у каментарыі 29.

Развіццю асноўнай сюжэтнай лініі ў гэтым творы папярэднічае шырока распаўсюджаны ў бел. чарадзейных казках розных тыпаў, асабліва 530 А, 550 і іншых, эпізод, у якім апавядаецца, як тры браты па чарзе вартуюць засеянае поле або сад. Гэты эпізод ускладняецца тут апісаннем бойкі паміж Іванам і лятучым старым, які затым дае Івану чарадзейныя прадметы.

## 31. Алена-Прыгажуня, чараўнік і салдат

АА 301 *С + 315 *В. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 43. Зап. Р. І. Яраслаўцава і Л. Кулак у 1969 г. у в. Дарава Ляхавіцкага р-на ад М. Стальмацкай, 1905 г. нар.

Кантамінацыя гэтых сюжэтаў сустракаецца і ў іншых апублікаваных усходнеславянскіх казках: Господарев, № 14; Шастина, № 11; Бараг, 1975, № 10. Поўных бел. вар. сюжэта 301 *С больш не выяўлена, асобныя матывы сюжэта «Партупей-Прапаршчык»: Романов, III, с. 85—88, № 10 б. Гл. таксама вершаваны пераказ: Э. Валасевіч. Дняпроўскі чарадзей. Казкі. Мінск, 1963, с. 7—45. Руск. вар.— 10 (АА, с. 27; Померанцева, 1957, № 31; Потявин, № 17; Бараг, № 3; Бараг, 1975, № 10; Шастина, № 11; Господарев, № 14). Укр. вар.: ЕЗ, XIV, с. 113—124, № 14.

Казкі тыпу АА 301 *С маюць сувязь з лубачнай аповесцю «Пра сільнага і адважнага рыцара Партупея-Прапаршчыка і прыкрасную каралеву Маргарыту», якая часткова адпавядае «Истории про Российского матроса Василия Кориотского и прекрасную королевну Ираклию» (пачатак XVIII ст.).

Вар. сюжэта АА 315 *В адзначаны ў каментарыі 29.

## 32. Салдат і чорт

АА 502 (частк.) + 566. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 60, сш. 2, л. 13—18. Зап. В. І. Скідан у 1972 г. у в. Бяртоўшчына Міёрскага р-на ад Пальчэўскага Арсенія Фадзеевіча, 1920 г. нар.

Вар. сюжэтаў АА 502 «Медны лоб» і 566 «Рогі» адзначаны ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі», с. 632, 644.

У гэтым тэксце абодва сюжэты распрацоўваюцца своеасабліва. Так, ролю цудоўнага памочніка, вызваленага з палону, выконвае чорт, які дастаўляе герою чарадзейныя яблыкі. У казцы нямала мастацкіх дэталей і паняццяў, якія сведчаць аб моцным уплыве на твор новай рэчаіснасці.

## 33. Тры сыны

АА 566. АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91а, л. 63—68. Зап. Л. М. Салавей у 1974 г. у в. В. Хальнявічы Крупскага р-на ад Красняковай Надзеі Кірылаўны.

Вар. адзначаны ў каментарыі 32.

Н. К. Краснякова (1901 г. нар.) вядома не толькі як казачніца. У сваёй памяці яна трымае таксама старадаўнія песні, паданні, жарты, загадкі, абрады і звычаі, рэцэпты нацыянальнай кухні і г. д. Казачны рэпертуар яе вылучаецца не шматлікасцю ці арыгінальнасцю сюжэтаў, вобразаў, а дасканаласцю, стройнасцю вуснай перадачы твораў, сакавітасцю мовы, яркасцю інтанацый. У яе выкананні вобразы набываюць закончанасць, маляўнічасць, непрыкметна прывязваюцца да мясцовых абставін.

Ад яе запісана каля дзесяці казак, у тым ліку казкі пра жывёл («Кот і лясныя звяры», «Кот, сабака, заяц і ліса»), чарадзейныя («Цудоўная торба жорава»), бытавыя («Салдат і чэрці»).

### 34. Аб ведзьме, што мужыка ў сабаку перакінула

АА *449 A. Federowski, II, с. 178—180, № 154. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Саўгецці каля Сухаволі Ваўкавыскага п. ад С. Жукоўскай.

Бел. вар. сюжэта АА *449 А=АТ 449 «Царскі сабака»: Романов, IV, с. 105—115, № 61—61 (б), Гомельскі п.; с. 115—118, № 61 (в), Рагачоўскі п.; Шейн, II, с. 49—50, № 22, Ігуменскі п.; с. 161—163, № 77, Навазыбкаўскі п.; Добровольский, I, с. 348—354, № 6, Бельскі п.; «Этнографическое обозрение», 1898, № 2—3, с. 142—143; «Москвитянин», 1853, № 5, кн. I, с. 20 — пераказ бел. казкі. Руск. вар.— 21 (Пропп, с. 470; Никифоров, № 110; Балашов, № 50). Укр. вар.— 10 (гл. каментарыі да другога тома казак Афанасьева, 1938, с. 627; Калін, с. 163—164).

Сюжэт мае шмат паралелей у старажытным фальклоры Усходу, дзе вядомы па казках «Тысяча і адной ночы» (Другая ноч, апавяданне трэцяга старца). Разнавіднасць сюжэта — «Царскі сабака» — найбольш уласціва ўсходнеславянскаму фальклору.

### 35. Пра ахотніка

АА *449 А. Шейн, II, с. 161—163, № 77. Зап. настаўнік народнага вучылішча Н. Котляр у другой палавіне XIX ст. у в. Дзяніскавічы Навазыбкаўскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 34. Апавяданне ад першай асобы аб незвычайных прыгодах паляўнічага — распаўсюджаны мастацкі прыём у распрацоўцы гэтага сюжэта.

### 36. Как няверная жана прытварыла мужа воранам і сабакай

АА *449 А. Добровольский, I, с. 348—354, № 6. Зап. У. М. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у в. Шоптава Бельскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 34. У гэтым тэксце сюжэт атрымаў больш поўнае развіццё, чым у папярэдніх, ускладняецца новымі эпізодамі, хоць і тут, як і ў казцы «Пра ахотніка», няма эпізоду выратавання царскіх дзяцей, уласцівага творам гэтага сюжэтнага тыпу.

### 37. Казачнік і песельнік

АА *449 А. Романов, IV, с. 107—115, № 61 (б). Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Васільеўка Гомельскага п. ад І. Герасімава, 28 г., непісьменнага, які быў у адыходніках, што, як заўважае збіральнік, адбілася на мове казачніка.

Вар. адзначаны ў каментарыі 34. Асноўны сюжэт тут абрамлены, як і ў іншых вар. Раманава, другім — «Спрэчка паміж казачнікам і песельнікам», які не адзначаны ў міжнародных паказальніках. Гэта спрэчка звязана з пытаннем аб асаблівасцях эстэтычнага асэнсавання рэчаіснасці

ў такіх жанрах народнай творчасці, як песня і казка, аб адлюстраванні ў іх праўды жыцця. Параўн. апавяданне «Адкуль пачынаюцца песні і казкі» (Господарев, с. 59, № 1).

### 38. Казачнік і песельнік

АА *449 А. Романов, IV, с. 115—118, № 61(в). Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у Доўскай вол. Рагачоўскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 34. Гл. таксама каментарый 37.

### 39. Дзед і баба

АА 612. Романов, III, с. 358—359, № 88. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-я гады XIX ст. у в. Ганчарова Сенненскага п.

Сюжэт 612 «Ажыўленая няверная жонка», які звычайна адносіцца да чарадзейных, у гэтым выпадку распрацоўваецца ў бытавым, навелістычным плане, пазбаўлены некаторых традыцыйных эпізодаў. Фінал набывае камічны характар. Іншыя бел. вар. не адзначаны. Руск. вар.— 8 (АА, с. 46). Укр. вар.: Barącz, с. 95—97; Чубинский, II, с. 420—421, № 124. Польск.— 9 (Krzyżanowski, I, с. 196).

Гэты сюжэт адлюстраваны ў быліне пра Патыка, а таксама ў літаратурных помніках старажытнага Усходу («Махабхарата») і еўрапейскіх зборніках сярэдніх вякоў.

### 40. Сірата

АА 403 А. Weryha, с. 71—73, № 21. Зап. У. Вярыга ў 1884 г. у Лідскім п.

Бел. вар. сюжэта АА 403 А «Падмененая нявеста»: Federowski, II, с. 280—281, № 319, Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1887, с. 253, № 17. Руск. вар.— 10 (Пропп, с. 469; Никифоров, № 61, 80; Балашов, № 22; Бараг, 1975, № 19). Некаторую адметнасць гэтаму тэксту надае эпізод, які апавядае аб тым, як брат знаходзіць на магіле маці партрэт сваёй сястры. Дарэчы, адносна актыўная роля брата ў казцы больш уласціва заходнееўрапейскім вар. гэтага сюжэтнага тыпу, чым усходнеславянскім. Эпізод падмены нявесты-падчаркі часта сустракаецца таксама ў казках АА 403 В, 409, 450. У навуковай літаратуры фантастыка падобных казак высвятляецца ў сувязі са старажытнымі вясельнымі звычаямі розных народаў.

### 41. Мачаха, яе дачка і падчарка

АА 403 В + 407 (частк.). Захарава, с. 264—265. Зап. Р. Яраслаўцава і А. Трыбо ў 1969 г. у в. Жарабковічы Ляхавіцкага р-на ад А. К. Кухарчык.

Іншых бел. вар. сюжэтнага тыпу АА 403 В не адзначана. Руск. вар.— 6 (Пропп, с. 469). Бел. вар. сюжэтнага тыпу АА 407 «Дзяўчынакветка»: Barag, с. 322—323, № 36, Пінскі р-н; Gliński, I, № 5. Руск. вар.—2 (Пропп, с. 469). Укр. вар.: Королович, с. 88—93; Гиряк, 1969, № 2. Казкі пра дзяўчыну-кветку найбольш уласцівы заходнеславянскаму (славацкаму, чэшскаму) фальклорнаму матэрыялу.

## 42. Казка пра падчарыцу

АА 480 А. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 95, сш. 4, л. 6—9. Зап. Л. П. Барабанава ў 1975 г. у в. Лескі Старадарожскага р-на ад Варвары Васільеўны Гусевай.

Бел. вар. сюжэта АА 480 А=АТ 485 «Падчарка ў студні»: Klich, с. 157—159, Навагрудскі п.; Federowski, II, с. 102—108, № 74, Ваўкавыскі п.; с. 166—168, № 143, Ваўкавыскі п. Руск. вар.— 6 (АА, с. 37; Никифоров, № 63; Разумова, Сенькина, № 69). Укр. і польск. не адзначана.

## 43. Дзедава дачка і бабіна дачка

АА 480 А. Klich, с. 157—159. Зап. Э. Кліх у канцы XIX ст. у Навагрудскім п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 42.

## 44. Пра Малгоську і Аўдоську

АА 480 *В. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 39, сш. 1, л. 94—98. Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад М. М. Казлоўскай.

М. Казлоўская родам з-пад Нарачы, ведае вялікую колькасць узораў традыцыйнага фальклору, пераважна песні (ад яе запісана больш 120 песень), а таксама «басні» (казкі). Апавядаючы казку дзецям, яна дастасоўвае яе да мясцовых умоў, уводзіць зразумелыя дзецям сучасныя матывы і дэталі. Яе выкананне — гэта не проста перадача зместу, а яркае драматычнае прадстаўленне, дзе кожнаму персанажу ўласціва свая мова, свой голас. Ажыўляюць апавяданне песенныя ўстаўкі, павучальныя звароты непасрэдна да слухачоў.

Вар. адзначаны ў кнізе «Казкі пар жывёл і чарадзейныя казкі», с. 489.

## 45. Казка пра падчарку

АА 480 *В. АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1974 г. у в. Смародзінка Крупскага р-на ад Х. С. Кавалёвай. Ад яе запісана яшчэ некалькі казак і народных песень. Вар. казкі быў запісаны Г. А. Барташэвіч у в. Абчуга гэтага ж р-на ад Г. В. Клімовіч. Для параўнання даем тэкст поўнасцю.

«Жыў дзед, і была ў яго няродная жонка і падчарка і родная дачка. І так ёй было плоха, гэтай дзевачцы. Мачыха ўсё ўрэмя яе абіжала і так абіжала, што кажа дзеду:

— Вядзі яе, куды хочаш, і дзей мне яе, дзе хочаш.

Дзед замаркоціўся, заплакаў, запрог двое коней, пасадзіў дзевачку і павёз у чыстае поле на люты мароз. Кінуў яе на сцюжы; трасецца бедная, плачаць. Прыйшоў Мароз.

— Я Мароз-Краснанос.

Яна гаворыць:

— Мароз, прыйшоў ты па маю душу.

А Мароз увідаў дзевачку, паглядзеў на яе кругом, панаравілася, па-

жалеў. Узяў ёй кінуў бальшы тулуп. Надзела дзевачка тулуп, падкорчыла ножкі, сядзіць. На другі дзень апяць прыйшоў Мароз.

— Я Мароз-Краснанос.

Дзевачка яго павітала. Ён ёй прынёс вялікую скрыню серабра і золата. Адзела дзевачка тулуп, села на скрыні, падкорчыла ножкі, ціханька песенькі спяваець. А баба дзеда пасылаець на трэці дзень:

— Ідзі, дзед, вязі сваю дачку хаваць.

Паехаў дзед па дачку. А сучачка пад сталом ляжыць ды:

— Цяў, цяў! Дзедаву дачку ў серабрэ, у золаце вязуць, а бабіну замуж не бяруць.

— Маўчы, дура! На бліна. Скажы: «Дзедаву дачку хаваць вязуць, а бабіну замуж бяруць».

Сучачка і блін з'ела і ўсё:

— Цяў, цяў! Дзедаву дачку ў серабрэ, у золаце вязуць, а бабіну замуж не бяруць.

Скрыпнулі вароты, адчыніліся дзверы. Ідзець падчарка ўся ў серабрэ, у золаце блішчыць. Мачыха глянула і рукамі ляснула.

— Ах, дзед, дзед! Запрагай жа ж скарэй тых коней ды вязі маю дачку на тое поле ды на тое места.

Павёз дзед бабіну дачку на тое места. Пасадзіў яе. Прыйшоў Мароз-Краснанос, прыйшоў, паглядзеў. Яна яго не прывітала, ён яе ўзяў і замарозіў. На другі дзень пасылаець баба дзеда па дачку па сваю. А сучачка апяць пад сталом ляжыць ды:

— Цяў, цяў! Дзедаву дачку замуж бяруць, а бабіну хаваць вязуць.

Баба сучачку пабіла.

— Маўчы! Скажы, што бабіну дачку ў серабрэ, у золаце вязуць, а дзедаву замуж не бяруць.

Скрыпнулі вароты, адчыніліся дзверы. Мачыха выскачыла і ўместа дачкі абняла халоднае цела».

## 46. Дзедава дачка і бабіна дачка ў хатцы на курынай ножцы

АА 480 *С. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44. Зап. Г. А. Барташэвіч і К. П. Кабашнікаў у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад Я. М. Альфер.

Бел. вар.: Шейн, II, с. 92—94, № 48, Мадэліна, Віцебскай губ.; Романов, III, с. 361—362, № 91, Быхаўскі п.; Kolberg, 1889, с. 203—204, № 3; Хрэстаматыя, с. 189—190, Івянецкі р-н; Анічэнка, с. 36—41, Мазырскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, Пастаўскі р-н (два тэксты, з іх адзін у кантамінацыі з сюжэтным тыпам 511); АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 31, сш. 6, л. 13—17. Руск. вар. — 16 (Пропп, с. 471; Балашов, № 29; Разумова, Сенькина, № 69). Укр. вар.: Kolberg, 1907, с. 415—416. Гэта разнавіднасць сюжэта 480 больш уласціва рускаму і беларускаму фальклору.

Пасля запісу гэтай казкі, вядомай тут у розных вар., адна з прысутных, П. В. Крывенька, прапанавала запісаць яе вар., які адрозніваецца асобнымі мастацкімі знаходкамі, больш дэталёвай распрацоўкай некаторых эпізодаў. Вось адзін з іх:

«Загадаў мядзведзь есці варыць, а сам пайшоў на печ лапці плесці. А яна есці варыла, а мышка ўжо падляціць і кажаць:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай мне кашкі.

Яна дасць ёй кашкі. А ён:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, з кім ты там гаворыш?

А яна:

— Ай, нічога. Вот тут-ка пырснула мне на руку горача, дык я ўжо і кажу, што бадай цябе да бога.

Дык ён узноў пляцець гэтыя лапці. Тады яна мяса вымаець. Ну, зноў падляцела мышка:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай мне хоць костачку аблізаць.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, з кім ты там гаворыш?

— Ай, во нічога, палец апаліла аб гарачую патальню, дык кажу: «Бадай цябе да бога».

А тады ўжо пазвала яго есці. Прыйшлі яны, павячэралі, і ён ужо загадаў ёй, каб пасцель сцяліла. Паслала яна пасцель і ёй дала ключыкі гэтыя, мышцэ, што мышка будзець за яе, значыць, сахраняць гэтую дзевачку.

Ўжо мышка званіла, па ўсіх куточках лётала, і дзеўка засталася жывая, а гэна ўжо другая дзеўка сама званіла, і вот ужо мядзведзь яе злоўчыў і ўбіў».

## 47. Дзедава дачка і бабіна

АА 480 *С. АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 84. Зап. Л. М. Салавей у 1974 г. у в. Хальнявічы Крупскага р-на ад Н. К. Красняковай.

Гл. каментарый 46.

## 48. Падчарка і чорт

АА 480 *Д. Шейн, Песни, с. 418—419, № 753. Зап. А. Ф. Лісоўская ў другой палавіне XIX ст. у Быхаўскім п.

Бел. вар.: Романов, III, с. 365—366, № 93, Сенненскі п.; с. 366—367, № 94, Сянно; Романов, IV, с. 87—88, № 49, Веліжскі п.; Klich, с. 154—156, № 1, Навагрудскі п.; Federowski, II, с. 222—223, № 211, Ваўкавыскі п.; с. 223—225, № 212, Слонімскі п.; Романов, Материалы, с. 370—371, № 14, Пружанскі п.; Сержпутоўскі, Казкі, с. 30—32, № 15, Слуцкі п.; Анічэнка, с. 173—175, Навагрудскі п.

Руск. вар.: АА, с. 37. Укр. вар.: Ск. Верховины. У міжнародных паказальніках адзначаны толькі руск. казкі гэтага тыпу.

## 49. Падчарыца і чорт

АА 480 *Д. Романов, IV, с. 87—88, № 49. Зап. Страмкоўская ў канцы XIX ст. у в. Вузкае Веліжскага п. ад Ірыны Андрэевай.

Вар. адзначаны ў каментарыі 48.

## 50. Чэрці і падчарка

АА 480 *Д. Романов, III, с. 365—366, № 93. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Кімейка Сенненскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 48. Вар. істотна адрозніваецца ад папярэдніх: калі звычайна падчарка прымушае чорта прыносіць ёй розныя рэчы (сукенку, чаравікі, шубу і інш.), то тут яна падрабязна, пакуль не зас-

пявалі пеўні, расказвае, як робіцца «бялёвы холст». Тым самым яшчэ раз падкрэсліваецца працавітасць, умельства, знаходлівасць сялянскай дзяўчыны.

## 51. Да чаго зайздрасць давяла

АА 480 *С (частк.)+480 *Д. Federowski, II, с. 223—225, № 212. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дукроў Слонімскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыях 46 і 48. У гэтым своеасаблівым спалучэнні сюжэтных тыпаў АА 480 *С і 480 *Д мядзведзь выконвае тую ж ролю, што і чорт, якога дзяўчына прымушала насіць ёй розныя рэчы, а каток з мышкаю выступаюць у ролі мудрых дарадчыкаў.

## 52. Мачыха і тры дачкі

АА 480 *Е. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 31, сш. 20, л. 1—10. Зап. М. В. Волах у 1952 г. у в. Саколы Мядзельскага р-на ад Л. К. Сідаровіч, 1900 г. нар.

Бел. вар.: Романов, III, с. 367—368, № 95, Гомельскі п.; Афанасьев, III, с. 316—317, № 558=«Маяк», 1844, т. XV, Смесь, с. 17—19 (пераказ бел. тэксту); Federowski, III, с. 166—168, № 143, Ваўкавыскі п.; Анічэнка, с. 176—180, Навагрудскі п. Руск. вар. — 28 (Пропп, с. 471). Укр. вар.: Рудченко, II, № 19, 20; Ястребов, № 19 а, б; Яворский, № 65; Левченко, № 559; Дідо-всевідо, с. 175—176.

## 53. Як дзедава дачка спамаглася, а бабіна з зайздрасці прапала

АА 480 *Е+480 *А. Federowski, II, с. 166—168, № 143. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Новікі Ваўкавыскага п. ад Зосі Седачыхі.

Вар. адзначаны ў каментарыях 52 і 42.

## 54. Пра дванаццаць месяцаў

АА 480 *В (прыбл.). АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 140—141. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р-на ад Е. К. Ляўчэні, 1902 г. нар.

Еўдакія Кандратаўна Ляўчэня вядома ў асноўным як казачніца. Ад яе запісаны дваццаць адзін казачны тэкст, некалькі валачобных песень і замоў. Казачны рэпертуар Е. К. Ляўчэні разнастайны. Побач з творамі, разлічанымі на дзіцячую аўдыторыю («Пра гусей» АА 327 С, «Пра дзедаву дачку і бабіну» АА 480 *В, АА 511), у ім шмат казак на бытавыя тэмы, навелістычных. Яна ведае і любіць расказваць некаторыя прытчы («Пра блудніцу Хвядору»), якія часта суправаджае каментарыямі. Расказванне казак для Е. К. Ляўчэні — традыцыйная справа. Яе бацька часта ездзіў па ваколіцах, сустракаўся са многімі людзьмі, з кожнай паездкі прывозіў нешта цікавае і любіў расказваць пра ўбачанае і пачутае асабліва ўражлівай дачцы. Еўдакія Кандратаўна ведае і некаторыя кніжныя творы,

якія атрымалі ў яе пераказе непазбежна трансфармацыю, напрыклад пушкінская казка «Пра рыбака і рыбку» (запісана як казка «Пра разбітае карыта»). Сярод запісаў, зробленых ад Е. К. Ляўчэні, ёсць творы гумарыстычнага характару («Як баба кабана карміла» АА 1960 *G I, «Як чалавек дурняў шукаў» АА 1450+1540 і інш.).

Тэкст прыблізна нагадвае сюжэтны тып 480 *B. Замест Мароза тут дзейнічаюць дванаццаць месяцаў (параўн. AT 294); падчарку не вязуць у лес, а пасылаюць у лютую сцюжу за ягадамі. Эпізод «ягады пад снегам» некалькі нагадвае сюжэтны тып 403 В.

### 55. Брат-баранчык

АА 450. Романов, III, с. 266—267, № 48. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у г. Сянно.

Бел. вар. сюжэта 450 «Брат і сястра»: Романов, III, с. 265—266, № 47 а, Гомельскі, п.; Federowski, II, c. 192—194, № 165, Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1887, c. 253, № 17, Навагрудскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 32, сш. 10, л. 3—7; ф. 8, воп. 2, № 44, Пастаўскі р-н (два тэксты). Руск. вар. — 18 (Пропп, с. 470; Кругляшова, с. 236—237, № 6; Королькова, с. 166—171; Балашов, № 155). Укр. вар. адзначаны ў каментарыях да казак Афанасьева, т. II, 1938, с. 631, а таксама: Калін, с. 138—141. Польск. — 8 (Krzyżanowski, I, c. 140—141).

Паходжанне і гісторыя сюжэта разглядаюцца ў кнізе: P. Arfert. Das Motiv von der unterschobenen Braut. Leipzig, 1897. Завязка дзеяння гэтага вар. — уцёкі дзяцей ад бацькі — нагадвае заходнеславянскія і заходнееўрапейскія казкі пра брата-баранчыка. У той жа час у плане ўсходнеславянскай казачнай традыцыі з паўторамі разгортваецца далейшае дзеянне. Своеасаблівa распрацаваны фінал казкі.

### 56. Басня пра бараньку

АА 450. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44. Зап. К. П. Кабашнікаў і Г. А. Барташэвіч у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад Я. М. Альфер.

Вар. адзначаны ў каментарыі 54. Тэкст маляўнічы, мае шмат устойлівых стылістычных формул, адны з якіх аднолькава ўласцівы творам усіх усходнеславянскіх народаў, а іншыя больш тыповыя для бел. і ўкр. казак («Іду-бягу па каменечку, па паленечку», «Раса вочкі выядаець, пясок ножкі засыпаець»).

Казка шырока бытуе ў Пастаўскім р-не і зараз, аб чым сведчаць і фальклорныя запісы, і апытанне выканаўцаў і слухачоў. У другім вар., запісаным там жа, звяртаюць увагу маляўнічае апісанне працы на калаўроце, партрэт дзяўчынкі, асобныя мастацкія знаходкі.

«Села Раінка кросны ткаць, а баранька цэўкі сукаць. І сукаець на калаўроце ён, стаіць, лапкамі гэтымі дзяржыць цэўку ў адной ножцы, а ў другой нітку гэту, а ножкай аднэй ужо задняй на калаўроце, і нітачка гэта ляціць на цэўку, і ўсё красіва. Едзець пан:

— Што такое? У гэтакай хатцэ і кросны ткуць?

Тады ён кажаць на свайго фурмана:

— Ляці, паглядзі, што тут.

Вяртаецца, глядзіць: дзеўка кросны тчэць пекная, а баран цэўкі сучыць.

Ляціць ён да свайго пана і кажаць:

— Панок, якая дзеўка красівая. Ну, такое дзіва: яна кросны тчэць, а баранька цэўкі сукаець.

Дык ён, пан, з воза і скарэй ужо да яе. Глядзіць, такая красівая, убраная, рубашачка беленькая ў кропачкі, валаскі зачасаныя, трошку кудравенькія, спрытная дзяўчына, адным словам. Ну, і тады ён кажаць:

— Я цябе вазьму замуж.

Дык яна:

— Не,— кажаць,— панок, як жа ж я, у мяне ж ёсць брацетка.

— А што ж я не віжу твайго брацеткі.

— А вот,— кажаць,— вот мой брацетка — баранька. Вот напіўся ў капытку ў бараннім і зрабіўся баранькам.

— Ну, нічога, я забяру і бараньку».

## 57. Аб хлопцу-зайчыку

АА 450. Federowski, II, с. 192—194, № 165. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Вяронічы Ваўкавыскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 54.

## 58. Снягурка

АА *703. Храстаматыя, с. 151—152, № 255. Зап. Т. Ф. Суяшковіч у 1952 г. у в. Дзевяткаўцы Ваўкавыскага р-на ад Е. І. Плікус, 1898 г. нар.

Бел. вар.: Захарава, с. 258—259; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 24, сш. 1, л. 16. Проп адзначае 10 руск. вар. (с. 476). Як сведчаць матэрыялы міжнародных паказальнікаў казачных сюжэтаў, гэты сюжэтны тып адзначаны толькі ў руск., бел., сербскім і латышскім фальклоры. З народнымі казкамі звязана «Снягурачка» А. М. Астроўскага.

## 59. Аб ведзьме-з'яждушцы да хлопцу, што перакінуўся ў голуба

АА 720. Federowski, II, с. 188—189, № 163. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Новікі каля Росі Ваўкавыскага п. ад Зосі Седачыхі.

Бел. вар. (пераказ на польск. мове): Gliński, II, № 22. Укр. вар.: Андр.; Гиряк, 1966, с. 188—189, № 47; 1972, с. 224—225, № 44. Польск.— 2 (Krzyżanowski, I, с. 223). Казкі гэтага сюжэтнага тыпу рэдка сустракаюцца ва ўсходнеславянскім фальклоры, але шырока распаўсюджаны на Захадзе, вядомы ў Турцыі, Індыі. Сюжэт адлюстраваны ў «Фаусце» Гётэ і апрацаваны В. А. Жукоўскім («Цюльпанавае дрэва»).

Казачніца З. Седачыха добра валодае багатым арсеналам традыцыйных выяўленчых сродкаў і з поспехам выкарыстоўвае іх. Надаючы мове сваіх герояў адметныя індывідуальныя рысы, яна, напрыклад, паказвае ведзьму шапялявай («Дзедку, дзедку, зарэж шваго шына»).

## 60. Пра бязручку

АА 706+707 (частк.). АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 157—160. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р-на ад Е. К. Ляўчэні, 1902 г. нар.

Бел. вар. сюжэта АА 706 «Бязручка»: Афанасьев, II, с. 371, № 281=Дмитриев, с. 168—169, Навагрудскі п.; Романов, III, с. 283—285, № 55, Сенненскі п.; с. 285—289, № 56(б), Гомельскі п.; с. 289—292, № 59, Рагачоўскі п.; Шейн, II, с. 65—66, № 32, Навагрудскі п.; Federowski, II, с. 112—119, № 78—79, Слонімскі п.; с. 119—121, № 80—81, Ваўкавыскі п.; Анічэнка, с. 156—158, Рэчыцкі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 43, Брэсцкі р-н. Руск. вар.— 39 (Пропп, с. 479; Никифоров, № 39; Королькова, с. 70—77; Балашов, № 47, 134; Разумова, Сенькина, № 63). Укр. вар. — 24 (Андр., Дідо-всевідо, с. 39—42; Гиряк, 1969, № 15). Польск. — 18 (Krzyżanowski, I, с. 218—219).

З сюжэтам 707 «Цудоўныя дзеці» звязаны эпізоды нараджэння дзіцяці «на лобі месячык, на патыліцы звёздачка», падмены царскага ліста. Кантамінацыя сюжэтаў АА 706 і 707 уласціва і іншым бел., руск., укр. казкам. Заключны эпізод казкі, у якім хлопчык расказвае цару «байку», таксама мае шматлікія паралелі ва ўсходнеславянскіх казках тыпу 706, у адпаведных творах польскага і балгарскага фальклору.

## 61. Бязрукая сястра

АА 706. Романов, III, с. 283—285, № 55 а. Зап. па ўказаннях Е. Р. Раманава В. Ф. Патаповіч у 80-х гадах XIX ст. у в. Нямойта Сенненскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 60. Гэты вар. асабліва блізка нагадвае руск. казкі пра бязрукую сястру (параўн.: Афанасьев, II, № 279, 280, 282), у аснове якіх ляжаць тыя ж сямейныя канфлікты. Збліжаецца казка з рускімі творамі і ў стылістычных адносінах: тут ужываюцца аднолькавыя формулы, параўнанні і інш.

## 62. Сястра-бязручка

АА 706. АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, № 69, л. 27—31. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у пас. Кулага (в. Іскань) Быхаўскага р-на ад Д. І. Гапеевай, ад якой яшчэ запісана значная колькасць фальклорных твораў розных жанраў.

Вар. адзначаны ў каментарыі 60. Вар. Д. І. Гапеевай вылучаецца асобнымі мастацкімі дэталямі, якія адсутнічаюць у папярэдніх творах, але з'яўляюцца традыцыйнымі для усходнеславянскіх казак гэтага тыпу.

Кароткая характарыстыка творчай манеры выканаўцы зроблена Г. А. Барташэвіч. Вось што яна піша: «Д. І. Гапеева надзвычай ветлівы і душэўны чалавек, чулая да чужога гора. Самой ёй давялося шмат перажыць у жыцці, зазнаць страты і вялікае гора, але яна здолела захаваць душэўную яснасць і ніколі не скардзіцца на свой лёс.

Казкі расказвае яна нетаропка, спакойна, не прапускае ні адной дэталі, паўтарае па неабходнасці асобныя эпізоды цалкам. Адчуваецца, што гэта добра вядомыя ёй творы, якія даводзіцца расказваць часта. Казкі ведае яна яшчэ «дзедаўскія». Яе дзед быў прызнаным казачнікам, ад яго Дар'я Іванаўна яшчэ ў дзяцінстве пераняла многія творы.

«Каляды як прыдуць,— успамінае Дар'я Іванаўна,— ужо ўвечары людзі не работаюць, бабы не прадуць. Ну от і сабіраюцца гуляць, а дзед тады казкі казаць. У двор сабяруцца к нам гуляць людзі: бабы, мужчыны, ну і дзеці сабіраліся. Ну, я падыду:

— Дзедзька, дарагі, раскажы казачку.

— Ну, слухайце, буду казаць.

Начне казаць: «Была ў цара дачка...»

Пытаюся ў бабкі, каму яна сама казкі расказвае.

«Казкі дзецям расказвала. Во к суседу пайду, а яны пасабіраюцца ды:

— Бабачка, ну раскажы ты хоць якую казачку. Ета ўжо красіва, красіва, як ты кажаш.

Ой, дужа за казкамі гоняцца. Ну і раскажу ім».

Ад Дар'і Іванаўны запісана восем казак. Ведала яна іх значна болей, але некаторыя выпалі з рэпертуару, тыя, якія радзей расказваліся. Дзіцячая аўдыторыя перадумовіла захаванне ў яе рэпертуары пэўных груп казак, сюжэтаў. На самых маленькіх слухачоў разлічана казка «Лісіца і дрозд». З фантастычных казак ведае яна і па-майстэрску расказвае казку пра Іваньку-дурачка, які сваёй добрасумленнай працай дасягае таго, чаго не змаглі яго разумныя браты; казку пра сястру-бязручку. Запісаны ад яе таксама няпоўны варыянт багатырскай казкі «Іван Іваневіч рускі царэвіч, Віхраў сын», казка «Пра беднага і багатага брата». З бытавых казак — «Шут Грышка», «Пра няверную жонку», «Варажэй». Песенькі ў казках абавязкова спяваюцца і дакладна паўтараюцца, колькі гэта патрабуецца тэкстам. Для Д. І. Гапеевай расказванне казкі — не механічнае паўтарэнне добра знаёмага, а кожны раз творчае ўзнаўленне твора ў асобах, з найбагацейшымі адценнямі інтанацый. У яе казках мы знаходзім цікавыя дэталі, арыгінальныя асабовыя імёны, некаторыя з іх часткова рыфмаваныя. Вядомая ўсім хатка, якую герой знаходзіць у лесе — «хатка на курынай ножцы, на сабачай галёнцы» («Казка пра беднага і багатага брата»); манюка-жонка з казкі «Пра няверную жонку» просіць мужа адрэзаць ёй кавалак хлеба: «Толькі не тані, ды кругом наводня абгані»; варажэй адгадвае ў руцэ пана не жука, а муху, прымаўляючы пры гэтым імя жонкі Млуха; асілак Віхраў сын з аднайменнай казкі носіць імя Іван Іваневіч (рыфмуецца з «рускі царэвіч») і г. д.

Пасля кожнай казкі Дар'я Іванаўна любіць яшчэ раз паўтарыць нейкі эпізод, даць свой каментарый да паводзін героя, выказаць свае адносіны».

## 63. Гвідон Саміхлёнавіч

АА 707. Романов, VI, с. 150—163, № 17. Зап. настаўнік народнага вучылішча І. Бараноўскі пад кіраўніцтвам Е. Р. Раманава ў 80-х гадах XIX ст. у в. Валатоўка Гарадоцкага п. ад мясцовага селяніна.

Вядомы дзве разнавіднасці сюжэта 707 «Цудоўныя дзеці» (Цар Салтан). Першая — «па калені ногі ў золаце»... — уласціва пераважна ўсходнеславянскаму фальклору. Другая — «пра дрэва, што спявае, і птушку, што гаворыць». «Гвідон Саміхлёнавіч» адносіцца да першай разнавіднасці, як і наступныя бел. тэксты: Дмитриев, с. 170—172, Навагрудскі п. = Афанасьев, II, с. 386—388, № 287; Романов, III, с. 295—298, № 61, Гомельскі п.; с. 298—301, № 62, Сенненскі п.; Романов, VI, с. 163—169, № 17 а, Гарадоцкі п.; с. 169—178, № 17 б, Гомельскі п.; с. 178—188, № 18, Мсціслаўскі п.; с. 188—189, № 19, Чэрыкаўскі п.; с. 199—201, № 21, Мсціслаўскі п.; с. 202—204, № 22, Віцебскі п.; Weryha, с. 31—34, № 7; с. 42—45, № 10, Лідскі п.; Federowski, II, с. 121—122, № 82, Ваўкавыскі п.; с. 174—176, № 150, Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1887, с. 256—257, № 18, Лідскі п.; Klich, с. 104—107, № 1, Навагрудскі п.; Gliński, II,

№ 2, Навагрудскі п.; Господарев, с. 255—263, № 14; Анічэнка, с. 127—133, Рэчыцкі п., с. 169—171, Навагрудскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 43, Брэсцкі і Ляхавіцкі р-ны (два тэксты); ф. 8, воп. 2, № 44, Пастаўскі р-н. Бел. вар. другой разнавіднасці: Federowski, II, с. 57—58, № 49, Ваўкавыскі п.; с. 329—331, № 389, Ваўкавыскі п.; Захарава, с. 262—264, Ляхавіцкі р-н.

Руск. вар. АА 707 (дзве разнавіднасці) — каля 60 (Пропп, с. 479; Никифоров, № 126; Балашов, № 46, 145; Разумова, Сенькина, № 11; Шастина, № 11). Укр. вар.— 12 (Андр.; Гиряк, 1972, № 2; Казки Буковини, 1973, с. 122—126). Польск.— 14 (Krzyżanowski, I, с. 218—219). Усходнеславянскія казкі гэтага сюжэтнага тыпу вылучаюцца разгорнутымі апісаннямі цудоўных дзяцей, розных заморскіх цудаў. У іх часта сустракаецца эпізод частавання братоў праснакамі, прыгатаванымі на матчыным малацэ. Выразныя і маляўнічыя імёны герояў у казцы. Гвідон Саміхлёнавіч нагадвае Гвідона Салтанавіча з казкі Пушкіна «Казка пра цара Салтана»; іншыя імёны ў большай ці меншай ступені звязаны з лубачнай літаратурай; этымалогію імя змея Шкарлупін, Шкарлыхаюшчы (у іншых вар. казак і замовах Шкурупей) некаторыя даследчыкі звязваюць са словам «скарпіён».

## 64. Дуб Дарахвей

АА 707. Романов, VI, с. 163—169, № 17 а. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у Віраўлянскай вол. Гарадоцкага п.

Гл. каментарый 63. Пачатак гэтай казкі найбольш характэрны для твораў сюжэтнага тыпу АА 480, але і тут ён арганічна ўваходзіць у мастацкую тканіну твора, надаючы яму своеасаблівую эмацыянальную афарбоўку і адметнасць. Апісанне гора трох сясцёр, ад слёз якіх разліты рэкі, характэрна і для іншых казак АА 707. Гэты матыў мае паралелі ў творчасці іншых народаў, у прыватнасці ў мангольскім эпасе «Гэсэр»: цар бачыць новую раку, ідзе ўверх па цячэнню і знаходзіць у лесе трох дзяўчын, якія горка плачуць. У той жа час некаторыя матывы, стылістычныя сродкі і вобразы, замалёўкі, у тым ліку і малюнак ката на дубе (параўн. пралог да паэмы Пушкіна «Руслан і Людміла»), найбольш характэрныя для ўсходнеславянскага фальклору.

## 65. Іван Іванавіч — царэвіч

АА 707. Романов, VI. с. 178—188, № 18. Зап. К. Ц. Анікіевіч у прысутнасці Е. Р. Раманава ў 80-х гадах XIX ст. у в. Стараселле Мсціслаўскага п. ад селяніна Лаўрэна Арцёмава, 58 г., непісьменнага.

Гл. каментарый 63. У параўнанні з папярэднімі тэкстамі гэта казка вылучаецца асобнымі эпізодамі і дзеючымі асобамі. У прыватнасці, тут цікавы эпізод выпрабавання булавы, характэрны для казак АА 300 і 301, бойка з бабай Ягой і інш. Трэба адзначыць, што і ў іншых вар. амаль заўсёды знаходзяцца новыя эпізоды, вобразы і г. д. Так, казка «Дванаццаць сыноў-сакалоў», запісаная У. Вярыгай у 1884 г. у Лідскім п. (Weryha, с. 42—45, № 10) і блізкая да папярэдніх вар., адрозніваецца ад іх такімі эпізодамі: у лісце купцу сёстры пішуць, што яго жонка нарадзіла дванаццаць жарабцоў белагрывых; па загаду купца жонку разам з сынамі засмалілі ў бочцы і кінулі ў мора.

## 66. Цудоўныя хлопчыкі

АА 707. Дмитриев, с. 170—172=Афанасьев, II, № 287. Зап. М. Дзмітрыеў у сярэдзіне XIX ст. у Навагрудскім п. Гэты ж запіс Дзмітрыева быў дасланы П. Шэйну, як зроблены вучнем Свіслацкай настаўніцкай семінарыі С. Балашам у Свянцянскім п. і надрукаваны ў «Матэрыялах», II, № 25.

Вар. адзначаны ў каментарыі 63. Казка істотна адрозніваецца ад папярэдніх. Цудоўных дзяцей па падмененаму царскаму лісту пахавалі, на могілках выраслі явары, з явараў зрабілі ложак, ложак спалілі і г. д., нарэшце, царыца зноў нараджае двух такіх жа сыноў. Падобныя эпізоды чарадзейных пераўвасабленняў сустракаюцца яшчэ ў некаторых вар. бел. і ўкр. казак, а таксама ў заходнеславянскіх казках тыпу 707. Эпізод, у якім цудоўныя хлопчыкі расказваюць цару пра прыгоды сваёй маці і свае прыгоды, даволі часта сустракаецца ва ўсходнеславянскіх казках тыпаў 706 і 707.

## 67. Тры дачкі

АА 707. АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 84. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1974 г. у в. Смародзінка Крупскага р-на ад Х. С. Кавалёвай.

Гл. каментарыі 63 і 66. Своеасаблівая ўступная частка гэтай казкі: старэйшыя дочкі абяцаюць таму, хто іх возьме замуж, добрае жыта, добрую пшаніцу. Незвычайны для казак гэтага тыпу эпізод у хатцы на курынай ножцы: бабка пячэ вялізны пірог, які ледзь дасталі з печкі. У той жа час у тэксце адсутнічаюць некаторыя тыповыя для гэтага сюжэту малюнкі, вядомыя па папярэдніх творах. Эпізод лічэння або перакладвання хлопчыкамі арэхаў у час расказвання казкі сустракаецца і ў іншых вар. Ён, відаць, мае сувязь з калядным звычаем гуляць у арэшкі, лічыць іх, гадаць.

## 68. Два ў кораб арэшкі

АА 707. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад У. С. Рамбальскай, 1906 г. нар., ад якой запісана яшчэ некалькі чарадзейных казак і казак пра жывёл (гл. «Чарадзейныя казкі», ч. I, «Басня пра чарта», № 27).

Гл. каментарыі 63 і 66. Незвычайным для падобных казак з'яўляецца вобраз царскай жонкі — жабрачкі. Гэты запіс, зроблены, як і ўсе астатнія запісы фалькларных экспедыцый ІМЭФ АН БССР на магнітафонную стужку, дазваляе перадаць асаблівасці жывой гутарковай мовы і манеру выканання. Цікавы адказ У. С. Рамбальскай на пытанне, ці расказвае гэту казку яшчэ хто-небудзь з яе аднавяскоўцаў: «Не, ніхто. Гэтых там пра лісіцу, пра ваўка — гэтых поўна ёсць. А гэтых не. Гэта даўнейшая, даўнішняя басня яшчэ».

## 69. Баранчыкі-панічыкі

АА 707. Federowski, II, с. 121—122, № 82. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кукелкі Ваўкавыскага п.

Гл. каментарыі 63, 66 і 67. Асобныя эпізоды казкі (на магіле забітых хлопчыкаў вырастае кветка; хлопчыкі апавядаюць, як іх забіла і закапала цётка) нагадваюць сюжэт 780 «Чарадзейная дудка».

## 70. [Зачараваная дзяўчына]

АА 709+706. Federowski, II, с. 112—117, № 78. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Студзераўшчына Слонімскага п. ад Р. Дзердзікавай.

Бел. вар. сюжэта 709 «Мёртвая царэўна»: Афанасьев, II, с. 123—126, № 210, Навагрудскі п.; Federowski, I, № 7. Руск. вар. — 19 (Пропп, с. 479; Шастина, № 21). Укр. вар. — 17; польск. — 10.

Вар. сюжэта 706 адзначаны ў каментарыі 59. Сюжэт «Мёртвая царэўна» адлюстраваны ў шматлікіх фальклорных і літаратурных зборніках ад «Тысяча і адной ночы» да братоў Грым і Афанасьева, у творчасці Шэкспіра, Пушкіна. Кантамінацыя АА 709 і 706 — распаўсюджаная з'ява ў фальклоры розных народаў. У гэтым вар. незвычайная роля бацькі, які з дапамогай ведзьмы-кабальніцы імкнецца страціць сваю дачку.

## 71. Рыбак умесці з царам асвабаждаюць сына Пятра I

АА 331. Добровольский, I, с. 388—393, № 29. Зап. У. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у Смаленскай губ.

Гэта адзіная ва ўсходнеславянскім матэрыяле казка тыпу АА 331 «Дух у бутэльцы» вельмі нагадвае «Казку пра рыбака» з «Тысяча і адной ночы» (ночы 3 і 9), але прыцягвае ўвагу той факт, што галоўным персанажам тут выступае гістарычная асоба — сын Пятра I. Падобная знешняя гістарычная афарбоўка, а таксама незвычайнае далейшае развіццё сюжэта (адрабленне заклятага горада) падкрэсліваюць сувязь твора з пэўнымі нацыянальнымі традыцыямі.

## 72. Бядняк і мертвяцы

АА 676. Романов, III, с. 312—317, № 66. Зап. селянін Ц. Сінкевіч з в. Сінцы Сенненскага п. у другой палавіне XIX ст. у г. Сянно.

Бел. вар. сюжэта «Два браты і сорак разбойнікаў»: Federowski, III, с. 43, № 91, Ваўкавыскі п. (распрацавана толькі другая частка сюжэта); АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 24, сш. 6, л. 7—10, Валожынскі р-н. У заўвагах да гэтай казкі Е. Раманаў гаворыць ящчэ аб адным вар., дзе ёсць словы: «Сафін, адчыніся!» Проп адзначае 8 руск. вар. (с. 478); укр. вар.— каля 10, польск. — 3.

Сюжэт шырока распаўсюджаны ў фальклоры народаў Усходу (гл. М. А. Салье. Халиф на час. Новые сказки из книги «Тысячи и одной ночи». М., 1961, с. 267—319). Гэты тэкст вызначаецца паўнатой распрацоўкі сюжэта і яскравым бытавым усходнеславянскім каларытам.

## 73. Сузама

АА 676. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 24, сш. 6, л. 7—10. Зап. Г. І. Яблонская ў в. Пенькаўшчына Валожынскага р-на ад І. А. Яблонскага, 1914 г. нар.

Вар. адзначаны ў каментарыі 72.

### 74. Аб разбойніку, што павенкі краў

АА 311. Federowski, II, с. 39—42, № 40. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны каля Свіслачы Ваўкавыскага п. ад Крэўчыкавай.

Бел. вар. сюжэта «Мядзведзь (воўк, варажбіт) і тры сястры»: Klich, с. 83, № 2, Навагрудскі п. (прыбл.); с. 134—136, № 1, Навагрудскі п.; Karłowicz, 1887, с. 233. Руск. вар.—6 (АА); польск.—13 (Krzyżanowski, I, с. 93—94).

### 75. Аб Іване Бяшчасным

АА 677+910 В. Добровольский, I, с. 533—540, № 21. Зап. У. М. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у Смаленскай губ.

Бел. вар. сюжэта АА 677 «У падводным царстве»: Добровольский, I, с. 540—547, № 22, Бельскі п. Руск. вар.: А. Смирнов. Сборник великорусских сказок архива РГО. Пг., 1917, № 280; Королькова, с. 220—232.

Бел. вар. АА 910 В «Тры словы»: Добровольский, I, с. 540—547, № 22, Бельскі п.; Господарев, с. 433—438, № 40. Руск. вар. — 25 (Пропп, с. 283; Никифоров, № 40; Королькова, с. 279—285; Балашов, № 150; Разумова, Сенькина, № 51; Бараг, 1975, № 7). Укр. вар.: Kolberg, 1888, № 44; Драгоманов, № 12; ЕЗ, III, № 15, 16; XIV, № 57; XXX, № 128; Яворский, № 67 а, б; Ск. Верховины, с. 83—87.

### 76. Агонь у сэрцы, а розум у галаве

АА 460 В. Сержпутоўскі, Казкі, с. 94—97, № 41. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Чудзін Слуцкага п. ад М. Бохмачыхі.

Бел. вар. сюжэта АА 460 В «Падарожжа да лёсу (шчасця, сонца)»: Романов, III, с. 232—238, № 38, Сенненскі п.; Романов, VI, с. 276—286, № 30, Чавускі п.; с. 286—297, № 31, Аршанскі п.; с. 297—311, № 32, Чэрыкаўскі п.; Federowski, II, с. 290—295, № 326, Ваўкавыскі п. Руск. вар.— 4 (Пропп, с. 470; Балашов, № 45); укр. вар.: ЕЗ, I, № 1, 21; Казки Буковини, с. 132—136.

Гэта казка — арыгінальны прыклад самастойнай распрацоўкі сюжэта 460 В у бел. фальклоры. Звычайна сюжэт кантамінуецца з іншымі, або нават з'яўляецца эпізодам у казках АА 461, 465, 531.

### 77. Знайда Дуброўскі

АА 460 В (частк.)+461 (частк.)+531. Federowski, II, с. 290—295, № 326. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага п. ад. М. Гарбачыхі.

Як адзначалася ў каментарыі 76, сюжэт 460 В кантамінуецца з АА 531 і 461. У творы адчуваецца рэлігійны ўплыў, але ў той жа час трактоўка вобраза бога істотна разыходзіцца з рэлігійным вучэннем аб яго святасці і ўсемагутнасці: бог, як старэнькі дзядок, або баба Яга ці іншы казачны персанаж, дае Знайдзе чарадзейныя прадметы, добрыя парады, пры дапамозе якіх Знайда выконвае ўсе даручэнні. Па сутнасці, вобраз бога тут замяшчае вобразы гэтых казачных герояў.

## 78. Залатое пяро

АА 531+460 В. Романов, III, с. 232—238, № 38. Зап. па ўказаннях Е. Р. Раманава К. Ц. Анікіевіч у 80-х гадах XIX ст. у в. Андрэйчыкі Сенненскага п. ад селяніна Ануфрыя, 64 г.

Надрукаваўшы асноўны тэкст, Е. Р. Раманаў адзначае асаблівасці вар., які бытаваў у Гомельскім п.:

«Браты паступілі на службу да цара. Разумныя зайздросцілі дурню, нагаварылі на яго, і цар пасылае дурня да ведзьмы за залатымі яблыкамі, за залатымі скрынкамі і потым — «дазнацца, чаго тры дні сонца не ўсходзіла?» Выконваючы апошняе даручэнне, Іванюшка спаткаў на дарозе «рыбіну ўпоперак ракі», якая праглынула сем караблёў з людзьмі, чалавека, што пераліваў ваду з шклянкі ў шклянку за тое, што ў «шынкарстве» даліваў ваду ў віно, і, нарэшце, «неправедную суддзю», якога чэрві «стачылі». Даведаўшыся ад бога, што сонца не ўзыходзіла тры дні таму, што марская дзеўка хацела яго злавіць, Іванюшка павінен быў даставіць потым і марскую дзеўку. Канец казкі падобны да прыведзенай вышэй».

## 79. З таго свету навіны

АА 460 А, В (прыбл.). Романов, IV, с. 24—26, № 21. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. ва Ульянаўскай вол. Сенненскага п. ад селяніна Афанасія Стэльмахава.

Тэкст адрозніваецца ад твораў тыпу 460 пра падарожжа да бога ці лёсу сваім пачаткам. Эпізод падарожжа на той свет, калі замест аднаго дня Іванушка там быў цэлы год, некалькі нагадвае казкі тыпу 471*. Легендарны сюжэт падарожжа на той свет напоўнены тут глыбокім жыццёвым зместам: твор асуджае чэрствасць, абыякавасць да чужой бяды, прагнасць, нядбайнасць.

## 80. Дзікі Бурма

АА 461 (частк.)+*485 А. Романов, III, с. 205—211, № 28. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Ціманава Клімавіцкага п. ад селяніна Антона, непісьменнага.

Бел. вар. сюжэта АА 461 «Марка Багаты»: Романов, III, с. 198—205, № 27, Быхаўскі п.; с. 336—337, № 81, Рагачоўскі п.; с. 338—340, № 83, Сенненскі п.; Добровольский, I, с. 293—295, № 2; Federowski, II, с. 289—290, № 325, Ваўкавыскі п. (частк.); с. 290—295, № 326, Ваўкавыскі п.; с. 312—313, № 344, Сакольскі п.; с. 313—314, № 345, Слонімскі п.; с. 314, № 346, Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1888, № 75; Klich, с. 17—18, № 11; с. 110—111, № 7, с. 128—129, № 1, Навагрудскі п.; Чубинский, II, с. 341—344, № 88, Кобрынскі п.; Barag, с. 305—315, № 32; Господарев, № 16; Анічэнка, с. 106—110, Рэчыцкі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 43, Камянецкі р-н.; ф. 8, воп. 74, № 91, Бярэзінскі р-н. Руск. вар.— 17 (Пропп, с. 470; Никифоров, № 81, 94; Разумова, Сенькина, № 10). Укр. вар.— 13 (Андр.; Ск. Верховины, с. 272—277; Дідо-всевідо, с. 54—58). Польск.— 18 (Krzyżanowski, I, с. 143—145).

Гэты вар. — адзін з найбольш поўных і добра распрацаваных, хоць у той жа час тут даволі прыкметны рэлігійны ўплыў, што можна растлума-

чыць як асаблівасцямі светапогляду казачніка, так і асаблівасцямі сюжэта. Але як і ў некаторых іншых творах, вобразы маткі боскай і бога тут больш нагадваюць традыцыйных казачных герояў (бабу Ягу, Кашчэя Бессмяротнага), чым персанажаў біблейскіх легенд.

## 81. Марка Багаты

АА *751 II+461. Klich, c. 16—18, № 11. Зап. Э. Кліх у 1901 г. у Навагрудскім п.

Вар. сюжэта 461 адзначаны ў каментарыі 80. Бел. вар. сюжэта *751 II «Бог у гасцях», які ў гэтым творы, як і ў некаторых іншых усходнеславянскіх казках, з'яўляецца ўступным эпізодам: Чубинский, II, с. 341—344, № 88, Кобрынскі п.; Романов, III, с. 337—338, № 82, Сянно; с. 338—340, № 83, Лукомль, Сенненскі п.; Романов, IV, с. 18—19, № 14, Горацкі п.; с. 191—195, № 49, Клімавіцкі п.; с. 214—215, № 58, Чэрыкаўскі п.; Klich, с. 110—111, № 1, Навагрудскі п.; Сержпутовский, с. 38—39, № 16, Мазырскі п. Руск. вар. — 5 (АА, с. 52).

## 82. Пра Марку Багатага

АА 461. АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91. Зап. К. П. Кабашнікаў і Г. А. Барташэвіч у 1974 г. у в. Старыя Прыборкі Бярэзінскага р-на ад П. А. Акулевіча, 1896 г. нар., ад якога было запісана яшчэ звыш дзесяці казак. Акулевіч таксама вядомы сярод аднавяскоўцаў як выканаўца вершаваных гумарыстычных твораў аб жыцці сваёй вёскі.

Вар., запісаны ад П. А. Акулевіча, у параўнанні з запісамі мінулага стагоддзя захоўвае паўнату і цэласнасць мастацкай формы і ў той жа час пазбаўлены рэлігійнага ўплыву, які адчуваецца ў некаторых легендарных казках, запісаных у XIX ст. Больш істотныя змены адбыліся ў другім тэксце, запісаным Л. Карнак і К. Красавіцкай у 1967 г. у Камянецкім р-не (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 43). Тут адсутнічае эпізод цудоўнага падарожжа і некаторыя іншыя мастацкія дэталі. Вось гэты тэкст:

«Жыў-быў Марка. І быў ён багаты на ўвесь свет. З усяго света прыходзілі да яго ў госці. Але хацеў Марка, каб прыйшоў да яго ў госці сам бог. І вось аднойчы яму прыснілася, што такога дня прыйдзе да яго бог у госці. Вось надышоў назначаны дзень. Услаў Марка ўсе дарогі шоўкам. А бога няма. Раптам прыходзіць якісьці дзядок. Пачаў думаць Марка, куды яго памясціць. А была ў Марка хворая дачка. Ляжала яна ў асобным пакоі, і наглядвала за ёй служанка. Вось і палажылі яны дзядка да хворага дзіцяці.

Ноччу прылятае да бога анёл і гаворыць:

— Нарадзілася гэтай ноччу трое дзяцей: у багатага яўрэя, у багатага купца і ў беднага чалавека. Які лёс ім даць?

А бог адказвае:

— Беднаму — Маркава багацце будзе.

Пачула гэта служанка, пабегла і расказала ўсё Марку. І паехаў Марка шукаць беднае дзіця. Доўга ездзіў ён і, нарэшце, знайшоў. І просіць ён прадаць яму гэтае дзіцятка на выхаванне. А ў беднага было яшчэ сем дзяцей, таму і прадаў ён Марку гэтага. Ад'ехаўся Марка нямнога і кінуў у снег дзіця, думаючы, што памрэ яно там, а сам далей паехаў.

А каля гэтага месца ехалі купцы, убачылі яны хлопчыка, падабралі яго і сталі гадаваць. Пачуў пра гэта Марка і зноў паехаў купляць. Купцы — народ вядомы. Прадалі яны дзіця. Прывёз яго Марка ў свой дом і пачаў яго гадаваць. Падрос хлопчык, а Марка ўсадзіў яго ў бочку і пусціў на мора. Убачылі бочку царскія дочкі і ўзялі хлопчыка да сябе.

Пачуў пра тое Марка, паехаў і забраў яго. Гадуе ён хлопчыка, а сам думае, як яго са свету зжыць. Вырас маладзец. А хворая дачка пасля таго, як знік дзядок, выздаравела. Прыгажуня была.

І была ў Марка смалярня. Аднойчы Марка сказаў малайцу:

— Я ад'язджаю. Вось табе папера. Занясі гэтую паперу ў смалярню.

А маладзец чытаць-то не ўмеў. А каб умеў, то прачытаў бы: «Хто першым прыйдзе ў смалярню, то таго ўкінуць у смалу». Доўга ішоў маладзец. Заснуў ён у дарозе і праспаў тры дні. Прыляцеў анёл, ўзяў ліст і напісаў у ім, каб малайца абвянчалі з дачкою Марка.

А Марка тым часам радаваўся. Паехаў ён у смалярню паглядзець, што зрабілася з малайцом. Ён-то і быў першым. Маладзец яшчэ спаў. Схапілі Марка і кінулі ў смалу. Там яму і канец прыйшоў.

Прачытала жонка Марка паперу, у якой почыркам Марка было напісана, каб павянчалі малайца з іх дачкою. І іх абвянчалі.

Так беднаму малайцу і дасталося Маркава багацце. На гэтым і казцы канец».

### 83. Проварна Ярыжка

АА *485 А=АТ 485. Романов, III, с. 212—214, № 30. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Гарадзішча Быхаўскага п. ад селяніна Якава Сампсонава, 61 г., непісьменнага.

Сюжэт АА *485 А «Барма-ярыжка» («Вавілонскае царства») арганічна ўключае ў сябе сюжэт АА 1137 «Асляплены аднавокі волат», які ў некаторых творах распрацоўваецца самастойна.

Бел. вар. сюжэта АА *485 А: Романов, III, с. 205—211, № 28, Клімавіцкі п.; Добровольский, I, с. 150—152, № 86, Бельскі п. Руск. вар. — 14 (АА, с. 37; Никифоров, № 40; Разумова, Сенькина, № 49). Казкі гэтага сюжэтнага тыпу, адзначаныя толькі ў руск. і бел. фальклоры, нагадваюць старажытнарускае «Сказание о Вавилонском царстве» (XV ст.).

Бел. вар. сюжэта АА 1137: Романов, III, с. 211, № 29, Сенненскі п.; с. 224—226, № 35, Сенненскі п.; Шейн, II, с. 151—154, № 71, Ігуменскі п.; Federowski, I, с. 136—137, № 354, Ваўкавыскі п. Руск. вар.: Пропп, с. 488; Никифоров, № 75, 92, 127. Укр. вар.: Гринченко, I, № 2, 4; ЕЗ, IV, с. 31—42; XIV, с. 186—189; Яворский, с. 150—152; Ск. Верховины, с. 207—210.

### 84. Каваль і Аднавокае Гора

АА 1137. Шейн, II, с. 151—154, № 71. Зап. А. Ральцэвіч у другой палавіне XIX ст. у в. Мікулічы Ігуменскага п.

Гл. каментарый 83. Вар. гэтага сюжэтнага тыпу, якія апавядаюць эб прыгодах каваля, што бяды шукаў, сустракаюцца ў фальклоры ўсходніх, заходніх і паўднёвых славян, але не выяўлены ў заходнееўрапейскім і ўсходнім фальклоры.

### 85. Каваль бяды іскаў

АА 1137. Романов, III, с. 211, № 29. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Машчоны Сенненскага п. ад селяніна Кандрата Хіжанкова.

Гл. каментарый 83.

### 86. Ліха

АА 1137. Federowski, I, с. 136—137, № 354. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Новікі каля Росі Ваўкавыскага п. ад Зосі Седачыхі.

Гл. каментарыі 83, 84.

### 87. Аб Гандзі

АА 710. Federowski, II, с. 301—303, № 334. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Ганевічы каля Поразава Ваўкавыскага п. ад Ю. Гусакоўны.

Бел. вар.: Karłowicz, 1888, с. 45—48, № 78. Руск. вар. — 2 (АА, с. 50), укр. — 6. У еўрапейскіх краінах сюжэт вядомы ў двух версіях. У раманскіх краінах галоўнай дзеючай асобай з'яўляецца злая жанчына, а не боская маці, як у гэтым тэксце, які адносіцца да другой, больш позняй версіі. Такая замена галоўнага персанажа прыводзіць часам да распрацоўкі сюжэта ў плане легенды, але сутнасць гэтага вобраза істотна не змяняецца. Казка «Аб Гандзі» малюе матку боскую жорсткай, злой, помслівай, вераломнай: яна «мэнчыць» дзяўчыну, скідае яе з неба, мажа гандзіны губы крывёю, каб яе абвінаваціць ў дзетазагубстве, паліць полымем. Дарэчы, большасць гэтых эпізодаў уласціва ўсходнеславянскім казкам розных сюжэтных тыпаў, яны шырока выкарыстоўваюцца для стварэння рэзка адмоўных вобразаў. У тэксце зроблены нязначныя скарачэнні.

### 88. Мікіта-дурак

АА 725. Романов, VI, с. 440—447, № 49. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Маркавічы Гомельскага п. ад селяніна Піліпа Іванавіча Лапекі.

Бел. вар. сюжэта 725 «Нераскazaны сон»: Романов, III, с. 142—154, № 18—19, Рагачоўскі п.; Federowski, I, с. 124—126, № 343, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, с. 147—150, № 123, Ваўкавыскі п.; Weryha, с. 48—51, № 12, Лідскі п.; Karłowicz, 1887, с. 268—272, № 27.

Руск. вар. — 16 (Пропп, с. 480; Балашов, № 54, 147; Разумова, Сенькина, № 27). Укр. вар.: Bar̨acz, с. 209; Левченко, № 501; ЕЗ, IV, № 24; XXV, № 15; XXIX, № 11; Ск. Верховины, с. 330—336; Дідо-всевідо, с. 126—132. Польск.— 2 (Krzyżanowski, I, с. 221).

### 89. Слуга стаў каралём

АА 725+518+519 (частк.). Weryha, с. 48—51, № 12. Зап. У. Вярыга ў 1884 г. у Лідскім п.

Вар. сюжэта 725 адзначаны ў каментарыі 88, вар. сюжэтаў 518 і 519 гл. у першай частцы тома «Чарадзейныя казкі», с. 641 і 635. Казка вылучаецца складанай кантамінацыяй.

### 90. Аб кралевічу-чараўніку

АА 325+725. Federowski, II, с. 147—150, № 123. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кусінцы Ваўкавыскага п. ад І. Мацвейчыка.

Бел. вар. сюжэта АА 325 «Хітрая навука»: Добровольский, I, с. 615—619, № 34, Смаленская губ.; Шейн, II, с. 57—59, № 26, Гродзенскі п.; с. 59—60, № 27, Мінск; Federowski, I, с. 91—93, № 280, Ваўкавыскі п.; с. 95—96, № 286, Ваўкавыскі п. (частк.); Federowski, II, с. 145—150, № 122—123, Ваўкавыскі п.; Сержпутоўскі, Казкі, с. 13—16, № 8, Слуцкі п.; Karłowicz, 1887, с. 241—243, № 9; Господарев, с. 337—341, № 20. Руск. вар. — 20 (Пропп, с. 466—467; Никифоров, № 20, 86, 100; Разумова, Сенькина, № 7; Шастина, № 10; Шастина, 1975, № 7). Укр. вар. — 13 (Андр.; Дідо-всевідо, с. 142—148; Гиряк, 1972, с. 142—148). Эпізод навучання чараўніцтву агнём мае паралелі ў бел., укр. і польск. казках, але не адзначаны ў рускіх.

### 91. Хітрая навука

АА 325. Шейн, II, с. 57—59, № 26. Зап. І. Карскі ў другой палавіне XIX ст. у в. Лаша Гродзенскага п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 90.

### 92. Аб хлопцу, што ў ведзьмара вучыўся

АА 325. Federowski, II, с. 145—147, № 122. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Саўгеце каля Свіслачы Ваўкавыскага п. ад А. Жукоўскага.

Вар. адзначаны ў каментарыі 90. У гэтым тэксце тыповая для многіх усходнеславянскіх казак завязка дзеяння, матывіроўка паводзін бацькі: з-за беднасці, галечы ён вымушаны аддаць свайго сына чужым людзям, чараўніку.

### 93. Сіняя Світа

АА 329. Романов, VI, с. 488—490, № 55. Зап. настаўніца Бялінская ў 80-х гадах XIX ст. у Гарадоцкім п.

Бел. вар. сюжэта 329 «Алена Прамудрая»: Добровольский, I, с. 223—224, № 1. Руск. вар. — 26 (Пропп, с. 476; Никифоров, № 93; Балашов, № 38). Укр. вар. — 2, адзначаны ў каментарыі да казак Афанасьева (т. II. 1938, с. 618). Адзін польск. вар. адзначаны Кржыжаноўскім, I, с. 109.

### 94. Чарадзейная дудка

АА 780. Романов, III, с. 262—263, № 45 а. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у Гомельскім п.

У сюжэце АА 780 «Чарадзейная дудка» можна адзначыць дзве разнавіднасці: у першай звычайна апавядаецца аб забойстве сёстрамі роднай сястры або брата; у казках другой разнавіднасці малодшага брата забіваюць старшыя браты. Бел. вар. першай разнавіднасці сюжэта 780: Добровольский, I, с. 560, № 26, Смаленская губ.; Романов, III, с. 263—264, № 45 б, Гомельскі п.; Federowski, II, с. 97—98, № 70, Слонімскі п.; с. 98, № 71, Ваўкавыскі п.; с. 335—336, № 392, Ваўкавыскі п.; Karłowicz, 1888, № 32; Хрэстаматыя, с. 228, № 431, Старобінскі р-н; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 39, сш. 1, л. 98—101, Пастаўскі р-н. Акрамя таго, некалькі неапублікаваных бел. вар. пераказаны ў кнізе Л. Барага «Беларуская казка». Мінск, 1969, с. 154—159. Руск. вар. — 14 (Пропп, с. 481). Укр. вар.: Кулиш, Записки, II, с. 20—23; Рудченко, II, № 14; ЕЗ, VII, № 55; Яворский, № 98; Дідо-всевідо, с. 36—37. Кржыжаноўскі адзначае 14 польск. вар. (I, с. 246).

Гэта разнавіднасць сюжэта 780 больш шырока прадстаўлена ва ўсходнеславянскім фальклоры, чым першая. Песенька ў бел. вар. мае тэкстуальныя супадзенні з песенькамі руск. казак.

## 95. Чароўная скрыпка

АА 780. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 39, сш. 1, л. 98—101. Зап. Л. М. Салавей у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад М. М. Казлоўскай, 1911 г. нар.

Гл. каментарый 94. Развіццё дзеяння ў гэтай казцы абумоўлена варожасцю мачахі да падчаркі, у сувязі з чым у творы з'яўляюцца некаторыя сітуацыі і мастацкія дэталі, характэрныя для казак тыпу 510 і 511, напрыклад апісанне жыцця Леначкі-падчаркі і песня мачахі «Засні, засні, адно вочка», запазычаная з казкі пра чарадзейную кароўку-бурэню (АА 511).

## 96. Як па ягадкі сястрычкі хадзілі

АА 780. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 70—72. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Магільнае Уздзенскага р-на ад Цыбульскай Лідзіі Міхайлаўны, 1926 г. нар.

Л. М. Цыбульская з'яўляецца сапраўдным носьбітам і захавальнікам беларускага фальклору і яго збіральнікам. Ад яе запісаны песні розных жанраў, 12 казак. Яснае разуменне каштоўнасці народнай творчасці прывяло да таго, што яна сама запісала па памяці многія вядомыя ёй песні. Зараз яе запісы захоўваюцца ў архіве ІМЭФ. Казкі яна пераняла ў асноўным ад сваёй маці, Я. С. Лыч, дарэчы, таксама добрай спявачкі.

Казачны рэпертуар Л. М. Цыбульскай па свайму сюжэтнаму складу надзвычай шырокі, хоць і не ўключае рэдкія сюжэты: «Як лісічка па бабцы плакала» (АА *154 I), «Піліпка» (АА 327 С), «Кароўка» (АА 511), «Мальчык з пальчык» (АА 700), «Як дурань каровы пасціў» (301 А), «Па мех» (АА 1687*+1696), «Піражок» (АА 158) і інш. Запісаныя ад яе творы вызначаюцца стройнай перадачай сюжэта, сакавітай мовай, цікавай распрацоўкай дэталей, насычанасцю рытмізаванымі і песеннымі ўстаўкамі.

Гл. каментарый 94.

## 97. Як дзве сястры забілі трэцюю

АА 780. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 234—238. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р-на ад Таццяны Фёдараўны Філюты, 1899 г. нар.

Гл. каментарый 94. Адносна гэтай казкі Т. Ф. Філюта заўважыла: «От, гэта старая казка. Калісь мама мая расказвала. Гэта мне ўжо 76 гадоў, і мама даўно спіць... Мама, бывала, добра расказвала, а я ўсё пераймала... Сколькі ў мяне казак гэтых было ўсякіх». Пачатак казкі некалькі нагадвае творы сюжэтнага тыпу АА 425 С, калі малодшая дачка просіць прывезці ёй незвычайны падарунак. Тут замест цудоўнай кветкі малодшая дачка просіць прывезці «сярэбранае блюдачка, наліўное яблачка».

Ад Т. Ф. Філюты запісана каля дзесятка казак. У яе схільнасць да твораў на маральна-этычныя тэмы: «Пра лёс чалавека» (АА 461), «Як мужык жонку вучыў» (АА 901, А, В*), «Пра хлопца з залатым носам» (АА 956 В), «Як дзве сястры забілі трэцюю» (АА 780) і інш. Казкі Т. Ф. Філюта расказвае вельмі часта і зараз. Пастаянная яе аўдыторыя — дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту. Выконваючы творы, казачніца актыўна выказвае свае адносіны да казачных падзей. Яна ведае таксама шмат песень, у тым ліку ліра-эпічных. Ад яе запісаны цікавы варыянт песні «Пра Цмока» і інш.

## 98. Цудоўная дудка

АА 780. Романов, III, с. 264—265, № 45 в. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Машчоны Сенненскага п. ад селяніна Гарашэвіча.

Казка адносіцца да другой разнавіднасці сюжэта 780 «Чарадзейная дудка», якую Кржыжаноўскі ў сваім паказальніку вылучыў у самастойны сюжэтны тып 734. Такія казкі пра братоў, што пільнавалі па чарзе сад ад дзіка (птушкі) або разам збіралі ягады, сустракаюцца толькі ў заходнеславянскім, усходнеславянскім і балтскім матэрыяле. Бел. вар. гэтай разнавіднасці: Чубинский, II, с. 473—475, № 144, Кобрынскі п.; Federowski, II, с. 336—337, № 393, Ваўкавыскі п.; Weryha, с. 17—19, № 3; Анічэнка, с. 182—184, Навагрудскі п. Адзіны рускі тэкст быў запісаны ў Башкірыі сярод патомкаў перасяленцаў з Украіны (гл. Материалы, 1974, с. 74—75, № 35). Укр. вар.: Кулиш, Предания, I, с. 76—77; Рудченко, I, № 55, 56; ЕЗ, I, № 56. Польск. — 3 (Krzyżanowski, I, с. 225).

## 99. Праўда і Крыўда

АА 613. Романов, III, с. 322—323, № 72 а. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Азяраны Рагачоўскага п.

Бел. вар. сюжэтнага тыпу 613 «Праўда і Крыўда»: Романов, III, с. 321, № 71, Сенненскі п.; с. 323—325, № 72 б, Гомельскі п.; с. 325—326, № 72 в, Сенненскі п.; Романов, VI, с. 378—382, № 41; Клімавіцкі п.; Добровольский, I, с. 637—638, № 3; с. 644—649, № 7, Чубинский, II, с. 50—52, № 11, Брэсцкі п.; Karłowicz, 1887, с. 252—253, № 16; Karłowicz, 1888, с. 49—50, № 79; Сержпутоўскі, Казкі, с. 66—68, № 29, Слуцкі п.; Господарев, с. 332—341, № 19; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 11, сш. 3, л. 34—46,

Старобінскі р-н; ф. 8, воп. 2, № 2, сш. 1, л. 33—35, Касцюковіцкі р-н; ф. 13, воп. 3, № 7, л. 11—12, Дзяржынскі р-н; ф. 13, воп. 9, № 13, сш. 7, л. 1—5, Нясвіжскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 31, сш. 16, л. 1—6, Мсціслаўскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 11, л. 1—2, Маладзечанская вобл.; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 13, л. 1—7, Шаркоўшчынскі р-н.

Руск. вар.— 27 (Пропп, с. 476; Бараг, 1975, № 28). Укр. вар.: Чубинский, II, с. 286—290, № 108; с. 587—591, № 76; Рудченко, II, с. 156, № 35; Гринченко, I, с. 177, № 163; Манжура, с. 73, № 48; ЕЗ, I, № 19; III, № 36; VII, № 47; XIII; № 367—368; XIV, № 7; «Киевская старина», 1904, апрель, с. 163—191. Польск. — 25 (Krzyżanowski, 1, с. 197—198).

У многіх вар. сюжэт 613 набывае своеасаблівую сацыяльную вастрыню, што характэрна для ўсходнеславянскіх казак пра багатага і беднага братоў. Пакаранне багатага — гэта асуджэнне сацыяльнай нярођнасці, скупасці, зайздрасці, бяздушша. Гэтыя думкі поўна выказаны ў фінале казкі «Аб бедным і багатым браце» (Добровольский, I, с. 644—649, № 7): «Находзяць пад елямі сляпога мужыка, акаяннага тога брата, і гавораць яму:

— Ты зачым сюды прыйшоў, падслушываеш нашы рэчы? А, гэта ты, галубчык акаянны! Брату выкалаў глаза і пазавідаваў яго багацтву. Той з бальшога гора хадзіў сюда, а ты сам захацеў выкалаць свае глаза. Мы цябе прыдадзім смерці, і прападзеш ты, як пёс!»

## 100. [Крыўда і Праўда]

АА 613. Романов, III, с. 325—326, № 72 в. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у Сенненскім п.

Гл. каментарый 99.

## 101. Чортавая маць

АА 613. Романов, III, с. 320—321, № 70. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Замочак Сенненскага п.

Гл. каментарый 99. Гэты твор належыць да своеасаблівай разнавіднасці сюжэтнага тыпу 613, уласцівай беларускаму і заходнеславянскаму фальклору. Тут адсутнічае эпізод выкалвання вачэй, які звычайна з'яўляецца завязкай дзеяння ў казках АА 613 (гл. тэксты 99, 100). Замест яго тут удала выкарыстоўваецца эпізод, які адпавядае пачатку сюжэтнага тыпу АА * 813 «Неасцярожнае слова»: багаты брат пасылае беднага да чортавай маткі. Апрача тэксту Раманава, гэта разнавіднасць сюжэта 613 у бел. фальклоры прадстаўлена яшчэ двума вар., якія друкуюцца ніжэй. Польскія і чэшскія вар.: Materiały antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne, t. XIII. Kraków, 1913, s. 124; J. Polivka. Povidky ludu opovského a hanackého. Praha, 1915, s. 152—153, № 7.

## 102. Пра беднага і багатага брата

АА 613. АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, № 69, л. 40—44. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1973 г. у пас. Кулага (в. Іскань) Быхаўскага р-на ад Д. І. Гапеевай.

Гл. каментарыі 99 і 62.

## 103. Пра двух братоў

АА 613. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 12—13. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Клінок Чэрвеньскага р-на ад Марыі Якаўлеўны Коўтун.

М. Я. Коўтун ведае і любіць расказваць казкі бытавыя, навелістычныя. Асабліва прыцягваюць яе творы жартоўныя і на этычныя тэмы. Расказваючы казкі, звязаныя з тэмай лёсу, яна абавязкова пераказвае эпізоды пра багатага несправядлівага брата і дае дыдактычную канцоўку. Да расказваемага адносіцца вельмі даверліва, часам расказвае і былічкі. Ад яе запісана больш дзесяці твораў, сярод іх: «Як старыя каровы пасцілі», «Пра беднага і багатага брата» (АА *1665), «Як чалавек грошы знайшоў» (АА *1530 I), «Салдат і баба» (АА *1545), «Як чалавек збавіўся» (АА 812 B*) і інш. Казкі пераказвае як выпадкі з жыцця, таму мова яе казак надзвычай жывая, сакавітая, гутарковая.

Гл. каментарыі 99 і 101.

## 104. Шчасце і Гора

АА 735+*735 I. Шейн, II, с. 157—158, № 75. Зап. выхаванец Полацкай настаўніцкай семінарыі I. Адамовіч у другой палавіне XIX ст. у в. Янава Рагачоўскага п.

Бел. вар. сюжэта 735 «Дзве долі»: Романов, IV, с. 46—47, № 35, Горацкі п.; с. 47—48, № 36, Гомельскі п.; с. 204—206, № 54, Чэрыкаўскі п.; с. 206—209, № 55, Рагачоўскі п.; Federowski, II, с. 275—276, № 311, Ваўкавыскі п. (прыбл.); Сержпутовский, с. 107—109, № 56, Слуцкі п.; Barag, с. 361—363, № 49, Баранавіцкі р-н; Господарев, с. 342—344, № 21. Руск. вар. — 12 (Пропп, с. 480; Шастина, № 15; Разумова, Сенькина, № 62). Укр. вар. — 11 (Андр.), польск. — 5 (Krzyżanowski, I, с. 225—226). Сюжэт вядомы ўсім славянскім народам, але не адзначаны ў заходнееўрапейскім і ўсходнім фальклорным матэрыяле.

Бел. вар. сюжэта АА *735 I=AT 735 «Гора»: Романов, III, с. 317—318, № 67, Гомельскі п.; с. 318—319, № 68, Сянно; Романов, IV, с. 47—48, № 36, Гомельскі п.; с. 206—209, № 55, Чэрыкаўскі п.; Federowski, I, с. 137—138, № 355; Ваўкавыскі п.; Сержпутоўскі, Казкі, с. 203—204, № 80, Слуцкі п.; Анічэнка, с. 64—67, Мазырскі п. Руск. вар.— 12 (Пропп, с. 480; Никифоров, № 115; Шастина, № 17). Укр. вар.— 10 (Андр.), польск. — 6. Сюжэт сустракаецца таксама ў славацкім і чэшскім фальклоры, але больш уласцівы ўсходнеславянскаму рэпертуару як казачнаму, так і песеннаму. Магчыма, што ён сфарміраваўся на ўсходнеславянскай культурнай глебе. Сюжэты пра дзве долі і пра гора часта кантамінуюцца, казкі вылучаюцца сацыяльнай накіраванасцю.

## 105. Доля аратага і купца

АА 735. Романов, IV, с. 46—47, № 35. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Любінічы Горацкага п. ад селяніна Агафона Якаўлева.

Гл. каментарый 104.

### 106. Ліхая доля

АА 735. Сержпутовский, с. 107—109, № 56. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Чудзін Слуцкага п. ад казачніка А. Дудара.

Вар. адзначаны ў каментарыі 104. Казка вылучаецца сакавітай, рытмічна арганізаванай мовай, каларытнымі замалёўкамі сельскага побыту, узаемаадносін паміж рознымі членамі вялікай сялянскай сям'і.

### 107. Доля і Злыдні

АА 735+*735 I. Романов, IV, с. 47—48, № 36. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у Краснабудскай вол. Гомельскага п.

Гл. каментарый 104.

### 108. Шчасце

АА 735+564. Романов, IV, с. 204—206, № 54. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Палуж Чэрыкаўскага п. ад селяніна Е. Азарава, 50 г., непісьменнага.

Вар. сюжэта 735 адзначаны ў каментарыі 104, вар. сюжэта 564 «Чарадзейныя падарункі» гл. у каментарыях да першай часткі тома «Чарадзейныя казкі», с. 644. Акрамя кантамінацыі двух сюжэтаў АА 735 і 564, у гэтай казцы ёсць эпізод, які нагадвае сюжэт АА 736: бядняк купляе шчупаку, якая праглынула каштоўныя камені.

### 109. Доля

АА *735 I+567 (частк.). Романов, IV, с. 206—209, № 55. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Студзянец Чэрыкаўскага п. ад селяніна Івана Афанасьева, 38 г., непісьменнага.

Вар. сюжэта АА *735 I адзначаны ў каментарыі 104; бел. вар. сюжэта 567 «Цудоўная птушка»: Добровольский, I, с. 561—568, № 27, Смаленская губ.; Господарев, с. 264—272, № 13. Руск. вар.: Пропп, с. 467; Никифоров, № 101. Асноўныя ўкр. вар. адзначаны ў каментарыях да зб. Яворскага, с. 323—324. Гл. таксама: Ск. Верховины, с. 217—223; Дідовсевідо, с. 109—116. Польск. вар. — 10 (Krzyżanowski, I, с. 187—188).

### 110. Бяда

АА *735 I. Federowski, I, с. 137—138, № 355. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Хоцькаўцы Ваўкавыскага п. ад Ю. Бучылкі.

Вар. адзначаны ў каментарыі 104. Падобныя творы з устойлівым сюжэтам і выразнай ідэйнай накіраванасцю супраць несправядлівасці, зайздрасці і іншых заган захаваны без істотных змен у рэпертуары асобных казачнікаў да нашых дзён: АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 91 а, Крупскі р-н.

## 111. Пра брата Сцяпана і Івана

АА *735 I. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 8—10. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Клінок Чэрвеньскага р-на ад Марыі Якаўлеўны Коўтун.

Вар. адзначаны ў каментарыі 104. Гэты тэкст адрозніваецца ад папярэдніх асобнымі мастацкімі дэталямі і незвычайным для казак гэтага сюжэтнага тыпу фіналам, які падкрэслівае справядлівасць і высакароднасць беднага брата.

## 112. Разумны то і чорта падыдзе

АА *735 II (прыбл.). Federowski, II, с. 262—264, № 290. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Кукелкі Ваўкавыскага п. ад Сідаркевіча.

Сюжэтны тып *735 II «Багаты і бедны брат» у адрозненне ад шырока распаўсюджаных іншых блізкіх тыпаў (735, *735 I), дзе канфлікт таксама будуецца на супрацьпастаўленні ці сутыкненні багатага і беднага, у руск. і бел. фальклоры прадстаўлены адзінкавымі запісамі. Гл., напрыклад, Б. и Ю. Соколовы. Сказки и песни Белозерского края. М., 1915, № 27. Усе бел. вар. (гл. Романов, IV, с. 91—93, № 54, Сенненскі п.; Добровольский, I, с. 635—637, № 2, Смаленская губ.) толькі прыблізна супадаюць з гэтым сюжэтам, маюць свае асаблівасці. Адзін з эпізодаў гэтага вар., калі стары запальвае на лузе свечкі і палохае чарцей, некалькі нагадвае сюжэтны тып АА 804*.

## 113. Шчасце і няшчасце

АА 736. Дмитриев, с. 175—178=Афанасьев, III, с. 100—101, № 346. Зап. М. Дзмітрыеў у сярэдзіне XIX ст. у Навагрудскім п.

Бел. вар.: Шейн, II, с. 167—168, № 80, Мінскі п.; Господарев, с. 342—345, № 21; Анічэнка, с. 145—147, Рэчыцкі п. Параўн.: Я. Колас. Збор твораў, III, 1973, с. 272—273. Руск. вар.: M. Azadowski. Pohadky z Hrnolenského kraje.—«Vestnik narodopisny československy», I, № 9. Укр. вар.— 5, яны адзначаны ў каментарыях да казак Афанасьева, т. III, 1940, с. 432. Польск.— 4 (Krzyżanowski, I, с. 226).

## 114. Дохтар

АА 785 + 330 А + 1228. Романов, IV, с. 67—79, № 44 б. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Глыбокае Горацкага п. ад селяніна Ларыёна Васільева, 42 г., непісьменнага.

Бел. вар. сюжэта АА 785 «Хто з'еў прасвірку?»: Романов, IV, с. 60—61, № 42, Магілёўскі п.; с. 61—62, № 42 б, Горацкі п.; с. 64—65, № 43, Сенненскі п. (у заўвагах да гэтага тэксту Раманаў адзначае наяўнасць вялікай колькасці бел. вар.); с. 209—212, № 56, Клімавіцкі п.; с. 214—215, № 58, Чэрыкаўскі п.; Романов, Материалы, с. 364—366, Слонімскі п. У паказальніку АА адзначана 11 руск. вар. (с. 54).

Бел. вар. сюжэта 330 А «Каваль (салдат) і чорт (смерць)»: Чубинский, II, с. 430—432, № 131, Кобрынскі п.; Шейн, Песни, с. 438—441,

Віцебскі п.; Шейн, II, с. 409—412, № 229, Горацкі п.; с. 412—414, № 229, Мінскі п.; Романов, IV, с. 48—51, № 38, Магілёўскі п.; с. 79—81, № 45, Быхаўскі п. (прыбл.); Federowski, I, с. 143—144, № 370, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, с. 132, № 101. Ваўкавыскі п.; с. 281—283, № 320, Ваўкавыскі п.; с. 283—286, № 321, Сакольскі п.; с. 286—287, № 322, Ваўкавыскі п.; Сержпутовский, с. 25—34, № 13, Мазырскі п.; Pietkiewicz, с. 189, Рэчыцкі п.; Хрэстаматыя, с. 246—247, Калінкавіцкі р-н; Barag, с. 168—174, № 14, Кобрынскі р-н; с. 373—374, № 53, Маладзечанскі р-н; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 60, сш. 2, л. 2—12, Міёрскі р-н; ф. 8, воп. 1, № 11, сш. 3, л. 47. Руск. вар.—10 (АА, с. 30), укр.—18 (Андр.), польск.—32 (Krzyżanowski, I, с. 109—111).

Бел. вар. сюжэта АА 1228 «Страляюць з ружжа. Адзін заглядвае ў адтуліну ствала»: Federowski, III, с. 239, № 474, Ваўкавыскі п. Проп аданачае 3 руск. вар. (с. 488).

Казка цікавая сваёй кантамінацыяй, падрабязнай распрацоўкай арганічна злітых сюжэтаў, каларытным вобразам галоўнага героя — салдата. Раманаў у заўвагах да твора паведамляе аб шматлікіх бел. вар.

## 115. Салдат і смерць

АА 330 А + 330 В. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 60, сш. 2, л. 2—12. Зап. В. І. Скідан у 1972 г. у в. Бяртоўшчына Міёрскага р-на ад А. Ф. Пальчэўскага, 1920 г. нар.

Вар. сюжэта 330 А адзначаны ў каментарыі 114. Бел. вар. сюжэта 330 В «Чорт у ранцы»: Романов, III, с. 340—345, № 84, Быхаўскі п. (прыбл.); Шейн, II, с. 409—412, № 229, Горацкі п.; Federowski, II, с. 283—286, № 321, Сакольскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 11, сш. 3, л. 47; ф. 8, воп. 74, № 91 а, Крупскі р-н. Руск. вар.— 11 (Пропп, с. 467).

## 116. Пра салдата

АА 330 А + 330 В + 592 (частк.). АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 11, сш. 3, л. 47. Зап. М. А. Жыдовіч у 1946 г. у в. Чырвонае Возера Старобінскага р-на ад П. Н. Берднікові.

Вар. адзначаны адпаведна ў каментарыях 114, 115 і ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі», с. 645. Казкі сюжэтных тыпаў 330 А і 330 В да апошняга часу захоўваюцца ў рэпертуары некаторых казачнікаў. У тым жа Чырвоным Возеры М. Грынблат запісаў блізкі вар. гэтай казкі (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 8, сш. 3, л. 33). У 1974 г. вар. сюжэтнага тыпу 330 В быў запісаны Л. М. Салавей у в. Вялікія Хальнявічы Крупскага р-на ад Н. К. Красняковай. Вось гэты тэкст:

«Ішоў салдат са службы дадому. Ідзець дарогай, ідзець. А ўжо стала вечарэць. Нада яму дзе-небудзь паначуваць. Глядзіць, стаіць дом бальшы такі, прама-ткі як пакоі. Ён зайшоў — нікога там не відна, няма нікога. Тады там недалёка хатка стаяла. Думаіць:

— Пайду спрашу ў гэтых хазяінаў, што так дом пусты стаіць, нікога няма.

А ён пайшоў спрашываць.

— Ай,— кажуць,— тут паны жылі, але ж чэрці не даюць спакою,

жыцця не даюць. Як толькі ноч, дык няможна ні заснуць. Нічога. Пабаяліся і паехалі.

— Пайду-тка я.

А ў яго была такая цудоўная торба.

— Ну, буду я там начаваць. Палезу на печ і буду начаваць.

Прыйшоў, печ была, узлез на печ. Спаць жа дак дзе — страшна, нада ж. Так ляжыць, думаіць. А божа мой! Як пад поўнач, як сталі сабірацца, як сталі сабірацца чэрці. Ён ляжыць ціхенька. А яны ў карты, заселі за стол і ў карты гуляць, і на золата. Вот як-то яны ўзналі.

— Во, тут рускім духам пахніць, хто-та ёсць!

Падыйшлі к печы.

— Эй, служывы! Злязай-ка з печы, хадзем у карты з намі гуляць.

Ён злез.

— Ды ў мяне ж грошай няма, што я з вамі буду гуляць.

— Мы дадзім грошы.

Ну вот ён сеў гуляць у карты. Гуляіць з імі, гуляіць і ўсё выграець грошы. Абыграў ён гэтых чарцей. А яны радзяцца ўжо.

— Нічога не баіцца і ўсе грошы ў нас атняў. Выйграў. Мы яго жывога не пусцім.

Ды хацелі тожа што-небудзь здзелаць з ім, задавіць хацелі. Вот ён тады торбу з-за пазухі дастаець.

— А ну-ка вы, палязайце ў торбу ў гэту.

Ой, яны кулік-кулік у гэту торбу галавамі. А крывы адзін быў, ён самы паследні цісnуўся, ціснуўся. Ён завязаў торбу і лёг спаць. А яны там пішчаць. Ну, тады пайшоў у тую хату, спрашываіць:

— Дзе тут у вас кавалі жывуць? Кузня дзе?

— А во тут,— гавораць,— недалёка.

Ён пайшоў к кузняцу.

— Кузнец, ■ табе прынясу торбу і поўна там не знаю каго, ці там чэрці, мусіць. Каб ты з імі што-небудзь здзелаў тут.

— А, нясі, чалавек, нясі.

Ён іх прывалок, ён на кувала палажыў ды й давай молатам бальшым біць, давай. Ой, яны пішчаць, енчуць! Ой, ой! А крывому гэтаму больш усіх даводзіцца.

— Ну, не будзеце,— кажыць,— больш сюды заглядываць у гэты дом?

— Ой, чалавечак, мілы, пусці толькі! За сем міль будзем аббягаць і блізка дажы не будзем глядзець на яго, не толькі што!

Як адкрыў ён торбу, дык яны аж пяткі свіркалі. Пабеглі. Ой, дык ад пана ён награду якую бальшую палучыў. Пан вярнуўся, благадарыў яму і стаў ён жыць спакойна ў сваім даму ў тым».

## 117. Як смерць выучыла чалавека знахарства

АА 332. Federowski, II, с. 133—134, № 103. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Вільчукі Ваўкавыскага п. ад Шыцькі Юзіка.

Бел. вар. сюжэта 332 «Смерць-кума»: Романов, IV, с. 66—67, № 44, Горацкі п.; Добровольский, I, с. 314—316, № 10; с. 316—318, № 11, Смаленская губ.; Шейн, II, с. 414—416, № 230, Ігуменскі п.; с. 416—419, № 231, Суражскі п.; Federowski, I, с. 141, № 367, Слонімскі п.; с. 141—142, № 368, Ваўкавыскі п.; с. 142—143, № 369, Слонімскі п.; Federowski, II, с. 132—133, № 102, Ваўкавыскі п.; Klich, с. 27—31, № 18, Навагрудскі п.; Karłowicz, 1887, с. 272—273, № 29; Сержпутовский, с. 34—36,

№ 14, Слуцкі п.; Хрэстаматыя, с. 246—247, № 468, Калінкавіцкі р-н; с. 308, № 597, Маларыцкі р-н; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 27, сш. 10, Берастовіцкі р-н. Руск. вар.— 6 (АА, с. 31; Разумова, Сенькина, № 8). Укр. вар.— 17, з іх 15 адзначаны ў дадатку да зборніка Яворскага, с. 276, а таксама: Калін, с. 161—169; Таемниця скляної горі, Ужгород, 1974, с. 9—11. Польск. вар.—25 (Krzyżanowski, I, с. 114—116).

Першая публікацыя ўсходнеславянскай казкі гэтага тыпу належыць М. А. Максімовічу, які ў 1845 г. у зборніку «Три сказки и одна побасенка» надрукаваў укр. казку «Мужык і смерць» у перакaзе на руск. мове.

Важна падкрэсліць, што ў большасці бел. вар. гэтага сюжэтнага тыпу захоўваецца дыялог паміж бедняком і богам, у якім бядняк абвінавачвае апошняга ў несправядлівасці, абароне інтарэсаў багацеяў. (Параўн. эпізод спрэчкі селяніна з богам і святымі ў казцы пра суддзю праведнага і смерць, зап. Дабравольскім, № 9, с. 310—313.) Выкрыццё сацыяльнай несправядлівасці і класавай сутнасці рэлігіі ўласціва і іншым творам бел. фальклору.

## 118. Смерць кумою

АА 332. Federowski, I, с. 142—143, № 369. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Студзераўшчына Ваўкавыскага п. ад М. Ляўкевічавай.

Вар. адзначаны ў каментарыі 117. У гэтым тэксце селянін не становіцца лекарам, як звычайна бывае ў казках тыпу 332. У той жа час тут ёсць і іншыя адрозненні ад вядомых бел. вар.: селянін ідзе ў госці да смерці, якая гаворыць, колькі яму яшчэ засталося жыць, і дае грошы. Падобныя эпізоды сустракаюцца ў некаторых укр. і заходнеславянскіх казках пра смерць-куму, напрыклад у тэксце № 7а са зб. Яворскага.

## 119. Круці не круці, а трэба ўмярці

АА 332. Сержпутовский, с. 34—36, № 14. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Вялікі Рожан ад казачніка Рэдкага, творчы партрэт якога і некаторыя біяграфічныя звесткі дадзены збіральнікам у прадмове да зборніка.

Вар. адзначаны ў каментарыі 117.

У традыцыйны сюжэт казачнік уключыў арыгінальна распрацаваны эпізод няўдалага самагубства селяніна, даведзенага да адчаю голадам і галечай. Гэты і іншыя малюнкі арганічна ўваходзяць у мастацкую тканіну казкі, надаючы ёй драматычную напружанасць і глыбіню абагульнення.

У 1963 г. у Берастовіцкім р-не зап. вар. казкі «Круці не круці, а прыйшла пара памярці». Сюжэт тут не атрымлівае належнага развіцця, страчаны многія эпізоды і мастацкія дэталі, а некаторыя з іх атрымалі новую трактоўку. Так, ложак, які верціцца, мужык атрымлівае ад смерці, каб «лячыць» хворых, хоць у іншых вар. ён прыдумвае і робіць такі ложак сам, каб смерць не забрала яго да сябе.

## 120. Як салдат тры начы старажыў пакойніцу

АА 307. Добровольский, I, с. 554—556, № 24. Зап. У. М. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у Смаленскай губ.

Бел. вар. сюжэта АА 307 «Дзяўчына, што ўстае з труны» (параўн. «Вій»): Романов, IV, с. 124, № 65, Быхаўскі п. (прыбл.); с. 128, № 71, Сенненскі п.; с. 133—135, № 76, Магілёўскі п.; Добровольский, I, с. 547—554, № 23, Ельнінскі п.; Шейн, II, с. 31—36, № 18, Горацкі п.; с. 66—68, № 33, Рагачоўскі п.; с. 401—407, № 227, Барысаўскі п.; Weryha, с. 45—48, № 11, Лідскі п.; Karłowicz, 1887, с. 257—258, № 19; Federowski, I, с. 62, № 185, Ваўкавыскі п. (прыбл.); Federowski, II, с. 199, № 173, Ваўкавыскі п. (прыбл.); с. 287—288, № 323, Ваўкавыскі п.; с. 308—309, № 340, Ваўкавыскі п.; Романов, Материалы, с. 371—372, № 15, Пружанскі п.; Господарев, с. 297—312, № 15; Анічэнка, с. 104—105, Рэчыцкі п. (прыбл.); АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44, Пастаўскі р-н. Руск. вар. каля 30 (Пропп, с. 465). Укр. вар.— звыш 20 (Андр.; Ск. Верховины, с. 365—368; Дідо-всевідо, с. 177—180). Польск.— 30 (Krzyżanowski, I, с. 91—92). Адзначаныя Кржыжаноўскім як бел. вар. 8 тэкстаў са зб. Федароўскага — былічкі пра памёршых.

Фантастыка казак гэтага сюжэтнага тыпу і некаторых іншых бел. казак набывае своеасаблівыя рысы: яна ў многіх выпадках звязана з уяўленнямі нашых продкаў аб замагільным жыцці, аб розных звышнатуральных сілах, аб чарадзействе, знахарстве, нячысціках і г. д., якія па сутнасці сваёй варожы чалавеку. Аднак з уласцівым народу аптымістычным поглядам на жыццё казка паказвае, што просты чалавек можа выйсці пераможцам у сутыкненні з гэтымі звышнатуральнымі сіламі.

## 121. Мёртвая ведзьма і шавец

АА 307. Романов, IV, с. 124, № 65. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у в. Вязьмы Быхаўскага п. ад селяніна Карпа Вайцянкова.

Вар. адзначаны ў каментарыі 120. Тэкст некалькі адрозніваецца ад папярэдняга фіналам. Неабходна падкрэсліць, што і ў творах гэтага сюжэтнага тыпу закранаюцца пытанні сацыяльнай няроўнасці, справядлівасці і несправядлівасці, праўды і маны. Характэрная ў гэтых адносінах запісаная А. Я. Багдановічам казка «Пра добрага і злога брата», дзе сюжэт 307 кантамінуецца з сюжэтам *849 В. Вось яе пачатак:

«Жылі на свеце два браты: адзін добры і міласэрны, а другі скупы і злы. Спачатку мелі яны багацця пароўну, але добры брат сваё багацце бедным раздаваў, людзей з напасці вызваляў, удовам, сіротам памагаў, падарожніка прынімаў: карміў, паіў і нічога за гэта не браў; а патаму збяднеў, мала што не ўсё багацце раздаў: толькі сто рублей у яго і засталося.

А скупы брат грошы пазычаў, многа лішку за пазыку браў, а спаганяў — з людзей скуру драў: коні, кароў прадаваў; прама хадзяйства рашаў; сам багацеў, нажываўся з чужой працы, з сіроцкіх слёз, а людзей па ўбосту пушчаў. Бывала, не давядзі божа пазычыць у яго... А пазычыў — дык будзеш помніць: ён з цябе кроў высмакча, жылле выцягне... Такі быў гад. Прама трэба сказаць, што чалавек бога ў сэрцы а ні крошкі не меў. Але як топішся, дык і за брытву хопішся: так і к яму йшлі-такі людзі ў пазыкі. Адна была надзея на добрага брата, пакуль ён яшчэ быў заможны. Пападзецца, бывала, хто-небудзь у капцюры к скупому, станіць ён данімаць, доўг спаганяць; моташна прыдзецца беднаму чалавеку — добры брат і вызваліць з бяды: аддасць яго доўг. Так яго багацце німаль не ўсё і перайшло к злому брату». (Шейн, II, с. 401—407, № 227).

Бел. вар. сюжэта АА *849 В «Абраз-парука»: Добровольский, I, с. 547—554, № 23; Federowski, II, с. 308—309, № 340, Ваўкавыскі п. Руск. вар.— 7 (АА, с. 59; Материалы, 1974, с. 44—46, № 15). Укр. вар.: Гринченко, II, № 99; ЕЗ, XII, № 147, 148; Кравченко, 1914, № 105. Сюжэт адзначаны толькі ў казках усходніх славян.

### 122. Лякай і крулеўна

АА 307. Weryha, с. 45—48, № 11. Зап. У. Вярыга ў 1884 г. у Лідскім п.

Вар. адзначаны ў каментарыі 120. У казцы некалькі незвычайная для твораў гэтага сюжэтнага тыпу завязка дзеяння: лякай аддае даўгі нябожчыка, які потым выступае як дарадчык і памочнік. Падобная сітуацыя ўласціва творам АА 508 «Удзячны нябожчык».

### 123. Пра зачараваную дачку

АА 307. АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 44. Зап. К. П. Кабашнікаў і Г. А. Барташэвіч у 1971 г. у в. Груздава Пастаўскага р-на ад Я. М. Альфер.

Вар. адзначаны ў каментарыі 120. Пачатак казкі ў пэўнай ступені нагадвае творы сюжэтнага тыпу АА *1528 I пра пошукі гора.

### 124. Аб рыцару, што не баяўся

АА 326 *В. Federowski, II, с. 207—209, № 188. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Дварчаны Ваўкавыскага п.

Бел. вар. сюжэта АА 326 *В «Бясстрашны»: Чубинский, II, с. 366—367, № 101, Кобрынскі п.; Шейн, II, с. 154—155, № 72, Ваўкавыскі п. (прыбл.); Federowski, I, с. 63—64, № 189, Ваўкавыскі п. (прыбл.); с. 78—79, № 231, Ваўкавыскі п.; Klich, с. 62—63, № 1, Навагрудскі п.; Господарев, с. 353—356, № 24; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 101. Руск. вар.— 11 (Пропп, с. 467; Материалы, 1974, с. 76—77, № 37; с. 211—212, № 7). Укр. вар.: ЕЗ, I, № 24; VII, № 43; XXIX, № 38; Шухевич, V, № 65; Kolberg, 1907, с. 434—436. Кржыжаноўскі ў сваім паказальніку аб'ядноўвае тыпы 326 А і 326 В і адзначае іх 55 вар.

### 125. Пра пана і хлопца

АА 326 *В. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 101, сш. 4, л. 45—58. Зап. па памяці А. А. Станкевіч у 1975 г. у Докшыцкім р-не.

Вар. адзначаны ў каментарыі 124.

### 126. Аб ведзьме, што дзеўку з'ела

АА *333 I. Federowski, I, с. 84—86, № 264. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у в. Ганчары Ваўкавыскага п. ад М. Крэўчыкавай.

Сюжэтны тып АА *333 I «Людаед (людаедка)» даволі рэдка сустракаецца ў фальклоры ўсходніх славян і ў славянскім фальклоры наогул.

Адзначаны яшчэ толькі 4 руск. вар. (АА, с. 31). У паказальніку Томпсана ўлічаны толькі руск. фальклорныя тэксты. Гэты твор распрацоўваецца ў традыцыйным усходнеславянскім казачным стылі, шырока выкарыстоўваюцца дыялог, шматразовыя паўторы, традыцыйныя казачныя формулы-звароты і г. д.

## 127. Салдат у чорта на службе

АА 361. Романов, IV, с. 51, № 39. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у Любініцкай вол. Горацкага п. ад селяніна Агафона Якаўлева.

Бел. вар.: Barag, с. 239—242, № 24, Маладзечанскі р-н; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 101, сш. 4, л. 22—31. Руск. вар.— 3 (Пропп, с. 468), укр.— 3. У казачным эпасе ўсходніх славян сюжэт «Няўмыты» прадстаўлены адзінкавымі запісамі і распрацоўваецца часам у навелістычным плане, як бачым у гэтым тэксце. У заходніх славян сюжэт распаўсюджаны больш шырока, напрыклад у польскім фальклоры адзначана 17 вар. (Krzyżanowski, I, с. 120—121).

Зарок не стрыгчыся, не мыцца звязаны са старажытнымі абрадамі і звычаямі (у прыватнасці, з ініцыяцыяй) і адлюстраваны таксама ў літаратурных помніках.

## 128. Пра багатага купца і хлопца

АА 361. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 101, сш. 4, л. 22—31. Зап. па памяці А. А. Станкевіч, жыхар Докшыцкага р-на ў 1975 г.

Вар. адзначаны ў каментарыі 127.

## 129. Чорт злодзей

АА—. АТ 810 А. Романов, III, с. 327—328, № 75. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у в. Замочак Сенненскага п.

Бел. вар.: Романов, IV, с. 52—60, № 41 а, 41 б, 41 в, 41 г, Горацкі і Рагачоўскі п.; Federowski, I, с. 26—27, № 87, Сакольскі п.; Federowski, II, с. 215—217, № 201—202, Ваўкавыскі п.; Klich, с. 71—72, № 1, Наваградскі п. Руск. вар.: А. А. Эрленвейн. Народные сказки, собранные сельскими учителями. М., 1863, № 31. Укр. вар.: Гринченко, II, с. 66—76, № 68—69; Манжура, с. 127—128; Чубинский, I, с. 157; Милорадович, с. 64—66; Левченко, с. 86—87, № 46. Польск.— 28. Казкі гэтага тыпу ёсць таксама ў чэшскім, літоўскім, дацкім, ірландскім фальклоры. Сюжэт распрацоўваецца і ў плане былічак, але найчасцей — як легендарна-навелістычныя творы, многім з якіх уласціва антыпанская сатырычная завостранасць.

## 130. Гуслі

АА 475 + 592. Сержпутоўскі, Казкі, с. 192—197, № 77. Зап. А. К. Сержпутоўскі ў пачатку XX ст. у в. Вялікі Рожан Слуцкага п.

Бел. вар. сюжэта АА 475 «На службе ў пекле»: Добровольский, I, с. 284—285, № 50 (частк.); Federowski, I, с. 225—227, № 1083—1084,

Ваўкавыскі п.; Barag, с. 111—120, № 6, Баранавіцкі р-н. Руск. вар.— 2 (АА, с. 36), укр.— 1 (Милорадович, с. 61—62), польск.— 4 (Krzyżanowski, I, с. 151).

Вар. сюжэта 592 адзначаны ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі», с. 645. У казцы скарочаны апошні абзац, які не мае арганічнай сувязі з развіццём сюжэта.

Казка выдатнага казачніка Рэдкага вылучаецца паэтычным майстэрствам і глыбінёй мастацкага асэнсавання рэчаіснасці. Казачнік дазваляе сабе адступленні ад асноўнай лініі сюжэта, у якіх вельмі тонка перадае душэўны стан хлопчыка-сіраты Іванькі, прыгажосць роднай прыроды і інш.

### 131. П'яніца ў пекле

АА 475. Добровольский, I, с. 284—285, № 50. Зап. У. М. Дабравольскі ў канцы XIX ст. у Смаленскай губ.

Вар. адзначаны ў каментарыі 130. У даным выпадку сюжэт чарадзейных і легендарных казак распрацоўваецца як сатырычная антырэлігійная казка ці анекдот. Асаблівай вастрыні дасягае твор у фінале: п'яніца, выгнаны з пекла, знаходзіць сабе месца ў раі.

### 132. Як салдат вяртаўся дадому

АА 475 + 508 А + 300. Barag, с. 111—120, № 6. Зап. Л. Р. Бараг у в. Шчорсы Любчанскага р-на Баранавіцкай вобл. ад Д. Рачынскага, 1899 г. нар.

Вар. сюжэта 475 адзначаны ў каментарыі 130. Бел. вар. сюжэта АА 508 А «Удзячны нябожчык»: Романов, VI, с. 462—469, № 52, Клімавіцкі п.; параўн. таксама: Добровольский, I, с. 165—166, № 104. Руск. вар.— 4 (АА, с. 39; «Советский фольклор», 1936, № 4—5, с. 167—168, № 4). Вар. сюжэта 300 адзначаны ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі» на с. 615.

### 133. Мёртвае цела

АА —. Романов, IV, с. 143—146, № 87. Зап. Е. Р. Раманаў у 80-х гадах XIX ст. у Беліцы Гомельскага п.

Сюжэт не адлюстраваны ў паказальніках, але мае некаторае падабенства з сюжэтным тыпам АА 508 «Удзячны нябожчык», у якім варта вылучыць асобна разнавіднасць 508 (С) «Удзячны нябожчык дапамагае пахаваўшаму яго чалавеку ажаніцца з царэўнай». У адных вар. нябожчык дапамагае юнаку тры ночы пераначаваць у касцёле з царэўнай, якая ўстае з труны (Weryha, № 11) — параўн. АА 307; у вар. Раманава ён надзяляе чалавека багаццем і тройчы пазбаўляе яго ад смерці, хоць сам становіцца каменем і толькі праз 7 год выратоўваецца. Гэты эпізод адпавядае сюжэту АА 516 «Верная слуга», вар. якога адзначаны ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі» на с. 632.

### 134. Царква васковая

АА *931 I + 554 (частк.). Романов, III, с. 330—334, № 77. Зап. Е. Р. Раманаў у канцы XIX ст. у в. Перарост Гомельскага п.

Бел. вар. сюжэта АА *931 I «Пакутваць лепш змоладу»: Романов, IV, с. 45—46, № 34, Чавускі п.; Шейн, II, с. 159—161, № 76, Ігуменскі п.; Добровольский, с. 530—532, № 20. У заўвагах да гэтага тэксту Раманаў пісаў, што казка даслана яму ў некалькіх вар. Руск. вар.— 1 (АА, с. 68), укр.— 10 (Андр.; пералік тэкстаў у зб. Яворскага, с. 286; М. Мушинка. З глыбіні вікiв. Пряшів, 1967, с. 295—297). Польск.— 6 (Krzyżanowski, I, с. 285—286). Вар. АА 554 «Удзячныя жывёлы» адзначаны ў першай частцы тома «Чарадзейныя казкі», с. 615—616. Казачны сюжэт АА *931 I і блізкі да яго АА *931 II адлюстраваны ў літаратурных творах, напрыклад, у «Аповесці пра Атона, цэсара Рымскага» («Gesta Romanorum»), у шостай і восьмай навелах другога дня «Дэкамерона». Гэты твор вылучаецца сярод іншых вар. навелістычнага сюжэту «Пакутваць лепш змоладу» блізкасцю да традыцыйных чарадзейных казак, асобныя эпізоды маюць шмат агульнага з казкамі пра Канька-гарбунка.

### 135. Аб удавы сыну, што на магілках начаваў

АА —. Federowski, I, с. 72—73, № 211. Зап. М. Федароўскі ў канцы XIX ст. у Ваўкавыскім п.

Сюжэт не мае адпаведнікаў у паказальніках казачных сюжэтаў, але прыблізна нагадвае АА 307 «Дзяўчына, якая ўстае з труны». Звяртзе ўвагу, як падрабязна і паэтычна тут расказана аб прыгатаванні хлеба.

### 136. Нябожчык і грошы

АА *762 (прыбл.). Романов, IV, с. 125—126, № 67. Зап. Е. Р. Раманаў у другой палавіне XIX ст. у Сенненскім п.

Бел. вар. сюжэта *762 «Смерць скупога»: Federowski, I, с. 63, № 188, Ваўкавыскі п. (прыбл.); Federowski, II, с. 246, № 252, Ваўкавыскі п. Руск. вар.— 1 (АА, с. 53).

# ПАКАЗАЛЬНІК СЮЖЭТАЎ БЕЛАРУСКІХ КАЗАК

Развіццё фалькларыстыкі ўсё больш настойліва патрабуе ад даследчыкаў пастаяннай карпатлівай работы па сістэматызацыі і класіфікацыі наяўнага фактычнага матэрыялу, колькасць якога дзякуючы экспедыцыйным пошукам і публікацыям запісаных твораў няспынна расце. Асабліва востра адчуваецца такая патрэба ў галіне апавядальных жанраў, у тым ліку казачнага эпасу, у сувязі з развіццём параўнальнага казказнаўства. Яшчэ ў 1911 г. фінскі вучоны Анці Аарнэ выдаў паказальнік казачных сюжэтаў, які, нягледзячы на недахопы, атрымаў шырокае распаўсюджанне і па сутнасці стаў міжнародным. У 1929 г. гэты паказальнік быў перакладзены на рускую мову і дапоўнены спасылкамі на рускія варыянты і новымі сюжэтнымі тыпамі[1]. Спасылкі на яго ёсць зараз ва ўсіх буйнейшых савецкіх выданнях народных казак. Але, на жаль, да апошняга часу багацейшы беларускі матэрыял не быў сістэматызаваны ў адпаведнасці з прынятымі міжнароднымі сістэмамі. Толькі ў 1969 і 1971 гг. з'явіліся артыкулы Л. Р. Барага[2], у якіх аўтар сістэматызаваў беларускія казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі — 749 нумароў з 2140 па паказальніку Андрэева-Аарнэ. Істотным укладам у распрацоўку гэтай праблемы трэба лічыць каментарыі да тамоў казак шматтомнага выдання беларускага фальклору. І ўсё ж наяўнасць гэтых прац не здымае задачы стварэння сістэматычнага паказальніка сюжэтаў беларускіх казак, які можа даць чытачу ўяўленне аб багацці і разнастайнасці беларускіх казак, іх агульнасці з казачным эпасам народаў свету, а таксама аб спецыфічных з'явах, аб распаўсюджанасці твораў на тэрыторыі рэспублікі і інш.

Прапануемы чытачу паказальнік сюжэтаў беларускіх казак будуецца адпаведна прынятай у большасці прац па ўсходнеславянскай казцы сістэме Андрэева-Аарнэ, адкуль узяты многія фармулёўкі сюжэтаў. Пры неабходнасці з мэтай набліжэння да беларускага матэрыялу і выяўлення яго спецыфікі гэтыя фармулёўкі ўдакладняліся. Калі ж сюжэты асобных беларускіх казак не мелі адпаведнікаў у паказальніку Андрэева-Аарнэ, рабіліся спасылкі на паказальнік Аарнэ-Томпсана або ўводзіліся новыя сюжэтныя тыпы ці падтыпы, нумары (літары) якіх узяты ў дужкі. Былі апрацаваны і ўключаны ў паказальнік матэрыялы з усіх асноўных зборнікаў беларускага фальклору, а таксама з архіўных фондаў ІМЭФ АН

[1] Н. П. Андреев. Указатель сказочных сюжетов по системе Аарне. Л., 1929.

[2] Л. Г. Бараг. Сюжетный репертуар восточнославянских сказок. У кн.: Эпические жанры устного народного творчества. Уфа, 1969, с. 167—240; яго ж: Сюжеты и мотивы волшебных сказок (Систематический указатель). У кн.: Славянский и балканский фольклор. М., 1971, с. 182—235.

БССР. Улічваліся толькі першыя публікацыі фальклорных тэкстаў. Пераказы і літаратурныя апрацоўкі беларускіх казак у паказальнік, як правіла, не ўключаліся.

Пры складанні паказальніка ўзніклі пытанні, звязаныя з вызначэннем нацыянальнай прыналежнасці асобных тэкстаў. У некаторых выпадках у сувязі з адсутнасцю спецыяльных даследаванняў па гэтай праблеме такое вызначэнне трэба лічыць у пэўнай ступені ўмоўным. Як беларускі матэрыял, напрыклад, у паказальнік уключаны казкі, запісаныя ад Ф. Гаспадарова, які нарадзіўся і каля 30 год пражыў у Беларусі, хаця запісы ад яго зроблены на рускай мове ў Карэліі. Можна меркаваць, што значная частка казачнага рэпертуару Ф. Гаспадарова фарміравалася пад уплывам беларускай фальклорнай традыцыі, але гэта палажэнне патрабуе дэталёвага вывучэння. Таксама ў пэўнай ступені ўмоўна аднесены да беларускага матэрыялу запісаныя ў Драгічынскім і Кобрынскім паветах казкі са зб. Чубінскага, на якіх адчуваецца ўплыў украінскай мовы.

Як адзначаў праф. У. Я. Проп, «класіфікацыя і вызначэнне такога пярэстага і рухомага матэрыялу, як казка, часам сустракае пэўныя цяжкасці»[3]. Гэта задача ўскладняецца і тым, што і сама схема Аарнэ, прынятая ў якасці міжнароднай, не пазбаўлена недакладнасцей і недахопаў, аб якіх пісаў яшчэ ў прадмове да свайго паказальніка Андрэеў. Ён лічыў, напрыклад, што некаторыя сюжэтныя тыпы варта перанесці ў іншыя раздзелы (471* — у раздзел легенд), некаторыя мэтазгодна аб'яднаць (461 і 930) і г. д. Да гэтага можна дадаць, што некаторыя сюжэты, вызначаныя і распрацаваныя ў многіх творах як самастойныя (напрыклад, 300 «Пераможца змея»), часта ўваходзяць як разгорнутыя або неразгорнутыя эпізоды ў творы іншых сюжэтных тыпаў. Адсюль вынікае небяспека неаднолькавага вызначэння рознымі даследчыкамі сюжэтнага складу некаторых твораў. Не заўсёды назіраецца поўная адпаведнасць паміж тэкстам і сюжэтным тыпам, не заўсёды ў казцы поўнасцю развіваецца той або іншы сюжэт. У такіх выпадках у дужках адзначалася «прыбл.» або «частк.» — прыблізна, часткова. Многія творы, якія толькі прыблізна супадаюць з вядомымі сюжэтамі, можна аднесці да спецыфічных з'яў казачнага эпасу ўсходніх славян. Нямала выпадкаў, калі вызначаны ў паказальніку казачны сюжэт распрацоўваецца не толькі ў казцы, але і ў іншых жанрах, напрыклад у былічках. У такіх выпадках гэтыя творы ў паказальніку не ўлічваліся.

Паказальнік склаў К. П. Кабашнікаў, непасрэдны ўдзел у апрацоўцы архіўных матэрыялаў прыняла Г. А. Барташэвіч.

## I. КАЗКІ ПРА ЖЫВЁЛ (1—299)

1. Ліса, прыкінуўшыся мёртвай, крадзе рыбу з воза.

Афанасьев, I, № 5, с. 10—11=Дмитриев, с. 162—163, Навагрудскі п.; Шейн, II, № 6, с. 6—9, Віцебскі п.; № 10, с. 18—20, Гродзенская губ.; Federowski, II, № 22, с. 21—22, Ваўкавыскі п.; БНТ, 1971, № 3, с. 40—41, Астравецкі р-н; Анічэнка, с. 187, Навагрудскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91а, л. 52—53, Круп-

[3] Народные русские сказки А. Н. Афанасьева в трех томах, т. 3. М., 1957, с. 455.

скі р-н; л. 74—76, Крупскі р-н; ф. 8, воп. 75, № 101, сш. 2, л. 21—27, Докшыцкі р-н; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 24, л. 8—12, Вілейскі р-н; сш. 28, л. 6—8, Свірскі р-н.

2. Воўк ля палонкі: падмануты лісой, апускае хвост у палонку; хвост прымярзае, ваўка б'юць, ён выратоўваецца, адарваўшы хвост.

Афанасьев, I, № 5, с. 10—11=Дмитриев, с. 162—163, Навагрудскі п.; Шейн, II, № 6, с. 6—9, Віцебскі п.; № 10, с. 18—20, Гродзенская губ.; Federowski, II, № 21, с. 19—21, Слонімскі п.; № 22, с. 21—22, Ваўкавыскі п.; Klich, № 2, с. 101—102, Навагрудскі п.; БНТ, 1971, № 3, с. 40—41, Астравецкі р-н; № 126, с. 270—272; Анічэнка, с. 62—63, Мазырскі п.; с. 187, Навагрудскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91 а, л. 52—53, Крупскі р-н; л. 74—76, Крупскі р-н; ф. 8, воп. 75, № 101, сш. 2, л. 21—27, Докшыцкі р-н; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 24, л. 8—12, Вілейскі р-н; сш. 28, л. 6—8, Свірскі р-н.

3. Ліса вымазвае галаву смятанай, прыкідваецца, нібыта яе так пабілі, што выйшлі мазгі.

Афанасьев, I, № 5, с. 10—11=Дмитриев, с. 162—163, Навагрудскі п.; Шейн, II, № 6, с. 6—9, Віцебскі п.; Federowski, II, № 21, с. 19—21, Слонімскі п.; Klich, № 2, с. 101—102, Навагрудскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91 а, л. 74—76, Крупскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 28, л. 6—8, Свірскі р-н.

4. «Біты нябітага вязе»: ліса едзе на ваўку.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 46, сш. 24, л. 8—12, Вілейскі р-н (у кантамінацыі з АА 1 і 2).

15. Ліса-павітуха: гаворыць ваўку (мядзведзю), што яе завуць на хрэсьбіны, а тым часам з'ядае ўвесь мёд (масла).

БНТ, 1971, № 120, с. 260—261; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 50, сш. 26, л. 1—4, Крывіцкі р-н.

20. Звяры паядаюць адзін аднаго (па парадзе лісы спачатку самага маленькага і да т. п.).

А. Звяры трапляюць у воўчую яму.

Романов, III, № 16, с. 23—24, Гомельскі п.; № 17, с. 24—25, Сенненскі п.; Шейн, II, № 4, с. 4—5, Барысаўскі п.; Federowski, II, № 11, с. 9—10, Ваўкавыскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91 а, л. 74—76, Крупскі р-н.

21. Пажыранне ўласных вантробаў: ліса ўгаворвае мядзведзя (ваўка) з'есці ўласныя кішкі.

Афанасьев, I, № 5, с. 10—11=Дмитриев, с. 162—163; Романов, III, № 16, с. 23—24, Гомельскі п.; № 17, с. 24—25, Сенненскі п.; Шейн, II, № 4, с. 4—5, Барысаўскі п.; БНТ, 1971, № 3, с. 40—41, Астравецкі р-н; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91 а, л. 52—53, Крупскі р-н; воп. 75, № 101, сш. 2, л. 21—27, Докшыцкі р-н.

*30 I «Няхай той серадзіць, хто на неба глядзіць»: ліса прапануе ваўку (мядзведзю) мяса ў пастцы; калі воўк трапляе ў пастку, яна з'ядае гэта мяса.

Романов, III, № 20, с. 28, Сенненскі п.; Federowski, II, № 26, с. 24,

Гродзенская губ. (прыбл.); Сержпутовский, № 26, с. 50—51, Мазырскі п. (прыбл.).

33. Ліса (жораў) у яме: прыкідваецца мёртвай, чалавек выкідвае яе з ямы, яна ўцякае.

Хрэстаматыя, № 641, с. 326, Пінскі р-н.

38. Лапа заціснута: ліса (чалавек) угаворвае мядзведзя засунуць лапу ў расшчэпленае дрэва (параўн. 151).

Federowski, II, № 397, с. 339, Ваўкавыскі п.

43. Ледзяная і лубяная хатка: ліса пабудавала ледзяную хатку; летам хоча прагнаць зайца з лубяной.
Романов, III, № 7, с. 11—12, Сенненскі п.; Добровольский, I, № 1, с. 652—653, Смаленская губ.; Хрэстаматыя, № 487, с. 257—258, Ельскі р-н.

47. Ліса на хвасце ў каня або ліса прывязвае ваўка да каня.
Шейн, II, № 126, с. 265—266, Ігуменскі п.

56. Ліса і дрозд (салавей).

A. Ліса пагражае паваліць дрэва і з'есці птушанят дразда; варона дае дразду добрыя парады; ліса помсціць: прыкінулася мёртвай і схапіла варону.

Шейн, II, № 17, с. 27—31, Барысаўскі п. (прыбл.); Кабашнікаў, с. 51—62, Плешчаніцкі р-н; АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, № 69, л. 45—46, Быхаўскі р-н.

B. Ліса хітрасцю выманьвае птушанят у дразда. Дрозд помсціць ёй.
Шейн, II, № 17, с. 27—31, Барысаўскі п. (прыбл.).

*C. Ліса пагражае з'есці птушанят дразда; дрозд выцягвае яе з ямы, корміць; павінен насмяшыць лісу: выдае яе сабакам.
Романов, III, № 17, с. 24—25, Сенненскі п.; Шейн, II, № 4, с. 4—5, Барысаўскі п.

60. Ліса і журавель: запрашаюць адзін аднаго ў госці; журавель частуе лісу са збана з вузкім горлам, ліса жураўля з талеркі.

Кабашнікаў, с. 26, Лельчыцкі р-н.

*61 II. Кот, певень і ліса: ліса выкрадае пеўня, кот выратоўвае яго.
Шейн, II, № 1, с. 1—3, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, № 7—8, с. 6—8, Ваўкавыскі п.; Klich, № 4, с. 162—163, Навагрудскі п.; МС, III, с. 83, Аршанскі п.; Хрэстаматыя, № 322, с. 179—180, Валожынскі р-н; Анічэнка, с. 180—182, Навагрудскі п.

62. Мір у звяроў: ліса запрашае да сябе цецерука, але, пачуўшы сабак, уцякае: яны яшчэ не ведаюць пра мір.

Кабашнікаў, с. 52, Плешчаніцкі р-н.

*64. Ліса топіць збан: надзявае збан на галаву, топіцца разам з ім.

Афанасьев, I, № 26, с. 38—40=Дмитриев, с. 164—166, Навагрудскі п.; Шейн, II, № 3, с. 4, Ваўкавыскі п.; Federowski, II, № 9, с. 8, Ваўкавыскі п.

70. Хто большы баязлівец, чым заяц? Авечкі (жабы) спалохаліся зайца, ён так з іх смяецца, што губа разарвалася.

Federowski, II, № 5, с. 5, Ваўкавыскі п.

100. Воўк у гасцях у сабакі: моцна выпіў і, нягледзячы на перасцярогу, заспяваў; яго б'юць.

Романов, III, № 10, с. 15—17, Сенненскі п.; Добровольский, I, № 2, с. 653—655, Смаленская губ.; Шейн, II, № 11, с. 20—22, Бабруйскі п.; № 122, с. 259—262, Навагрудскі п.; Federowski, II, № 30—31, с. 27—30, Ваўкавыскі п.; Романов, Материалы, № 27, с. 386, Слонімскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, № 2, сш. 6, л. 1—3, Капаткевіцкі р-н.

101. Сабака і воўк дамаўляюцца: воўк выкрадае гаспадарскае дзіця і дае сабаку магчымасць адабраць яго, за што гаспадары зноў добра кормяць сабаку.

Романов, III, № 10, с. 15—17, Сенненскі п.; Добровольский, I, № 2, с. 653—655, Смаленская губ.; Шейн, II, № 121, с. 258—259, Барысаўскі п.; № 122, с. 259—262, Навагрудскі п.; Federowski, II, № 30—31, с. 27—30, Ваўкавыскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91 а, л. 61—62, Крупскі р-н; ф. 13, воп. 8, № 2, сш. 6, л. 1—3, Капаткевіцкі р-н; ф. 13, воп. 10, № 26, сш. 12, л. 22—24, Іўеўскі р-н.

102. Сабака-шавец: воўк заказвае яму боты, сабака з'ядае прынесены ім матэрыял (карову, свінню).

Романов, III, № 10, с. 15—17, Сенненскі п.; Добровольский, I, № 2, с. 653—655, Смаленская губ.; Federowski, II, № 31, с. 29—30, Ваўкавыскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 74, сш. 5, л. 50—51, Лельчыцкі р-н.

103. Кот і дзікія жывёлы: кот палохае мядзведзя, ваўка, дзіка і інш.

Романов, III, № 24, с. 34—35, Гомельскі п.; Шейн, II, № 2, с. 3—4, Гомельскі п.; № 5, с. 5—6, Ваўкавыскі п.; № 120, с. 257—258, Віцебскі п.; Federowski, II, № 10, с. 8—9, Ваўкавыскі п.; МС, III, с. 80—81, Аршанскі п.; Романов, Материалы, № 26, с. 385, Ваўкавыскі п.; Сербов, № 2, с. 173—175, Бабруйскі п.; Хрэстаматыя, № 548, с. 287, Пружанскі р-н; Анічэнка, с. 62—63, Мазырскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, № 74, сш. 5, л. 50—51, Лельчыцкі р-н; ф. 8, воп. 74, № 91 а, л. 69—70, Крупскі р-н; ф. 13, воп. 10, № 1, сш. 34, л. 5—6, Свіслацкі р-н; ф. 13, воп. 10, № 21, сш. 12, л. 1—5, Бярэзінскі р-н.

104. Вайна свойскіх жывёл з дзікімі: кошка задзірае хвост, дзікія жывёлы думаюць, што гэта стрэльба, і ўцякаюць.

Романов, III, № 10, с. 15—17, Сенненскі п.; Шейн, II, № 11, с. 20—22, Бабруйскі п.; № 121, с. 258—259, Барысаўскі п.; № 122, с. 259—262, Навагрудскі п.; Federowski, II, № 31, с. 29—30, Ваўкавыскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, № 2, сш. 6, л. 1—3, Капаткевіцкі р-н.

*106. Воўк і свіння: воўк з'ядае свінню.

Романов, III, № 13, с. 20, Сенненскі п.; Добровольский, I, № 4,

с. 657—658, Смаленская губ.; Романов, Материалы, № 30, с. 387—388, Слонімскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, № 60, сш. 1, л. 37—38, Ушацкі р-н.

116. Мядзведзь на возе: яго прымаюць за папа (генерала).
Federowski, III, № 413, с. 210, Ваўкавыскі п.

118. Леў і конь: леў баіцца каня, таму што конь высякае з каменя іскры.
Шейн, II, № 12, с. 22—23, Барысаўскі п.; Federowski, II, № 34, с. 31—32, Ваўкавыскі п.; Хрэстаматыя, № 647, с. 328—329, Столінскі р-н; БНТ, 1971, № 46, с. 115—116, Бярэзінскі р-н.

*119. Сабака бярэ прыклад з мядзведзя (ваўка): капае лапамі зямлю, кідаецца на кабылу, гіне.
Романов, III, № 26, с. 36, Сенненскі п.; Barag, № 103, с. 500, Маладзечанскі р-н.

АТ 119 В*. Конь абараняецца ад ваўкоў.
Federowski, III, № 111, с. 57—58.

121. Ваўкі лезуць на дрэва, каб дастаць чалавека: становяцца адзін на аднаго, але напалоханы чалавекам першы воўк уцякае, астатнія падаюць.
Романов, III, № 12, с. 18—20, Сенненскі п.; Шейн, II, № 192, с. 345—346, Слонімскі п.; № 193, с. 346—348, Гомельскі п.; Federowski, III, № 554, с. 283, Сакольскі п.; Романов, Материалы, № 29, с. 387, Кобрынскі п.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, № 91 а, л. 31—32, Бярэзінскі р-н; ф. 8, воп. 75, № 95, сш. 4, л. 12, Старадарожскі р-н.

122. Воўк-дурань: хоча з'есці свінню, авечку, каня, згаджаецца пачакаць, пакуль пакажуць пашпарт, паспавядаюцца і г. д.; нічога не атрымлівае.
Романов, III, № 12, с. 18—20, Сенненскі п.; Шейн, II, № 191, с. 344—345, Гродзенскі п.; № 192, с. 345—346, Слонімскі п.; № 193, с. 346—348, Гомельскі п.; Federowski, II, № 30, с. 27—29, Ваўкавыскі п.; Романов, Материалы, № 25, с. 384, Ваўкавыскі п.; № 29, с. 387, Кобрынскі п.; БНТ, 1971, № 53, с. 128—129; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, № 32, сш. 15, л. 1—4.

122 (А). Воўк-начальнік: дае веру барану, што яго паставяць упраўляючым або іншым начальнікам; яго б'юць.
Шейн, II, № 123, с. 262—263, Суражскі п.

АТ 122 Д. Воўк схапіў няўдзячнага сабаку; сабака робіць выгляд, што хоча пачаставаць ваўка свіннёй.
Добровольский, I, № 3, с. 655—657, Смаленская губ.

*122 I. Воўк, аўца і ліса: авечка сябруе з лісой, воўк хоча садраць з авечкі паўшубак; ліса прымушае яго спавядацца, воўк трапляе ў пастку.
Чубинский, II, № 36, с. 113, Кобрынскі п.; Романов, III, № 25, с. 35, Быхаўскі п.

*2069. «Я не каштаваў, але бачыў, як пан еў»,— кажа мужык, які хваліць смачную страву.

Романов, Материалы, № 23 з, с. 380. Гродзенская губ.

*2080. Гульня слоў: «Чалавека павесілі».— «За што?» — «За шыю»...

Federowski, III, № 14, с. 6—7, Ваўкавыскі п.

*2082. Вучоны сын: размаўляе на лацінскай мове; калі граблі стукнулі яго па галаве, крычыць: «Праклятыя граблі!»

Federowski, III, № 149, с. 72, Сакольскі п.; № 391, с. 202—203, Сакольскі п.; № 427, с. 215, Ваўкавыскі п.

*2082 (А). Вучоны рабін: тлумачыць, як на верх драбін трапіў гной.

Сержпутовский, № 43, с. 78, Мазырскі п.

*2084. Пахвальба абновамі: муж выстаўляе нагу ў новым боце: «Чаму падлога не мецена?»; жонка паказвае руку з пярсцёнкамі: «Ці ж я не казала?»; дачка матае галавой (завушніцы).

Federowski, III, № 311, с. 168, Ваўкавыскі п.

*2100 (1626). Лепшы сон: цыган, татарын і мужык разам вандруюць; кладуцца спаць, вырашаюць аддаць усю ежу таму, хто сасніць лепшы сон; адзін кажа, што бачыў сябе ў раі; другі — ў пекле; трэці з'ядае хлеб.

Романов, III, № 5, с. 429, Гомельскі п.

*2101. Начное дзяжурства.

А. Цыган і мужык начуюць у полі; цыган хоча спаць, пакуль месяц не будзе ў яго ў нагах; мужык варочае яго нагамі да месяца.
Хрэстаматыя, № 638, с. 324—325, Іванаўскі р-н.

*2102. Спрэчка пра веру.

(С). Праваслаўная вера моцная: патрыярх выпівае шклянку атруты.
Добровольский, I, № 30, с. 393—395, Смаленская губ.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, № 109, л. 139, Любанскі р-н.

*2103. Шанаванне свят.

А. Немец хоча напляваць у вочы рускай «пятніцы»; мужык паказвае яму на мядзведзя.
Federowski, III, № 400, с. 205—206, Сакольскі п.

В. Немец не баіцца «прападобнага шэрсня»: пакусаны.
Federowski, III, № 401, с. 206, Сакольскі п.

*2106. Цыган дапамагае мужыку секчы дровы: «гакае», трэска трапляе яму ў вока.

Сержпутовский, № 31, с. 56—60, Мазырскі п.

*2109. Цыгана вешаюць: ён просіць не вешаць яго за шыю, а пад пахі — ён баіцца козыту.

Federowski, I, № 1099, с. 232, Ваўкавыскі п.

*2110. Чалавек павінен хаваць бацьку, але шкадуе аддаць рубля на пахаванне: «Няхай лепш пад плотам ляжыць».

Federowski, III, № 381, с. 197, Ваўкавыскі п.

*2120. Гандляр з парабкам у дарозе: ваўкі з'елі каня, гандляр цягне воз, а потым і парабка; парабак забірае ў яго грошы.

Federowski, III, № 452, с. 226—228, Ваўкавыскі п.

*2133. Руская і нямецкая атрута: руская атрута — таплёнае сала — мацнейшая.

Добровольский, I, № 30, с. 393—395, Смаленская губ. (прыбл.).

*2140. Не зразумелі адзін аднаго: украінец пытае ў салдата, ці не знайшоў ён яго торбу; салдат адказвае, што знайшоў мех; украінец: «Гэта не маё».

Романов, III, № 29, с. 427, Сенненскі п.; Federowski, III, № 345, с. 185—186, Сакольскі п. (прыбл.); № 346—347 а, с. 186, Ваўкавыскі п.; № 348—349, с. 186—187, Сакольскі п.; № 375, с. 195—196, Ваўкавыскі п.

*2140 (А). Не зразумеў вайсковую каманду: усе паселі на коней; адзін не садзіцца, таму што ў яго кабыла.

Federowski, III, № 27, с. 12—13, Сакольскі п.

# СЛОЎНІК

Аплінтаць — тут: спустошыць, знішчыць (параўн. аплітываць — біць бізуном; аплятаць; плянтаваць — выкарчоўваць, расцярэбліваць).

Балган — балаган, часовы лёгкі будынак на кірмашы.

Банька ў булаве — кола ў купале (банька — кола для прымацавання чаго-небудзь; булава — шар на купале).

Валавод — вуздэчка або вяроўка для ваджэння вала.

Ве́лязны — вялізны.

Ве́рстаць — маецца на ўвазе прылада для хуткага перамяшчэння. Магчыма, ад вярста.

Віромка — відаць, важак, завадатай. У. Вярыга зазначае адносна гэтага слова: «Выраз нам невядомы».

Віць — твар.

Вогер — жарабец.

Вотлі (па вотлях) — тут: па зубах, па мазгах. Магчыма таксама скажонае ад наводліў — наводмаш.

Галгітаць — гаварыць невыразна, на чужой мове.

Гамазея — магазін.

Гамонішча — урочышча.

Гнузда — вуздэчка. У некаторых месцах нузда — скручаныя вяроўкі для звязвання.

Грош — медная манета ў паўкапейкі.

Доба — тут: зімовы час.

Думаўё — труна.

Думчы — ад думаць.

Жукоінка — жуковінка, пярсцёнак.

Закрыстая — памяшканні ў касцёле абапал галоўнага алтара.

Замятня — блытаніна, немаведама што.
Запышэць (ад пыхаць) — злавацъ, фанабэрыцца.
Засілівацца — браць на сябе праз меру.
Збасаваць — збыць са свету.
Згануць — адгадаць.
Зочыць (з'очыць) — бачыць.
Кабáла — варажба.
Кантэтны — задаволены.
Карта — грамата, ліст.
Крэпасць (купчая) — акт аб набыцці маёмасці, аб праве валодаць ёю.
Кудаса — завіруха.
Кукальван — зярняты кукалю.
Купы (куфы) — тое ж, што куфель.
Лакон — мера: локаць палатна.
Ламарны камень — магчыма, казачны камень алатыр. Можна дапусціць, што гэта скажонае з польскага: драблёны, крышаны камень.
Лата — доўгая жэрдзіна.
Лата́к — сцёкавая канаўка.
Луцце — лыка.
Лелехі — валасы. Тут: парвалі чэрці ўсю ведзьму.
Малёгаць — прасіць, угаварваць.
На́бах — збоку.
Надась — гэтымі днямі, надоечы.
Негалюзны — несамавіты, плюгавы.
Ні па́нкі — хоць бы што.
Нуртам — відаць, ніц, носам (параўн. «нурка даць» у некаторых дыялектах).
Ніўвега — грубіян, невук.
Оўшам — так. Выраз згоды.
Пакракі — прыкрыя істоты.
Пакуліна — ляніна, адно калíва.
Палыкнуць — каўтануць.
Пархом — на карачках.
Пасвісцёлы — вяроўчатыя пугі.
Пата́ — да таго часу, патуль.
Пахцяр — чалавек, які арандуе статак кароў.
Платок на прыдмет — платок на прыкмету.
Прашкі — відаць, ад пражы — дарэмны, не варты турбот.
Прымітыкаваць — тут: прыстроіць, прывязаць.
Прытварыць воранам — ператварыць у ворана.
Прыштыкі — свежыя прысмакі.
Пудлы — несамавіты, заняпаўшы.
Путра — пойла, падкалочанае мукой.
Пушчы — хужэйшы за іншых.
Пятрэць — марнець.
Пячыстая — што-небудзь печанае, смажанае.
Размавітыя кольчыкі — разнастайныя завушніцы.
Разулітны — рашучы, смелы.
Рондлы — каструлі.
Рыжэц — трава.
Рыхтык — якраз, дакладна так.
Рэжніца — бойня.
Сарачня — палатно для сарочкі або сарочка.
Смаляк — відаць, пацук (параўн. смаллянка, смальнянка).
Стаднік — пастух.
Струшня — калатня, мешаніна.
Сутуняць — змяркацца.
Талька — маток.
Трамацець — ад трымцець: мігцець, дрыжаць.
Трап'ё — папяровыя грошы.
Трахтаваць — частаваць.
Тулуб — тулава.
Турасцінка — трысцінка, чарацінка.
Увайцяўшы — ад дзеяслова вайцяць: выказваць абіду, лаяцца.
Удвойзі — удваіх.
У паляруша — відаць, разам.
У цвіку — ад цвік: пакаранне розгамі.
У ценжы — зацяжарыць.
У шар — у шарэнгу.
Хрэшчык — састаўленыя накрыжкіі, на якія падвешвалася на полі калыска.
Хорангелкі — харугвы.
Хфаска — фаска, кадушка з вушкамі.
Шаўлюга — ледзь жывы конь.
Шлыгануць — выцяць.
Шпаруна — паз у падлозе.
Шпоначкі — запінкі.
Якляль — як-небудзь.
Яляк — міфічная істота, якая робіць шкоду жывёле.
Ярыжка — п'яніца, гуляка.

# АСАБОВЫ ПАКАЗАЛЬНІК ЗБІРАЛЬНІКАЎ

Асабовы паказальнік збіральнікаў, як і наступныя паказальнікі казачнікаў і геаграфічны, адлюстроўвае і сістэматызуе звесткі, якія даюцца ў пашпартах казак, апублікаваных у трох тамах шматтомнага выдання беларускага фальклору: «Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі», «Чарадзейныя казкі», ч. I, «Чарадзейныя казкі», ч. II. Звесткі аб варыянтах, якія не ўвайшлі ў гэтыя тамы, не ўлічваюцца. У сувязі з тым, што кожны том мае сваю нумарацыю тэкстаў, у паказальніках тамы абазначаны рымскімі лічбамі (I, II, III) у храналагічным парадку іх публікацыі. За нумарам тома даецца парадкавы нумар тэксту. У геаграфічным паказальніку раёны падаюцца ў адпаведнасці з адміністрацыйным падзелам у час запісу.

Асабовыя паказальнікі збіральнікаў, казачнікаў і геаграфічны паказальнік падрыхтавала Г. А. Барташэвіч.

## АСАБОВЫ ПАКАЗАЛЬНІК КАЗАЧНІКАЎ

## ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

### Запісы дарэвалюцыйнага часу

**Запісы савецкага часу**

## ЗМЕСТ *



* У першай калонцы лічбаў указаны старонкі тэкстаў, у другой — каментарыяў.

БЕЛОРУССКОЕ НАРОДНОЕ ТВОРЧЕСТВО

**ВОЛШЕБНЫЕ СКАЗКИ**

Часть II

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар *В. І. Савельева*
Мастацкае афармленне *В. В. Саўчанкі*
Тэхнічны рэдактар *І. В. Валахановіч*
Карэктар *М. А. Вячорка*

ІБ № 223

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 24.02.77. Падпісана да друку 01.03.78. АТ 12056. Фармат 60×84 1/16. Папера друк. № 1. Акадэмічная. Высокая. Друк. арк. 43,5. Ум. друк. арк. 40,45. Уч.-выд. арк. 42,0. Тыраж 10 000 экз. Зак. № 265. Цана 3 р. 80 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.